# КОЛАС расказвае пра сябе



АПОВЕСЦЬ-ЭСЭ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1982

# СЛОВА ПЕРАД ПАЧАТКАМ

*Пойдзем па самай лепшай вуліцы беларускай сталіцы.*

*У той бок, дзе ўзыходзіць сонца.*

*За агароджай не так добрага густу, як страшэннай вагі, за плячыма акадэмічных будынкаў відна лапінка чорнагаловых хвой.*

*Вось туды нам і трэба кіравацца. Прачынім зялёную брамку. За дубамі, кедрамі і арэшнікам вочы прывечвае малады сад. Ён хоць і моцна тужыў, застаўшыся без гаспадара, але ж ніштавата падрос ад таго часу.*

*Сярод саду стаіць двухпавярховы дом. Невялікі, але дамок на яго ніяк не скажаш: не з малых чалавек жыў там.*

*Толькі чалавек гэты, як і ўсе вялікія, патрабаваў няшмат. І доўгі час туліўся ў папярэдніцы цяперашняга дома, цеснай і халоднай драўлянай хаце. Па імені напісанага ў ёй твора хату звалі рыбаковай...*

*З левай рукі ад уваходу распасцірае магутныя лапы раскідзісты вяз. У яго цяньку хаваецца лаўка. Тут Колас любаваўся воблакамі, размаўляў з сябрамі.*

*А зараз зазірнём у дом. На другім паверсе, проста са сходаў, рабочы яго пакой. Шафа з кнігамі, якія ён любіў, стол, за якім пісаў «На ростанях».*

*Каляндар назаўсёды спыніўся на лічбе расстання.*

*Не дапісаўся ліст...*

*Не дачыталася кніга...*

*Усё так, як было пры ім, калі знаёміў з новым раздзелам аповесці, расказваў смешнае здарэнне, гневаўся за нядбалую работу.*

*І, здаецца, добрыя карыя вочы дапытліва пазіраюць на ўвайшоўшага, нягучны ўсмешлівы голас пакрысе запаўняе пакой.*

*Колас расказвае пра сябе...*

*Хай будзе адвячорак.*

*Калі час летні, спусцімся пад вяз, калі ж на двары пасвістваае завея, застанёмся тут, у цёплым пакоі з невысокім акном.*

*Будзем слухаць...*

# З ЧАГО ПАЧЫНАЛАСЯ ГЭТАЯ КНІЖКА

*Як Міцкевіч стаў Коласам. Пра што расказвае «Кніга ташкенцкага быція». Першая няўдача з подступам да героя. Колас пачынае ўспамінаць. Гросбух для ўсяго, што лезе ў галаву. Памяць Коласа. Званочкі і «Краска». Вечны каляндар маніць. Я прайграў заклад.*



Багата гадоў назад пачала мне карцець адна турбота: напісаць аб ім аповесць. Не аб дбайным збіральніку мастацкай праўды ў трывалыя радкі кніг доўгага веку; не аб мудрым чалавеку з дзяржаўным позіркам, клопатам і сталасцю, абвеяным цеплынёй народнае пашаны; нават не аб добрым старэйшым таварышу, якім быў ён для многіх з нас, пісьменнікаў, хто меў права гаварыць яму «ты», або ўжываць даўнейшы вясковы зваротак «дзядзька Якуб», а то і проста казаць «дзядзька», як сваяку.

Пра пісьменніка, Якуба Коласа, найлепшым чынам гаварылі яго кнігі, самі, без ніякага пасрэдніцтва; аб чалавеку, Канстанціну Міхайлавічу, маглі куды лепш за мяне расказаць тыя, хто прайшоў з ім даўжэйшы шлях, стаяў поруч у 30-я гады, перажываў разам цяжкую пару Айчыннай вайны; друкаванае слова пра мілага і чулага «дзядзьку», напэўна, выклікала б у яго нездавальненне з прычыны міжвольнай, але няўхільнай для размоў такога парадку інтымнасці.

Аднак не толькі гэтыя акалічнасці спынялі руку і кіравалі ўвагу на іншае. Іншая постаць не адступалася ад маіх вачэй. Думалася пра самы кароткі, можа быць, самы просты, але затое вырашальны кавалак яго жыццёвага шляху: ад нараджэння чалавека да нараджэння паэта. Нецярплівілася адгадаць, як шэрае качаня, калі выслаўляцца з дапамогаю казачных вобразаў, ператварылася ў белакрылага харашуна, даўгавечнага лебедзя.

Жыў сабе сялянскі хлапчук, пасвіў кароў на палянах у хвойніку, бегаў з белай торбачкай за плячыма ў школу па беразе Нёмана — і раптам гэты басаногі Костусь адчуў сябе паэтам і назваўся Якубам.

Сын палясоўшчыка Міцкевіча, не паквапіўшыся на гучнасць і вядомасць гэтага прозвішча, прыняў сціплейшае і непрыкметнейшае — Колас. І стаў ім, і не стаптаў яго ў руні жорсткі капыт часу, не падцяла нявыкалашаную сцябліну каса забыцця, не пабіў град знявагі, не зламаў віхор падзей.

Колас выспеў, выдужаў, вырас у з'яву, куды зазірнулі і засталіся ў адбітку аж дзве эпохі: ад 1905 да Кастрычніка і ад Кастрычніка да нашых дзён, калі на вачах паэта, з яго сілай і песняй будавалася грамадства сацыялізма.

Што ж абудзіла яго, што рушыла ў рост і найбольш паспрыяла, што, калі і як паставіла яго на лясную трэль, якую ён зрабіў прасторнай дарогай паэзіі, каб улілася яна ў неаглядныя чалавечыя шляхі думання і барацьбы?

Успамянём, перад усім, багацце ўласнай душы і здольнасць пры дапамозе слова дзяліцца гэтым багаццем з іншымі, адным чынам, тое, што ў звычайным абыходку называюць пісьменніцкім талентам. Але ці ёсць талент тым шчаслівым дарункам, які атрымлівае чалавек ад прыроды пры нараджэнні і нясе яго праз жыццё як нешта раз і назаўсёды дадзенае і таму нязменнае?

Гавораць, чалавека стварыла праца. Звужаючы гэта выслоўе, каб дапасаваць яго да мастацтва, можна сцвярджаць, што чалавек працаю стварае свой талент. Найлепшае сведчанне гэтаму — праца самога Якуба Коласа, важкі і ў літаральным і ў пераносным сэнсе збор яго твораў, а таксама неаспрэчны сведка творчага працэсу — дзённік.

У сшытках «Кніга ташкенцкага быцця» і «Гаворыць Клязьма» расказваецца, як настойліва, ні на крок не адхіляючыся ад задумы, пісаў Якуб Колас, хоць і валіўся з ног ад бяссоння і малакроўнасці, але кожны дзень, не дазваляючы сабе спачыць ні на адну хвіліну, нават пасля аперацыі. Сядзеў за ста-

лом, па ўзору Максіма Горкага, і працаваў, пакуль не адбярэцца рука. І вось вынік. З красавіка 1943 па лістапад 1944 года з-пад пяра выйшлі вершы вялікай сілы і хараства: «Роднаму краю», «Шлях славы», «Чымган», «Салар», паэма «Адплата», лірычныя адступленні якой па ўсхваляванасці, вобразнай моцы, яркасці малюнкаў ці не перавышаюць лепшыя старонкі «Сымона-музыкі».

І гэта не ўсё: трэба дадаць яшчэ дзесяткі газетных артыкулаў, апублікаваныя і неапублікаваныя выступленні на розных сходах, па радыё і на літаратурных вечарах.

Добрая траціна часу з тых месяцаў дваццаці, апісаных у дзённіку, пайшла на выкананне ганаровых і неганаровых абавязкаў, на ўладкаванне дзяржаўных і прыватных турбот, паездкі з Ташкента ў Маскву на 3-ці Усеславянскі мітынг, у вызвалены Гомель на чарговую сесію Вярхоўнага Савета БССР, на пераезды з аднаго месца бытавання ў другое.

Такім чынам, 30—40 вершаваных радкоў прыпадае на кожны творчы дзень паэта, калі б можна было назваць такі дзень у поўным сэнсе творчым. Двойчы, рана і ўвечары, Канстанцін Міхайлавіч спяшаўся да вулічнага ці санаторнага рэпрадуктара паслухаць весткі з франтоў, паспяваў пабыць у рэдакцыях, заходзіў у Саюз пісьменнікаў, сустракаўся з сябрамі, выварочваў і пілаваў карчы, прычым рабіў гэта з задавальненнем, адзначаючы ў дзённіку: «Стаяў над вывернутым карчом, як баец перад трафейным «фердынандам».

А калі гаспадыні нядужылася, браўся за нож і чарпак, гатаваў верашчаку, варыў прэсную капусту. Позна вечарам, спарадкаваўшы чарнавікі і накіды, перапісваў усё зробленае: чарговы раздзел паэмы — у асобны сшытак, а вершы — у другі, які жартаўліва ахрысціў «Ташкенцкая торба». Перапісваў, потым сядаў за лісты і нарэшце падводзіў рысу пад падзеямі ў дзённіку. А тут ужо ў сціплых словах, вельмі сцісла гаварыў пра многае.

І першая, самая большая турбота была: ці пасунуліся нашы войскі хоць на крок наперад, ламаючы летняе супраціўленне гітлераўшчыны ў 1943 г. Глядзіш зараз на запісы і бачыш: і ўсмешку на твары,

і вясёлую руку, і нават роўненькія і цвёрдыя літары здаюцца вясёлымі ў словах «Вызвалена Орша», або «Воўка кінуўся цалаваць нас усіх — узят Мінск».

Яго сэрцу нецярплівілася дамоў. Мучыў боль па загінуўшым сыне, мігцела надзея хоць што-небудзь пачуць аб ім, а тут насоўвалася іншае няшчасце — на вачах пачынала згасаць сяброўка жыцця.

Спакою не было, але Колас пісаў.

Ведаючы ўсё гэта, мы можам сказаць, што талент — не толькі праца, а і мужнасць, а поруч з мужнасцю заўсёды ходзіць подзвіг.

Так мы вярнуліся да пачатку размовы, калі назвалі талент адной з неабходнейшых умоў для выхаду ў прасторы паэзіі. Талент, як бачым, фармуецца доўга, гэта ёсць вынік цэлага жыцця з яго штодзённай самаахвярнай працай. А што ж было на самым перадзе, што вылучала не паэта, а хлапчука з паэтычнымі задаткамі? Відаць, толькі адно: непасрэднае ўспрыманне, блізкае адчувальнасцю да фатаграфічнай плёнкі, здольнай утрымліваць адбіткі падзей, твараў, родных з'яў і вобразаў, усяго, на што б ні пасвяціў сонечны прамень з уласнага дапытлівага вока.

Ці магла адна гэта якасць паставіць хлапчука на дарогу паэта? Хутчэй за ўсё — не. Так і марнавалася б, намнажаючы адбіткі, «плёнка» ўспрымання, каб не «праявіла» яе асяроддзе, людзі. У першую чаргу — блізкія, на чым малацэ і мазалі ён узгадаваўся, ад каго пачуў першае сугучча роднай песні, першую скаргу на крыўдны лёс.

І не адны блізкія людзі маглі падняць яго да валодання словам. Тут прычынілася ўся зямля, змучаная ў той час, але ўрадлівая на таленты, хоць і ўзыходзілі яны куды радзей, чым сяяліся, і не заўсёды, акрыяўшы, звязвалі свой лёс з лёсам занядбанай карміцелькі. Яна настойліва і неадкладна патрабавала галасніка, праз які б магла гаварыць не толькі пра сваё гора, але і пра сваю мару, не толькі аб прыгнёце, а і аб нізрынуцці яго.

Некалі такім галаснікам для многіх паярэмленых царызмам народаў стаў Тарас Шаўчэнка. Але мінаў час, у народных глыбінях спела паўстанне, а каб ажыццявіць яго — патрэбны былі мозг, які б трымаў

перад у паходзе па свабоду, збройныя рукі, якія б здолелі ўзяць і адстаяць гэтую свабоду, і новыя спеўныя вусны, якія б, не стамляючыся, клікалі, бадзёрылі і натхнялі на барацьбу.

На самым рубяжы двух стагоддзяў, дзевятнаццатага і дваццатага, пачала збірацца цвёрдая арганізаваная сіла, рыхтуючыся на штурм цытадэлі царызму, якая магла быць узята толькі тады, калі, паводле ленінскага прадбачання, усе сілы абуджанага пралетарыяту злучацца з «усімі сіламі рускіх рэвалюцыянераў у адну партыю, да якой пацягнецца ўсё, што ёсць у Расіі жывога і чэснага».

Авалодаўшы тэорыяй паўстання і рэвалюцыйнай зброяй, навучыўшы свой чырвоны сцяг лунаць над барыкадамі першай рускай рэвалюцыі, партыя бальшавікоў рыхтавалася да перавароту, каб узяць уладу і заснаваць дзяржаву рабочых і сялян як плацдарм для пабудовы новага свету.

Гэтак і сталася пазней, на сталым веку Якуба Коласа. А для таго каб першая песня пастукалася ў сэрца вясковага падлетка, усё, як кажа прымаўка, складалася адно да аднаго: турботы ўласнага таленту, уплыў блізкіх людзей і патрабаванне народа — мець смелыя і праўдзівыя вусны.

Усё гэта было мне ясна ва ўяўленні, даволі выразна малявалася і постаць героя будучай кнігі. Але, каб пачаць пісаць, аднаго ўяўлення відавочна нехапала.

Трэба было больш ведаць наогул пра сям'ю Міцкевічаў, пра маленькага Костуся, мець запас жыццёвых падрабязнасцей, якіх не заменіць ніякая, нават самая багатая, выдумка. Выдумляць я не меў права, дый гэта было ні да чога ў кнізе такога парадку, як задуманая мною. Апрача ўсяго іншага, рабіць гэтак здавалася грэшна і смешна, калі поблізу разлягаліся коласаўскія мясціны, а там жылі яго аднагодкі, працавалі сваякі, з якімі ён рос і гадаваўся, і самога Канстанціна Міхайлавіча можна было бачыць кожны дзень.

Толькі як знайсці за́чапку, як заахвоціць яго да такой гаворкі? Аднак мне даводзілася бачыць, як цяплелі і пачыналі свяціцца ягоныя вочы пры ўспаміне аб Мікалаеўшчыне ці проста калі пры ім чы-

таліся перакладзеныя на рускую мову раздзелы «Парэчча» ці «Агляд зямлі», над рэдагаваннем якіх працаваў тады Пётр Сямынін. Напэўна ж, не ўсё сказаў паэт у творах, што прынята лічыць аўтабіяграфічнымі.

Каб не заблытваць справы хітрымі подступамі і падыходамі, я адкрыта расказаў Канстанціну Міхайлавічу аб сваіх намерах.

— Чытай «Новую зямлю»,— сказаў ён.— Я там нічога не змяніў. Уся наша сям'я — пад сваімі імёнамі. А захочаш ведаць, як я настаўнічаў, трапіў у турму, прыглядзься добра да Лабановіча.

Выслухаўшы добразычлівую параду, я быў вырашыў адмовіцца ад задумы. Пісаць кнігу па літаратурных творах, ды не проста вядомых, а класічных, было б, па меншай меры, легкадумна.

Я кінуўся на коласаўскія мясціны, зрабіў пешкі падарожжа па беразе Нёмана, не адзін дзень правёў на абтупаных паэтам лясных сцяжынах у гонкіх шчырых барах, слухаў, як шумяць любыя ягонаму сэрцу дубовыя гаі. Пасля пачаў адчыняць дзверы ў лесніччоўкі, дзе жыў ён некалі, распытваўся ў аднавяскоўцаў, выхопліваў кожнае цікавае слоўца ў братоў і сясцёр.

Усё як быццам станавілася на месца: людзі, прырода, абставіны, а жывога дыхання ў вобразе так і не з'яўлялася.

І, ці то незнарок, ці то з літасці да маіх марных намаганняў, Канстанцін Міхайлавіч раптам расшчодрыўся. Пачаў успамінаць эпізоды маленства, у двух-трох сказах даваў партрэтныя характарыстыкі членаў сям'і. У гаворцы пракідаліся неацэнныя прыкметы часу, невядомыя мне падрабязнасці тагачаснага жыцця.

У такія «ўспамінныя» хвіліны я ператвараўся ў слых, нічога не перапытваў, каб выпадкам не паказаць свае цікавасці і не перапыніць так патрэбнай мне плыні прыгадак. А дома стараўся як мага дакладней запісаць усё тое, што ўдавалася пачуць.

Неяк, пасля адной асабліва багатай на змест гаворкі, заўважыўшы, што мне нецярпліўціца хутчэй пайсці, Канстанцін Міхайлавіч хітравата скасавурыўся і прамовіў:

— Няма чаго ўцякаць. Бяры ўжо лепш паперу ды запісвай за мною ўслед.

Назаўтра я прынёс тоўстую канцылярскую кнігу і пазнаёміў Канстанціна Міхайлавіча з папярэднімі запісамі. Ён заўважыў некаторыя недакладнасці, тое-сёе дапоўніў і паклаў кнігу ў шуфляду пісьмовага стала.

— Будзем даставаць яе час ад часу. Не кожны дзень, а калі ўсплыве што-небудзь вартае.

«Вартага» ўспаміналася, на маю радасць, многа, і запісваць даводзілася амаль пры кожнай сустрэчы. Часамі, у маю адсутнасць, Канстанцін Міхайлавіч выцягваў «гросбух для ўсяго, што лезе ў галаву», як жартаўліва ён ахрысціў маю кнігу, і рабіў запісы сваёю рукой або ўкладаў туды нататкі на асобных паперчынах.

Памяць у яго была выключная. Нават дні, калі адбываліся тыя ці іншыя здарэнні, Канстанцін Міхайлавіч называў без памылкі, быццам справа дзеялася ўчора. «Было гэта, да прыкладу, гаварыў ён,— у пятніцу на чыстым тыдні...» Потым успаміналася якая-небудзь прыкмета — вучэнне ў школе ці ў семінарыі, і такім чынам устанаўліваўся год. Расказваючы што-небудзь паўторна, перад новымі слухачамі, Канстанцін Міхайлавіч быў дакладны і ў падрабязнасцях і нават у слоўным выражэнні. Вось чаму асобныя радкі гэтых запісаў блізкія да вядомай аўтабіяграфіі і некаторых іншых апублікаваных матэрыялаў са спадчыны пісьменніка.

Не ўсе даты, што сустракаюцца тут (напрыклад, дзень выхаду з астрога ў 1911 годзе, паездка ў Вільню і іншыя), супадаюць з прынятымі ў літаратуразнаўстве нават на падставе ранейшых выказванняў самога Якуба Коласа.

— Як там дзе напісана,— звычайна гаварыў ён пры спробах удакладніць даты,— я не ведаю. Слухай, што кажу, і гэта будзе дакладна.

Спрачацца не выпадала, дый аднойчы я быў належным чынам пакараны за недавер'е да яго бясхібнай здольнасці ўзнаўляць падзеі ў такой непасрэднай свежасці, нібы яны адбываліся не пазней як папярэдадні.

Няхай тут раскажацца пра тое, наколькі моцная і ўчэпістая захавалася памяць Канстанціна Міхайлавіча ўжо ў вельмі паважным веку.

27 кастрычніка 1951 года, як сцвярджае дата пад аўтографам чатырохрадкоўя «Маім рэдактарам Максіму і Пятру (Лужаніну і Глебку)», напісанага ў духу свабоднага жарту і праз гэта яшчэ не апублікаванага, я праглядаў, седзячы ў кабінеце Канстанціна Міхайлавіча, рукапіс першага тома яго Збору твораў.

Хутка павінен быў прыйсці Глебка, тытульны рэдактар гэтага тома, каб разам звесці ў адзін пасобнік усе праўкі і зверыць розначытанні.

Мінула з паўгадзіны звыш умоўленага часу. Вельмі акуратны ў дапільноўванні тэрмінаў,— Колас не дазваляў сабе не толькі пазніцца, а заўсёды прыязджаў за добрыя паўгадзіны да пачатку сходаў ці проста таварыскіх сустрэч,— Канстанцін Міхайлавіч пачаў выказваць адзнакі нецярплівасці: маўчаў, пакашліваў, браў і адкладаў свежую газету. Нарэшце пазваніў у Інстытут мовы. Глебкі на месцы не было.

— Мусіць, выйшаў ужо. Пайду насустрач, можа, спаткаю. І час хутчэй пройдзе.

— Дык лепей я выйду, дзядзька Якуб.

— Не, сядзі, працуй.

Праз некаторы час ён вярнуўся адзін.

— Наш Пятро збіраецца, як шляхцянка ў касцёл. Ксёндз казань канчае, а яна яшчэ ўсіх аплікоў не пазашпіляла. Наогул натура ў яго спакойная. Не любіць спяшацца. І спіць добра. Аднойчы, яшчэ ў вайну, я прыйшоў да яго ў гасцініцу «Якар». Дзяжурная кажа: «Дома, спіць». Дык я цэлую гадзіну барабаніў у дзверы. Даў бог чалавеку сон — каб кожнаму з нас! Таму ён, відаць, і рахманы такі, лагодны. Ведама, добра выспаўшыся...— Канстанцін Міхайлавіч змаўкае, мусіць, думае пра іншае.— І з самымі рознымі людзьмі дружыць... З сваім цёзкам, дый са мною таксама. Праз сваю ціхманасць, мусіць, і непрыемнасцей не меў, як яго сябры з «Узвышша», а пазней і многія іншыя. Кузьма Чорны казаў мне, што правёў з ім некалькі дзён запар, перад самай бядою. А Пятра ліха абмінула. Відаць, не да кожнага благое прыстае.

Не ўпадабаўшы, чаму адказваю не адразу, вядзе размову далей:

— От і дружу з ім, і хінуся — з сэрцам і розумам чалавек. А часамі падумаю пра яго — быццам на аркуш белай паперы гляджу... Што за дзіва?

Над вусамі прабегла няўлоўная ўсмешка. Канстанцін Міхайлавіч сеў за стол і падсунуў да сябе паперу.

— От зараз я ўсыплю вам абодвум,— сказаў ён, пачынаючы нешта накідваць алоўкам.

Потым перабяліў напісанае на двух аркушыках і адсунуў убок.

— Гэта вы з Пятром атрымаеце, калі скончым рэдагаваць. Раней не дам, каб не ўгнявіць рэдактароў сваіх. А цяпер вось аб чым пагаворым. Відаць, вы патураеце мне. Прапускаеце ў друк тое, ад чаго можна і ўстрымацца. Мы ж складаем крыху пашыранае выданне, не акадэмічнае. Дык навошта пхнуць сюды абы-што. Ну, палепшу я радок ці два, гэта ж справы не ратуе. Сырызна застаецца сырызнай, мова нячыстая, верш недасканалы. Вось я тут адлажыў каля дзесятка вершаў. Іх можна смела забыць і пакласці ў спрат.

Выслухаўшы мае пярэчанні, заўважыў:

— Можа ты і праўду кажаш, але разважаеш, як даследчык, а не чытач. Можна, вядома, даць гэтыя рэчы, каб меркаваць па іх і аб стане мовы, аб біяграфіі аўтара, яго настроі і тагачасным узроўні. Але ці даволі гэтага? Як апраўдаць з'яўленне ў друку сёння вучнёўскіх вершаў саракагадовай даўнасці? У мяне такой пэўнасці няма.

Я запытаўся, як быць з такімі кнігамі, як «Песні-жáльбы» і «Казкі жыцця». Ад скарачэння асобных рэчаў яны могуць прайграць у цэльнасці. Як апускаць вершы, калі яны ўжо ўмацаваліся ў змесце папярэдніх выданняў і ў памяці некалькіх пакаленняў чытачоў? Ці не перагародзіць такая аўтарская рэдакцыя дарогі шэрагу твораў у далейшыя кнігі?

— Паслухаўшы цябе, выходзіць, я ўжо на сваёй дрывотні і трэскі паварушыць не магу. І тут ёсць праўда. Трэба падумаць. Паслухаем, што скажа Пятро, калі прыйдзе. Нешта мая надзея на яго з'яўленне пачынае падупадаць. Разумееш, нехта добра сказаў,

што паэт ставіцца да сваіх вершаў, як маці да дзяцей. Усіх любіць, хоць адно прыгожае, а другое зусім няўдаленькае.

Канстанцін Міхайлавіч пагартаў адкладзеныя ім вершы і паказаў мне «Краску».

— Не з громкіх гэты вершык, а міл мне. Ён мае сваю гісторыю. Напісаў я яго, седзячы ў астрозе. Паглядзі, якая там дата?

У каментарыях да тома было пазначана: «31 мая 1910 года».

— Значыць, правільна. Пісаў я яго ў панядзелак адвячоркам. У нядзелю некаму з маіх аднакамернікаў дазволілі спатканне са сваякамі, і ён прынёс разам з перададзенай бялізнай і хлебам дзве сцяблінкі лугавых званочкаў. Паставілі мы іх у ваду, а самі пасталі наўкруга і нібы ўкамянелі. Глядзім, вочы ва ўсіх вільготныя, і на волю наўсверб хочацца. Здаецца, каб выпусцілі зараз, лёг бы на зямлю і пакачаўся, як змакрэлы конь на ворыве. А ўсё ж, што ні кажы, святлейшы быў дзень той з кветкамі. Хацелася, каб яны даўжэй пакрасавалі. Але на раніцу нашы званочкі пачалі апускаць галоўкі. Гаслі на вачах, і ў кожнага пачуццё такое, быццам чалавека жвірам засыпаюць.

А тут яшчэ Мардуховіч, быў у нас такі, спявак не спявак, але ахвотнік да спеваў, з голасам моцным і пранэзлівым, ходзіць па камеры і пые: «Колокольчики мои, цветики степные». Усяго два гэтыя радкі ён і помніў. Мы яго ўсяксе суцішалі, абяцалі падвойную порцыю капусты — не памагае. Пад вечар утаймаваўся, а я прыпёрся на нарах — дай, думаю, перакладу гэтыя «Колокольчики». Пачаў, ды цалкам верша ўспамянуць не мог. Прыпляліся думкі пра астрог, і пайшло на свой лад. Праўда, голас Талстога чуецца, нават радок гэты, бачыш — «Дзень вясёлы мая», так і застаўся неперароблены.

І ў кожнага верша ёсць свой лёс, пра кожны можна ўспамянуць нешта, выцягнуць тое валаконца, з якога завязаўся першы радок. Але ці варта рабіць гэта? Дзеду міла, а ўнуку гніла. Не заўсёды ж удаецца сказаць так, каб усё стала ясна: ты сам, настрой, абставіны, нарэшце — прадмет пісання. Добрая палавіна таго, што трымаеш у думцы, застаецца

нявыказанай. Чытаеш сам, бачыш не толькі радкі на паперы, а ўвесь запас, затоены ў душы. А нікому ж больш гэтага не відно. Ратуючыся ад такой непаўнаты выказвання, і пачаў я перакідацца на прозу. Болей змясціць яна можа.

Далейшую гаворку мы працягвалі ўжо ўтрох. Перачыталі вершы, адбракаваныя Канстанцінам Міхайлавічам, і дамовіліся ўсё ж пакінуць іх у кнізе. На адыходзе нам было падаравана па экземпляры толькі што напісанай эпіграмы на рэдактароў.

Па дарозе дамоў я расказаў гісторыю «Краскі». Падзівіліся з памяці Канстанціна Міхайлавіча: утрымала дзень напісання гэтага верша — панядзелак!

— Цікава было б праверыць.

І я ўзяўся за праверку.

Адшукаў у кішанёвым даведніку так званы вечны каляндар і па таблічцы выбраў адпаведныя лічбавыя характарыстыкі для дадзенага стагоддзя, года і месяца. Сума гэтых характарыстык з бясспрэчнасцю сведчыла, што ў маі 1910 года нядзеля прыпадала на 1, 8, 15, 22 і 29. Значыць, 31 быў аўторак, а не панядзелак, як казаў Канстанцін Міхайлавіч.

Гэтую вестку ён сустрэў, глянуўшы на мяне з-пад брывей, і, зразумеўшы, што я звярнуўся да нейкіх крыніц, з непарушным спакоем прамовіў:

— Значыць, у календары памылка.

Аднак зацікавіўся невядомым яму спосабам вызначэння дзён і пачаў вылічаць са мною разам па вечным календары.

На дапамогу прыйшоў сын, Даніла Канстанцінавіч. Пералічылі яшчэ раз. Вынік быў той самы: аўторак!

І гэта ўсё ж не збянтэжыла Канстанціна Міхайлавіча. Ён, пасмейваючыся, назіраў за нашымі вылічэннямі і гаварыў:

— Як сабе хочаце, хлопцы, брэша ваш вечны каляндар. Складалі яго немцы, і нам ён непрыдатны. Стаю за панядзелак і магу біцца аб заклад.

Праз некаторы час быў знойдзен каляндар на 1910 год, і заклад выйграў Канстанцін Міхайлавіч.

— Супраць усіх тваіх доказаў,— растлумачыў ён,— я меў адзін, непахісны. 31 мая быў другі

дзень яўрэйскага свята швуэс (сёмуха), і Мардуховіч, той спявак, пра якога я расказваў, не пайшоў на работу ў шавецкую майстэрню. «Я сёння пагуляю дзень,— сказаў ён нам,— зраблю свайму богу палёгку: яму будзе менш маіх грахоў лічыць».

Пазней высветлілася, што заклад я прайграў праз непаразуменне. Усе падлікі мы рабілі, адыходзячы ад даты 31 мая па старым стылі, а вечны каляндар быў разлічаны на новы стыль!

— Старым трэба верыць,— жартаваў Канстанцін Міхайлавіч,— а ты недаверлівы. Вось і апёкся.

З пачатку 1948 года мне даводзілася сустракацца з Канстанцінам Міхайлавічам амаль кожны дзень. Пасля сустрэчы я адразу стараўся запісаць усе яго меркаванні пра жыццё і літаратуру, яго турботы і шматлікія справы як дэпутата Вярхоўнага Савета СССР, члена ЦК КП Беларусі, старшыні рэспубліканскага Камітэта абароны міру, нязменнага віцэпрэзідэнта Акадэміі навук.

З усіх маіх нататак, а таксама з «легалізаваных» запісаў у «гросбух» і злажылася гэтая кніга. Яна, калі гаварыць дакладна, расказана самім Якубам Коласам.

Але Канстанцін Міхайлавіч не пераказваў свайго жыцця паслядоўна, дзень за днём. Сёння ўспамінаў пра Альбу́ць, а заўтра — пра настаўніцтва ў Пінску і можа толькі цераз год зварочваўся да альбуцкага здарэння, каб папоўніць яго новаю рысаю.

З гэтай прычыны тут ёсць пэўныя кампазіцыйныя, калі можна так сказаць, змацаванні. Раздробленыя выказванні і ўспаміны, якія адносяцца да аднаго часу, падзеі ці твора, злучаны ў адно цэльнае апавяданне.

Задуманая мной аповесць засталася недзе ў палавіне дарогі. Невялікі раздзел з яе чытач знойдзе ніжэй, а да ўсяе цалкам давядзецца вярнуцца пазней, каб нашай моладзі і ўсім тым, каму менш даспадобы рэчы дакументальныя, расказаць у іншым жанры пра пачатак дарогі вялікага пісьменніка і вялікага грамадзяніна.

# КАЛЯ САМЫХ ВЫТОКАЎ

*Хто такі Струк? Ці ёсць у пана хвост? Матчыны вочы. Што значыць — Акінчыцы? Скрыпка дзядзькі Петруся. Дзядзька Антось, яго гульні і страхі. Першая літара. Жаваранак просіць агню. Дзіўны сабака. Святыя глядзяць на салдата. Як выглядае панядзелак? Сутычкі з дзедам «Царуня брэсцкі». Нашто людзі жэняцца.*



— Бацька мой — Міхаіл Казіміравіч — вельмі дужы, шырокі ў плячах, цягавітага заводу чалавек. Ростам з брата Юзіка, вышэйшы за Уладзю. Валасы чорныя, кучаравыя. Мне здаецца, Юзік і я болей падобныя да яго. Няўпынная рупасць і клопат жылі ў яго істоце.

Цэлы дзень, а то і ноч бадзяецца па лясных сцежках, а прыйдзе ў хату, памыецца, пасёрбае чаго-небудзь і не можа ўседзець на месцы. Тупае, пачынае рабіць парадак на панадворку, хоць кол які ўраб'е ў плот. А гаспадарка і ўсе хатнія справы — гэта ўжо быў клопат дзядзькі Антося. Ён крыўдзіўся на бацьку за гэта. «Без цябе зробіцца»,— казаў ён.

Як я цяпер разумею, бацьку няміла было леснікоўства, цягнула праца на зямлі. Пільнуй панскае дабро, а ў князя Радзівіла яно і так з горла лезла, не вартуючы. А галоўнае, што сам бацька, бесхацінец, амаль жабрак, у вачах сялян выглядаў панскім сабакам. Выганяй маладзіц з лесу, каб грыбоў ці ягад не збіралі, калі не купілі ў каморы білета на збор. Не спускай вока з лесу, бо дзе-небудзь ад ладнага дубка ці хвойкі застанецца толькі лысы пяпёк.

А як таму мужыку было не ўкрасці, сярод пушчы жывучы? Купіць жа няма за што. А дровы трэба, падрубы гніюць, лаціны на страсе перatляваюць. Дый прыказка падахвочвае: хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар. Ну, вось і даводзілася бацьку і сякеры адбіраць, і пад штраф людзей падводзіць.

А не зрабі гэтага — пражануць з пасады, кавалак хлеба страціш.

Сварыўся ён з людзьмі, і, мусіць, аднойчы збілі яго. Не скардзіўся, нічога не сказаў у хаце. Пастагнаў уночы, маці нашмаравала бакі тарпатынаю, а раніцаю паваловся на абход.

На ногі быў лёгкі і з'яўляўся заўсёды там, дзе яго і не чакалі парубшчыкі. Праз гэту ўвішнасць ды таму, што ён быў хударлявы, высах, бегаючы па лесе, мусіць, і далі яму мянушку «Струк». Магчыма, да мянушкі прычынілася яго кучаравасць. Але ўголас з яго гэтак не «выдзіраліся». Ведаеш гэтае слова? Тое самае, што дражніць. Баяліся, а можа і паважалі, бо ён ніколі лішняй крыўды не рабіў. Злавіўшы ў лесе парубшчыкаў з фурманкай, гужоў не сек, не здзекаваўся, як іншыя леснікі. Затое і адкупіцца ад яго залатоўкай ці паўквартай таксама не ўдавалася. «Ідзі ў камору і купі сабе столькі пнёў, колькі высек,— казаў ён вінаватаму.— Прынясеш квіт, тады забірай, а я пакуль што памаўчу. А не прынясеш — нам абодвум бяда будзе».

Таму, відаць, і людзі не міналі нашых леснічовак. Заўсёды назбірвалася поўная хата: і плытагоны, і мікалаўцы, і леснікі. Гудуць да поўначы, панам косці перамываюць.

Слова «пан» для мяне было такое ж страшнае, як і «чорт». І калі я, малы, першы раз убачыў ляснічага, які за нешта распякаў бацьку, дык усё заходзіў ззаду, паглядзець, ці не целяпаецца ў яго хвост.

— Адно, як называе Гогаль, «видение», мусіць, нейкі малюнак далячэзнага дзяцінства, калі я толькі ўспрымаў навакольнае, засталося і дагэтуль у маёй памяці. У мяне да сённяшняга часу чамусь усё гэта злучаецца з маці. Як цяпер мне здаецца, маці пасадзіла мяне, а сама пачала рваць траву. І вось і зараз бачу я мяшок з травою на плячах невядомага чалавека. Сон гэта, ці трызня, ці прыбачылася нешта растрывожанаму дзіцячаму ўяўленню? Не ведаю. Але як успомню маці, адразу вярзецца той мех.

Маці — Ганна Юраўна — была з роду Лёсікаў.

Мяне заўсёды вабілі і крыху палохалі матчыны вочы. Добра яны глядзелі на нас, малых, але нібы наскрозь. Таму, калі мы рабілі якую-небудзь шкоду і маці пачынала дашуквацца вінаватага, лепей было прызнавацца самому. Зірнеш ёй у вочы і зразумееш: маці ўсё ведае і так, а дапытваецца, бо хоча, каб ты сказаў праўду.

І другое, што ўражала больш за ўсё: матчын голас. Нават калі яна сварылася на нас і пачынала ўшчуваць, голас не траціў мяккасці і дабраты. Я вельмі любіў, як яна спявала. Спявалі ў нас рэдка: прыедуць госці, падгуляюць і тады заводзяць песні: і жанкі і мужчыны. Тут найболей ішлі ў ход жартоўныя мелодыі, скочныя. Галасы, у тым ліку і матчын, рабіліся пранзлівыя, як бы штучныя.

А мне падабалася іншае. Управіўшыся з чарнейшаю работаю па хаце і па гаспадарцы, маці садзілася, як на адпачынак, за верацяно або за шытво. Яна спачатку абзывалася ледзь чутна, тонка-тонка, як шчыгол, прабуючы голас, ці не ахрыпла часам за ноч. Потым матчына песня бралася ў сілу і запаўняла хату.

Спявала маці, калі дома не было мужчын, ба́цькі і дзядзькі. Ці то саромелася яна, ці можа лягчэй было ёй думаць, успамінаць дзявочыя гады пад той просценькі напеў. А ўлюбёная матчына песня расказвала пра нешчаслівае каханне, і галоўнаю асобаю, разлучнікам, выступаў Нёман.

Ні матыву, ні слоў успамянуць не магу, але яны недзе жывуць ва мне, і калі пачынаю ўяўляць нашу хату, маці пры рабоце,— здаецца, чую і песню.

Маці амаль не карала нас, хіба што хто-небудзь з дзяцей не хацеў маліцца або мыцца перад нядзеляю. Тады яна развязвала хвартух і даставала паўразамі па вушах. Ратавацца даводзілася на печы ў далёкім кутку, за комінам. Туды яна не лазіла, але гразіла: «Чакай адно! От пагляджу я, ці ўседзіш ты на печы, калі скварак на вячэру напяку».

Работы ў маці ставала: дзяцей было восьмера, значыць, з дарослымі, а з намі ўвесь час жыў дзядзька Антось, за стол садзілася нішто сабе дружына. Апрача таго, трэба было абшыць і абмыць усю гэтую плойму. Гаспадыня і прысесці не мела часу.

— Зараз палічым па імёнах маіх братоў і сясцёр: Уладзя жыве ў Акінчыцах *, Алесь — памёр яшчэ да вайны, Юзік — гаспадарыць у Смольні, на нашай старой сядзібе. А Міхась дзе цяпер — сказаць цяжка. Можа жывога няма, можа гібее дзе ў эмігранцкім пазаддзі. Што яго пахіліла да гэтага «беларускага руху» пад час акупацыі? Каб ведаць. Ён сам настаўнік, чалавек са здольнасцямі, друкаваўся ў «Нашай ніве» пад псеўданімам Антось Галіна. Мусіць, нейкая кволіна была ў яго ў нутрах, калі так лёгка падаўся з радзімы.

Сясцёр таксама ў мяне чатыры: Міхаліна зараз жыве з намі, Юзя — у Мікалаўшчыне, Лена — дзесьці замужам у Горлаўцы, а Маня — таксама замужняя жанчына, жыхарка Мікалаўшчыны.

Маці я часта сніў, жывучы ў Ташкенце. Здаецца, чакаю недзе ў лесе, а яе ўсё няма. Я пайшоў сцежкаю, а насустрач сын — Юрка. Кажа мне: «Пойдзем адсюль, баюся сустрэць бабчыну здань». Так увесь час і было. Адну ноч маці сню, а другую — баравікі. У Альбу́ці. Чорныя, таўсматыя.

Канстанцін Міхайлавіч пасядзеў крыху моўчкі.

— Дзіўная рэч гэтыя сны, браток. У Ташкенце быў я хворы і вельмі слабы. І лёгкі, як хорт. Усяго 57 кіло важыў. Калі я цябе ў ваеннай форме пабачыў, вось, думаю, гэты хлопец яшчэ менш за мяне цягне. Жыць-то яно лепей без лішняе вагі, але дрэнь у сне вярзецца. Хоць ты ў ложак не кладзіся.

Мне ў Ташкенце ўсё чэрці сніліся. Цэлыя сотні. Я іх пастаўляю на калені і прымушаю гаварыць пацеры і хрысціцца. Адзін чорт быў вельмі старанны. Ён біўся галавой аб падлогу, кладучы паклоны, і аж завываў, гаворачы малітвы. Аказваецца, ён прыкідваўся старанным, каб адхіліць мяне і самому камандаваць чарцямі. Дзеля гэтага ён перада мною пачаў называць сябе Ісусам Навінам. А я скеміў, дый рожкі ў яго тырчалі з-пад шапкі, і кажу: «Ісус Навін, ты чортаў сын!»

---

* Тут і далей да мясцін, пазначаных зорачкай, гл. растлумачэнні ў канцы кнігі.

Гэта сон, думаю, ад Гітлера. Яму хацелася зваяваць столькі ж дзяржаў і царстваў, як некалі Навін з яўрэямі. І ён настройваў адпаведным чынам немцаў. Я думаў, колькі трэба будзе пасля вайны папавучыць іх, каб зрабіць падобнымі да людзей. Так і саснілася.

З другога боку, я чакаў выбуху ўнутры Германіі. Іначай, здавалася, вайны не скончым. Вельмі многа захапілі немцы і вельмі моцна наеліся яны. А саюзнікі нашы адну тактыку маюць. Як трымаліся ў вайну, так і па вайне. Тады яны нас цярпелі як узброеную сілу, што нішчыць Гітлера, а цяпер грозяць. Вядома ж, паміж намі прорва, яе нічым не засыплеш.

Але быў у мяне наконт вайны і яшчэ адзін прагноз. Немцы пачалі прасоўвацца на Белгарадскім кірунку, ■ падавалі справу так, нібыта наступаем мы. Які разлік у гэтым? Я зразумеў так. Калі наступленне праваліцца, яны здолеюць сказаць: мы ўтрымліваем свае пазіцыі. Вось ці не адсюль, як кажуць, пачатак канца нямецкай авантуры. Бо няўпэўненасць — родная сястра слабасці...

Дык я табе не ўсё скончыў пра свае ваенныя сны. Часцей за ўсё ў сне нападаў на мяне чалавек з адным вокам. Я заўважыў, што ён сніўся, калі я пісаў што-небудзь пра Гітлера.

Пра што думаеш, тое і сніш. Я некалі вельмі чакаў пісем ад аднаго чалавека. І прысніў яго. Здаецца, кажа мне: «Я пісаў і апускаў у скрынку, толькі яны падалі ўсё міма, міма...» Або бачыў раз, што далі мне танк, каб ехаў біць немцаў. Набраўся клопату, не ведаў, як управіцца з тым танкам.

— Хаты тае, дзе я нарадзіўся, няма. Але на тым жа месцы пабудавана амаль такая самая. Там жыў адзін час ляснік. А леснікова пасада была перанесена з Акінчыц у Альбу́ць.

Паслухай толькі, якія прыгожыя назвы ў нашых мясцінах: Негарэлае, Коласава, Стоўбцы, Адцэда, Арцюхі, Акінчыцы, Шацілаўка, Свержанскія маргі, Свержанская града, Альбуць, Мікалаўшчына. Любата! І ў кожнай назве свой сэнс прытоены. Стоўбцы

могуць паходзіць і ад слупа і ад стаўпца ў граблях. Пра Акінчыцы яшчэ мудрэй можна прыдумаць. Ці не чуцён тут дзеяслоў — акінуць, значыць — глухі куток, акінуты богам і людзьмі. Ты мне расказваў пра Крычаў, быццам там крычма крычалі татары, загнаныя ў тупік.

Я адказаў, што, мусібыць, аб гэтым гаворыцца ў IX томе Сямёнава.

— Э, не, выбачай! У Сямёнава іншае сказана: горад калісьці быў заснаваны крывічамі і называўся Крывічоў.

Канстанцін Міхайлавіч узяў даволі старую кнігу «Список населенных мест Минской губернии» і доўга смяяўся, што назваю Лахва́ занята больш за дзве старонкі дробнага друку.

— Няўжо ў тых мясцінах нашаму брату была такая лафа? Усе гэтыя Лахвы не так далёка ад Лунінца. Там жа туліласяі першае месца майго настаўніцтва — Люсіна. А я не сказаў бы, што там вялікая лафа.

Хвіліну падумаў, загаварыў зноў:

— Можа мы няправільна робім націск. Калі казаць Ла́хва, дык і сэнс будзе іншы. На Віцебшчыне слова «ла́хаць», азначае «шукаць», а часамі яго ўжываюць у сэнсе — здзекліва смяяцца. Ну, здаецца, мы залезлі ў мовазнаўчыя нетры. Пакінем іх нашым акадэмікам. Я прыгадаў мікалаўскія назвы, бо некалі з іх вельмі цешыўся дзядзька Антось.

— Дзядзькоў у мяне было трое: Антось, Пятрусь і Яхім. Апошнія два жылі сваімі дама́мі, а дзядзька Антось і звекаваў з намі нежанаты. Без яго ўся гаспадарка падупала б.

Я любіў заходзіць да дзядзькі Яхіма ў Мікалаўшчыну. І Пятрусь быў дружбацкі чалавек, употайкі даваў мне малому закурваць. Добра граматны, ён служыў у салдатах. Іхняя часць стаяла ў Адэсе, і дзядзька быў там пісарам. Вярнуўшыся з войска, ён жыў з намі ў Ластку і расказваў пра вялікі партовы горад. Ад яго я ўпершыню пачуў, што такое мора. Дзядзька прынёс з салдатаў вялікую спакусу — скрынку з арэхавага дрэва. Прыгожая — вачэй не

адарваць. Там у яго ляжалі розныя дробязі, каляровыя паштоўкі, некалькі ракавін. Закурыць, задумаецца дзядзька над сваёю скрынкаю і сядзіць нерухома. І я пры ім, усё роўна як на прывязі. Нарэшце, ён зверне на мяне ўвагу, нахіліць маю галаву да вечка і пытае: «Чуеш, як мора шуміць?» І мне здавалася — шуміць і нібыта пясок ці сухое збожжа перасыпаецца.

Аднойчы дзядзька раздобрыўся, а можа гарэлкі нюхнуў, і падараваў мне сваю скрынку. Я быў на сёмым небе і пачаў валачыцца за ім след у след, як абнаджаны шчанюк.

Дзядзька Пятрусь любіў кнігі, меў «Месіяду» Клапштока. Навучыўшыся чытаць, я многа разоў браўся за гэтую кнігу, але нічога ў ёй не мог зразумець.

Была ў нас адна жанчына, Луцэя. Мусіць, любіла дзядзьку Петруся, а ён і ў той бок не глядзеў, асабліва на людзях, адварочваўся.

Пазней Пятрусь ажаніўся і пабудаваў сабе хату ў Мікалаўшчыне. На вяселлі ў яго ад духаты ў хаце пагасла лямпа, ці можа пагасіў хто знарок. Мне стала вельмі страшна, бо ўсе гаманілі і спявалі і раптам сціхлі, нібы чакаючы бяды. Здалося, што зараз упадзе столь, абернуцца сцены і падушаць людзей, а хата была паўнюткая. Я расплакаўся, і маці доўга не магла суцешыць мяне. Потым казала, што з тыдзень я ўсё трывожыўся, уздрыгваў і крычаў праз сон.

У дзядзькі Петруся было дзве дачкі — Кася і Аміля. Потым яны жылі ў Мінску. Моцна сварыліся з сваім бацькам.

— Дзядзька Антось? З ім мы рыбу лавілі, хадзілі па паляванне, па сена ездзілі, прысы секлі. Меў ён да дзяцей ласку і падыход, можа праз тое, што застаўся бабылём. Любіў пасмяяцца, умеў пажартаваць і пакпіць.

Ростам быў невысокі, ніжэйшы за мяне. Нос — як упор у гэбліку, а пад носам — добрыя пышныя вусы. Валасы каштанавыя, даўгія, крыху хвалістыя, вочкі невялічкія, карыя.

Працавіты чалавек!

Мы з ім пад адной коўдрай спалі. Бывала, ён просіць: «Пачухай мяне!» Я цёр яму спіну зрэбнаю каструбаватай кашуляю. Ён толькі сцепаецца ад задавалення і ўсё падахвочвае: «О, добра! О-то-то-то!»

Вольнаю хвілінаю ў зімовыя вечары дзядзька Антось дурэў і забаўляўся з намі. Быў у яго ўлюбёны вершык:

Ішоў чамборык
Цераз панскі дворык,
Знайшоў малаток і тапорык.
Рог ці качан?

Калі мы адказвалі: «Качан!», дзядзька працягваў:

Я кажу: качан,
Ты кажаш: качан,
Я зноў пачаў:
Ішоў чамборык
Цераз панскі дворык,
Знайшоў малаток і тапорык.
Рог ці качан?

Як толькі хто-небудзь абзываўся: «Рог!», дзядзька адразу ж падхопліваў:

Ідзі за парог!

Даводзілася ісці ў халодныя і цёмныя сені, бо захоплены гульнёй дзядзька строга патрабаваў прытрымлівацца правілаў: не выйдзеш — сам выставіць. Стане пад дзвярыма і пачынае:

Прыбег чамборык
На родны дворык,
Прасіў маму і тату...

Той, хто быў у сенцах, мусіў адказваць:

Пусціце ў хату!

Дзядзька азіраў усіх прысутных і пытаўся:

Чамборык дрыжыць,
Пусціць ці хай назад бяжыць?

Тут ужо ўсё залежала ад нашага настрою. Мы маглі крыкнуць: «Назад!» Тады дзядзька рабіў жур-

ботную міну, нахіляўся да дзвярэй і, прыклаўшы далоні да вуснаў, громкім шэптам абвяшчаў:

Ідзі назад,
Табе дом не рад.

Іншая справа была, калі мы схіляліся да літасці.

Найчасцей маці, баючыся, каб выгнаны за дзверы не застудзіўся, патрабавала: «Пусціць». Дзядзькаў голас лагоднеў, ён прачыняў дзверы:

Сказалі: пусціць,
Хай на печы сядзіць.

Амнісціраваны падаваўся за комін, а гульня працягвалася да таго часу, пакуль мы ўсе не перабіраліся на печ. Апошні ўзлазіў туды дзядзька. Кожны раз мы распытвалі ў яго, хто такі гэты таямнічы чамборык? І амаль заўсёды дзядзька тлумачыў па-рознаму. Сёння чамборык быў корань расліны, вывараўшы яго, можна выдубіць аўчыны на кажух. Цераз тыдзень корань рабіўся чалавекам, які ўмее віць з канапель моцныя павады (чамбары) да аброцей. А яшчэ праз нейкі час чамборык ператвараўся ў сам гэты повад.

І мне вельмі падабалася апошняе: повад ажыў, адвязаўся ад аброці і, худы, даўгалыгі, на тонкіх нагах, пайшоў з тапаром шукаць бацькавай хаты. Гэта было і цікава і трохі страшна. А дзядзька падбаўляў страху, расказваючы на печы розныя дзівосы, пасля чаго ўжо нікога з нас нельга было выбавіць з хаты ні просьбаю, ні паскам.

«Жылі ў адным сяле дзед і баба,— дзядзька часцей за ўсё пачынаў так.— Былі яны абое старыя, часта сварыліся, і дзед усё гразіў бабе: «Ты мяне ў магілу ўгоніш, але ж і я табе спакою не дам».

Нейк пад восень памірае дзед. І што ты думаеш, як пачалі яго адпяваць, дык ён расплюшчыў адно вока і міргнуў на бабу. Тады ўсе зразумелі, што ён з нячыстай сілай знаецца.

Прыйшлі людзі з могілак, памянулі нябожчыка і збіраюцца разыходзіцца, а баба плача, галосіць, каб хто застаўся з ёю ноч перабыць. Падахвоцілася адна маладзіца, засталася. Толькі палеглі яны — чуюць, нехта шворыцца пад акном. Маладзіца зірк — аж ста-

іць дзед і губамі шаволіць: «Ідзі дамоў, а я задушу сваю бабу. А не поідзеш — тое самае і табе будзе». Запалілі яны грамнічныя свечкі перад абразамі і моляцца. А дзед стаіць за акном і зубамі скрыгіча. Сяк-так дабылі да раніцы, і мусіла баба перабірацца да дачкі ў другую вёску.

Хата стаяла забітая, пакуль не атаўбаваўся ў ёй прышлы салдат. «Я, кажа, самога фельдфебеля ў войску не баяўся, а што мне той ваш дзед». Лёг салдат спаць — чуе: ноччу нехта шыняля з яго цягне. Стаіць каля лавы стары і гаворыць: «Аддай шыняля, а то цяпер зіма, холадна голаму ў зямлі ляжаць». Пачалі тузацца: салдат цягне сабе, дзед сабе. На шчасце, заспяваў певень, і дзед знік без следу.

На заўтрашнюю ноч салдат падрыхтаваўся сустрэць госця. Завастрыў асінавы кол і паклаў каля сябе, а ў куток насыпаў галак мелу і на кожнай крыж вугалем намаляваў. Не паспеў змружыць ён вочы — з'явіўся дзед, зноў за шыняля хапаецца. А салдат — хоп галку мелу ды яму ў грудзі. Застагнаў дзед, кінуўся да прыпечка, дзярэ кіпцямі цэглу — ды ў салдата, ды ў салдата. Так і шпурляюцца: салдат галкаю, а дзед цаглінаю. Усе вокны павысаджвалі, сівер дзьме, а салдату горача. Нарэшце падхваціўся ён ды як жарне дзеду галкаю паміж вачэй. Той пахіснуўся і наўцёкі, а салдат дагнаў ды калом паміж крыл. Псюрыў яго да самай магілы, а там убіў кала́ ў грудзі... І ціха стала ў сяле».

Не даючы нам апомніцца, дзядзька пачынаў адразу ж новую гісторыю:

«А другі стары гэтаксама сварыўся з сынамі. Казаў, што дрэнныя гаспадары, што пасля яго смерці пусцяць увесь набытак на вецер і давядзецца яму з магілы выходзіць, дабра́ пільнаваць. Аднойчы пасля сваркі разгарачыўся дзед, выпіў конаўку халоднай вады, а цераз дзень і сканаў.

Паплакалі сыны, пахавалі бацьку і забыліся пра ягоную пагрозу. А як паўстаюць рана, дык хлявы парасчыняны, уся худоба сышла з двара. Тыдзень бегаюць, шукаюць, пакуль коні пазнаходзяць, кароў папрыганяюць, авечак дадому прывала́юць. Як толькі збяруць усё говяда ўместа, зноў тое самае. Пільнавалі яны, папа крапіць святою вадою кліка-

лі, а ніяк не могуць дазнацца, хто ім такую шкоду робіць.

Прыехаў аднаго разу да іх госць і застаўся начаваць. Выйшаў ён пад раніцу па патрэбе і бачыць: цягаецца па дварэ стары і выпускае з хлявоў усю жывёлу, ужо і ягонага каня ад воза адвязаў. Госць удумаў, што гэта злодзей, ды за каўнер. Стары вылузаўся, а госць яго цапнуў за шапку. Завыў стары і кажа: «Выскуб ты мне, падла, апошнія валасы. Адразу відаць, што чужы чалавек. Сыны гэтак бы не зрабілі. Скажы ім, што болей не прыйду».

Вярнуўся госць у хату, пабудзіў гаспадароў, паказвае ім шапку і жменьку выскубеных валасоў. Зірнулі сыны і пазналі: бацькава шапка, яго і валасы. На тым і скончылася...»

— Сухошчына, або Ласток. Туды бацьку перавялі з Акінчыц. Гэта кіламетраў дзесяць на поўдзень ад Мікалаўшчыны. Леснікова пасада — на адзіноце. Бліжэйшае паселішча — шляхецкі засценачак Сверанава. А так — пустое месца было. Пясчанае поле, і то малая лапінка, за полем — чорны яловы лес. Праезджая дарога далёка. Калі да нас прыходзіў хто-небудзь знаёмы ці сваякі з Мікалаўшчыны, дык заставаліся на некалькі дзён.

— У Ластку стаяла дзве хаты: новая і старая. У новай жыла наша сям'я, а ў старой мясціліся рабочыя, яны нарыхтоўвалі гонт. Гэтая хацінка была курная, сцены ўсе ў сажы, чорныя, задымленыя. Я няграматны быў яшчэ. Нехта з гантароў напісаў на закуранай бэльцы крэйдаю літару «Р». Гэты невядомы знак здаваўся мне вельмі прыгожым, і я ўсё забягаў у курную хату палюбавацца на літару. А бацька, чалавек невялікай адукацыі — мог распісацца, чытаў крыху па-руску і па-польску, нават разбіраў па пісанаму,— смяяўся: «Хто гэта вывеў такую каравулю?»

— Ад гэтага, мусіць, і пацягнула на грамату. Гантар Кірыла паказаў мне чамусьці не «а», пер-

шую літару, а адну з апошніх — «у». Відаць, і яму, як у вядомым анекдоце, гэтая літара лепей удавалася пры напісанні.

Некаторыя літары мне падабаліся больш. Я пытаўся ў тых, хто ўмеў чытаць, назвы літар і стараўся запомніць. Так умітуські завучыў увесь альфабэт, але чытанне паддавалася з вялікімі высілкамі.

— Многа часу праводзіў я на нашай дрывотні. Прыбяжыш туды, сядзеш на кругляках і слухаеш жаўранкаў. Думалася, яны спяваюць нешта зразумелае, не гэтак, як іншыя птушкі.

Была гарачая вясна. Раніца. Я адзін, сяджу на дрывотні, жмуруся на сонца, сілюся ўбачыць, дзе там высока лепіцца птушыны галасок. Раптам здалося — жаўранак просіць бога скінуць агонь на нашу сядзібу.

«Агню, агню-ю, агню-ю-ю-ю! Сюды, сюды-ы, сюды-ы-ы! На леснікоў двор-р-р!» — нібы так і вымаўляла птушка.

Мне ўявілася, што агонь сапраўды ўпаў з неба. Я агледзеўся наўкол. Бачу: віецца сіненькі дымок. Гэта затлеліся сухія трэскі ад кепска прыгашанага недакурка папяросы. А кінуў-то яго зусім не бог, а Сцяпан-гантар, спяшаючыся на снеданне.

— Па суседству з нашай сядзібай падняўся невялікі хвойнічак. Я хадзіў туды збіраць казлякі, сам, адзін. Аднойчы непрыкметна закруціўся паміж дрэў, апынуўся ў старым лесе і разгубіўся. Аднак неяк выбіўся на дарогу. Бягу, хоць і не ведаю, у які бок: да дому ці ад дому. Паабапал — сцяна лесу. Вусцішна. Раптам на дарогу выбег вялізны сабака. Я пасмялеў: значыць, недзе людзі блізка. Прытаіўся за дрэвам ды як кінуся на яго: «Агу-уў!» Сабака толькі клацнуў зубамі і павольна пасунуўся далей.

Дома растлумачылі, што гэта воўк. Як я разумею: гуманны воўк. Не захацеў займацца з блазнотаю. А нарвіся другі, не размаўляў бы ты зараз, браток, з Якубам Коласам.

— Моцныя былі ў тыя часы навальніцы. Асабліва адна. Яна збіралася яшчэ надвечар. Надымалася хмара. За Свераноўскім полем бліскала. Потым ударыў густы, цяжкі гром. Стала страшна, радасна, чамусьці прыемна.

Нас пазаганялі ў хату. Я прыліп носам да шыбіны і ўсё слухаў, як усходжваецца вецер. Потым выкраўся да дзвярэй і выскачыў з хаты. Пабег у садок і сабраў ігруш, поўную пазуху! Многа іх наабівала ветрам.

І тут рэзнула маланка. Вось маланка, дык маланка! Як трайчатка-сахор на тры зубы! Тры вялізныя пальцы ў яе было, і з саменькіх канцоў іскры сыплюцца.

— З ігрушамі была яшчэ адна фацэція. Помніш мае «Грушы-сапяжанкі»? Гэтак амаль і адбывалася са мною і з братам Алесем. На ласткоўскай сядзібе расло некалькі ігруш. Мы з Алесем пасвілі авечкі недалёка ад хаты. Дзядзька Пятрусь гупаў цэпам у гумне. Алесь падвучыў мяне, і я палез у ігрушы. Дзядзька згледзеў, давялося ўцякаць.

Мы з авечкамі адагналіся далей ад дому, каб паказаць, што нас блізка няма. Цяпер цішком падаўся на раздабыткі Алесь. Узлез на ігрушу, налупіў запазуху, а тут — дзядзька! Алесь — наўцёкі, дзядзька за ім. Пакуль Алесь бег, усе ігрушы пагубляў. Так мы і не паласаваліся. А дзядзькі доўга пасмейваліся: «А што, смачныя ігрушкі?»

— Другі раз, пад восень, гэтаксама былі мы з Алесем каля авечак. Захацелі накласці агню. Нацягалі з лесу ламачча. Алесь кажа: «Прынясі жару!» Я пабег у хату, выграб з ямкі гарачага вуголля і згарнуў у анучку. Так і панёс.

Дарогаю падзьмуў на вугалі вецер, узялася агнём мая анучка. Я моцна папёк пальцы і ў злосці ўсялякімі словамі аблаяў бога. Пасля цэлы тыдзень хадзіў угнуўшы галаву, каяўся, баяўся божай кары.

— Выхоўвалі нас у паслушэнстве і павазе да бога. Як толькі я навучыўся гаварыць, бацька паста-

віў мяне на калені перад абразамі і загадаў: «Кажы пацеры». Нас усё страшылі грахом. Куды ні ступі — грэх. Сеў есці не перахрысціўшыся — саграшыў, не памаліўся, кладучыся спаць,— таксама.

Асабліва строга прытрымліваліся ў сям'і пастоў. Тут ужо не выкруцішся, апрача бульбы з алеем ды капусты з грыбамі за ўвесь перадвелікодны час, калі царква загадвае пасціць, нічога ў вочы не пабачыш. Толькі каму хвораму маці давала часамі трохі малака.

Нас пужалі абразамі: багі глядзяць на хату і ўсё бачаць; калі правінішся, адразу ж пакараюць. Так цвёрда і верылі мы ва ўсё гэта, пакуль бацька сам не пахіснуў нашу веру.

Вярнуўшыся з абходу пад чаркаю, ён сядзеў на лаве на покуці і расказваў смешныя здарэнні.

«Стаялі салдаты ў адной вёсцы. Кватаравалі яны па хатах. А быў якраз вялікі пост. Садзіцца салдат снедаць і патрабуе ў гаспадыні даць яму сала. Маладзіца прынесла і кажа: «Што ты? Зараз няможна ўжываць скаромнае». «Хто табе наплёў, цётка?» смяецца салдат і яшчэ смачней заядае сала з хлебам. «От пабачыш, як пойдзеш у царкву, дык на цябе будуць усе святыя глядзець».

Салдат не звярнуў увагі на яе словы, а як прыйшла нядзелька, падаўся ў царкву. Праціснуўся да іканастаса, зірнуў, а яму проста ў вочы ўтарошыўся святы Юрай. Салдат глянуў у другі бок, а з абраза пранізвае яго позірк святога Пятра. Вядома, яны не ажылі, гэта ўсе абразы так намалёваны, як быццам глядзяць табе ў сэрца. Спалохаўся салдат, што святыя дазналіся пра яго грэх, і пачаў выбірацца на паветра. Адступаецца задам і ўсё сябе кулаком у грудзі стукае: «Дальбог, не еў! Даю слова — не еў!» А святыя, здаецца яму, не спускаюць вачэй, пазіраюць усё вастрэй і пагрозлівей.

Адступаўся, адступаўся салдат, калоцячы сябе ў грудзі, зачапіўся за парог ды як грымнецца на падлогу! Усхапіўся ён, вылаяўся на чым свет стаіць і гукнуў: «Еў не еў, а штурхаць рускага салдата нікому не дазволю!» Пагразіў кулаком ва ўсе бакі — і дадому. Парахвіянцы думалі, што салдата зараз

громам заб'е, а ён і не лыс. Жор сабе сала і толькі гладчэйшы рабіўся...»

Скончыў бацька і рагоча, а маціківае галавою: «Вярзеш абы-што, малыя ж слухаюць».

З таго часу мы пасмялелі, і калі трапляўся кавалак скораму, з'ядалі яго і ў пост. Аднак пільнавáліся і зашываліся пры гэтым у такі куток хаты, куды не магло сягнуць вока якога-небудзь святога.

— Запомнілася мне і яшчэ адно бацькава апавяданне. Яно павінна было пераканаць нас, што ў нядзелю нельга ні шыць, ні сеч, наогул нічога рабіць.

Некалі нядзеля была жывая і хадзіла па зямлі. Сустрэлі яе аднойчы людзі і жахнуліся: яна была ўся ў крыві і ў струпах, пасечаная, паколатая, панівечаная. «Што з табою, святая нядзелька?» — пытаюцца сустрэчныя. «А гэта вы самі вінаваты,— адказвае нядзеля,— не шануеце мяне, не хочаце святкаваць, і ў мяне ад вашых нажоў і шылляў на целе знакі застаюцца. Калі будзеце і далей гэтак рабіць, дык я хутка памру. А вы страціце адзіны вольны дзень».

Застыдаліся людзі, стала ім шкада беднай нядзелі, і пачалі высцерагацца ад работы.

— Вось як мне ўяўляліся тады дні тыдня.

Нядзеля — поўная шпулька белых нітак. Гэта, відаць, таму, што маці ў гэты дзень не бралася за шытво і не адрывала нітак, а застаўляла сваю скрыначку з голкамі, гузікамі і шпулькамі высока на паліцу.

Панядзелак — такая самая шпулька, але без нітак.

Гэта ўяўленне таксама можна растлумачыць. Пустыя шпулькі звычайна аддаваліся мне, я качаў іх па падлозе або разразаў, надзяваў на дубчык кольцы і майстраваў нешта накшталт цялежкі. Найчасцей шпулькі траплялі да мяне пасля нядзелі, калі маці бралася за шытво, перастаўляла сваю скрыначку з паліцы на лаву.

Аўторак — на гліняным белым кубку сіняя пляма — фабрычная марка.

Мы пасцілі не толькі ў пятроўку ці ў ціліпаўку, а і кожную сераду і пятніцу. Такім чынам, аўторак быў перадпосным днём. Маці ўвечары прыносіла з прыгрэбкі вялікую гладышку малака і налівала нам. Асабліва смачна пілося малако з белага кубка, адзінай крамнай пасудзіны ў нашай хаце.

Серада — драўлянае біла на ложку (з клапамі ў шчылінах).

Каб уся работа не спіралася на суботу, маці пачынала апратваць хату з палавіны тыдня. Выносіла на двор пасцельныя бэбахі і, пакуль яны ветралі на плоце, грэла ваду і залівала кіпнем ложкі. Такі малюнак жыве ў маёй памяці.

Але нехта з братоў, ці не Уладзя, пярэчыць, кажа, што ласткоўская хата была чыстая, без гэтых непажаданых жыхароў. Калі гэта праўда, не ведаю, чым падмацаваць сваё ўяўленне. Можа, бачыў я такое выпарванне ў чыёй другой хаце. Можа, дзе ў іншым месцы заўважыўся нячысты ложак з клапамі ўсярэдзіне. А па гукавым падабенстве слова «сярэдзіна» я пачаў звязваць з серадою. Пойдзем далей.

Чацвер — адвёртка з ручкаю.

У бацькі была добрая паляўнічая стрэльба, а ў дзядзькі Антося зусім благенькая. Ён заўсёды корпаўся з ёю: то курок туга ходзіць, то якая другая прычына. Стрэльба гэтая моцна рвала і тузала, і звычайна пасля палявання ў дзядзькі пабольвала плячо і адна шчака была падышоўшы, як пампушка. Аднак яму ўдавалася тое-сёе ўпаляваць, вельмі метка страляў.

Гэта здольнасць, мусіць, перадалася і Міхаську. ён жа прыроджаны лесавік і паляўнічы. Можа, гэтаму майму сыну трэба было выбіраць не інжынерскую, а якую лясную спецыяльнасць.

Дык вось, паляўнічым днём у дзядзькі лічылася пятніца, а напярэдадні ўвечары рабілася генеральная праверка і падрыхтоўка стрэльбы: чыстка, разборка. Мы не адступаліся ад майстра і, вядома, заміналі яму. Тады дзядзька браўся за адвёртку і наstaўляў каму-небудзь у жывот: «От я зараз падкручу

табе пуп, каб добра страляў увесь тыдзень, ад чацвярга да чацвярга».

Пятніца ўяўлялася як прыкла́д паляўнічай стрэльбы.

Неяк дзядзьку асабліва пашчасλіла на паляванні: ён прынёс некалькі птушак. Глушцоў або цецерукоў, не ведаю, адно помню — вялікіх. Кінуў здабычу ў парозе і сеў абціраць стрэльбу. Адна птушка страпянулася, пачала біцца, відаць, была недастрэленая, і паспрабавала ўзляцець перад сконам.

Дзядзька падняў яе за крылы і ўдарыў галоўкаю аб прыклад. Птушка абмякла і дайшла. Я кінуўся да дзядзькі з кулакамі, закрычаў, заплакаў: «Ты гэтак можаш і нашага пеўня забіць! Ты сабе страляй у птушкі, але не бі іх галавою».

Бацька нахмурыўся і паказаў рукою на папружку. Я сціх, але канчаткова супакоіўся, калі дзядзька некаму занёс ці прадаў дзічыну, бо быў вялікі пост ды яшчэ пятніца, і мяса мы не елі.

Нарэшце — субота. Гэты дзень я ўяўляў як верхні абрэз халяў у мужчынскіх ботах. У суботу ўсюды крыху раней канчалася праца. Каб чалавек паспеў схадзіць у лазню, змыць грахі, што назбіраліся за тыдзень, і, чысценькі, кіраваўся ў царкву, на вячэрню.

Ну, зразумела, не аб людскім адпачынку думалі ўстаноўшчыкі такіх парадкаў. Дбалі, каб у царкву болей хадзілі. У горадзе для чыноўнікаў і рабочых гэта было ўстаноўлена афіцыйна, а ў вёсках трымаліся звычаю ад страху перад богам. Вечар перад нядзеляю лічыўся святым, і нават калі ў царкву не хадзілі, дык маліліся дома і нічога не рабілі. Так вялося і ў яўрэяў: суботняе свята пачыналася, як, гаварылі, «заходзіў шабас», у пятніцу, на захадзе сонца.

А ў нашай сям'і дзядзька сыскваўся дадому хутка пасля паўдня, нават бацька раней пакідаў лес, спадзеючыся, што ў свята ні ў кога не падымецца рука на крадзеж. Мужчыны мыліся, змянялі бялізну, надзявалі чысцейшыя порткі і камізэлькі, а потым браліся глянцаваць боты. Гэта ўжо быў той настрой, у якім заўтра ехалі на кірмаш ці ішлі на пабажэнства.

Даставаў наш дзядзька свае заслужаныя боты з юхтовымі халявамі і гамбургскімі перадамі. Усё адны і тыя ж служылі яму на працягу многіх год. Не таму, што былі моцныя, а проста насіліся на кійку за плячыма, як кажа стары жарт. Але як старанна ні начышчаў іх Антось, зверху халяў заставалася крыху рудаватая палоска.

Адтуль і пайшло маё ўяўленне аб субоце.

— Мне не раз даводзілася чуць як старэйшыя кпяць з папа ці дзяка. Якія гэта божыя слугі, калі і на гарэлку ласыя, а галоўнае — бяруць грошы за хрэсьбіны ці за вянец або цягаюцца з мяхамі па калядзе. Аднак, поруч з гэтым здаровым, сялянскім адпіхваннем ад вонкавага боку рэлігіі, вера ў існаванне вышэйшай сілы заставалася непахіснай. Я пераказваў табе бацькава апавяданне пра салдата. Выходзіла так, што бацька пакідаў права сумнявацца толькі сабе. Дзеці раслі ў страху божым.

Дзядзька Антось быў самы сапраўдны пантэіст. На абразы хрысціцца то ён хрысціўся, але маліўся ў лесе або ў полі, кажучы, што бог ёсць усюды. Калі згледзіш, што дзядзька ідзе лясною сцежкаю ці панадворкам і варушыць губамі, лепей не руш яго. Гэта значыць, богу моліцца.

Паспрабаваў гэтак і я за ім следам замяніць выстойванне перад абразамі праходачкай па двары і па хаце. Хадзіў і толькі цёпкаў губамі, вядома, не гаворачы слоў малітвы.

На гэтым і злавіў мяне бацька: «Чаму ты не становішся на малітву?» — «А я памаліўся»,— кажу. «Калі гэта ты паспеў?» — «Ходзячы, так як дзядзька Антось».— «Не, брат,— сказаў бацька і за вуха павёў мяне пад абразы: — Маліся як след». Я ўпіраўся, спасылаючыся на дзядзькавы словы, што бог прымае маленне ўсюды. «Усюды-то ўсюды,— згадзіўся бацька,— але не ад усіх, асабліва ад смаркатых». І паставіў мяне на калені: «Маліся і не выдумляй!»

— У Ластку жыў з намі дзядзька майго бацькі, мой стрыечны дзед. Вельмі стары, хваравіты і злос-

ны. Ён кульгаў на адну нагу. Калі я назаляў дзеду, ён браўся за дзягу і ўшчуваў.

Маці, выходзячы з двара ці выбіраючыся на поле, часта прасіла дзеда паглядзець мяне. Ён глядзеў, есці даваў, але ці вуха закруціць, ці плескача ўгрэе. «Паплач, здаравейшы будзеш». Каб дапячы дзеду, я палез на прыпечак, выпацкаў рукі ў сажу і ўмыўся імі: «Паглядзі, які я харошы!» Дзед кінуўся за мною з кульбаю, але не дагнаў. Увечар ён паскардзіўся маці, а тая выцягнула мяне з-пад лавы і, па сваім прызвычаенні, адсцёбала нейкім паўразом.

Нашу дзіцячую веру ў бога парушала яшчэ і дзедава маленне. Нас вучылі, што малітвы трэба казаць дакладна, слова ў слова, іначай моцна саграшыш. А дзед, хоць і маліўся колькі разоў на дзень, але словы страшэнна перакручваў і кары ніякай за гэта не меў. Часамі ён проста выдумляў свае ўласныя модлы, у якіх ад царкоўна-славянскай мовы не заставалася і знаку. Атрымлівалася ў яго замест «Цару нябесны, уцёшыцелю, душэ ісціны» нешта больш для яго зразумелае: «Царуня брэсцкі, уцеш цяля дужа лысае».

Дзед моліцца, а дзядзька Антось са смеху кладзецца, але стрымліваецца перад намі, зробіцца ўвесь чырвоны, адвернецца ў парог і робіць выгляд, што закашляўся.

Мне дзедавы малітвы падабаліся куды больш за царкоўныя. Але аднойчы, калі я прачытаў на дзедаў узор «Отча наш», бацька паставіў у кут, да сцяны носам. А выходзіла хараша: «Войча наш, бацька ваш, на небе стаў, чарцей у пекла сапхаў, нам сон паслаў. Кладуся спаць, дай божа ўстаць. Станьце пры мне, анёлы мае, што вам, тое і мне».

Паўтараючы ўсё за дзедам, мусіць, я чуў асалоду ад таго, як слова прыкладаецца да слова па сугучнасці.

— Калі дзед памёр, дзядзька Антось адчыніў юшку, каб, паводле народнага забабону, «душа выходзіла». Я сеў каля нябожчыка і кажу: «Ага! А цяпер за вуха не пацягнеш!»

Потым, калі мяне ўстыдзілі, растлумачылі, што дзеда занясуць на магілкі і ён ніколі не прыйдзе ў хату, я тужыў і гараваў.

— А вось яшчэ ўспамін з ласткоўскіх ча́саў. Бацька прыйшоў з Мікалаўшчыны і расказваў тамтэйшыя навіны: хто памёр, у каго былі хрэсьбіны, хто добрую дзеўку ўзяў замуж.

Гэты «замуж» мне ўявіўся так: хлопец бярэ дзяўчыну за вуха і цягне да сябе ў хату.

Наслухаўшыся навін, я ўзлез бацьку на калені і запытаў:

— Тата, а як гэта жэняцца?

Бацька вышмаргнуў з веніка розачку, задраў мне кашулю і жыгнуў:

— Вось так! Вось так! А вось як!

Другі раз я паспрабаваў падысці да гэтай справы хітрэй:

— Тата! А я ведаю, нашто жэняцца...

— Ну?

— Дзеці рабіць.

Бацька, нічога не гаворачы, выгнаў мяне за дзверы.

— Было аднойчы, што я замалым богу душы не аддаў. Спраўлялі ў Ластку дажынкі. Гуляла наша сям'я, сваякі папрыходзілі са сваім прыпасам.

Чарка ішла наўкруга. Падышла чарга піць дзядзьку Петрусю. Я круціўся ў яго за плячыма на лаве, вось дзядзька і надумаўся: «На, лыкні!» Я ўгібаў абедзвюма рукамі чарку і амаль апаражніў яе. Апякло ў роце, я скрывіўся, мерачыся пусціць слязу, а ўсе пачалі падхвальваць: «Глядзі, як жлукціць! Добры ваяка!»

Я падбадзёрыўся і, сп'янеўшы, давай танцаваць на лаве. Не разлічыў кроку, ці можа ў бакі павяло, і скінуўся далоў. А калі ляцеў, пабіў галаву аб столак.

І цяпер яшчэ знак ёсць: над левым вокам, вышэй брыва. От, можна памацаць.

— Хлопцы мы былі смелыя. Цягаліся па лесе, заходзілі далёка ад сядзібы. Толькі як ахамянешся ў незнаёмым месцы, дзе-небудзь на лясной баравіне, дык націскаеш на ногі. Прыпускаешся бегчы, адно пяты мільгаюць.

А вось раз быў мне вялікі страх. Сядзім мы з Алесем каля кастра. Пяклі бульбу ці грыбы смажылі на вугельчыках, зашыўшыся ў гушчар, каб ад хаты дыму не заўважылі. Неўзаметку сцямнела. А тут з лесу ягня як забляе! Кінулі мы агонь і, не чуючы ног,— у хату. А чаго спалохаліся?

Нам расказвалі, што чорт найчасцей з'яўляецца ў выглядзе барана і мэкае авечым голасам. Відаць, нехта ехаў там лясною дарогаю і вёз авечку з ягнём. А можа баранчык абазваўся з балота.

Ведаеш, што гэта за птушка? Баранчык — бакасова мянушка.

# КАНЕЦ МАЛЕНСТВА

*Пераезд у Альбу́ць. Костусь корміць дзедаву душу. Тэпця і яе хата. Народная медыцына. Думкі пра навуку. Сакольнік і яго жонкі. Япрук пад венікам. Школа і Яська. Госці з дзіцячага дома. Чуласць да людзей. Малы Якуб. Пушкін на пасце, і Крылоў на лоўлі рыбы. Перад далейшай дарогаю.*



— Маленства маё скончылася з пераездам у Альбу́ць. Пярэбары туды навіслі над нашай хатай як вялікая бяда. Гэта было ўжо трэцяе месца, куды пераводзілі бацьку. Значыць, наноў абжывайся, пачынай усё ў гаспадарцы з самага пачатку.

Што паслужыла прычынай пераводу? Хутчэй за ўсё бацькава стараннасць. Ён быў акураціст і наўрад ці правініўся, каб заслужыць кару. Бацька, апрача службовых абавязкаў, догляду лесу, сенажацей, заўсёды выконваў розныя даручэнні аб'ездчыка, а то і самога ляснічага. Рыбу лавіў для панскага стала, асочваў берлагі мядзведжыя, ласіныя жыроўкі, перад тым як паны прыязджалі на паляванне.

Кляў ён тады і сваю долю і панскую волю, але ўсё, што загадвалі, нязменна выконваў. Пайсці на рыбу — значыць кінуць без нагляду лес, а нехта адразу скмеціць, што ляснік на Нёмане боўтаецца, і дасць волю сякеры. У такіх выпадках дзядзька Антось ішоў на абход лясных кварталаў, каб каля справы сваё вока было.

Так думаецца: перавялі бацьку, бо яго папярэднік не мог усяго дапільнаваць. Альбу́ць — байчэйшае месца, больш неспакойнае. Недалёка Мікалаўшчына — вёска вялікая, на некалькі вуліц, як мястэчка, вялікая і галодная. Людзі лічылі, што няма чаго цырымоніцца з панскімі выгодамі: «У Радзівіла зямлі хапае, лесу яшчэ больш, а ў нас няма».

Мужыкі не вельмі клапаціліся, каб не падвесці пад абух лесніка. Секлі дрэвы, травілі лугі. У Ластку бацьку было зацішней. Незадаволены быў і дзядзька Антось. Здаецца, і зараз чую, як ён бурчыць: «За сваё стаPанне маеш папіханне».

Больш за ўсё турбавала дзядзьку тое, што на новым месцы была няўробленая, недагледжаная зямля. Леснікам не хапала часу займацца гаспадаркай, не меў яго бацька, як і яго альбу́цкі папярэднік. Усё ж і на кепска ўзвернутым разлогу або на паднятых бабскай і дзіцячай сілаю ля́дах леснікі збіралі са сваіх дзялянак дабраватыя ўраджаі. У такім кірунку і вёў мой бацька размову з Антосем.

«Не гаруй,— казаў ён,— ты толькі вокам кінеш, а калі пальцам кіўнеш, тая зямля працу акупіць».

«Ага,— не здаваўся дзядзька,— а на гэты ўчастак колькі сілы ўтрубілі! І пакідай цяпер чорту лысаму».

«Абжывёмся, і там тое самае будзе,— суцяшаў бацька».

Аднак і сам не мог саўладаць з падступаўшай пад сэрца гаркотай: чалавек не належаў сам сабе. Кожную часіну маглі падняць, перакінуць, а то і зусім пазбавіць хлеба і даху.

Гэтыя пярэбары, відаць, і з'явіліся тым рашучым пунктам для нашай сям'і, калі мужчыны гатовы былі вылузацца са скуры, каб толькі жыць на ўласнай зямлі.

Пераходзіла гэта імкненне і на нашы дзіцячыя душы, але наўрад ці свядома. Пераезду ў Альбу́ць мы, дзеці, былі рады і хадзілі ўподскакі. Новае месца, блізка школа, будзе большая кампанія, стане весялей.

— Нібы ідучы насустрач нам, а можа, каб хутчэй адхінуць маці і Антося ад жалю і смутных разваг, а яшчэ пэўней — таму, што тэрмін для пераезду быў вызначаны кароткі, бацька не марудзіў. Неўзабаве на нашым двары стаялі запрэжаныя фурманкі з хатнім дабром. Мужчыны, як і водзіцца на ад'ездзе, крыху выпілі, забыліся на сваю бяду і пабадзёралі ці хацелі здавацца бадзёрымі.

Калі коні рушылі з месца, маці забегла апошні раз у хату і схавала нешта на покуці. Я падгледзеў

гэта і цікаваў, каб як астацца ад воза і забраць схаванае. Мне ўсё здавалася, што там пакінуты грошы. Ажно гэта быў кавалак хлеба з соллю. Каб душы памёршых сваякоў мелі што пад'есці, пакуль не з'явяцца новыя гаспадары. Да таго часу душы не маглі пераляцець на нашу новую сядзібу. Так мне потым растлумачыла сама маці ў Альбуці.

«І дзедава душа будзе лётаць сюды карміцца?» запытаў я.

«Будзе, сынок».

Я паверыў і пры вячэры адкладаў пасоленую лустачку на спажыву дзеду. Так мне хацелася хоць трохі перапрасіць дзеда за тое, што пры жыцці я не слухаў яго і дражніўся з ім.

Хлеб, вядома, заставаўся некранутым і ветраў пад страхою, аж пакуль не высыхаў на сухар.

Нейкая галодная душа — мыш ці верабейчык — аднойчы забрала пакладзены мною асушак. Аб гэтым я ў той жа момант паведаміў маці.

«А ў нас сягоння дзед быў!», сказаў я з таямнічым выглядам.

«Ці ж ты яго бачыў?»

Я расказаў, што адбылося. Маці пасміхнулася.

«Праўда, мама».

«Можа і праўда», сказала яна.

Падпільнаваць, калі дзед з'явіцца па хлеб, падахвоціліся яшчэ Алесь і Уладзя. Але, вядома, засыналі, і мы вельмі смуціліся, папракаючы заспаўшага вартаўніка, калі выпадкам не знаходзілі хлеба на месцы.

Летам мы клалі скарыначкі пад страху, а ўзімку каля сенечных дзвярэй за касяк. Там і ўдалося мне аднойчы ўбачыць здаравенны пацучыны хвост. Я прыціснуў яго палачкаю, пацук піснуў і, высадзіўшы са шчыліны галаву, кінуўся наўцёкі. Ці то гэты піск здаўся мне падобным да дзедавага голасу, ці можа вочка тое напамянула зласнаваты позірк старога, адным чынам, я траха не самлеў ад страху. Затое ўсю зіму расказваў, палохаючы меншых дзяцей, што бачыў дзеда.

Класці хлеб нам болей не дазволілі, дый я сам не рызыкнуў бы зрабіць гэта.

— Альбу́цкая хата сапраўды была благая. З дзіравай страхою, апушчаная, нейкая падслепаватая. Выглядала яна, як бабулька, што стаіць, успёршыся на кіёк. Многа сілы палажыў дзядзька Антось, каб давесці яе да ладу. Пасля ўзяўся за панадворак, абгарадзіў усю сядзібу.

А тут наша хата ўзяла дый згарэла. Пажар гэты я добра помню, бо я адзін быў пры маці і нічога людскага выхапіць з агню мы не змаглі. Перабраліся ў зямлянку і жылі ў ёй, пакуль не ўлезлі ў новую хату. А будавалі яе за сабачыя грошы.

Двое сабачак у нас было: Га́лас, рыжы самаадданы дварняк, і Тэпця, малая, крываногая, у рудых акулярах, сучачка. Такса, відаць. Яна лоўка знаходзіла норы. За шкуркі тхароў і парыц, якіх павыпорвала Тэпця, і была пабудавана новая хата. Дзядзька Антось так і казаў: «Тэпціна хата».

Тэпця па кожную дзічыну давала асобны голас. Асабліва злосна і неяк прарэзліва тонка брахала, пакалоўшы морду аб вожыка, і аж канчалася, унюхаўшы вужа або гадзюку. Счуўшы адчайны брэх свае напарніцы, Галас ляцеў як страла і, злаўчыўшыся, разрываў гадзіну напалам. Здаралася, гады кусалі нашу Тэпцю. Колькі разоў мы ўжо думалі: здохне. Прыйдзе ў двор апухшая, тоўстая, як мех з сечкаю. Павішчыць, павішчыць і сыдзе з дому.

Гэта ў жывёл звычка такая: паміраць наводшыбе, каб не загнюшваць свайго лагва. Так гаварыў дзядзька Антось, і мы ўжо дзесяць разоў аплаквалі разумную жывёліну. А глядзіш — дзён праз тры вяртаецца. Худая, але вясёлая.

«Дзе ты была, Тэпцечка?» абступаем мы яе, несучы падмацунку.

А яна стаіць, віляе хвосцікам, ежы не бярэ, хоць сліна капае ад галадоўлі, і тонка-тонка павісквае.

Дзядзька Антось смяецца і аж вочы жмурыць ад радасці, што вярнулася яго спадарожніца ў паляванні.

«Гэта яна,— кажа,— у Вільню ездзіла, да сабачага прафесара».

А Галас клаўся насупраць Тэпці: галаву на лапы, гаўкае раз-поразу і падсоўваецца на чэраве бліжэй, перабіраючы лапамі, каб яе зачапіць. Калі ўрэ-

шце Тэпця звяртала ўвагу на такія манеўры і падбягала, каб лізнуць яго ў нос або лёгенька скубянуць за вуха, Галас, усхватваўся і пачынаў з брэхам лётаць наўкол нас, а пасля, забіраючы ўсё большыя кругі, і наўкол сядзібы.

Вось якая дружба бывае. Мне не часта здаралася бачыць, каб людзі гэтак радаваліся ад сустрэчы. Дзядзька гаварыў, што Тэпця сама сябе лячыла. Травою. А ты заўважаў, як сабакі траву ядуць?

Канстанцін Міхайлавіч, не даслухаўшы майго адказу, працягваў:

— Гэта яны робяць, калі ўпэўнены, што ніхто не назірае. Падыдзеш, бывала, бліжэй, каб лепш тую травіцу разгледзець, а Тэпця хвосцікам віль-віль і адбяжыцца. Адвядзе ад свайго лякарства.

— І вось дарэчы: пра народную медыцыну. У той час, пра які мы с табою гавэнды гавэндзім, не было тае хаты, каб не вёўся ў ёй свой запас лекаў. Крываўнік — ад жывата, ліпавы цвет — ад прастуды, тапалёвыя пупышкі — ад кашлю, і наогул іх, запарыўшы ці настаяўшы па гарэлцы, людзі слабыя на грудзі пілі дый раны залівалі такою настойкаю. Гатункаў дзесяць сухіх зёлак кожная гаспадыня трымала ў каморцы, пазвязваўшы ў пучкі ці папакаваўшы ў торбачкі. Ты чаго смяешся, Гарадзецкага ўспомніў, ці што?

С. М. Гарадзецкі сапраўды заядла прапагандаваў лячэнне травамі. Пры кожнай сустрэчы ён прапаноўваў Канстанціну Міхайлавічу новы сродак: то кмен, але абавязкова верасnёўскага збору, то корань аеру як найлепшы дэзінфектар і танізатар і багата чаго іншага. Варта толькі было абазвацца, што ты па нешта хворы, як Сяргей Мітрафанавіч называў сродак і прозвішча чалавека, каму гэта памагло.

Колас ставіўся да парад свайго даўняга сябра даволі скептычна, але травы купляў, хоць пакецікі з імі заставаліся нярушаныя.

— А ты паспрабуй сваімі сродкамі палячыцца,— дабрадушліва параіў ён Гарадзецкаму, калі той аднойчы жаліўся на нездароўе.

— Я запісаўся да...— Гарадзецкі назваў прозві-

шча віднага маскоўскага сардэчніка.— А потым пайду да...— тут было названа не меншае гамеапатычнае свяціла.

Колас не мог схаваць усмешкі. Пабачыўшы гэта, Сяргей Мітрафанавіч паправіўся:

— Дактары самі сябе не лечаць. Гэта закон. Так і я...

Канстанцін Міхайлавіч часта прыгадваў гэты выпадак і зараз меркаваў, што тое самае ўспомніў і я. Давялося тлумачыць:

— Вы, дзядзька Якуб, смешны зварот ужылі: гавэнды гавэндзіць.

— А гэтак шляхту дражнілі. Правільней сказаць, беларусаў каталіцкай веры, якія праз гэта лічылі сябе палякамі. Цэлы тыдзень працуе такі шэршань поруч з так званымі мужыкамі, гной разбівае ці снапы возіць. І гаворыць, і лаецца чыста па-беларуску. А ў нядзелю, выбіраючыся ў касцёл, раптам пачынае, як у нас казалі, польшчыць: устаўляе ў гаворку пятае ці дзесятае польскае слова, дый то перакручанае. І, заходзячы ў хату, не дасць «дзень добры», а абавязкова «пахвалёны езус» ляпне.

Сыдуцца два такія недапанкі і пачынаюць:

«Як пан здровы?»

«Ніц собе, але спіна баліць».

А сяляне смяюцца, кажуць:

«О, ужо распачалі гавэнды гавэндзіць».

І дражняць шляхцюкоў, гудучы праз зубы: б-з-з-з-з!

Канстанцін Міхайлавіч вельмі падобна паказаў, як бзыкаюць шэршні. Потым растлумачыў, адкуль узялася мянушка:

— Шляхта сялілася невялікімі пасёлкамі, засценкамі, далей ад мужыцкіх вёсак. Так, як шэршні гнёзды вілі. У гаворцы больш шыпячых ужывалі. Дый такі куслівыя яны былі, фанабэрыстыя.

Раскажу адзін выпадак, толькі, мажа, запісваць не трэба. Не вельмі прыстойна. Прыехаў да гэткага шэршня ксёндз. Гаспадар водзіць яго па сядзібе, дабро паказвае і за кожным крокам брыдкімі словамі лаецца. Ксёндз скрывіўся і зрабіў заўвагу:

«Ты, каханы, жывеш заможна, але бардзо груба мувіш».

Гаспадар папрасіў прабачэння і сказаў:
«Ну, то я паклічу брата, ён ценька мувіць».
І гукнуў:
«Іван! Ідзі сюды, цябе ксёндз хоча бачыць».
Тады аднекуль здалёк абазваўся тонкі прарэзлівы голас:
«А ідзі ты к нябожай мацеры з сваім ксяндзом! Няхай ён перагнецца ды пацалуе сам сабе і табе, калі мае ахвоту...»
Канстанцін Міхайлавіч ледзь прыкметна ўсміхаецца:
— От табе і шляхецкая далікатнасць!
— Выбачайце, дзядзька Якуб, перабіў вашу думку,— кажу я, хочучы дазнацца, да чаго ён кіраваў размову спачатку.
Адчыняюцца дзверы. Прыйшла дзяўчына, сакратарка з Акадэміі навук. Заўтра пасяджэнне прэзідыума. Канстанцін Міхайлавіч праглядае парадак дня.
— Восем пытанняў! — уздыхае ён.— Калі перастане балець галава, прыйду.
Мы застаёмся сам-насам. Канстанцін Міхайлавіч зноў бярэцца за прынесеную паперу.
— Вось глядзі: даклад Інстытута торфу, далей — меліярацыі... І так кожны тыдзень. Ніяк не магу нікому ўтлумачыць, што нашы тарфянікі павінны перабрацца непасрэдна на тарфянішчы, а меліяратары — на балоты. Там працаваць і зрэдку рабіць даклады...
А мы ўсё цікуем так, каб саймаваць у чатырох сценах ды яшчэ і дзверы шчыльней зачыніць. Ці не мінуліся тыя часы, калі навука пад шкляным каўпаком сядзела? Так жа і задыхнуцца нядоўга.
Ну, добра: даложаць, што зроблена, вынайдзена, намечана тое і тое. А як прыстасавана да практыкі? І ці знойдуць ужытак тыя вынаходкі? З гэтага ж трэба пачынаць, а не ператвараць пасяджэнне ў бой паміж двума або трыма дырэктарамі за павелічэнне колькасці штатных адзінак.
Ці хапае ж работы тым, што лічацца ў штаце? А можа не набіраць новых, а скарачаць трэба? Сядзіць, скажам, у аддзеле пяць асоб. Двое працуюць, двое іх папраўляюць, адзін правярае. Дык ці нельга

пакінуць толькі дваіх, набавіўшы ім па палавіне акладу?

Даю табе слова — управяцца, самі сябе праверáць і паправяць. А колькі сродкаў, памяшканняў вызваліцца! Колькі паперы, чарніла, камандзіровачных зберажэцца. Можа рабочы на заводзе выконваць норму на 150 %? Можа. А што, навуковы работнік, лабарант, канцылярыст хвор зрабіць гэта?

І чым толькі ні займаюцца людзі? Усім, апрача карыснага і цікавага для краіны. Глянеш збоку: магутны які-небудзь інстытут, шыльда на паўсцяны. Шыльда, дый не маленькая, на кожным работніку: акадэмікі, дактары навук, кандыдаты, старшыя і малодшыя навуковыя супрацоўнікі. Адна хіба старожка не мае ступені. Дый яе, каб павялічыць зарплату, могуць іменаваць: кандыдат падмятальных навук Алена Цімафееўна Дзяркач.

І што робіць уся гэтая махіна? Гадавая справаздача: наш інстытут правёў неабходны для народнай гаспадаркі дослед: які прыплод дае за лета пара камароў. Дослед вёўся ў трох кірунках: а) у натуральных умовах; б) ва ўмовах павышанага жыўлення; в) ва ўмовах ніжэй аптымальных.

Гэта табе даложаць з самым сур'ёзным тварам і не пасаромеюцца папрасіць дадатковы мільён народных грошай на пашырэнне тых самых даследаў.

Да захаплення так званай чыстай навукай гэтую лухту не залічыш. Значыць, простая драбната думкі, раздзіманне мухі да слана ад няўмення, ад няведання — за што ўхапіцца, што трэба сёння рабіць навуцы. Тут ужо нельга быць літасцівым. Не ведаеш, не ўмееш — злазь з крэсла, вызваляй месца здольнаму і таленавітаму.

Бяда адна: занадта многа псеўдааўтарытэтаў, псеўдавучоных, псеўдапісьменнікаў, псеўдадзеячаў. Крані аднаго — цэлы рой цябе абсядзе. Але ж знойдзецца на іх рада і ўправа. На гэта ўжо сам час пакіруе, характар ладу нашага не трывае дармаедства і марнатраўства.

Канстанцін Міхайлавіч памаўчаў.

— Хацелася, каб хутчэй. Мала ў мяне часу застаецца, баюся, што не ўбачу. Праўду кажу, ці табе здаецца — проста бурчыць стары дзядзька Якуб?

Не спыняючы гаворкі, апрануў пінжак.

— Баліць галава. Можа праедзеш са мною за Уручча? Там лясок добры, паходзім. Калі знойдзем рыжка, можна будзе ў Балачанку падацца, пазбіраць грыбоў.

Усю дарогу ў машыне маўчаў. У ляску мы разышліся ў розныя бакі. Праз паўгадзіны я знайшоў яго пад бярэзінкай, на чабаровым узгорку, з трафеямі. На газеціне ляжаў дзесятак рыжыкаў і маладых асавічкоў.

— Я ведаў аднаго доктара,— пачаў Канстанцін Міхайлавіч, не адказваючы на запытанне, ці сціх галаўны боль.— Толькі не па галаўной спецыяльнасці. Пра яго я ўсё ўспамінаю з раніцы. Быў ён кастапраў, не доктар, вядома, а народны лекар. Жыў у вёсцы Нягневічы на Навагрудчыне.

— Ці не звалі яго сакольнікам?

— Дык я табе, выходзіць, расказваў ужо?

Я сказаў, што чуў пра такога лекара ад свайго бацькі, выхадца з тых самых месцаў.

— Ніхто ўжо не помніў ні яго імя, ні прозвішча, бо жыў гэты дзед больш за сто гадоў. Так усе і клікалі — сакольнік. А не хацеў паміраць, ці не мог памерці, як ён сам запэўняў, вось чаму. Майстэрства лячыць перадавалася ў сакольнікаў з роду ў род і абавязкова пераходзіла ад бацькі да старэйшага сына. А гэтаму сакольніку не шанцавала на сыноў, усё дочкі нараджаліся...

— Як у вашага Хадыкі: «Пакрыўдзіў бог мяне сынамі, ядзяць іх мухі з камарамі»?

— Яшчэ горш, браце. Яго дочкі прыводзілі таксама дзяўчат, і род па мужчынскай лініі канчаўся. Дык што ты думаеш? Стукнула таму сакольніку семдзесят гадоў, і ён пры жывой жонцы ажаніўся, не ўзяўшы разводу.

Справа гэта па даўнейшых часах страшная: тут табе і суд і праклён царквы. Пацягалі старога трохі, але не засудзілі: цёмны, няграматны, адною нагою ў магіле стаіць, што з яго возьмеш! Толькі забаранілі ў царкву хадзіць, хоць ён і без гэтага туды мала наведваўся.

А ўзяў дзед замуж маладую яшчэ ўдаву, з трыма хлапчукамі-сіротамі. Думаў, і яму на хлопца ўдача будзе. Праўда, у сяле ўсе кпілі з гэтай надзеі: чаго чакаць у семдзесят гадоў! Але стары, як відаць, не спаў у шапку, стала ўдава хадзіць уцяжку, а потым вазьмі дый нарадзі яму зноў дачку. А цераз год — другую.

Бачыць дзед — не на яго жаданне справа хіліцца, і высватаў сабе дзеўку-саракавуху, незамужку. Начальства паглядзела на гэты ўчынак праз пальцы, нават поп не выклінаў з амбону. Толькі не спраўдзіла надзей і трэцяя жонка. Але дзеда не выпусціла з кіпцюроў. «Жыві, кажа, галубок, даўжэй, ад мае дачкі будзе абавязкова табе ўнучак. Вось і чакай яго».

Дацягнуў дзед да дзевяноста, і сапраўды падаравала яму хлопчыка апошняя дачка. Так і пераваліў сакольнік цераз дзесяты дзесятак, гадуючы таго ўнучка, каб, як толькі пачне ён разумець, што да чаго, перадаць сакрэт свайго лячэння і саміх лекаў. Вадзіў за сабою малога па лесе, збіраў разам зёлкі. Калі таму мінуў шаснаццаты год, дзед прымусіў яго самастойна зварыць мазь ад пераломў і саставіць хвораму паламаныя косці.

Дапэўніўшыся, што хворы пачаў хадзіць, дзед паклікаў унука і сказаў: «Ідзі на могілкі і выкапай пад крайняю бярэзінай яму. Толькі сам капай, каб ніхто не памагаў. Выкапаеш, пакладзі мяне ў труну, яна ўжо гадоў дзесяць пад паветкаю стаіць, сам рабіў, браку няма. Ідзі, а я тым часам памыюся, чыстую кашулю ўзлажу».

Пацалаваў унука, а калі той вярнуўся з могілак, дык дзед сядзеў у садку пад яблынькай, проста на траве, чысты, светлы, з усмешкаю на твары. Давай унук гукаць, а стары ўжо не адказвае: адбыў у невядомыя краі.

— Што тут праўда, што не — цяжка сказаць,— Канстанцін Міхайлавіч пасунуўся ў цянёк,— за што куплена, за тое і аддадзена. Я гэта з дзесятых вуснаў чуў, людзі людзям гаварылі, але ўсе версіі зусім аднолькавыя. А як табе перадавалі?

Біяграфія сакольніка была для мяне ў навіну. Мой бацька спыняўся толькі на незвычайным умель-

стве дзеда: у тых выпадках, калі пасавалі найлепшыя хірургі, звярталіся да сакольніка. Ён састаўляў косці рукі ці нагі, густа намазваў зверху прынесенай з сабою маззю і браў у лубкі — кляновыя дошчачкі, таксама свае работы.

Канстанцін Міхайлавіч выслухаў і паківаў галавою.

— Так. Не помню, ці ў самой Мікалаўшчыне, ці ў якой з суседніх вёсак канчалі будаваць хату, заводзілі бервяно на апошні вянец. Яно сарвалася і перабіла хрыбет пажылому ўжо чалавеку. Дактары асудзілі яго на вечную нерухомасць. Тады сваякі кінуліся да сакольніка. Ён паслухаў і кажа: «Добра, заўтра пад вечар я ў вас буду».

Сапраўды, не паспела назаўтра зайсці сонца, прыджгаў. Ды яшчэ два гаршкі мазі фунтаў па дзесяць прынёс у торбачцы. А з Нягневіч у нашыя мясціны за суткі і добрым канём толькі-толькі прыехаць. «Я, кажа, напрасцякі, дзе лугам, дзе разоркаю».

Палажыў ён таго чалавека, як ты казаў, на кляновую дошчачку, другою прыціснуў зверху, вымазаў на яго адзін гаршчок мазі і моцна ўкруціў хворага ў ручнікі. Другі гаршчок аддаў гаспадыні: «Пастаў у склеп, цераз тыдзень здымі верхні ручнік, абкладзі хворае месца маззю, як гразёю, і зноў закруці. І няхай ён ляжыць на сонцы».

Выпіў дзед паўкварты гарэлкі, пажаваў гурочка і за работу нічога не ўзяў.

«Калі ён паправіцца, кажа, няхай прывязе мне пуд пшанічнай мукі, не куплёнае, а свайго памолу. У мяне зубоў мала, я цяпер больш зацірку ем».

Цераз месяц хворы пачаў хадзіць і першым чынам запрог каня і павёз муку ў Нягневічы. Сустрэў яго сакольнік і дзякуе: «Добра, што слова трымаеш. А муку вязі назад, я свае намалоў. Мне ж толькі трэ было дазнацца, ці хутка паправішся ты. Каб гадоў дзесяць назад, я сам бы адведаў цябе, а зараз цяжкавата, дзевяты дзесятак размяняў».

Напаіў, накарміў ён прыезджага і толькі тады адпусціў дадому. «Жыві, кажа, і падбрыквай, толькі пад бервяно лішне не лезь. Ад паўторнага палому і я не вылечу».

— Паходзім яшчэ, Максіме! — Канстанцін Міхайлавіч падняўся і не міргаючы паглядзеў на заход сонца.— Адвячорак добры.

Ён ішоў, пільна прыглядаючыся, па сцежачцы ў глыбіню параснiку.

— Вось так і нам бы трэба,— раптам загаварыў ён, падразаючы рыжык,— не паміраць, пакуль не скончыш галоўнае справы.

У машыне Канстанцін Міхайлавіч сядзеў, выставіўшы правую руку на вецер.

— Гэтую гісторыю пачуў я ўжо, калі мы пераехалі ў Альбу́ць. Казалі, што віленскія дактары давалі старому вялікія грошы за сакрэт ягонай мазі. Я б яму і годнасці акадэміка не пашкадаваў. І за лекі, а больш за навуку на свеце жыць.

— Жыццё ў Альбу́ці ўзбагаціла мяне веданнем людзей. Тут [illegible] спачатку пачуў бясконцыя апавяданні пра Дзынгалу, а потым і пабачыў яго самога. Так дражнілі аднаго з мікалаўскіх сялян, бо ў маленстве ён спяваў:

Дзілін-бом, купляй мак
За тры грошы альбо так.

Гаварыў Дзынгала смешна шапялявячы. Ніколі не паўтараўся, і слухалі мы яго разявіўшы рот. «Паефалі,— «х» і «ш» Дзынгала вымаўляў як «ф»,— мы з братам араць. Аралі-аралі, назаўтра пафлі сеяць — няма раллі. Чорт раллю ўкраў. Пасеялі мы на месцы ўкрадзенай раллі гароф.

Зарадзіла так, што няма куды падзець таго гарофу. Пачалі карміць ім кабана. Вырас кабан, раз'еўся. Паклікалі дванаццаць чалавек біць яго. Мужчыны закурылі, а маці ўпусціла кабана ў фату. Пакурылі, пара кабана біць, а яго няма. Фукаліфукалі, трафа галоў не паскручвалі. Дзе кабан? Тады нефта адгарнуў венік у качэргаф, аж япрук пад венікам».

І яшчэ гэтак расказваў Дзынгала: «Раней цяжка жылося, ой, як цяжка! Вядома: панскае горла — як суконнае бёрда: колькі ні дай, усё глыне. А мужыку — ні абразоў памаліцца, ні нажа зарэзацца.

Зямля — адзін пясок. Дый колькі тае зямлі — як старой бабе сесці. А тут яшчэ гора: дзед нарадзіўся, а бацька памёр. І немаведама, што рабіць: ці дзеда хрысціць, ці бацьку хаваць. У хаце грошай ні капейкі. Маці кажа мне: «Ідзі на плыты».

Пагналі мы плыты ў Коўню. Усё добра было, узялі разлік у падрадчыкаў-шафароў. Ідзём назад. Ідзём дзень, ідзём два. Я быў малы, стаміўся. Кажу сваім плытагонам: «Вы ідзеце, а я адпачну». Пайшлі яны, пакінулі мяне аднаго.

Тут нахапіўся вечар. Страшна ў лесе. Я ўзлез на елку, сяджу і калачуся. Аж прыйшла нейкая пара, паніч і паненка. Селі яны пад маю елку. Выпілі віна, з'елі панскіх марцыпанаў дый давай цалавацца. Паненка і гаворыць: «Слухай, кахане! А хто ж будзе наша дзіця гадаваць?» Ён падняў вочы на неба і адказвае: «Той, хто над намі».

Тут я не ўтрымаўся ды як гукну: «А ліха ж вашай галаве! Вы будзеце любіцца, а я вашы дзеці гадаваць! Трасцы!»

Яны перапалохаліся і паўцякалі. А я скок з елкі. Папіў віно, паеў марцыпаны — і ў Мікалаўшчыну...»

Канстанцін Міхайлавіч зрабіў перапынак. Пазваніў, умовіўся наконт заўтрашняй сустрэчы ў Акадэміі для рэдагавання чарговага раздзела руска-беларускага слоўніка.

— З Дзынгалы,— вярнуўся ён праз некаторы час да няскончанай размовы,— калі помніш, у мяне ўзяты эпіграф да апавядання «Калектыў пана Тарбецкага». А наогул я шмат смешных апавяданняў запісаў і перад семінарыяй і ўжо навучаючыся ў ёй. Адзін сшытак назваў: «Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле». І псеўданім сабе прыдумаў «Карусь Лапаць». Той сшытак павінен недзе ў Вільні быць, калі не загубіўся.

На маю заўвагу, што апошняе апавяданне, праўда, крыху ў сціслейшым выглядзе, я чуў ад настаўніка, Канстанцін Міхайлавіч сказаў:

— Такія рэчы па свеце вандруюць... Адзін зложыў, а дзесяць паправіла...

Верагодней за ўсё, што мой настаўнік чуў гісто-

рыю з тых самых вуснаў, што і я, калі Канстанцін Міхайлавіч выкладаў методыку роднай мовы на настаўніцкіх курсах у Слуцку.

Я назваў прозвішча настаўніка. Канстанцін Міхайлавіч пакруціў галавою:

— Не ўспамяну. А ў Слуцку я шмат чытаў і расказваў... Жыў і такі чалавек у Мікалаўшчыне. Толькі Дзынгала быў павольны і ляны, а гэты — другога гатунку: гарачы і порсткі. Паехаў ён зімою па сена. Пакуль пароўся каля стажка, кабыла не захацела мерзнуць, адарвала повад, завярнулася і ходу дамоў. Дзядзька за ёю. Як ідзе павольна — і кабыла рушыць ступою, а паспрабуе падбегчы, дагнаць — і яна шыбчэй. Гэтак дражнілася да самага дому. Дзядзька задыхаўся, уваўрэў, ад злосці аж дрыжыць. Не трапіла пад рукі попліскі на двары, дык ён ускочыў у хату і крычыць жонцы:

— Давай сякеру!

— Нашто табе?

— Засяку кабылу.

Добра ведаючы мужаў характар, жанчына не адгаворвала яго, а наліла вялізную міску гарачай-гарачай капусты.

— На з'еш, а то здарожыўся. Падмацуешся, тады і засячэш.

Пакуль ён скідаў кажух, мыў рукі і ўпраўляўся з капустай, прайшло добрых паўгадзіны.

Жонка дастала з-за лавы сякеру і падала яму:

— То ідзі ўжо хіба, засячы.

Дзядзька глянуў на яе, усё зразумеўшы:

— Хітрая ты!

І пайшоў выпрагаць кабылу.

Канстанцін Міхайлавіч сядзіць на лаўцы пад вязам, паглядаючы на сціртy свежанапілаваных і наколатых бярозавых дроў. Раскалоў і я некалькі паляна́к і зараз прысеў каля яго пакурыць.

— Не тая сіла ўжо. Раней я да гэтай работы нікога не дапускаў. Сам і пілаваў і калоў. Яшчэ ў вайну колькі карчоў навыварочваў на паліва ў Клязьме. А ў цябе сіла ёсць, колеш хвацка. Нарыхтаваў ужо на зіму паліва?

Я прызнаўся, што гэта зрабілі пільшчыкі.

— Часу шкада, дзядзька Якуб.

— А здароўя не шкада? — крыху нездаволена перапытаў ён.— Зарадку ж робіш? Дык коліва — самая лепшая зарадка.

І загаварыў на іншую тэму.

— Неўзабаве навучальны год пачынаецца. Вось ужо колькі часу я нічога не выкладаю, а надыходзіць гэтая пара — і агартае мяне нейкая турбота. Прачнуся раніцаю і ўсё не магу зразумець, што мне рупіць? Добра ведаю, ніякага клопату няма: ні ліста неадказанага, ні артыкула недапісанага, ніводнай справы недакончанай. А душа свярбіць. Потым пачынаю здагадвацца, гэта мяне цягне ў клас. Паглядзець, ці лаўкі ў парадку, ці печы добра паляцца, вучнёўскія спісы праверыць. Відаць, недзе ў косці ўелася настаўніцкая закваска...

Пацягнула вячорным халадком. Канстанцін Міхайлавіч падняўся разам са мною.

— Правяду цябе.

Дарогаю зноў загаварыў пра школу:

— Лёгка цяпер вучыцца дзецям. Кніжак — колькі хочаш, паперы і сшыткаў — хоць заваліся, настаўнікі — усе з вышэйшай адукацыяй. Калі дзіця не пойдзе ў час у школу, адразу ледзь не следства наладжваецца. Дамоў прыходзяць, апытваюць.

Мы прыселі ў павільёнчыку каля Дома друку выпіць па шклянцы піва.

— Я вельмі рваўся ў школу, думаў, з пераездам у Альбуць патраплю. Але не спраўдзіліся мае надзеі. Дома падлічылі, што наймаць кватэру ў Мікалаўшчыне, карміць нас усіх там — задорага. І вырашылі ўзяць «дарэктара», балазе вучняў у нас была цэлая куча. Яська Базылёвых — гэтак па-вулічнаму звалі яго, а поўнасцю — Іван Васільевіч Міцкевіч. Добры потым настаўнік з яго выйшаў і таварыш слаўны, часта падтрымліваў мяне ў цяжкія часіны...

Ну, пра гэта не буду расказваць, вярнуся і ўкладу табе сёння ж цыдулу ў тваю векапомную кнігу. Бывай здароў!

І павольна пайшоў, лёгка ўспіраючыся на ядлаўцовы кіёк свае ўласнае работы.

Яшчэ за брамай адчулася, што ў Коласавым двары сёння творыцца нешта не зусім звычайнае. Дзіцячыя галасы то гучаць на высокіх, ледзь не спеўных нотах, то сціхаюць, і тады чуваць глухаватае пакашліванне Канстанціна Міхайлавіча.

Колас сядзіць на лаўцы ў садзе, а супраць яго, проста на траве, хлопчыкі і дзяўчаткі. Дзесяцера, а можа і больш. Белыя кашулькі і кофтачкі, яркія піянерскія гальштукі. Размова, відаць, пачалася даўно. Пытанні сыплюцца адно за другім, і Канстанцін Міхайлавіч ледзь упраўляецца адказваць.

Асабліва шчыруе адзін вельмі напорысты хлапчук. Яму гадоў з дванаццаць, але цікаўнасці хапіла б на некалькі дарослых. Светлыя, выгараўшыя ад сонца валасы — неслухмяныя, пад па́ру хлопцаваму характару. Ён усё прыгладжвае віхор далонню і перабівае сваіх сяброў і сяброўак. Гэта не падабаецца сярэдніх год чалавеку, якому, відаць, даручана духоўная апека над цікаўнымі гасцямі. Ён стаіць трохі ўбаку, за спінай Канстанціна Міхайлавіча і на мігі спрабуе ўтаймаваць хлопца.

А той не ўпыняецца. Паспеў папытаць, колькі людзей жыве ў Мінску, ці далёка адсюль аўтамабільны завод, і зараз не на жарт засмуціўся: як гэта Колас не ведае, што можна сягоння паглядзець у кіно.

Адшукалі газету, прачыталі назвы сённяшніх кінафільмаў: на жаль, стужкі, якую так хацелася ўбачыць хлопцу, у праграме няма.

— Наконт кіно я не загадчык,— суцяшае Канстанцін Міхайлавіч,— а вось тэлевізар пакруцім вечарам у ахвоту.

Хлопчык відавочна расчараваны. Столькі ехалі, столькі часу жылі надзеяй пабачыць фільм на свае вочы. І вось табе маеш! Нават усемагутны, як яму здавалася, Колас не можа даць рады.

Аднак збянтэжанасць хутка мінае і хлопчык зноў кідаецца ў роспыткі:

— Над чым вы зараз працуеце? — І, мусіць, каб паказаць, што ім кіруе не звычайная цікаўнасць, нечакана дадае: — Народ чакае вашых твораў...

— А ты так добра ведаеш, чаго чакае народ?

Колас стрымлівае ўсмешку. Ён ловіць у абвыклым, шмат разоў чутым, пытанні нейкае новае ад-

ценне патрабавальнасці. І адказвае зусім сур'ёзна, можа толькі крыху прасцей, чым зрабіў бы гэта дзе-небудзь на чытацкай канферэнцыі. Так, ён працуе, канчае пісаць кнігу пра маладога настаўніка, які даўным-даўно, яшчэ да Кастрычніка, навучаў грамаце дзяцей у глухіх беларускіх вёсках.

На размову падыходзяць сябры, яны прыйшлі пабачыцца, пацікавіцца, як здароў Канстанцін Міхайлавіч.

— Гэта мае даўнія прыяцелі, выхаванцы дзіцячага дома,— тлумачыць Колас.— Мы пачалі перапісвацца адразу пасля вайны, а вось і сустрэліся. Яны сабраліся ў падарожжа па Беларусі дый сюды завіталі. На ўласным транспарце...

Сапраўды, у цяньку каля варот стаіць воз на жалезным хаду. Да яго навязана буланая канячка. Яна час ад часу абмахваецца ад мух надзетай на галаву аброчнай торбаю. На возе, як высвятляецца пазней, падарункі Коласу: раннія яблыкі, гуркі, морква, усё, што вырасцілі выхаванцы ў садзе і ў агародзе сваім клопатам.

Канстанцін Міхайлавіч пачынае бліжэй знаёміцца з гасцямі і нейкім чынам угадвае, як зваць шустрага хлопца, нястомнага апытвальніка. Гэта выклікае шумнае захапленне.

Малыя адзін перад адным гавораць, кім яны будуць, калі стануць дарослымі.

Нарэшце, гасцей клічуць у дом — падмацавацца пасля дарогі.

— Дзеці вайны,— смутнавата гаворыць да сяброў Колас.— Цяпер усе мы павінны быць ім за бацькоў і за маці. Вы заўважылі, якія яны выбіраюць сабе прафесіі. Вось гэты востры арол, што мяне ўсё пытаннямі прыціскаў... Я думаў, ён скажа: хачу быць інжынерам. Аж не: глебазнаўцам. Дагадзіў майму сэрцу. Я не раз казаў: чалавек не павінен адрывацца ад зямлі, ад тых, хто жыве на ёй, ад таго, што на ёй расце.

Некаторы час у доме Коласа пануе незвычайнае ажыўленне. Як ні стрымліваюцца госці, як ні стараюцца быць цішэй і салідней — не ўтрываць. Дабра-

душлівы сабака адбівае лапамі мяч, шустрая лісічка, хоць і ідзе да рук, але, блiснуўшы, як маланка, рудым хвастом, хапае мяса і хавае ў кутку дрывотні.

Канстанцін Міхайлавіч парушае свой працоўны расклад і не расстаецца з дзецьмі. Падараваў кніжкі з надпісамі, вечарам расказвае пра хараство родных палёў і лясоў над Нёманам, прыгадвае Піншчыну, дзе ён калісьці настаўнічаў.

Дзеці слухаюць уважлівыя, пасур'ёзнеўшыя. Іх упершыню так вучаць, не навучаючы, і паказваючы, малюючы жыццё.

Надыходзіць час расставацца. Канстанцін Міхайлавіч бярэ ў абедзве рукі працягнутыя да яго загарэлыя лапкі. Пасля не вытрымлівае і прыціскае да сябе нейчую ўскудлачаную галаву.

— Ну, шчасліва, шчасліва!

Развітаўшыся з гасцямі, ён хмурнее. Прыслухоўваецца да цішыні раптоўна змоўкшага дома, нібы выклікае сюды водгулле дзіцячых галасоў.

— Прыляпіўся,— Канстанцін Міхайлавіч падкрэслівае даўняе значэнне гэтага слова,— прыляпіўся да іх душою. Сяджу і чакаю: зараз прыбягуць, пачнуць церабіць: пачытай, раскажы!

На некаторы час ён змаўкае.

— У педтэхнікуме сярод маіх студэнтаў на кожным курсе былі выхаванцы дзіцячых дамоў. Мне заўсёды хацелася, каб яны не адчувалі сябе сіротамі. Ды хіба пакінула пасля сябе хоць адна з мінулых войнаў столькі абяздоленых, столькі сірот?

Колас паглыбляецца ў развагі.

— А як надзяліць іх усіх добрым клопатам, акружыць цёплай чалавечай спагадай? Некаторыя бяруць дзяцей з дзіцячых дамоў на выхаванне, у сямейнае кола. Гэта добра, але не ўсім пад сілу. Што, каб арганізаваць нешта накшталт грамадзянскай апекі? Напэўна, знайшліся б людзі з дастаткам і душэўнай прыхільнасцю да гэтай справы. Наведвалі б хлопчыка ці дзяўчынку ў дзіцячым доме, пісалі б ім лісты, справаўлялі б тады-сяды адзежыну або даравалі якую дробязь — шапачку, хусцінку. А пад час вучобы запрашалі б да сябе на вакацыі. Глядзіш, і дзіця

жыло б пры сям'і. І апекунам была б уцеха пад старасць. Дабро, яно ж не гіне, дабром і абзываецца.

— Зусім забыўся ты пра мяне,— Канстанцін Міхайлавіч сустрэў мяне ўсмешлівым дакорам. Ён ведаў, што я на некалькі дзён выязджаў у вобласць, выступаць перад чытачамі.

— За гэта пасядзі тут адзін, я на паўгадзіны з'езджу ў горад. Трэба таму-сяму грошай паслаць.

І паказаў некалькі паштовых пераводаў.

— Гэтаму — трэба хату перакрыць,— Канстанцін Міхайлавіч пералажыў верхні перавод уніз,— а вось,— ён паказаў пальцам на наступны перавод,— жанчына пісала, што на карову не хапае. Тут — дзецям крыху пасылаю, засталіся без бацькі па вайне, а нядаўна і маці памерла. І яшчэ ёсць просьбы, ды ўсіх не адзеліш. Можа і пакрыўдзіцца хто, скажа: глухі стаў Якуб Колас. Але мне здаецца, што на сапраўды пільныя патрэбы я адгукаюся.

Справа з асабістымі пазычкамі і дапамогамі вялася здаўна: калі гаварыць пра вядомы мне час — дык ад выкладання ў Мінскім педагагічным тэхнікуме.

Канстанцін Міхайлавіч часта падтрымліваў студэнтаў. Але гэта была іншая справа. Ён тады добра ведаў і мог дапэўніцца, каму і ў якой меры дапамагчы: у аднаго пазнілася дапамога з дому, у другога стыпендыі не хапала, каб замяніць порткі, што пачыналі свіціцца на каленях, трэці кволіўся здароўем і меў патрэбу ў шклянцы малака.

Цяпер у сяброўскіх гаворках яму часта раілі перад пасылкай грошай хоць бы спытацца ў райвыканкоме ці сельсавеце: пражывае такі і такі ў такім і такім месцы, якое ў яго матэрыяльнае становішча. Можа гэта проста дармаед, якому не хочацца працаваць.

— Буду я яшчэ задаваць людзям работы,— звычайна адказваў Канстанцін Міхайлавіч.— Каб у раёне маглі дапамагчы, дык дапамаглі б. Пасля такой вайны гора і нястач у людзей не абярэшся. І людзям трэба верыць. Думаеце, хлопцы, лёгка разявіць рот, каб папрасіць што-небудзь? Ой, цяжка! Ну, няхай я

раз памылюся, затое дзесяць разоў падам руку тым, каму яна трэба.

І сапраўды, амаль беспамылкова выбіраў з свае агромністае пошты лісты, якія патрабавалі грамадскай, дзяржаўнай ці асабістай дапамогі. Гэта не раз пацвярджалася. У адказ прыходзілі падзякі і запрашэнні па ўлазіны ў перасыпаную хату, на свежы тварог ад купленай з яго дапамогай каровы ці на клубную вечарынку, дзе будуць танцаваць пад нядаўна набыты гармонік.

Аднойчы да Канстанціна Міхайлавіча, проста ў Акадэмію, з'явіўся малады чалавек, даволі добра апрануты, падчапураны, са свежым пахам парыкмахерскага адэкалону. Хвалюючыся, але ўсё ж цвёрда, хоць на шчоках успыхвалі ружаватыя плямы, загаварыў:

— Пяць гадоў назад вы памаглі мне... Я скончыў школу... Зараз на добрай рабоце... Прынёс вам пазыку... І хацеў бы паціснуць руку, якая...

Падрыхтаваныя загадзя словы пераселі ў яго горле.

— ...якая...— паўтарыў ён, зрабіў рашучы крок да Канстанціна Міхайлавіча і закончыў зусім нечакана: — ...якую я хацеў бы пацалаваць.

Канстанцін Міхайлавіч разгубіўся не менш за наведвальніка, скоранька адышоўся да сцяны і схаваў рукі за спіну.

— Ну, ну,— сказаў ён.— Ты, брат, цалуй рукі сваёй дзяўчыне... А я... Ну, дзякуй, што прыйшоў, што ўспомніў.

Малады чалавек пырснуў светлым хлапечым смехам. Кара́ надзіманасці злузалася, ён пачуўся свабодна і прамовіў:

— А я жанаты! — і зноў засмяяўся.— Вось вам ад жонкі гасцінца.

І вылажыў са скрутка па бліскучы віцэ-прэзідэнцкі стол белы сыр і пляйстру пахучага мёду.

Канстанцін Міхайлавіч зірнуў на мяне. Вочы яго весела паблісквалі, відавочна, цешыўся са слаўнай непасрэднасці гэтай сустрэчы, з маладога чалавека,

які стаў на троп, мае сям'ю, а выглядае як шчаслівае хлапчанё.

Адчуўшы ў Коласе ветлівую прастату і ўлавіўшы яго лагодны настрой, наведвальнік не адступаўся:

— То ад жонкі, а гэта, калі можна, ад мяне,— і выцягнуў з кішэні пляшку недарагога ягаднага віна.

— Гэтак шчыруючы, ты, браток, усе свае набыткі на вецер пусціш,— пасміхнуўся Канстанцін Міхайлавіч.— Ты ў партыі?

— Кандыдат,— не разумеючы, куды хіліцца размова, адказаў малады чалавек.

— Гэта добра. Але чаму ж ты прыходзіш з выпіўкай да старога ды яшчэ ў рабочы час?

Не адчуўшы жарту, той памкнуўся апраўдвацца, а Канстанцін Міхайлавіч, пазіраючы з-пад брывей, удавана строга адчытваў:

— Што ў цябе, свята якое?

— А такі свята. Сына ў загсе запісаў,— твар маладога чалавека зрабіўся яшчэ больш шчаслівы,— і з вамі гавару...

— Гэта свята малое... Вось хіба — сын. Як жа назваў яго?

— Так, як вас. Мы з жонкай даўно прымералі: будзе хлопец — значыць, Якуб, а калі дзяўчына — назавём іменем вашай маці.

Канстанцін Міхайлавіч быў расчулены. Адышоўся да акна, правёў рукою па вачах.

— Вось што,— ён павярнуўся да маладога чалавека,— згортвай свае пачастункі ды кіруйся да мяне ў хату. Можа пакажаш дарогу? — папрасіў ён мяне.

Правёў нас да дзвярэй кабінета:

— Я хутка вызвалюся. Пасядзіце, пагутарце там.— І ўжо зусім весела дадаў: — Толькі пляшкі без мяне не адкаркоўвайце. Чокнемся разам за малога Якуба.

Ідучы насустрач людской патрэбе, Канстанцін Міхайлавіч не любіў марных патрат, неразважлівага выдаткавання ніякіх сродкаў і мог здацца, што называецца, скупаватым. Ён патрабаваў акуратна

гасіць святло, выходзячы з пакоя, і дома і, яшчэ больш, у гасцініцах, не напальваць залішне печаў, не марнаваць і не выкідаць рэчаў, прыдатных да ўжытку.

Сам ён у побыце здавольваўся да смешнага малым: еў мала, без асаблівага выбару, абы гарачае, гарнітур, да якога прывыкаў, гатоў быў насіць некалькі год, так што сынам амаль сілком даводзілася змушаць яго апрануць новы. Нават пісаў і то на другім баку сваіх чарнавікоў: гэта яшчэ задасць немалога клопату даследчыкам.

Ва ўсім гэтым адгукалася здабытае ўласным гарбом у першай палавіне жыцця веданне, чаго варта праца. Калі куплена рэч, скажам, крэсла, пачак паперы, чаравікі, значыць, яна павінна служыць доўга, на ўсе закладзеныя ў ёй магчымасці. На тую ці іншую рэч, разважаў Колас, затрачаны матэрыял, сродкі, і галоўнае — чалавечая праца.

Іменна працу шанаваў Колас, і толькі гэта пабуджала яго да ашчаднасці. Бо іначай не падпісваўся б ён на пазыку амаль на палавіну ганарару за свае творы, не адсылаў бы і не аддаваў просьбітам значную частку акадэмічнай зарплаты кожны месяц.

Колас не быў добранькі слязлівай дабратою, ён адчуваў унутраны абавязак падтрымаць, а часамі і выратаваць чалавека. І зрабіць гэта моўчкі, каб не пакрыўдзіць таго, каму дапамог.

Вось і зараз ён неахвотна паказваў мне падрыхтаваныя да адсылкі пераводы. Для яго гэта была пільная справа, а далікатнасць не дазваляла проста, без тлумачэння пакінуць аднаго чалавека, які зайшоў у хату.

Чакаючы Канстанціна Міхайлавіча, я дастаў кнігу «для ўсяго, што лезе ў галаву», каб прачытаць паабяцаную мне «цыдулу». Але там ляжалі вырваныя з «Новай зямлі» раздзелы: «Дарэктар» і «Начаткі».

На аркушыку, прыколатым да ўкладкі, было напісана і закрэслена некалькі радкоў, як відаць, пачатку «цыдулы»: «Вучыліся мы ў свайго «дарэктара» па-рознаму, пэўней кажучы, як хто мог і хацеў. Праўда, хацення паддавала бацькава папружка...»

Ніжэй ішлі радкі з буйных літар:

«Даруй, Максіме! Цыдулы не атрымалася. Чытай гэта. Лепей я не напішу.

Твой Якуб Колас».

Неўзабаве з'явіўся аўтар запіскі, не хаваючы ўсмешкі на вуснах.

— Не трэба жаваць перажованага. Давай пойдзем далей. Я ноччу мала спаў і тое-сёе ўспомніў. Па якіх кнігах я вучыўся? Дома па Ушынскаму, чытаў «Родное слово» и «Детский мир». У школе я пазней натрапіў на хрэстаматыю «Северо-западный край» Адзінцова і Багаяўленскага. Жывучы ў Мінску, пасля прыезду з Куршчыны, бачыў гэту кнігу ў аднаго з настаўнікаў педагагічнага тэхнікума. Паглядзеў яе, і здалося — як быццам усё сваё маленства перагарнуў. Была ў гэтай хрэстаматыі байка Крылова «Леў і воўк». Дасюль яе помню.

Хоць, вядома, ніякіх доказаў не патрабавалася, Канстанцін Міхайлавіч прачытаў байку без запінкі.

— Байкі Крылова падараваў мне дзядзька Антось. Як ён дагадзіў мне! Пабудзіў на досвітку і даў у рукі: «На, цешся!» А купіў ён кнігу ў нядзелю на кірмашы. Быў гэта, помніцца, дадатак да «Нівы», на кепскай паперы, з цьмяным шрыфтам. Але даражэйшага падарунка ў той час я сабе не ўяўляў. Кнігу ў Стоўбцах пераплялі, і я клаў яе ў торбачку, выбіраючыся на пасту.

Праз некаторы час у маёй пастухоўскай торбе з'явіўся Пушкін. Як я чытаў яго! Наўзахапкі і шкадуючы, пакідаючы на заўтра. Умацую кнігу дзе-небудзь у развіліне дрэва, у расошцы, і стаю ці ківаюся перад ёю, як перад абразом або перад люстэркам. Чытаю-чытаю, аж пакуль не вывучу старонку на памяць. Тады перагарну і бяруся за другую.

Гэта дапамагло мне перакладаць «Палтаву». Відаць, тады ўжо, у гады маленства, прымяраў я да Пушкіна беларускае слова. Некаторыя мясціны «Палтавы» даліся перакласціся лёгка, з першага чарнавіка. А наогул пасядзеў над гэтай работаю доўга.

Паэма так аўладала мною, што нічога іншага рабіць не мог, ні аб чым не дбаў і не помніў. Начамі

не спаў. Толькі прымружу вочы — пачынаю сніць, нібы пераклаў якраз тое месца, што не ўдавалася. А зараз ліецца свабодна, роўна, лёгка. Адна бяда: прачнешся — і забыў усё чыста. Тады я навучыўся прымушаць сябе прахватвацца і запісваць тое, што сасню.

Марыя Дзмітраўна трывожыцца пачала: «Спі ты, Костусь, а то ўсшалееш, чаго добрага». Я нават думаю, што яна мне цішком падсыпала ў чай парашкоў на сон. Трэба сказаць праўду, што высненыя радкі раніцай здаваліся не такімі ўжо і ўдалымі. Я іх амаль не скарыстаў. Адна толькі мясціна пайшла ў друк. Я вельмі доўга думаў над ёю і запісаў, прачнуўшыся ноччу:

Ён сам імклівасць. Ён — дзень ясны.
Ён грому божага раскат.

А як скончыў работу, стала і радасна і сумна: няўжо гэта ўсё? Хацеў брацца яшчэ за якую пушкінскую рэч. Аблюбаваў сабе «Домік у Каломне». І зрабіў бы, ды нешта адцягнула, перашкодзіла. Але ў маленстве і потым у юнацтве, хоць прыйшлі і ўзварушылі ўсю душу Пушкін, а за ім і Гогаль, Крылоў надоўга заставаўся недасяжным літаратурным богам.

— На Арцюхоўскіх азярынах мой бацька з Антосем часцяком лавілі рыбу. Дзядзька тут цалкам перакінуўся на рыбацтва. Не помню нават, ці захавалася ў яго ў Альбуцi стрэльба. Перад дажджом рыба добра ловіцца. Неяк у другой палавіне лета ўдвух цягалі сетку, а я ішоў па беразе. І што, ты думаеш, рабіў? Чытаў ім уголас крылоўскае «Да салаўя»:

Отчего сей свист унылый,
Житель рощей, друг полей?
Не из города ль, мой милый,
Прилетел ты, соловей?

Багата тады налавілі рыбы. Дзядзька Антось усё жартаваў: «Рыба заслухалася салаўя і сама палезла ў сетку».

Другі раз пайшлі мы на рыбу толькі з дзядзькам. Нічога не лавілася, я ўжо вылез з рэчкі, а ён пужаў рыбу з «ра́сы», гэта такая доўгая рачная тра-

ва. Хацеў і дзядзька выбірацца на бераг, а потым усміхнуўся і гаворыць: «Ану, зачні свайго «Салаўя!» Я завёў:

Не из клетки ль на свободу
Выпорхнул в счастливый час
И, еще силка страшась,
Робко так поешь природу?

Дзядзька пужнуў раз, пужнуў два — і тут проста на бераг, мне пад ногі, выкаціўся мянёк фунты на чатыры. От пасмяяліся мы тады...

Дзядзька кажа: «Ён сіла́ збаяўся ды скок проста на бераг». І кладзецца ад рогату.

Канстанцін Міхайлавіч таксама смяецца, нібы яшчэ і дасюль шчаслівы той дзіцячай рыбацкай удачай.

— Школу я скончыў, калі мне было гадоў дванаццаць. Вучыўся толькі дзве зімы, пачаў адразу з другога аддзялення: ад навукі Яські Базылёвых нешта ўсё ж такі засталося ў галаве.

Настаўнікам у нас быў нейкі Корзун, чорны, як цыган. Каму больш дзякаваць за першыя барозны навучання, Яську ці яму, не ведаю. Адно скажу, калі я, ужо будучы настаўнікам, злаваўся на вучняў і гатоў быў выкпіць каго-небудзь з іх або пакараць, дык заўсёды стрымліваў сябе: «Ты ж не Корзун».

Граматна пісаць навучыўся сам. Рабіў такім чынам: перапісваў байкі па памяці, а пасля правіў па кнізе. Добрую памяць меў, дапамагала.

— Школа была ў Мікалаўшчыне. Туды нас спярша вазілі, потым сялілі ў бацькавых братоў ці наймалі кватэру за натуральную плату: дровы, бульба, мука.

Я любіў альбуцкую хату і сумаваў па ёй. У суботу пад вечар, адвучыўшыся, мы беглі дамоў. Лугам, лугам! Хораша было. Тут табе і лес, і Нёман. Зімою, калі хутка цямнела, нас баяліся пускаць адных. Але ж мы былі хлопцы-лесавікі, валілі цераз лес смела. Нават касавурыліся, калі перад нядзеляю, у асабліва цёмныя піліпаўскія вечары, прыязджаў па нас дзядзька.

Канстанцін Міхайлавіч паглядзеў на маю папяросу. Ён ужо кінуў курыць, але заўсёды прасіў гасцей не зважаць на гэта.

— Мне ўжо не хочацца курыць, а дым нюхаю з задаваленнем,— казаў ён.

На гэты раз, відаць, яго пацягнула закурыць. Пакруціў у руках пачак з папяросамі, прамовіў:

— Скончыўшы школу, я легалізаваў курэнне. Праўда, толькі перад маці. Бацькі баяўся, хоць ведаў, што ён нейкім чынам вылучаў мяне сярод братоў і сясцёр і мякчэў, гаворачы да мяне. Бачачы маю прагу да чытання, ён стараўся кніжак, нават купляў іх сяды-тады.

А расстацца з капейкаю было яму не так лёгка. Дый капейкі тыя цяжка даставаліся, і шчадзіліся яны на зямлю. Колькі ні ўспамінаю гаворкі дзядзькі з бацькам, заўсёды ў іх была адна турбота: хоць драбочак, хоць сіняпёсу, але свайго.

Бацька шкадаваў мяне. У сялянскім разуменні шкадаваць важыла больш, чым любіць. Помніш народную песню?

Канстанцін Міхайлавіч хвіліну падумаў.

— Матыў яе нагадвае «Ці свет, ці світае».

Не будзі мяне рана,
А прыспі мяне, мілы,
Не любі мяне сёння,
А шкадуй мяне заўтра...

— Я быў міжвольным сведкам бацькавай размовы з Антосем. Яны сядзелі ў хаце ўдваіх, выпілі паўкварты цішком ад маці і не заўважылі, што я ляжу на печы пад халатом.

«Шкада мне Костуся,— так і сказаў бацька.— Школа скончана, а яму яшчэ хочацца навукі. З тым, што ён умее, і ў пісарчукі не выб'ешся. Дый што гэта за доля пісарская! П'юць яны, бо ад зямлі адарваліся, а да неба не ўзляцелі. І кожнаму, хто ў воласць прыйдзе, так і глядзяць у кішэню: ці не тырчыць адтуль корак. А гаспадара з хлопца таксама не будзе. Хоць ён і рупны, і старанны, а пра сваё думае, усё цікуе, каб аднаму застацца».

Дзядзька Антось слухаў, ківаў галавою і, мне здалося, хліпнуў носам: ён быў вельмі чулы і скоры на слязу.

А бацька гаварыў далей: «Можа і разумна ты зрабіў, браце Антось, што не ажаніўся. Бо я от напладзіў поўную хату жабракоў. Нават калі б удалося зямлі купіць, усе яны на ёй не пракормяцца. Трэба па свеце разганяць. Ну, дзяўчаты замуж павыходзяць, каб толькі пасагу ім наскрэбці, беспасажных не надта хапаюць. А хлопцы? У прымы прыстануць хіба. Прымачы хлеб сабачы, а ўсё ж лепш, чым ніякі. І я такі думаю — пускаць Костуся ў навуку. А куды і за што вучыць будзем, не ведаю».

Дзядзька Антось яшчэ раз хліпнуў носам: «Падцягнем, Міхале, тужэй папружкі, а нешта зробім для хлопца. Наш век ужо канчаецца, а ён можа што людскае ўбачыць».

Тым часам у хату зайшла маці, гаворка перабілася. Але гэта дало мне магчымасць смялей загаварыць з бацькам пра настаўніцкую семінарыю. Відаць, і ён думаў аб гэтым. Прыклад быў, мікалаўцы прабілі ўжо сцежку ў гэтую ўстанову. Туды не толькі прымалі сялянскіх дзяцей, а і дармова вучылі. Каб адно паступіць, я б тады не вісеў каменем на шыі ў бацькоў.

Ахвотнікаў вучыцца ў Мікалаўшчыне ставала, наогул шмат пісьменных людзей у нас было. Штурхала на гэта тое ж малазямелле: не дае зямля кавалка хлеба — шукай іншага ратунку. І шукалі. Той-сёй знаходзіў.

Уважаючы на гэта, бацька даў мне дазвол рыхтавацца ў семінарыю.

— Дзве зімы я вучыўся самастойна. Пачаў з таго, што схадзіў у Нясвіж і купіў сабе граматыку Говарава. Я аб гэтым успамінаў ужо недзе. Але граматычныя правілы чамусьці не лезлі ў галаву. Яны чаргаваліся з урыўкамі цудоўных твораў. Я прабягаў вачыма тое ці іншае правіла і адразу ж хапаўся за радкі Пушкіна або Лермантава.

Терек воет, дик и злобен...

Чытаю і чытаю, адарвацца не магу. Гэта падабалася незразумеласцю, непадобнасцю да таго свету, які быў навакол мяне. Вычытаныя ў граматыцы і за-

помненыя мясцінкі я сустракаў пазней, чытаючы ўжо цэлыя творы, адкуль яны былі ўзяты, як добрых, даўно знаёмых сяброў. І ад гэтага, як мне здавалася, твор набываў яшчэ болей і сілы і хараства.

Адным словам, падрыхтоўка мая была неважнецкая, саматужная. Дый перарывалася яна хатняю работаю. Я ўвесь час пасвіў жывёлу.

— Былі пад маім началам у нашым невялічкім статку бугай і баран. Вельмі ў згодзе жылі паміж сабою. Бугай надзвычай любіў біцца. Згледзіць на другім беразе чужы статак — і туды. Тут ужо ні пугаю, ні калом не запыніш. Пераплыве раку і пачынае ўсё мэтлашыць.

Баран хоць і не любіў вады, але неяк усё ж плыў за ім услед. Калі два бугаі браліся ў рожкі, баран разганяўся і біў чужога бугая пад рабро. От такая была непераможная пара.

З гэткімі пастухоўскімі прыгодамі многа не навучышся. Пасля кожнага бугаінага паядынку ўсчыналіся сваркі, уздымаўся вэрхал. І перш за ўсё пападала пастуху.

— Зімою мне было зацішней вучыцца. Узяўся памагаць мне другі Антось, дзядзька па матчынай лініі. Паганяў ён мяне па граматыцы, а пасля даў дыктоўку. І здзівіўся: правіл не ведаю, а памылак няма. Гэта мне тое перапісванне твораў па памяці памагло: я запомніў, як пішуцца асобныя словы і цэлыя сказы, хоць і не ведаў, чаму гэтак трэба пісаць.

Вывезла мяне гэта і на прыймовым экзамене. Нам дыктавалі «На тяге» Тургенева. Я напісаў дыктоўку без памылак, усяго адну кропку забыўся паставіць.

— А вось спяваць я зусім не ўмеў і больш за ўсё баяўся экзамену па спевах. Думаў, правалюся. А бацька падбадзёрваў: «Нічога, разяўляй рот на вярсту і цягні. Паступіш».

— Нарэшце прыйшоў трывожны і чаканы час. Падапранулі мяне чысцей, сабраў я свае кніжачкі, маці перахрысціла на дарогу.

Пасадзілі на воз і — на экзамен. Выязджалі мы ў Нясвіж напач. На дарозе папасвілі каня ў лузе, а прыехаўшы ў мястэчка, спыніліся ў заезджай. Там — духата, смурод. Пасля нашага лясного паветра я ніяк не мог заснуць. Сядзеў там на лаве і толькі слухаў, як гэта салодка храпе бацька. Вядома, трывожыла мяне таксама іншае: што будзе, ці ўдасца хаця паступіць.

Я цвёрда паважыў: калі не паступлю — сыду з хаты, не стрываю, калі мне ў вочы пачнуць пароць за невуцтва. Куды я пайду — сам не ведаў. Чамусьці думаў, што наймуся на пабудову чыгункі, буду сыпаць пясок на наспу і ўкладаць шпалы.

А яшчэ больш вабіла жыццё на смалакурні. Цішыня, адзінота. Можна думаць і запісваць усё, аб чым памарыцца.

Перамучыўся я ноч у бруднай і смярдзючай заезджай. У семінарыю прыйшоў, як у храм. Няўжо ж я тут буду хадзіць і жыць, у такім дзівосным месцы? А настаўнікі? Няўжо гэтыя людзі, непрыступныя, як міністры, будуць гаварыць са мною?

Праўда, міністраў ні тады, ні пазней аж да цяперашняга часу я ніколі не бачыў. Толькі паступіўшы, напаткаў у нейкім часопісе з нашай семінарскай бібліятэкі партрэт міністра народнай асветы Дзялянава з выкалатымі вачамі. Гэта яму адпомсціў хтосьці з семінарыстаў за тое, што не дапускаў да асветы «кухарчыных дзяцей».

Нарэшце экзамен. Папродаў я тут дрыжыкаў. Але паступіў усё ж такі.

Не хутка аціхлі нашы хваляванні і ўтаймавалася радасць. Потым нам абвясцілі, што можна на некалькі дзён пайсці дадому, забраць патрэбныя рэчы.

Выйшлі мы з хлопцамі пад вечар. Адышліся крыху, селі адпачыць ды ўзялі і паснулі. Прахапіліся і ашаламаніліся: давай ісці назад у Нясвіж! Спынілі нас начлежнікі: «Дык вы ж не ў той бок прастуеце, хлопцы!»

# З-ЗА СЕМІНАРСКІХ СЦЕН

*Адкуль пайшла назва — Нясвіж? Падарожжа ў маладосць. Атос Мушкецёркін. Уэлс і Грын. «Слесар» у лесе. Матчына мова за руку павяла. Мы едзем на Нарач. Вецер і вершы. Танк ведаў, дзе нарадзіцца. Легенда пра Паненскае возера. «Божыя сабакі» і іх настаўнікі. Бязлітасны выкрывальнік. Вілюйскі выгнаннік. Чалавек народжаны перамагаць. Колас і Каўпак.*



Ранняя вясна.

Канстанціну Міхайлавічу не сядзіцца ў пакоі.

— Як там, прыбыла вада ў Свіслачы?

Невыразнасць майго адказу — я такі не паглядзеў на рэчку, забыўшыся, што перш за ўсё ён спытае аб разводдзі,— выклікае скептычнае слоўца:

— Эх вы, моладзь. На галоўнае не ўважаеце. Давай з'ездзім хіба...

Аднак тут жа адхіляе свой намер:

— Няма чаго глядзець. Кожную раніцу хапаюць прымаразкі. Не будзе паводкі. Няма вады ў рацэ, няма і збожжа на полі.

І ўспамінае, як бушаваў Нёман, больш чым на вярсту заліваючы сенажаці.

— Для гэтага трэба раптоўная вясна. Некалькі цёплых хмарных дзён. І каб дожджык церусіў. Тады снег з'ядаецца ў момант, і пераваль равуць, быццам ім хто пяты падпякае.

Была адна такая вясна, калі я вучыўся ў Нясвіжы. Нічога не мог рабіць,— вось, думаю, вазьму пад вечар ды ўцяку дадому. Гляну на Нёман і ноччу ж назад. Ого, каб зрабіў так! Моцна нас трымалі ў шорах.

Якраз тады маю ўвагу мімаволі прыцягнула мінулае нашага горадка. Семінарскія знаўцы гісторыі спрачаліся адносна яго назвы.

Мне падабалася такое тлумачэнне. Некалі на месцы Нясвіжа было гарадзішча крывічоў, недаступнае

для заваёўнікаў. Аўладаць ім ніхто не мог, не ўдавалася заслаць лазутчыкаў — віжоў. Падкупіць на гэтую ролю каго-небудзь з абаронцаў таксама было нельга. «Несть віж!» — няма віжоў, казалі тады. Два словы зліліся ў адно і сталі назваю. Калі мае таварышы і выдумалі гэтую гісторыю, дык зусім верагодна.

Народ мала абыходзіла назва, ён бедаваў у песні аб тым, што кепска жыць:

Не даваліся Кішку
Мы ў шырокую кішку,
А князь Ра́дзівіл нішкам
Нас глынуў разам з Кішкам.

Гэта складзена пра пераход Нясвіжа ад роду Кішак ва ўладанне князёў Ра́дзівілаў. І пачатак добрай прымаўкі пра тое самае помню: «Кішка без дна, ды была адна». Далей гаварылася, што ў Радзівілаў ненаедных кішак безліч было. А вось, мусіць, самая ўдалая прыпеўка:

Калі правілі Кішкі,
Выдзіралі нам кішкі,
А прыйшлі Радзівілы —
Рвуць і кішкі і жылы.

Семінарыст К., потым яго выключылі за непаспяховасць, нават матыў да яе падабраў. Ён быў выдумшчык і бажыўся, нібы так спяваў сам Сымон Будны, калі падпіў, замочваючы выхад свайго катэхізіса ў Нясвіжы.

— Залазіць самому ў гісторыю ахвоты не было, не хапала і часу. Вучыцца, асабліва на першай пары, даводзілася многа. Не зразумееш якога-небудзь тлумачэння, глядзіш у падручнік і адчуваеш сябе, як у цёмным лесе.

Але маё навучанне штурхалі ўперад тры рэчы. Перш-наперш — уласнае самалюбства. Як гэта я магу атрымаць двойку, а сусед па лаўцы аграбае пяцёркі. Потым — кожны з нас баяўся, каб не зволілі, калі пачнеш адставаць. Прыдраўшыся да выпадку, выкідвалі і здольных хлопцаў за іх яршыстасць.

Самае галоўнае, што ў мяне пакрысе пачало абуджацца замілаванне да выбранай прафесіі. Мне бы-

ло ўсё роўна, куды паступіць, абы вучыцца, бо ведаць заўсёды хацеў пабольш. Я пачаў па-сапраўднаму старацца, калі ўбачыў магчымасць прыкласці і перадаваць свае веды.

Паспрыялі гэтаму таварышы, сярод іх былі сапраўдныя энтузіясты настаўніцкай справы. На такі троп стаў узыходзіць і я. Разважаў наіўна, але недзе і правільна. Скончу семінарыю, атрымаю школу, вывучу некалькі соцень чалавек. Сярод іх знойдуцца такія, што праслепяць столькі ж сама невідушчых вачэй. І мае таварышы, аднакласнікі, будучыя настаўнікі, не менш зробяць.

Сіла! Ёю ўжо тое-сёе можна падважыць. І пераменіцца ўсё наша жыццё. А што падважваць і мяняць жыццё трэба — мяне пераконвалі вясковае гібенне і нягоды нашай сям'і.

Рабілі сваю справу і гаворкі семінарыстаў. Не ўсе мы і не адразу зразумелі, куды кіруецца наша выхаванне. У нас зводзілі на нішто асобу. З раніцы да вечара ўсё адно: бог і цар, цар і бог. Адзін на небе, другі на зямлі, роўны богу. Але бог падакучыў нам з маленства, а ад цара ніхто нічога людскага не бачыў. Вынікалі пачуцці, непажаданыя і богу, і цару, а найбольш нашым выхавальнікам.

Мітрапаліт Філарэт з яго «Начертанием церковно-библейской истории» нам згадзеў. Мы ненавідзелі і яго, і яго кнігі самай чорнай нянавісцю. Гатовы былі расправіцца з «Начаткамі» па ўзору майго брата Алеся і злажыць віну на пацукоў, бо катоў у семінарыі не было.

Прыпомніўшы эпізод з «Новае зямлі», Канстанцін Міхайлавіч паглыбіўся ў развагі. Відаць, перад ім узнавіўся час, калі ўяўленне непакоілі незабыўныя малюнкі маленства, выклікаючы яшчэ не акрэсленае і не ўсвядомленае памкненне даць ім форму, замацаваць у слове.

Ен адсунуўся ў куток канапкі, да балконных дзвярэй, успёрся локцем на падушку і сядзеў нерухома, не адрываючы вачэй ад верхавін маладога саду і клубястых воблакаў, што раіліся, даганялі адно другое і адплывалі з поля зроку.

Сядзеў, стараючыся не варушыцца, і я. Мінула з паўгадзіны.

Канстанцін Міхайлавіч не змяняў паставы, не абзываўся. Можа яму стала блага? Але гэтая трывога зараз жа развеялася: грудзі яго падымаліся лёгка, правая рука пачала адстукваць такт, потым знайшла левую, і пальцы скрыжаваліся. Аднак усё гэта рабілася як быццам у сне, у рухах не было пэўнай выразнасці. Так чалавек спрасонку абганяе з твару дакучлівую муху ці пераварочваецца на другі бок.

Рыпнула крэсла — я неасцярожна ўспёрся на спінку. Канстанцін Міхайлавіч падхваціўся на ногі і падняў на мяне адсутныя вочы.

— А-а, і ты тут. Я не чуў, калі ты зайшоў.

Ён зараз жа адмахнуўся рукою ад гэтых слоў, варочаючыся ў сцены свайго кабінета, да не так даўно перапыненай гаворкі.

— Выбачай. Я зараз зрабіў падарожжа на паўсотню год назад. Сядзеў у семінарскім класе і рашаў трудную задачу. Побач хлопцы пацеюць: адзін язык на губу палажыў, другі нос у атрамант упэцкаў. Лычкоўскі за настаўніцкім сталом цікуе: хто першы знойдзе адказ і пачне пасылаць шпаргалкі. А з задняй лаўкі нехта кулаком пад рабрыну совае: «Стары, давай рашэнне!»

Канстанцін Міхайлавіч пацёр левы бок, нібы яго сапраўды штурхнулі кулаком.

— Галоўнае — так усё добра бачыў! Партрэт Ламаносава на сцяне, усіх семінарыстаў на звыклых месцах. У некаторых гузікі ў каўняры расшпілены ад натугі. Быццам перада мною кіно круцілі: толькі я не збоку пазіраю, а і сам дзейнічаю.

Выйшаў на балкончык, паглядзеў на загусшыя хмары, нібы дапэўняючыся, дзе ён зараз, скончылася ці не ягонае сненне.

— Шкада,— загаварыў, зноў сеўшы на канапку.— Наша ўяўленне можа адкручвацца толькі назад, паказваць тое, што было. Лепей бы ўяўляць яшчэ нябачанае. Колькі ўдалых кніг можна было б напісаць! Абы навучыцца ствараць характары і абставіны сілаю душэўнага зазірку наперад. Мне страчаліся такія спробы.

— Не, не Уэлс,— ён зрабіў адмаўляючы рух, па-

чуўшы названае мною прозвішча фантаста.— Чаго добрага, яшчэ Жуль Верна ўспамянеш. Я не дабраў смаку ў творах Уэлса. Праўда, чытаў яго ў сталым веку. А ўражанне такое: паскрабі Уэлса кіпцем, адстане нязвыклая шалупінка, і далей пойдзе тое, што бачыў, ведаеш. А падробка пад нязнанае ўмелая.

Я думаю пра Аляксандра Грына. Яго летуценнікі, іх нястрымная ўява — гэта ўжо нешта спрэс новае. І вось што цікава: як прачытаў у яго першы сказ — адразу музыка. Нейкі інструмент мяккі, грудны, з кропелькай патайнай трывогі. Як альтовая скрыпка. Гучыць лагодна, а потым устурбуецца. Павядзе цябе на гару, прымусіць зірнуць у прорву, пагрэе на сонцы і апырскае халоднай вільгаццю. Я ў Грына моцна надыхваюся марскога ветру, грудзі ходзяць, як у дваццаць гадоў. Чытаў ты яго?

Цяжка было не здзівіцца, што Канстанціну Міхайлавічу мог запомніцца аўтар «Пунсовых ветразей», такі далёкі ад яго манеры.

— Якраз таму і падабаецца. От паглядзі. Моладзь, і даўней і цяпер, прысмоктваецца да Дзюма. Думаеш, прыгоды мушкецёраў вабяць? Не, далечыня таго жыцця. Вядома, каб кепска было напісана, не чыталі б. А то які-небудзь Мазарыні такі выразны, хоць аблай яго ды па мордзе дай.

Пераказваю Коласу, як я падслухаў у трамваі размову двух школьнікаў. Адзін перадаваў другому змест «Трох мушкецёраў». «Тады,— захліпаючыся ад захаплення, гаварыў чарнявы малы,— тады ён схапіў шпагу...» — «Хто?» — перапытаў другі хлопчык. «Атос, самы старшы мушкецёркін...»

Канстанцін Міхайлавіч разрагатаўся.

— Твардоўскаму гэта павінна ўпадабацца. Васіль Цёркін выцікае Атоса і Партоса. Слаўна! А сустракаў ты ў Грына такое апавяданне?

Ён нагадвае змест «Барацьбы са смерцю». Цяжка хворы, па твары і паводзінах доктара, па робленым смутку паналятаўшых на дзяліцьбу спадчыны сваякоў, зразумеў, што ён асуджаны. І вырашыў супраціўляцца.

Ноччу ўстаў і, хоць падаў і некалькі разоў млеў, апрануўся. Потым, перакульваючы крэслы, дапоўз да буфета, выпіў нагбом бутэльку каньяку, выбраў-

ся на двор і акунуўся ў басейн з ледзяною вадою. З не меншымі цяжкасцямі прарабіў шлях да ложка, паўтарыў дозу алкаголю, лёг, навярнуў на сябе ўсе коўдры і вопратку і страціў прытомнасць.

Раніцаю доктар канстатаваў агонію. Сваякі пачалі заломваць рукі, плачучы ад радасці. І тут хворы прачнуўся, зірнуў на іх светлымі вачыма і крыкнуў, каб цягнулі есці, далі пірага, віскі — «усяго і многа».

— Калі чалавек хоча жыць, дык будзе жыць. Толькі трэба стаць паўзверх свае часовае слабасці. Грын не перакладаўся на нашу мову? Дарма. Я гэтае апавяданне ўключыў бы ў школьныя чытанкі.

Ледзь прыкметная сцежка ў лесе поблізу Балачанкі. Старая хвоя разгалінавалася ў два бакі, тоўстыя лапы вычварна выгнуліся, утварылася нешта падобнае да пастаўленай канцамі ўгору дугі. У развіліне сядзіць Канстанцін Міхайлавіч, у нагах у яго кошык, амаль пусты.

Гэтакі кадр потым удалося зняць для фільма «Народны паэт».

— Маё крэсла, можна змясціцца ўдваіх,— ён трохі падсоўваецца.— А там яшчэ лепш,— кажа ён, наглядаючы, як я ўмайстроўваюся, адкідаючы шышкі з падсохшай, выветралай гліцы.— Толькі, можа, сыравата, каб не застудзіўся. Добра тут. Яшчэ б столік на адной ножцы, можна прыязджаць пісаць.

Ён змаўкае. Верхавіны шумяць мякка, супакойваючы. Ветрык пераганяе нагрэтае паветра дадолу, надзімае кашулю, высушваючы пот. І ад гэтага шум хвой здаецца таксама цёплым.

Першыя пагодныя дні вясны.

Мы збіралі смаржкі, цяпер у грыбнікоў часінка перадышкі.

З недалёкага парасніку на балотцы абзываецца птушка.

Канстанцін Міхайлавіч прыслухваецца:

— Захаладае. «Слесар» паслугі прапануе: ці не трэба паравое ацяпленне правяраць?

Ён прыкмеціў гэтую птушку і ацаніў яе прароцтвы, наязджаючы ў Дом творчасці ў Каралішча-

вічах. І ахрысціў яе па-свойму — «слесарам». Вельмі ж звонка і няспынна паўтарала яна, вымаўляючы зусім па-чалавечы, сваё птушынае слова: «Вінцімвінцім-вінцім».

— Я часамі прыеду сюды, сяду, задумаюся... Ахамянуся, а ўжо вечар сонцу падміргвае. Гэта семінарыя стукаецца, напамінае, што менш за ўсё пра тую пару напісана. Правалы ў свядомасці, вось як тады,— Канстанцін Міхайлавіч мае на ўвазе нядаўні выпадак у кабінеце,— пачаліся ў мяне якраз з семінарыі. Я адбываў у «стан іёгаў» — гэтак смяяўся Самахвал, мой будучы Тукала. Я задумваўся і застываў, утаропіўшыся ў кніжку. Бары, лясныя дарожкі, наша хата, светлае лона Нёмана — аж туды перакідвала мяне думка. Выразна чуў стук тапара ў лесе, здаецца, ён усё глыбей уядаецца ў камель, я ўсхватваюся з месца і адскокваю ўбок, каб не зачапіла, падаючы, падсечаная хвойка.

Знікне гэтае зданне, і я ўжо як быццам боўтаюся ў азярыне, дастаю рыбу з сеткі. Акуні. Луска слізкаватая. Рукам робіцца холадна, я пачынаю абціраць іх аб порткі, нібы і сапраўды ў сетцы корпаўся.

Альбо так здаралася. Уяўлю, што я дома, наўкол мяне стаяць хатнія і мікалаўцы. І давай гаварыць уголас. Пытаюся нешта ў іх, сам адказваю.

Прыводзіў да прытомнасці смех. Сянкевіч ці Самахвал згорталі далонь у трубку і раўлі над самым вухам: «Костусь! Агу-у! Дзе ты? Вярніся...»

Выпраўляла мяне ў такія сны песня жаўранка. Пэўней сказаць, спачатку птушка чуць ціўкала ўвушшу. Потым песня снавалася ўсё гучней, і пад шчабятанне я адлятаў у вандроўку.

Жаўранак і дасюль больш гаворыць майму сэрцу, чым іншыя птушкі. Салаўя ж першы раз пачуў і спалохаўся, слёзы паліліся. Так гэта было хараша. Як маланка, якую я любіў і ў той жа час баяўся.

Сядзеў я. неяк перад скачэннем школы каля нашай альбуцкай хаты. Нас адпусцілі дамоў перад вялікаднем. Вясна ў той год пазнілася ці вялікдзень быў ранні. Адно лес стаяў голы, у кустах лапінкі чорнага снегу ляжалі. Над дваром заспяваў жаўранак. Я заслухаўся. Пасля нешта абазвалася ў нут-

рах. І словы выразна вымаўляюцца. Я пачаў іх запісваць. Гляджу, выйшаў верш.

За байкі я і раней браўся, але каштавалі яны многа поту і мазалёў. Атрымлівалася нязграбная пераніцоўка вычытанага ў Крылова. Усё ж вынікамі быў давольны, хоць браты начыста высмеялі мяне. Ведаючы крылоўскую «Варону і лісіцу», гэта зрабіць было няцяжка. А я так і назваў свой твор ды яшчэ вывеў абедзвюх гераінь чулымі і добрымі. Як тут не кпіць! Сялянскі хлопец добра ведае, што варона дурная, а ліс хітры.

Мы з братам моцна паспрачаліся, ледзь біцца не счапіліся. Я затаіўся, пісаў хаваючыся, а калі штонебудзь не ўдавалася, не адступаўся і падахвочваў сам сябе: «А ў Крылова ж выходзіла».

Напісаны вершык усцешыў мяне. Відаць, і я паэт! Я ўжо не раз запыняўся над гэтым іменем, чытаючы кнігі. Думаў — паэт стаіць над усімі чыста людзьмі, як пушкінскі прарок. Сціплы жаўранак здаўся мне не менш як «шасцікрылым серафімам», і я пачаў паўтараць:

> Моих ушей коснулся он,
> И их наполнил шум и звон...

Канстанцін Міхайлавіч устае.

— Ну, а чаму верш лёгка напісаўся, ты ўжо здагадаўся сам. Матчына мова за руку павяла. Да гэтага я па-беларуску не пісаў.

Мы едзем на Нарач. Там яшчэ не было дамоў адпачынку, возера не збірала на свае берагі мноства турыстаў, дачнікаў і курортнікаў.

Трое нашых сяброў з'явіліся піянерамі асваення гэтай цудоўнай мясціны. Максім Танк, галоўны агітатар і прапагандыст нарачанскай прыгажосці, пасяліўся ў канцавой хаце прыазёрнай вёсачкі Купа. Ён угаварыў Аркадзя Куляшова і Міхася Лынькова развітацца з Караліпчавічамі і вырвацца на сапраўдны прастор, лесавы і вадзяны.

Здаўся на ўгаворы навяўленых нарачанцаў і Канстанцін Міхайлавіч, выбраўся паглядзець...

Ён прыкметна ўзбуджаны недалёкай сустрэчай. Яму хочацца скараціць дарогу, хутчэй апынуцца ў людзей, якіх заўсёды рад бачыць, чыіх кніг чакае з нецярплівасцю і адразу ж бярэцца за чытанне.

Некалькі разоў успамінае Танка. У Радашковічах я прыгадваю, што Максім расказваў, як вучыўся тут у беларускай гімназіі. Часта галадаваў, браў напавер селядца ў краме. А пад свята дыбаў пешкі сотню кіламетраў дамоў, амаль пад самую Нарач.

— Максім, Максім,— нібыта сам сабе кажа Канстанцін Міхайлавіч.— Моцна ён сядзіць каранямі ў зямлі. Такіх бура не вырывае. Цяжка яму было прабівацца. Вы ўсе па вольнай зямлі хадзілі, а ён спрабаваў голас у такой жа бядзе, як і я калісьці. Толькі на нейкіх трыццаць гадоў пазней. І ў турме таксама пасядзеў. Як толькі ні жартуе час: Максім — чалавек у самай сіле, [redacted] я ў дол гляджу, а лёс змушаў яго грызці гэтакі ж чэрствы сухар. Нават у такой самай занядбанай школе вучыўся. Усё гэта вельмі хіне да яго маё сэрца.

Сваю сардэчную схільнасць Канстанцін Міхайлавіч неаднойчы выказваў Танку ў вочы. Вярнуўшыся [redacted] пахавання жонкі, Колас сядзеў за жалобным сталом, нібы яшчэ не верачы ўсяму, што адбылося, што яго спадарожніца больш не ступіць з ім ні на адзін з далейшых шляхоў. Калі мы пачалі падымацца, каб пакінуць яго ў коле сваякоў, Канстанцін Міхайлавіч устаў і нечакана цвёрдым голасам, [redacted] ў гэты дзень яго мы зусім не чулі, затрымаў нас:

— Не спяшайцеся. Дзякуй, што не пакінулі сёння мяне аднаго. Спадзяюся, што не кінеце і надалей адзінокім. Многа я страціў, і душа просіць, каб сям'я мая не меншала.

І звярнуўся да Танка:

— Мне хацелася б, каб Максім дазволіў лічыць яго маім сынам.

Больш гаварыць не здолеў, толькі прыцягнуў для пацалунка Максімаву галаву.

Бяжыць дарога...

За Маладзечнам спыняемся на папаску. Пакуль мы з жонкай даставалі дарожны падмацунак, Канстанцін Міхайлавіч зрабіў некалькі крокаў па хвойніку і вывалак з моху крамянага баравіка.

— На Якуба і грыб глядзіць,—весела паведаміў ён, на хаду перарабіўшы прыказку.

Знаходка разважыла яго ненадоўга. Прасілі выйсця думкі, што апанавалі яго пры параўнанні двух падобных у цяжкасці сваёй юнацтваў. Загаварыў. Словы гучалі глухавата і адцягнута, аднак нібы невідочнай ніткай змацоўваліся з нашай папярэдняй размовай аб пачатковых кроках у літаратуры.

— Такою парою, як зараз, можа, крыху раней, але паказвала ўжо на восень, я ехаў чыгункаю. Хутчэй за ўсё — у Люсіна, на сваё першае настаўніцкае месца. Я пасадзіў там дрэвы каля школы, пэўна, яны адны засталіся па мне ў той мясціне.

Дык вось, стаяў я каля акна ў вагоне, гартаў сшытак з семінарскімі творамі. Збіралася навальніца, секанулі па шыбах кроплі. Хачу падняць акно — яно не паддаецца, недзе заела. Я ўзяўся за рамяні абедзвюма рукамі і зусім забыўся, што трымаю сшытак. А тут віхор, вырваў з рук той сшытак і пагнаў немаведама куды. Толькі старонкі мільгнулі...

Страта сама па сабе не вельмі засмуціла мяне. Спадзяваўся на памяць: будзе час, засяду і аднаўлю патрохі. Але ў грудзі падкацілася трывога, ці не чакае такі лёс усё маё пісанне наогул. Наляціць бура, выхапіць самае даражэйшае, выб'е мяне з каляіны. Будзе вось так жа бегчы машына, будуць гаварыць пра сваё чужыя людзі... А ты бяссільны — ні спыніць, ні пабегчы ўслед. Хоць недзе топчацца ў гразь тое, над чым праводзіў бяссонныя ночы.

Прадчуванне паглыбілася. Быў ужо такі выпадак са мною ў лесе. Вецер выхапіў з рук паперы, падняў вышэй хвоі, і ў момант яны зніклі з вачэй. Але там было ўсяго некалькі старонак з вершамі.

Што ж, думалася, прарочыць гэты выпадак? Не спраўлюся з работай, звольняць са школы? Ну і дармо! Я ж крэпкі, малады, знайду куды прыстроіць рукі. Аднак міналі гады, нічога кепскага не здаралася. А сталася, калі я забыўся пра свае трывогі... Турма...

— Зараз паедзем,— Канстанцін Міхайлавіч зірнуў на гадзіннік.— Можа і добра, што тая пісаніна не захавалася. Лёс Лабановіча ўвабраў у сябе задуму «Аднаго з сотні». Гэта мусіў быць празаічны твор. Я вёў героя Сошкіна ад семінарыі і далей у жыццё.

Увайшло ў «палескія аповесці» адно апавяданне, раней напісанае ў вершах. Помніш, дзядзька Раман расказвае Лабановічу пра Яшукову гару?

Нейкі час шкадаваў я паэмы аб настаўніцкім з'ездзе. Але аповесць мая якраз перапаўзае гэтыя падзеі. Калі я пісаў аб іх, дык увесь час рукою нібы кіравала тая паэма.

Рэшта страчанага забылася. Быў яшчэ «Страх»— кампаноўка чутых ад дзядзькі Антося апавяданняў. Чалавек едзе з кірмашу і на п'яныя вочы ўспамінае розныя страхі. Успамінаў, успамінаў ды прыснуў. І вось што сасніў. Нібы ўз'ехаў ён на свой двор, а там яго нябожчык-бацька выпускае з хлявоў жывёлу. Пачыналася рэч нішто сабе:

Ехаў Сёмка цераз грэблю —
Плюхата і гразь.

— Трэцяга радка, хоць забі, не ўспомню,— кажа Канстанцін Міхайлавіч.— А далей так:

Чуўся мэрам князь.
Лыкнуў дзядзька паўкватэркі,
Вось табе і смел...

Адным словам, добра чуўся, як мы з табою зараз, падмацаваўшыся.

Канстанцін Міхайлавіч забраў баравіка і, уважліва разглядаючыся па баках, ці не прытаіўся дзенебудзь яго напарнік, пакіраваўся да машыны.

Мы рушылі далей. Сяк-так выехалі з Вілейкі, потым пачалі блытацца па аб'ездах. Дарогу я забыў, дый ведаў яе кепска, бо ехаў тут аднойчы, адразу ж пасля заканчэння вайны. Канстацін Міхайлавіч спачатку непакоіўся, пасля аддаўся на волю лёсу і махнуў рукою:

— Некуды ж прыедзем!

Гаворка аднавілася.

— У семінарыі я пісаў і па-руску і па-беларуску. Нячыста, вядома, трасянка была, а не мова. Аднак напісанае па-беларуску лепш успрымалася маімі слухачамі, дый пісаць так было мне лягчэй.

Дзяліўся я сваімі думкамі з семінарыстам Зяневічам. Ён быў гады на два старэйшы за мяне. Нішто

хлопец, але з прэтэнзіямі. Лічыў, што ўсё на свеце ведае і разумее. Гэта мой першы і самы бязлітасны крытык. Надумаўся я падкузьміць яго. Кажу аднаго разу: «Я хачу пачытаць табе свой верш».

Зяневіч важна надзьмуўся, зрабіў сур'ёзную міну. Я прачытаў яму нешта лермантаўскае. Мой сябар учыніў Міхаілу Юравічу такі разнос, што тольκі сцеражыся. З пісараўскай хваткай выкпіваў няўмельства, кідаў на галаву аўтара гром і маланкі.

Я сабе маўчаў, ціхенька пасмейваючыся. Калі суровыя філіпікі скончыліся, запытаўся: «А ці ведаеш ты гэты верш Лермантава?» І прачытаў яму толькі што напісаны, свой.

Зяневіч слухае, ухвальна ківае галавою: «О, адразу відаць, што паэт напісаў. Сам бачыш розніцу: якая глыбіня, якая музыка!»

Тут я выкрыў сваё ашуканства. Зяневіч не паверыў, прыйшлося тыцнуць яго носам у кніжку. Мы нават крыху пасварыліся, але ненадоўга. І з гэтага часу ён стаў асцярожнейшы, не так выхваляўся сваім усяведаннем.

Крыху пачакаўшы, Канстанцін Міхайлавіч дадае:

— Звычкі крытыкаў амаль не змяніліся. Бяссмертная глухата ў іх. Нішчаць і бэсцяць чалавека, пакуль хто-небудзь высокі не скажа, што гэта выдатнейшая з'ява эпохі. Тады возьмуцца хваліць так, што ад ялею і ладану знудзіць можа.

Канстанцін Міхайлавіч успамінае ўлюбёнае:

— «Где силой взять нельзя, там надобна ухватка». Рознымі шляхамі прыходзіцца дамагацца прызнання. Я гэтак не толькі Зяневіча, а і роднага бацьку падашукаў. Прачытаў яму свой верш за чужы. А ўжо як бацька ўпадабаў, я прызнаўся, што напісаў сам. Тады ён не паверыў ці прыкінуўся, што не верыць. Напэўна, хацеў памучыць мяне за ману.

У мяне слёзы на вачах, а бацька ўсё адно гаворыць: «Пакажы, адкуль спісаў». Нарэшце адпусціўся. Настрой у яго быў пад градусам, прыйшоў дадому, зрабіўшы візіт у карчму ці ў манапольку. Прыгарнуў мяне, пацалаваў: «Прабівай, кажа, дарогу, як можаш. На мяне спадзявацца няма чаго. У мяне багацця, як у шляхецкага жаніха: дзяркач лесу і

зямля пад кіпцямі. Ды можа скора ў дзервяны кажух апрануся».

Бацька некалькі разоў так пра смерць загаворваў. Прадчуваў, што доўга не пацягне. Тады адваліў ён мне срэбны рубель. Хацеў, мусіць, даць менш, доўга перабіраў драбязу ў калітцы. Ганарар на тыя часы немаленькі, асабліва для пачаткоўца. Я і пазней з ахвотаю аддаваў бы вершы за такую цану. Але ад таго бацькавага рубля да першага ганарару прыйшлося папачакаць. Толькі за «Родныя з'явы» атрымаў сотню рублёў. У дзве ці ў тры ра́ты...

За ўзбярэжным сасоннікам бліснула істужка вады.

— Нарач?

— Пакуль што Баторын, дзядзька Якуб.

Ён вылез з машыны, паглядзеў на акаймаваныя чаротам і сітнягамі берагі.

— Гразка тут. Мусібыць, ракаў многа. Ведаеш, як іх ловяць? Вазьмі глыбокі кош і ўвяжы шпагатам на самым дне кавалак мяса. Такога, каб пах быў чуцён. Стаўляй тады кош у зацішное месца каля берага. За гадзіну наспаўзаецца поўна ракаў. Самых вялікіх. Ніводнага меншанькага не пусцяць.

Мінуўшы Мядзель, паехалі берагам Нарачы. Усе гэтыя дваццаць кіламетраў Канстанцін Міхайлавіч праседзеў моўчкі. Усхвалёваны подыхам вялікае вады, ён глядзеў на зеленавата-сінюю разлегласць з белаю выпушкаю перадвячорных хваль, на ледзь значны ў смузе процілеглы бераг.

Пасля вячэры, у вастраватым і лёгкім змроку заасянеўшай начы, седзячы каля кастра, ён прамовіў, нібы ў адказ на вясёлую Танкаву ўсмешку:

— Хітры ты, Максім! Ведаў, дзе нарадзіцца.

Ён гаварыў з намі, усцешаны прасторам вялікага спакою і цішыні. І ў голасе чулася засмучэнне, што пазнавата паказала яму родная зямля гэтае дзіва, можа найлепшае з свайго немалога хараства.

Мы даўно ўжо ў Мінску. Але не-не дый успомніцца падарожжа. Ад таго часу Канстанцін Міхайлавіч прыязджаў на Нарач кожны год. Палюбілася крынічка са сцюдзёнай і салодкай вадой, што бег-

ла ў возера, прабіўшы бок пясчанага ўзгорка, чысты шчыры бор, дзе ніхто ніколі не сустрэў ніводнага гада, лагодныя размовы прыдрамаўшай хвалі на дробным светлым пяску.

Ціхая любасць тачылася з яго вачэй, калі пасярэдзіне возера, на роўнай з марскою глыбіні, нас захапіла навальніца. Чорныя вагары ўставалі ў рост чалавека і хвасталі, пераліваючыся цераз борт вялізнага рыбацкага кацера. Кацер то ўзлятаў угару, то раптоўна правальваўся ў прорву.

Спалоханымі галасамі абазваліся нашы спадарожніцы — жанкі. Стала страшна і не жанчынам.

Нашы трывогі не зачапілі Канстанціна Міхайлавіча. Ён сядзеў спакойна і, здавалася, як заўсёды, радаваўся сліпуча сінім пісагам маланак, цяжкім ударам грому і даўгому раскацістаму водгуллю іх на вадзе. Толькі настаўляў руку супроць асабліва буйных пырскаў, якімі няскупа залівала нас возера.

Вецер пагнаў хмары далей, ваганне скончылася. Абтрасаючы пінжак, Канстанцін Міхайлавіч дабрадушліва жартаваў з Лынькова, якога ён называў то шкіперам, то сухапутным адміралам:

— Я думаў, Міхась гэта усё сумысля падстроіў, хацеў мяне напалохаць. А потым бачу, ён больш, чым я, калоціцца.

Гэтая прыгода, вядома, была расказана хатнім і ўсім сябрам у Мінску.

— Час Нарач людзям аддаць. Пакуль што яна нічыя. А лепшай курортнай мясціны пашукаць трэба. Забудаваць берагі, каб можна было блізка і нядорага адпачыць. Толькі спачатку парабіць добрыя дарогі. І вада лячэбная можа знайсціся. Рукі прыкладаць пара.

З такімі прапановамі Канстанцін Міхайлавіч звярнуўся да ўрада рэспублікі. Год ад году Нарач пачала асвойвацца і засяляцца.

— Некалі мне вельмі прыгожай мясцінай здаваўся Нясвіж,— кажа Канстанцін Міхайлавіч, адышоўшы ад нарачанскіх прыгод і прыгадак.— Падабалася возера пры замку, Паненскае. Усё хацелася дазнацца, чаму яго так назвалі. Спрабаваў дадумацца і выдумку сваю доўга помніў.

Быццам у замку жыла дзяўчына. Вучылі і вы-

хоўвалі яе разам з князевымі дочкамі. Яна не помніла свайго роду. Маці рана памерла, а бацьку забіў князь на паляванні, калі той наганяў яму пад стрэльбу лася. Нічога гэтага дзяўчынка не ведала. Думала, што яна дачка збяднелага князевага сваяка. Так ёй гаварылі. Толькі і ў выгодзе парывала яе туга. Убачыць вясковых дзяўчат у касцёле ці пачуе, як жанчыны пяюць у полі, і затужыць.

Князь прысватаў ёй жаніха з радавітае шляхты. Сабралася панства з усяе акругі гуляць заручыны. Многа прыехала маладых паненак. Уначы дзяўчына не магла заснуць, выйшла ў парк і спалохалася. Насустрач сунулася жаночая постаць.

«Здань!» — падумала дзяўчына і хацела ўцякаць. Аж гэта была тая жанчына, што выкарміла князя грудзьмі. Звалі яе мамкаю. «Не палохайся,— кажа мамка,— я мужычка, дый ты ж не паненка. Ты родная дачка майго няшчаснага брата, што загінуў ад князевай рукі». І расказала дзяўчыне ўсю праўду. «Мае дзеткі, табе хочуць зрабіць злое: каб стала ты паняю, напладзіла панянят і аглухла да гора бедных людзей. Слухай, можа зварухнецца ў табе мужыцкая крыўда. Няма ў мужыка другое затулы, толькі лес, поле і вада. Вось вада табе і дапаможа».

Надышла другая ноч. Заручылі дзяўчыну і перакінулі банкет на возера. Можа сто лодак пусцілі туды. Наперадзе плылі маладая з маладым, за імі панічы з паненкамі.

На самым глыбокім месцы падпялася дзяўчына. Запляскала ў ладкі і гукнула: «Паненкі! Я навучу вас хадзіць па вадзе!» Бацька маладога буркнуў пад вусы: «Гэта толькі пан Езус мог рабіць».

Дзяўчына глянула на яго і адрэзала: «А сёння будзе новы цуд!» Скок з лодкі і пайшла, лёгенька, на пальчыках, але ўсё роўна як па сухім. А ніхто не ведае, што дзяўчыне возера памагае, бо мамка заваражыла ваду. «За мною, панны, не бойцеся!» — кліча яна і ўсё далей ідзе.

Пачалі паненкі адна за адною скакаць у возера. Як толькі з лодкі, дык і на дно. Паны былі добра паўпіваўшыся, кінуліся на ратунак і самі сталі тапіцца. Толькі жаніх даплыў да дзяўчыны. Хацеў

схапіць, але яна павяла рукамі і ўзляцела лябёдкаю. Пакружылася над возерам і крыкнула не птушыным, а сваім, дзявочым, голасам: «Прыйшоў звод на панскі род».

Стары князь схапіў стрэльбу, злажыўся, ды штурхнула яго пад руку мамка. Пацэліў ён не ў дзяўчыну-лебедзя, а ў свайго адзінага сына-падлетка. «Прыйшла табе, княжа, адплата за майго брата»,— паспела сказаць мамка і ўпала нежывая.

— Вось табе і Паненскае возера.— Канстанцін Міхайлавіч хвілінку перачакаў.— Не зусім самастойная гісторыя, крыху з фальклору пазычана. Я мерыўся ўвесці гэта ў «Сымона-музыку».

Пачалі глядзець паэму. На першым раздзеле апошняе часткі ён спыняецца.

І якіх убораў толькі
На паненках не было!
Завушніцы і пярсцёнкі
Так і ззяюць і гарáць.
Як у восак, стан іх тонкі,
Вочы зорамі глядзяць.

Прачытаўшы, нібыта яшчэ раз узважвае, ці правільна адмовіўся ад гісторыі пра возера.

— Яно-то было б да месца, каб паэма не набліжалася да заканчэння. Гэтая прыгода магла закасаваць ігру Сымонкі перад князем. А тут было важней, каб ён расказаў, як з дуба састрэлілі галінку з жолудам. Увесь сэнс у Сымонавых словах: «Думка ходзіць, дзе захоча». У яго ўжо спее намер уцячы...

Канстанцін Міхайлавіч крыху памеркаваў.

— Відаць, яшчэ раней трэба было брацца за патапленне. Каб дзед расказаў пра яго, калі пачуўся стук тапара ў парку. Тады ўспамін аб даўняй помсце панам перагукваўся б з новым насланнём на іх. І Сымон меў бы болей падставы прарочыць: «Гора будзе тваіму дому».

Ён некаторы час маўчыць. Нялёгка расставацца з ужо гатовым, выпашаным. Але патрабавальнасць мастака бярэ верх.

— Усё ж такі не трэба. Цяжкасць не ў тым, куды паставіць паданне. Яно самастойнае, патрабуе разгорнутага расказу. Пачнеш скарачаць — будзе невыразна. А раскажы падрабязна — будзе затрым-

ка. Так што забудзем покі што Паненскае возера. Калі яно сапраўды спатрэбіцца, дык успомніцца і цвёрда стане на месца.

— Сягоння зноў гасціў я ў юнацтве,— сустрэў мяне праз некалькі дзён Канстанцін Міхайлавіч.— Мала і глуха напісаў я пра Нясвіж, пра настаўніцкую семінарыю. Малюнкі таго жыцця ўсё часцей наведваюць мяне...

— За рыначным пляцам у Нясвіжы стаялі таполі. Яны як бы адгароджвалі семінарыю ад горада. Гэта ў пэўнай меры пасавала да характару яе. Жылі мы адарваныя ад свету, ледзь не пад замком.

«Каб хутчэй як вырвацца з гэтага чортавага калегіума!» — пад злую руку гаварылі мы. І, відаць, нездарма. Многае ў нашым выхаванні супадала з прыёмамі колішняй езуіцкай школы. У Нясвіжы брацці-езуіты доўга такі калечылі маладыя душы. Нешта падобнае рабілася з намі. З другога боку — семінарыя з'яўлялася нібы продухавінай. Куды яшчэ маглі падацца сялянскія дзеці?

Быццам кроплі са страхі, прадзяўбала нам мазгі розная непатрэбшчына. Паспрабуй вось завучы такі кавалачак.

Канстанцін Міхайлавіч, пасмейваючыся, чытае на памяць:

«Засим вскоре должны были произойти состояния: господина, родителя, гражданина и право собственности. Все сие как полезное и необходимое для рода человеческого в теперешнем его состоянии без сомнения утверждено самим богом...»

— Забыўся далей. Пасля такой штукі самую складаную тэарэму глынеш, як пірог з макам. Я заўсёды адпачываў, калі браўся за фізіку ці геаметрыю. А то зубрыш-зубрыш, ачмурэеш, хоць на сцяну лезь. Тады выручаў Алесь Сянкевіч. Грымне сваім густым голасам, яго так і звалі — Бас: «Адчыняй дзверы з курнаі хаты! Прасвяжы чарапы, божыя сабакі!» Гэта была каманда курыць. Мы смяяліся і ішлі выганяць туман дзяшоваю табакаю.

— Божыя сабакі? — Канстанцін Міхайлавіч адказвае на маё запытанне.— Папярэдніцай нашай семінарыі некаторым чынам была дамініканская школа *. У ёй, па-мойму, Сыракомля вучыўся.

— Так і мінала наша жыццё за заслонаю таполяў. Галоўны ўваход у семінарыю быў з плошчы. На двары змяшчаліся кватэры дырэктара і настаўнікаў і наш студэнцкі інтэрнат. Семінарыя мела два сады. Адзін пры самым вучэбным корпусе, а другі — насупраць інтэрната, цераз вулачку. Сад гэты быў абгароджаны мураванаю сцяною.

На свята іом-кіпур богабаязныя арандатары саду маліліся, каб адхіліць з'яўленне нячыстай сілы. Семінарысты, пагрукаўшы ў сцяну каламі, як таранам, ішлі на прыступ. Лезлі ў сад і ўчынялі рабунак. Адзін толькі К. навалакаў у інтэрнат цэлыя мяхі ігруш. Высыпле на падлогу: «Частуйцеся!»

— Апраналіся мы ў семінарыі проста. Не ведаю, ці можна назваць гэтую вопратку формаю. Нешта падобнае насілі і вучні каморніцкіх школ. Наверх — чорнае паліто. Шапка — чорная, аколыш сіняваты, на ім цэшка, з літарамі «УС» — «учительская семинария». Мы, праўда, расшыфроўвалі гэтыя літары іначай, непрыстойна.

Порткі таксама насілі чорныя, запраўлялі ў боты з напускам. А кашуля — з чырвонага паркалю, рускага крою. Так званая касаваротка.

Хто лепш вучыўся — залічалі на казённы кошт. Рублёў дваццаць з нечым прыпадала на нос у кожную чвэрць. За гэтыя грошы нас кармілі, адзявалі, куплялася папера.

Харчаваліся мы з агульнага катла. Нешта трапілася аднойчы такая паласа: якую страву ні паспытаеш — несалёная. Нехта адразу ж выдумаў, што гэта «пане кахапку» ажыў і скупіў усю соль у Мінску, Слуцку і ў Нясвіжы. А мы засталіся з недасолам.

Канстанцін Міхайлавіч падрабязна пераказаў распаўсюджанае апавяданне пра Карла Радзівіла

з яго ўлюбёным зваротам «пане каханку». Гэты князь, ахвотнік шырока пажыць і пакрасавацца багаццем, нібыта надумаўся ўлетку з форсам праехацца на санях.

Здабыць у гэты час снегу нават такому магнату не ставала кішэні, і дарогу ў замак густа пасыпалі соллю.

— Можа і праўда,— дадае Канстанцін Міхайлавіч.— Звалі ж дзе-нідзе шляхту «недасолкамі». За тое, што быццам іх продкі ў часе князевага праезду панаграбалі цішком у аброчныя торбы солі з-пад палазоў. Радзівіл угневаўся: «Што, панове, не маеце чым у гаршку пасаліць?» І загадаў нашуфляваць ім той солі поўныя брычкі, каб не было дзе сесці.

Патрапала дадому шляхта пешкі за сваімі каламажкамі. І брыдка, і соль высыпáць не хочацца. А сяляне зараз жа мянушку прыляпілі: «Дома за капейку трасуцца, несалёным душацца, а соль з гасцей возяць. Чыстыя недасолкі!»

На гэтую мянушку крыўдзіўся семінарыст Міхайлоўскі. Яго брат служыў дзелаводам у нашай канцылярыі. Гэта яшчэ паддавала гонару Міхайлоўскаму. Быў ён хлопец цікавы, здольны, праўда, зубрыла і чэсталюбец. Скончыў курс першым. Меў вялікую вытрымку, не злаваўся, брыдкага слова ад яго не ўчуеш.

Аднойчы мы паспрачаліся. Я дражнюся: «Зраблю так, што ты засярдуеш і пачнеш лаяцца». «Не, не буду!» Я пайшоў з інтэрната, а хлопцам наказаў: «Перадайце Міхайлоўскаму, хай возьме ў мяне пад падушкаю паперку». А там было напісана: «Недасолак, на солі!» Міхайлоўскі прачытаў і не вытрымаў: забыўся на нашу спрэчку і аблажыў мяне на самым высокім узроўні...

«Ну і Стары! — падхвальвалі мяне таварышы.— Мы думалі, хутчэй замак абернецца, чым Міхайлоўскі зазлуе».

Потым мы памірыліся, я яго перапрасіў.

— Аднакласнікі амаль не звалі мяне па імені. Усё Стары ды Стары. Часамі яшчэ гаварылі Бацька. У нас у кожным класе быў свой Стары. Меў я тады

немалую сілу. Дужацца са мной баяліся. Бывала, падыму рукі, падагну кулакі да плячэй:

«А ну, хлопцы!»

З кожнага боку навешаецца мне на рукі чалавекі па тры. І як ні пнуцца, не могуць адагнуць мае рукі ўніз. А я толькі крутнуся, і яны пасыплюцца, хто куды.

«Слухай, Стары, а можаш ты каня пакаціць?» — пытаюцца, паўставаўшы з падлогі.

«Магу! Вядзіце яго сюды!»

«Ты б і рад! А які дурань дасць жывёліну калечыць. Пакаці лепш Лычкоўскага».

— Лычкоўскі быў нашым класным настаўнікам аж да выпуску. Прыдзіра, крыклівы, а каб сам быў развіты, дык не надта. Выкладаў арыфметыку, геаметрыю, чарчэнне. Ён прапусціў цераз свае рукі багата вучнёўскіх пакаленняў.

«Вас яшчэ на свеце не было, калі я прыйшоў у семінарыю! — стукаў ён пальцам па стале і вымаўляў па складах: — У адна тысяча восемсот семдзесят дзевятым годзе! Можаце ўявіць, колькі ёлупняў перавярнулася перад маімі вачыма. Не ведаеце нічога, а запэўняеце, што ўрокі вучылі. Не тыя мазгі, каб мяне ашукаць».

Калі семінарыст адказваў няправільна, Лычкоўскі гаварыў:

«Кепска».

Хлопец спрабаваў папраўіцца, яго амаль не слухалі:

«Яшчэ горш».

Нарэшце, прымусіўшы разы тры паўтарыць правільны адказ, Лычкоўскі падымаў руку ўгору і агалашаў:

«О-о-о! Так!»

Здаралася, што адказам яму ніяк нельга было дагадзіць. Тады наш настаўнік глядзеў на стол, складаў набожна рукі і хрысціўся:

«Во имя отца и сына...»

Аднак Лычкоўскі быў настаўнік не з горшых. Касцей не пераядаў, перабіраў толькі меру ў патрабаваннях. Хацеў, каб яго клас ішоў наперадзе.

Канстанцін Міхайлавіч спыняецца. Відаць, новы малюнак ажыў у яго ўяўленні. Ажывае і ўсмешка на вуснах.

— Чуў пра такое мястэчка — Бе́здзеж? Яно часта ўспаміналася ў семінарыі. Калі хто-небудзь з семінарыстаў хітраваў, мы кпілі: «Э, хлопец, ці не з Бездзежа ты?» Гэта ў стары час быў Кобрынскі павет.

Пра мястэчка расказвалі, быццам бабы там такія спрытныя, што без дзяжы хлеб месяць. І хавай цябе божа што-небудзь у бе́здзежца купляць. Абавязкова ашукае. Будзе божкаць, клясціся, усё роўна не вер.

Кляліся бе́здзежцы, напрыклад, так: «Калі няпраўду кажу, дык не дай мне, божа, спажыць тое, што ў запазусе». А як «тое» спажыць, калі дзядзька, едучы на торг, хаваў пад кашулю цагліну. І гэтак яшчэ гаварылі: «Калі выйдзе на тваё, дай бог, каб я жонкі дома не застаў». Страшны праклён, але бе́здзежац і ў вус не дзьмуў. Ён жа ведаў, што жонка да сваякоў у другую вёску паехала. Як яе дома застанеш!

У 1863 годзе ў Бе́здзежы моцны паўстанцкі рух быў. Мураўёў пасылаў рэгулярнае войска на падаўленне. І яшчэ цікава: у тым мястэчку існавала адна з першых у Беларусі ланкасцерскіх школ. Настаўнік займаўся толькі з лепшымі вучнямі, а тыя ўжо вучылі слабейшых.

Я аднойчы, не ведаўшы ўрока, зарабіў у Лычкоўскага пяцёрку. Ён задаў мне пытанне, а сам заўважыў, што нехта з хлопцаў кнігу чытае. Пачаў крычаць. Я ў гэты час рэжу голасна, але адказваю зусім не тое.

Лычкоўскі ахаладаў, учуў толькі апошні сказ. Перапытваць было няёмка, вось ён і гаворыць:

«Добра! Вы заўсёды пашыраеце межы пытання. Навука грунтуецца на ўзаемных сувязях».

Папаздзекаваліся тады аднакласнікі:

«Абхітрыў Лычкоўскага! Па ўсім відаць, ты не мікалаўскі, а бе́здзежскі».

— Неяк пад Новы год атрымаў Лычкоўскі ордэн Станіслава. Цешыўся, як дзіця. А мы разоў дзесяць

віншавалі яго. Калі баімся, што пачне выклікаць, адразу хто-небудзь устае з лаўкі і давай адчытваць віншаванне.

Лычкоўскі расчуліцца, пачне гаварыць, што ордэны даюцца за заслугі, а каб мець заслугі — трэба добра вучыцца. Тым часам палавіна лекцыі і пройдзе.

Потым ён гэтыя хітрыкі разгадаў і перапыніў аднойчы віншавальніка:

«Чакайце, я ж новай узнагароды не атрымліваў...»

А хлопец не разгубіўся:

«Тое,— кажа,— гаварылася ад нас усіх, а цяпер прыміце мае асабістыя пачуцці...»

---

Ідучы за плынню гаворкі ў юнацтва, Канстанцін Міхайлавіч на вачах змяняецца. Званчэе голас, маладзеюць і робяцца шырэйшымі рухі, мова бяжыць лёгка, без паўз на падшукванне вастрэйшага выразу; нават крок, калі ён набліжаецца да стала ці кніжнай шафы, здаецца пружыністым, нібы цела страціла вагу сёмага дзесятка.

Тое, што трэба было б даручыць пяру, усё, чаму належыць стаць старонкамі будучай кнігі, выкладаецца вусна. Не проста расказваецца, а пішацца фарбамі слова, часамі жорсткага і грубаватага, але заўсёды скупога і дакладнага, як праўда бачання, тая самая, што неадступна стаіць перад вачыма, вядзе ад карціны да карціны, калі ён, паводле кплівай заўвагі школьнага таварыша, пераходзіць «у стан іёгаў», аддаецца ўяўленню.

Хутка, энергічна, густа, рукой, да якое прыйшла шчаслівая пэўнасць, кладуцца мазкі на невідочнае палатно. І каб майстар мог адысці ад работы, кінуць на яе позірк прыжмуранага вока — ці ўсім відно тое, што яму хочацца? — ён застаўся б здаволены. Відно. Уся душэўная мускулатура прыведзена ў дзеянне.

Апавядальнік, а за ім і слухач міжволі пераносяцца на паўстагоддзя назад. Яны пачынаюць убірацца ў пер'е жаўтаротых выхаванцаў настаўніцкай школы ў маленькім, заштатным, выключаным са спіса павятовых гарадоў імперыі напаўмястэчку, напаўгарадку.

Маладыя трывогі і радасці, нявінныя забавы і падманы, уласцівыя ўсім чыста студэнтам і вучням, душы, шырока адчыненыя для жыцця і яго праяў, і — перад усім — маладосць! Уся ў пошуках дарог, у імкненні пазнаваць, у безразважным бунтарстве, прагавітая на дасведчанне, несутрымная, з сінцамі ад першых няўдач, з паапяканымі пальцамі, бо не ўмее яшчэ перш падзьмуць, а потым хапацца за гарачае, аднак незраўнаная, незраўнаная ні з чым!

Так, з гэтае пары ён пачне новую кнігу. Ужо вымаўляецца яе назва: «За 50 год». Толькі б завяршыць «На ростанях» — і за працу.

У рэзкім тоне асуджэння «семінарскай прамудрасці» не-не дый пракінецца нотка добразычлівасці да свае першай і адзінай школы. За грунт для наступнага засеву, які здолела прырыхтаваць маладая нецатольнасць да навукі, вылузваючы зернеткі яе з сухіх, прасмердшых казённым накірункам лекцый і кніг. За тое, што нарадзіўся ў тых душных сценах пратэст супраць увязнення чалавечай волі ў мурах яшчэ большай турмы, турмы народаў.

За таварыскі гурт верных сяброў, з кім давялося шукаць сцежкі ў рэвалюцыю.

І яшчэ за адно...

Гэта ж пад нізкаватым семінарскім дахам адкрылася яму магчымасць прыкласці неакрэсленую здольнасць да цвёрдай дзейнасці, якая потым зрабілася стрыжнем жыцця.

На самоце, застаўшыся адзін праводзіць вакацыі ў інтэрнаце, меўся праглынуць ён найменей паўсотні кніг. Аж і адпае было занадта. Узяў яе ў бібліятэцы, ды так і не выпусціў з рук. Перагорне апошнюю старонку і зноў вяртаецца да пачатку.

Дзіўная неадхільная ўлада генія паланіла магутнымі відовішчамі прастору сонечных стэпаў у незлічоных колерах, казачнай шырынёю Дняпра, да сярэдзіны якога далятае не кожная птушка, вадаспадным шумам сельскага кірмашу, дзе «валы, мяхі, сена, цыганы, гаршкі, бабы, пернікі, шапкі — усё ярка, стракатa, бязладна мітусіцца кучамі і снуецца перад вачыма».

Бязмежная, здавалася б, весялосць дзіканькаўскіх вечароў то змушала рагатаць, то чамусьці шчым-

ліва сціскала сэрца, і яно рвалася і рыдала, паспытаўшы на смак няўроненую слязу бацькоўскага гора ў развітальным Тарасавым поклічы: «Чую!»

Як блізка і знаёма ўсё гэта!

Можа тоії дзівосны кірмаш грымеў і палыскаваўся не ў Сарочынцах, а ў Стоўбцах ці ў Свержані? Можа ў майскую ноч не парубак Леўка пазнае вядзьмарку сярод тапельніц, а ён сам бачыць, як бедная дзяўчына вучыць папенак хадзіць па нясвіжскім возеры? Чаму певыгоіны смутак засцілае плёнкай святло і радасць, на якія нібыта так багата кожная гогалеўская старонка?

Гэта глядзіць проста ў душу непрыфарбаванае, неаздобленае, сапраўднае жыццё народа.

«Бязлітасны выкрывальнік», паводле пазнейшага азначэння Якуба Коласа, быў вельмі шчодры ў адносінах да семінарыста Міцкевіча. Гогаль як бы прачыніў перад ім дзверы ў запаветнае, адхіліў заслону ў невядомае, куды больш за ўсё хацелася зазірнуць,— у сакрэты неўміручага майстэрства маляваць словам. Больш таго: падзяліўся гэтым сакрэтам, хутчэй — даў зразумець, што яго тварэнні — верх магчымай для чалавека дасканаласці! — ёсць усё ж праца чалавечага розуму і пачуцця, вынік настойлівасці чалавечай рукі.

Значыць, можна і трэба рызыкаваць! Быць смялей, напісаць аб тым, хто зараз, воляй часу і лёсу, бізуна і штыка, загнаны на самы спод жыцця і хоць прыроўнены ў правах і магчымасцях да жывёлы, але куды прыгажэйшы сэрцам, багацейшы парываннямі за ўсіх, каму, не праўдай, а толькі крыўдаю, удалося ўгібаць кіраўнічы кій і рассесціся зверху. Прыдушыць так, каб ніпгто, барані божа, не пусціла зялёнага парастка.

Пара такі праўдзе браць верх! Яна — у народзе. Значыць, пісаць пра народ і для народа.

На гэты раз намер выспеў канчаткова. Якім жа чынам ажыццявіць яго? Раней за ўсё авалодаць умельствам кантрасту, якое раскрыў вялікі настаўнік.

Велічна-супакойнае хараство прыроды — і панурае гібенне абяздоленага чалавека.

Шырачэзныя палеткі, неабсяжныя бары, паўнаводныя рэкі — да паслуг пана, князя, чорта, д'ябла, і неўрадлівы — з вераб'іны скок — загончык, мала шырэйшы за адвечны надзел на вясковых могілках — тры аршыны ў даўжыню, два ў глыбіню, гнілая сажалка, дзе ні напіцца, ні ўтапіцца, нарэшце — распараныя бярозавыя дубцы ў валасным праўленні — для задаваленыя мужыка, бедака, абадранца, бесхацінца.

Галодныя вочы дзіцяці — і хцівая ўчэпістасць тлустых шчэлепаў, якія, бачыш ты, не могуць есці іначай, як на залатым посудзе...

Навошта ж лічыць тыя кантрасты, калі іх безліч, глянь уважлівымі вачыма каля сябе і пішы! Дармо, што ў пачатковых спробах будзе адчувацца настаўнікава прысутнасць. Кожнае дзіця, становячыся на ногі, самастойна адольвае цяжкую навуку хады, хоць ужо існуе тысячагадовы вопыт чалавецтва перасоўвацца пешкі. Тут не выкруцішся: не зрабіўшы першага кроку, хадзіць не навучышся.

Некалі, яшчэ ў маленстве, на пісанне баек падштурхнуў Крылоў. І ў дзесятку вершаў, пазапісваных у сшыткі пазней, лёгка пазнаецца рука літаратурнага павадыра. А калі ты носіш у сабе толькі табою ўбачанае і пачутае, дык, напэўна, і будзеш гаварыць пра гэта па-свойму!

Хіба ж мала гаруе і радуецца ён, Костусь, запісваючы тужлівыя песні і апавяданні аднавяскоўцаў? Хіба ж не горкім жалем і смехам дыхаюць гаворкі блізкіх яму людзей? Хіба не бляднеюць іх твары ад гневу і лютасці, калі прыгадваюцца бясконцыя пакуты, калі пераліваецца глыбокая мера цярпення і прыгнечання?

Простыя людзі даўно ўжо размежавалі два светы: чужы — са збыткаваннем нажытага з уціску і гвалту багацця і свой — мужыцкі, бядачы, галодны і халодны. Яны гавораць стрымана, іпакшсказальна: «Бог няроўна дзеліць». А колькі акіянаў чалавечага гора закіпае ў гэтых словах, колькі сонцаў распаленай нянавісці гарыць у іх!

Значыць, не дашукацца праўды мужыку ні на

зямлі, ні на небе! Начорта ж тады той бог, калі ён, стварыўшы першага чалавека і даўшы яму ва ўладанне зямлю з усімі выгодамі, раптам не хоча дзяліць усё пораўні між ягонымі нашчадкамі! Што ж яны — зрабіліся горшыя? І калі адбыўся яго, божы, падзел на горшых і лепшых? Ён, хто мусіць быць увасабленнем справядлівасці, не выконвае сваіх уласных запаветаў. Тады выходзіць, што бог і ёсць найпершы крыўдзіцель чалавека.

Дык прэч такога бога, бо ён толькі хітрая выдумка тых, хто прагне падперці сваю гвалтам узятую ўладу наказамі і ўстанаўленнямі сілы звышнатуральнай, якой быццам бы павінны падпарадкоўвацца ўсе і не пераступаць яе волі.

— З гэтым я і выйшаў да свядомага пісання,— кажа Канстанцін Міхайлавіч.— Так што пэўная пашана да семінарыі ў мяне ёсць. Хоць бы за тое, што здабылося насуперак яе клопату. Сеялася там пакора, а вырастаў бунт.

І далей успамінаецца яму...

Невядома адкуль, але не з бібліятэкі, трапіла ў інтэрнат і пайшла вандраваць з-пад адной падушкі пад другую зачытаная кніжачка. Лепш сказаць — сшытак, абгорнуты ў моцную сінюю паперу і змацаваны тоўстай суравою ніткаю. А ў ім — адбіткі з часопіса, асобныя артыкулы.

Таварыш шапнуў, перадаючы: «Не трымай навідавоку: Чарнышэўскі!» Прозвішча не растлумачыла, чаму трэба таіцца. Тады, таксама ўпошапкі, пераказалі біяграфію: рэдактар «Современника», рэвалюцыянер, сядзеў у крэпасці, пасля амаль да канца жыцця гараваў недзе за светам, у Вілюйску.

Пачаў чытаць і збаяўся: не, не дабярэшся да сэнсу, не сягнеш у такую глыбіню! Паралелі з розных галін навукі, вандроўкі ў гісторыю чалавецтва і грамадскіх ладаў, нечаканыя параўнанні. Як зразумець іх, калі для гэтага трэба перавярнуць гару кніг, каб дазнацца, што з чым параўноўваецца. Да таго ж яшчэ імёны філосафаў, аб іх у семінарыі нават не чулі.

А гэты чалавек абыходзіцца з усім так вольна, здаецца — волат перастаўляе дзіцячыя пабудовы з

карт, гаворыць лёгка і горача, быццам б'е ў яго з грудзей несутрымны струмень, і воку адкрыты яшчэ большыя скарбы. Ён стаіць дзесьці высока-высока, зірнуць на яго можна, добра задраўшы галаву і абавязкова прыжмурыўшыся, як на сонца.

Некаторыя выразы з кнігі хочацца запісаць. Гэтага, кажуць, рабіць не варта, лепш завучыць. І калі запомненыя мясціны па некалькі разоў паўтараліся самому сабе, супастаўляліся, расчытваліся глыбей, стала відно: іх злучае вострая, сліпучая, як пошуг маланкі сярод цёмнага лесу, думка.

Тут семінарыст неспадзявана адчуў, нібыта ў рукі пашчасціла залавіць меру для багата чаго: перш за ўсё для ўласных трывог і разваг, для напісанага ім самім і другімі, а найбольш — для паднесенага яму ў выглядзе спрадвечных і непарушных ісцін.

Што ні прыкідалася на той аршын, усё ляцела потырч! Звышпатрыятычныя старонкі падручнікаў, ялейная філасофія «айцоў царквы», на што трывалыя, здавалася б, асновы праваслаўя і самаўладства, закрашаныя подліўкай веры і пададзеныя моладзі з абавязковым гарнірам вернападданніцтва праз дагодлівых пісак,— усё гэта рассыпалася на пацяруху ад першага ж дотыку магутнай крытычнай думкі.

Паглыбляйся ў яе, калі забракуе дасведчанасці, не стане сілы дадумацца самому, не знойдзецца спрактыкаванасці сабрацца з доказамі, абвергнуць недарэчнае, крыўднае, несправядлівае, супраць чаго абураецца пачуццё, але не можа раструшчыць жалезная логіка разважання. Насустрач табе заўсёды выйдзе, падтрымае і, калі трэба, пасвеціць на дарогу ясны розум вілюйскага выгнанніка з поўным патайнага значэння, абкружаным арэолам падзвіжніцтва і прыхаванай любві адных і адкрытага зневажання і здзеку другіх, яшчэ крыху страшнаватым, але ўсё больш і больш павабным імёнем — рэвалюцыянер.

Менавіта так: пасвеціць на дарогу. Бо ён жа ўвесь час гукае на яе: ідзіце, праторвайце шырэй!

Гэтак думалася і адчувалася колішняму семінарысту.

Цяпер народны паэт успамінае аб сваім раннім душэўным узрушэнні, удзячны таму, хто клікнуў яго ў сваю дарогу.

— Неяк у Мінску,— кажа Канстанцін Міхайлавіч,— мне захацелася глянуць на тыя артыкулы Чарнышэўскага. Пачаў гартаць і забыўся, чаго шукаю. З тыдзень праседзеў чытаючы. Затое знайшоў цікавы ўрывачак. Там Чарнышэўскі адным сказам акрэсліў постаць Гогаля.

І адразу ж прыгадвае амаль слова ў слова:

«Ён сказаў нам, хто мы такія, чаго не хапае нам, да чаго павінны імкнуцца, чым грэбаваць і што любіць».

Пазней Колас у артыкуле пра Гогаля вернецца да многіх з выказаных толькі што думак. Зараз яны змяняюць адна другую, перапыняюцца развагамі аб ролі і значэнні настаўніцтва ў розным разуменні гэтага слова.

— Настаўнік не той, перад кім ты сядзіш на лаўцы або стаіш на каленях. Сапраўдны настаўнік уваходзіць у душу і ўжо не расстаецца з табою. Не ведаеш, што рабіць,— папытай, а не спытаеш — ён усё роўна параіць, моўчкі.

Гэтак ён працягвае думаць пра вялікіх, каго звычайна па-руску называе, ужываючы стары націск, «учители». Але Канстанцін Міхайлавіч не хоча такім чынам зневажаць тых, перад кім сядзеў на парце. Як ні кажы — настаўнікі! Якія б ні былі благія, з вымудрамі, няхай абдзеленыя жывым імкненнем да лепшага, заціснутыя службовымі абавязкамі, скалечаныя прагаю да рубля і кар'еры, але ўсё ж людзі. І нечаму ж, вольна ці не вольна, павучылі. Недзе ў глыбіні істоты ён ставіцца да іх лагодна, не з любасцю, вядома, як да Яські Базылёвых, а з пэўнай цеплынёй.

Іначай дзеля чаго б яму было цікавіцца лёсам сваіх семінарскіх выкладчыкаў у далейшым. А то ж ведае, што Меліяранскага, дырэктара, перавялі ў Магілёў, паставілі таксама дырэктарам, але над народнымі вучылішчамі. І праз гэта выпускнікі не шукалі пасад у Магілёўскай губерні, не хацелі быць пад тым самым вокам. Справа змянілася, калі Меліяранскі быў прызначаны начальнікам жаночай гімназіі ў Брэст.

Вось Лычкоўскі так увесь час і пратрымаўся ў Нясвіжы. Болей за стацкага саветніка не выслужыў,

але атрымаў прыстойную пенсію і яшчэ адзін ордэн, здаецца, Уладзіміра.

Старыя званні — калежскі асэсар, калежскі сакратар, стацкі саветнік — выклікаюць жартлівы каментарый:

— Саветнікі былі розных рангаў — тытулярныя, надворныя, стацкія, сапраўдныя, тайныя... У «свіныя галасы» — гэта пара на захадзе сонца, калі свіней гоняць з пашы і яны працяжна вішчаць і рохкаюць,— сядзелі мы, будучы семінарыстамі, у гумне аднаго з нашых хлопцаў. Я вызірнуў на вуліцу, убачыў статак і хацеў сказаць: ідуць надворныя свінкі, а вымавіў саветнікі. Ад таго часу, як пачую гэты тытул, забірае смех.

Раз у Пінску нейкі чыноўнік адрэкамендаваўся ў кампаніі: «Надворны саветнік такі і такі». Я не ўтрымаўся і запытаў: «А ў кормныя хутка трапіце?» Той прыняў усур'ёз: «Хіба, кажа, уведзена такая ступень?»

Хацеў я яму растлумачыць, што надворныя ў статку ходзяць, а кормныя ў катуху сядзяць, швайкі чакаюць. Спыніў сябе: бяды, думаю, не абярэшся.

Перад самай вайною ў нас гадаваўся ўласны «кормны саветнік», белы япручок. Не так, каб на патрэбу трымалі. Мар'я Дзмітрыеўна і хлопцы мае любілі жывёлу, і мне хацелася, апрача сабакі, нешта жывое мець у двары.

Мінск ужо гарэў, мы збіраліся ад'язджаць. Паадчынялі ў доме вокны і дзверы — можа людзям што спатрэбіцца, хай забяруць. Я хацеў сядаць у машыну, ды ўспомніў: яшчэ ж адна істота засталася — япрук. Выпусціў яго з хлеўчука. «Ідзі, кажу, белы, згарыш, а так недзе да гаспадара прыб'ешся».

Канстанцін Міхайлавіч змаўкае.

Цяжкая прыгадка павяла ўяўленне па дарогах вайны ў Ляўкі, дзе, сеўшы над Дняпром, думалі разам з Купалам адну бясконцую думу, як дапамагчы радзіме. Аб гэтым яны не раз гаварылі і пісалі ў Маскве, там і апошні раз абняліся.

Потым быў Ташкент, прыветны і гасцінны. Не так і многа пражыў у ім , але як на нецярплівае сэрца — вякі!

Нарэшце — дарога назад, зноў жыццё ў Падма-

скоўі, Мінск. Немаленькі шлях, але не гэтак здоўжыўся ён, таму што быў — зваротны.

Усе на свеце ведаюць: дарога дадому — карацейшая. Другая праўда: не заўсёды лягчэйшая бывае яна. Родны горад ляжаў у цяжкіх руінах, толькі пачыналі станавіцца на ногі змучаныя няволяю людзі.

Колас горка тужыў над магілай дома найлепшага друга, чыё сэрца ператварылася ў камячок попелу, над трунай дарагой спадарожніцы, па кім смуткуе кожны дзень і скардзіцца на адзіноту, і над папялішчам свайго дома, прытулку поўнай сям'і і творчай думкі. А пад якім курганам ляжыць у жвіры сын Юрка? Каб можна было адшукаць!

Канстанцін Міхайлавіч ходзіць па пакоі, адсякаючы праз хвіліну, а то і праз дзве кароткія, адрывістыя сказы. Потым кідае позірк на выразаны пад час летняга адпачынку кіёк.

— Выйдзем на хвіліну.

Марозіць. Рыпіць снег пад белымі валёнкамі на тоўстай падэшве. Проста за брамаю на рэдкім аранжавым воблачку пакалыхваецца бліскучы паўмісак з адбітым бокам. Рушыла з поўні. Канстанціну Міхайлавічу месяц уяўляецца булкаю хлеба.

— О, нехта ўжо добры акраец адхваціў. Можа змяніцца надвор'е. На глум ідзе месяцава работа: свеціць, калі людзі спяць. Але няхай свеціць, можа і спатрэбіцца калі. Ён жа бліжэй за ўсе нябесныя целы. Да яго першага і дабірацца давядзецца.

Мы некалькі разоў даходзім да будынка Акадэміі і вяртаемся назад. На бровы асела шэрань, ад гэтага вочы яго здаюцца суровымі. Суровей гучаць і словы:

— Чалавек народжаны для таго, каб перамагаць. Цяжкасці, няўдачы, прыроду. А найбольш самога сябе. Многа нязведаных закавулкаў яшчэ ў чалавечай душы. Вылезе часамі адтуль страшыдла. Падаб'е руку на благі ўчынак, падбухторыць язык на кепскае слова. Астыўшы, гляне чалавек на сябе збоку і не пазнае: я гэта ці не я? І каецца, дае зарок, каб заўтра нарабіць большага глупства. Немалая гэта перашкода ў нашай вялікай рабоце.

Узяць уладу над сабою цяжэй, чым камандаваць, загадваць, кіраваць кім-небудзь іншым. Хіба не клаліся на вагу лёсы краін, жыццё многіх тысяч людзей праз хвілінны настрой, страх страціць уладу, а то і проста жорсткасць аднаго. Гісторыя знае выпадкі... Зрэшты, я не пра Грознага гавару... Мог і не быць крывавы апошні дзесятак гадоў...

Амаль з досвітку ў нумар гасцініцы «Масква» Канстанціну Міхайлавічу носяць тэлеграмы, няма ўпынку тэлефонным званкам. «Рыбакова хата» атрымала Дзяржаўную прэмію.

Пад вечар крыху аціхае. Частка наведвальнікаў затрымліваецца: Аркадзь Куляшоў, ён сёння таксама стаў двойчы лаўрэатам, Іван Няхода, С. М. Гарадзецкі, старэйшы сын Канстанціна Міхайлавіча Даніла са сваім школьным сябрам, як і ён сам, хімікам. На хвіліну заходзіць Алесь Ганчар, жадае здароўя і знікае. Нікому больш з прысутных Канстанцін Міхайлавіч не дазваляе і паварушыцца:

— Сядзіце! Адпачнём і зноў пачнём.

Ён расказвае пра хлопца, што ўжо вырас даволі вялікі, а ўсё ніяк не адвыкаў ад матчыных грудзей. Аднойчы прыйшлі сваякі, пачалі сарамаціць малога, калі той стаў дакучаць маці. І хлопец адчапіўся. «От, бачыш,— пахваліла адна з цётак,— як добра. Сядзіш за сталом, як усе людзі, матчыну пазуху не дзярэш і жыў...» А хлапчына басам адказаў: «Адпачну ды зноў пачну».

Потым успамінаецца прыказка: «На каня трэба дубец, а на гасця прымус» і ці мала падобных.

Гасцям, нарэшце, удаецца адпрасіцца. Канстанцін Міхайлавіч бярэ з кожнага слова спаткацца тут жа заўтра.

Ён усё яшчэ не можа ўтаймавацца. Тупае па пакоі, час ад часу пазірае праз акно. Апусцелая Манежная плошча з рэдкімі тралейбусамі, якія менш затрымліваюцца на прыпынках, кіруючыся ў парк. Каля Крамлёўскай сцяны паварушвае чорным, яшчэ голым галлём сад. Але нездарма красавік некалькі дзён запар то прыграваў дрэвы сонцам, то, надзьмуўшы шчокі, апырскваў іх вільготнай сінечаю вясны.

Галіны здаюцца ажыўшымі, на іх прадчуваецца зеляніна.

На некаторы час гэта затрымлівае ўвагу Коласа. Ён выказвае жаданне выйсці на паветра і абкружыць колькі разоў гасцініцу. Адпак садзіцца ў мяккае крэсла і задумваецца.

— Чалавек мае дзіўную натуру,— ці то кпліва, ці то сумнавата гаворыць ён.— Сядзеў бы з людзьмі, гаварыў бы. Бо, застаўшыся адзін, мусіш нешта рабіць, думаць. Мала спачываюць людзі, вельмі мала. Іначай нельга. Мы працуем не толькі дзеля сябе, а каб сённяшняй працай падрыхтаваць чалавека да працы заўтра. Каб ён быў заняты, скажам, адну гадзіну на суткі. Рэшта часу павінна быць вольная. З гэтага стану заўсёды нараджалася вялікае. Закон сусветнага прыцягнення... Пушкінская «Восень».

Колас падняўся, зазірнуў у другі пакой. Яго сын з таварышам ужо спяць.

— Дзе яшчэ тая ноч, а яны ўжо хвасты адкінулі. От і чакай прагрэсу ў хіміі! Адна нетрываласць.

Нязлосна — гэта адразу чуваць — пабурчаўшы, ён паварочвае да мяне ўсміхнуты твар.

— Зрэшты, і добра, што мы адны. Ціха, можна спакойна пагаварыць.

Спасылаюся на позні час, на змору...

— А хто змарыўся? — падымаюцца светлыя вочы.

— Я, вядома...

— Ну, хіба што ты!

Канстанцін Міхайлавіч нібыта прымае жарт усур'ёз і пачынае збірацца на сон.

Спускаюся ў вестыбюль заказаць на раніцу тэлефонную размову з Мінскам. Пасля асцярожна, каб не рыпнуць, прачыняю дзверы і заходжу ў нумар. Дарэмная перасцярога! Ложак Канстанціна Міхайлавіча пусты.

Няўжо-такі пайшоў на праходку? Не, паліто на месцы. Саджуся за тэлефон і абзвоньваю нашых нядаўніх гасцей і знаёмых, што спыніліся ў гасцініцы. Потым пачынаю абход паверхаў: на кожным знаёмыя дзяжурныя, з імі ён любіць паразмаўляць. На-

рэшце, заходжу ў рэстаран. Як быццам і тут няма. Але, у самым кутку, падалей ад уваходу, дзве вельмі прыметныя галавы з паважнай сталасцю і нейкай мілай нестарэчай сівізной, Колас і Каўпак.

Канстанцін Міхайлавіч заўважае мяне і паказвае на мігі, каб ішоў да іх. Пакуль падыходжу, ён нешта гаворыць Каўпаку. Я кланяюся Сідару Арцёмавічу, па вачах суразмоўнікаў адчуваю: пахне нейкай змоваю.

Каўпак крыху затрымлівае руку ў поціску і гаворыць мне, як даўно знаёмаму:

— Здароў, здароў! Дзе ж ты бавішся? Мы цябе тут даўно выглядаем. Няўжо не ведаеш, дзе шукаць дзядоў апоўначы? У партызанах не быў? Вось я і бачу, што не быў.

Магутныя старыя рагочуць.

Радыя сустрэчы, яны не нагаворацца. Пра ўсё думаюць, пра ўсё дбаюць. А найбольш пра чалавека. Каб яму добра было.

І як тут не здзівіцца яшчэ раз з іхняга крамянёвага заводу, з замесу, на якім зроблены гэтыя асілкі-людзі...

...Глядзіш, зусім нядуж ляжыць,
А выведзі у лес ці ў гай,
Кляновіку напіцца дай,
Пачне цягаць галлё ў лаўжы,
Пасля сякерай махне,
Пасля на поплаве гукне,
Пракос пацягне да вады
У самы рыхт, як малады.
А каб старога прасмаліў
Ды зверху бляхай абабіў,
Дык праслужыў бы гэты дзед
Яшчэ з паўсотні зім і лет...

Гэтыя радкі падабаюцца Канстанціну Міхайлавічу.

— Некалі і сабе будзем старацца бляхі,— смяецца ён.

На пачатку 1945 года мы змовіліся сустрэцца з Петрусём Броўкам у маскоўскай гасцініцы «Еўропа», дзе ён жыў з сям'ёю да пераезду ў Беларусь.

— Дзядзька Якуб абяцаў заехаць.

Хвілін за дзесяць да дамоўленага часу, ведаючы крыху педантычную пунктуальнасць і гасця і гаспа-

дара, я стукаў у нумар да Броўкі. У падрыхтоўку стала ўносіліся ледзь улоўныя, пэўней, даступныя толькі гаспадыням, удакладненні і палепшанні.

Коласа яшчэ не было. Што ж, едучы з Клязьмы, мог і прыпазніцца. Аднак мінула гадзіна, павярнула на другую, а госць не з'яўляўся. Такое спазненне было не па Коласавай натуры. Толькі паднялі чаркі за здароўе адсутнага, як на парозе з'явіўся сам дзядзька Якуб. Затрымала яго, наколькі ўспамінаецца, змена ў раскладзе прыгарадных цягнікоў.

Гадзіны праз дзве, калі была скончана вячэра і неблагія такі, на ваенны час, прыпасы вычарпаны, Колас падняўся. Мы памкнуліся праводзіць.

— Не трэба,— запярэчыў ён,— я цвёрда на нагах стаю. А вось вы, чакаючы мяне, мусіць, здорава дзюбнулі.

І не паверыў, што мы ўсяго толькі чокнуліся...

# УРОК МАЙСТЭРСТВА

*Ці ў тую торбу сыплецца аброк? Я чытаю раздзелы аповесці. Паэт Міцкевіч з-пад Стоўбцаў. Герой крытыкуе пісьменніка... Што цяжэй пісаць? Зноў Гогаль. Як глядзець на срэбны рубель. «Людскія хвалі».*



— А ці не даволі ўжо калупацца ў старызне? — спытаў Канстанцін Міхайлавіч, падвёўшы больш-менш мяжу пад успамінамі пра настаўніцкую семінарыю.— Для твае мэты як быццам хопіць. Ты ж не збіраўся цягнуць кнігу да нашага знаёмства. Мала цікавага тут. Жыву, як усе людзі жывуць. Ды ты, мусіць, напісаў ужо з палавіну...

Вочы яго робяцца хітраватыя, у іх прабягае лёгкая смяшынка. Значыць, сцеражыся: зараз пачне кпіць ці скажа што-небудзь нечаканае. Так і ёсць.

— Вось што,— чую я,— хачу ведаць, ці ў тую торбу аброк сыплю. Прынось усё напісанае, будзем чытаць.

Адгаворкі, што зроблены толькі першыя накіды, нічога не перадрукавана і цяжка разабраць чарнавікі,— не памагаюць.

— Дармо, сам пачытаеш. Я дык магу кожным радком з табою дзяліцца, нават недаканчанае паказваю...

— То ж вы...

— А то ж — ты...

У голасе гатова прарвацца нездавальненне. Яно — рэдкі госць і такімі дробязямі звычайна не выклікаецца. Аднак усе добрыя сябры ведалі, што хаваецца пад лагоднай стрыманасцю Канстанціна Міхайлавіча, калі ён раптам перапыніць гаворку, кашляне, устане. Значыць, недзе пракінулася няўдачнае слова, нехта зрабіў ненатуральны рух. У

газеце надрукаваны легкаважны артыкул, не ў часе прыйшоў непрыемны яму, лішні чалавек.

Як цяжка маўчаў ён тады! Гаслі жарты, не давалі вынікаў ніякія спробы развесяліць, адхіліць яго ўвагу. Аж покуль непажаданы наведвальнік, адчуўшы ўвесь цяжар ягонага маўчання, не выскакваў, як корак, з пакоя. Тады ўсе ўздыхалі лягчэй, Канстанцін Міхайлавіч першы абзываўся вясёлым словам, і размова плыла, як быццам нічым і не азмрочвалася.

Гэта было вядома ўсім, і мы стараліся асцерагчы яго ад непрыемна ўражаўшых рэчаў. Заўважыўшы гэта, Канстанцін Міхайлавіч пачаў яшчэ глыбей хаваць адзнакі свае нездаволенасці. Аднак адрозніць, калі ў яго псуецца настрой, было няцяжка. Постаць яго быццам бы ахіналася плёнкай аддаленасці, здавалася — у пакой раптам насоўваецца духата і ціснe на плечы, асабліва душна яму самому ад сілком надзетай брані стрыманасці.

Нешта падобнае да гэтага стану пагражае нашай размове і цяпер. Ён не можа не разумець майго нежадання выносіць на яго вочы недавершанае. Аднак не адступаецца. Напэўна, ёсць падстава, трэба згаджацца.

Назаўтра прыношу рукапіс і выбіраю лепш апрацаваныя раздзелы. Пачынаю чытаць і тут жа кляну сябе за няўмельства. Усё, што выглядала прыстойна, нават здавалася добрым, перад ім ліняе, робіцца бездапаможным. Не трэба чакаць прысуду, ён вядомы і так.

Канстанцін Міхайлавіч не спяшаецца парушаць маўчанне, і мне робіцца яшчэ больш непамысна. Няхай бы хутчэй зганіў! Можна было б забыць і кінуць у кошык.

— Прачытай яшчэ раз пачатак. І самае апошняе, на чым пакуль што спыніўся.

Чытаю, мінае яшчэ паўгадзіны.

— Пакінь мне ўсё гэта,— кажа Канстанцін Міхайлавіч.— Пагляджу сам.

Я вярнуўся дамоў з адчуваннем поўнай няўдачы. Кепска, безнадзейна кепска! Ён нават не захацеў нічога сказаць. Проста адсунуў убок, як часта робіць з не вартымі ўвагі лістамі, графаманскімі вер-

шамі, кнігамі-скараспейкамі. Што гаварыць, ім нічым не дапаможаш. Лепш перачакаць маўчком, і так забудуцца.

Я выцягнуў першыя чарнавікі, пачаў пераглядаць. Гэта — сапраўды няважна, а з гэтым, бадай што, можна пагадзіцца. І гэта, мусіць, нядрэнна. Аўтарская прыхільнасць да ўласнай працы ўсё пашырае кола «нядрэнных» раздзелаў. Пераглядаю яшчэ раз і канчаткова спыняюся на пяці замалёўках. Вырашаю іх адстойваць. Не можа ж быць, каб ён так і змоўчаў. Паспеецца кідаць у печ.

Перагорнем раздзел аповесці, аб якой ідзе гаворка, папраўлены па заўвагах Коласа.

## ВЯСНА

Грамадка дужых дубоў, стаўшы роўным паўколам, вартуе леснікову сядзібу. Грудок гэты толькі што вылузаўся з-пад снегу і яшчэ ўвесь чорны. Акурат як каравай хлеба з падгарэлаю скарынкаю.

Падумаўшы так, Костусь адчувае, што ў яго засмактала ў грудзях. Вельмі хочацца есці! Ён бяжыць па падсохшай сцежачцы ў хату. Адсвечваюць жоўтыя, не паспеўшыя пашарэць ад дажджоў і ветру сцены. Толькі страха крыху пачарнела, але салома яшчэ не злежалася і шатырыцца знізу, як валасы на абголенай машынкай пад гарбуз дзіцячай галаве.

Сенечныя дзверы расчынены, адтуль патыхае пах свежага печыва. Костусь цягне да сябе смачнае паветра і, спынены нечаканай думкай, прыцішае крок:

«А чаму ж наш грудок зрабіўся падобны да буханкі?»

Ён стаіць, шукаючы адказу.

«А, ведаю! Гэта яго лес сціскае з усіх бакоў. Зямлі няма дзе дзецца, яна падымаецца ўгору. Хутка тут можа зрабіцца гара, і наша хата апынецца на самым версе. От добра! Усё будзе відаць. І Мікалаўшчына, і Свержанскія маргі, а можа і Нясвіж».

Костусь прыкладае палец да вуснаў і некаторы час спакмячае.

«Можа стацца і не гэтак. Лес будзе ціснуць, ціснуць на нашу пасаду, гара абваліцца, зробіцца прорва... І хата і мы ўсе...»

Хлопец зажмурвае вочы і ўскоквае ў сенцы, уздрыгваючы ад выдуманага ім страхоцця. Ён прачыняе дзверы ў хату, гатовы крыкнуць: «Мама!» — кінуцца да яе. Цэлы тыдзень не бачыліся! І тут жа заўважае, што ў хаце нікога няма. Ага! Маці прыкархнула, прысеўшы каля печы. Змарылася, пакуль упыніла ўсю работу.

У хаце добра прыбрана, пабелены сцены, пад дзяркач вышараваны жвірам лавы, а шыбы вымыты так чысценька, аж зіхацяць. Адчуваецца, што блізка свята.

«Куды ж усе падзеліся? — Костусь разглядаецца, стоячы ў парозе.— Уладзя, пэўна, за бацькам у лес пацягнуўся, а малыя ўпрасіліся з дзядзькам ехаць у Мікалаўшчыну. Па мяне і па Алеся. Добра, што я пабег проста са школы, не чакаючы фурманкі. Лугам, узгоркамі...»

Костусь заплюшчвае на хвілінку вочы. Бачыць, як людзі сплычваюць бярвенне на беразе, як стукаюцца адна аб адну апошнія крыгі. І ўжо кнігаўкі пішчаць...

Ён быў памкнуўся папрасіць у маці есці, ды пашкадаваў будзіць. Паглядзеў на стол, дзе астываў пад белым абрусам хлеб, і ўздыхнуў.

«Усё роўна зараз нічога лепшага не дадуць... Пост. Разгаўляцца будзем толькі ў нядзелю, пасля ўсяночнай».

Скраўся на пальчыках да стала, адгарнуў настольніцу, але цэлай буханкі не зачапіў. Адкроіў лусту ад чэрствага акрайца. І, не скідаючы з плячэй шарачковай торбы з кнігамі,— на двор.

У сенцах рука з лустаю застыла каля самага рота. Так і не ўкусіў. Прамень, заляцеўшы цераз шчыліну, пазалаціў кропельку смалы на счэсаным сучку ў бервяне. Прыляпіўся да сцяны і не можа выцягнуць са смалы тонкую камарыную ножку.

«Няхай бы ён і застаўся тут. На ўсю ноч. Людска было б! Выйдзеш з хаты, а тут відната. От зlaвіць бы гэты прамень!»

Костусь зачыняе наглуха дзверы, амаль маючы пэўнасць, што калі прамень прыліп да сцяны, дык ужо не адарвецца. Але знікла шчыліна, уцёк і прамень.

Хлопец выходзіць з сянец і садзіцца на парозе. Пачынае паволі есці.

І вось ужо здаецца іншае. Дубы наўкол сядзібы ўзяліся за рукі, каб перагарадзіць дарогу сваім лясным сваякам на гэтую, адваяваную ў векавое пушчы, шмацінку грудавое зямлі.

З усіх бакоў, як казачныя ваякі, стоўпіліся ў чаканні бронзавыя атрады волатаў, старасвецкіх хвой. Чаго добрага, падасць знак невідочны лесавы атаман, яны пераступяць цераз выбегшую з лазняковага гушчарніку ручаінку, рынуцца да дубоў — і пачнецца бойка...

«Не,— усміхаецца сваёй уяве хлопчык,— не пярэйдуць! У лесе яшчэ растае снег, і наша ручаіна глыбокая-глыбокая».

Ён глядзіць на канец сцежкі, дзе драўляны масток злучае сядзібу з грунтавой дарогаю. Вада падымаецца ўсё вышэй і вышэй, вось ужо яна ліецца цераз маснічыны. Жоўтыя шапкі шумавіння, пакружыўшыся, адносяцца за плынню і завісаюць на ўзбярэжным парасніку шчацiністых елачак і хісткіх, як дубчыкі, асін.

«За ноч вады яшчэ прыбудзе,— думае Костусь.— Добра, што ў школу не трэба, а то б не перабраўся на той бок».

Ён падымае з-пад ног сваю школьную торбачку, дастае кнігу і сшыткі і зноў паглыбляецца ў мары.

Бор шуміць па-вясноваму, радасна і як быццам густа; увосень, калі ападуць лісты, зусім іншы гэты шум, рэдкі і неспакойны.

Хлопчык цяпер бачыць, што дубы і не збіраюцца кідацца ўрукапашную. Яны проста грэюць на сонцы перамёршыя за зіму, не паспеўшыя зазеляпець галіны.

Любае і звыклае абуджэнне суровай і ласкавай беларускай прыроды на гэты раз поўніць душу дзіўнай трывогай і хваляваннем.

Нібыта ўпершыню слухае Костусь і таемнае шастанне хваін, і перагукванне плытагонаў на недалёкім Нёмане, і шчабятанне ранняга жаўранка ў сіняй высачыні.

Раптам, ці гэта зноў здаецца, перастала біцца растрывожанае хлапечае сэрца, і ўжо не на небе, а

дзесьці глыбока ў грудзях узмахнуў крыльцамі жаўранак.

Узмахнуў і заспяваў...

Песня звінела, не змаўкаючы, срэбная трэль цудоўна ператваралася ў родныя і знаёмыя словы... Так гаварыла з ім маці!

Костусь схапіў сшытак і, спяшаючыся, пачаў запісваць гэтыя словы. Хоць бы не раставалі яны, як тая жаўранкава песня, што ўсё аддаляецца, адлятаючы ў вышыню.

У гародзе гарлае певень. Рыжы хвост яго зіхаціць праўдзівым золатам, як добра начышчаная ягадамі бузіны мядзяная міска.

За ўтульны дамок на ліпе сварацца з вераб'ямі шпакі. Яны вярнуліся з выраю і адразу ж узяліся высяляць крыклівых кватарантаў. Вераб'і яшчэ грозяць і лаюцца, аднак хапаючыся перабіраюцца пад застрэшша ў гумно і цягаюць туды пух і сухія травінкі. Ад птушынай мітусні прачынаецца прыдрамаўшая на сонейку крываногая Тэпця і лянiва пазяхае, касавурачыся на свайго няўважлівага гаспадара. Яна ўстае, павільваючы хвастом, падыходзіць да яго, прынюхваецца і асцярожна забірае пакладзеную на торбачку недаедзеную скібку.

Костусь нічога не бачыць і не чуе.

Над сядзібай робіць плаўныя кругі пара буслоў. Яны прыглядаюцца да гнязда на старой бязверхай бярэзіне, пазнаючы, ці хоць тая самая гэта буслянка, дзе яны бестурботна жылі летась і выгадавалі сваіх даўгалыгіх дзяцей.

Ніштo не можа адцягнуць яго, Костусь піша і піша. Нарэшце адрываецца ад паперы і, нічога не разумеючы, аглядаецца на бакі. Дзе ён быў, што адбылося тут?

Цудоўны жаўранак у грудзях змоўк. А ў сшытку засталіся няроўныя радкі, вельмі падобныя да вершаў са школьнай чытанкі.

Костусь прачытаў і яшчэ больш здзівіўся: сапраўды, ён зложыў верш! І гэтак лёгка, неўзаметку, не думаючы, агледзецца не паспеў. Не так, як тую байку пра варону і лісіцу! Цэлы тыдзень калупаўся... Радок да радка не прыставаў, словы не змяшчаліся ў іх, прыдумваліся, як назнарок, такія доўгія, хоць

ты колькі складоў сякераю адсячы. І калі ён, горды сваім тварэннем, прачытаў брату, што пачалося! Якіх толькі кпін не наслухаўся. «Не будзе з цябе пісакі, хоць бы ты ў порткі мокра зрабіў». А потым: «Пісаў пісака, а не разбярэ і сабака». І многа нагаварыў яму Алесь яшчэ больш крыўднага.

«Памыляешся, Алесь! — Костусь здаволена ўсміхаецца.— Будзе! І не пісака, а паэт. Толькі вершаў маіх ты больш не пабачыш, пакуль не надрукую...»

Костусь уяўляе, як будуць здзіўлены яго бацькі і браты. Нехта разгорне кнігу, а там — верш. І падпісана: «Канстанцін Міцкевіч».

«Чакай, чакай,— скажа дзядзька Антось.— Які ж гэта Міцкевіч? Той жа Міцкевіч, з-пад Навагрудка, здаецца, зваўся Адам. Слухай, Міхал, ці не наш гэта Костусь?»

Бацька возьме кнігу, праверыць на свае вочы: «Відаць, ён».

Потым кніга пойдзе з рук у рукі. Усе будуць хваліць і глядзець на яго, Костуся. А ён будзе сядзець на покуці, есці цалкі з тоўстымі скваркамі і ні да чога не прызнавацца. Пад'еўшы, устане і скажа: «У мяне яшчэ многа напісана». Дастане вялікую кнігу ў скураных лаўках і пачне чытаць. Усе заслухаюцца, маці ўтрэ хусткаю слёзы... І ніхто не асмеліцца кпіць.

Успомніўшы пра кпіны, Костусь цвёрда рашае: «Да пары да часу нікому не пакажу. Хай потым ведаюць».

Падумаўшы, ён піша зверху старонкі назву «Вясна», а ўнізе старанна выводзіць свой подпіс. Вельмі хочацца да прозвішча яшчэ дадаць слова «паэт» і ўдакладніць: «з-пад Стоўбцаў». Каб сапраўды не зблыталі з тым Міцкевічам, што з-пад Навагрудка.

Костусь вагаецца. Не, не трэба. Такіх доўгіх подпісаў пад вершамі ён нідзе не бачыў. Хай будзе так. Тым больш — на развагі не застаецца часу. На лясной дарозе, недзе зусім недалёка, рыпяць колы і чуецца дзіцячы смех.

«Нашы! Дзядзька вяртаецца з Мікалаўшчыны».

Костусь хавае верш у сшытак і кладзе яго ў торбачку. У гэты час над падворкам, як быццам над самай галавою хлопца, зноў пачынае спяваць жаўра-

нак. Костусь падымае вочы і захоплена слухае, удзячны за скінутую з вясновага неба песню.

Маці выходзіць з сянец і бярэ яго за плячук.

— Ты ўжо дома, сынок? І сядзіш галодны. Як жа ты прыбег, што я не чула? Што ж ты рабіў тут, скілееў на парозе?

Костусь канчаткова абуджаецца. Не паварочваючы галавы, ён трэцца шчакою аб цёплую матчыну руку.

— Нічога... Сядзеў ціхенька. Я бачыў, ты спіш. А здавалася, ты побач, нешта гаворыш са мною, ма...

Але перарваў на палавіне мілы, абыклы дзіцячы зваротак і першы раз сказаў: «Маці».

Не паспеў я спарадкаваць думкі і давесці да ладу чарнавікі, як зазваніў тэлефон.

— Ты нікуды не збіраешся? — пачуўся здалёк голас Канстанціна Міхайлавіча.— То я заеду...

Халодныя і непрытульныя дамы на Палярнай, дзе жыло некалькі пісьменнікаў, у тым ліку і я, чамусьці падабаліся яму. Прыехаўшы, пастаяў каля ганка, паглядзеў на нашы сціплыя агародчыкі. Пасля наківаў пальцам, што мала насаджана дрэў. Пра маю работу — ні гуку, хоць па ўсім відаць — прыехаў дзеля яе.

— Ці вы гультаі, ці зямлі не любіце,— напаўжартам кажа ён.— Маладыя людзі , а не ўткнулі ў глебу па дзесятку дрэў. Што гэта за работа!

— Не такая ўжо благая работа,— спрабую бараніцца я,— у вашым садзе араліі не цвітуць, а ў мяне — бачыце...

— Што аралія? Ні куст, ні дрэва. Галін няма. Лісты выганяе па сажню, а ўвосень усё абваліцца і тырчыць голая жардзіна. Дрэвы трэба садзіць добрыя. Каб чалавека перажывалі...

Мімаволі адчуваю дакор у нетрываласці напісанага мною і запрашаю зайсці. Няхай ужо хутчэй скажа ўсё проста!

У той вечар ён не спяшаўся, не папярэдзіў нават, як звычайна, глянуўшы на гадзіннік: «Я не буду бавіцца». Гэта і супакойвала, і нервавала.

Канстанцін Міхайлавіч сядзеў пры адчыненым акне. Адшчыкнуў лісток з зазіраўшай у пакой маладое чарэшні, разгладзіў на руцэ.

— Вось,— ён пакруціў у пальцах лісток,— здаецца, дробязь. А прыгледзішся — наймагутнейшая лабараторыя. Яна нас на свеце трымае. Усё мэтазгодна ў прыродзе, нічога лішняга, выпадковага.

І спыніўся, заўважыў, што я хапіўся за новую папяросу.

— Да цябе сягоння нельга ні з чым абазвацца. Усё да сэрца прымаеш. Хацеў быў пісаць табе ліст. Але гэта адабрала б некалькі дзён, ты перадумаў бы ліха ведае што. Дый рэч твая не скончана, не ацэнкі патрабуе, а парады.

Крыху адлягае ад сэрца. Ён дастае з жоўтага партфеля мой рукапіс.

— Прызнацца, я думаў — не стане ў цябе вытрываласці для прозы. Бо артыкулы твае, як вершы — напісаны за адзін дых, не ўстаючы з-за стала.

Сапраўды, у той час, прадумаўшы і падрыхтаваўшы загадзя матэрыялы, я пісаў газетны «падвал» за дзве-тры гадзіны.

Канстанцін Міхайлавіч гартае рукапіс.

— Чорны хваліў твае юнацкія апавяданні. Дый мне самому сустракаліся яны ва «Узвышшы». І ў «Чырвоным сейбіце» былі. Добры дадатак, Кузьмовым клопатам трымаўся, я любіў друкавацца там. Вы з Глебкам прысвяцілі мне аднойчы вершы. Я прачытаў «Сейбіт» і хацеў пакрыўдзіцца. Не помню, каторы з вас пісаў штосьці пра маю згорбленую постаць. А я, брат, яшчэ малады быў, мог кіламетраў тры добрай рыссю прабегчы.

Няўдалыя радкі якраз належалі мне. Пакуль разважаю, ці варта прызнавацца, Канстанцін Міхайлавіч здагадваецца сам.

— Вам жа тады, мусіць, і па дваццаць гадоў не было. А ў такім узросце ўсе, апрача самога сябе, старымі здаюцца.

Зрабіўшы мне палёгку, вызваліўшы ад непрыемнага прызнання, ён усё ж бязлітасна дадае:

— Чэхаў расказвае... Нібыта яму гэтак жа брыдка ўспамінаць пра свае першыя рэчы, як пра цётку,

што забаўляла яго, трымаючы на руках, а ён у падзяку ўзяў ды сапсаваў ёй новую сукенку...

Ну, а цяпер трымайся: герой пачынае крытыкаваць пісьменніка. Кепска мець справу з такімі героямі. Я некалі не паверыў, што Талаш раскідаў пяцёх легіянераў, вырваўся ад іх і ўцёк. Думаю, прыманьвае стары. І напісаў у аповесці, што легіянераў было тры. Аж завальваецца да мяне ў Акадэмію дужы дзед і кажа:

«Гэта ты Колас?»

«Я».

«Дык што гэта ты пра мяне набрахаў? Хіба я ад трох палякоў уцякаў, га?»

У мяне будуць меншыя прэтэнзіі. Мне заўсёды было шкада, што ты забыўся на прозу. Хацелася якнебудзь нахінуць да яе пісання. Толькі меркаваў загаварыць пра гэта, а ты сам прыйшоў і абвясціў свае намеры. Мне здаецца, на правільную дарогу становішся...

І, не даючы апомніцца, учыніў форменны разнос за непаслядоўнасць пісання.

— Калі б ты на зборнік апавяданняў нацэльваўся, я б і слова не сказаў. А гэта ж — кніга. Як расце паступова чалавек, так і яна. Дадаеш сабе работы. Пасля галаву скруціш. У адным месцы пачнеш лапіць для сувязі, а ў другім крэсліць. Бо нагаварыў лішняга, што павінна быць вядома з папярэдняга, а ты ў свой час не напісаў гэтай часткі, пераскочыў, пабег далей. Вось і перарвалася нітачка. А трэба, каб яна цягнулася з раздзела ў раздзел. Тады глянеш назад — відно, што сказаў, глянеш наперад — выкладай усё недаказанае. Іначай і за героем не ўсочыш, прыпішаш яму няпэўныя думкі, прымусіш рабіць тое, на што ён яшчэ не здолен...

Чорны расказваў, як у яго адзін празаік пытаўся: «Чытаў ты, браце, мой раман?» А раман той быў доўгі, друкаваўся з працягамі многа год. Кузьма прызнаўся, што не браўся яшчэ. «І я ж не браўся,— кажа празаік,— і вось не ведаю, ці ўмёр адзін мой герой, ці жыве. Дык ты пачытай, калі ласка, бо ў мяне часу няма, пісаць далей трэба».

Канстанцін Міхайлавіч уважліва глядзіць на мя-

не, можа пакрыўдзіў новаспечанага празаіка параўнаннем.

— Так ці не?

Пачынаю пярэчыць. А як жа архітэктар? Плануе адразу цэлы горад: вуліцы, плошчы, праспекты. А дамы растуць дзе папала, сёння ў адным канцы, заўтра — у другім. На першы погляд — бязладдзе, калі ж забудуецца ўся вуліца, людзі ўбачаць задуму, што да чаго.

— Хіба мала бывае ў іх пралікаў? — круціць галавою Канстанцін Міхайлавіч і дадае зусім катэгарычна: — Проза не прызнае такой методыкі. І цябе нішто не змушае да яе: ні сродкі, ні матэрыялы, ні ўмовы будаўніцтва — што пачынаць у першую чаргу.

— А вам, дзядзька Якуб, не здаралася забягаць наперад? Часамі пішучы ўпрэшся ў што-небудзь, не ўдаецца. А далейшае ўжо выразна малюецца, думка думку падказвае. Адкладзеш, а потым гэтак ярка не ўбачыш.

— Можа і было. Хіба што, як паэмы пісаў. Дый то накідаю дзесятак радкоў, каб не забыцца. Бо ўжо як выведзеш далейшую частку ў людзі канчаткова, дык на тую, што засталася, і глядзець не хочацца. Ад цяжкасцей не ўцячэш. А пачні абмінаць — яны вырастуць, страшна потым прыступіцца.

— Вось гэтаму, я не даю браку. Перапішаш разок ці два — і з богам, Параска...

Ён перадае мне дзесятак старонак і гаворыць далей.

— Найболей удаўся табе салаўіны спеў. Там, бадай, нічога чапаць не трэба. Як паэта і твайго героя гэта мясцінка мяне здавальняе. А як празаік магу параіць, калі захочаш паслухаць. Вось ты пішаш, што салавей крануў дзюбкаю скрыпічную струну. Я абавязкова дадаў бы, каму належала скрыпка, у чыіх руках бачылі яе хлопцы. Тады ўвесь малюнак прымацуецца да дзяцей. Толькі зрабі гэта коратка, каб не парушыць мелодыі.

Канстанцін Міхайлавіч задумваецца, пасля пытае:

— А колькі кален можа выспеваць салавей? Кажуць, дванаццаць, а курскі, здаецца, яшчэ больш.

Не ведаў я, што ты звернешся да гэтага спевака, а то б расказаў тое-сёе.

Я жыў на Куршчыне, праўда, тамтэйшых салаўёў не слухаў — хварэў, галадоўля ціснула, Дзянікін падпіраў. Але быў там адзін ахвотнік да салаўінай музыкі. Ён мяне адукаваў. Усе калены ведаў на памяць, нават высвістваў крыху. Я так не пасвішчу, а назвы, вельмі ж удалыя яны, успомню.

Спачатку салавей заводзіць з а ч ы н. Потым, памаўчаўшы, робіцца «о т т о л ч к а». Як гэта пераласці па-беларуску? Ну, так, як вершы пішучы — атрымліваеш пачатковы штуршок ад чаго-небудзь. Можна сказаць — з а ч э п к а.

Далей ідуць: п у л ь к а н н е, п л ё н к а н н е, к л ы к а н н е. Тут ужо цяжка зразумець значэнне. Мусіць, проста гукапераймальныя словы. Затое назвы наступных кален — само хараство: р а с к а т, з я з ю л і н п е р а л ё т, л е ш а в а д у д к а. Так што дудачку ты да месца ўставіў. А чаму «лешава»? Можа гэта вымаўляецца «лешева», а пісаць трэба «лешего»? Тады па-нашаму будзе «лесунова дудка». Ёсць сэнс.

І яшчэ адно калена: ю л і н а я с т у к а т н я. Гэта ўжо ад слова «юла» — ваўчок. Калі яго моцна пусціць, ваўчок гудзе, бегае па падлозе, стукаецца аб ножкі стала і яшчэ мацней завывае.

Наогул жа, калі салавей пяе — гэта цуд. І чалавеку дасюль не ўдалося ні толкам перадаць, ні падрабіць яго.

А што цяжэй апісаць: справы, якія б'юць у вока сваёй цудоўнасцю, ці звычайныя, якія мы без увагі абмінаем, нават часамі наступаем нагою?

Спрабую адказваць: дасканаласць убачанага, вядома ж, вымагае самай дасканалай перадачы, адпаведнага ўмельства.

— Так і не так,— кажа Канстанцін Міхайлавіч і пытае: — Гогаль у цябе далёка?

Дастаю том з паліцы. Ён чытае павольна, адставіўшы ўбок руку, нібы прыкідвае, колькі цягне кожнае з гэтых бясконца важкіх слоў:

«...Чем предмет обыкновеннее, тем выше нужно быть поэту, чтобы извлечь из него необыкновенное

и чтобы это необыкновенное было, между прочим, совершенная истина».

Прачытаў і, відаць, паўтарае сам сабе, запамінаючы: вочы спыняюцца на нейкай кропцы процілеглай сцяны, крыху паварушваюцца сцятыя вусны. Потым доўга здзіўляецца вастрыні гогалеўскай думкі, называе яе звышлюдскай.

Як гэта атрымліваецца? Гогаль тут гаварыў пра сябе: як ён уяўляў, як ён пісаў сам. А выходзіць — запавет! На многа год, для ўсіх, хто ўзяўся за пяро. Навука адмаўляцца ад першапачатковай праўды — таго, што было ў сапраўднасці, і выклікаць на свет новую праўду — тое, што ўбачыў мастак. І каб усе прымалі створаную ім праўду, нібыта ніколі не існавала той першай, праўды рэчаіснасці.

Аднак, разважае Канстанцін Міхайлавіч, калі не ўсмокчаш у кожную клетачку праўды жыцця, ці можна ўзняцца да мастацкай? Хочаш узлятаць — мацней абапірайся на зямлю. Толькі не дазваляй ёй спутваць крылле вымыслу.

— Думаючы так,— тут ужо гаворыць Колас — першы і найстражэйшы суддзя самому сабе,— мяне больш задавальняе «У палескай глушы». У апошніх частках, бывае, я дакладней, чым трэба, пільнуюся матэрыялу, а памяць падкладвае ўсё новы і новы.

Ён расказвае, як часта даводзілася яму адмаўляцца ад таго, што назіраў і перажываў, змяняць адносіны Лабановіча і Ядвісі на супрацьлеглыя. Жывыя людзі, стаўшы літаратурнымі персанажамі, атрымалі новыя рысы, пачалі паводзіцца іначай, як вымагае характар кожнага з іх. Зусім не Ядвіся пацалавала Лабановічавага прататыпа ў настаўнікавай кватэры, як расказваецца ў аповесці, а Людміла. Затое прататып, застаўшы Ядвісю адну дома, пачаў размову адразу з пацалунка. І яго абразілі, а потым пачалі перапрашаць, кідаючы праз акно букецікі кветак. І пісулька «Мілы дурань» была ад Людмілы. Толькі знайшоў яе ў кнізе не прататып, а Ядвісін бацька і забараніў ім сустракацца, а потым прымусіў дачку выехаць адтуль.

— Так што я рады,— кажа Канстанцін Міхайлавіч,— калі ты, пішучы, не пакінуў і следу ад ма-

іх расказаў. Недзе яны як бы прысутнічаюць, а на паверхню не прабіваюцца.

Я пачаў даводзіць, што яго размовы далі магчымасць пабыць разам з ім у маленстве, яго вачыма пабачыць людзей, кожную вядомую яму мясціну.

Канстанцін Міхайлавіч зазначыў:

— У «Вясне» замест бацькі ўводзіш маці. Разумею чаму і магу згадзіцца. Але калі хочаш, каб усё стала яшчэ бліжэй да праўды, раскажы ў наступным пра срэбны рубель. Ты ўхіліўся ад гэтага, думаеш, ці не перасалоджана ў маёй біяграфіі?

Канстанцін Міхайлавіч бясхібна выкрывае мае сумненні. Сапраўды думалася так: бацька, вечна стомлены, ачарсцвеўшы ад сваіх службовых турбот і згрызот чалавек, дапусціўся да малаверагоднай чуласці — цалуе хлопца за верш. Ляснік, жыве ў нэндзы і раптам выкладае сыну цэлы рубель. За што? Якую вагу мог мець дзіцячы верш у вачах тагачаснага селяніна? Забаўка, і толькі.

Як паверыць у праўдзівасць выпадку? Тым не менш ёсць дакументальныя сведчанні атрымаўшага ўзнагароду. Але дакументы дакументамі, а твор творам. Ці прагучыць гэта ў кнізе? Як быць?

Пераказаўшы мае ваганні сваімі словамі і збянтэжыўшы яшчэ раз умельствам зірнуць у думкі суразмоўніка, ён заключае:

— Ведаеш, як было, цяпер пішы, як табе здаецца.

— Дык тут жа ад рубля нікуды не ўцячэш, дзядзька Якуб.

— І ўцякаць не трэба. Думаеш, калі даць саракоўку, справа зменіцца? Трэба на бацьку другім вокам кінуць.

Пачынаю разумець, куды хіляцца яго вымаганні. Не ў тым сакрэт, што бацька быў п'янаваты і таму расчуліўся, а потым расшчодрыўся. Нават не ў тым, што любіў Костуся больш за іншых сыноў. Не! Бедны чалавек, які ашчаджае кожную капейчыну на зямлю, мог-такі не пашкадаваць вялікіх, на яго абыходак, грошай. Прыродная шырыня душы падказала Міхалу: адбылося незвычайнае. Яго Костусь зрабіў такое, чаго не могуць другія дзеці: і свае, і вакольных леснікоў, і мікалаўцаў. Хлопец падышоў

усутыч да тых вялікіх людзей, чые вершы друкуюць у кнігах, завучваюць школьнікі. Можа тут і ён знойдзе свой лёс? Напэўна, гэта акрэсліла бацькавы намеры пусціць Костуся ў навуку...

Выказваю свае меркаванні ўголас.

— Так, відаць, будзе правільна. Нездарма, выходзіць, мы Гогаля турбавалі...

Канстанцін Міхайлавіч устае і збіраецца ад'язджаць.

— Пішы далей, хай нават выйдзе кніга апавяданняў. У першым раздзельчыку дай імя бабцы. І Антося трэба было б трохі жвавейшым зрабіць. А пра Кудрынскага — лепш бы ўсё перапісаць нанова. Я табе яшчэ раскажу аб ім...

Гэты раздзел і дасюль не пашчасцівіла паправіць так, як хацелася б. Але постаць Фядота Андрэевіча Кудрынскага, выкладчыка Нясвіжскай семінарыі, уяўляецца даволі выразна. Сваіму настаўніку, які вучыў разумець і любіць літаратуру, Канстанцін Міхайлавіч прысвяціў некалькі адвячоркаў.

— Кудрынскі трапіў да нас з Ніжагародскай духоўнай семінарыі. І пабыў зусім мала, гады два ці тры. Пастараўся перавесціся на цікавейшую работу, у Вільню. Там быў архіў старажытных актаў і кніг, дзе ён служыў памочнікам архіварыуса. Выкладання не кідаў, настаўнічаў у прыватнай гімназіі і ў вышэйшым жаночым вучылішчы.

Сам Кудрынскі скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію, атрымаў ступень кандыдата багаслоўя. Папоўшчынай ад яго асабліва не патыхала, духоўніцкай кар'еры па пейкіх прычынах ён не зрабіў. Відаць, таму, што пісаў у часопісы і друкаваў кнігі. Я праглядаў іх.

Канстанцін Міхайлавіч называе нарыс Кудрынскага «Вільня ў 1812 годзе», выдадзены да стагоддзя вайны. Праз юбілейную і вернападданніцкую афарбоўку там усё ж прабіваліся праўдзівыя весткі аб стане горада, яго жыхарах, скаргі сялян на рабункі вестфальцаў, перахрышчаных імі на «бяспальцаў», заігрыванне Аляксандра I з палякамі; хлуслівыя абяцанні аднавіць ім дзяржаву, трапныя характа-

рыстыкі французскага самаўладцы, не самастойныя, вядома, а здабытыя аўтарам з гістарычных крыніц.

Напалеон зажадаў пазнаёміцца з якім-небудзь беларусам. Да яго прывялі бухгалтара Віленскага універсітэта. Патрэбных вестак пра Полацк і Віцебск гэты чалавек не даў, аднак на запытанне Напалеона, які з гэтых гарадоў ён бы хацеў атрымаць у падарунак, адказаў: «Калі з езуіцкімі маёнткамі, дык Полацк, а без іх — Віцебск».

— Губа не дура,— смяецца Канстанцін Міхайлавіч,— напэўна, расшалопаў, што Напалеон здзекуецца. Якая прапанова, такі і адказ.

Да кнігі Кудрынскага «Людскія хвалі» Канстанцін Міхайлавіч ставіцца больш прыхільна. «Людскія хвалі» — гэта патока бежанцаў. Яна пракацілася ў час імперыялістычнай вайны цераз Рагачоў, дзе настаўнічаў эвакуіраваны з Вільні Кудрынскі.

Палавіна Беларусі стала на калёсы. Людзі, баючыся немцаў, ехалі немаведама куды. Галадавалі, продалі за бесцань жывёлу, кралі апошняе ў тых, што сядзелі пакуль на месцы, але не сягоння-заўтра мусілі пакідаць дамоўкі і выбірацца ў свет самі. І як след страшнай патокі — бясконцы шэраг крыжоў уздоўж дарогі.

На ўсім гэтым няшчасці ґрэлі рукі хабарнікі, раскашаваліся здараўцы, якія хаваліся ад пазіцый пад сцяг дапамогі бежанцам.

Кудрынскі ўбачыў многа чаго. Высмеяў кволых дам-патранес, бруднае заляцанне бугая — земскага начальніка да міласэрнай сястры: «Вы парасятка, вас трэба пакаштаваць з хрэнам».

Трапна аўтар іранізаваў з прыезду члена Дзяржаўнага савета. Бяздушны фармаліст, ён нічым не дапамог бежанцам, але быў сустрэты з помпаю, казанямі, спевам «многая лета». А нейчы сабака ў калідоры не мог стрываць і завыў мацней за харыстаў у гонар высокага саноўніка.

— Пяро часта перарастае аўтара, калі дакранаецца да вялікай людской бяды,— заўважае Канстанцін Міхайлавіч.— Кудрынскі прызнаецца, што яго моцна ўразіў крыж народа. А ўсё ж баяўся абразіць далікатныя вушы, саромеўся напісаць «вош», стаўляў шматкроп'е...

Кудрынскага ўвесь час цягнула да творчасці народа, цікавіла гісторыя нашага краю. Мае фальклорныя запісы Кудрынскі хваліў шчыра. Вось я і падлажыў у адзін са сшыткаў пару ўласных вершаў.

Ён доўга марудзіў, не гаварыў нічога, потым з вока на вока спытаў, ці напісана яшчэ што-небудзь. Перачытаўшы, сказаў не вельмі катэгарычна, нешта накшталт: «З гэтым вы можаце выйсці на сапраўдную дарогу».

Як я разумею, ён вагаўся, што можа збіць мяне з тропу, баяўся, каб я празмерна не захапіўся пісаннем і не закінуў вучэння.

Наш дырэктар хварэў на красамоўства, прамаўляў страшэнна нудна і, галоўнае, доўга. Гэта выкпіў Кудрынскі, праўда па часе, у тых жа «Людскіх хвалях». А так ён звычайна слухаў Меліяранскага, угнуўшы галаву, і як зірне ўгору, дык мы бачым, што вочы нашага настаўніка смяюцца. Сам жа, на мой погляд, гаварыў значна лепей, чым пісаў. Ён меў талент прамоўцы, і нашы адказы больш падабаліся яму, калі былі трохі ўзнёслыя.

Кудрынскі мог цікава размалёўваць самую непаглядную рэч, яна набывала асаблівае хараство ў вачах слухачоў.

З гадзіну неяк распісваў нам прыгажосці нясвіжскага замка. Здавалася, роўнага ў свеце няма. І я быў вельмі расчараваны, калі заскочыў аднойчы ў свята за замкавую браму.

Звычайны брудны брук, аблезлыя сцены. Якое там к чорту хараство, хутчэй на астрог падобна. І замак у «Сымоне-музыку» я апісваў, маючы перад вачыма нясвіжскі, так, як ён паўставаў з апавядання Кудрынскага.

# ГІСТОРЫЯ «СЫМОНА-МУЗЫКІ»

*Дзве паэмы растуць поруч. Пяць колаў пакуты. Барада — сховішча вершаў. Турма, гумар і апісанні прыроды. Сымон і Ганна на могілках. Перашкоды і сумняванні. Грыб у Кіславодску. «Калевала» падказвае выхад. Сустрэча з А. Фадзеевым. Пераклад «Калевалы».*



— Калі мы ўжо ўспамянулі пра «Сымона», дык тут мне, відаць, самому давядзецца ўбірацца ў крытычныя рызы.

Крытыкі гавораць увесь час: «Новая зямля» — аўтабіяграфічны твор, бо гэта само вачам назаляе. А пра «Сымона-музыку» ніхто ў такім кірунку не абазваўся.

Пісалася гэтая рэч не сказаць каб марудна, але з вялікімі перапынкамі, і шмат перараблялася. Ёй не шанцавала ў сэнсе завяршэння. А падаваць голас аб сабе пачала яна бадай што раней за «Новую зямлю». Я зрабіў асобныя запісы, як толькі наладзіў турэмны побыт: раздабыў аловак і навучыўся хаваць паперы. І ўсё ж не ўпільнаваў: задумаўся над радкамі, у камеру прывялі кагосьці, наглядчык кінуў вокам і схапіў маё пісанне.

Нічога не зробіш: пачынаць спачатку мне даводзілася не адзін раз. Я быў падобен да грака на мінскім сквtowерыку: сёння споруць гняздо, а заўтра, глядзіш, зноў галля нацягаў.

Перада мною стаяў уласны лёс. Рупіла расказаць, што вось і мае чалавек нешта за душою, а ніяк не выплыве напаверх у гэтым свеце.

Калі замкнулася астрожная брама, я сказаў сам сабе: трымайся, Костусь, ты трапіў у новае кола. І ўсё пражытае ўявілася чаргаваннем колаў: час, што звязаны з жыццём у аколіцах Мікалаўшчыны; юнацтва — навучанне ў семінарыі; потым — настаў-

ніцтва, пераезды са школы ў школу; далей — бадзянне з месца на месца ў пошуках заробку і нарэшце — турма.

Не раўнуючы, як у «Бажэсцвеннай камедыі», толькі ў мяне налічылася ўсяго пяць колаў. Дый пекла стала ў канец, а хлапечая пара здавалася з-за крат сапраўдным раем.

У апошняе кола я прыйшоў з тым жа настроем, які насіў і ў першым: працаваць словам. Я ледзь пачаў выбівацца ў друк, а тут — за шкірку ды ў каталажку! Вырвацца надзея была, а пісаць, тым больш друкавацца — наўрад. Адседка ў крэпасці вяла за сабою паліцэйскі нагляд, яўны або патайны. Вольна дыхнуць не спадзявайся!

З гэтых усіх разваг і вынікла задума: напісаць твор у пяці частак, адпаведна ліку абведзеных у мыслях наўкруга сябе колаў.

Свет жорсткі, ніхто не разумее здольнага хлопца, нават свае людзі. Мае спагаду адно дзед. Адчуўшы ў хлопцу талент, стары перадае яму музычную сілу як спадчыну ад мінулага. Яшчэ бліжэй музыку дзяўчына, з ёю хлопец хоча ісці ў жыццё, ёй адной іграць і з ёю сустрэць будучыню. Але наўкол — сцэны, адна вышэйшая за другую: пагарда, паніжэнне, здзек. Хлопец траціць каханую і засынае неабудным сном на могілках, поруч з абраннікай, яна таксама не стрывала цяжару жыцця.

Так мне ўсё малявалася напачатку.

Задума была на той час крамольная. Як толькі справа даходзіла да пісання, выяўляўся пэўны бунт супраць ладу. Таму я сумысля прытрымліваў сябе, не дазваляў Сымону дзейнічаць і гаварыць.

Рабіў накіды ўроскідку, паміж замалёўкамі «Новай зямлі». Не паспеўшы аб'яднацца ў цэласць, яны рабілі нявіннае ўражанне і не наклікалі б на маю галаву небяспекі, каб нават і трапілі на чыесь вочы. Усё ж пад час ператрасання камеры я борздзенька хаваў паперы на грудзі і трымаў, прыціснуўшы падбароддзем, да канца ўструшні. Мая густая барада не дазваляла заўважыць, што там затоена пад ёю, а на асабістыя вобыскі ў палітычных турэмнае начальства адважвалася рэдка.

«Новую зямлю» высоўвала наперад і такая ака-

лічнасць. Абразкі дзіцячага жыцця, незваротны альбуцкі «рай» ажывалі ў выразнай постаці: бяры ды перанось на паперу. Як пераводныя карцінкі: памачыў вадою, прыклаў на чысты аркушык і маеш малюнак. Амаль з такою хуткасцю я напісаў «Дзядзьку-кухара» і «Раніцу ў нядзельку»...

Паклікалі вячэраць. Мы сышлі ўніз у сталовую. Там была ў зборы ўся сям'я: абодва сыны з нявесткамі і ўнукі, большанькі Сяргей і яшчэ зусім малы Андрэйка на руках у маці.

— Ідзі да дзеда,— запрапанаваў Канстанцін Міхайлавіч.

Хлопчык працягнуў яму рукі, патаптаўся крыху на дзедавым калене, чым у малых звычайна выказваецца найвышэйшая ступень задавальнення, і адразу ж паспрабаваў хапіцца за нож. Канстанцін Міхайлавіч далікатна адсунуўся ад стала, а ўнук даволі праразліва заявіў пратэст супраць такога абыходжання. Не супакоіўся ён і на руках у бацькі.

Канстанцін Міхайлавіч падміргнуў малому, прышчоўкнуўшы языком і пачаў жартліва ўшчуваць унука:

— Бачыш ты, які дзяркач. Відаць, браток, цябе ў ногі не клалі.

Заўважыўшы на нашых тварах неўразуменне, растлумачыў:

— Была ў народзе такая прыкмета. Каб дзіця расло паслушнае, не пераступала волі бацькоў, яго, абмыўшы, перад тым як першы раз накарміць, кладуць у ногі парадзісе. Так што майце на ўвазе ў далейшым,— ён зірнуў на нявестак.— Не ведаю, як вы, а я на такой колькасці ўнукаў спыняцца б не хацеў.

Падвесяліўшы жартам прысутных, Канстанцін Міхайлавіч амаль не дакрануўся да вячэры. З'еў кіслага малака, глынуў чаю і сядзеў, чакаючы, пакуль управяцца маладзейшыя.

Ён быў яшчэ ў нясконченай размове і працягнуў яе, сеўшы на сваім улюбёным месцы, пад вязам.

— «Сымон» патрабаваў роздуму, стварэння новых абставін. Тут ужо ўява мусіла саткаць нешта як

быццам і бачанае, а ў цэлым вобразе іншае, незнаёмае. Адным чынам, не хапала мне духоўнае раўнавагі, спакою дый проста часу і зацішнога кутка, дзе б можна было без турботы парадкаваць думкі.

З другога боку, мяне абмяжоўваў склад, узровень, а галоўным чынам настрой маіх тагачасных чытачоў, пэўней кажучы, слухачоў. Я чытаў тое-сёе сябрам па камеры. І найлепшы водгук знаходзілі мясцінкі смешныя, дзе прабіваўся гумар. Гэта давала розрыўку ў нашым беспрасветным жыцці. Гумар ратаваў і мяне самога, з ім я перасільваў чорны настрой.

Успомніўшы якое-небудзь смешнае здарэнне з бачанага ў вёсцы, я расказваў яго таварышам. Калі апавяданне было ўдалае і магло ўсіх зацікавіць, яны прасілі: «А ты напішы пра гэта, павінна яшчэ ямчэй атрымацца. Можна будзе зноў разок паслухаць». Такую ацэнку я лічыў за прызнанне вартасці расказанага і браўся за пісанне. Гэтак і з'явіліся, скажам, «За дождж», «Грушы-сапяжанкі» і яшчэ колькі вершаваных апавяданняў.

Цешылі таксама маіх слухачоў апісанні прыроды. У гэтым нашы густы супадалі. Мне было прыемна апісваць мясціны над Нёманам, я адчуваў усе іх на дотык. Так жа было. За кожнае дрэўца я там браўся рукою, усе лужкі і баравінкі выбегаў.

І мае таварышы былі рады перанесціся з смярдзючай яміны астрога на прастор. Ручаіны перагаворваюцца, палыскуецца раса на траве. Бор, як пчаліны вулей, гамоніць, гудзе, але з кожнаю хвіляю цішэе і цішэе ў адвячорку. Цішыня, як быццам згода ў існаванні, а істоту на крык парывае.

Калі гэткае дабро ёсць на свеце, мімаволі думалася людзям, дык чаму яно павінна належаць толькі Радзівілу або таму самаму Міколку з дзвюма палачкамі?

Пэўнага закону тут, відаць, няма, але ўплыў мастацтва супярэчлівы. Не менш, чым чалавечая душа, дзе яно нараджаецца. Што сутыкненне процілеглага можа быць мастацкім сродкам, я ўжо дайшоў у мыслях раней. У турме толькі ўсё больш пераконваўся, як гэта ў адных раскатурхвае, а ў другіх абвастрае свядомасць.

У такім сэнсе я ўскладаў немалыя надзеі на свайго «Сымона», чакаў выпадку вярнуцца да яго. Вярнуўся так. Пабыўшы пасля вызвалення ў Вільні, 19 верасня я падаўся ў Смольню з пачуццём выкінутага з жыцця чалавека. Дзверы на работу замкнуты, падтрымкі няма, кожны абабягае пры сустрэчы, каб і самому не падпасці пад падазрэнне. Тут я пачуў, нібыта трапіў у новае кола, нічым не лепшае за астрог.

Тады канчаткова ўжо абдумаў «Сымона». Уявіў усе колы пакут, праз якія ён павінен прайсці, каб духоўна спачыць у апошнім, зрабіцца звычайным хлебаедам з дарэмна змарнаванымі здольнасцямі.

Накідаўшы збольшага запеўку, зразумеў, што гэтая работа цяпер будзе для мяне стрыжнем. Утрымаюся за яго,— значыць, не звар'яцею, не сап'юся, наогул, не пайду наніз, у падонкі, у паслугачы.

Крыху акрыяўшы і ў надзеі мець заробак, на пачатку зімы ў Лунінцы я за некалькі тыдняў сабраў уместа ўсе чарнавікі і напісаў першую частку. Другую частку пісаў прыхваткамі, у розных месцах, дзе прыпруся, там і пішу. На гэтым спыніўся, але не закінуў!

Назаўтра ж на стале ў Канстанціна Міхайлавіча з'явілася першае выданне «Сымона-музыкі». У кніжачцы было некалькі папяровых закладак. Чырвоны аловак размашыста, буйнымі літарамі, выцісную на няроўна разарваным паўаркушыку словы: «Дух творчасці» і «Адступленні». Гэта ўсцешыла: відаць, намер «убірацца ў крытычныя рызы» зычыў праця́г і паглыбленне размовы. Канстанцін Міхайлавіч пачаў так, як быццам яна і не перапынялася.

— Перабіла работу нетрываласць майго становішча: давялося доўга старацца сталага месца. А калі выстараўся, трымаўся за яго і рукамі і нагамі. Пісаў драбнейшае, а «Новая зямля» і «Музыка» стаялі горкім напамінкам убаку, чакаючы лепшых ча́саў. Надышлі яны цераз многа год, пасля рэвалюцыі.

«Цяпер, Сымон, табе ніхто не заступіць дарогі. Тупай, брат, пакрысе!» — вырашыў я і засеў за пісанне. Задума выхадзілася, і я месяцы за два паба-

чыў заканчэнне. Пакуль «Музыка» друкаваўся часткамі, я ўжо аб ім мала думаў, і тут вырвалася наперад «Новая зямля». Такім чынам, «Сымон» зноў занядбаўся і, хоць быў скончаны друкаваннем недзе ўвосень 1921 года, далейшага руху не меў. Затое стала відно, чаго я не ўлічыў на Куршчыне, хапаючыся, каб хутчэй усё дакончыць.

Я тады пакінуў Сымона ў сне каля Ганнінай магілы. Мусіць, трымалі мяне пад уладаю астрожныя сцены. Але сам-то я з іх выбавіўся, а герой застаўся ў зачараваным коле.

Прывязвала да такога канчатку вось што. Сіла музыкі нібыта дзейнічала больш магутна: заіграў Сымон, і Ганна паднялася з труны. Але тым самым ужо і касавалася музычная моц. Я не браў пад увагу, што, як скончылася гранне, дзяўчына вярнулася ў зямлю, а Сымона агарнуў сон.

Мне ўсё здавалася — так будзе мацней, болей сувязі з першай часткай. Зноў гудзе і звоніць стары звон, які так уразіў хлопчыка ў маленстве, граюць дудары, што абудзілі ў ім жаданне стаць музыкам самому. Словам, успаміналіся ўсе папярэднія акалічнасці і збіраліся разам хлопцавы прыяцелі: дзед — мінулае краіны і Ганна — будучае. Як быццам атрымлівалася завершана, а ўвогуле выглядала даволі цьмяна.

Галоўнае, будучыня клалася ў дамавіну. Так думаць я мог у турме, але ўсё роўна мусіў бы напісаць іначай, бо творчасць не павінна пакідаць чалавека ў цемры.

Сам ведаеш, прыбіўшыся да якога-небудзь берага, цяжка адапхнуцца. Я вырашыў, не вельмі бурачы малюнак на могілках, ажывіць Ганну, каб яна пайшла разам з Сымонам. Зрабіў. Перачытаў як зусім чужое. Сымон выглядаў смешным цудатворцам, і ўвесь твор адкідаўся на паўстагоддзя назад.

Вось і стаў я на раздарожжы: зробленае збракаваў, а лепшае не трапілялася. Заўсёды так бывае: ходзіць гэта лепшае поруч, а за хвост не ўхопіш.

— З вялікімі ваганнямі і выехаў я ўлетку 1924 года на Каўказ, падлячыцца ў Кіславодску. Бы-

лі там цікавыя людзі, пісьменнікі, вучоныя і наш мінчанін Шукевіч-Траццякоў, рэдактар «Беларускай вёскі». Але я кампаніі трымаўся мала, рупела, як скончыць работу, а гэтага я ўсё яшчэ не ведаў. Таму больш чытаў і, выйшаўшы куды-небудзь за межы санаторыя на бліжэйшую гару, падсмажваў плечы на сонцы.

Самае дзіўнае з маіх паходаў — знайшоў на Сасновай горцы грыб. Спачатку не паверыў сам сабе. Я вельмі сумаваў па нашым лесе і ноччу сніў, быццам у хвойніку рэжу цэлыя нерушы баравікоў. Вось і падумалася: зноў сон. Але вакол ходзяць людзі, жанчыны смяюцца, унізе ішак крычыць. Для пэўнасці пацягнуў сябе за нос: прачніся, Якуб! Не, сапраўды сядзіць грыб на схіле, паміж хвойкай і бярэзінай, крэпкі, непаточаны. Падняў сваю знаходку, разгледзеў: нешта сярэдняе паміж абабкам і белым.

Круціўся я на гэтым месцы з гадзіну, нічога больш не знайшоў. Панёс свой грыб у санаторый, як святыню, у дзвюх руках.

Мясцовая жанчына-прыбіральшчыца сказала, што гэта дзіва для Кіславодска. Наогул жа гэтыя грыбы ядуць, добра вывараўшы, і сустракаюцца яны ў дажджлівы год у лясках каля Мінеральных Водаў. Гэта падняло мяне ў сваіх вачах як грыбніка. Але ні заўтра, ні паслязаўтра, а хадзіў я на тое месца да канца лячэння, на ўдачу так і не надыбаў. Толькі і заставалася чытаць.

У Шукевіча я браў Тагора і надоўга прыляпіўся да яго душою. Цешыў мяне таксама Джэк Лондан. Пасля чытання на некалькі дзён заставалася такое ўражанне. Быццам вакол гарачыня, а ты глынуў халоднай вады і ходзіш ціхенька, каб не разбоўтаць часамі.

Чытаў і «Фаўста», але, відаць, трапіла да мяне кніга не пад настрой і, як і раней, не разварушыла да таго захаплення, што выклікае гэты твор. Затое з Вейнемейненам мне не хацелася разлучацца. Чытаў яго прыгоды ў нейкім старым выданні, добра помню друк з цвёрдымі знакамі. Хацеў дастаць кніжку дадому, але не мог і купіў ужо недзе ў трыццатых гадах падноўлены пераклад і, як мне здало-

ся, падпісаваны. Я быў гатоў пакланіцца Лёнроту ў ногі.

Нешта падобнае да «Калевалы» можна скласці і з беларускіх казак. Падабраць іх у парадак, пералажыць, магчыма, у вершы і звязаць адным героем, якім-небудзь кавалём, ці што. Шмат якія руны відавочна маюць сляды апрацоўкі, але зроблена яна тонка. Не так, як апрацоўваюцца нашы народныя песні. Звычайную «Вярбу» ці «Каліну» знявечаць так, што не пазнаеш. Слухаць цераз сілу слухаеш, а заспяваць і калом не прымусіш. Народны дух выветрыўся, усмешка знікла, якая ж гэта песня?

Дык вось дачытаўся я да месца, дзе Вейнемейнен іграе на кантэле...

Канстанцін Міхайлавіч змоўк, відаць, аднаўляючы ў памяці старонкі «Калевалы». І вельмі маляўніча, нават у пэўным рытме, пераказаў, як слухаць Вейнемейнена прыплывала рыба, прыбягалі ваўкі і мядзведзі, прылятаці арлы і лебедзі, з'яўляліся гаспадыня лесу, гаспадыня вады, дачка сонца. Пасля пачалі плакаць расчуленыя людзі, і нават плакаў сам стары музыка, іх слёзы, падаючы ў мора, ператвараліся ў жомчуг.

— Тут мне давялося,— Канстанцін Міхайлавіч зрабіў рух рукою,— хапіцца за галаву. Гэта ж і я намагаўся так перадаць уплыў Сымонкавай ігры. «Нічога ты не ведаеш, Якуб, цёмны ты чалавек,— сказаў я сабе,— мала чытаў. Людзі ўжо без цябе ўсё добрае даўно напісалі». І намерыўся пакласці свайго «Музыку» за абразы, няхай на яго мухі ходзяць.

Але «Калевала» як пабунтавала мой спакой, так і падказала выхад. І шматлікія стваральнікі яе, і я — усе пілі з адной крыніцы, але фіны знайшлі яе на беразе мора, сярод скал, а мы — у сваіх барах і балотах. Нікому аднаму не належыць гэтая жывая вада, яна адкрыта многімі і для многіх. І ў нечым вельмі падобны радасць і гора ў кожнага народа. Значыць, могуць быць падобны і творы.

«Калевала» дала мне добры штуршок для работы. Вейнемейнен, разважыў я, памірае ад старасці

і тады пакідае свае гуслі народу. Чаму ж мой Сымон павінен канаць, толькі ступіўшы на дарогу? Хай прынясе людзям радасць і пасля гэтага перадасць у другія рукі скрыпку.

Так пакрысе прыйшоў я да яснасці. Стала зразумела, што сіла музыкі стане куды большая, калі яна верне Ганю да жыцця, парушыць яе часовае здранцвенне. І няхай хлопец і дзяўчына ідуць далей разам, музыка і яго будучыня. Нашто канчаць нечым пэўным іх шляхі? Народ жа вечны, вечнае яго мастацтва, вечныя і творцы песні і казкі.

У такім перакананні ўмацоўвала мяне і «Калевала». Я запомніў канец яе і добры кавалак пераклаў. Даўно было, але каб пагартаў кнігу, пэўна, нешта б і ўсплыло...

...І не даказаў, разварушыўшы цэлы рой неадчэпных пытанняў... Што яшчэ прынёс яму суровы эпас поўначы? Чаму, адлажыўшы неадкладнае, паэму, якая выгравалася ў пачуцці больш за дзесяцігоддзе, узяўся за пераклад? Можа гэтага вымагаў сам твор, так рашуча непадобны ні да чога чытанага дасюль: узяў пад уладу і не выпускаў узрушанага паэта, усё глыбей акунаючы ў нязвычнае хараство душ і стыхій.

А можа ўзнікла жаданне, перавёўшы ў склад роднай мовы, канчаткова замацаваць гэты твор за сабою, зрабіць яго назаўсёды сваім і тым самым — здабыткам свайго народа. І пасля: як доўга цягнулася праца, якія мясціны перакладаліся? Дзе шлях, каб дазнацца пра ўсё гэта?

Пытацца, мусіць, не варта, можа Канстанцін Міхайлавіч спыніўся знарок. І хоць кідаць справу на паўдарозе вельмі не хацелася, я вырашыў чакаць...

Мы паехалі ў Маскву і забавіліся там. Ішлі падрыхтоўчыя пасяджэнні Камітэта па Дзяржаўных прэміях.

Некалькі раніц Канстанцін Міхайлавіч не адыходзіўся ад тэлефона. Званіў А. А. Фадзееву, у Саюз пісьменнікаў, на кватэру, усюды, куды ён мог заехаць. Аляксандру Аляксандравічу спаўнялася 50 год, і Колас хацеў пабачыцца, павіншаваць яго

асабіста. Пасля доўгіх і бясплённых пошукаў была дадзена тэлеграма.

Папаўдні Канстанцін Міхайлавіч выбраўся на чарговае пасяджэнне Камітэта.

— Можа на сходзе пабачымся,— меркаваў ён па дарозе.— Але імяніннік мае права не з'явіцца. Дый ён, мусіць, сумысля нідзе не паказваецца, не хоча віншавальнага тлуму.

У праездзе Мастацкага тэатра, каля шчыта з выклеенымі газетамі, здалёку кідаецца ў вочы: высокі стройны чалавек стаіць павярнуўшыся тварам да сцяны. Каўнер лёгкага паліто прыўзняты, і гэта падкрэслівае, як хораша, па-юнацку, пасаджана галава. Усе, хто ні ідзе міма, глядзяць на яго і, нібыта нешта ўспомніўшы, абавязкова азіраюцца. Памылкі не можа быць — Фадзееў!

Пайшлі шпарчэй. Дзесятак крокаў, і вось ужо мы каля газетнага шчыта. Фадзееў нешта вычытвае з апошняй паласы.

Колас шумна пераводзіць дыханне і кажа яму амаль на вуха:

— Дзякуй богу, злавіўся няўлоўны!

Аляксандр Аляксандравіч паварочваецца. І тут жа крыжуюцца дзве выключныя ўсмешкі: шырокая, здольная адразу выклікаць на шчырасць, павесці за сабою,— фадзееўская, і мяккая, як быццам не з вуснаў, а недзе з унутраных глыбінь — коласаўская. Яшчэ больш радуюцца іх вочы: я хацеў цябе ўбачыць і бачу,— гавораць адны; я ведаю, я вельмі ўсцешан,— адказваюць другія...

— Ну дык, Алесь!

Размова вачэй парушаецца. З беларускім іменем Колас звяртаецца толькі да двух Аляксандраў — Фадзеева і Пракоф'ева — у хвіліны найбольшай сардэчнасці.

— Добра, што сустрэліся сам-насам...

Аляксандр Аляксандравіч не можа ўтрымацца і рагоча, паказваючы на патоку машын і пешаходаў:

— Нішто сабе — сам-насам! — І дадае ціха, крыху сарамяжліва: — Ну, дапраўды ж, усё сказана. І нашто ж болей...

Яны абдымаюцца...

Развітаўшыся каля ўваходу ў Мастацкі тэатр,

падаюся на раздабыткі ў букіністычныя магазіны. На гэты раз шчасціць: дастаў Нікіфароўскага і «Калевалу» ў выданні «Academia». Ці трэба тлумачыць, якой надзеяй сагрэла мяне апошняя знаходка.

Вярнуўшыся ў гасцініцу, палажыў кнігу на тумбачку каля ложка. Але Канстанцін Міхайлавіч нават не дакрануўся да яе. Апрача таго, што: «Такая самая і ў мяне была да вайны»,— я нічога не пачуў.

Набліжаўся дзень ад'езду. Канстанцін Міхайлавіч знудзіўся па перарванай рабоце, часта званіў дадому, неадменна пытаючыся ў першую чаргу: «А як там надвор'е?» «Зводкі» ішлі добрыя, і гэта адпаведным чынам падымала настрой.

Людзей заходзіць заўсёды многа. Ён здаволены гэтым, сядзіць дапазна, не зморваючыся, спадцішка жартуе з усімі, хто б ні завітаў адведаць. Сябры-літаратары, работнікі беларускага прадстаўніцтва, выдаўцы, карэспандэнты вядуць неўціханыя размовы. І абавязкова пра ўраджай.

— Каб беларускія пяскі радзілі, трэба навазіць на іх торфу. Не менш як на метр. І каб дождж не ленаваўся, а паліваў хоць цераз дзень.

Тут жа выкладаюцца прыкметы, што паказваюць на ўраджайны год, перавагі ранняй сяўбы. Аб гэтым ён спрачаецца так горача, нібыта сам толькі што з поля, дзе добра такі папахадзіў і няйначай як мацаў рукою падсохшыя на сонцы ўзгоркі.

...Перадад'язны вечар.

Канстанцін Міхайлавіч недзе гасцюе ў С. Гарадзецкага. Я паглядзеў спектакль «Мёртвыя душы», кіруюся вячэраць. Сустракаемся каля століка дзяжурнай па паверху. Ён прапануе заказаць вячэру ў нумар.

— Можа яшчэ зойдзе хто, каб не чакаў дарма... Добра, што мы ўжо заўтра ў адлёт. І Фадзееў казаў: «Хачу ў Беларусь. Хараша мне ў вашым доме...» Любка ў яго — агонь у сукенцы. Каб так напісаць, трэба самому хоць на крыху жанчынай стаць. І наогул — ён асілак-чалавек. Увойдзе, абзавецца і

адразу прывяжа да сябе. Ні на кога больш глядзець не хочацца.

Люблю слухаць яго. Помніш, у нас на пленуме гаварыў доўгую прамову без падрыхтоўкі, без цыдулак. Потым, не спачыўшы, у мяне дома спяваў, да-відна чытаў вершы. Усё дзевятнаццатае стагоддзе перабраў. Хоць бы дзе запнуўся! Памяццю каго хочаш закасуе.

А ў мяне яна пачала здаваць. Каб не падсунуў ты кнігі,— Канстанцін Міхайлавіч падымае на момант акуляры над пераносіцай і глядзіць на мяне,— так бы я нічога і не ўспомніў.

Ён бярэ «Калевалу» і чытае проста са старонкі, але па-беларуску:

Не пяе пясняр вялікі
Усіх песень даастатку —
Куды лепей запыніць іх,
Перарваць у палавіне...

— Вось што пэўным чынам паўплывала на Сымонаў лёс.

Кніга разгортваецца ў другім месцы. Словы сыходзяць з яго вуснаў лёгка, як быццам і думка працуе без напружання. Гэта робіць яго падобным да складальніка казацкіх дум — бандурыста і да мінскага лірніка, аб якім ён часта прыгадвае. І яшчэ нешта, зусім незнаёмае, пракідаецца ў абліччы, можа ад таго самага фінскага спевака, чые словы зараз гучаць, упершыню для мяне, на беларускай мове. Хапаюся за аловак, але паспяваю запісаць толькі асобныя строфы:

Не далі мяне ў навуку,
Я не чуў людзей разумных,
Мудрых слоў не раздабыў я,
Не прынёс з другога краю...

Я вучыўся толькі ў хаце,
Пад сваёю роднай стрэшкай,
Там, дзе маці кужаль прала,
Дзе кійкі абстругваў брат мой.

Так было яно, аднак жа
Спевакам шлях паказаў я,
Свет адкрыў я перад імі,
Адагнуўшы дрэў макушы.
Скінуў голькі са сцяжыны,
Даў у будучыню выйсце.

Гэтак сцежка разляглася
Для майстроў куды здатнейшых,
Спевакоў куды грамчэйшых
І па руны багацейшых
Паміж моладзі, узрослай
У наступным пакаленні.

Ён скончыў чытанне і ўсё яшчэ ўслухоўваецца ў выдыхнутую патоку прарочых слоў і музыкі.

— Можаш сабе не паверыць, але прысвячэнне да «Сымона» я напісаў, не выязджаючы з Мінска, калі яшчэ не ведаў гэтага. Заключэнне — іншая рэч. Там уплыў выразны. Не саромеюся, хоць гавару першы раз. І з якіх бакоў ні браліся за майго «Музыку», ніхто не злавіў мяне за руку, не дайшоў, куды яна акунулася. А цяпер, можа і пабаліць твая кніжная душа, будзем лічыць, што ты падараваў мне «Калевалу».

«Калевала» перайшла ва ўладанне Канстанціна Міхайлавіча. Пераехаўшы ў Мінск, пралежала з месяц на пісьмовым стале. У самым блізкім суседстве з «Сымонам-музыкам», адкуль вытыркалі закладкі. Мяне непакоіла толькі адна з даволі загадкавымі запісамі: «Дух творчасці» і «Лірычныя адступленні». Але неўзабаве абедзве кнігі перабраліся ў шафу. Заставалася зноў чакаць шчаслівага выпадку, які памог бы адгадаць: а што ж меў на ўвазе Канстанцін Міхайлавіч.

# ПАБРАЦІМСТВА

*Прыхільнік таленту А. Твардоўскага. Паэт і агранам. Дзверы для музы. «Дазвольце вашы дакументы». Твардоўскі чытае паэму. «А ці скора будзе тая даль, мілы вецер?»*



У клуб імя Дзяржынскага не дэступіцца. Ідзе пісьменніцкі з'езд, першы пасляваенны.

Аляксандр Твардоўскі гаворыць аб нашай літаратуры. З добрай увагаю, мерае творы вялікаю мераю: не на дзень, не на тыдзень хады, а на ўвесь поступ народа. І ні ў чым не адступаецца ад свайго строгага густу. Па прыклады лепшага і горшага не трэба далёка хадзіць,— ён рэдагуе анталогію нашай паэзіі і зазірнуў у яе аблічча зблізку.

Такая гаворка не можа не абудзіць, хоць бы яно і прыснýла ў каго, добрага нездавальнення сваёю работай.

Відаць па ўсім, гэта падабаецца Коласу. Калі прамоўца вяртаецца на месца, Канстанцін Міхайлавіч перасаджваецца бліжэй і цісне яму руку, дзякуе.

Назаўтра Колас спыніў мяне каля ўваходу ў залу:

— Не бачыў Аляксандра Трыфанавіча?

У руках у яго зборнік вершаў паэта, мусіць, толькі што купіў у кіёску.

На гэтыя словы якраз і нахваціўся той, каго шукалі. Павітаўшыся, Колас падае кніжку:

— Падпішыце яшчэ аднаму прыхільніку вашага таленту.

Твардоўскі крыху сумеўся.

— Выбачайце, Канстанцін Міхайлавіч. Не маю права падпісваць вам на хаду. Дазвольце ўзяць з сабою.

Звініць званок на пачатак пасяджэння.

Нарэшце адгаварыліся прамовы, выказаліся ўсе наказы і пажаданні, агаласіліся ўсе дружбацкія тосты — дэлегаты і госці пачынаюць раз'язджацца.

Канстанцін Міхайлавіч вырашыў і сабе даць спачын, паблукаць па лесе. Як і заўсёды перад дарогай, пачынае збірацца загадзя. Тупаючы па садзе, вызначае гадзіну ад'езду. Далей абмяркоўваецца праграма наведвання ўлюбёнай мясціны, дзе спыніцца на дарозе, з кім сустрэцца.

Клічуць да тэлефона. Канстанцін Міхайлавіч вяртаецца здаволены.

— Аляксандр Трыфанавіч! Гаворыць: «Хацеў бы пабачыцца, развітацца. А калі ўвалюся не адзін? «Збірайце, кажу, усіх, хто вам па сэрцу...» Рагоча ў трубку: «Галоўнае, каб вам да сэрца былі».

Канстанцін Міхайлавіч усміхаецца сам сабе:

— Мусіць, не забыўся-такі пра абяцанае.

Неўзабаве прыехалі Твардоўскі, Андрэй Малышка і Аркадзь Куляшоў. Проста каля брамы Аляксандр Трыфанавіч перадае гаспадару некалькі сваіх кніжак.

— Гэта ўсё, што знайшлося тут.— І стараецца папярэдзіць словы падзякі: — А тая, на якую вы патраціліся, хай застанецца ў мяне. На памяць. Як навочны ўрок павагі да старэйшых. Вы — умелы педагог, Канстанцін Міхайлавіч.

Колас перш за ўсё вядзе да клумбы з жытам. Участак засяваецца штогод, і па ўраджаі з яго гаспадар мяркуе, як зародзіць збожжа сёлета.

Твардоўскі робіцца вельмі ўважлівы і хвіліну як бы адсутнічае, відаць, замацоўвае штосьці ў памяці. Потым вяртаецца ў размову з жартам:

— У Беларусі ніколі не ўгадаеш, што цябе чакае: вось ехаў да паэта, а трапіў яшчэ і да аграного. Па-мойму, такою справаю не грэх бы і ўсёй Акадэміі заняцца, не толькі віцэ-прэзідэнту.

Твардоўскаму тут ўсё падабаецца, а найболей, што сядзіба з высокімі хвоямі, рабінкамі і кустамі арэшніку нагадвае нячэпаны лясны куток.

Каля ягадных градак ён спыняецца і называе трускалкі суніцамі.

— Сапраўдныя садаводы толькі так і гавораць,

ніколі не памыляцца. Таксама крыху маю дачыненне да гэтага племені. У мяне пад Масквою шпакоўвенька. Можа, завітаеце калі?

— Абавязкова,— хітравата дзякуе Колас,— для абмену вопытам. Напэўна ж, прыехаўшы да паэта, траплю і да садоўніка.— Размова робіцца яшчэ прастарнейшая і пераходзіць у дом.

Пасядзеўшы ў рабочым пакоі, госці заглядаюць і ў Коласаву спаленьку, дзе толькі і мэблі, што просты ложак і столік з прыёмнікам.

— Строга жывяце, Канстанцін Міхайлавіч,— з усмешкай кажа Твардоўскі,— чыстая манашая келля.

Раптам ён заўважае, што са спальні ёсць другія дзверы (тады яны не былі замураваны), проста на сходы.

— Ага, разумею,— Твардоўскі паказвае на запасны выхад,— гэта для музы. Якую, так сказаць, пры выпадку і абпяць можна. Што ж, усё акурат у духу манастырскіх традыцый.

Весялей за ўсіх смяецца Колас.

— Маладое вока! А я ўсё не мог ладу дабраць, каб гэтыя дзверы не гулялі.

Ён запрашае за стол.

— Не адмаўляцца! Да цягніка далёка. Вы першы раз у мяне дома, гэта адно, а другое — чаму б нам не пагаварыць, працягнуць учарашні вечар.

Учора была сяброўская вечарына ў гонар гасцей і дэлегатаў з'езда. Недзе ў сярэдзіне бяседы прапанавалі пачытаць вершы, балазе сабраліся паэты амаль з усіх братніх рэспублік.

Твардоўскі размаўляў з заслужаным ваенным. Перад гэтым паэта доўга не адпускала вялікая аўдыторыя ў Доме афіцэраў,— ён, відаць, змарыўся і цяпер разлічваў правесці вечар без клопату. А тут зноў выклікалі на чытанне.

Твардоўскі падняўся бледны. Ці то ад нечаканасці, ці то не ўспаміналіся патрэбныя радкі, але ён маўчаў. Гамана аціхла, усе вочы скіраваліся на яго. Паўза відавочна зацягвалася.

Колас нахіліўся да суседа:

— Нічога, зацішак бывае перад добрым дажджом.

Сказана гэта было напаўголасу, але Твардоўскі пачуў, пасміхнуўся Канстанціну Міхайлавічу адны-мі вачыма.

— «Пераправа»,— абвясціў ён.

Цэлы раздзел з Васіля Цёркіна! Ці не рызыкоўны крыху выбар для банкетнай залы?

Мне пашчасціла слухаць Качалава і Яхантава, па цэлым тыдні я хадзіў пад уражаннем вершаў Маякоўскага, пачутых з яго вуснаў.

Тут было нешта зусім адменнае. Паэма не чыталася, а як бы імправізавалася на нашых вачах. Уладаю таленту паэт зноў выклікаў сваё першапачатковае перажыванне, уключыў у яго слухачоў. Доўгі стол пад беласнежным абрусам, застаўлены кветкамі, што яшчэ дыхалі сонцам, раптоўна змяніў выгляд, стаў свінцоваю плынню асенняй ракі. І ў ёй — рускія хлопцы, стрыжаныя,— як поўна і горка ўдарыла гэта слова стратай непражытай маладосці. Бо каб былі нястрыжаныя, дык аралі б поле ці танцавалі на вечарынках. А так «цёплыя, жывыя ішлі на дно, на дно, на дно»...

Уздыхнулася ўсім нядаўнім салдатам, спыніўся на момант і чытальнік. Прыглушыў хваляванне ў голасе і павёў нас далей. Чорная кропка на рацэ, што вось-вось схваціцца лёдам, і трывожныя здагадкі дазорных: можа, разведчык ці ўсплыў хто-небудзь з тых, са дна?.. А кропка вырасла ў байца, і адубелы Цёркін вылазіць на бераг. Яму няёмка крыху: за што такі клопат — кладуць на ложак, расціраюць спіртам. Ці не лепш ужыць уратоўчую кроплю па простым прызначэнні?

Уважылі: глынуў і адразу ж акрыяў. Далажыў, як і што, і гатоў вяртацца назад, цераз тую самую сцюдзёную глыбіню, ад аднаго позірку на якую ў чалавека замлявае сэрца. А калі ўжо хваліце салдата, дык ці нельга паўтарыць порцыю агравальнага, не «таму, што маладзец», дарога ж у два канцы!

Бой выйграў не адзін герой. Напэўна, у такіх выпадках старажытныя вянчалі паэтаў лаўрамі. А мы, узрушаныя, доўга не наважваліся ўдарыць у далоні, а калі ўдарылі, не маглі спыніцца.

— Ваенная паэма, а ваюе супраць вайны! — гаворыць хтосьці поруч.

Мяне турбуе іншае. Не, няма, мусібыць, большай магутнасці за гэту чартоўскую магутнасць, сотні разоў адмоўленую і тысячы разоў сцверджаную — натхненне! Вось зараз яна выхапіла з рэальнага існавання, з шумнай бяседы, дзесяткі розных інтарэсаў і характараў, прыхільнікаў і неприхільнікаў, зрабіла іх суадчувальнікамі і перанесла няма знаць куды, не скажу ў зусім нябытае, у бытае, але такое, што ніколі б не ўявілася гэтак поўна, не сфармавалася б у жывы свет без яго, паэтавага, сэрца, без яго, паэтавай, рукі.

Недзе чыталася, што Адам Міцкевіч пасля сваіх натхнёных імправізацый ледзь не падаў у непрытомнасці. А як жа той, хто вось зараз не проста даваў адчуць дотык ледзяной хвалі, а бязлітасна акунаў нас у забіваўшую духі халадэчу, аж пачыналі палясквацъ зубы, і потым шчодра абаграваў паходнаю стопкай, як жа ён?

Ён ужо не быў голасам пачуцця ў постаці высокага бледнага чалавека, які меў сілу на цуд ператварэння попелу ў залаты пясок і нядужых — у асілкаў. Ён стаў такім, як усе наўкола, трохі падвяселеным, такім, як быў нейкіх паўгадзіны таму, Аляксандрам Трыфанавічам са знаёмай усмешкай у вачах.

Як бы ў нечым крыху вінаваты, сядае, вось адказаў лёгкім паклонам на прывітанне Коласа і папранейшаму загаварыў з сваім ваенным суседам. А той правёў рукою па вачах, наліў два бакалы з коптурам і ўстаў:

— За здароўе і да дна!

— Мнагавата!

— А за тое, што — маладзец!

Канстанцін Міхайлавіч вярнуўся з вечара ўзрушаны, узяўся гартаць Цёркіна і цяпер рад павіншаваць свайго госця.

— За тое, што — маладзец! — паўтарае ён учарашнія словы.

— У першую чаргу за вас, Канстанцін Міхайла-

віч,— у тон адказвае Твардоўскі.— За ўсіх малайцоў, што падняліся тут, у Беларусі. Я нядаўна чытаў вершы тых, каго ведаў раней, і многае — упершыню. Уражанне такое, як быццам увесь час дакранаешся да жыцця народа. І расказваецца дастойна.

Гэта — пра «Анталогію беларускай паэзіі». Па ўсім відаць, што рэдагаваў кнігу Твардоўскі не без задавальнення, хоць меў шмат клопату з адсевам тэкстаў.

— Хочацца, каб кніга служыла не адзін год,— дадае ён.— Магчыма, спіс аўтараў шыракаваты, але складалі вы самі...

— Магчыма,— згаджаецца Колас.— Але ж і ў жыцці цэлых краін усяляк здараецца. Адна старонка сто год жыве, а другая — не паспела напісацца, а ўжо не расчытаеш. Тут мы нічога не паправім.

— Дык што б вы параілі? — асцярожна запытаўся відавочна нязгодны Твардоўскі.

— Я не шукаю паслаблення, Аляксандр Трыфанавіч. Дый, мусіць, яно і не патрэбна. Уважыўшы нешта аднаму, можна ўсю літаратуру пакрыўдзіць. Я думаю пра маладых,— працягвае Канстанцін Міхайлавіч.— Напэўна, дзе хто з іх будзе слабой старонкай у нашай агульнай кнізе. А праз колькі год — выблісне.

— У маладых ёсць адна перавага: яны некалі самі сябе паправяць,— заўважае Твардоўскі.— Тут часам трэба і пахвала...

У той вечар яшчэ паспявалі песень. На беларускую, дзе расказваецца, як маладзіца будзіла «маладога абдымаючы, а старога ды штурхаючы», Твардоўскі адказаў падобнага зместу сваёю, відаць, улюбёнаю, дзе гаварылася, як старому клалі пад галаву трысцё.

Колас не можа наслухацца. Кожная народная песня яму дарагая. І не ў сольным ці харавым выкананні праслаўленых майстроў, а так проста за сталом, калі спевакі не вызначаюцца ні галасамі, ні слыхам, а вядуць мелодыю, як загадвае сэрца. Нездарма аднойчы ён на запытанне, што лепей уключыць у канцэрт на ягоным юбілеі, параіў: «Папрасіце маіх сяброў-пісьменнікаў, хай паспяваюць «Валачобную».

Госці пачынаюць збірацца на вакзал, а Канстанцін Міхайлавіч і слухаць не хоча. Прапануе заснуць гадзінку і заўтра ў поўным складзе падацца ў Балачанку.

Твардоўскі расчулены, просіць адкласці беларускі лес на другі раз:

— Вы дапусцілі нас у сваё сэрца, Канстанцін Міхайлавіч, вось мы і пабылі ўсюды, дзе вам люба. Дазвольце развітацца. Вы — магутны на сваёй зямлі чалавек, але чыгуначнікі прывыклі трымацца рэек, і цягніка нам сюды не пададуць...

Назаўтра ў Балачанцы, седзячы на баравой паляне, Колас пачынае як бы сам сабе:

— Дзівак! Не паехаў сюды, а сам казаў — зямлі пакланіцца трэба. Пахадзіў бы па лесе, яшчэ б сілы прыбавілася. Як у былінных асілкаў. Ёсць, ёсць у яго ад гэтай пароды, і нямала.

Не трэба пытацца, пра каго гэта.

У гасцях у Канстанціна Міхайлавіча Твардоўскі і яго сябры расказвалі былі ваенных гадоў. І ўспомнілі адну, больш падобную да небыліцы.

...Стаяла восень 1944 года. Я дапазна затрымаўся ў рэдакцыі газеты «Звязда», здаваў апошні матэрыял на заўтра. У пакой зазірнуў дзяжурны па нумары.

— Прыехаў Твардоўскі, цябе пытае.

Гэта было нечаканна, мы ніколі не сустракаліся, і раптам — «пытае». Але здзіўляцца асабліва не прыходзілася, ваенны час спрашчаў адносіны. У сакратарыяце высокі, русага воласу падпалкоўнік паціснуў руку і загаварыў, як з даўно знаёмым.

— Еду з фронту, вось ноч захапіла.

Гасцініцы ў горадзе яшчэ не было. Я жыў у маленькім пакойчыку, спаў амаль на голых дошках і, здаецца, без падушкі. Дзе прытуліць госця і, галоўнае, чым прыняць? Відаць, усё зразумеўшы, Твардоўскі спытаў:

— А можа, мы адшукалі б Аркадзя?

Я ўспомніў, дзе можна зараз пабачыць Куляшова. Якраз у той вечар нас абодвух запрашалі слухаць новую паэму. Я не мог трапіць туды на прызнача-

ную гадзіну і запрапанаваў Твардоўскаму пад'ехаць разам.

— Вы думаеце, зручна?

Аднак іншага выхаду не было. У дом Аляксандр Трыфанавіч адразу не зайшоў, я выклікаў Куляшова, і яны ўдвух з гаспадаром кватэры запрасілі госця на агеньчык.

Бяседа была пры канцы, паэма даўно праслухана і, відаць, дружна пахвалена, але неўтаймоўны аўтар захацеў участава́ць ёю і тых, што спазніліся. Астатнім давялося слухаць другі раз.

Крыху асалавелы празаік, з кім мы прыперліся сесці на нейкай калодачцы, раз-поразу штурхаў мяне пад бок:

— Моцна напісана, нічога не скажаш, моцна!

Захоплены сваім тварэннем, паэт чытаў з дрыготкаю ў голасе і, падбадзёрваючыся ўхвальнымі позіркамі прысутных, набіраў усё больш гарачнасці.

Напачатку Твардоўскі быў выказаў крыху цікавасці, але хутка зрабіўся безудзельным і сядзеў, пакручваючы ў руках трохзубы відэлец.

— Ну, як, добра? — з выглядам пераможцы спытаў аўтар, тым самым рыхтуючы сабе пахвальны водгук.

У такіх выпадках лягчэй за ўсё сказаць маламзначнае слоўца ці зрабіць прыхільны рух. Твардоўскі маўчаў. Быццам не чуў пахвал, што сыпалі, падмацаваўшыся, госці. Пасля нягучна прамовіў:

— Я лічу твор добрым, калі магу ў ім хоць чаму пазайздросціць. А зараз, даруйце мне...

Кампанію апанавала збянтэжанне і, як ні дзіўна, пярэчанняў не пачулася. Толькі крыху ацвярожаны гаспадар пачаў нешта не вельмі далікатнае...

Твардоўскі падняўся.

— Прашу прабачэння. Я выпадкова трапіў сюды. Прыйшоў дзяркач на неба, дзе месці не трэба. (Літаральна была ўжыта ідыёма «Не каждому топору быть ко двору».) Значыць, бывайце здаровы, таварышы!

Следам за Твардоўскім выйшаў Куляшоў. Падняўся і я — не праз каго ж іншага здарылася непрыемнасць. Кінуліся на раздабыткі па горадзе: трэба закончыць вячэру і знайсці начлег.

Прачытаная рэч мне падабалася, мала таго, яе хвалілі Якуб Колас і Кузьма Чорны. Тады хто памыліўся? А можа яны рабілі гэта па сяброўскай прыхільнасці, каб заахвоціць да далейшай работы?

У нейчай пустой кватэры пачалі, чым маглі, выпраўляць становішча, найбольш тым, што не закраналі ў гаворцы здарэння. Твардоўскі, здавалася, не прыняў нічога да сэрца і неўзабаве ўжо чытаў раздзелы з яшчэ незавершанай паэмы «Дом пры дарозе».

...Тут растлумачылася шмат чаго. Магчыма, у іншы час Твардоўскі быў бы мякчэйшы да нашага аўтара. Але патрабавальны майстар жыў у сваім творы, дзесьці спрачаўся сам з сабою, папраўляў і ўдакладняў сам сябе, не даруючы найменшае прамашкі і паспешнасці.

Усё гэта адчулася ў чытанні, калі паэт правяраў на нас, сваіх першых ці няпершых слухачах, што ўдалося, а што яшчэ і яшчэ трэба пускаць у пераплаўку. Чаго ж дзівіцца, калі ён патрабуе такой работы і ад іншых!

Пачаліся гаворкі. Добра было б апублікаваць хоць урывак з гэтай рэчы ў нас! Упершыню, не чакаючы маскоўскіх выданняў. Твардоўскі завагаўся і нечакана даў згоду.

Калі было пагашана святло, паэт прамовіў, умошчваючыся на мулкай канапе: «Но если по дороге — куст встает...» Я ведаў гэтыя радкі Марыны Цвятаевай і ў думках дакончыў: «Особенно — рябина». Няцяжка было здагадацца: паэт занудзіўся па доме і цяпер, едучы туды, радуецца недалёкай сустрэчы з роднай Смаленшчынай...

Раніцаю паехалі ў Дом друку, пазнаёмілі Твардоўскага з адным работнікам рэдакцыі. Дамовіліся хутка, паэма ідзе ў бліжэйшы нумар, з бухгалтэрыі прынеслі невялікі аванс.

Твардоўскі падняўся ісці дыктаваць урывак машыністцы і раптам спыніўся, відаць, праз далікатнасць:

— Давайце, пачытаю спачатку вам. А можа, не ўпадабаецца, нашто тады машынку ганяць.

Ходзячы ўздоўж сцяны, ён добрыя паўгадзіны чытаў на памяць напісанае. Гаспадар кабінета сядзеў у паставе каменнага ідала, нарэшце літасціва пасміхнуўся:

— Надрукуем.

— Тады, каб не траціць часу, я не буду дыктаваць зараз. Куляшоў перадасць вам рукапіс, блакнот у яго на кватэры.

Не ацаніўшы гэтага добразычлівага кроку — да права першай публікацыі дадаваўся яшчэ і аўтограф,— супрацоўнік насцярожыўся: ці не даў ён якое прамашкі? Падняўся з крэсла і працадзіў:

— А ўсё ж, таварыш Твардоўскі, дазвольце вашы дакументы.

Мы ўкамянелі.

Твардоўскі змяніўся з твару і абвёў нас вачыма:

— Ваша праўда, безумоўна, і ваша права!

Не выпускаючы з рук, ён паказаў рэдактару ваеннае пасведчанне, паклаў на стол аванс і хутка выйшаў.

Тут ужо не вытрымалі мы. Такі паэт робіць табе ласку, дае выдатную рэч, а ты! Пад гарачую руку нагаварылі многа чаго.

Ён ні кроплі не пакрыўдзіўся, толькі ляніва адмахнуўся рукою.

— Адкуль я ведаю, мала розных прайдзісветаў цяпер валочыцца? Трэба правяраць.

Не сваімі нагамі выходзілі мы на вуліцу, думаючы, што Твардоўскага ўжо следу няма. Нічога падобнага! Аляксандр Трыфанавіч стаяў пры «газіку» і весела расказваў пра здарэнне свайму шафёру.

— Шанцуе мне ў вас! Сустрэчы — на ўсё жыццё. Каб хто расказаў, дык хоць бажыся і кляніся ён, не даў бы веры.

У голасе Твардоўскага не чуваць нават маленькага засмучэння: падхапіў каларытны выпадак і цешыцца ім як мастак — смешна і цікава, ёсць што людзям расказаць, а каму якая справа, з кім гэта здарылася.

Нам робіцца многа лягчэй. Просім даць урывак — перакладзём і надрукуем.

Тут усіх апаноўвае смех. Несутрымны, раскацісты, калі рагоча ўся істота, высмейваючы з сябе няёмкасць ці ўяўную трывогу, як толькі павернецца яна другім, нечаканым і таму вясёлым бокам.

Мы рагочам у машыне, рагочам у магазіне. Зірнуўшы на нас, пачынае смяяцца прадаўшчыца і пытае, як у дуроннікаў-падлеткаў:

— А што вы смешнае з'елі, ці не жабу?

— Была такая закуска,— кідае нехта з нас.

Гэта дае новую спажыву весялосці. Дабіраемся ў драўляны дамок на ўскраіне, там наразаюцца скваркі і пячэцца вялізная патэльня яечні. Гаворка плыве ў трывалых берагах франтавое і ўсякай іншай турботы.

Неўзаметку перайшло за паўдня: трэба развітвацца, віднага часу толькі-толькі стане даехаць да Смаленска. Твардоўскі помніць абяцанне і перадае старонкі з запісной кніжкі — невялічкія, у клетку, густа запісаныя ліловым атрамантам, яны ад таго часу перахоўваюцца ў мяне.

Гэта гісторыя стала крылатай. Не паспее хто-небудзь прачытаць новы верш сябрам, як адразу чуецца: «А дазвольце вашы дакументы».

У той вечар Канстанцін Міхайлавіч давяршае нявыдуманую навелу нявыдуманай канцоўкай:

— Гэты работнік неўзабаве апынуўся на Палессі, здаецца, у зямельным аддзеле.

— Давай яму бог,— заўважае Твардоўскі,— чалавеку ніколі не пашкодзіць пакланіцца зямлі.

— Так, калі зямля яму што-небудзь дала. Але, магчыма, і гэты навучыцца пазнаваць, дзе авёс, дзе бульба. Па праўдзе сказаць, рэдакцыйнае крэсла даўно ўжо сумавала па іншым чалавеку. Граматы меў мала. Казалі, дадуць яму гранкі, дык ён, бядак, сядзіць-сядзіць з чырвоным алоўкам, а потым кліча суседа: «Ідзі сюды! Я, ліха матары, зноў забыў, як гэту закрутку ў мяккім знаку ставіць: у правы бок ці ў левы?»

— Такую рэч, Канстанцін Міхайлавіч, вы маглі б і Ляскову падараваць.

— Падабаецца яго? — Колас не чакае адказу.—

Па-мойму, нельга не любіць. Са словам цуды рабіў, а гумар! Для яго ў Беларусі знайшлося б не адно цікавае здарэнне з духоўным саслоўем. Некалі мне расказвалі, вось. Прыехаў у адзін павет, у глыбінку, архірэй, суровага звычаю чалавек. Сабраў сваіх даўгакосых і даўгакрысых і пачаў: пастоў не трымаецеся, у карты рэжаце, злога духа цешыце. А наперадзе самае страшнае: трэба падыходзіць пад благаславенне. Папы дрыжаць: благаславіць ці не, чаго добрага, наложыць епіцім'ю, а там і сан страціш. Але грозны пастыр быў у добрым настроі, і ўсё абышлося лёгкім ушчункам. Дайшла чарга да дзячка, ён не вытыкаўся на вочы і больш за ўсіх перакалаціўся, стоячы ў кутку, баяўся, каб не выгналі за чарку. Нідзе не дзенешся, ступіў наперад, злажыў далоні накрыж, схіліў над імі галаву:

— Благаславі, уладыка!

Той глянуў і адвярнуўся: што ж гэта за свяшчэннаслужыцель, брудны, абшарпаны, учарашняй гáры не выдыхаў, уся бяда па носе відаць.

— Ваша прэасвяшчэнства! — узмаліўся няшчаснік.— Злітуйцеся! Успомніце, мы з вамі ў бурсе на адной лаўцы сядзелі.

— Не помню, не помню.

— Ваша прэасвяшчэнства, вы ж у мяне задачкі спісвалі...

— Не помню, не помню.

— Ваша прэасвяшчэнства,— дзячок зашаптаў, выкладаючы апошні козыр: — А як цераз сцяну лазілі, поначы, да малочніцы Насці?..

— Багаяўленскі! Ах! — ва ўладыкі вырвалася бурсацкае слоўца.— Помню, помню! Благаслаўляю і дарую. Ідзі з мірам!

Апавядальніку робіцца смешна самому. Перадыхнуўшы, ён дадае:

— Папы зрабілі выгляд, нібыта нічога не чулі, але архірэю ўсё ж давялося перабрацца ў другую епархію.

— Ваша апавяданне,— кажа Твардоўскі,— Ляскоў у чыстым выглядзе. Магу прапанаваць штосьці падобнае. Праваслаўе заўсёды асімілiравала іншыя рэлігіі... Так і цяпер, дакладней, зусім нядаўна...

Мы слухаем новую гісторыю. Попік з далёкага

раёна прыехаў да ўладыкі са скаргай: прыход бедны, сям'я вялікая, а ён атрымлівае харчовую картачку літар Б.

Архірэй зняў тэлефонную трубку:

— Аддзел забеспячэння? Да вас бацюшка прыйдзе. Айцец Сулейман, дай яму літар А.

Канстанцін Міхайлавіч прыняў усю бяседу на сябе, успомніў яшчэ тое-сёе і вымагае ад кожнага расказаць што-небудзь «ляскоўскае».

— Хіба што і я ўспомню,— згаджаецца ўкраінскі госць,— але з бліжэйшага часу.

Андрэй Малышка маляўніча расказвае, як да іх прыехаў архірэй не архірэй, аднак асоба высокая. Сабраў пісьменнікаў, вылажыў праграму: што ў літаратуры — пад неба, а што — пад зямлю. Гаворкі не атрымлівалася. Тады пачаў падкідаць ліслівыя слоўцы, звяртацца да кожнага паасобку, называць паймённа: «Што ж вы маўчыце? Я ж вас яшчэ з камсамола помню». Зноў цішыня. Толькі чуваць, як ён пастуквае пальцамі па стале і кулакі пачынае камячыць. Слухайце і разумейце! Дый гэта не дапамагло. Давялося яму таксама змяніць епархію.

Яны сустракаліся з Твардоўскім не так часта і не так блізка, каб умацаваліся тыя чалавечыя адносіны, што звычайна называюць дружбай. Але, пабачыўшыся, гэтыя два, вельмі стрыманыя на выяўленне пачуццяў, чалавекі былі заўсёды рады. Ім лёгка гаварылася, часам маглі дазволіць сабе і памаўчаць.

Шэраватая снежаньская раніца ніяк не можа разгуляцца і асвятліць гасцінічны нумар. Перададліжны змрок нервуе Канстанціна Міхайлавіча.

Тэлефонны званок: «Ёсць патрэба параіцца!» — кажа Твардоўскі.

— Вось і добра, а то вельмі павольна час ідзе.— Колас задаволены з магчымасці адарвацца ад клопату.— Пагамонім з чалавекам. А ты куды збіраешся?

Адгаворваюся справамі: мала якая ў іх можа быць рада, хай застаюцца лепш вока на вока.

Вяртаюся, калі госць і гаспадар паспелі паснедаць, гавораць пра юбілейны вечар.

— Хочаце паслухаць маё выступленне?

Як звычайна, Твардоўскі чытае па памяці. Колас адказвае тым жа. Некаторы час трывае цішыня, відаць, яны моўчкі раяцца між сабою. Потым увагу Аляксандра Трыфанавіча прыцягвае вялікая сашчэпка, якая змацоўвае дзве старонкі Коласавага верша.

— А гэта нашто?

— Усё здараецца... Возьме падхопіцца вецер і панясе...— нібыта сур'ёзна тлумачыць Колас.

— Вецер, у Вялікім тэатры? — таксама нібыта сур'ёзна здзіўляецца Твардоўскі.— Наўрад ці ён будзе туды дапушчаны.

— Я не спадзяваўся б на памяць, Аляксандр Трыфанавіч. А што, калі раптам выйдзеце на трыбуну і забудзеце?

— Тады мне ўжо ніякая сіла не дапаможа.

Твардоўскі апранаецца, яму да твару ладны балгарскі кажух. Канстанцін Міхайлавіч шкадуе, што не ўзяў свайго кажушка.

— Можна было б куды-небудзь разам па дровы паехаць.

— У лес трэба ватовачку прызапашваць. Заўтра пабачымся!

Была і ў лесе сустрэча, як хацелася Канстанціну Міхайлавічу. Твардоўскі прыехаў у наш загарадны дом творчасці разам з А. Куляшовым. Не заходзячы ў пакоі, яны пакіраваліся па лясной сцежцы і надоўга зніклі.

Па абедзе я выпадкам напаткаў іх каля жытняга поля. Ішлі, праз колькі крокаў спыняліся пастаяць, як быццам нешта даводзілі адзін аднаму: відаць, вілася даўно пачатая, толькі ім зразумелая размова.

Хутка ўсё растлумачылася: Твардоўскі піша новую рэч і пазнаёміў сябра з пачаткам работы.

— Ёсць прапанова пачытаць,— сказаў Аркадзь.— Колас вярнуўся з Мінска?

Мы пасядзелі крыху каля дома, Колас такою парою звычайна далучаўся да размоў пры вячорным вогнішчы. Далі знаць таму-сяму з насельнікаў дома, папрасіліся паслухаць і нашы жанкі.

Канстанцін Міхайлавіч запрасіў усіх да сябе, у

крайні, аблюбаваны ім пакой. Туды паказвала дарогу шарэнга бронзавых хвой,— выйшлі з лесу і пасталі ўздоўж грудавой сцежкі: смялейшая наперадзе, здаецца, зробіць яшчэ крок і апынецца на ганку, а за ёю адразу ж падступяцца бліжэй і астатнія таварышкі.

— І зайсці не заходзяць,— сумнавата ўсміхаецца Колас,— і назад не вяртаюцца. Вось і разбяры, чаго яны хочуць. Ніяк не дапытаюся, мусіць, з сабою клічуць... Вось гэтыя лапатухі,— ён адчыняе фортку, адхінаючы рукою галлё маладых асінак,— праз цікаўнасць у хату плішчацца. Цікнуць у шыбіну і — чулі не чулі, бачылі не бачылі, давай раззвоньваць па ўсім лесе: «На свае вушы чулі, на свае вочы бачылі, так яно ўсё чысценька і было».

Колас вельмі падобна падрабляецца пад жаночую скорагаворку. Ад гэтага бяскрыўдныя дрэўцы за шыбамі веранды, дзе мы сядзім, на нейкі момант і сапраўды пачынаюць здавацца падобнымі да вясковых кумак-таечак, што аж млеюць ад жадання дазнацца што-небудзь патайнае.

Прачытаны «Дзве кузні» і «Сем тысяч рэк». Нам робіцца хораша і святочна і трохі боязна, каб не спудзіла настрой лішняе слова. Усе маўчаць. Адны-мі вачыма ўсміхаецца Куляшоў, нібыта гаворачы: «А што?»

— Калі альпініст падымаецца на які-небудзь пік, не трэба, мусіць, ні падпіхаць, ні цягнуць за пяты ўніз. Сам узыдзе. Вось і мы скажам: шчасліва, на самую вяршыню.— Колас паціскае руку госцю.— Многа трэба сказаць вам, Аляксандр Трыфанавіч, за адзін раз не ўправішся.

І сапраўды, Канстанцін Міхайлавіч яшчэ вярнуўся да гэтага чытання. Яму запомніўся хлопчык, на чыіх вачах адбываўся цуд ператварэння метала ў прылады працы: чалавек рабіўся тварцом. І ва ўмельстве «тым жа малатком кавальскім скаваць падобны малаток» бачыўся ўжо зародак майстэрства паэтычнага.

— Па зямлі трэба хадзіць асцярожна, прыглядаючыся. Бо возьмеш і стопчаш каліўца, а яно з па-

этычнага роду. Што мы, вясковай кузнічкі не бачылі?.. Бачылі і ведалі, а праміналі без увагі. А паэт кінуў вокам туды і пачуў малаты галоўнай нашай кузні, уральскай. Вось гэтаму б і вучыўся...

Колас называе прозвішча і засмучаецца. На ад'ездзе з дома творчасці да Твардоўскага прысукаўся літаратар, пачаў з амікашонства, а скончыў тым, што нагаварыў грубасцей.

Абарвалі, паспрабавалі ўшчуць, і тут за грубіяна заступіўся сам Аляксандр Трыфанавіч.

— Не чапайце, чалавек мае права гаварыць, што хоча: ён тут гаспадар.

Гэта дайшло і да затуманеных мазгоў, іх уласнік сышоў і доўга пасля баяўся паказацца на вочы Коласу. А Канстанцін Міхайлавіч, хоць нічога не сказаў яму, але выпадак запомніў: ён трымаўся старых звычаяў, і парушэння гасціннасці не даруваў нікому.

Нават праз некалькі год, пасылаючы Твардоўскаму збор твораў, зноў затрывожыўся, быццам сам быў у чым вінаваты. Прыдзірліва адбіраў лепшыя экземпляры, доўга прымерваўся пяром перш чым пачаць падпісваць.

Потым дагаварыў усё, што не змясцілася ў даравальным надпісе, што было навеяна яшчэ тым, аўтарскім, чытаннем паэмы «За даллю даль».

— «Сем тысяч рэк». І ўсе збягаюцца ў Волгу. Не адна рака набіраецца сілы і на нашых прасторах... У каго іншага гэта магло б прагучаць, як даведка з падручніка. Відаць, і паэзія, каб стаць Волгай, павінна ўвабраць у сябе не менш ручаін і рэчак. Вось ён — і ёсць такая рака. І я чую дзесьці ў ягонай плыні беларускія крыніцы. Так і скажы яму...

Відаць, славутыя радкі аб тым, як чаргуюцца далі, як за адной узнікае другая, нагадвалі Коласу ўласныя развагі, што турбавалі яго гадоў трыццаць перад гэтым, калі пісаў ён у апавяданні «Даль»:

«— А ці скора будзе тая даль, мілы вецер?

— Мы даўно мінулі яе, а цяпер новая даль перад намі».

Пазней, калі збярэцца наш трэці пісьменніцкі з'езд, Колас скажа:

— Помніш наш «ляскоўскі» вечар? Вось табе

яшчэ адзін прыклад, што ў добрага пісьменніка нічога не прападае. Твардоўскі тады ўжо ў новым творы думкамі быў.— Ён гаворыць пра нядаўна прачытаныя раздзелы паэмы «За даллю даль». Здавалася б, усе нашы тыя смешкі і жарты павінен быў паўз вуха пускаць. А ён выхапіў кавалачак золата: сярод пасажыраў едзе «поп с медалью восьмисотлетия Москвы». Не кажы, што мог убачыць у вагоне такую асобу з узнагародай, не пагаджуся. Убачыць і напісаць — малая заслуга, усе ўмеюць. А гэта паэт не з такіх, не можа ён проста ўзяць чутае. Іншая справа — абаперціся на яго, скарыстаць прынцып кантрасту і стварыць сваё. Бацюшка ў вагоне мог быць, веру, а што медаля яму Твардоўскі начапіў — даю галаву наадрэз...

Мне не ўдалося перадаць сямітомнік у рукі адрасату. Не паспеў нічога больш сказаць яму Канстанцін Міхайлавіч, не пачуў і таго, што думалася аб ім Твардоўскаму.

Аляксандр Трыфанавіч загаварыў пра Коласа, калі мы сустрэліся ў А. А. Пракоф'ева пад час III Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў.

— Цяжка вам будзе, хлопцы, без старых. Вось апошні адышоў. Яго смерць страта не толькі вашай літаратуры. Баюся, што зараз вы пачняце дадаваць ёй вагі штучна. Нашто? Ёсць жа сапраўдная вага — Колас і Купала. Іх не на адзін ваш век хопіць, каб падтрымаць славу Беларусі. А там, глядзіш, калі не штурхацца локцямі і дапамагаць усім, хто прабівае дарогу да слова, дык і наступнік з'явіцца. Дастойны.

# ЛІРЫЧНЫЯ АДСТУПЛЕННІ

*Вузкае. Абдымкі з дубамі. Колас чытае «Адплату». Пачуццё сям'і. Думка аб уяўным бляску. Ташкенцкае захапленне. Дзённік расказвае пра паэму. Айтар зноў у крытычных рызах. Загублены раздзел «Сымона-музыкі». Што гаварыла Сымонкава ігра. Імправізацыя. Новае абліччa героя.*



Трохі падшорхла зямля. Насустрач адна адной пачалі расці крохкія шкляныя стрэлачкі на лужынах. І ад гэтага берагі іх сталі выраза́ныя, быццам у кляновым лісці, толькі празрыстыя.

Так было звечара. А на раніцу за вільгатнаватым заходнім ветрам прыляцела і ўдарылася ў шыбы зімовая птушка.

Белае пер'е пасыпалася ўсюды, і адразу ж зрабілася вельмі светла, чыста і крыху пуставата: увесь будзённы клопат заслаўся снегам.

Пачала класціся зіма.

Як заўсёды, уяўленне прапануе на гэтыя словы дзіцячы малюнак. Вялізны пушысты звер умошчваецца на зімоўку. Дужыя лапы разграбаюць лагавішча ў сухім лісці да мяккага і цёплага моху. Пакруціўшыся і паскавытаўшы, звер кладзецца і, уздрыгваючы, засынае. А зверху на белае футра цярусіцца белы снег, і вось яшчэ адзін белы курган вырастае на соннай зямлі...

Такім надвор'ем цяжка ўседзець у хаце, і мы паехалі ў Каралішчавічы. Канстанцін Міхайлавіч пахадзіў па не рушаным ніводным полазам, не топтаным ніводнай нагою снезе. Потым пастукаў у нейчы пакой, і туды адразу ж сышліся ўсе зімовыя жыхары дома творчасці.

— Даволі, хлопцы, тварыць, пасядзім, пагаворым,— кажа Канстанцін Міхайлавіч,— Адарву вас ад работы.

Хтосьці кідае дзяжурны жарт, што ад гэтага літаратура толькі выйграе. Робіцца весела, але Канстанцін Міхайлавіч раптоўна выключаецца з гаворкі. Ён маўчыць, паглядаючы, як за акном шпарка цямнее, і ад гэтага, здаецца, бліжэй і хмурней падступаюцца пад дом спічастыя яліны.

— Вузкае ўспомнілася,— растлумачыў ён мне назаўтра.

Вузкае — гэта падмаскоўны санаторый, дзе Канстанцін Міхайлавіч адпачываў у канцы 1944 г. Там мы — П. Броўка, Даніла Канстанцінавіч і я — віншавалі яго з днём нараджэння. Ехалі цераз усю Маскву трамваем да апошняга прыпынку. Потым даволі доўга ішлі палявой дарогаю, па хмызняках на вострым сіверы. Добра такі памерзлі...

У пакоі, дзе жылі Канстанцін Міхайлавіч і Марыя Дзмітраўна, на акне паміж рамамі была зроблена кармушка для птушак.

— Харчуюцца па маім раскладзе,— тлумачыў Канстанцін Міхайлавіч, пакуль мы распраналіся і хукалі на рукі.— Дакладна пільнуюцца санаторнага раскладу. Ведаюць, калі нас кормяць.

Сапраўды, як толькі надышоў час абеду, зляцелася неверагодная колькасць сініц. Ім паміж дубальтамі, нам з гаспадарамі ў маленькім пакойчыку было цеснавата, але затое не нудна. Сініцы ціўкалі, дзеўбучы крошкі, мы агалошвалі тосты за новы творчы год, за сустрэчу ў Мінску, адкуль не так даўно папрыязджалі. Пасля вызвалення ў сталіцы не быў толькі Канстанцін Міхайлавіч, дый ён, як кажуць, сядзеў ужо на спакаваных чамаданах.

Галоўны пачастунак чакаў нас пасля абеду. Канстанцін Міхайлавіч скончыў паэму «Адплата» і абяцаў пачытаць. Аднак ён падняўся і запрапанаваў спачатку прайсціся ў парк.

Так Колас пазнаёміў нас з дубамі, пазнаёміў літаральна, бо кожнае дрэва мела чалавечае імя. Канстанцін Міхайлавіч ахрысціў іх так трапна, што, калі называў чарговае імя, здавалася, перад намі не дуб, а сапраўдны Рыгор, вясковы дзядзька ў лапціках і шапцы-аблавушцы. Наймагутнейшы і найста-

рэйшы ў гэтай сям'і называўся Сымон-дзядзя. Ён замацаваўся на жыццё ў Коласавым вершы «Вузкае». Падставы для пашаны і далікатнага абыходжання з дрэвам, безумоўна, былі. Мы паспрабавалі абняць Сымона: не стала рук. Да нас далучыўся Канстанцін Міхайлавіч. Ён пачаў клікаць у гурт і Марыю Дзмітраўну.

— Хопіць і вас, самі добрыя дубы,— пасміхнулася яна.

— Не надта ўжо і дубы,— падхапіў жарт Броўка,— калі ўпяцёх аднаго не абдымем.

Канстанцін Міхайлавіч абіваў з паліто прыстаўшыя пад час «абдымкаў» парушынкі.

— З добрым чалавекам, хлопцы,— абазваўся ён,— ніколі не пашкодзіць абняцца. Вось вы і змацавалі дружбу з Сымонам-дзядзькам.

І павёў нас па прыцярушаных сняжком лясных сцежках, дзе хадзіў сам кожную раніцу і вечар, каб і мы пасябравалі з нагледжанымі і дапушчанымі ў сэрца мясцінамі.

Краявід быў падобны да беларускага. Тут Коласу лягчэй было ператрываць апошнія дні расстання з радзімаю. А ён нецярпліва рыхтаваўся да сустрэчы.

Вось і зараз, калі спыніліся мы на ўзлеску, як за магнітнаю стрэлкай, Колас павярнуўся ў бок Беларусі, нібыта мог разглядзець яе абрысы за плячыма вялізнага сусветнага горада, што, дыхаючы камінамі, запальваў перад намі вячэрнія агні.

— Баюся, сэрца разарвецца, калі ўбачу дом...

Сказаў і скінуў шапку. І болей не аказаўся. Сціхлі і мы, каб не парушаць яго размовы з тым, што было далёка і ў той жа час поруч, з чым ён быў разлучаны доўгія гады вайны і аглядаў кожную хвіліну, што магутна і ўладна ўваходзіла з яго істоты ў нашы і, хоць мы маўчалі, само вымаўляла сваё светлае імя — бацькаўшчына.

Вярнуўшыся ў санаторый, мы атрымалі па дубовым кійку, якія Канстанцін Міхайлавіч уласнаручна выразаў у бліжэйшых гайках, а потым загінаў на цяпельцы кульбы.

Ён узяў рукапіс і гартаў яго, выбіраючы раздзелы для чытання. На нечым, нарэшце, спыніўся.

— Гэта я для абароны пакінуў,— прамовіў, пад-

соўваючы да сябе замашны, як бічык, кій.— Калі вельмі нападаць пачняце...

Канстанцін Міхайлавіч прачытаў нам тады амаль усе лірычныя адступленні. Зрабіў гэта, відаць, знарок, бо сюжэтныя раздзелы, будучы выхаплены з цэласці, патрабавалі б растлумачэнняў. А можа проста хацеў паказаць самае лепшае.

«Успомню я лес Беларусі»,— пачулася ў пакоі. У горле цёпла заказытала горкая жальба па знішчаным лясным харастве, і зараз жа прачнулася радасная падзяка родным барам. За тое, што ўстаялі, што далі прытулак чалавеку ў чорныя дні.

Тут жа, не даючы апомніцца, дыхнула навальніца, нагадаўшы пра пачатак нашэсця. «Над полем, дзе спелі жыты і пшаніца»,— чытаў роўна, не павышаючы голасу, паэт, і мы, усхваляваныя, сачылі, як па чарзе змяняюцца тоны і фарбы, святлее неба, лягчэй робіцца жыту, і пачынае яно пакрысе падымаць калоссе, сагрэтае ўзышоўшым сонцам.

Недзе далёка перагукнуўшыся з Янкам Купалам, у тым жа народным ключы, але зусім па-свойму, вырасла афарыстычнае выслоўе, простае і ад гэтага яшчэ больш моцнае:

Наперад і толькі наперад,—
Ні кроку назад.

А словы вернасці радзіме і партыі злажыліся ў ёмкую лаканічную формулу:

Мы тым, браты, жывы і дужы
І поўны бясстрашша,
Што маем такое аружжа,
Як партыя наша *.

Колас даўно скончыў чытаць, а мы ўсё маўчалі, удзячныя яму за часіну чыстага і глыбокага перажывання.

У той вечар, вярнуўшыся ў Маскву, мы яшчэ няхутка развіталіся. То словам, то думкай радаваліся, што можам у кожную хвіліну папытацца рады ў Коласа, а то і проста, без патрэбы, падысці да яго, адчуць на сабе ягоны позірк.

Пра нешта падобнае ў адчуванні гаворыць і Канстанцін Міхайлавіч зараз, больш чым праз дзесяць год пасля сустрэчы ў Вузкім.

— Вы пайшлі тады, а мы з Марусяю — услед. Дапазна хадзілі па парку. І што кожны з вас гаварыў і як трымаўся — усё перабралі. І сышліся зрэшты на адным: вялікае гора — вайна, і яна ўмацавала ў людзей пачуццё сям'і. Нават далёкія людзі пачалі адзін у адным сваякоў адчуваць. Няўжо ж яно страціцца, з такою мукай і крывёй народжанае пачуццё? — гадалі мы з Марусяй. Выходзіць, нашы сумняванні мелі падставу. Магло зноў да вялікай бяды дайсці, каб...

Канстанцін Міхайлавіч на трохі змаўкае.

— Каб... не просты і мудры закон прыроды, якому падпарадкуюцца нават усеўладныя. А колькі мы яму паклонаў палажылі! І я... У той самай «Адплаце»...

Ён глыбока ўздыхае і задумваецца. Далейшыя словы тлумачаць аб чым. Аб Вузкім, аб той пары, калі не быў яшчэ адзін.

— Нябожчыца праўду думала. Марыя Дзмітраўна не любіла яго. Казала: у такіх людзей не ўгадаеш, дабро табе зробіць ці злое. Нездарма ў народзе пра нізенькіх асоб кажуць: палавіна на зямлі, а палавіна — пад зямлёю. Не даходзілі гэтыя Марусіны словы да майго сэрца. Толькі ў Ташкенце аднекуль узялася адна думка. Запомніў яе для аповесці.

Мы часамі лішняе ўтлумачваем самі сабе пра чалавека. А страціўшы крытычныя адносіны, надзяляем яго звышнатуральнымі рысамі, надаём уяўнага бляску. І тым самым прыніжаем сябе, падпадаем пад яго магічную сілу.

Навеялася гэта думка, пахадзіла яна са мною з тыдзень і адступілася.

Пад восень 1943 года пачалося наша шырокае наступленне. Я страшэнна чакаў кожнай перадачы, ведаў на памяць усе загады, лічыў салюты. Удзячнасць за гэта перавысіла мае сумненні. Яны забыліся, і з гэткім настроем пісаў я «Адплату». Цяжка і доўга пісалася яна, дый засталася неацэненай.

Тут адзін мой знаёмы прычыніўся. Я яму даў пасяброўску рукапіс пачытаць. Дык ён спачатку мне

ў вочы рознае гарадзіў, а пасля ганіў, дзе толькі мог. Стварылася вакол паэмы нездаровая абстаноўка... Ну, і досыць!

Аб гэтым даводзіцца чуць не першы раз. У голасе Канстанціна Міхайлавіча ўздрыгвае па-дзіцячы горкая крыўда. Пры ўсёй дальнабачнасці і спрактыкаванасці ён падзяляе лёс многіх аўтараў — памыляцца ў ацэнцы сваіх твораў — і схілен ставіць «Адплату» ледзь не на адзін узровень з «Новаю зямлёю». Аднак сёння ў яго няма настрою паглыбляцца ў далейшыя меркаванні на гэтую тэму.

Канстанцін Міхайлавіч гаворыць, што спадарожнічала напісанню «Адплаты».

— У той час усё прыбывала добрых спраў і вестак. Мы гналі немцаў, забіралі свае землі і гарады. На кожную падзею хацелася адгукнуцца. Але змясціць у паэму ўсё, што чулася і думалася, не было змогі. А пісаць верш — пераб'ецца настрой, і страціш смак да работы. Вось і знайшоў я продухавіну. Пачаў пісаць лірычныя ўстаўкі. Яны ўвязваліся ў агульную тканіну паэмы, але маглі ісці ў свет асобна, адны...

Тут адкрывалася магчымасць яшчэ раз зазірнуць у патайнае. У свет фармавання твораў.

Я пацікавіўся, з чаго і як узнікла задума, і заадно спытаў, ці даводзілася яе змяняць і што цяжэй за ўсё ўдавалася.

— Ад задумы амаль не адступаў. Усплывала сёетое пішучы, як заўсёды. Але гэта нязначныя рэчы. Ішоў строга па плану. Вось пацікаўся.

І даў мне даволі тоўсты вучнёўскі сшытак з надпісам «Кніга ташкенцкага быція». Гэта быў дзённік! Што такі ёсць, думка ў мяне ўзнікала неаднойчы, але на магчымасць зазірнуць у яго я не спадзяваўся.

Канстанцін Міхайлавіч няголасна прамовіў:

— Бяры дамоў. Але не паказвай нікому. І сам пастарайся чытаць толькі тое, што напісана пра «Адплату». А калі не ўтрываеш, дык памаўчы. Тут ёсць адна гісторыя, а ёй рана яшчэ з'яўляцца на свет.

Прызнаюся шчыра: я не ўтрываў! Прачытаў

дзённік ад лаўкі да лаўкі і з радасцю пераканаўся, што, не зважаючы на той цяжкі час і шэсць дзесяткаў гадоў з гакам, сэрца Канстанціна Міхайлавіча змагло раскрыцца перад раптоўным пачуццём. Яно парадзіла смутныя і светлыя радкі, змушала аўтара іх пісаць і самога ж насіць лісты, рабіць крук, каб хоць здалёк зірнуць на вокны адрасата, шукаць сустрэч...

Але, помнячы яго просьбу, буду расказваць толькі тое, што тычыцца паэмы.

Першы запіс, з якога пачынаецца гісторыя «Адплаты», у «Кнізе ташкенцкага быція» (будзем далей называць яе — дзённік) з'явіўся 2 красавіка 1943 года:

«Прабаваў напісаць верш. Тэма — здраднік паслужыў прычынаю вялікага гора чалавечага. Праз яго маці страціла сына. Яна плача, прычытае па ім. Здраднік праходзіць і ўсё гэта чуе. Як успрымае ён вынікі свае здрадніцкай чыннасці.

Верш не даваўся. Патрабуе выношвання. Тэма мяне займае. Напісаў некалькі строф на другую тэму, якая яшчэ зусім неакрэслена. Можа з часам з гэтага выйдзе невялікая паэма».

Цераз два дні Канстанцін Міхайлавіч робіць запіс:

«Вечарам прабаваў пісаць на «неакрэсленую» тэму».

Да 12 красавіка работа значна пасунулася наперад. Паэма выйшла са стадыі задумы, страціла неакрэсленасць, ужо ўпамінаецца ў запісах з азначэннем «новая» і мае назву «Адплата».

«Закончан першы раздзел — 100 радкоў»,— натуе Канстанцін Міхайлавіч у дзённіку.

Звярнуўшыся да напісанага, мы можам зрабіць некалькі вывадаў. Пачаты верш аб здрадніку, а магчыма, толькі задума яго, зліліся з накідамі «неакрэсленай» паэмы, паслужылі стрыжнем першага раздзела «Адплаты». Туды ж увайшло і галашэнне маці па страчаным сыне (трэці падраздзел).

13 красавіка «...работа не надта паддавалася», зазначае Колас і назаўтра дадае: «...з напісанага

ўчора амаль не ўзяў нічога, апроч адной страфы». Затое 17-га, адзначаючы працу на перапісцы і праўцы зробленага, аўтар мог спадзявацца: «Можа, вечарам скончу другі раздзел».

Трэба думаць, што гэта ўдалося, бо назаўтра Канстанцін Міхайлавіч даў сабе адпачынак. Наступны дзень прайшоў у турботах: выклікалі на 3-ці Усеславянскі мітынг. 20-га з раніцы быў на прыёме ў СНК Узбекістана, а «ўвесь вечар прасядзеў каля акна», любаваўся навальніцай. Толькі 21-га ўспамінаецца пра паэму. Раніцай яму нядужылася: «у вачах з'явіліся плямы», але ўдзень усё ж «прысеў за работу». Відаць, гэты дзень быў плённы, бо запіс ад 22-га гаворыць: «Раніцою скончыў раздзел — пахаванне».

Паводле нумарацыі раздзелаў у канчатковым варыянце гэта быў трэці раздзел, але няпоўны, толькі дзве яго часткі, дзе апісваецца пахаванне Івана. Нататка ад 25 красавіка сведчыць аб намерах больш падрабязна звярнуцца да вобраза Цімоха. Як відаць, гэта і было зроблена ў дзвюх частках, што завяршылі раздзел.

Выезд у Маскву і хвароба прымусілі адкласці работу аж да 2 чэрвеня. Аб гэтым дазваляе меркаваць запіс, зроблены 3-га таго ж месяца:

«Зараз трэба зрабіць праўку напісанага ўчора». І ніжэй: «Работа наткнулася на труднае месца. Справа ідзе аб здрадніку. Здраднік не ў поўнай меры. Хістаецца».

Адсюль можна здагадацца, што Колас пачаў работу над чацвёртым раздзелам, дзе хісткаму Цімоху супрацьстаўляецца Жыгун, «фашысцкі прыслужнік заўзяты».

На гэтым і замарозілася пісанне амаль на тры тыдні. Перш за ўсё, стрымлівала руку складанасць задачы: тут Колас падышоў да стрыжнявой думкі. Адцягненая задума павінна была пераліцца ў чалавечы характар. Як на тое, назбіралася мноства living рознага клопату. Пісаў верш пра Купалу, рыхтаваў уступнае слова да купалаўскага вечара. Гэта быў абавязак сэрца. Сярод іншых абавязкаў даводзілася быць у доме і гаспадаром і гаспадыняю — хварэла Марыя Дзмітраўна.

Толькі праз тры тыдні, 25 чэрвеня, Канстанцін Міхайлавіч мог даць сабе справаздачу:

«Напісаў чатыры страфы. Раздзел гэты адказны. Трэба шмат прадумаць».

Як відаць, запіс адносіцца ўсё да таго ж чацвёртага раздзела. Але вось мінае зусім небагата часу, і Канстанцін Міхайлавіч 3 ліпеня адзначае: «Трохі пісаў *пачатак шостага раздзела*». Значыць, за нейкіх восем дзён былі закончаны аж два раздзелы! Чацвёрты — адказны — аб здрадніку і пяты — апісанне побыту разбуранай фашыстамі вёскі.

Рывок! Як гэта нязвыкла для Коласа з яго паслядоўнасцю работы над творам.

Методыку Коласавага пісання падрабязней і грунтоўней ускрыюць даследчыкі. Мы звярнуліся да некалькіх дзённікавых запісаў, каб убачыць разам з чытачом, як расла задума, як не даваў сабе палёгкі пісьменнік. Нарэшце, чаму не дазнацца, як, з якой прычыны і патрэбы з'яўляліся лірычныя адступленні ў Коласавых паэмах, балазе загаварыў пра гэта ён сам і дазволіў карыстацца тымі радкамі, што звычайна пішуцца толькі для сябе. На гэтым мы і спынімся яшчэ крыху.

11 ліпеня дзённік сустракае нас пэўнымі і няпэўнымі весткамі:

«Закончыў VI раздзел. Прыйдзецца пачысціць яго. Думаю пра наступны, VII. Змест яго выяўлен. Пачаў са ўстаўкі — прыметы: цяжкая зіма 1939—40 гг. Вымерзшыя сады — бяда, павал людзей».

У запісу ад 13 ліпеня змест раздзела канчаткова ўдакладняецца:

«Сёмы раздзел пачаў лірычным адступленнем. У ім можна хоць цьмяна выліць часць таго, што тоіцца ў душы... Напісаў да VII раздзела ўступ як асобны верш, які можна змясціць асобна».

Калі меркаваць па змесце, тут размова ўсюды ідзе не аб сёмым, а аб шостым раздзеле паводле нумарацыі друкаванага варыянта. Гэты, шосты, раздзел якраз і пачынаецца з адступлення «Далёка, далёка ты, край дарагі...» *

Як бы там ні было, хоць са скідкамі на гарачыню ўзбекскага лета, нездароўе, выезд на адпачынак, Колас усё ж увайшоў у палавіну паэмы, дапісаў X раздзел, а ўся рэч спачатку разлічвалася на 20 раздзелаў. Дапісаў і застаўся нездаволены вынікамі работы летніх і асенніх месяцаў.

1 кастрычніка ён дае сабе суровы наказ:

«Трэба падганяць паэму. Пішацца яна ў апошні час марудна. І хворасць і становішча скрыжаваных дарог трохі замінаюць рабоце».

Канстанцін Міхайлавіч не адступіўся ад наказу. 2 кастрычніка «...напісаў 32 радкі XI раздзела», а 4-га «...дапісаў XI раздзел. Пачаў XII».

Напісаўшы за тры дні ні многа ні мала — 112 радкоў, 5 кастрычніка Колас занатоўвае: «Водступам аб лесе пачаў XII раздзел паэмы. Большую часць напісаў. Можа, заўтра, калі не будзе перашкод, закончу».

Заданні самому сабе выконваюцца больш чым дакладна. Назаўтра адступленне было не толькі закончана, а і перапісана і адаслана ў Маскву для перакладу.

Пачалося абдумванне далейшага. Пасля ўступу хацелася паказаць баявое жыццё партызанаў і пагарэльцаў у лясах. Колас ведаў гэта толькі па газетах, а тут патрэбна было калі не сваё вока, дык хай бы і трохі менш вострае, але такое, што аглядала там усё само, каб ператварыць убачанае ў жывы і цікавы расказ.

Такіх людзей поблізу не было, даводзілася задаваць работы ўяўленню. Таму нас і не дзівіць запіс ад 9 кастрычніка:

«Пісаў паэму. У замыслах лёгка, проста. Практыка, выяўленне замыслаў цяжэй. Хачу, каб людзі былі жывыя, каб іх бачылі. Шмат патрэбна працы».

«Труднае месца», як назваў Колас гэты раздзел, было пераадолена да 11 кастрычніка, але з агаворкай «патрабуе перагляду».

Да звычайнай патрабавальнасці мастака далучаўся фізічны стан. Здароўе не вытрымлівала. 12 кастрычніка Колас скардзіцца дзённіку:

«На чарзе XIII раздзел паэмы. Самапачуванне такое, што не адважваюся прыступаць да работы. Але рабіць перарывы не варта — потым яшчэ трудней узяцца за работу».

Усё ж у гэты час, калі «...ногі ледзь слухаюць, набліжаецца хірургічная аперацыя», 14 кастрычніка дзённік паведамляе, што работа не спынілася: «Напісаў 24 радкі XIII раздзела». Не спынілася і назаўтра, перад самай аперацыяй: «Трохі падганяў XIII раздзел. Засталося работы на адзін дзень». І адразу ж пасля аперацыі не даў сабе спачынку Канстанцін Міхайлавіч. 16 кастрычніка «...пісаў паэму іварыў абед... Дакончыў за сённяшні дзень XIII раздзел (40 радкоў). Думаю ў адным з далейшых раздзелаў паэмы напісаць адступленне — зварот да герояў паэмы і аб тых умовах, у якіх пісалася паэма, і пра таго, аб кім думаў так многа».

Тут патрэбна ўдакладненне: дзённік сведчыць, што думалася не пра таго, а пра тую.

За ажыццяўленне намеру Канстанцін Міхайлавіч узяўся на другі дзень і запісаў: «У чарнавіку паставіў XIV. Гэта чарговы раздзел, які хацеў пачаць лірычным уступам. Работа не пайшла».

Уступу ў гэтым раздзеле (па канчатковай нумарацыі — XIII) не атрымалася. З'явіўся ён, праўда, не такі, як задумваўся, цераз раздзел, а больш поўна рэалізавалася ўся задума ў эпілогу паэмы.

Праца не наладжвалася доўга. Калі яна давала вынікі, Колас не мінаў выпадку кожны вечар парадавацца гэтаму ў дзённіку. А тут больш чым на тры месяцы (з 23 кастрычніка 1943 г.) усякія ўпамінанні аб «Адплаце» знікаюць з яго старонак. Толькі 2, 4 і 8 лютага 1944 года з'яўляюцца прыгадкі, горкія дакоры сабе: «Выбіўся з работы над паэмай. Трэба ж уцягнуцца». «Зараз жа трэба ўзяцца за работу».

Трэба сказаць, што нараканні на сябе былі не вельмі абгрунтаваныя. Калі супаставіць запіс ад 10 лютага «...прадоўжваў XVI раздзел...» з папярэднім, дзе гаворыцца аб працы над XIV раздзелам, няцяжка заўважыць: Колас не траціў марна часу. Але таго, што за тры месяцы перавёў на паперу ўсяго два раздзелы (XIV і XV), дараваць сабе не мог.

Ушчункі дапамаглі. На другія два раздзелы (XVI і XVII) спатрэбілася два тыдні, і 25 лютага Канстанцін Міхайлавіч мог пахваліцца: «Сёння прыступіў да ўступу да XVIII раздзела». І ўслед жа: «Пішу: «Над полем, дзе спелі жыты і пшаніца».

З 27 лютага сляды работы над паэмай губляюцца. Прычына немалаважная — у Нова-Беліцы, ужо на роднай зямлі, збіраецца сесія Вярхоўнага Савета БССР!

Толькі 28 красавіка ўдалося занатаваць: «Дапісаў апошнюю страфу падраздзела XVIII».

Праз увесь май і чэрвень у запісах чаргуюцца дзве работы: над паэмай і над карчамі, прычым час ад часу перавага аддаецца выварочванню і пілаванню карчоў. 13 чэрвеня не без усмешкі запісана: «Сядзеў дома. Болей завіхаўся каля карча, чым каля паэмы. Напісаў усяго 12 радкоў».

З гэтым іранічным запісам суседзіць яшчэ адзін, такі ж самы: «Работа не ідзе, праўда, не браўся».

Шчыра кажучы, цяжка было і ўзяцца. Салют грымеў за салютам, наша армія падыходзіла пад Мінск. Хацелася рвануцца ўслед, але прыходзілася цярпліва чакаць, без асаблівай ахвоты пісаць артыкулы, водгукі для перыёдыкі. А паэма карцела, была ўжо відна ўся, да апошняга радка.

«Ціхая раніца, свежая,— чытаем запіс 4 чэрвеня.— Перапісваў XIX раздзел, закончаны ўчора. Мяркую канец паэмы ўкласці ў адзін XX раздзел. У паэме перайду да Цімоха. У лесе мяркую правесці сустрэчу з Жыгуном. Хочацца прадпаслаць апошняму раздзелу ўводную часць. У ёй хацеў бы правесці думку, як народ ставіцца да здраднікаў. Нічога не прыпомню з народнай творчасці. Можа самому прыдумаць казку-легенду аб асіне?»

Завяршэнне паэмы не магло не адцягнуцца. Поруч з гэтай рабілася яшчэ з дзесятак работ, і немаленькіх.

«Думаю пра верш,— размаўляе сам з сабою Колас,— які трэба напісаць з поваду мінскіх падзеяў. Пад Мінскам многа загубілі немцы народу. Калі ж канец кату-Гітлеру!»

Перад вачыма ўставала пякельнае вогнішча Трасцянца, страшныя магільныя равы ў Масюкоўшчыне і Уруччы.

Гэта быў невыгойны боль народа. А калі балела народу, балела і яго першаму пісьменніку. Хіба Колас мог заставацца спакойным! Гаварыць, расказваць свету аб чорным злачынстве! Як мага хутчэй! Як мага галасней! Калі трэба, можна адкласці ўбок і паэму.

А задума яе пачынае разрастацца...

«Сёння, што б там ні стала,— піша Канстанцін Міхайлавіч 10 верасня,— скончу XXI раздзел. Астанецца яшчэ два, а можа тры. Хочацца давесці паэму да 24 раздзелаў».

Узяўшы сябе ў такія шорсткія рукавіцы, Колас набірае сур'ёзныя тэмпы пісання. 11 верасня перапісваў закончаны раздзел, дадаў яшчэ адну страфу.

12-га ўжо мог сцвярджаць: «Пачаў XXII раздзел паэмы. Напісаў сем строф і гэтулькі ж адпілаваў тоўстых калодак, памагала Маруся».

Але аптымістычны прагноз, зроблены назаўтра: «Дапісваюцца фінальныя радкі...», не спраўдзіўся. Толькі 16 лістапада, ужо ў Вузкім, з'яўляецца апошні запіс:

«Паэму скончыў. Засталося напісаць эпілог. Напісаў яго 9.XI... 12. XI чытаў адпачываючым урыўкі з паэмы. 14. XI напісаў верш «Вузкае».

Так было заўсёды! Канчаў адну работу і, не даўшы сабе ні хвіліны спачынку, адразу ж за другую. Таму, што ў працы бачыў сэнс жыцця. Іначай навошта яно, не напоўненае радасцю ствараць, радасцю ведаць, што створанае прыдаецца і другому чалавеку на добрую карысць.

І вось тады, у няскончанасці ваенных падзей, не ступіўшы яшчэ на родныя прыскі, не ведаючы, дзе і як будзе жыцца ў Мінску, пачынае Колас думаць пра новы твор. Заварушыўся клопат аб «Рыбаковай хаце», балазе захаваўся спытак з пачаткам паэмы.

Зразумела, чаму агарнула яго такая руплівасць. Прыгадвалася падабенства лёсаў сям'і героя і свае ўласнае: яны хочуць яднання з усім народам. Дані-

ла марыць сысціся пад адным дахам з савецкімі братамі. Колас насумаваўся ў змушаным расстанні з роднаю зямлёю, сніць і бачыць яе. Пара варочацца і весці з сабою героя.

Але яшчэ многа смутнага давядзецца перажыць Коласу, яшчэ не так хутка асядзе ён настала ў Мінску і возьмецца за пачатае...

Яшчэ давядзецца не раз пагартаць і тую самую «Адплату», а перагляд і пераробка яе адбіралі ці мала часу, не дазвалялі, калі адчувалася самому недавершанае і недасканалае, пераходзіць да новых радкоў.

Вось як гэта раскрываецца ў дзённіку:

«За работу над паэмай сягоння не браўся. Ды справа не ў гэтым: паэмай жыву, паэму падводжу да канца. Пачаў чытаць яе з першых радкоў:

Прайшла тут, як чорная пошасць,
Нямецкага зверства каса...

«Зверства»... Мне чамусь паказалася, што «зверства» трэба замяніць нейкім іншым словам. Трэба падумаць... Паэму чытаю далей, як крытык самога сябе.

Па дарозе днём і ўночы...

Здаецца, лепей «удзень».

«Ох, божа ж мой, божа!»— галосіць
Жанчына ў лясочку пустым...

Гэтыя радкі, трэба мець на ўвазе, канечне прыпомніць у фінале паэмы.

Не будзе, не будзе спакою
Прадажным скарэдам.

Трэба абмеркаваць, ці на месцы тут «скарэдам».

Не ён жа паліў іх і нішчыў,
Ды што ўжо казаць?
Што зробіш ты супраць сілішчы,
Такая іх рацъ.

Падумаць, страфу пераправіць... «Псуе «рацъ». Давёў чытанне да 30-й старонкі...»

Параіўшыся з самім сабою, Якуб Колас робіць канчатковую праўку. Упэўніцеся ў гэтым, пагартайце першы раздзел паэмы. Пісьменнік пакінуў нам гэтае сведчанне свае патрабавальнасці пацверджаным дакументальна. Шматлікія чарнавікі і папраўкі сведчаць, што такая праца была праароблена над кожным раздзелам...

І вось што гаварыў Канстанцін Міхайлавіч пад час адной з чарговых размоў пра «Адплату»:

— Працаваў я над гэтай паэмай і стала і прыхваткамі. Але адно заўважыў: не напісаўшы лірычнага ўступу, я не мог зрушыць работу з месца. З «Сымонам-музыкам» было іначай. Там патрэба ў лірычных звязках прыйшла пазней. У самым першым выданні, можаш пацікавіцца, іх не было.

Скончыў я збольшага «Сымона» і перад габлёўкай перачытаў. Хацеў прасачыць, як дзея рухаецца. І засмуціўся: здаецца, усё сказана і нічога. Не дыхае рэч, нежывая. Што за ліха! У грудзях у мяне гэтага дыхання поўна. Як жа зрабіць, каб задыхаў твор? Калі ў пачатку кожнага раздзела даць нейкі лірычны подых? Можа, і ўвесь твор сагрэецца.

Справа гэта была цяжкая. Хацелася, каб ва ўступе толькі прадракаўся настрой далейшага, а ўсе падзеі былі за заслонай.

Аднак прарабіў я так з першай часткай і ўзрадаваўся. У творы як бы з'явіліся дзіцячыя вочы. А калі зірнеш праз іх на свет, дык і паэма і ўсё, што робіцца ў ёй, выглядае жывейшым.

Усё гэта, як мне здаецца, дапамагло «Сымону» пашырэць. Так з казкі жыцця твор стаў паэмай...

Тоненька і надаедна свішча завея ў забытую, незаўважаную, незалепленую шчыліну акна. Канстанцін Міхайлавіч то слухае гэтую нескладаную мелодыю, адвярнуўшыся на гук, то пільна ўглядаецца ў пацягнутае змрокам процілеглае акно. Там, нароўні з шыбамі, гнуцца хвоі, абтрасаючы снег з кучматых верхавін, быццам падарожныя, што старанна

абіваюць каўняры і шапкі, перад тым як ступіць цераз парог у хату.

— Быў адзін чалавек,— смутнее голас Канстанціна Міхайлавіча,— ды загінуў недзе ў завейных краях. Ён здагадаўся, што «Сымон-музыка» разбіты на некалькі колаў. І наогул цікава пісаў пра паэму. Казаў, што мастак — гэта адбітак родных з'яў. Бабарэку помніш? Хаця ж вы абодва ва «Узвышшы» былі. Вось ён чужых думак не пераказваў, свае меў...

Я тады быў жадзён кожнаму слову пра «Сымона». Хацеў далей весці работу. Адчуваў, што не ўсе адступленні служаць агульнай задачы твора. А некаторыя служылі, але не маглі існаваць асобна. Не ўсюды дамогся гэтага. Захапіўся разнастайнасцю памераў і тое-сёе страціў... Праўда, вяло мяне не толькі гэтае захапленне.

Як заўсёды, успомніўшы непрыемнае, Канстанцін Міхайлавіч цягнецца да пачка папярос. Зараз ён бярэ адну і, панюхаўшы тытунь, кладзе назад.

— Дзяўблі мяне з усіх бакоў маладнякоўцы,— працягвае ён.— Казалі: дзеяслоўныя рыфмы, памеры бедныя. Дык я пачаў рабіць у піку ім, хацеў уткнуць шыла ў бок. Што ні раздзел, то новы памер ужыву ці новую страфу. Дзе сам выдумляў, дзе з Брусавым раіўся. Чытаў яго «Опыты», меў кніжку па вершаскладанню.

Не ведаю, ці пераканаў у сваім майстэрстве другіх, а сам пераканаўся ў нечым важнейшым. Колькі памераў ні трымае ў руцэ паэт, для твора трэба толькі адзін. Такі, куды б паўней вылілася задума...

А за жаданне пафарсіць формай я быў пакараны. Наствараў слоў па ўзору маладнякоўцаў: з двух адно. У нейкага маладога паэта з «буры» і «пены» атрымалася «бурапеніць». Пазней усе няўдалыя вершы сталі «бурапенай» зваць. Ці не з мае лёгкай рукі...

Тым часам у «Сымону» сам ужываў «цёмнакрыліць», плыўнадымныя», «іскразьянныя». Нават цэлыя радкі «бурапены» плаваюць. Не помніш? А гэта: «Гудзе лясун, як гудзе струна гітары». Бачыш, які фуз! І рыфмачкі фарсістыя да таго ж: «ра-

дасць — дабра дасць». Усе перахварэлі на гэтую дзіцячую хваробу: рызыкнуць новенькім. І мы, старыя, не ўсцераглiся.

Відавочна, зараз Канстанцін Міхайлавіч гаварыў недаказанае, што збіраўся, але забыў сказаць ці праз нейкую прычыну стрымаў сябе. Бо нашто ж тады было яму некалькі год назад у кнізе «Сымон-музыка» рабіць закладку са словамі «Творчы дух» і «Адступленні»? Я не забываўся пра гэта і лічыў размову няскончанай. Цяпер яна вычэрпвалася. Што такое «Адступленні», стала ўжо ясна. Быў самы час запытацца і пра другое.

— «Творчы дух»? — пасля маўчанкі перапытаў Канстанцін Міхайлавіч.— Гэта гісторыя аб марна загубленым раздзеле паэмы. Да таго ж сваёю ўласнаю рукою... Толькі я ўжо змарыўся гаварыць, а ты слухаць... Давай вячэраць...

Працяг размовы не прымусіў сябе доўга чакаць. Я прыйшоў да Канстанціна Міхайлавіча з раніцы, як мы папярэдне дамовіліся, каб развažыць усе справы «на свежую галаву». Ён пачытаў перапісаныя на машынцы лісты і аддаў іх апусціць у скрынку. Потым зірнуў запытальна на мяне:

— Помніш, як Сымонка ўцёк з карчмы? Загарэўся ад Якімавых слоў, выкраў скрыпку і — ходу! Раней гэты раздзел чытаўся не так. Хлопца моцна пакрыўдзілі. Ён іграў, у яго быў найвышэйшы момант натхнення. А карчомныя слухачы абсмяялі.

Канстанцін Міхайлавіч гаворыць ■ любасцю і лёгкім засмучэннем. Параўноўваю ў думках абодва варыянты раздзела і пачынаю адчуваць, што і сам гарнуся больш да першапачатковага, чым таго, што ведаюць усе.

Як тонка і глыбока стасавалася там мастацкая думка ўсяго твора да канкрэтнага выраšэння асобна ўзятага раздзела! Сымон у стане імправізавання... Ён так паглыбіўся ў бачанне і выяўленне бачанага ў музыцы, што, іграючы,

Бы ад цела аддзяляўся
І свет гэты пакідаў *.

Шчаслівая размова мастака з людскімі сэрцамі трывае, на жаль, нядоўга. «Момант творчасці раз-

біўся». Карчма не зразумела і не магла зразумець таго, што іграў малы музыка! А скрыпка расказвала, як творчы дух абудзіў людзей, яны пачалі гаварыць гучна і смела, але зварот іх не знайшоў водгуку. Не пазнаў, не прызнаў, не палічыў іх за сваіх абыякавы свет.

Ці ж пад сілу было ўспрыняць гэта карчомным абівайпарогам, што патрабавалі ад хлопчыка ўлюбёную «Лявоніху»?

Гордасць распроствае худзенькія Сымонкавы плечы:

Я не буду граць з-пад палкі,
Спіны вам я не сагну.

Хлопец уздымаецца да разумення свабоды мастака — гаварыць не па загаданым, а як жадаецца яму самому — і адстойвае свае права...

Як жа магло здарыцца гэтак? Чаму быў выкасаваны раздзел паэмы, які з найбольшай паўнатою раскрываў яе задуму, дзе герой, можа, не па напалу пачуцця, але па ўзнёсласці і непасрэднасці яго, становіцца блізка да Капрада з «Дзядоў»?

Нарэшце, у нашай літаратуры гэта бадай адзіны, калі не лічыць «Страшнай музыкавай песні» Максіма Гарэцкага, паэтычны дакумент, які адлюстроўвае стан душы імправізатара, падаючы адначасна і яго тварэнне.

На дапамогу маім меркаванням і развагам прыходзіць сам аўтар.

— Мне здалося памылковым рабіць простых людзей вінаватымі перад Сымонам. Няхай сабе яны не зразумелі ягонай ігры. Чаго мужык у карчму валокся? Бо там быў яго клуб, яго тэатр, яго бібліятэка. Дзе ты з суседам пабачышся, навіну пачуеш? Або дзе можна параіцца, якога падвор'я чакаць на лета? Калі жывёлу ў поле выганяць, калі сеяць? Нарэшце, дзе льга хоць крыху душу падвесяліць? З пана пасмяяцца, са злое долі пакпіць? Усё там жа — у карчме.

Да гэтай установы мужык куды больш хінуўся, як да царквы. Сяляне хадзілі туды, бо баяліся: не

пойдзеш, бог угневаецца і пашле якой бяды на галаву. Цераз гэты страх найбольш адбывалі маленне. Набажэнства доўгае, суровае. Пазірай спадцішка на абразы і слухай. Цябе ўвесь час палохаюць за кожны крок рознымі карамі. Стой, не дыхні, не варухніся. Ногі мерзнуць, у папа з рота пара верне...

А ў карчме цёпла. Прыпрыся на лаве і сядзі хоць да раніцы, мянці языком. Не маеш залатоўкі на чарку, карчмар напавер дасць. У папа такой ласкі ніколі не заслужыш. Дарам рота не разявіць, не то каб ахрысціць дзіця ці маладых звянчаць...

Вось табе і адмычка, чаму людзі да карчмы хінуліся. Не дзіва, што не папала пад густ слухачам Сымонкава музыка. Ведалі «Лявоніху», любілі яе і патрабавалі іграць. Вінаваты яны ў гэтым? Наўрад. Уся іх віна, што яны цёмныя... Але ж не гэтыя людзі змушалі разменьваць талент на дрындушкі. Яны паспачувалі Сымону, устыдзілі таго хлопца, што чапляўся да малога музыкі...

Цяпер разумееш, ад чаго я адштурхваўся? Хацеў выразней асудзіць іншы бок. Людзей, што мерыліся пакарыстацца з хлопцавага таленту, залыгаць яго на службу. Вось і пацягнуў я лінію благіх асоб. Ад дзеда-жабрака да карчмара, а пасля да князя. Насупраць іх роўна, як пад шнур, паставіў добрых: Ганну, Якіма, Данілу. Дзве сцяны: адна насупраць другое. Можа, яно ў творы выйшла не гэтак проста, а думаў-то я якраз так...

Канстанцін Міхайлавіч гартае кніжку. Першае сціпленькае выданне «Сымона-музыкі» ў наборнай вокладцы з жоўтай абгортачнай паперы, з правінцыйнымі аздобамі, віньеткамі і тоненькімі рамачкамі на кожнай старонцы, відаць-такі, дасюль падабаецца яму.

Яно і зразумела. Не дзесяткамі палічваліся тады Коласавы кнігі. Каб злічыць іх, бадай, хапіла б пальцаў на адной руцэ. Вось таму і запомнілася гэтая кніжачка-пярвачка.

Колас прабягае вачыма раздзел, аб якім ідзе наша непаспешная размова.

— Та-ак,— паволі расцягвае ён слова,— можна было зрабіць прасцей. А наогул, я разважаў правільна. Сымон уцякае з карчмы. Вядома, праз гас-

падара яе, а не праз наведвальнікаў. Тым больш трэба было пакінуць сутычку з імі. Гэта была як бы апошняя кропля горычы. Капнула — і пералілося цераз верх цярпенне ў хлопцавай душы. Кінуў-рынуў усё і пайшоў. А што малому было несалодка, дык і глухі мог пачуць адсюль...

Канстанцін Міхайлавіч на нейкі час зноў паглыбляецца ў жоўценькую кніжачку. Не перапыняю роздуму, хоць і хочацца папытаць... Ён папярэджвае пытанне:

— Часамі я ўжо схіляўся пакінуць усё так, як тут,— ён загортвае кніжачку, адкладае яе на стол.— Тады з'яўлялася пытанне: які ж змест улажыць у Сымонаву ігру? Для мяне было ясна.

Але не так думалі мае крытыкі. Пачыталі, там некалькі разоў «бог» і «божы» ўспамінаецца, і спалохаліся. Мала таго, абвясцілі гэты раздзельчык ледзь не бібліяй, а мяне самога — ледзь не мітрапалітам Філарэтам.

Ад нечаканага прыпадабнення ў калючай шчоточцы нізка падстрыжаных вусаў апавядальніка на момант завісае ўсмешка. Гэта чамусьці прымушае ўявіць восень, халаднаваты адвячорак, незааранае ржышча. На лагодным ветры трапечацца няйначай прылепленая да шорсткай саломы адным-адзенькая, асветленая сонцам, асабліва белая на густа падсіненым прызем'і неба — павуцінка!

Я ўсміхаюся следам... Не адказаць на тую ледзь улоўную ўсмешку-павуцінку нельга.

— Праўда,— дадае Канстанцін Міхайлавіч,— так і пісалася, што ў паэме «ярка рэлігійныя настроі». А якая ў мяне была цяжкасць пры пісанні? Каб жа я здагадаўся ўкласці песню не ў Сымонавы вусны, а аддаць яе скрыпцы! Зусім іншыя паперы былі б! А я ўзяў і напісаў вось як... Глядзі...

Кніжачка разгортваецца, і я чытаю страфу, у якую ўпёрся тыльны бок алоўка:

Скрыпка штораз галаснее,
Прыямней гудзе струна,
Скрыпка плача, скрыпка млее,
Выгаварвае яна
І раптоўна ажывае.
Ей Сымонка падпявае.

— Трэба было пасля «яна» ставіць двукроп'е, а далейшыя два радкі — побаку! А я ўзяў ды пайшоў за імі. Што можа спяваць Сымонка? Толькі тое, што яму даступна, зразумела.

Аловак Канстанціна Міхайлавіча зноў упіраецца ў радкі:

І таксама, па заказу,
Граў Сымон па вечарох,
Дзе дух творчасці ні разу
Крыл сваіх узняць не мог.

— Вось што я меў на ўвазе ў Сымонкавай імправізацыі. Але гэта было вышэй ягонага разумення. Што мог чуць і ведаць такі хлапчук аб творчым духу? Вось я і пачаў усюды ляпіць «божы дух». Думаў, бліжэй будзе сялянскаму дзіцяці. Тым больш у школе пра гэта казалі. Я табе калі-небудзь раскажу пра хлапчука са святым духам у портачках...

Жартлівы ўспамін праходзіць мімалётна, не затрымаўшы ўвагі Канстанціна Міхайлавіча. Ён нават сур'ёзнее.

— Сымонаў спеў — не малітва богу, а маленне свету, прыродзе. А больш за ўсё — сілам прыроды, якія не стамляюцца тварыць. Для Сымона ўсе тыя сілы злучаюцца ў адну з таемным іменем — бог.

Каб хлопец умеў выказаць сваё адчуванне, ён сказаў бы: бог — гэта імя таго, што хочацца пазнаць чалавеку. І ў Сымона быў прымітыўны сялянскі пантэізм. Такі самы, як у майго дзеда і ў дзядзькі Антося. Не забыўся, як дзядзька маліўся ў лесе, а дзед сам сабе выдумляў пацеры?

У такім нарыхтаванні перапрацоўваў я паэму. І ўсё больш заходзіў у тупік са сцэнаю ў карчме. Добра ўсё разумею, а зрабіць выразна не магу. Круціў-круціў і выкінуў увесь раздзельчык. Не здолеў вызваліць Сымонку ад бога. А бог быў яму ні да чога, як гузік на носе. І мне гэтаксама: крытыка дзяўбла, і сам я — педагог, моладзь вучу...

Вось і ўся гісторыя...

Канстанцін Міхайлавіч нагінаецца над сталом, барабаніць пальцамі па шкле.

— І ў чым я зблытаўся? — нібы разважае ён сам з сабою.— Цяпер, як падумаю, тут зусім лёгка рады даць.

Уважліва слухаю, як мяркуе Канстанцін Міхайлавіч даваць гэтай рады. Перш-наперш, ён казаў ужо гэта, але паўтарае зноў,— апусціць два радкі, дзе гаворыцца, што Сымон надпявае скрыпцы. Тады пачуццё і сэнс імправізацыі, занадта складаныя для хлопца, будуць выліваццa з музыкі, як бы абмінаючы яго самога.

Канстанцін Міхайлавіч настроіўся ваяўніча і вызначае ўсё большыя скарачэнні. Выкасаваць у імправізацыі ўсе звароты-прыпевы пасля кожнага пяціраджоўя.

Яны, праўда, ствараюць урачысты тон, але па сутнасці, замінаюць успрыяццю. Мусіць, вінавата форма зваротаў, запазычаная з велічальных царкоўных песнапенняў.

Гэта ўсё гаворыцца ў якасці доказаў, чаму трэба выкрэсліваць радкі, а не правіць, як быў падаў думку я.

Астатняе, гэта ўжо вынікае з усяе нашай размовы,— слова «дух» усюды паставіць з азначэннем — творчы.

Я папрасіў дазволу ўзяць з сабою кніжку... Хацелася прачытаць паэму тымі вачыма, як бачыў яе аўтар зараз, без лішняга, непатрэбнага. За вечар я перапісаў увесь раздзел, як думалася Коласу, а раніцаю ўзяўся чытаць...

Усё паўстала ў зіхаткім і трывожным святле: узнік магутны, нават у сціплым зародку сваім, талент. Здалося, у нечым, хай сабе далёка-далёка, ён даводзіцца сваяком тым, хто абдарваў нас «Апасіянатай», «Дэманам», «Курганам». І самае галоўнае: знікла назаляўшае раней адчуванне, нібы аўтар упэўняе цябе ў выключнасці свайго героя, ты як быццам дзеля павагі згаджаешся, але недзе ў глыбіні душы не можаш перамагчы нязгоды і абыякавасці.

Сымон раптоўна набыў рысы сапраўднага існавання. Трэба сказаць праўду: аўтар і раней даваў даволі глыбокіх падстаў, каб мы трывожыліся, хваляваліся за Сымона ва ўсіх яго прыгодах і няўдачах.

Але зараз мне стала шкада яго не як няшчаслівага, мілага, па-дзіцячы здольнага хлопчыка.

Не! Я стаў бедаваць аб марна загубленым таленце, які заявіў аб сабе не аўтарскімі — хай сабе і самымі майстэрскімі — запэўненнямі, а сваёю адзінай талентавай справай — творам! І адразу ва ўсім пераканаў: у рэальнасці ўласнай асобы, у здольнасці бачыць за звычайным дзівоснае, у неабходнасці мець для ўжытку, апрача прыроджанай, яшчэ і мову музыкі.

І мы паверылі ва ўсё гэта, гатовыя на пратэст і больш актыўныя дзеянні супраць несправядлівага свету, які люта вызвяраецца на мастацтва і яго стваральнікаў, калі толькі яны не выказваюць жадання надзяваць ярмо ці хадзіць на задніх лапках...

Пад гэткім уражаннем я перапісаў яшчэ раз карчомны эпізод, каб пры выпадку даць магчымасць аўтару паглядзець і паправіць, як ён знойдзе патрэбным.

На маё здзіўленне, Канстанцін Міхайлавіч даволі ахвотна ўзяўся за перагляд гэтай даўно напісанай рэчы. Пакінуў у сябе рукапіс і прыкладна праз тыдзень пайшоў далей сваіх першапачатковых планаў.

Апрача намечаных радкоў-прыпеваў былі выкраслены чацвёртая, пятая і сёмая строфы імправізацыі.

Пасля, некалькі дзён запар, Канстанцін Міхайлавіч вяртаўся да гэтай работы: прасіў запісваць папраўкі стылістычнага парадку, моўныя і гукавыя паляпшанні ў радках.

Ён пачаў прызвычайвацца думаць і нават складаць радкі ў прысутнасці другога чалавека — была практыка сумеснай работы над сямітомнікам і трылогіяй.

Пісаць самому рабілася ўсё цяжэй: неадчэпна балелі рукі.

Большасць сённяшніх чытачоў, відаць, мае прыблізнае ўяўленне аб прадмеце гэтай гаворкі. Першае выданне «Сымона-музыкі» стала унікальным, папраўлены аўтарам IV раздзел трэцяй часткі нават не трапіў у варыянты апошняга збору твораў Якуба Коласа. А будучы перапрацаваным і пераасэнсаваным, гэты раздзел, на маю думку, прымушае другімі вачыма глядзець на ўсю паэму.

Паспрабуйце прачытаць (гл. Дадатак).

# МАЛАДЫЯ ШЛЯХІ І СТАРЫЯ КРАТЫ

*Дзень нараджэння. Тры гады турмы ці хвіліна подласці. З'езд і суд. Кухар Пішчалінскага замка. Новае кола пакут. «Сымон-музыка» ратуе ад тугі. Вясельнае падарожжа. Сакрэтная кніжачка. Вайна і чалавек, які мог адхіліць яе. Прапаршчык Міцкевіч. Каманда дэзерціраў. Беспартыйны сакратар партыйнай ячэйкі.*



Да дня нараджэння — 3 лістапада — Канстанцін Міхайлавіч часта пісаў усмешлівыя прысвячэнні самому сабе. Агалошваліся яны пры таварыскай бяседзе, у невялічкім дружбацкім гурце. На працягу многіх год кола гэтае не змянялася. Усё яно амаль цалкам, калі дадаць незарыфмаваныя прозвішчы А. А. Куляшова і М. Я. Мацапуры, пералічана ў вершы пад назвай «66», які да апошніх часаў заставаўся ў аўтографе.

Есць яшчэ людзі, сябры і сяброўкі,
Што ўспомняць мяне:
Танк і Лужанін, Глебка і Броўка,
І Маўр зазірне.

Прыязным вокам Кандрат непаўторны
Акіне мой дом,
Лынь, у машыне агледзеўшы шворны,
Прымчыцца арлом.

Выгляд мой будзе, нібы маладзею
Дзесяткі на два...

Тут няма перабольшання. Можа нават і тры дзесяткі скідаў з плячэй Канстанцін Міхайлавіч на сваіх вечарынах. Ён перасягаў маладзейшых і ў жартах, і ў экспромтах, і ва ўдалых тостах. Не дазваляў рана падымацца з-за стала.

— Сядзіце, хлопцы. Сёння пісаць усё роўна не будзеце, дзеці вашы без вас не пажэняцца.

І заключаў прымаўкай:

— А розуму мы не прап'ём, бо яго ў нас няма.

І сіваватыя «хлопцы» з вялікай ахвотай заставаліся дапазна, зноў пачыналі спяваць песні, расказваць смешныя здарэнні. Бо і самі былі рады пасядзець даўжэй, а пайсці намерваліся толькі праз далікатнасць, каб лішне не зморваць яго. А ён тады не ведаў зморы. І ад гэтага яшчэ нязмушаней, прытульней, весялей рабілася ў доме.

Зрэдку на такіх вечарах прысутнічаў... хіба так і назавём яго — Шматкроп'е. Прысутнічаў, бо запрашалі яго, калі нельга было абмінуць, калі нагадваў пра сябе тэлефонным віншаваннем. Асоба — не сказаць каб далёкая ад літаратуры, але і не блізкая з прычыны даволі меркантыльных адносін да пісьменніцкай работы. Не сказаць каб без прыроджанага розуму быў гэты чалавек, але адзнакі такту меў мізэрныя, «сляды», як гавораць хімікі пра нязначныя дамешкі серы ці фосфару ў метале.

Аднойчы нейк асабліва добра гаварылася і гасцявалася ў Канстанціна Міхайлавіча. Хтосьці, жадаючы «нараджэнніку» здароўя, напамянуў яму пра астрожныя гады... І тут пачуўся востры паўшапаток. Шматкроп'е нахіліўся да суседкі і хіхікнуў:

— А сядзеў ён праз сваё глупства... За кагосьці... Чужую віну прыняў.

Гэта гаварылася пра лістоўку, аўтарства якой было прыпісана Коласу і паслужыла фармальнай прычынай для зняволення яго ў крэпасці. Напісаў жа тую адозву настаўнік Жук.

З'едлівыя слоўцы даляцелі да Канстанціна Міхайлавіча. Толькі на момант падцісну́ліся ў яго губы, але і выгляду не падаў, што чуе. Кінуў нават жарт, засмяяўся, як быццам нічога і не здарылася.

Аднак пакрыўдзіўся, больш не за сябе, а за чалавека, што мімаволі і непаглядна раскрыў сваю існоту. І не забыўся назаўтра:

— Чуў, як гэты слімак сказаў? А я так мяркую. Лепш тры гады праз дурноту ў турме адседзець, чым хвіліну на волі падлюгам быць. Што ж я мусіў зрабіць? Выказаць таварыша, на здраду пайсці? І сам Шматкроп'е, быўшы на маім месцы, не кінуўся б на такую рэч.

Не стрымліваюся, гавару нешта рэзкае. Чаго чакаць ад чалавека, калі ён разважае гэтак груба і цынічна.

Але Канстанцін Міхайлавіч не хоча думаць блага ні аб кім і паўтарае ці раз выказванае ім правіла, якога сам стала прытрымліваецца:

— Не спяшайся асуджаць людзей. Не будзь ім пракурорам, старайся быць абаронцам. Ведаеш, як рабілі некалі пракуроры?

Судзіла нас выязная сесія Віленскай судовай палаты. У тым самым доме, дзе быў музей на пляцы Волі. Лістоўку бралі на экспертызу двойчы. Першы раз эксперты далі патрэбныя суду весткі. Другі раз прызналі, што рука не мая. Пракурор як усхопіцца! І давай: «З прычыны разыходжанняў у поглядах экспертаў, гаспада суддзі, патрабую Міцкевіча асудзіць».

Так што ў іх усё было вырашана загадзя. Не ўдавалася пасадзіць за падабенства почырку, дык пасадзілі за разыходжанні паміж экспертамі. Ці саву аб пень, ці пнём аб саву.

Наш настаўніцкі з'езд муляў вочы ўладам. Як гэта можа быць? Збіраюцца нейкія настаўнікі, варушацца, падымаюць галаву. Ды яшчэ «на заходняй ускраіне»! Крымінал.

Да таго ж мы прынялі палітычную платформу, меліся працаваць нелегальна. Так і дамовіліся на паляне ў Прыстаньцы каля Нёмана. А ў адозве, за якую мяне ўпяклі, гаварылася аб скліканні шырэйшага з'езду ў канцы года. Вось паліцыя і ўстрывожылася. Трэба пачынаць следства, хацелі злавіць з доказамі. Да іншых лістовак я такі сапраўды прычыніўся. Мы іх выпускалі саматужным спосабам, ад рукі.

Смак да такой літаратуры пачуў я з часоў настаўніцтва ў Люсіне. Даставаў яе ў земляка, ніяк прозвішча не ўспомню. Гэта быў стаўбцоўскі яўрэй, займаўся сталяркаю...

Рыхтавалі мы свае пракламацыі ўдзень, а разносілі па вёсках сярод ночы. Пісалі там пра цара, пра паноў. Сялян агітавалі, заклікалі плытнікаў і рабочых з майстэрань баставаць, каб стварыць но-

вы ўрад. Які ўрад — добра самі не ведалі, але пісалі «свой», не панскі.

Паліцыя вынюхвала, адкуль дым ідзе. Як толькі знойдзе лістоўку, зараз жа прылятае ў вёску. Але сяляне стаялі за нас гарою, папярэджвалі, памагалі хавацца. Мы начавалі ў лесе, пад кусцікамі на сенажаці, адседжваліся ў гумнах і ў скляпах. Пакуль было цёпла, трымаліся разам. Неўзабаве надышлі халады. Мы раз'ехаліся ва ўсе бакі. Працы не пакідалі, але дзейнічалі паасобку...

Такім чынам, сталае следства па нашай справе пачалося з ранняй вясны 1908 года. Дзякуй, што і да гэтага часу далі пагуляць.

У «Нашай долі» адбыліся мае літаратурныя хрэсьбіны, стаў называцца Коласам. І паспеў тое-сёе надрукаваць з вершаў і дапісаў. Пісаў пра мову, пра лёс настаўніцтва. Па-мойму, удала атрымалася адна перапіска. Ураднік Нагайкін піша прыставу Кулачынскаму, што зрабіў вобыск і «арыштаваў» пяць рублёў золатам.

Тады мяне па ўсім свеце кідала. Жыў у Смольні ў брата, там прыватную школу арганізаваў. Патрохі складаў «Другое чытанне». Гасціў у Беларучы, у «дарэктара», разы тры ў Вільню з'ездзіў. Працаваў у «Нашай ніве», толькі доўга затрымлівацца не давалі. Я там пісаў сваё, правіў допісы, перакладаў тое-сёе.

У самой рэдакцыі жыў, там і газету пакаваў, і падлогу падмятаў. Усё добра было б, хоць на тых заработках духі падводзіла, але паліцыя выганяла з горада. Потым дастаў дазвол на пражыванне і быў пры рэдакцыі, пакуль не прыйшло пісьмо ад памешчыка Гардзялкоўскага. Ён хацеў арганізаваць беларускую школу і прасіў параіць настаўніка.

Паехаў я тады ў вёску Сані, на Магілёўшчыну. Дацягнуць да канца года не ўдалося: усчыналася следчая справа. Гардзялкоўскі, хоць і не дабыў я тэрміну, разлічыўся цалкам, заплаціў мне залатымі пяцёркамі.

Пасля суда мы дазналіся, што правоў не пазбаўляемся, толькі нас нельга выбіраць у Дзяржаўную думу. Каб большага клопату не мець! Ліха з ёю, з той думай. Як быццам нехта збіраўся балаціра-

вацца туды. Гэта ўжо ў семнаццатым годзе маю кандыдатуру меліся выпхнуць ва Устаноўчы сейм. Нічога з гэтага не выйшла, дый згоды мае не было.

— Арыштавалі мяне на судзе. На лаву падсудных не саджалі, я даваў паказанні і мог выходзіць з залы. У перапынку паміж пасяджэннямі нават схадзіў пагуляў па горадзе, крыху падмацаваўся. Мог, вядома, і ўцячы. А куды? Я ведаў, што адзін з удзельнікаў з'езда, Алесь Сянкевіч, падаўся ў Амерыку. Нават пісаў аб гэтым у «Нашай ніве». Але ён выбраўся ў часе. Я ўжо быў зацiснуты ў кола. Схопяць, як толькі ступіш цераз мяжу. Дый, галоўнае, таварышаў судзяць, як жа я магу пакінуць іх? Думалася, што ўжо само наша асуджэнне дасць нейкі штуршок далейшаму настаўніцкаму руху. Рознае ўяўлялася...

А тут прысуд, і Кабека, старшыня суда, загадвае ўзяць мяне пад варту. Акалодачны, смаркач, зусім зялёны, хоп мяне за рукаў. «Чаго ты скачаш, як певень? Не хапай, сам пайду!» — помню, сказаў я і адапхнуў яго рукою.

— Камер за час адседкі давялося змяніць некалькі. Сядзеў у кутняй, каля вежы, № 1. Потым перакінулі насупраць, здаецца, у пятую.

Трапіў на час на Дабрамысленскі завулак. Там трымалі кароткатэрміновых. А пасля зноў пераехаў назад, у «Пішчалінскі замак». Пішчалін — гэта архітэктар, які будаваў мінскую турму. Апраўдаў сваё прозвішча. Пішчалі людзі там. Дый мне давялося сербануць гора.

За адмову ўставаць на паверках замкнулі ў карцэр. Мы там сядзелі з завязанымі вачамі, каб не папсаваць зроку.

Карцэр цёмны, смярдзючы. А тут яшчэ наглядчыкі здзекуюцца. Адзін быў да Мураўёва-вешальніка падобны. Прачыніць дзверы і дражніцца: «А надвор'іца слаўнае! Цудоўнае надвор'е». Мы думаем: «Каб цябе скула задавіла!» — і прыгінаемся: а можа ўдасца зірнуць на неба цераз шчыліну.

Потым рэжым стаў лягчэйшы. Дазволілі пісаць лісты. Мелі мы нават паперу і чарніла. Але пісанне сваё я ўсё роўна хаваў. Пад час вобыскаў нашы «вольнасці» ляцелі к чорту. Наглядчыкі забіралі што ні трапіць на вока.

— Месяцы з чатыры быў я ў турме кухарам. На кожную душу адпускалася па 10 капеек на дзень. Грошы ішлі ў агульны кацёл. Купляліся крупы, сала, капуста. І самі мы гатавалі па чарзе. Мае абеды хлопцы заўсёды хвалілі. Казалі: «Ты, Костусь, мусіць, з свае кішэні дакладаеш». А я аджартоўваўся: «Я, кажу, прыняў на харчы начальніка турмы. Дык гэта ён паўрубля дабаўляе».

Пасля давялося мне крыху пабыць і турэмным бібліятэкарам. Гэта было нудна. Літаратура дазвалялася выхаваўча-паліцэйскага кірунку.

А кухаварства спатрэбілася пазней, у Ташкенце. Пачалося з таго, што, едучы туды з Масквы, купіў я каля Аральскага мора падвяленую рыбіну. Дома наварыў юшкі. Сяргей Гарадзецкі, на што ўжо гастраном, і той аблізваўся.

Рабіў таксама верашчаку, удавалася ў мяне і прэсная страва. Схаджу на Алайскі рынак, куплю свежай капусты, морквы, кропу. І ўсё гэта — у чыгунчык. А пасля клічу Сяргея на дэгустацыю. Маруся смяялася: «У цябе, мусіць, сам чыгунок варыць. Мне ніколі не ўдаецца так смачна згатаваць...»

— Напісаў я ў турме адзін верш. Пачатку не помню. А змест такі. Чалавек наняўся на працу да пана. Работы было многа і цяжкое. Касіў, араў ад цямна да цямна. А дайшло да разліку, дык за тыдзень заплацілі яму тры грыўні. Вось і разважае наш дзядзька:

А дома ёсць жонка, дзяцей тых, як маку,
За дзень набярэшся — плячэй не чуваць.
Трыццаць капеек! Заткні іх... у горла...
Толькі вам жыць на свеце... Тапчы вас у гаць...

Канстанцін Міхайлавіч смяецца:

— Рыфмаў, што тут стаялі, не буду падказваць.

Гэтымі невялічкімі абразкамі бадай і абмежаваліся гаворкі аб судзе і турэмным побыце. Не таму, што не помніў тае пары Канстанцін Міхайлавіч ці не хацеў варушыць яе. Яго ўспаміны ў «Весніку НКА» і ў часопісе «Асвета» перагукваліся з многімі старонкамі «На ростанях».

А над гэтай кнігай усё яшчэ цягнулася работа, і лішні расказ пра тыя ці іншыя падзеі мог перабіць ахвоту да пісання.

— Раскажаш, а потым не пішацца,— заўважаў Канстанцін Міхайлавіч.— Здаецца, усе ўжо гэта ведаюць. І самому робіцца нецікава.

Такімі ж абрывачнымі выглядаюць і прыгадкі Коласа пра паездкі ў Вільню, як у свой час было прынята называць Вільнюс.

— Пасля выхаду з астрога з'явіўся другі клопат: трэ было ратавацца ад ваеннай службы. Трапляць з турмы ў казарму мне страшэнна не хацелася...

11 верасня 1911 года* адбыў я свой тэрмін. Выйшлі мы з Уладзімерам Міцкевічам на волю. Думаем: куды падацца? Пайшлі да аднаго таварыша. Гэта быў Аляксандр Іванавіч Райскі. Лічыўся ён не малою шышкаю: служыў памочнікам начальніка канцыляры мінскага губернатара. Трапілі на абед. Пасядзелі, параіліся, да вынікаў так і не дагаварыліся.

Я пайшоў на вакзал і — проста ў Вільню. Ехаў туды не з пустымі рукамі. Вёз тры сшыткі ў цыратовых вокладках. І ўсё з вершамі. Прыехаў рана ў горад. Гадзін 6 было. У таннай гасцініцы не ўпадабаў, а на дарагую — грошай не хапала. Хадзіў па вуліцах, пакуль добра не вывіднела. Дождж, слата. Трэба сшыткі хаваць. Трымаю іх пад пільчаком, а зайсці няма куды.

Нарэшце прыблукаў у 3-ю прыходскую школу да настаўніка Зотава. З яго дачкою ў снежні 1907 года мы ў Пецярбург ездзілі. Напаілі тут мяне каваю. Толькі я перамёрз, і мне здалася тая кава халоднаю.

Пасядзеўшы, надумаўся я заглянуць да Івана Кірылавіча Касяка. Ён блізка стаяў да рэвалюцыйнага руху, памагаў нам грашыма, калі сядзелі ў астрозе.

Патрапаў пешкі за Вільню, у Ландварова. Касяка ў школе не было, знайшоў яго на кватэры.

Прытулілі мяне, далі павячэраць. Было позна. І апанавала мяне туга. Так стала цяжка, думаў — звар'яцею. Пачало мяне скрэбці за душу яшчэ ў Зотавых. Але там быў невялікі прыступ. А ў Касяка, калі паслалі пасцелю і зачынілі вокны на просвы,— хоць гвалту крычы. Здаецца, зноў апынуўся ў каменным мяху...

— 19 верасня выехаў я да сваіх у Смольню. Туга не адпускала мяне. Не бачыў выхаду. Усё вакол нібы замкнулася, яшчэ горш, чым у тым астрожным карцэры. Няма надзеі на існаванне. Невядома, як заўтра жыць, што рабіць. Кавалак у горла не лезе, асабліва як падумаю, што адбіраю апошняе ў сям'і.

Пачаў лячыць нервы. Узялося на прымаразкі. А я апранаю кажух, ногі — у валёнкі і шыбую на Нёман. Акунуся і падужэю. Сталі з'яўляцца думкі пра «Сымона-музыку», праўда, змрочныя. А ўсё ж забываўся, папішу — і як быццам цяжар з плячэй скінецца.

Філіповіч, мой таварыш па класу, мала таго — сядзелі на адной лаўцы, паклікаў да сябе ў Лунінец. Добрая душа! Перадаў мне сваіх вучняў, дзяцей чыгуначнікаў. Я пачаў рэпеціраваць іх. Плата слабаватая: два рублі на месяц з галавы. Добра, калі галава кемлівая, а ў другую і табліцу множання калом не ўб'еш. Нават у Люсіне плацілі на рубель больш.

У Філіповічавым пакоі зрабіў я школку. Займалася ў мяне 20 чалавек. Трошкі правёў наперад «Сымона»... Але... дабрабыт мой быў не вечны. Пасля новага 1912 года прыйшла ад воінскага начальніка позва — збірацца ў салдаты. Я даў дзёру ў Смольню, а потым у Беларуч да Івана Міцкевіча, «дарэктара». Знайшлі і там. Зноў позва...

— Вызваліцца ад арміі ці атрымаць адтэрміноўку можна было толькі адным шляхам. Трэба было знайсці настаўніцкую пасаду. А для гэтага — пада-

вай пасведчанне аб «палітычнай добранадзейнасці». Дзе ж у мяне, к чорту, добранадзейнасць!

Выгашыў я папрасіць такую паперку па дружбе ў Райскага. Ён адпісаў: не марнуй часу, едзь да Русецкага. А той служыў інспектарам народных школ у Пінску. Я ведаў яго яшчэ з Пінкавіч. Знаёмства прыдалося. Русецкі прызначыў мяне ў Купяцічы, вёрст за 12 ад горада. Гэта прызначэнне было ўмоўнае, абы прызначыць, каб потым можна было «перавесці» ў іншае месца.

Прыехаў я ў Купяцічы пад восень. Паказаўся, пераначаваў і падыбаў пешкі назад у Пінск. Дзелавод інспекцыі Фядзюк яшчэ закінуў слова, і мяне «перавялі». Стаў я настаўнічаць у 3-м прыходскім вучылішчы. Настаўнікі гэтай школы насілі форму. Спатрэбіліся грошы, дый дахаты хоць крыху хацелася паслаць.

Вось зноў я кінуўся на прыватныя ўрокі. Хапіў ліха! Трапіліся мне дзеці паліцэйскіх, акцызных чыноўнікаў, паповічы. Тупыя, раздураныя, мамчыны сынкі. Перабіраць не прыходзілася, плацілі прыстойна. Зморваўся я страшэнна. Стараўся падагнаць як найлепей, каб паступілі мае выхаванцы ў рэальнае вучылішча. Зарабіў крыху грошай і паехаў на каляды дадому...

— Тады ж, у 1912 годзе, я пазнаёміўся з маладою настаўніцай Пінскай чыгуначнай школы. Прозвішча яе было Каменская. Так у маё жыццё ўвайшла Марыя Дзмітраўна.

Добра было б зірнуць на ўсё, што я пісаў у той час ёй і пра яе. Я саромеўся тых вершаў. Завёў нават на іх запісную кніжку і навідавоку не пакідаў, насіў яе ў пільчаку. У друк, вядома, нічога не падаваў, няёмка адбіраць месца ў газеце і час у людзей на сваё, што толькі мне належала.

Я дзівіўся, не дабіраў ладу, як гэта можна адважыцца друкаваць вершы пра каханне? Калі ты яго выдумляеш, дык не варта публікаваць няпраўду. А калі пішаш аб тым, што ёсць ці было,— як тады, вывернуўшы наверх усё вядомае аднаму табе і твайму дарагому чалавеку, паглядзець яму ў вочы? Табе

даверацы сакрэт, ты ўвайшоў як быццам з кімсьці ў змову і раптам расплюскаў патаймае дый яшчэ і падпісаўся. Адным словам, нават Марусі трапілі на вока мае вершы значна пазней, калі мы ўжо жылі разам.

Я спяшаўся ў школу і не заўважыў, што кніжачка мая выпала з кішэні. А ўвечары Маруся пытае: «У каго ты, Костусь, закахаўся гэтак моцна?» Я гляджу на яе, нічога не разумеючы. Яна ківае галавою і кажа: «Так, так. Не закахаўшыся, такіх вершаў не напішаш». І падае мне кніжачку.

Я збянтэжыўся, давай апраўдвацца. Паказваю даты пад вершамі, а яны ішлі адзін за адным, ад першага дня нашага знаёмства.

Маруся смяецца: «Я ж не па датах зразумела, што гэта ўсё маё. Не магу ж я паверыць, каб ты казаў мне адно, а пісаў каму-небудзь іншаму другое. Не тое мяне засмучае. Шкада, што ад таго часу, як мы пажаніліся, у кніжачцы амаль не прыбавілася запісаных старонак».

На міравую, хоць мы і не пасварыліся, я сеў і напісаў жартлівую паэмку. Як раўнівая жонка знайшла ў паэта вершы пра каханне і выскубла яму чупрыну, не здагадаўшыся, што гэта напісана пра яе. А паэт зразумеў: маюць яго творы сілу, калі ўвялі чалавека ў злосць, і спакусіў тымі самымі радкамі другую жанчыну.

Мараль такая: калі хочаш, каб у сям'і быў лад, не пішы пра жонку вершаў. Перапісаў паэмку ў кніжачку і аддаў на перахаваны Марусі. Яна многа ведала адтуль на памяць. А кніжка вытраслася недзе пры пераездах. Адзін можа вершык толькі трапіў у кнігі.

Канстанцін Міхайлавіч успомніў радкі з верша «Дзяўчыне»:

Не кажы, што злыя людзі
І што свет паганы...

Вось якія бываюць гісторыі... Пажаніліся мы 6 чэрвеня 1913 года. Вяселля не гулялі, толькі выпілі пляшку данскога віна. Было затое шлюбнае падарожжа. Мы паехалі ў Вільню да яе маці. Васіль

Дзмітравіч, брат Марусі, сустрэў нас з аўтамабілем, хвацка правёз, а потым падараваў нам на развод гаспадаркі самавар.

У Вільні сустрэўся я зноў з Купалам. І дамовіўся з выдаўцамі, што будзе выпушчана кніжка маіх апавяданняў. Недзе ў 1914 годзе і выйшлі «Родныя з'явы».

Пасля летніх вакацый вярнуліся мы ў Пінск. Жылі ціха і спакойна год. Марыя Дзмітраўна пачала сябе кепска адчуваць, чакала першага дзіцяці. Я адправіў яе ў Крым. А тут абвясцілі мабілізацыю. Я не ведаў, дзе мая жонка, як ёй удасца прыехаць. Трэба было ісці ў салдаты, і гэта яшчэ павялічвала трывогу.

У канцы ліпеня мне забрылі лоб. Трапіў я ў Вяцкі полк*, размяшчаўся ён у Мінску, дзе цяпер трамвайны парк. Абмундзіравалі нас добра, ва ўсё новае, але вельмі мы былі смешныя, няўмелыя.

У нядзелю пускалі ў горад. Пайшлі мы з Уладзімерам Міцкевічам. Выбіліся бліжэй да цэнтра, на скрыжаванне цяперашняга праспекта і Багадзельнай (зараз — Камсамольская). Аж тут насустрач чорт генерала нясе. Паводле статута, такую шышку трэба вітаць, стаўшы «ва фронт». Ведаеш? Значыць, стаяць проста, ссунуўшы пяты і трымаючы рукі па швах. Ну, стаць мы сяк-так сталі, але з розных бакоў тратуара. Генералу невядома куды, на каго глядзець. Ён не адчытваў нас, пасміхнуўся і прайшоў міма, нават рукі да козыра не падняў.

Прабылі мы ў тым палку каля месяца. Хацелі нас залічыць у 240-ю рабочую брыгаду і раптам адпусцілі. Дрэнна расчыталі цыркуляр міністра асветы. Ну, лепей бы і не пускалі. Я толькі паспеў дадому заскочыць.

На станцыі прыкмеціў я дзеда, так гадоў пад семдзесят. Але крэпкі, прысадзісты, румяны. Нос, праўда, меў буракавага колеру, што сведчыць аб прыхільнасці да ўцех бога Бахуса. Падыходзіць дзед да мяне і просіць закурыць. Прысеў на лавачцы, пусціў дым цераз ноздры дый кажа:

— Па ўсім бачу, малады чалавек, што вы на прызвы едзеце.

Я кіўнуў яму, каб адчапіцца.

— Не трэба вешаць галавы! Ваенная служба аздабляе і ўмацоўвае чалавека. Я ўсё жыццё насіў ваенную форму, і вось бачыце: мне 72 гады, а яшчэ, як кажуць, вераб'і з мяне пуху не скубуць.

— А ў якіх войсках вы служылі?

— У корпусе жандараў.

От, думаю, трасца тваёй галаве! Пашанцавала на знаёмства. Але, памеркаваўшы, вырашыў: ты, падла, ужо стары і не павінен шкоды зрабіць. Дай секану яму ў вочы!

— Вам,— кажу,— не даводзілася грудзі пад кулі падстаўляць, ваша справа была, так сказаць, унутраных ворагаў вынюхваць.

— Дарэмна так думаеце! Маё жыццё не раз пад пагрозаю было. І я не шкадаваў яго. А праз гэтую рызыку зрабіў непапраўнае глупства. Я мог папярэдзіць вайну.

Я зірнуў на яго не сказаць каб недаверліва, а проста лічачы, што стары верзе абы-што. Аднак цікавасць перамагла мае развагі.

— Дык можа цяпер не позна?

— Позна, вельмі позна,— ён пакруціў галавою.— Я мог бы расказаць...

Зірк яго палагоднеў, у голасе адчулася просьба:

— За бутэлечкай піўца...

Я памацаў сваю худзенькую кішэню і, хоць амаль не сумняваўся, што маю справу з манюкам і падарэйкам, згадзіўся.

Селі за столік у прыстанцыйнай крамцы, ён апаражніў шклянку і загаварыў:

— Давайце пазнаёмімся: Юрчык, Павел Міронавіч (ці Міхайлавіч — не помню, як сказаў). Народжан у 1842 годзе, сам з Баранавіч. А як вас дазволіце велічаць?

На ўсякі выпадак я сапраўднага прозвішча не сказаў, а назваў першы свой псеўданім — Лапаць.

— Жартуеце? — не паверыў стары, але, зірнуўшы на нячэпаную пляшку піва, махнуў рукою: — Ну, усё роўна, як хочаце, гаспадзін Лапаць.

Я наліў піва. Мой суразмоўнік заліў у бяздонную пашчу зноў поўную шклянку.

— Так. У лютым 1886 года на станцыю Гарадзея прыбыў нямецкі прынц Вільгельм. Спадзяюся, вы

разумееце, што гэта цяперашні кайзер. Начальнік Мінскага жандарскага ўпраўлення гаспадзін Мілер паведаміў мне аб гэтым і абавязаў пад асабістую адказнасць не адлучацца ад высокага госця. Быць пры ім, ахоўваць і, так сказаць, наглядаць... А прынц меў на мэце заняцца паляваннем у Радзівілаўскіх лясах. Падужацца з рускім мядзведзем.

Юрчык вымавіў апошнія словы з націскам, даючы зразумець, што яму вядома гэта абразлівая мянушка, якую ўжываў заходні друк у дачыненні да Расіі.

— А выйшла — не з мядзведзем, а з мядзведзіцай. Прынца паставілі супраць берлагу. Мядзведзіца паднялася, ён стрэліў, параніў. Звер раўнуў і на яго. Каб я, заўважце, рызыкуючы жыццём, не адцягнуў прынца, зараз у германскай імперыі быў бы іншы глава. А калі так, дык, магчыма, і вайна б не ўсчалася.

— Выходзіць, я дарма вас півам частую.

Юрчык зарагатаў.

— О, каб мне ўдалося адхіліць ваенныя падзеі, вы б мне і «мярзаўчыка» не пашкадавалі... А можа зараз? — і ў вачах зноў засвяцілася сабачая просьба.

Сядаць за гарэлку з жандарам, хай сабе і былым, я не меў ахвоты, дый не было пэўнасці, што ён не брэша. Так і дасюль не ведаю, праўду казаў ці не. Што Вільгельм прыязджаў у нашы месцы, мне даводзілася чуць ад нейкіх падарожных, яны начавалі раз у альбуцкай хаце. Але ні бацька, ні дзядзька Антось не ўспаміналі такога выпадку. Так што, ці абдымаўся будучы германскі імператар з беларускай мядзведзіцай, давесці цяжка...

— Другі раз, калі было выяўлена памылковае тлумачэнне цыркуляра, я прызываўся ў Вільні. Тут таксама нядоўга патрымалі. Не паспелі яшчэ залічыць у часць. А якраз ваенны міністр даў загад звальняць настаўнікаў, не прыпісаных да часцей. Так што з год я настаўнічаў. Але адчуваў сябе дрэнна, трывожыўся, хварэў душою. Я сяджу дома, а людзі сунуць галаву ў пашчу богу Малоху. Асабліва непамысна рабілася, калі ўбачу дзе воінскі эшалон.

— Пачалося цяжкое для краіны бежанства. Падняліся і мы з Марыяй Дзмітраўнай. Брат яе прыслаў пісьмо: перабірайцеся ў Маскоўскую губерню. Там мы і ўладзіліся абое ў Ста́рыкаўскай школе. І гэта свята было кароткае. Дзён пяць я толькі пранастаўнічаў.

На пачатку верасня мабілізавалі і залічылі ў 55-ы пяхотны батальён, у самой Маскве. Батальён быў запасны. Нашы казармы знаходзіліся ў Замаскварэччы. Хадзіў спачатку на палявыя заняткі. Потым узводны вызваліў. Пасадзіў складаць і бясконца перапісваць спісы асабовага складу. Так і гнуўся я над рознымі «формамі», пакуль не камандзіравалі ў Аляксандраўскае ваеннае вучылішча.

Гэта ўстанова змяшчалася таксама ў Маскве. Быў там са студзеня 1916 года. А праз чатыры месяцы выпусцілі, раба божага, прапаршчыкам. У новенькім шынялі, з рамянямі. І чамадан далі. Служыў ён мне аж да той пары, пакуль не ўкралі з «Сымонам-музыкам».

«Прапаршчыкі жывуць адзін дзень»,— казалі тады. Але на фронт я не папаў. Паслалі ў Перм пад загад камандзіра 162-га запаснога палка. Марыя Дзмітраўна з малым Данікам засталася ў Старыкаве. Пасля я іх выпісаў да сябе. У Пярмі на некаторы час затрымаліся. Мы чакалі прыбаўлення сям'і, і мяне не накіравалі на фронт. Адпрасіўся, пакуль не нарадзіўся Юрка...

Пісалася мала, не служыла галава, дый рукі адмаўляліся. Можа, вершаў дваццаць склалася за першыя ваенныя гады.

— Так пакрысе перайшоў я ў 1917-ы. 25 ліпеня прызначылі мяне начальнікам эшалона дэзерціраў. Загадалі везці іх на Румынскі фронт. Зноў дрыжы: паразбягаюцца, а ты адказвай па законах ваеннага часу. Марыю Дзмітраўну завёз я ў Абаянь на Куршчыну... Там жылі яе маці і брат.

Падаўся са сваімі дэзерцірамі ў дарогу. Прасіў іх: «Не ўцякайце толькі, хлопцы! Пачакайце, пакуль прыедзем на пазіцыю!» Паслухалі. Я больш-менш у парадку здаў сваю быстраногую каманду.

Моцна рэзала крываўка. Знясіліла мяне да рэшты. Таму не пакінулі мяне на пазіцыі, залічылі ў 70-ю дывізію, не помню, у які полк. Быў у румынскім горадзе Ваксо, потым у сяле Карадул. Тут навaліліся ўсе хваробы: жаўтáчка, калаціла малярыя, пачыналіся сухоты. Далі адпачынак па хваробе.

Я паехаў у Абаянь да сям'і. Гарадок гэта невялікі, было там усім галодна і халодна. Калі ў 1921 годзе нам далі цяплушку і перавезлі ў Мінск, што больш за ўсё ўразіла? Каля саменькага вакзала прадаваўся сітны хлеб. Буханкі вялізныя, круглыя... Уяўляеш, як мы нагаладаваліся.

— Першае маё настаўніцкае месца на Куршчыне — вёска Малыя Крукі. Ад Абаяні вёрст за адзінаццаць. Марыя Дзмітраўна хварэла. Я ўстаю раненька. Юрка і Даніла спяць. Іду ў школу, а ўвечары тупаю назад. І гэтак кожны дзень.

А жылі мы на адной бульбе. На цэлы тыдзень мелі мы на чатыры душы 21 бульбіну. Я падаў ад знясілення. Селянін у Круках раз накарміў мяне і даў з сабою кавалачак сала. Вялікае свята я прынёс таго вечару дадому...

Пад час паходаў з Абаяні ў Крукі падхапіў я «іспанку». Нешта кшталтам віруснага грыпу. Лютавала яна ўсюды ўпоравень з тыфусам. Людзі валіліся на могілкі, як лісце. Хвароба круціць, а мне трэба на новае месца збірацца — у Ліпавец. Гэта ўжо многа далей ад горада. Памераў тэмпературу — больш за сорак. Пакажы Марыі Дзмітраўне — спалохаецца. Ляснуў я градуснік аб стол і падаўся. Спярша пешкі, а там, дзякуй добрым людзям, далі фурманку.

— Настаўнічаў я ў Ліпаўцы да прыходу Дзянікіна. Арганізаваў бібліятэку, чырвонаармейская часць дапамагала. Дружыў з сялянамі, пісаў даволі многа.

І вось што здарылася. Мой партыйны стаж трэба адлічаць не з Айчыннай вайны, а адтуль, з грама-

дзянскай. У Ліпаўцы мяне, беспартыйнага, але граматнага і «спачуваючага» — быў такі тэрмін! — выбралі сакратаром партыйнай ячэйкі. Так, партыйны стаж мне можна з Кастрычніка лічыць.

Дзянікіна хутка выгналі. Стаў я інспектарам Абаянскага аддзела народнай асветы. Палавіну Куршчыны абхадзіў. Каб цяпер мне тыя ногі... Выстараўся пасаду і Марыі Дзмітраўне. Пачала яна настаўнічаць у Якаўлеўцы (Заплаціна). Там мы ўсе зімавалі.

Вось у тыя часы, зачуўшы пра Кастрычніцкі пераварот, і сказаў я сам сабе:

«Скончыліся твае маладыя шляхі, але затое паламаліся і старыя краты. Ты ўжо сталы чалавек, бярыся за сапраўдныя справы!»

І пачаў пісаць. Можа і застанецца якая карысць ад стосу паперы, што перавёў я там...

І гэта Канстанцін Міхайлавіч гаворыць пра «Новую зямлю» і «Сымона-музыку»! Не таму, што сумняваецца ў іх. Не, ён шукае і думае аб нявздзейсненым, спадзяецца напісаць яшчэ большае, яшчэ лепшае...

# ПАДАРОЖЖЫ

*Кажух. Мы тупаем па Мінску. Святы дух і хлопчык. Графік вялікадняў. Чаму Хрыстос уваскрасаў патайна? Мінскі лірнік. Якуб Колас на радзіме Адама Міцкевіча. Народная любоў. Беларуская нафта. Талент быць чалавекам. Полацкія прыгоды. Твор і твар. Смутак па незваротным.*



Хмурнаваты чэрвеньскі дзень. Канстанцін Міхайлавіч спачывае пад даўгім жоўтым кажухом.

— Можа ён з мяне хворасць выцягне,— кажа, вітаючыся.— Добра было б яшчэ знізу печ падкласці з ґарачым чаранём.

З'явілася гэтая адзежына ў яго даўно, калі яшчэ на месцы цяперашняй камяніцы стаяў драўляны дамок. Там было халодна, і Канстанцін Міхайлавіч ускідаў кажух на плечы, сядаючы пісаць або выходзячы на паветра. А то і прыкрываўся паўзверх коўдры. Пасля перабудовы дома, калі паставілі паравое ацяпленне, Канстанцін Міхайлавіч усё ж не здрадзіў сваёй прывычцы. Яго цёплы сябар пераехаў на другі паверх і ляжаў у спальні, як гаворыцца, напашэве. З кажуха кпілі хатнія, пасмейваўся і сам уласнік, але разлучацца з ім ніяк не хацеў.

— Я ў ім падобен да дзядзькі Антося,— казаў ён.— Няхай будзе. Некалі ў сям'і абавязкова быў доўгі кажух. Яго па чарзе апраналі ў вялікі мароз, збіраючыся ў далёкую дарогу.

У кажусе Канстанцін Міхайлавіч і праўда выглядаў зусім па-сялянску. Здаваўся дзядзькам, што, устаўшы на досвітку, паснедаў гарачым на цэлы дзень, надзейна апрануўся і зараз пойдзе запрагаць каня, каб паехаць у лес ці па сена.

Калі сябры пачыналі асабліва нападаць на «адрыжку старога побыту» і сыны мерыліся прыхаваць

ад вачэй упадабаную вопратку, Канстанцін Міхайлавіч даставаў з шуфляды мой верш.

Мой добры друг кажух!
Такіх, як ты, кажусе,
Пачні злічаць — штук пяць
Сягоння ў Беларусі.

Лічу адной з удач,
Што на цябе разжыўся.
Ох, не адзін маркач
Тут скурай паплаціўся.

Мой дарагі дружбак,
Хоць ты цяпер не ў модзе,
Але зацішна як
З табой на агародзе.

З табою дапісаў
Я «Рыбакову хату»
І дроў не дакупляў,
А меў іх слабавата.

Шкада цябе здымаць,
Калі я спаць кладуся.
Што коўдра мне? Дарма!
Век спаў бы я ў кажусе.

За вершам было растлумачэнне:

— І больш не наставайце, хлопцы. Паслухалі оду, і даволі. Шкада, не сам напісаў. Гэта Максім пад мяне падрабіўся.

Канстанцін Міхайлавіч прапануе:

— Давай крыху патупаем па Мінску.

«Патупаем» — гэта значыць зробім падарожжа ў думках. Наладжваецца яно ў хвіліны адпачынку або калі ён адчувае сябе не вельмі здаровым. Матэрыялам для такіх вандровак служаць папярэднія паездкі па горадзе, амаль штодзённыя агледзіны, як разбудоўваецца сталіца, якімі навінамі цешыць яна сваіх жыхароў.

Канстанцін Міхайлавіч любіць заязджаць у тыя мясціны, што паднялі на сваіх плячах новы Мінск,— раёны трактарнага і аўтамабільнага заводаў. На Коласавай памяці тут былі пусткі, большыя і меншыя ляскі. Адно ўрочышча называлася Чырвонае,

другое — Антонава. Даваенная гарадская мяжа крок за крокам перасоўвалася наперад па Магілёўскай шашы. Пакінула ззаду чыгуначны пераезд, захапіла мясціну з шматабяцаўшай падарожніку назвай «Тры карчмы» і перабегла за вялізнае аўтазаводскае паселішча.

І колькі ні бываў тут Колас, не стамляўся дзівіцца і пачынаў заўсёды гаворку амаль аднолькава:

— Нічога ж тут не было, і здавалася, не будзе.

Праўда, у дарозе ён больш маўчаў. І толькі праз некалькі дзён пачынала ператварацца ў слова патока зрокавых вобразаў, якая ўлілася ў яго неспакойнае вока.

...Кран браў пад пахі маладую ліпу і асцярожна пераносіў яе ў скрынцы з зямлёю на падрыхтаваную пасцелю ў грунце.

...У заводскіх варотах паказвалі зеленаватыя грудзі «зубры». Толькі саступіўшы з канвеера, яны падавалі голас, выказвалі ахвоту ісці па якіх хочаш дарогах і рабіць якую загадаеш работу.

...Каля свежапабудаванага дома разгружаліся машыны, даставіўшы у новае жытло новыя, палыскаваўшыя люстрамі, светлым лакам, нікеляванымі шарыкамі рэчы ўсмешлівых, узбуджаных навасёлаў.

Кожнаму з іх Колас хацеў зазірнуць у вочы, пачуць ад кожнага хоць адно, але самае дарагое слоўца. Можа і гэтага зусім даволі мастаку для карціны, вобразу, характару? Можа толькі адной маленькай рысы несгавала яму для дзівоснага палатна, бо душа ж даверху поўная самай вялікай з чалавечых перамог — вольна будаваць вольны свет... Свой і ўсіхны.

Пяць дзесяткаў гадоў гаварыў Колас з людзьмі ў сваіх кнігах. І мог гаварыць яшчэ столькі, бо не вычарпаў і палавіны назапашанага. Творчага запасу было не купляць, пісьменнік не шчадзіў яго, а толькі павялічваў дзень у дзень.

Зараз Канстанціну Міхайлавічу сказалі асцерагчыся, не выходзіць з дому. А быць без руху ён не можа, не дазваляе сабе і кліча «патупаць», хоча паразважаць: што было, што будзе...

— Помніш, калі пасярод Савецкай вуліцы вялі-

кая гара была? І конка хадзіла, здаецца, да 28 года. Пад'ём круты, на рагу Пралетарскай трэцяга каня прыпрагалі. Ён памагаў узвалачы вагончык на горку. Насупраць сквера рабіўся прыпынак. Коначны вазніца адпрагаў каня, закладаў яму пастронкі на набедрыкі. Той сам варочаўся на старое месца і чакаў, пакуль падыдзе наступны вагон.

Гэты квартал увесь быў архірэйскі. Каля сквера, дзе зараз Дом афіцэраў, стаялі дом мінскага архірэя і архірэйская царква. Па схіле гары збягаў вялізны сад, які належаў той самай персоне.

Сад перайшоў да прафсаюза работнікаў асветы, а Архірэйскі завулак перахрысцілі на імя Луначарскага. Мусібыць, таму, што Анатолій Васільевіч сваімі прамовамі мог закасаваць якога хочаш з духоўных красамоўцаў. Ён такі багата спрачаўся з імі аб існаванні бога, аб дагматах праваслаўнай царквы.

Канстанцін Міхайлавіч хавае хворыя рукі пад кажух і нацягвае яго амаль да падбароддзя. У пакоі свежа, хвоі, стоячы каля самых вокан, не дапускаюць у дом лішняга сонца.

— Да святога духа,— успамінае ён прыказку,— не спускай з плячэй кажуха, а па святым дусе — таксама ў кажусе. Пра які «святы дух» тут гаворыцца?

— Нейкае свята, відаць.

— Не нейкае, а тройца. Я мог бы Луначарскаму цікавы доказ падказаць для спрэчак з царкоўнікамі. Але каб не забыць здарэння з святым духам. Вясковы хлапчук усё не мог зразумець, як гэта бог адзін, але ў трох асобах: айцец, сын і дух святы. Праўду кажучы, тут і даросламу не вытлумачыш.

Маці рашыла дапамагчы сынку: прышыла ў світачку тры драўляныя гузікі-біркі. Малы браўся за першую і ўспамінаў, што гэта — бог-айцец, і далей па парадку. Прыехаў поп у школу правяраць, як вучаць «закону божаму».

Справа была пад вечар, дзяцей з дому склікала старожка. Для такога здарэння дала маці хлопчыку чыстыя порткі. Як на бяду, вырваўся гузік і закаціўся пад лаву. Жанчына, хапаючыся, зрэзала ніж-

нюю бірку са світкі і ўшыла яе ў нагавічкі. Як на тое, выклікаў хлопца поп і спытаўся: колькі асоб у божай постаці?

— Тры.

— А якія?

Хлопец памацаў верхнюю бірку:

— Бог-айцец.

Пасля ўзяўся за другую:

— Бог-сын...

І забыўся: трэцяй біркі не было.

— Ну, ну! — кажа здаволены поп.— Дзве. А дзе трэцяя?

— А-а! — успамянуў хлопчык.— Бог-дух! Ён у мяне ў портках.

Канстанцін Міхайлавіч даў час пасмяяцца.

— Дык вось пра свята тройцы, аб трох асобах божых. Наогул, лік «тры» ў хрысціян сімвалічны. На трэці дзень нібыта ўваскрос Хрыстос. Калі кіт глынуў прарока Іёну, дык тры дні не мог ператравіць яго і быў вымушаны выплюнуць. Тройцу святкуюць на 50-ы дзень пасля вялікадня. Часамі так і кажуць — пяцідзесятніца, ці, яшчэ, сёмуха, бо мінаецца сем тыдняў па ўваскрошанні Хрыста.

— Мне падабаецца назва «вялікдзень». Трэба разумець гэта слова літаральна: вясна кіруецца на лета, дзень робіцца вялікі. А што гаворыць «пасха»? Па-яўрэйску «пэйсах» — значыць пераход, як тлумачылася ў «законе божым», ад смерці да вечнага жыцця.

Тут недзе закладзена разуменне, падобнае да майго: пераход прыроды ад зімовага здранцвення да цвету і выспявання. Так што бог да гэтага свята мае такія ж адносіны, як я да ўтварэння Палескай нізіны.

Але паколькі людзі святкуюць, прымем падставы іх святкавання за нейкую ісціну. Я ў семінарыі вучыў, што Хрыстос, уваскросшы, зрабіў некалькі візітаў апосталам, каб даць ім пэўнасць у сваім вечным існаванні. На саракавы дзень ён паказаўся народу і адбыў у нябесныя апартаменты. Як бачыш:

саракавы дзень, пасля пяцідзесяты, а пэўнае лічбы для свят няма. Бо і вялікдзень у розныя гады прыпадае на розны час. Аднак заўсёды ў тых самых межах: паміж 25 сакавіка і 25 красавіка па старым стылі.

У царкоўнікаў ёсць адмысловыя табліцы. Яны на многа год распрацаваны, там паказаны графік вялікадняў. Графік, не раўнуючы, як у вытворчасці, рухомы. Але ёсць адна абавязковая ўмова: вялікдзень павінен прыпадаць на першую маладзіковую нядзелю пасля вясновага раўнадзенства. Тут з хрысціянствам сутыкнуліся рэшткі паганства, вера ў аднаўленне вясновай сілы бога-сонца.

Вось і памяркуем. Каб той Хрыстос сапраўды існаваў, дык як можна, спісаўшы яго шлях ад калыскі да крыжа, забыцца на дату смерці? А то ўсё вядома: нарадзіўся — 25 снежня, хрысціўся — 6 студзеня, а калі памёр — справа цёмная. Вось і соваецца вялікдзень з дня на дзень на працягу месяца.

Гэтым доказам, ён бы і Луначарскаму прыдаўся, я збіваў з капылоў не аднаго палескага бацюшку. Праўда, некаторыя з іх казалі, што Хрыстос хоць і меў выгляд чалавека, але заставаўся богам, а таму не мог і памерці. А я жартаваў: «Дык што ж, выходзіць, ён прыкідваўся мёртвым? У свяшчэнным пісанні расказваецца, як яго здымалі з крыжа, абвіналі плашчаніцаю, бальзаміравалі і потым паклалі ў грабніцу, заваліўшы ўваход каменнем».

Бацюшкі слухалі мяне і ківалі галовамі ў знак згоды. Тады я пытаў: а калі ён быў бог і мог усё зрабіць сам, нашто было пасылаць анёла, каб адсунуў той камень? І чаму ўваскрашанне адбывалася патайна? Апосталы прыйшлі, а грабніца пустая.

А як ён уваскрос? Употай ад вучняў, а сведкамі гэтага цуду была салдацкая варта пры труне. Мала што можа здацца вартаўніку з п'яных вачэй! Вось апосталы і не паверылі. Прыйшлося даводзіць, з'яўляцца перад імі. Апостал Хама, яго так і клікалі — Няверны, сумняваўся. Пасылаў усіх к чорту, пакуль Хрыстос не дазволіў яму памацаць раны. А адкуль ва ўваскросшага, ужо бясплотнага, узяліся раны?

Блытаніны колькі хочаш. Няйначай, пісары скла-

далі гэтае свяшчэннае пісанне пад мухаю. От і не ўзгаднілі супярэчнасці розных рэлігій: іудзейскай, паганскай і хрысціянскай.

Вось куды мы з табою ад кажуха і святога духа заехалі. Некаторыя папы, з кім даводзілася сустракацца, верылі ў бога не больш за мяне. Айцец Уладзімір, я ў аповесці нічога не прылажыў, прыводзіў народ да прысягі на кнізе Пушкіна.

— Мужык ніколі не давяраў папу. А калі папу, значыць, і богу. І меркаваў, каб як спрытней ашукаць і аднаго і другога.

У гэтай справе ў яўрэяў многа розных спосабаў практыкавалі. Субота ў іх святкавалася вельмі строга: нельга было нічога рабіць. Гасіць свечкі і то наймалі чалавека. Забаранялася ездзіць, нават па чыгунцы, толькі вадою можна. Дык пры пільнай патрэбе паехаць бралі бутэльку вады і падкладалі пад сябе на возе ці ў вагоне. Закон выкананы, і інтэрас не прайграў.

Пераносчыкамі атэізму былі розныя старцы і жабракі. Навыпрошваюць у імя божае хлеба і скораму, а то і адзежыны. Памяняюць усё ў карчме на гарэлку, панапіваюцца і ў лужынах мызу мачаюць. Потым схопяцца біцца. Забудуцца, што прыкідваліся калекамі, пакідаюць мыліцы і месяць адзін аднаго. Сляпы, аказваецца, вельмі добра бачыць, куды ўцякаць, калі ў яго папусцяць дручком, а кульгавы ляціць мудрэй за стаеннага жарабца. Лаянка стаіць такая моцная «ў бога» і «ў багародзіцу», проста вушы вянуць.

Сярод гэтых валацуг былі свае арыстакраты, можна сказаць — паэты. Ім аддавалася асаблівая пашана. Я кажу пра лірнікаў.

Не помню, дзе я першы раз такога бачыў. Пэўна, у Стоўбцах ці ў Нясвіжы. Сядзеў ён пры царкоўнай агароджы. Бельмы закочаны, перабірае струны і цягне на адной ноце песню пра святую Дароту. А шапка — поблізу. Лірніка сароміліся падарыць кавалкам хлеба. Давалі грошы: хто — капейку, а хто і тры. Медзякі сыплюцца, а сляпы цягне сабе пад нос:

Ой, Дарота, Дарота,
Пякней срэбра і злота,
Не памогуць твае чары,
Трэба даць табе кары.

Скажу дробна шкла пабіць,
Цябе босу па ім вадзіць.

Гэта кароль-цыган Дароту ўпадабаў, а дзяўчына ўпарцілася. Вось ён і пачаў здзекавацца, мучыў і марыў яе голадам. Песня мяне на слёзы пашыбала.

Дзядзька Антось толькі падсмейваецца: «Ты, дурань, плачаш, думаеш, можа і лірнік святы, як тая Дарота. Да яго ж за гоні падступіцца нельга. З рота так патыхае, нібы там крама гарэлкі з сядзельцам і пітухамі. Дароту ён для жаласлівых баб заводзіць. А калі натоўпу няма ды яшчэ хто корак з кішэні пакажа, ён, брат, такое пачне...»

Дзядзька вельмі смешна перадражніў гугнявы голас лірніка і хрыплы тон яго інструмента:

— Цэ-элы ве-ек гару-ю,
Бз-зы-нн!
З аднае карчмы ў другую...
Бз-зы-нн!
Ва ўдавы начую,
Бз-зы-нн!
А яна й не чуе...
Бз-зы-нн!

Канстанцін Міхайлавіч тонкім голасам перадаў спевы дзядзькі Антося пад лірніка.

— Мне стала смешна,— сказаў ён,— але песні пра Дароту я не забыў і са здавальненнем потым прачытаў недзе ў беларускім календары.

У Мінску быў цікавы лірнік. Сядзеў ён найчасцей каля мураванай сцяны, што ішла ад тэхнікума ўверх па Савецкай. На самым пад'ёме вуліцы. І ў гэтым, як мне здаецца, быў разлік. Людзі ідуць угору павальней, зморваюцца. Пакуль хто дойдзе да яго, абавязкова спыніцца. Спеў паслухае і падорыць капейчынай.

Маляўнічы дзед гэта быў. Як быццам з Купалавага «Кургана» выйшаў. Твар, як з абраза, сумны, выразны, барада вялікая. Яго фота ў часопісах давалі. А самога, здаецца, у Маскву на выстаўку вазілі. Дэманстраваў там ігру на сваім інструменце.

Зімою і летам, у дождж і ў мароз сядзеў каля педтэхнікума, з голай галавой. Ідзеш, бывала, ліра громкае, голас чуваць нягромкі, шчымлівы крыху. Потым ён перайшоў на чыста беларускі рэпертуар. Спяваў не духоўныя вершы, а «Чаму ж мне не пець» і «Чарнаморца». Відаць, наслухаўся, як тэхнікумскі хор на спеўках заводзіў. Далятала туды цераз адчыненыя вокны...

Другі такі мастак хадзіў па рынках. Вельмі ж удала свістаў салаўём. У 30-я гады яны абодва раптам зніклі. Гаварылі, што англійскія шпіёны былі... Бядуля, небарак, усё трывожыўся: «А нам нічога не будзе, што мы іх слухалі?» Дзядоў, вядома, шкада. Але ўсё забываецца. Вось нават і я ўжо амаль забыў вобраз тоії галечы і бяды ў краіне, які неслі ў сабе ўсе гэтыя старцы і лірнікі.

Канстанцін Міхайлавіч працягвае вандраванне па Мінску і па рэспубліцы, па палях, якія яму хочацца найхутчэй вызваліць ад камення, аб чым ён гаварыў на партыйным з'ездзе. Гэта абуджае ў памяці дарагое яму падарожжа...

...Вясна падхапілася дружна, і ў полі снегу ўжо зусім няма. Набрынялыя чорныя камякі, наскрозь папранізваныя праменнямі сонца, засталіся толькі ў кюветах. Усюды чутна цуркатлівая вада.

Пагоркі Міншчыны засталіся ззаду. Як можна абняць вокам, жаўцеюць рана скінуўшыя зімовую апону руні. Гэта — вядомая сваёй урадлівасцю слуцкая даліна, чарназём, суглінкі. Канстанцін Міхайлавіч паказвае на гумны ў прыдарожных паселішчах. Прасторныя, з высокімі стрэхамі.

— Будавалі людзі з разлікам. Ведалі, чаго можна ад гэтай зямлі чакаць.

Даўнейшыя разгатыя прысады ўздоўж сіняўскай гравійкі змяняюцца стройнымі таполямі і ліпамі. На даляглядзе цямнее яшчэ па-зімоваму рудаваты хвойнік.

Мы кіруемся ў Баранавічы. Ужо другі раз працоўныя вобласці вылучаюць кандыдатуру народна-

га паэта, свайго земляка, у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР.

— Добра было б за адну кнігу ўзяцца,— гаворыць Канстанцін Міхайлавіч.— З маладосці рупіць мне гэта. У першыя гады настаўніцтва я збіраў грошы на фотаапарат. Куплю, думалася, і пайду на ўсё лета па Беларусі. А назбіраецца запісаў, здымкаў — складу даведнічак... Цяпер ён яшчэ больш трэба. Добрае ілюстраванае апісанне краіны, з гістарычнымі весткамі, з цікавымі падзеямі ў нашым жыцці, каб праца народа была чутна. Расказаць пра ўсіх, з кім пачыналася рэспубліка, хто цяпер ёй стаўляе дамы і сее лён. А то возьмеш старое выданне, чытаеш, напрыклад, пра Слуцак. І што ж дазнаўся? Захоўваюцца мошчы нейкага мучаніка, і ўсё. Добра, калі пра слуцкія бэры будзе ўспамянута. А мы ж пражылі больш за 30 год у новым ладзе. Што зрабілі, на што мерымся? Пра гэта трэба. Ды не забыць прыроду: добрыя азёры і лясы. Асабліва тыя, дзе баравікоў многа,— падсмейваецца ён са свае прыхільнасці.

За шараватай імглою і не заўважылася, як наперадзе выраслі Баранавічы. Адзін з першых нашых гарадоў, над якім, нібы разрэзаўшы драцяною сеткай прастору паміж небам і зямлёю, разляглося чужое, варожае завыванне матора. І людзі, прывыкшыя за многа год спакойна пазіраць угору — ці высока сонца? — глядзелі па неба з жахам — куды бегчы?

— Такія раны адразу не гояцца,— кажа Канстанцін Міхайлавіч.— Але ўжо добра жыццём пахне. Не гэтак, як у сорак шостым. Я быў тады. І раўняць нельга.

Сярод сцен, абваленых да падмуркаў, незабудаваных пляцоў, паўсыхаўшых ад агню дрэў — аглядаецца адміністрацыйны будынак: ці хутка стане поруч такі ж светлы шматпавярховы напарнік. Ажыўленасці спрыяе вялікі чыгуначны вузел. Ад яго ў горадзе прыбывае руху, клопату, людзей, грузаў. Рэпрадуктары на скрыжаваннях дзеляцца маскоўскімі і мінскімі навінамі, афішы кінатэатраў клічуць на тыя ж фільмы, што ідуць у сталіцы.

Знаёмячыся з жыццём горада, Канстанцін Міхайлавіч дазнаецца, колькі і чаго выпрабляецца тут. Сапраўды, шмат чаму можна парадавацца.

— Відаць, не ўсё гэтак, як расказваеце,— усміхаецца ён гаспадарам.— Вам толькі хочацца, каб так было.

На падмацаванне слоў з'яўляюцца планы і лічбы.

— Нашто яны,— кажа Канстанцін Міхайлавіч.— Я ж бачыў тавар на прылаўках, значыць, ёсць і на складах дабро.

Аднак не толькі цікавіцца планамі, а і запамінае. У абкомаўскім пакоі пачынаецца самая гарачая гаворка пра догляд зямлі, пра блізкія веснавыя работы.

Мінае гадзіна, другая. Дамоўлена, куды і як ехаць заўтра. Нарэшце, не без збянтэжання, выносіцца прапанова: схадзіць у лазню. Адмовіцца ад такой спакусы цяжка. Гэта — установа невялічкая, але з крутой парай. Канстанцін Міхайлавіч выбірае ёмкі, замашны венік:

— Мы-то сцёбаем сябе шкадуючы. Выбаршчыкі павінны мацней усыпаць...

...Раніцай выязджаем у раёны. Першая сустрэча з выбаршчыкамі мае адбыцца на шклозаводзе «Нёман».

Чырванаватая нітка брукаванага тракту паблісквае вільгаццю. Лес робіцца гусцейшым. І вось за тоўстымі камлямі ў глыбокім котлішчы адкрываецца прастора рыхлага вясновага лёду.

Свіцязь! Чорныя дубы ледзь варушаць галлём пры самым беразе. Крыху адбегшыся ўбок, купка бярэзін падхарошваецца ў праменні, чакаючы, калі можна будзе паправіць зялёныя косы над люстэркам вады.

Успамінаецца Міцкевіч — яго сэрца назаўсёды прываражыла Свіцязь:

Глянь уначы на прасцяг азёрны
І здзівішся навіною:
Два месяцы свецяць і свецяць зоры
На небе і пад табою.

І не ўгадаеш: ці лугавіна
Пад неба ідзе шкляная,
Ці неба шкляную сваю даліну
Да ног табе пасцілае.

Канстанцін Міхайлавіч глядзіць, нібыта ўгадвае праз парушаны зімовы сон возера недалёкае зыбанне хваль.

А вілаватыя ручаі і рэчкі ўсё старанней ломяць лёд і, збягаючы з навагрудскіх узгор'яў, будзяць, трывожаць Нёман.

Колас зноў у мясцінах, звязаных з роднай ракой, якая дала яму некалі песню. Зыначыўся час, пачаў новае жыццё Нёман, і з новым словам прыйшоў паэт да шклавараў, жней і лесарубаў.

Выбаршчыкі чакаюць з нецярплівасцю. Сама больш нецярпліўцца маладым грамадзянам, каму не хапае гадкоў да выбарчага ўзросту і таму асабліва хочацца трапіць на гэтую сустрэчу. Вучні стаяць у дзве сцяны па дарозе ў клуб шклозавода. Паспрабуй знайдзі дзе прыткнуцца там, хоць да дванаццаці цэлых паўгадзіны.

Даверaную асобу часта перапыняюць воплескамі, падахвочваюць выгукамі. Хай сабе знаёмае ўспамінаецца, усё роўна ўцешна паслухаць. Не так даўно стаяў разбураны шклозавод. Управіліся, паднялі. Сталі вырабляць цікавыя навінкі. З жытлом палепшала, смачнейшая луста на стале. І так па ўсім раёне. 20 лютага, у дзень рэгістрацыі кандыдатаў, у вёсцы Паручын арганізаваўся калгас. Маладую гаспадарку назвалі іменем свайго кандыдата Якуба Коласа.

На сходзе прысутнічае яшчэ адзін кандыдат — у дэпутаты Савета Нацыянальнасцей. Калі пачалася Айчынная вайна, гэтая жанчына з ўсёй сям'ёй пайшла ў партызаны. Цяпер яна старшыня калгаса імя Кірава, невялікага, але з заслужанай славай. На працадзень прыпала па 3 кіло збожжа, 6 кіло бульбы, 6 кіло фуражу і рубель грашыма.

— Нічога асаблівага я не зрабіла,— сарамяжліва гаворыць кандыдатка.— Стараюся, каб лепш было.

Прамоўцы, а разам з імі і ўся зала ўспамінаюць шлях Коласа. Чалавек сталага веку чытае заклік паэта да ўзброенага змагання з самаўладдзем: «Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!» Малады выбаршчык дзякуе за радкі, што ваявалі супраць нямецкіх захопнікаў.

Канстанцін Міхайлавіч адкладае ўбок акуляры. Не чытаць жа яму прамову! Ён гаворыць і раіцца, ён жа ў добрай і шчырай сям'і. Каб толькі не хвалявацца! Спачатку гэта не ўдаецца, але голас паступова крысе гучнее:

— Перажылася цяжкая пара. Перабылі яе, бо сілу маем. Савецкая ўлада — гэта мы з вамі, усе нашы поспехі і здабыткі. Будзем умацоўваць нашу савецкую ўладу. Будзем змагацца за мір. У заходніх абласцях, тут у вас, робіць агідную справу ксяндзоўства. Гэта агентура рымскага папы, ён найпершы падпальшчык вайны. Пасылайце вы ўсіх ксяндзоў, а разам і рымскага папу к чортавай бабе.

Узлятае дружны смех, гучна працуюць далоні.

Дзяўчаты выносяць на падмосткі падносы са шклянымі вырабамі. На сцэну выплывае каравай, вялізны, як утрымаць у руках. Калгаснікі арцелі «Нёман» вітаюць кандыдата хлебам і соллю.

З клуба ніхто не рушыцца. Скончыўся сход, але не ацiхлі размовы. Да Коласа падыходзяць усё новыя і новыя людзі. Хто напамінае пра колішняе знаёмства, хто пытае парады, а хто проста хоча зірнуць на яго зблізку, паціснуць руку.

Удыхнуўшы гэтага паветра, дзе добра слову і лёгка кроку, можа, упершыню пачынаеш разумець, што гэта за яна — народная любоў!

Канстанцін Міхайлавіч ходзіць каля дому па пасыпанай пяском сцяжынцы і часта нагінаецца: адкідае ўбок каменьчыкі, падбірае збітыя ветрам хваёвыя сучкі. Патрэба ў такой «прыборцы» з'яўляецца заўсёды, калі гаспадар нездаволены чым-небудзь і хвалюецца.

— Што ў вас там нарабілася?

Я збянтэжыўся, падумаўшы, што пытанне накіравана да мяне асабіста. Пачаў гаварыць напаў-

жартам — нічога ніякага, дома ўсё ціха, з суседзямі не сварыўся і наогул прыгод на маёй вуліцы не прыкмячалася.

Гэта яшчэ больш насцярожвае Канстанціна Міхайлавіча. Ён падымае недаверлівыя вочы.

— Ці ты сапраўды нічога не ведаеш і, значыць, не цікавішся тым, каму руку падаеш, ці...— Ён спыняецца і пасля маўчанкі гаворыць павальней: — Ці засланяеш плячыма таварыша, утойваеш праўду... А мы, здаецца, дамовіліся...

Нагадаўшы пра нашу ўмову — не пакідаць нічога недаказанага, ён пакрыўджана змаўкае. Надоўга. Толькі пасля шматлікіх намаганняў «разгаварыць» яго Канстанцін Міхайлавіч расказаў сумную, і больш прыкрую гісторыю.

Перад маім прыходам яму пазванілі па тэлефоне пра паводзіны маладога літаратара.

Па горадзе ліпкім снегавым камяком пакаціліся дзейкі аб пісьменніцкіх норавах. Далажылі і Коласу.

Я трапіў, як гаворыцца, на разгрэбіны падзей. Канстанцін Міхайлавіч хваляваўся, не мог даць рады рухам і гаварыў жорсткія словы.

Ён ідзе ад дому пад вяз. Сядае, бярэцца за свежую газету. Але не чытае, скубе паперу і качае ў пальцах галачкі.

— Цяпер ягоны застой у пісанні мне з іншага боку паказваецца. Няма ў чалавека духоўнага апірышча. Таму і ў побыце брыдасць. Артыкулаў на гэта ў грамадзянскім кодэксе няма, а ў жыццёвым знойдуцца. Прыкра руку падаваць такому. Дый, здаецца, сам слізкі. Не веру я такім людзям, не веру. Затоеная злосць у іх праступае цераз скуру. І не кажы мне нічога пра талент. Талент нікуды не дзенеш — ёсць. І вастравокі. А вось таленту — быць чалавекам — не хапае.

Некалькі год запар на акне, проста перад пісьмовым сталом Канстанціна Міхайлавіча, стаіць бутэлька рудаватай вадкасці з надпісам: «Якубу Коласу ад унукаў дзеда Талаша». Надпіс — мнагазначны і ў першую чаргу паказвае, адкуль і чаму з'явіўся

гэты падарунак. Унукі старэйшыны палескіх партызанаў і самі партызаны, адстаяўшы сваю зямлю ад шматлікіх навал, паглыбіліся ў яе нетры і хоць трымаюць зброю напагатове, але знаймуюць сабой прыход пакалення, якое мае сур'ёзны намер назаўсёды разлічыцца з войнамі.

Для найбольш пачэсных і блізкіх наведвальнікаў дома корак у бутэльцы адтыкаецца.

— Панюхай, якава яна, наша беларуская нафта! — запрашае Колас, і твар яго аж свеціцца ад задавальнення.— Я думаю, што, добра пашукаўшы, у нашай зямлі і не гэта можна выкапаць.

У ім прачынаецца памкненне вандроўніка і гаспадара: пабыць на тым месцы, дзе вырваўся з-пад зямлі гэты казачны струмень, займеўшы які краіны могуць лічыць сябе багатымі. Трэба дазнацца: ці добрая нафта, ці выгадна яе здабываць. Гэта, праўда, ён ведае: далажылі як віцэ-прэзідэнту Акадэміі. А хоча пабыць на Палессі, на той зямлі, дзе пачынаў свядомае жыццё, каб... Ён гаворыць аб гэтым расчулена:

— Здаецца, гляну і яшчэ больш палюблю нашу краіну. За тое, што прыбаўляе дзіваў і багаццяў чалавеку... Мала, мала ездзіў я ў свой час... А цяпер цяжэй выбрацца...

І мы ўспамінаем наша першае супольнае падарожжа...

Калматы рахманы канёк на хвіліну прыкінуўся порсткім стаеннікам і, зрабіўшы выгляд, што вельмі ўжо знудзіўся пераступаць з нагі на нагу каля вакзальнага пад'езда, пакруціў галавою, крыху пагрыз напятыя цуглі, нарэшце ўдарыў перснямі ў хамут і прывычным рухам рвануў з месца зімовы вазок. Усе гэтыя нескладаныя конскія махінацыі прарабляліся абавязкова перад кожным новым седаком і ўваходзілі ў праграму дзеяння гаматна апранутага ў кажух і бурку рамізніка: на жвавага каня хутчэй клявалі пасажыры дый лягчэй вытаргоўвалася лішняя залатоўка.

Ад нечаканага рыўка два юнакі, што змясціліся за неабдымнай рамізнікавай спінаю, адкінуліся на-

зад і голасна зарагаталі. Але конік, упэўніўшыся, што седакоў ужо ніхто не перахопіць і такім чынам гарнец аўса забяспечаны, паклыпаў ляною трухою і зусім паволі павёз нас за пярэднім вазком.

Пасля вагоннай сухой, патыхаўшай карболкаю гарачыні востры маразок працягнуў таркаю па шчоках, пабяліў бровы і вытыркшыя з-пад шапак чубы. Мы схавалі вушы ў каўняры і пачалі падтыкаць пад сябе пацягнутую сукном аўчынную запону, якую рамізнікі фарсіста называлі вільчурай, хоць ніводнага воўчага воласа ў ёй і не начавала.

Горад з нятоптаным і няезджаным на шмат якіх вуліцах і плошчах снегам пакрысе заліваўся рэдзенькім зімовым змрокам, падобным да жыжкі ў вялікіх блакітных шарах, што таямніча адсвечвалі ў прапахшым эфірам і мятаю паветры аптэкі. Пакуль мы ехалі, змрок добра загус, вызірнуў месяц і пад палазамі пачаў іскрыцца снег, як быццам зоры перасыпаліся з цёмнай сіняй посцілкі неба на выбеленую шэранню і тонка падсіненую святлом ліхтароў зямлю.

Да прыемнага пазвоньвання рамізніцкіх шамкоў далучаецца больш і менш урачыстая размова званоў — чыстая і са шчарбінаю — з усіх шматлікіх сабораў, цэркваў і цэрквачак, якімі здавён славіцца Полацк, дзе, паводле летапісца, былі «первіі насельніцы — крывічы». Гэта бадай і ўсё, што маглі мы сказаць аб гісторыі горада, які, перабыўшы доўгую пару заняпаду, толькі пасля Кастрычніка стаў акруговым цэнтрам, пагнаў па Дзвіне лес, гукнуў першым прамысловым гудком.

Мы прыехалі сюды адзначыць дзесяць год работы нашага выдавецтва. Мы — гэта Якуб Колас, затым прадстаўнік выдавецтва, з пісьменнікаў Мікола Нікановіч, я і яшчэ нехта маладых, не ўспомню хто.

Можна здзівіцца, чаму адзначалася такая малапрыкметная дата? Вельмі проста: тады больш выдатнай і надарыцца не магло. Рэспубліка, усе яе ўстановы і ўсе яе работнікі былі вельмі маладыя. Толькі Купала і Колас мелі за плячыма па дваццаць пяць год работы.

Нецярплівыя маладыя людзі, сяк-так залапіўшы прарэху ў часе паміж апублікаваннем першага і

амаль такой жа якасці апошняга вершыка, даволі шумна гулялі ў Доме пісьменніка свае дзесяцігадовыя юбілеі. Пад канец адной з такіх урачыстасцей К. Крапіва, так і не ўзняўшы віншавальнага голасу, чокнуўся са мною і прамовіў: «А ты чуеш, што скажуць пра ўсё гэта цераз дзесяць гадоў?» У Крапівы не было намеру жартаваць, ён памераў з'яву маштабамі часу і, мусіць, упершыню ўбачыў свайго, ненапісанага яшчэ Гарлахвацкага...

...У той зімовы адвячорак нас замест гасцініцы прывезлі ў акруговы Дом селяніна. Выдзелілі самы большы, самы святлейшы — вокны з абодвух бакоў — і, пэўна ж, самы халодны пакой з шарэнгамі жалезных ложкаў уздоўж сцен. Найбольш зацішнае — далей ад дзвярэй, на покуці — месца было аддадзена Канстанціну Міхайлавічу. Ён адразу ж разуўся і прылёг, як быў, у верхняй вопратцы. Ляжаў, залажыўшы рукі за галаву і не заплюшчваючы вачэй.

Мы дзяліліся скупымі ўражаннямі аб Полацку, уладжваліся на ложках і паглядалі на Коласа, стараючыся не рабіць лішняга шуму. А ён і не думаў спачываць: адразу ж прычыніўся да гаворкі. Спрэчку аб тым, якія рамізнікі лепшыя: мінскія ці полацкія, ён вырашыў кароткаю заўвагаю:

— Відаць, полацкія. Тут ім сена больш, бо па колькасці коней акруга на другім адзаду месцы ў краіне.

І, на наша здзіўленне, пачаў называць дакладныя лічбы: у Мазыршчыне 35 тысяч коней, а тут каля 44. Першае ж месца па конях трымае Магілёўшчына.

Наогул жа ўсе весткі, якімі дзяліўся з намі Канстанцін Міхайлавіч, здзіўлялі нейкай асаблівай важкасцю і значнасцю. Нехта з нас кінуў, што Полаччына — акруга невялікая, мала тут насельніцтва, значыць, мала і худобы. Колас прыўзняўся на сваім ложку і дадаў: у акрузе дзевяць раёнаў, на тысячу чалавек жыхароў прыходзіцца 19 рабочых, адсюль вывозіцца за мяжу лён і драўніна, нават ёсць спецыяльная экспартная кантора Дзвіналес...

Першы наш вечар — агульнагарадскі — быў размахнуты занадта ўрачыста: даклад, прывітанні ад гарадскіх арганізацый, нашы выступленні з абавязковым тушам ваеннага аркестра пасля абвяшчэння кожнага прозвішча. Атрымлівалася пампезна, доўга і аднастайна. Перш за ўсё зацягнуў прамову дакладчык, стараючыся, каб хаця не абмінуць якую заслугу выдавецтва перад народам. Ад дакладчыка не асталіся мясцовыя прамоўцы: хвалячы выдавецтва, яны няма-няма ды закідалі слоўца пра поспехі акругі...

Час ішоў, зала ўсё больш зморвалася.

Нарэшце абвяшчаецца доўгачаканы Колас. Як быццам даўжэй, галасней і навей грыміць стаўшы крыху абвыклым для вушэй туш. І сама сабою ўзгараецца авацыя, шчырая, несутрымная, як бывае, калі недзе нехта адзін, не вытрымаўшы, расцісне ў далонях надзьмуты папяровы мяшэчак цішыні і, даўшы грудзям палёгку, пад скляпенні залы ўзляціць шумны і гарачы гром воплескаў. Сэрцы многіх раптоўна акажуцца злучанымі з сэрцам аднаго, і невідочныя ніці гэтай сувязі, пачаўшыся ў далонях і пальцах мноства нечаканых сваякоў па духу, яшчэ шчыльней прывяжуць яго зваротнай любоўю да жыцця, да жывога...

Так стаяў гэты *адзін* перад трыбунай, выхвачаны падстольным і як бы падняты прыземным святлом, невысокі, яшчэ хударлявы тады чалавек з пазападаўшымі шчокамі і доўга не мог загаварыць ад узаемнага з залай хвалявання.

Чамусьці Канстанцін Міхайлавіч выбраў для чытання раздзелы з паэмы «На шляхах волі». Чытаў ён глухавата, пакашліваючы, але як добры настаўнік, выразна падкрэсліваў патрэбныя мясціны. Аднак урыўкі, а яны ніколі не даюць цэльнага ўспрымання, змора аўдыторыі перашкодзілі з'яўленню той слаўнай цеплыні, якая надоўга разварушвае душу пры падобных сустрэчах, дадае ўпэўненасці, памагае не хадзіць, а крыху падлятаць над зямлёю. Заўважыў гэта і Канстанцін Міхайлавіч, заўважыў і пакрыўдзіўся. Чаму была прынята з халадком рэч, якую ён нёс слухачу ў падарунак як самае лепшае, навейшае з усяго, чым зараз валодаў?

Не ведаючы, з чаго пачаць размову, вярнуліся мы ў сваё часовае жытло. Колас зноў прыпёрся на ложак, найбольш гаспадарлівыя з нас пачалі старацца вячэры. Наладзілі яе ў сваім пакоі і пашкадавалі: Канстанцін Міхайлавіч спаслаўся на нядужасць і да стала не пайшоў. Тым часам прачыніліся дзверы, увайшла буфетчыца:

— А для вашага дыэтніка я ўсмажыла рыбкі.

Канстанціну Міхайлавічу давялося ўстаць, ён папрасіў сабе адну на ўвесь вечар чарку зуброўкі, трохі пакалупаў прынесеную для яго рыбу. А ў гаворку ўключыўся зараз жа і вельмі актыўна. Гаварылі мы, як усе і ўсюды ў тую пару, пра калгасы, як цяжка яны ўзнікалі і з якой лёгкасцю спынялі існаванне, якія поспехі і няўдачы сустракаліся ў маладых гаспадарках.

Колас расказваў аб калектывізацыі на Полаччыне. Сюды ў свой час, пасля рэформы 1861 года, хлынула, ратуючыся ад яшчэ горшага ціску, хваля перасяленцаў з Латвіі. Адны з іх куплялі зямлю, другія бралі ў арэнду дробныя фальваркі мясцовых землеўласнікаў. Складаліся зямельныя таварыствы. Так Вацлаўскі маёнтак быў куплены 79 латышскімі гаспадарамі, яны падзяліліся потым на буйныя і дробныя хутары...

У такой значнай колькасці заможных хутаранцаў Колас бачыў немалую перашкоду калектывізацыі. З другога боку, яго радавала, што беларусы жылі з латышамі параўнаўча дружна, пераймалі ад іх смак да садоўніцтва і шматполля.

І зноў жа даводзілася слухаць Коласа з цікавасцю і здзіўленнем. Ён ведаў не толькі, што існуе нацыянальны латышскі сельсавет — Вацлаўскі, а расказваў пра лепшы калгас гэтага сельсавета — «Будаўніцтва», дзе на 100 дзесяцін зямлі прыходзілася 28 кароў і 13 коней.

Усе весткі падаваліся з добрым веданнем справы, як быццам гутарыў з намі не паэт, а вучоны аграном. Але гэта было тое веданне жыцця, што вылучае паэта сапраўды народнага паміж знаўцаў і спачувальнікаў якой-небудзь справы. Ніколі не быўшы на Полаччыне, Колас мог даць жывы малю-

нак, як жывецца-можацца, што тут было і чаго можна чакаць у бліжэйшыя часы.

— Ці ведаеце вы, хлопцы, на якую меру жывёлу прадаюць? — запытаў, пасміхаючыся, Колас.

Пакуль мы адказвалі, што гэтая аперацыя робіцца на галовы або на пуды, ён, адмаўляючы, пакручваў галавою і расказаў вось які выпадак.

— Нейкі ашуканец узяў у арэнду маёнтак. Лобава, калі не памыляюся. Тут гэта было ці, здаецца, на Магілёўшчыне. Адным словам, аддалі ў карыстанне будынкі, інвентар і жывёлу. І запісалі: я, такі і такі, перадаю такому і такому 200 аршын кароў, 150 аршын коней, 300 аршын свіней і авечак. Як бачыце, лічылі не па галовах, а мералі па даўжыні спіннога хрыбта. Тое, што прыбудзе за час арэнды, калі з цяляці вырасце карова, дамовіліся дзяліць папалам.

Але той падла-арандатар і не думаў аб прыбаўленні статка. Наадварот, большую частку жывёлы паспродваў. Гаспадар падаў у суд. Пачалася цяганіна. Арандатар падпаіў следчых, тыя перамералі жывёлу і знайшлі, што яе значна прыбавілася. А чаму? Бо, мераючы другі раз, да хрыбта прылічвалі яшчэ і хвост...

Назаўтра ідзём выступаць да студэнтаў. Канстанціна Міхайлавіча сустракаюць горача і сардэчна, ён чытае доўга і многа, на жаль, зноў тыя ўрыўкі з паэмы. Нам, маладым, пасля Коласа вытыкацца боязна. Мікола Нікановіч штурхае мяне пад бок:

— Ты прачытай з адзін верш, а я з прозаю і вылазіць не буду.

Аднак у афішах пералічаны прозвішчы ўсіх прысутных — адмаўляцца не даводзіцца. І мы чытаем, не паспяваем сесці на месца, як выклікаюць зноў і зноў. Няўмелыя, але маладыя радкі знаходзяць у моладзі водгук, прыпадаюць да сэрца. Міколавы апавяданні пра каханне ў спалучэнні з сімпатычным тварам аўтара і яго сакрушальнай франтаватасцю літаральна заварожваюць дзявочую палавіну аўдыторыі. Пачынаюць прыбываць запіскі: «Пачытайце яшчэ!», «Калі вы нарадзіліся?», «Ці кахалі вы да Кастрычніцкай рэвалюцыі?»

Нарэшце прачытана ўсё, што мы захапілі з сабою. Гадзіннік паказвае на дванаццаць. Заўтра ў нашых слухачоў лекцыі, а мы праз некаторы час выязджаем на Віцебск і Смаленск, дамоў.

Канстанцін Міхайлавіч час ад часу пазірае на ўсіх нас. Яго вусны і вочы добра ўсміхаюцца. Ужо ў вагоне, сеўшы ў зацішным цемнаватым купэ, ён не можа ўтрымацца і жартуе, паглядаючы на Нікановіча:

— Як я заўважаю, тут глядзяць не на твор, а на твар.

І яшчэ раз, ужо на пероне Смаленскага вакзала, дзе мы чакаем цягніка на Мінск, варочаецца да гэтага ж. Цяпер — без жарту, з лёгкай гаркотаю. Ён робіць некалькі крокаў у бок паднятай рукі семафора, дзе памахваюць ліхтарамі стрэлачнікі, бразгаюць буферы і коратка гукаюць фарміровачныя цягнікі. Колас спыняецца пад ліхтаром. Абсыпаны адліжнай крупкаю, ён выглядае быццам незнаёмы.

— Як хутка адно пакаленне саступае месца другому,— ціха кажа ён.— Я ўжо ніколі не знайду такой простай мовы з маладымі, як вы, равеснікі. А і мне ж — усяго нейкіх з чатыры дзесяткі... Здаецца, не быў, не жыў...

Ён зноў, гэтак жа, як і ў Полацку, сумнавата і разумеючы ўсміхаецца. Усміхаемся і мы. Не разумеючы. Зразумець яго праўду і стаць перад сваім засмучэннем па адляцеўшай маладосці давялося значна пазней.

# «НА РОСТАНЯХ»

*Як падахвоціць руку да работы? Методыка пісання. Чалавек і сонца. Умова гаварыць праўду. «Лыка не аддам». Колас правіць трылогію. Канферэнцыя герояў. Прататыпы, іх сапраўдныя прозвішчы. Валаамава асліца і князь Мяшчэрскі.*



Здаўна павялося так, што дакладна а дзесятай уранні Канстанцін Міхайлавіч з'яўляўся на работу ў Акадэмію. Працаваў прыкладна да другой гадзіны і пасля ехаў куды-небудзь на зялёную мясціну па Маскоўскай шашы.

Маршруты былі розныя: даўжэйшы — за Уручча, на адзінаццаты кіламетр, а часцей за ўсё — у малады хвойнік насупраць новых гарадскіх могілак або ў большы лес каля Сляпянкі.

Пахадзіўшы з паўгадзіны за горадам, вяртаўся дамоў. Абедаў у кабінеце адзін, калі ж адчуваў сябе не вельмі змораным — у агульнай сталовай, разам з сям'ёю.

Часіну адпачынку праводзіў на панадворку, пад хвоямі. Тупаў каля дому, аглядаў сад, пасля садзіўся на лаву каля дашчанага хлеўчука, пад вязам. Яго цешыла, што гэтае дрэва ўвачавідкі разрасталася і давала надзейны цень у спёку і спрат ад дажджу. Тут абдумваліся далейшыя старонкі «На ростанях», прыкідваліся планы на заўтра: выступленні на сходах, артыкулы для газет.

Перад ша́раю гадзінай, з такім разлікам, каб управіцца да цямна, ён падымаўся ў кабінет і перабельваў — надзвычай акуратна, без памарак і выкрэсліванняў — напісанае з раніцы.

— Працаваць проста так сябе не прымусіш,— неаднойчы гаварыў Канстанцін Міхайлавіч.— Чалавек — гультай, таму даводзіцца ашукваць уласную

ляноту. Трэба хоць чым падахвочваць руку. Я ніколі не перапісваю гатовы раздзел увесь адразу, да канца. Невялічкі хвосцік пакідаю на заўтра. Бывае, і сам не агледзішся, як пахіне на працяг. Так неўзаметку дзве-тры старонкі новыя маханеш.

Гэтая практыка некалькі парушалася. Часамі ён намагаўся завяршыць пэўны раздзел трылогіі ў той самы дзень, калі пачынаў. Тады адпачынак адмяняўся ці пераносіўся на пазнейшы час. Канстанцін Міхайлавіч не выходзіў з пакоя, пакуль чарнавы накід не быў зроблены да апошняга радка.

Раніцай пачыналася перабельванне. Ён абавязкова падгадваў, каб чарнавік не зводзіўся: стаўляў на чыстым аркушы нумар чарговага раздзела і запісваў некалькі пачатковых сказаў. Гэта быў таксама «хвосцік», ён рупеў і патрабаваў далейшага разгортвання падзей.

— Перапыняць пісанне трэба на самым цікавым месцы. Каб самому карцела дазнацца: а што ж будзе далей?

Да так званага запойнага пісання, днём і ўночы, некалькі тыдняў запар, не ўстаючы з крэсла, Канстанцін Міхайлавіч ставіўся няўхвальна:

— Ну, і які толк, што чалавек сядзіць, як ачмурэлы, нікуды не вылазячы? Думка робіцца непаваротная, на праўкі потым удвая больш часу трэба. Лепш развейвацца, выходзіць на людзі. Стрэнецца што-небудзь на дарозе, слоўца пачуеш. Глядзіш, яно табе падказала добрую знаходку. А галоўнае — давай галаве спачын, каб грунтоўней абдумаць усё. Тады запішаш сваю прыдумку лёгка, не надужаючыся.

Калі Колас ствараў апошнюю кнігу трылогіі, мне даводзілася зусім зблізку назіраць, як менавіта гэтак, няўхільна, з дня ў дзень, пакрысе, але з зайздроснай настойлівасцю ажыццяўлялася выпрацаваная ім методыка пісання. Думаецца, што і сам Канстанцін Міхайлавіч не выключаўся з творчага працэсу, як і тыя пісьменнікі-«запойшчыкі», чыіх звычак у рабоце ён знадворна не прымаў.

Вельмі рэдка здаралася, каб яго працу магла перарваць якая-небудзь справа, нават самая неадкладная. Ён знаходзіў магчымасць управіцца з ёю

ў найкарацейшы час, не адцягваючыся надоўга ад выспяваўшага ў думках. Горш было, калі апаноўвала стомленасць, падкрадалася нядужасць і ён не давяраў руцэ, сумняваўся, ці тое, што трэба, выходзіць з-пад пяра. Тады абвяшчаўся перапынак міжвольны.

— Іду на прафілактыку,— так называў ён кароткі адпачынак і лячэнне ў стацыянары.— Трэба ціск знізіць, рысоры праверыць.

І заўсёды ў гэты час нерваваўся, лаяў сябе «прагульшчыкам» і «дармаедам», а то і «старым карчом».

Канстанцін Міхайлавіч напаўжартліва, аднак з дамешкам горычы, пачынаў ушчуваць «Якуба Коласа» як асобу далёкую, амаль не знаёмую яму.

— Я ўжо дзесяць разоў казаў яму,— такія выгаворванні адбываліся і ў прысутнасці блізкіх сяброў,— Якуб, што ты сабе думаеш? Ты пісьменнік, а не можаш стаць над чалавечай хворасцю, не падолееш старэчага гультайства? Пішы, вось табе самыя лепшыя лекі. Не чакай, што заўтра падужэеш, не ў той бок яно, браце, хінецца. Увяз ты, як муха на ліпучцы. Ёсць у цябе крылы ці не? Рваніся і ляці...

Пад час такіх творчых «прастояў» Колас, куды б ні збіраўся: на пасяджэнне, на сустрэчу з чытачамі, у тую самую бальніцу — усюды абавязкова браў з сабою партфель. У ім хавалася крыху чыстай паперы і першым ляжаў аркуш з пачаткам новага раздзела кнігі. Гэта быў напамінак, дакор самому сабе: дзе б ты ні быў, як бы сябе ні адчуваў — пішы! Не знікала і не магла знікнуць надзея: зараз перарвецца бяздзейнасць. Хай усё будзе перад вачыма.

Блізка дзевяці год мы бачыліся амаль штодня. Часцей за ўсё — адвячоркам, калі я канчаў работу дома ці ў рэдакцыі «Вожыка». Зайшоўшы ў двор, я, як і ўсе, хто ведаў гаспадаровы звычкі, адразу ж кіраваўся да лаўкі пад вязам. Цёплаю пароіо, калі не было нягоды, Канстанцін Міхайлавіч заўсёды сядзеў там. На гэтую частку сядзібы перад заходам свяціла сонца, ужо менш гарачае, дый праменне затрымлівалася ў густой лістоце дрэва. А сонца ён любіў.

— Мусіць, я з роду сланечнікаў. Хаджу за сонцам па двары: куды яно, туды і я.

Магчыма, прывязваў яго да аблюбаванага месца недавершаны замысел, пэўней сказаць, не аформлены ў радкі, не дарослы да замыслу вобраз.

— У Ташкенце ёсць добры парк,— расказваў Канстанцін Міхайлавіч.— Каля абсерваторыі. З нябожчыцай Мар'яй Дзмітраўнай мы там адпачывалі нáдвечар, хаваліся ад гарачыні. І вось што кінулася мне ў вочы: промні між лісця свяцілі зырка, не стрываць, як пражэктары. Я адышоўся, хацеў лепей разгледзецца, а зіхценне ўзяло і знікла. Справа была вось у чым. Сярод дрэў стаяў дамок. Святло, адбіўшыся ад даху, пранізвала лісце шмат ярчэй, як звычайна. А відно гэта было толькі з пэўнага пункту і адлегласці...

І цяпер яшчэ хочацца злавіць той малюнак у слова. Не даецца, выслізгвае спраміж пальцаў. Ніяк не знайду, да чаго прымацаваць яго, да якой жыццёвай з'явы. Разважаў так: ёсць сонца, аснова жыцця на зямлі, самы магутны з успрынятых нашым розумам твор сусвету. А выходзіць, яго бляск можа быць павялічаны просценькім збудаваннем чалавека. Мусіць, смешныя развагі, дзіцячыя. Але вобраз жыве. Я мог бы запісаць яго як прыгожы малюнак. Ці варта? Будзе пустая цацка. А на такое ў нас майстроў хапае...

Так, пад засенню лапушнога дрэва, падоўгу ўглядаўся ён у аднаму яму відочныя вобразы, услухваўся ў аднаму яму чутныя словы, паглыбляўся ў толькі яму вядомыя думкі.

...Бразгала ўваходная брамка. Ён прыкладаў далонь да капелюша: хто прыйшоў? І насустрач наведвальніку, за некалькі крокаў, ляцелі вельмі звычайныя, але ад гэтага ніяк не з меншай турботай і цікавасцю гучаўшыя пытанні: «Як здароў? Што чуваць на белым свеце?»

Звыклыя ветлыя словы кожны раз афарбоўваліся непаўторным у сваёй непасрэднасці пачуццём. І па гэтым можна было без памылкі адгадаць, ці чакалі цябе, пазнаць, што за дзень у яго сёння: творчы або прастойны.

У творчыя дні Канстанцін Міхайлавіч пакідаў свой пасад пад вязам хутка. Мы ішлі да яго ў пакой.

Спярша паказваў найбольш цікавыя з дасланых лісты і рукапісы, раіўся аб іх лёсе, казаў, куды іх мяркуе накіраваць. Потым браў з-пад прэса чатырыпяць свежых старонак, напісаных надзвычай разборліва, рукою, што не страціла да апошніх гадзін амаль юнацкае цвёрдасці.

Працёршы вялікім, як хустка, кавалкам замшы акуляры, пачынаў чытаць. Не спяшаўся, а калі даходзіў да апісанняў прыроды, якія лічыў удалымі, чытаў яшчэ павальней. І ўвесь час сачыў з-пад акуляраў, як успрымаюцца жартоўныя і напружаныя мясціны, ці не павісла ў паветры, не зачапіўшы слухача, вострае слоўца, трапны зварот.

Гэтак праводзілася першая праверка твора на чытачы.

Калі ён прыкмячаў, што ўвага развейваецца, зараз жа спыняўся:

— Нешта ты далёка лунаеш... Кепска?

Скончыўшы чытанне, хоць і не выказваў нецярплівасці, аднак было відаць, што чакае водгуку даволі напружана. Сказаць толькі «добра» значыла пакрыўдзіць. Адно гэтае слова важыла для яго столькі ж сама, як і проста кінутае «дрэнна». Калі напісана добра, скажы, што іменна, і абавязкова растлумач — чаму. Як быццам ён сам не ведаў цаны сваёй рабоце! Ведаў, і лепш за іншых, але ўсё ж чакаў слова ў пацвярджэнне свае пэўнасці.

І калі погляды не супадалі, ён з поспехам пераконваў слухача ў перавазе свае думкі. Варта было мне, не стрымаўшы радасці ад ягонай удачы і перабраўшы крыху меру ў захапленні, сказаць, што ў кнізе найлепшыя раздзелы, дзе зволеныя з пасад сябры сустракаюцца ў «прасторах», праводзяць рэпетыцыю допыту і развaжваюцца танцам «зялёнага асла», як Канстанцін Міхайлавіч запярэчыў:

— А як жа «паніч, выганяй»?

І зараз жа давёў, што па каларыце, гушчыні фарбаў і цэльнасці куды вышэй малюнак, калі падкуплены Лабановічавай залатоўкай сельскі пастух з дваран, Лукаш Леўчанка, ляскае пугай і крычыць на світанні «выганяй», трывожачы і без таго кепскі сон пісара Васількевіча.

Адным словам, першы чытач і крытык трылогіі,

чые ролі мне даводзілася сумяшчаць, трапляў у незайздроснае становішча. Перш чым вымавіць слова, трэба было з усіх бакоў узважыць яго. Добра, калі адразу ўдавалася сцісла перадаць непасрэднае ўражанне ад прачытанага. Але некаторыя рэчы патрабавалі папярэдняга роздуму, на іх трэба было глянуць яшчэ раз сваім вокам і толькі пасля меркаваць. Тады ў тоне размовы міжволі з'яўлялася няпэўнасць, і гэта непакоіла Канстанціна Міхайлавіча. Ён хмурнеў, пачынаў гартаць рукапіс, прыглядацца да кожнага слова, нібы адшукваючы, што засталося невыразным, не такім, як бачылася яму.

Аднойчы, праслухаўшы раздзелы трылогіі пра першыя часы бытавання Лабановіча ў турме, я паспрабаваў ухіліцца ад размовы. Было дзіўна: навошта пераносіць у мастацкі твор амаль дакладна ўсё тое, пра што расказвалася ў мемуарным нарысе «Цені мінулага», рэчы, ад якой так і патыхала дакументальнасцю.

Характэрныя, вельмі жыва напісаныя малюнкі астрожнага жыцця, арыштанцкіх забаў, здзекаў з «новенькіх» нейкім чынам засланялі постаць Лабановіча. А ён жа вось-вось прыйшоў з суда і, зразумела, не можа не разважаць: што адбылося? Чаму і, галоўнае, як яго асудзілі? Якім парадкам пакіруецца ягонае жыццё тут і ў далейшым, пасля вызвалення?

Цяпер герой ужо ў поўную меру можа асэнсаваць найбольшую і найгоршую сваю бяду: страчана воля, і на немалы час. Настрой у яго мусіць быць рэзка інакшы, чым у асуджаных разам таварышаў: яны пайшлі на суд з-за крат і за краты вярнуліся, а ён трапіў сюды ўпершыню.

Адным чынам, былі ўсе падставы чакаць новага перавароту ў душы Лабановіча, канчатковага ўзмужання і сталасці яго. Забавы ж крымінальнікаў, накшталт «пілавання дуба», здаваліся празмерна натуралістычнымі і калі маглі надавацца ў творы, дык хіба для таго, каб легчы дадатковым цяжарам на псіхіку героя.

Не ведаючы, што рабіць з узнікаўшымі думкамі,

я маўчаў, балазе прыйшоў малодшы сын Канстанціна Міхайлавіча Міхась і пачаў расказваць пра стралковыя спаборніцтвы, у якіх ён браў удзел.

На нейкі час Канстанцін Міхайлавіч ажывіўся, ператварыўся з патрабавальнага літаратара ў добрага хатняга чалавека, «бацьку», «дзядзьку Якуба». Аднак я ўвесь час адчуваў на сабе дапытлівы позірк. А калі ўстаў, каб адвітацца, ён усё ж не вытрываў:

— Так проста я цябе не выпушчу... І што гэта за ліха? Пэўныя асобы, у тым ліку і я, карыстаюцца правам недатыкальнасці: што ні зрабі, усё добра. Нават калі рэч адно пад селядцы прыдатна. Дый тады высмакчуць з пальца кучу розных вартасцей. Бачу па табе — не ўпадабаў. І маўчыш. А мне круці галаву: недадаў ці перадаў што-небудзь. Давай умовімся, Максім: будзем гаварыць адзін аднаму толькі праўду. І не крыўдзіцца. Згодзен? А цяпер кажы ўсё, што думаў.

Зробленае пагадненне мала паляпшала маё становішча. Умова ўсё ж была аднабаковая: і без яе Колас, па праву першаадкрывальніка, пад чыім доглядам узгадавалася не адно пакаленне літаратараў, быў абавязаны гаварыць кожнаму проста ў вочы, чаго сапраўды варта яго работа.

Але хто з нас мог патыкацца з заўвагамі да яго, спадзеючыся на такую не зусім пэўную рэч, як асабісты густ? Як можна было з аднаго чытання, на слых, сцвярджаць свой погляд, абвяргаючы аўтарскі вопыт, дальнабачнасць, наўздзіўную чуласць да праўды, і асабліва мастацкай? Груз на шалях ляжаў відавочна няроўны! Але марудзіць з адказам было нельга...

Цярпліва выслухаўшы ўсё, Канстанцін Міхайлавіч заўважыў:

— А табе не здаецца, што пасля здзеку, учыненага ў судзе, здзек у камеры яшчэ мацней уразіць Лабановіча? Хіба ж гэта не праходзіць цераз духоўныя вочы героя, не стасуецца да яго разваг? Трэба памеркаваць. Я прыкідваў ужо, ці не вельмі павёў мяне ўбок матэрыял. Мы некалі гаварылі аб гэтым, чытаючы Гогаля. Толькі наконт натуралізму — па-

мыляешся. Не можа не набыць верагоднасці твая выдумка, калі ёсць у ёй і жывая акалічнасць, хоць сабе і разнатуралістычная...

Канстанцін Міхайлавіч спыніў самога сябе:

— Чакай... Хіба ж тут ёсць выдумка? Я пісаў, як было. Можа вымыслу і малавата...

Разрэзаў вялікую наліваную антонаўку, палавіну падаў мне.

— Не спяшайся... у мяне тут трохі «ад прастуды» ёсць. Прыхаваў ад Данілавага вока. Ён з дактарамі ў адну дудку іграе, парашкамі лечыць. А я, калі забаляць часам грудзі, усе сульфадзімізіны вераб'ям на дах высыпаю: хай дзяўбуць, каб не чхалі. Вазьму чарачку на ноч, і як рукою здыме...

Канстанцін Міхайлавіч наліў у паходную стопачку каньяку.

— Выбачай, я сабе няпоўную. Мы — з адной, як дзяды рабілі. Не хочацца гаспадыням фатыгі задаваць. Дый пачыналі мы размову сам-насам. Так будзем і канчаць. Каб нам заўсёды так гаварылася, як сёння. Будзь здаровы!

Перадаў чарку мне.

— Трымай! Табе, відаць, і яшчэ адна нака́паецца.

Глядзеў вясёлымі вачыма і гаварыў:

— Адкрытасць яшчэ нікому ніколі не пашкодзіла. Асабліва ў мастацтве. Бо яно ўжо сутнасцю сваёю выкрывае няпраўду. І калі мы кінем паказваць адны рэчы лепшымі, чым яны ёсць, а другія — горшымі? На літаратуру ад гэтага прыходзіць звод...

І раптам вярнуўся да пачатку гаворкі:

— «Пілавання дуба» не выкіну. Лыка, браток, не аддам.

Для растлумачэння гэтай прымаўкі знойдзецца час і месца пазней.

Выйшаўшы на сходы, ён доўга гаварыў на развітанне:

— Вось так. Таіцца можна толькі ад хворых, і цяжка хворых. Яны не павінны ведаць лішняга пра свой стан. А наогул — сячы мапюку розгамі. Так сказаў бы мой Тукала, выкарыстаўшы для выпадку мудрасць Заратустры.

На гэтым скончыўся, калі можна так назваць,

адзін з шматлікіх урокаў адкрытасці, якія, дарэчы сказаць, даваліся не аднаму мне. Хай сведкі і ўдзельнікі іх успамянуць самі.

Канстанцін Міхайлавіч перадаў рукапіс у часопіс амаль без змен. Затое, рыхтуючы трылогію да асобнага выдання, перайначыў заканчэнне, зрабіў багата ўставак, пашырыў усе эпізоды, звязаныя з настаўніцкім з'ездам, і астрожным побытам Лабановіча. Дый сам герой стаў выглядаць іначай. З'явіўся даволі значны ўнутраны маналог яго адразу пасля прыходу ў камеру з суда, змястоўнейшыя сталі гаворкі з таварышамі па зняволенню.

Рабілася гэта ўпотай ад дактароў, калі Канстанцін Міхайлавіч быў на чарговай «прафілактыцы» ў стацыянары.

— У рукапісе правіць цяжка,— сказаў ён, даючы мне чытаць папраўленыя раздзелы.— Сваё вока бачыла, свая рука пісала. А друкаванае, як чужое: адразу відаць, дзе вытыркае, дзе закарочана.

Я спачатку быў збольшага падсеяў «Цені мінулага». Не ўлічыў, што гэта ўспаміны і я пісаў іх ад свайго імя. Зразумела, асцерагаўся, каб не перабраць меры, не высунуць сябе наперад як вялікага пакутніка. Сам-то я ведаю, што думаў і як перажываў першыя дні турмы. Вось і засталося гэта ў сабе, не перайшло ў твор. А Лабановіч жа — нешта іншае. Яму дадзена права і пахістацца і паразважаць. Я так і стараўся правіць цяпер.

Канстанцін Міхайлавіч пасядзеў моўчкі.

Паказаў двойчы перакрэсленую старонку, дзе расказвалася пра «плаванне дуба». Прыжмурыўся на мяне, даючы зразумець, што не забыў нядаўнюю гаворку.

— Цяпер-то нейчая душа будзе давольна. Бачыш, усе мы не надта вялікія ахвотнікі правіць, хоць часамі хто толкам заўважае. Мне некалі Марыя Дзмітраўна гаварыла: трэба прыслухвацца, калі і малое дзіця запярэчыць.

Праз некалькі хвілін гучыць старое славянскае выслоўе:

— «Устамі младзенцаў глаголет ісціна».

Добрая ўсмешка асвятляе і ўздых і крыху перабольшаны смутак:

— Пайшло-такі маё лыка ў дзялёж.

«Лыка не аддам» узнікла і стала ўмоўным выразам для азначэння недатыкальнасці, нечым накшталт палінезійскага «табу» ці старапольскага «не пазвáлям», у часе выдання сямітомніка Якуба Коласа. Перад пачаткам гэтай работы Канстанцін Міхайлавіч паклікаў да сябе рэдактараў першых чатырох тамоў: П. Броўку, П. Глебку і мяне. Ён выказаў жаданне, каб мова пачатковых твораў па магчымасці падраўнялася да ўзроўню сучаснай.

Беручыся за падрыхтаваны да друку твор, Колас прыдумваў новыя варыянты сказаў, знаходзіў замену для слоў небеларускага паходжання, вызваляў рукапіс ад дыялектызмаў, падтрымліваючы амаль усе нашы прапановы ў гэтым кірунку. Аднак рашуча адстойваў ужыванне слоў: «громка», «трудна» і «крэпка». У адказ на пярэчанні расказаў, як два браты дзяліліся, разбіралі бацькаву спадчыну. Адзін вельмі памяркоўна пераступіў другому кабылу з жарабём, цялушку-выпустка, авечак і лепшы панарад. А дайшло да скрутка лазовай кары, што вісеў над страхою, узяў і ўпёрся: «Лыка маё, лыка не аддам».

З таго часу мы ведалі: вымавіў Канстанцін Міхайлавіч, хоць і з адценнем жарту, сваё запаветнае «Лыка, браткі, не аддам», значыць, усе доказы намарна, і не спадзявайся, што погляд яго можа змяніцца.

Праўда, да гэтай ахоўчай прымаўкі Колас амаль не звяртаўся. Хіба што лічаныя выпадкі ўспамянуцца за ўсе гады, калі мне даводзілася бачыць, як ён працуе над творамі, або так ці інакш браць удзел у іх рэдагаванні.

Што ж гэта была за работа?

На першую чаргу, па аб'ёму і працягласці, вылучаецца парадкаванне трылогіі «На ростанях» для першага асобнага выдання.

Выдавецкую прапанову перагледзець рукапіс перад здачай у набор Канстанцін Міхайлавіч спачатку сустрэў не вельмі прыхільна:

— А што тут рэдагаваць? Усё чытана-перачытана, слухана-праслухана.

Так сапраўды і было. «Верхань» і «На крыжовых дарогах», абедзве заключныя часткі трылогіі, папярэдне, як расказвалася ўжо, былі праверaны на слых, а перад друкаваннем у часопісе «Полымя» яшчэ дадаткова прачытваліся мною па раздзелах.

Аднак даволі тоўстыя папкі чысценька перапісанага на машынцы рукапісу прывабілі, пацягнулі яго паглядзець, як жа выглядае ўвесь твор у цэласці.

Канстанцін Міхайлавіч пачаў чытаць асобныя старонкі, разгортваючы рукапіс то ў пачатку, то ў канцы. Адлажыў убок акуляры.

— Прыйдзецца папабіваць на гэтым пальцы. Усё сабралася ўместа,— ён любіць гэтае слова і ў гаворцы амаль не ўжывае «разам».— І ўжо ясна, што ў мяне як быццам нарадзілася два дзіцяці: адно да вайны, а другое зараз. Злучаюцца ў розны час напісаныя творы, а чытацца павінны, як адна кніга. І не толькі Лабановіч павінен аб'ядноўваць іх. Трэба засыпаць роў трыццацігадовай глыбіні паміж канцом і пачаткам. Я амаль не пераглядаў даваенных аповесцей. А мова наша моцна вырвалася наперад.

Перш за ўсё яе трэба габляваць, асабліва аўтарскую. Героі хай сабе гавораць, як хочуць. І так прамашак багата: у адным месцы Лабановіч — Андрэй Міхайлавіч, а ў другім — Пятровіч... Давай пачнём хіба. Гаворыць, адклад не ідзе на лад. Чытай уголас і папраўляй, а я буду сачыць па кнізе.

Чытка першай паўсотні старонак «У палескай глушы» заняла больш за тыдзень. Зрэшты, цяжка было і спадзявацца на лёгкі рэдактарскі хлеб, як бывае пры выданні твораў такіх буйных пісьменнікаў: прачытаў з задаваленнем, злавіў колькі ўдасца стылістычных «скочак» і з палёгкаю накіроўвай у набор.

Колас патрабаваў работы, і не толькі ад сябе. Мы працавалі па чатыры-пяць гадзін штодня, і ён з дакорам паглядаў на ўсё яшчэ тоненькую стопку прачытаных лісткоў. Наракаў на мяне за маруднасць,

а тым часам не ў яе ўпіралася справа. Мы памяняліся ролямі: Канстанцін Міхайлавіч прыняў на сябе абавязкі самага прыдзірлівага рэдактара, а я бараніў ад ягоных нападаў яго ж уласны тэкст.

Усё тлумачылася проста. Коласаўская манера пісаць зрабілася куды сціслейшая, карацейшы стаў сказ, змянілася яго пабудова, паменшала пабочных слоў і выразаў. Пісьменнік амаль адмовіўся ад выказнікаў, што складаліся з двух дзеясловаў, не выносіў іх у канец сказа.

Жаданне «засыпаць роў» паміж першай і апошняй кнігамі было нястрымнае, і даводзілася захоўваць пэўную асцярожнасць, каб не закасаваць і не прыгладзіць моўныя і стылістычныя асаблівасці пачатку трылогіі.

Рукапіс быў адкладзены, для зручнасці работа працягвалася па пятым томе збору твораў. Там не засталося ніводнай, літаральна ніводнай старонкі, якую б абмінула, не зачапіўшы, патрабавальнае аўтарскае вока.

Строга кажучы, абедзве палескія аповесці былі перапісаны. Як жа лічыць проста «праўленай» старонку, калі на ёй добры дзесятак, а то і два змен, удакладненняў, перастановак, дапісак. І так усюды, дзе б ні разгарнуўся том. Вось, да прыкладу, мы чыталі:

«У працілежным баку характар гэтай роўнядзі захоўваўся на далёкай адлегласці, і чуць-чуць чырванеўся збоку каля яе дамок трэцяй будкі. З таго боку чуць значна пасоўвалася чалавечая постаць. І трудна было прымеціць, куды яна ідзе: сюды ці ў другі бок...

— Пайду на спатканне гэтай фігурцы,— рашыў Лабановіч і пайшоў»*.

Колас правіў:

«У працілежным баку дарога ішла роўна на далёкай адлегласці. Было нават відаць, як выступаў з далечы дамок трэцяй будкі. Адтуль ледзь прыметна пасоўвалася чалавечая постаць. І трудна было вызначыць, куды яна ідзе: сюды ці ў другі бок...

— Пайду насустрач,— вырашыў Лабановіч» *.

Нават неспакушанаму воку няцяжка заўважыць, чым выклікалася аўтарская праўка і чым кіраваўся

пры ёй Якуб Колас. Першы клопат быў аб выразнасці малюнка. Пісьменнік замяняе недакладнае «характар роўнядзі захоўваўся» простым і ясным «дарога ішла роўна». Кладзецца яшчэ адзін штрых, і робіцца зразумелым: дзе, каля чаго стаяў дамок будачніка.

Уся карціна ажывае.

Другі клопат — энергічнасць і гнуткасць сказа: замест аднаго першага стала два, лёгкія для чытання і ўспрымання, а заключны спрасціўся за кошт лішніх слоў і таксама загучаў лепш, ямчэй падкрэсліваючы намер героя. Зніклі паўторы «чуць», замест чатырох назаляўшых «бок», «збоку» засталося толькі два, ужо зусім непрыкметных.

Здаецца, і няшмат зроблена, а прыгледзеўшыся — невымерна многа. Гэта і ёсць тая ашчаднасць у выдаткаванні слова і тая ўмеласць у абыходжанні з ім, якая называецца чамусьці не майстэрствам, а яго сакрэтам.

Параўнанне двух тэкстаў трылогіі, зноў паўтару, літаральна на кожнай старонцы касуе гэты сакрэт, шчодра вучачы ўмельству і патрабавальнасці. Не забудзем, дарэчы, што Колас правіў па друкаваным, тыя самыя кнігі, якія вытрымалі ўжо ці мала выданняў, сталі дарагімі чытачу.

Гэта яго не спыняла. Перабіраючы чарговы раздзел, які ўдавалася закончыць апрацоўкаю, Канстанцін Міхайлавіч гаварыў:

— Яшчэ воз гною вывезлі. Прастарней героям будзе.

І асабліва радаваўся, калі знаходзіў відавочную памылку або недагляд.

— «Ужо даўно звечарэла, але ў хатах усюды свяціліся агні».— Прачытаў і здзівіўся: — Як гэта я мог прапусціць? Супярэчнасць. Трэба змяніць першую палавіну сказа так: «ужо было позна».

Аднак, падумаўшы, закрэсліў «але» і напісаў зверху толькі «і».

Праз некаторы час, калі быў высветлены намер і характар рэдагавання, Канстанцін Міхайлавіч спланаваў работу іначай. Мы пачалі чытаць рукапіс асобна. Мне былі дадзены паўнамоцтвы правіць асобныя словы і выразы на ўзор таго, як гэта рабі-

лася сумесна. Потым я звяраў аўтарскую праўку са сваёю, зводзіў усё ў адзін экземпляр.

Канчатковы тэкст пакідаўся на прагляд Канстанціну Міхайлавічу. Калі ён ухваляў работу, праўка замацоўвалася чарнілам і ўсё адпрацаванае перадавалася на машынку абавязкова самім аўтарам.

Ад таго часу захаваўся спіс слоў, якім я кіраваўся, працуючы над трылогіяй. Было дамоўлена пісаць: громка, крэпка, быстра, трудна («Лыка не аддам»); вачамі, дзвярамі і г. д. (замест «вачыма»); верханскі і да т. п. (без мяккага знака); Уладзімер (замест Уладзімір); поезд, надвор'е (калі добрае — пагода); задавальненне (у сэнсе «удовольствие»); зварачаць (замест «звяртаць» і «зварочваць»); пакуль (замест «покуль», «покі» — пакідаць у дыялогу); далі-бог (замест «яйбогу» і «даль-бог»); жаваранак (замест «жаўранак», і толькі ў мужчынскім родзе); статак (замест «стада»); жывёла, худоба (замест «скаціна»); напіс (без «д»); непрыметны (без «к»); дзервяны (скрозь замест «драўляны», «дзеравянны»; выключэнне: «драўляны крыж» і «драўляны горад»); хвіліна (замест «мінута»); пудзіла (замест «пудала»); лаўка (замест «парта»); вышэй, далей, ніжэй (з націскам на апошнім складзе); збянтэжыўся (замест «змяшаўся», «замяшаўся»); наглядчык (замест «надзірацель» і «назірач»); клунак (хоць у Насовіча і пішацца цераз «м»); Лабановіч Андрэй Пятровіч, Васількевіч Ганна Грыгор'еўна, Дуня (замест «Глафіра» ў трэцяй частцы).

Спіс гэты, вядома, далёка не поўны. Напісанне шмат якіх слоў устанаўлівалася пад час абмяркоўвання розных варыянтаў і змен, і натаваць іх патрэбы не было.

Да прыкладу, Колас ужываў слова «задаваленне» ў сэнсе рускага «удовольствие». «Здавальненне» гучала для яго як «удовлетворение».

Падмацоўваў свой погляд ён наступным чынам:

— Калі кажуць: «Еў або спяваў, пакуль здаволіўся», значыць, разумеюць — пакуль не наталіў голад ці не нацешыўся песняй. Іншая справа сказаць:

«Мы задаволіліся малым». Адразу новае адценне чуецца. І не трэба збядняць мову, зводзіць яе абавязкова да абмежаванай колькасці слоў. Тое самае і ў адносінах да «звяртаць» і «зварочваць». Па-мойму, трэба пісаць «зварачаць увагу». «Зварочваць» — гэта з'ехаць з дарогі, а «звяртаць» — аддаваць каму-небудзь узятае ці пазычанае.

«Надпіс» для Коласа значыла напісанае зверху, над чым-небудзь, і таму ён адстойваў сваё ўлюбёнае «напіс», каб азначыць напісанае непасрэдна на паперы, на пліце. І зусім сур'ёзна прапанаваў Канстанцін Міхайлавіч замяніць «надпісам» не зусім мілагучнае, іншаземнага паходжання слова «шыльда».

Напачатку ён быў вырашыў трымацца насовічаўскага напісання слова «клунак» праз «м». Пасля раздумаў:

— Будзе блытацца з «клумам». Не трэба. Бо «клум» — гэта шум, неспакой, а дзе-нідзе і ў сэнсе «натоўп» ужываецца.

Прыхільнасць і любасць да асаблівасцей мовы, засвоеных у маленстве, была ў яго амаль неадольная. Нават у самых апошніх «Казках жыцця» забывалася рука і пісала «комін» і «жаваранак» з канчаткамі жаночага роду.

Канстанцін Міхайлавіч лавіў сябе на гэтым, ужо чытаючы перапісанае на машынцы.

— Ніяк не выкурыцца з мяне мікалаўшчынскі дух,— казаў ён, з неахвотаю беручыся за ручку, бо страшэнна не любіў памарак у белавіках.

Гасцініца «Масква». Заўтра павінен адкрыцца II з'езд пісьменнікаў. Канстанцін Міхайлавіч рыхтуецца выступаць. Прамова пачынае здавацца даўгаватай. Канстанцін Міхайлавіч мерыцца скарачаць. З'яўляюцца новыя думкі, і ў выніку вырастае старонка: аб крытыцы. С. Гарадзецкі запэўняе, што выступленне цікавае і на рэгламент аглядацца няма чаго. У прамове Колас спасылаецца на сваю трылогію. Ён усё яшчэ жыве нядаўна скончаным творам, чакае слова пра яго, добрай парады. Час падумаць і аб перакладзе.

Канстанцін Міхайлавіч успамінае аб тым, што прыходзяць запрашэнні на чытацкія канферэнцыі па трылогіі.

— Трэба будзе пад'ехаць куды-небудзь. Ад чытачоў больш праўды пачуеш, чым ад крытыкаў.

Ён па-маладому смяецца ад раптоўна ўзнікшай думкі:

— А што, калі б наладзіць канферэнцыю героях? Трэба сказаць, што ніхто з іх цалкам не выдуманы. Але ж боязна: з'едуцца, павыскубаюць мне апошнія валасы. Той-сёй можа пакрыўдзіцца, пазнаўшы сябе. Хіба што адзін Лабановіч змоўчыць.

Ён зноў смяецца і пачынае жартліва лічыць, каму з героях можна было б паслаць запрашэнні на сустрэчу. Я пакрысе складаю спіс асоб, якія дзейнічаюць у трылогіі, карыстаючыся тым, што зараз называюцца іх сапраўдныя прозвішчы:

Ядвіся — Ядвіга Ігнатаўна Баранцэвіч.
Саханюк — Дылеўскі.
Широкі — Фама Іванавіч Гладкі.
Тукала — Сымон Самахвал.
Садовіч — Алесь Сянкевіч.
Анцыпік — Анцыповіч.
Уладзік — Уладзімір Міцкевіч.
Лапаткевіч — Лапцэвіч.
Мілеўскі — Адам Мілюк.
Янкавец — Нічыпар Янкоўскі.
Трайчанскі — Базыль Шчорс.
Айцец Уладзімер — Уладзімір Бяляеў.
Васількевіч — Васілёк.
Тадорык — Іван Фёдараў.
Ротмістр — Солтан.
Галубовіч — Аляксандр Голуб.
Рутовіч — Руткоўскі.
Рагоза — Рагозін.
Алейка — Алейчык.
Касперыч — Каспяровіч.
Тургай — Якаў Сямёнавіч Бязмен.
Вольга Віктараўна — Вольга Віктараўна Ганцова.
Антаніна Міхайлаўна Мураўская — Аляксандра Міхайлаўна Мурашка.
Пракурор суда — Юршэўскі.
Бабека — Кабека.

Адвакат Петруневіч — Петрусевіч.
Семіпалаў — Самойлаў.
Нарадаволец — Бонч-Асмалоўскі.
Кастогін — Канстанцінаўскі.
Будачнік — Курульчук.
Іваш — Ласіцкі.
Дулеба — Камароўскі.

Нічыпар Кудрык, Аксён Каль, свержанскі фельчар Найдус, чыгуначнік Баўдзей, пастух Леўчанка, зняволеныя Мірман, Мардуховіч, Юзафовіч, наглядчык Дожджык — засталіся пад сваімі прозвішчамі. Прозвішча пісара не ўспамянулася, а звалі яго — Пётр Язэпавіч *.

Адгукнуцца на запрашэнне мог толькі адзін герой трылогіі — А. Голуб. Канстанцін Міхайлавіч ведаў яго маскоўскі адрас, збіраўся набачыцца і час ад часу пісаў яму добрыя, сардэчныя лісты, з цеплынёй успамінаючы яго імя ў гаворках.

У адным з раздзелаў заключнай кнігі трылогіі прыводзіцца такое чатырохрадкоўе:

Наказана ты, Русь, всесильным роком,
Как некогда священный Валаам:
Заграждены уста твоим пророкам,
И слово вольное дано твоим ослам.

Памяць Канстанціна Міхайлавіча на гэты раз не дала ўратоўчай нітачкі, па якой можна было б дакапацца да вытокаў верша.

— Недзе чуў,— коратка сказаў ён.— А калі і ад каго, не ўспомню.

Радкі былі занадта складаныя, каб належаць безыменнаму аўтару, аднаму з тых, кім у розныя часы нанізваецца фальклорны жомчуг.

Біблейская легенда, з якой яны выраслі, знарочыста ўрачысты тон і крыху архаічная афарыстычнасць падказвалі думку аб руцэ пісьменніка прафесіянала. Але каго ж імепна? Якія літаратурныя інтарэсы і прыхільнасці былі ў маладога Коласа? Апрача гэтай цікавасці, на пошукі мяне кіраваў і звычайны рэдактарскі абавязак — праверыць, наколькі дакладна падаецца вытрымка.

Перагортванне паэтычных зборнікаў адказу не дало. Не дапамаглі і стосы тагачаснай перыёдыкі — газеты, сатырычныя выданні, аднадзёнкі, якія, не паспеўшы нарадзіцца, забараняліся цэнзурай. Заставалася шукаць у архівах, у следчых справах, у мемуарах удзельнікаў рэвалюцыі 1905 года, у кнігах, дзе гаварылася ці хаця б успаміналася пра гэтую пару. Нічога, нават падобнага, не знаходзілася.

Трэба было падпісваць у друк карэктуру трылогіі, і зноў нагадалі пра сябе нявысветленага паходжання радкі. І раптам пашчасціла! Я купіў рэшткі некалі добрай бібліятэкі. Вандруючы сярод гэтага кніжнага могільніку, адкладаў ужо зусім непрыдатнае для карыстання і, перад тым як кінуць у печ, праглядаў. Тут і знайшоўся патрэбны верш, і прытым цалкам. Другое дзіва, калі не большае: ён належаў пяру вядомага ў свой час філосафа-багаслова Ул. С. Салаўёва.

Узрадаваўся знаходцы і Канстанцін Міхайлавіч. Патрымаў у руках кнігу — гэта былі «Бюллетени литературы и жизни» за 1913 год. Пасля прачытаў уголас верш.

### СОВРЕМЕННОЕ ВОСПОМИНАНИЕ

Израиля ведя стезей чудесной,
Господь за раз два дива сотворил:
Отверз уста ослице бессловесной
И говорить пророку запретил.
Далекое грядущее таилось
В сих чудесах первоначальных дней,
И ныне казнь Моаба совершилась,
Увы! над бедной родиной моей.
Гонима, Русь, ты беспощадным роком,
Хотя за грех иной, чем Билеам,
Заграждены уста твоим пророкам,
И слово вольное дано твоим ослам.

Чытачу, асабліва маладзейшага веку, напэўна, будуць нялішнімі некаторыя растлумачэнні, дадзеныя Канстанцінам Міхайлавічам і ўдакладненыя па першакрыніцах.

Паводле падання, месапатамскі прарок Валаам (Білеам у іншым напісанні) быў закліканы Валакам, царом дзяржавы Мааў (Мааб) на параду, як

уратавацца ад ізраільскага войска. Па дарозе ў маавіцкую сталіцу Дзібон асліца, на якой прарок трэсся верхам, увесь час спынялася. Не разумеючы, у чым справа, Валаам паракаў на ўвайшоўшую ў прымаўку ўпартасць свае цягавітай жывёліны і сіліўся перамагчы яе ляноту з дапамогай гарапніка. Тады асліца загаварыла: «Што я зрабіла табе, за што ты б'еш мяне?»

Прарок пачаў церці вочы ад здзіўлення і нібыта ўбачыў анёла, які заступаў яму дарогу. Пасля аднаведнай кансультацыі з даверанай асобай бога, відавочна зацікаўленага ў перамозе ізраільцян, Валаам рушыў далей, але адхіліўся ад атрыманых інструкцый. Ён параіў Валаку паслаць у варожае войска прыгожых жанчын і спакусіць заваёўнікаў.

Ці трэба казаць, што багі не могуць цярпець, калі іх не слухаюць, страшэнна гневаюцца і пасылаюць на неслухаў кары. Так і здарылася: Дзібон быў разбураны ўшчэнт, Валаам загінуў у часе аблогі горада, спакушаных ізраільскіх воінаў вынішчылі разам са спакушальніцамі, а 32 тысячы захопленых маавіцянак разлесавалі паміж пераможцамі на тыдзень, як гаворыцца ў пісанні, для ачышчэння *.

З боку ведання старажытнай міфалогіі аўтарства верша не выклікала ніякіх сумняванняў. Але апошнія радкі яго як быццам не насавалі ні да пераконанняў, ні да кірунку разваг гэтага прапаведніка тэасофіі.

— Відаць, усё не так проста, як здаецца,— заўважыў Канстанцін Міхайлавіч.— Па-мойму, у гэтага пісьменніка былі пэўныя сутыкненні з царскім урадам. І пра герб імперыі ён не зусім лагодна казаў, нешта накшталт «Орел двуглавый сокрушен».

Колас меў на ўвазе выпадак, калі Ул. Салаўёў, як расказваў стары даведнік, «...пасля адной публічнай прамовы быў змушаны назаўсёды адмовіцца ад прафесарскай дзейнасці»* Аб'ектыўны сэнс прамовы яго 28 сакавіка 1881 года — заклік «дараваць віну» ўдзельнікам забойства Аляксандра II. Вось што пісаў прамоўца да наступніка забітага самаўладцы:

«Милуя врагов своей власти вопреки всем естественным чувствам человеческого сердца, всем расчетам і соображениям земной мудрости, Царь станет

на высоту сверхчеловеческую и самим делом покажет божественное значение Царской власти...»*

Адкуль, калі і як мог трапіць верш з асабістай перапіскі сталічнага сцвярджальніка найвышэйшай сілы да палескага настаўніка? Памяць Горкага (у «Жыцці Кліма Самгіна») і памяць Коласа (у трылогіі) заўсёды прыводзяць нас да канкрэтных крыніц, скажам, у дачыненні да карыкатур на «самадзержца», пра якія згадваецца ў абодвух творах. Значыць, можна меркаваць, што і ў гэтым выпадку такія крыніцы былі.

Самая ранняя з вядомых нам публікацый верша, аб якім ідзе гаворка, адносіцца да 1913*, а самая апошняя — да 1923 года*. Тым часам Якуб Колас прыводзіць чатыры радкі, зусім дакладна прымацоўваючы іх да ўрадавых рэпрэсій 1906 года. На наступнай старонцы трылогіі даецца зусім выразная характарыстыка Мяшчэрскага, рэакцыйнага журналіста, выдаўца газеты-часопіса «Гражданин». Яшчэ раней Лабановіч, перад першай сустрэчай з Вольгай Віктараўнай, чытае гэтае выданнейка і шпурляе яго ў куток са смачным слоўцам «паскудства».

Відаць, моцна такі ўелася ў косці герою — а больш яго́наму прататыпу — «казённая трухляціна», якою начыняліся мазгі спярша выхаванцаў настаўніцкай семінарыі, і ў далейшым маладых педагогаў. Крайнім увасабленнем «трухляціны», поруч з творамі Філарэта, для іх з'яўлялася і пісаніна князя Мяшчэрскага.

На жаль, у свой час мне быў невядомы працяг салаўёўскага верша, трэба думаць, пазнейшага паходжання:

Каюсь, древняя ослица,
Я тебя обидел дерзко,
Ведь меж нашими ослами
Говорит и князь Мещерский.

Звужаючы да пэўнай ступені абагульненне, гэтыя радкі затое даюць адрас і расшыфроўку. Зусім нездарма Колас успамінае аслоў, каму дадзена «вольнае слова», і зараз жа спяшаецца напісаць ненавіснае яму прозвішча рэакцыйнага цемрашала

Мяшчэрскага! Гэта дазваляе меркаваць, што пісьменнік ведаў не толькі верш, а і каму ён прысвечаны.

Аб сваім настаўніцтве Канстанцін Міхайлавіч расказаў найменш, справядліва мяркуючы, што падзеі яго тагачаснага жыцця з большай ці меншай дакладнасцю адлюстраваліся ў лёсе літаратурнага героя.

Маёй цікавасці давялося здаволіцца некалькімі заўвагамі:

— Адно магу сказаць: узяў радкі не з кнігі. Іначай бы я іх дакладна запомніў. А то ж ёсць разыходжанні. Але няхай застанецца, як у мяне запісана. Нехта паправіў, перадаючы з рук у рукі. І някепска, як мне здаецца. А добра разважыўшы, падчапіць «валаамаву асліцу» я мог у Пецярбургу. Я туды ўжо зволены са школы ездзіў.

Гэта паездка абыдзена маўчаннем і ў аўтабіяграфіі і ў аўтабіяграфічных лістах. Нічога не ўспамянуў пра яе Канстанцін Міхайлавіч і пад час пасляваеннага гасцявання ў ленінградскіх пісьменнікаў.

Хіба што магла б расказаць аб той вандроўцы А. Г. Рамановіч (Зотава) — спадарожніца Канстанціна Міхайлавіча. Добры знаёмы Якуба Коласа, 83-гадовы пенсіянер І. К. Касяк, які скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю і з 1899 года настаўнічаў у Ландварове, а зараз жыве ў Вільнюсе, успамінае аб многіх цікавых сустрэчах. Гэтыя ўспаміны, патрабуючы, бясспрэчна, дакументальнага пацверджання, заслугоўваюць быць прынятымі пад увагу пры распрацоўцы поўнай біяграфіі Я. Коласа.

І. К. Касяк занатоўвае, нібыта Колас пражыў цэлы тыдзень у Вільні ў снежні 1905 года як дэлегат настаўніцкага з'езда, што адбываўся ў памяшканні чыгуначнага гуртка на цяперашняй вуліцы Камунараў. Ад гэтага часу і пачынаецца іх знаёмства. Больш таго, І. Касяк мяркуе, што віленскі з'езд здаволіў не ўсіх прысутных, і частка іх пазней зрабіла спробу ў Мікалаеўшчыне арганізаваць беларускі настаўніцкі саюз. Гэтая акалічнасць, уласна кажучы,

і выклікала спачатку павышаную цікавасць улад, а затым і праследаванні Коласа.

Такім чынам, паездка Коласа ў Пецярбург, ды яшчэ разам з А. Г. Зотавай, якая, паводле слоў І. Касяка, была сакратаром віленскага настаўніцкага з'езда, пачынае набываць новае асвятленне. Не турысцкае падарожжа, як відаць, вабіла зволенага з пасады настаўніка, не было ў яго для гэтага магчымасцей, ён жыў, туляючыся ад паліцыі.

Колас мог і павінен быў шукаць сувязей і грамадскай падтрымкі свайму пачынанню і, натуральна, шукаў іх сярод перадавога асяроддзя, у горадзе з вялікім пад'ёмам рэвалюцыйнага руху.

Гэта, вядома, яшчэ не знаходка, нават не крок да яе. Але расказанае тут можа стаць пунктам, ад якога пачнуцца пошукі сведак і дакументаў.

# ТРОХІ ГІСТОРЫІ

*Восень на Случчыне. Бандыты і сахарын. Мар'я Чарот. Героі аповесці «У палескай глушы» ў гасцях у чырвонаслабодскіх вучняў. Колас ратуе на экзамене. Мінскі педагагічны тэхнікум. Настаўнік методыкі мовы. Дзявочы луг. Колас і Надзейка. «Белавежская пушча». Ці ўсе грахі можна дараваць?*



— За маімі «Ростанямі»,— сказаў аднойчы Канстанцін Міхайлавіч,— ты, мусіць, пакідаеш усю сваю работу на ростанях. Можа, я сам дачытаю да канца рукапіс, а ты вазьміся за новую кніжку.

Добрая ўвага чутна ў яго словах, і ўжо толькі праз адно гэта я не мог бы кінуць пачатай справы ў палавіне, хоць ён у нейкай меры і не памыляецца. Але над трылогіяй працавалася з асаблівым захапленнем яшчэ і таму... І мімаволі давялося расказаць, як ён сваёю першай аповесцю дапамог стаць на дарогу...

...Восень у Чырвонай Слабадзе. Гэта новае імя даўнейшага мястэчка Вызна. Даволі шырокая пясчаная дарога, дзе вазы праязджаюць з рызыкай зачэрпаць у ступіцы пяску, лічыцца галоўнай вуліцай. Пасярэдзіне паселішча яна перакідаецца ў звычайную палескую грэблю: проста ў балота нагачана яловага галля.

Асабліва гразка на ўчастку ад будынка былога валаснога праўлення, цяпер сямігадовай школы, да рыначнага пляца. Там, на ўзгорку, вакол царквы, раскіданы дамочкі з урэзанымі ў пярэднія сцяне дзвярыма, узятымі на жалезную завалу. Гэта дробныя крамкі. Яны толькі-толькі пачынаюць аджываць і даволі бойка гандлююць няхітрымі таварамі першай пары нэпа. На адной паліцы суседзяць шэрае,

цяжкое, як гліна, мыла, карамель са смакам крухмалу, у якой вязнуць зубы, бляшаначкі ваксы з бліскучым ботам на этыкетцы і наша вучнёўская спакуса — благенькія танныя папяросы.

Пасля Слуцка, дзе я пачынаў вучыцца, сумнавата. Адчуваецца блізкасць мяжы: яна праходзіць недзе кіламетраў за дзесяць, каля вёскі Рожан.

Ходзяць чуткі, што ў глушэйшыя сёлы заскакваюць падхарчаваныя за мяжой бандыты. Іх называюць «балахоўцамі», па прозвішчы Булак-Балаховіча, што не вельмі даўно тужыўся скалаціць нейкае «беларускае войска».

Пацярпеўшыя ад бандаў сяляне, а найбольш яўрэі, у адзін голас клічуць «бацьку» і яго чалядніkaў сабакамі. «Бацька» калупаў вершыкі, у якіх не толькі прызнаваўся ў прыналежнасці да названага віду жывёл, а называў гаспадара, каму служыў за костку. Праўда, аб гэтым я дазнаўся ў сярэдзіне 30-х гадоў, калі Балаховіч, апаршывеўшы на скупых харчах польскай разведкі, пацягнуў носам, і, унюхаўшы магчымасць парабаваць, рынуўся ў Іспанію на дапамогу франкістам. Пазней трапілі ў рукі і дзесяткі тры кульгавых, дрэнна зрыфмаваных радкоў бандыцкага піїта пад назвай «Белавежская тыгра».

Гэтыя «паэтычныя» практыкаванні, густа патыхаўшыя здрадніцтвам і крывёй, выклікалі Коласа на даўгую і рэзкую размову. Але аб ёй успамянецца ў свой час...

У тыя далёкія гады, куды мы адышліся ва ўспамінах, пагранічнікі, а іх ці мала стаяла ў самой Чырвонай Слабадзе і поблізу, амаль штодня сутыкаліся з ворагам. Нам, вучням, цяжка было даць веры, што вось гэтыя чырванашчокія юнакі, якія так хвацка танцавалі «польку» і «падэспань» на мястэчковых вечарынках, бесклапотна жартавалі і прыўдара́лі за старшакласніцамі, цераз гадзіну ішлі на пасты, арганізоўвалі пагоні, лавілі перабежчыкаў, затрымлівалі кантрабандыстаў.

Расказвалі, нібыта адзін з пераносчыкаў замежнай крамніны, прыпёрты ў непрабіўное кола прымежнай вартаю, заскочыў у вёску і, каб схаваць «рэчавыя доказы», высыпаў у калодзеж фунтаў з

дзесяць сахарыны. І нібыта ўсе сяляне цэлы месяц дармова пілі добра засалоджаны чай...

І яшчэ расказвалі, ды ці варта ўспамінаць усё!.. Але гэтыя апавяданні крыху разнастаілі даўгія і цёмныя вечары, што марудна плылі над мястэчкам.

Прагныя да чытання, мы былі змушаны па дзесяць разоў брацца за адно і тое. Кніг неставала, беларускія траляліся мала калі, знаёміцца з імі можна было хіба што назіркам. Мой аднакласнік, адзін з першых чырвонаслабодскіх камсамольцаў, старэйшы і больш паважны сярод нас, на просьбы дзяўчат: «Пракоп Раманавіч, дайце што-небудзь пачытаць!» — смехам адказваў: «Добра, я вам Рамана, свайго бацьку прынясу».

З падручнікамі было яшчэ горш. «Геаграфіяй Беларусі» і «Гісторыяй беларускай літаратуры» ўладаў толькі наш настаўнік. Ён выкладаў павольна, і мы слова ў слова запісвалі ў сшыткі. Перад сканчэннем школы цераз старэйшага брата разжыўся на тыя самыя кніжкі і я. Гэта было сапраўднае свята для ўсяго класа, ці, як тады казалі, групы.

Са слуцкіх настаўніцкіх курсаў, дзе выкладаў, як вядома, і Якуб Колас, наш настаўнік прывёз два віленскія выданні: «Вянок» Максіма Багдановіча і «У палескай глушы».

Трохі пазней мы пазнаёміліся з «Веснаходам». У кнізе быў партрэт Міхася Чарота. Тонкае прыгожае аблічча ў пышных кудзерах і ў дадатак некалькі хораша напісаных апавяданняў пра жанчын збілі школьнікаў з панталыку. Мы сур'ёзна думалі і даводзілі, што аўтар «Веснахода» — жанчына, нават называлі самімі ж прыдуманае імя — Мар'я Чарот.

Прачытаць прывезеныя нашым настаўнікам кнігі паасобку мы, зразумела, не маглі. Цераз тыдзень ад іх засталіся б шкуматы. Як мог пайсці на гэта ўласнік такога каштоўнага скарбу! На Коласавай аповесці быў даравальны надпіс, зроблены ўласнай рукою аўтара.

Пасля ўрокаў мы беглі абедаць, хапаючыся рыхтавалі зададзенае на заўтра і вярталіся ў школу. Запальвалі лямпу-васьмілінейку (на газу загадзя скадаліся), выбіралі чарговага чытальніка і сціхваліся.

Абраннік, трымаючы ў руках кнігу, да якой датыкаўся «сам Колас», займаў настаўніцкае месца і аж свяціўся ад радасці, робячыся адразу паважным і нязвыкла ўрачыстым.

Цішыня. Не дай божа каму-небудзь рыпнуць лаўкаю ці кашлянуць!

Летуценна мяккія выразы на тварах у хлопцаў, асабліва глыбокія навільгатнеўшыя вочы дзяўчат.

Ператварыўся ў зрок і ў слых нават лепаваты сын мясцовага ветэрынара, падлетак, які часта драмаў на лекцыях. Яго будзіў шустры, задзірлівы вучань з мянушкаю «Белка», падколваючы іголкайшаршаткаю ззаду. Ад болю і нечаканасці соня імгненна ўзвіваўся ўгару з шумам і грукатам, ледзь не зрываючы з завесак адкіднае века парты. Бедака так знявериў гэтай шаршаткаю, што, каб выклікаць дзівосны падскок і спадарожнае яму выдаленне «за дзверы», даволі было лёгка даткнуцца алоўкам да нагавіц засоні.

Зараз і жорсткі жартаўнік і цюхцеяваты паджартоўны сядзяць, падпёршы далонямі падбароддзе, і слухаюць...

Першы малады роздум, першае юнацкае засмучэнне авалодваюць намі...

...Ядвіся крадзецца на пальчыках, каб забраць сваю неасцярожную пісульку з настаўнікавай кнігі... На парозе Лабановіч... І пачынаецца тая гарэзлівая — ад узаемнага збянтэжання, трагічная — ад усведамлення цяжкасці лёсу, светлая — ад нахлынуўшага пачуцця размова, што скончылася раптоўным пацалункам і зрабіла Лабановіча шчаслівым...

Усё гэта перажываем і мы, прымяраючы прачытанае да сябе, думаючы кожны пра дзяўчо, якое пачынала здавацца любым, мяркуючы, а ці падобна хоць крышачку яна да Ядвісі.

Праз некаторы час мы весела смяёмся.

...Драўляная царквачка... Штурхаюцца і наступаюць адзін аднаму на ногі палешукі, падыходзячы да прычасця. Увальваецца мокры Мікіта, лаецца з папом і паварочваецца да яго спінаю, а той вяртае дзядзьку назад, перапрошвае, прычашчае і даверальна пытаецца не як строгі выканаўца абраду, а як рыбак у рыбака: «Ці злавіў жа хоць рыбы?»

Мы гатовы былі праседзець ноч навылёт, каб не выводзіў з салодкага захаплення загадчык школы, напамінаючы, што заўтра на занятках «будзеце кляваць носам».

Моцна абавязаны я гэтаму чытанню! У жніўні 1924 года дзвесце дзяўчат і хлопцаў, у тым ліку і я, штурмавалі дзверы ў навуку, здавалі экзамен у адну з нешматлікіх тады навучальных устаноў сталіцы — педагагічны тэхнікум. Для пісьмовай работы нам прапанавалі некалькі тэм. Уздыхнулася лягчэй, сярод іх стаяла добра знаёмая «Вобраз Лабановіча»...

Паглыбіўшыся ў пісанне, а націскаць трэба было на ўсе застаўкі (пяць асоб прэтэндавала на адно месца), я не адразу пачуў настойлівы шэпт і, нарэшце, даволі моцны штурханец у бок.

— Глянь адно! — падміргнуў Янка, таксама выпускнік чырвонаслабодскай сямігодкі.

За настаўніцкім столікам сядзеў ужо іншы чалавек, не той, што даваў нам тэмы. У руках у яго быў нумар «Савецкай Беларусі».

Не паспеў я ізноў унурыцца ў паперу, як шэпт паўтарыўся.

— Колас! Мне старыя студэнты паказалі...

Відаць, бліжэй за ўсё перадае той воблік, што захавала памяць ад першага позірку, партрэт у раннім выданні «Сымона-музыкі». Худое, крыху хваравітае аблічча, сакратаўскі лоб, павялічаны дужаватаю на яго ўзрост лысінай, цёмныя пышнаватыя вусы і невялічкі шматок барады — эспаньёлка, быццам прылепленая пад ніжняй губою. Здавалася, далёкі, ад нашых трывог і хваляванняў, ён нічога не заўважаў, апрача аркуша друкаванай паперы перад сабою. Што Колас працуе ў тэхнікуме, мы не ведалі. Ці не заклікаль ён сюды ў якасці найвышэйшага кантролю над намі і над экзаменатарамі? Што ж будзе? Возьме ўсе гэтыя работы, зганіць і ўсіх чыста «паржа».

З галавы даастатку выдзьмулася ўсё, што меўся напісаць. Ад стараннасці змакрэлі рукі, я стаўляў кляксы, бясконца крэсліў, быў блізкі да плачу. І ўжо

глядзеў не ў сшытак, а толькі на яго, быццам просячы літасці.

І злітаванне прыйшло. Колас адклаў газету, устаў, зірнуў на панадворак цераз адчыненае акно і зрабіў да яго некалькі крокаў. Пасля прайшоўся паміж партамі.

— Толькі не трэба спяшацца! — пачуўся нягучны голас.— Добра падумайце, складзіце чарнавік. І ўважліва перапісвайце.

Чамусьці я адразу супакоіўся. За простым зваротам выразна прабівалася добразычлівасць і гучала яшчэ больш: «Не бойцеся, дзівакі! Я ж сам перажыў такую турботу, я ведаю, што творыцца ў вашай істоце. Зазірніце, калі хочаце, у кніжку: я нічога не бачу...»

Сам не ведаю як, з падглядам ці без падгляду, але работа напісалася добра, і толькі гэта адно паставіла маё прозвішча ў спіс прынятых, бо па матэматыцы я адказаў так дрэнна, што пачаў ужо збіраць клункі, каб вяртацца дамоў.

Канстанцін Міхайлавіч загаварыў. Ён жартліва ахалоджвае ўсхваляванасць юнацкай пары, што, раптоўна прыплыўшы, змушае на цікавыя, мусіць, толькі самому апавядальніку акалічнасці і падрабязнасці.

— А я і не ведаў, што ты, можна сказаць, ці не першы даследчык мае аповесці. Каюся, больш не буду сварыцца з такім заслужаным рэдактарам. Як гэта мы не пазнаёміліся тады? Ты ж ужо, напэўна, друкаваўся.

Запомніць усіх сваіх вучняў яму было не пад сілу. Раз ці два на год мы падыходзілі да класнага стала, і Колас стаўляў у заліковыя кніжкі «здавальняюча», амаль нічога не пытаючыся. Нам толькі здавалася, што ён помніць і ведае ўсіх, бо неяк пахатняму цёпла і прытульна было на яго лекцыях, быццам вёў іх не настаўнік, а калі не бацька, дык нехта вельмі прыветлівы са старэйшых сваякоў. Дый Канстанцін Міхайлавіч ахвотна замяняў лекцыі чытаннем толькі што напісаных твораў. Затое мы вучылі методыку мовы найбольш старанна, каб не

ашукаць і яго і саміх сябе. Ён ведаў гэта і таму падпісваў заліковыя кніжкі не вагаючыся, без асаблівага апытвання.

Я не мог забыцца пра літаратурны суд, на які студэнты прыцягнулі Лабановіча за яго грамадскія ўчынкі. Доўга тлела ў прыску памяці і яшчэ нешта, тады вельмі горкае...

Пасля аднаго са студэнцкіх спектакляў Колас прыйшоў у аўдыторыю і з парога запытаў:

— Хто гэта ўчора іграў хлопца? Хораша выходзіла... Як быццам сапраўды цалавацца не ўмее.

Усе галовы павярнуліся да мяне. Мае вушы загарэліся. Чырванець падстаў хапала. Акцёр, нават самадзейны, быў з мяне незайздросны. Да таго ж у пары са мною іграла дзяўчына. Хоць і часта я праводзіў яе дадому, але ніяк не асмельваўся на тое, што мусіў выканаць перад поўнай залай. Аднак выканаў калоцячыся, бо не спыніла дрыжыкаў і паўшклянка партвейну, які «для храбрасці» мне прынёс за кулісы Паўлюк Трус.

А Колас адразу пацэліў у балючае месца... Бунтавалася і самалюбства. Пасля пастаноўкі мы з хлопцамі чыталі вершы. На мой погляд, яны былі сама менш выдатнымі. І вось маеш! Колас зусім не прыкмеціў іх. Мусіць, хоча падкрэсліць, што пішу яшчэ бездапаможней, чым вымаўляю ролю са сцэны.

Гэта хваляванне магло быць зразумелым толькі самому. Таварышы прынялі Коласаву пахвалу як нешта належнае і віншавалі мяне. Ды ён і ў думках не трымаў пакрыўдзіць непаўналетняга вершапісца, хоць, мусіць, даволі насцярожана ставіўся да пачынаючых «зорак» праз неразумнае маладнякоўскае задзіранне са «старымі» і змушаны быў адбівацца кплівымі фельетонамі ў адрас задзірак. Рабіў гэта ў артыкулах і выступленнях і Цішка Гартны. Змітрок Бядуля ўратаваўся ад нападаў, перабраўшыся ў «Маладняк». А Янка Купала ўсе выбрыкі і нетактоўнасці пераходжваў моўчкі.

Коласу было нялёгка. Яго, прысутнага ў зале, не запрасілі ў прэзідыум першага з'езда «Маладняка». Прабавалі кампраметаваць, дакаралі «застарэласцю формы». А ён пісаў, выкладаў, выступаў, ведаючы, што працаю пераможа...

І цяпер жа не ведаюць спачынку гэтыя дужыя рукі. Ён выстаўляе іх супраць сонца, седзячы на балконе пры сваім кабінеце. Грэе... Пачынаюць ныць упачы...

Але не горыч перажытага ўладае ім цяпер. Выслухвае смешныя прыгоды з студэнцкага жыццябыцця, як мы ліквідавалі непісьменнасць у чырвонаармейскіх часцях, як хлопцы рабілі паходы на «Юраўку», так скарочана іменаваўся дзявочы інтэрнат на Юраўскай вуліцы, прыгадвае тое-сёе сам і заўважае:

— Па-моіму, дзяўчат вучылася там болей, чым хлопцаў. Цэлая касыпачнае царства... І што ж далей?

Мімаволі ён выкрывае сябе. Можа і не так хочацца яму слухаць, як добра ўспамінаць тую, здавалася б, недалёкую пару, тую прысадзістую двухпавярховую тэхнікумскую камяпічку, што з дасвецця, у перапынках паміж двума званкамі, гула, рагатала, спрачалася. І раптоўна аціхала: рукі хапаліся за канспекты — пабольш запомніць, пабольш прыгарнуць у думкі. А вечарамі ў парадзеўшых аўдыторыях чыталі, малявалі, рыхтавалі насценныя і вусныя газеты, пісалі вершы.

Тут былі найлепшыя — на студэнцкі ўзровень, быць пэўна! — знаўцы гісторыі, матэматыкі, педагогікі і, перш за ўсё, літаратуры, дакладней сказаць, паэзіі. Яны ведалі на памяць не толькі Купалу, Коласа і Багдановіча, не толькі тых, што перад імі праторвалі дарогу ў беларускае слова, а і ўсіх, хто сёння гаварыў на поўную сілу, як Чарот і Крапіва, не мінаючы ўвагаю пачаткоўцаў, падымаўшых голас у гэтых жа мілых сценах. Моладзь прыхільна ставілася да «сваіх» паэтаў і, хоць смяялася, знаходзячы падабенства іх мудрагельных радкоў да высмеянага Коласам у фельетоне «Трыумф», «п'яны вецер носам клёвае, а з стрэх віснуць смаркачы», але ў нейкай меры і ганарылася, калі ў свежым нумары часопіса з'яўляўся твор «нашага». Бо «наш» разам еў нішчымнаватую кашу ў надвальнай сталоўцы, жыў у цесным пакоі агульнага памяшкання, выбіраў бульбу на прыгараднай тэхнікумскай ферме, даваў практычныя лекцыі ў паказальнай школе.

І паэтам было лёгка расці, і выскаквалі яны, сапраўды, як грыбы ў цёплую восень. Можна без памылкі сказаць: кожны пяты студэнт нешта пісаў; прынамсі, так было на маім курсе. Пісалі дзяўчаты і хлопцы: драмы і апавяданні, моваэнаўчыя даследы і юнкораўскія допісы. Іншая справа, што не з усіх шматлікіх намаганняў выраслі паэтычныя імёны, такія добрыя, як Трус. Пачыналі пісаць прыкладна на адным узроўні, і першыя вершы цяперашняга акадэміка, а тады дваццацігадовага студэнта з немалым папярэднім стажам работы ў сельсавеце, друкаваліся з дадаткам «піянер» да прозвішча. Гэта, вядома, было больш абумоўлена характарам часопіса, чым якасцю твораў, а яны, напэўна, не на шмат перасягалі зрыфмаваныя радкі сапраўдных піянераў.

Не ўсе пачаткоўцы, тэхнікумскія і маладнякоўскія, сталі пісьменнікамі. Але затое колькі Коласавых вучняў выйшла на заслужаных і незаслужаных, тым не менш добрых настаўнікаў, дырэктараў школ і інстытутаў, загадчыкаў кафедраў, колькі іх працуе на адказных дзяржаўных пасадах!

І Коласу было радасна сярод гэтай неспакойнай, поўнай зразумелага задзёру і не да канца ўсвядомленых імкненняў маладое паводкі. Моладзі ўжо не пагражаў лёс ягонага малога музыкі. Вырваўшыся «на прасторы жыцця», яна па-гаспадарску бралася за работу, сцвярджала сябе ў вобразах шматлікіх Сцёпак і Алёнак.

Там жа ў тэхнікуме, на рабфаку, ва універсітэце браў ён у новага, паднятага савецкім ладам пакалення рысы для сваіх новых герояў.

Успамінаць добрым словам тыя гады ў Канстанціна Міхайлавіча было многа прычын.

І сярод іх адна...

Яна матэрыялізавалася ў абліччы такое тонкае, што, не прасвечвай на ім далікатны румянец, глядзеў бы не даючы веры: а ці не ажыло яно, высечанае некім са старажытных з найбялейшага каменю, і прыстыла да таксама дастойнай разца, зграбнай, як вытачанай, постаці. Калі, бывала, разыдзец-

ца дзяўчына ў танцах, рабілася страшнавата: пераломіцца!

Мы звалі яе, скажам, Надзейка, а трэба было зваць іменем якой хочаш з міфалагічных красунь, каго называюць багінямі і каго вывеў чалавечы геній і небыцця, адабраў у так званых нябёс, каб абвясціць вечнымі ўзорамі земнага хараства. Аднак, хоць і прасілася на язык, але менш за ўсё пасавала да яе параўнанне з мадоннай. Хіба што з багдановічаўскай, той, што адчулася паэту ў вясковай дзяўчынцы, поўнай «шырокаю радзімаю красою». Праўда, следам за палясоўшчыкам Тарасам мы гаварылі пра сваю таварышку:

Узяўшы хустачку, Венера
Пайшла «мяцеліцу» скакаць.

Так і думалася. Каб Венера магла ўплесці ў валасы ясны каснічок, прыбрацца ў каляровы андарак, дык і закружылася б у завейным канцэрце студэнцкай самадзейнасці, акурат як наша Надзейка.

Але, трапіўшы на Парнас, дзядзька відавочна абеларушваў багіню і, дагаджаючы свайму палескаму густу, іранічна смакаваў іншыя падрабязнасці яе хараства:

Чырвона, тоўста, кругларыца,
І вочы, як на калясе.

Гэта не падыходзіла да нашай сяброўкі і рашуча адкідалася.

Вочы ў Надзейкі былі вясёлыя і ў аправе валасоў, бліскучых, нібы перавітых залацістым праменнем, сінелі, як сапраўдныя валошкі на ўскрайку залітае сонцам наспелай нівы. Дый усмешкі на капрызныя і без падмалёўкі яркія губкі было не пазычаць дзяўчыне. А з акрас і ўбораў мела яна ўсяго рудзенькі паўкажушак і чырвоную хустачку. Так хадзілі амаль усе.

І цяжка было не загубіцца сярод неагляднага кветніка тэхнікумскіх дзяўчат, хутчэй не кветніка, бо не траплялася там надзіманых руж і пышных півонь, а прырэчнага лугу, дзе з затонаў выглядаюць белыя гарлачыкі, а ў мураве шчодра рассыпаны

рамонкі, званочкі і «ганначкі», як гаворадь на дзікія браткі. Але паміж усяго гэтага вясновага паўнаквецця Ганначак, Алесек, Марылек і Волечак, такіх самых харошых рагатух, спявачак, танцорак да самазабыцця, адну яе, дзяўчыну крыху «ўзвей-вецер», адшукала і вылучыла Коласава вока.

Тут не можа быць і гаворкі аб нейкім запозненым памкненні сталага чалавека пабегчы наўздагон за маладой радасцю, што абмінула яго ў свой час, а зараз зноў мільгнула на даляглядзе. Гэта было любаванне, захапленне — здалёк! — харaством і дасканаласцю формаў, у якія, гады ў рады, адліваецца жывая істота. Таму ўсё абышлося без патайных сустрэч, любоўнага ліставання, без сарамлівага абмінання адзін аднаго на людзях.

Канстанцін Міхайлавіч затрымліваў яе пагаварыць на калідоры, жартаваў на лекцыях, а больш за ўсё размаўляў у вестыбюлі, дзе яна часцяком пакручвалася перад люстэркам, можа і назнарок падпільноўваючы, калі пачнуць разыходзіцца настаўнікі.

Усе ведалі гэта і, галоўнае, бачылі. Падабаецца? Так, падабаецца. Але ж тут і блізка не патыхала ні таным заляцаннем, ні благім «раманам» вучаніцы з настаўнікам. Таму і ўсе ўспаміны яшчэ даражэйшыя.

Аблічча Канстанціна Міхайлавіча святлее.

— А Надзейку помніш? — і называе прозвішча. — Я многа думаў пра яе. І цяпер бачу... А не напісалася ніводнага радка. Вось, каб умеў, намаляваў бы.

Ён гаворыць, як несправядліва і крыўдна абыходзіцца час з найлепшымі тварэннямі прыроды. Хараство — мімалётнае, не замацуй яго на палатне ці ў радках — знікне без следу...

Аднойчы трапілі мне на вочы апублікаваныя за рубяжом, ледзь-ледзь змацаваныя рыфмаі радкі. Яны і блізка не стаялі да верша, і калі цікавыя, дык толькі тым, што выйшлі з-пад пяра Булак-Балаховіча.

Як? Балаховіч і вершы? Балаховіч жа збіраў у

свой час нацыяналістычнае «беларускае» войска, вадзіў бандыцкія шайкі на Палессі, значачы шляхі пагромамі, пажарамі і экзекуцыямі.

Так, так, усё правільна, тым не менш...

Дададзім яшчэ крыху з біяграфіі: сам сябе назваў генералам, потым адседжваўся за мяжой, яго прыграваў і падкармліваў Пілсудскі.

Варушыць бандыцкую вершатворчасць — занятак не дужа прыемны. Але найлепшыя выкрываўчыя пёры праз сотні памфлетаў наўрад ці выхапілі б з цемры забыцця і паказалі б так ёмка, на ўвесь плюгавы рост, крывавай няслаўы ваяку Булак-Балаховіча, чым зрабіў гэта ён сам ва ўласнаручна накрэмзаных, ліслівых і ў той жа час запененых ад прыглушанай лютасці, радках. Зараз яны, апрача смеху, нічога не выклікаюць: зубы — выбіты і заціснуты ў жмені — злосць бяссільная. А чытаць — і дасюль прыкра. І мы ніколі б не браліся за такую работу, каб не меркаванні Коласа, выказаныя з гэтай дый яшчэ з адной прычыны, аб чым — у свой час.

Набяромся цярплівасці і пройдзем па гэтым, не пазбаўленым цікавасці жыццёпісе з вельмі выразнай палітычнай афарбоўкай і малаграматнай назвай «Белавежская тыгра».

Сябе самога цаню я ў меру,
Кажу ад сэрца: не тыгр, не рысь,
Я больш падобны сабацы вернай,
Што называюць Шарак ці Брысь.

Другім сабакам — другая доля:
Як пан абедаць — ім кіне штосьці.
Аб іх заслугах пісалі многа,
На іх глядзелі з-за мора госці.

Як можна болей сабакаў трэба,
Падобных Брысю, пры боку мець,
Не біць, не лаяць, а даць ім хлеба,
Слабых бо зломіць стары Мядзведзь.

Напісана, як заўсёды ў графаманаў, многа і доўга. Было б марнатраўствам падаваць усю пісаніну цалкам. І з прыведзенага відаць, што намеры і «майстэрства» аўтара не выклікаюць дзвюх думак...

Перабіраючы камплекты старых часопісаў* у бібліятэцы Літоўскай Акадэміі навук, я знайшоў гэты перл і спецыяльна перапісаў для Канстанціна Міхайлавіча. Успомніліся яго апавяданні «Балаховец» і «Адзін», здавалася, што знаходка павінна быць яму цікавая. Сапраўды, тры ці чатыры вечары Колас гаварыў пеўпыняючыся, з пязвыклай гарачнасцю. Як замілавана глядзеў ён тады ў наш дзень! Яго трэсла нават пры ўспаміне аб вялікіх і малых праявах здрады; ён ніяк не мог, не хацеў дараваць хоць бы выпадковага сыходу з шляхоў, у бок ад народа.

— «Правадыр», дый не абы-які, а «незалежнага беларускага воінства»! — Канстанцін Міхайлавіч раздражнёна прайшоў па пакоі.— І, не чырванеючы, прызнаецца, што ён цюцька. І гатовы каму хочаш перарваць горла за скарынку, кінутую з падваротні чужой дзяржавы. Праўда, «свае» дзяржавы, такой, як яму хацелася, не было. І быць не магло. Беларус дружна прагаласаваў за саветы.

Колас трымае старонку школьнага сшытка з перапісанай там «Белавежскаю тыграю» двума пальцамі, за самы ражок, і так асцярожна, нібыта гэта калі не футра ўсурыйскага драпежніка, дык халодная скурка хатняй жывёліны, тая самая, у якую ўбіраўся аўтар, каб выгаўкаць свой верш.

— Споведзь, калі бандыт можа спавядацца. Ва ўсякім разе, размова, як кажуць, па шчырасці, зноў жа калі бандыт здольны на такую рэч. Крыніца яго «натхнення» цурчыць па паверхні. Перш за ўсё скарга на непавагу да былых «заслуг». Сабаку трэба карміць. І аб гэтым самазваны генерал вымушан нагадваць. Нават палохаць «старым мядзведзем», ад якога можа быць крута і сабаку і ўсім, каму ён служыць. Сабаку давалі есці да пары да часу, пакуль... Як там пішацца?

Канстанцін Міхайлавіч паднёс да вачэй акуляры і, не надзяваючы іх, прачытаў:

— «Авечак гнаў ён, да птушак краўся». Што ж гэта значыць? Дробныя вылазкі і наскокі на нашы сялібы. Гаспадарам заманулася большага. Сабаку абмалілі рацыён. Яму стала скрутна, захацелася паскавытаць. Але не на месяц, а на яснае панскае

аблічча. І цюцьку пацягнула па вершы. А можа, удасца расчуліць каго...

Канстанцін Міхайлавіч спыняецца, зноў падымае са стала старонку.

— Паўтарыў народнае слоўца: «сабака воўчае натуры». Гэта вельмі трапна прылеплена да яго пысы. Так гаварылі ўсюды, дзе людзі наспытваліся гора ад балахоўшчыны. І на Случчыне і на Мазыршчыне. Вёска ненавідзела гэтую набрыдзь страшэнна. Яна жыла няпісанай мараллю: ці балаховец, ці гадзюка — усё роўна. Сустрэў — забі: сем грахоў даруецца. Але банды сышлі наніц, «бацьку» не заставалася нічога іншага, як уцячы і цешыцца вершыкамі. І яны не засталіся, як і трэба было чакаць, без водгуку...

А наогул, параўнаннем з сабой пакрыўдзіў нягоднік, сабаку!

Нагадаўшы гэта, Колас пытаецца, ці помню верш, дзе пішацца, як стары сабака і хлопчык адкусвалі па чарзе кавалачкі ад акрайца, «ни капельки друг другом не погребав».

Думка развіваецца. У нашай паэзіі, хутчэй — у рыфмацтве 20-х гадоў табунамі ірзалі жарабяты, мэкалі авечкі, імчаліся ў санях коні, гаўкалі сабакі, блішчалі косы і плугі. Але худоба і сельскагаспадарчы інвентар і ў малой меры не належалі аўтарам так званых сялянскіх вершаў — бралі напракат у суседзяў. Тым часам імкненне да свайго ў паэзіі — адзіны перажытак уласніцтва, які трэба вітаць. У вершах буйнога паэта жывёла была жывая. У пераймальнікаў «меньшие братья» ператварыліся ў пудалы, літаратурныя даспехі, у сродкі пафарсіць, прыняць позу: ах-ах, бяда — конь саступае дарогу трактару...

Канстанцін Міхайлавіч стаіць каля стала і гучна, нібыта на вялікую аўдыторыю, гаворыць:

— Як ні абвяшчай тыя радкі грахамі маладосці, няспеласцю думкі,— праўда нашага жыцця кажа іншае. Праўда паэзіі пярэчыць, яна прыслухалася да хады трактара і ўбачыла постаць фабрычнага чалавека.

Ен зноў моўчкі ходзіць па пакоі.

— Што — выношу прысуд па часе? Ніхто і не збіраецца перасуджваць нікога. Мне проста трэба было гэта некалі сказаць уголас, не пакідаць праўды, высветленай напалавіну. Каб не выскачыла скула ў каго ў сэрцы. Дараваць грахі — гуманна, але прыкрываць усё лісцікам уседаравання — гэта па другі бок дабра...

# ТРЫВОЖНАЯ ЧАСІНА

*Адзнакі нядужасці. Дакторскі прысуд. Развітанне з домам і горадам. Хаты ляцяць у вырай. Цяжкая ноч. Уратоўчае апавяданне. Добры доктар Бобрык. Дома.*



Чытка рукапісу трылогіі была перапынена самым нечаканым чынам. Аднаго дня я прыкмеціў, што Канстанцін Міхайлавіч без звычайнай пільнасці гартае старонкі, а больш глядзіць у акно і непрыкметна прыкладае руку да правага боку.

— Нядужыцца, дзядзька Якуб?

— Нічога. Мне ўжо асаблівага здароўя чакаць не выпадае.

Праседзелі пры стале яшчэ з паўгадзіны. Тужачыся ўсміхнуцца, прамовіў:

— Прыйдзецца аднаму з нас змяніць паставу. Выбачай, я прылягу.

Ён перайшоў на канапку і, паклаўшы галаву на падушку, адразу прыплюшчыў вочы.

Крыху паляжаў так, перамогся:

— Сядай сюды бліжэй, будзем працягваць.

На прапанову выклікаць доктара запярэчыў:

— Як быццам я не ведаю, што ён скажа: ляжы, нічога не рабі. А ў мяне клопату многа. Паспею належацца. На чым мы спыніліся?

Давялося зрабіць выгляд, што мяне не турбуе яго стан. А можа так і лепей будзе... Кніга пераносіць у маладосць, абуджае ўспаміны. Разгаворыцца, а тым часам, магчыма, і мінецца слабасць.

Але ні прачытаныя ўголас малюнкі палескіх краявідаў, ні пераход на апошнія літаратурныя навіны рады не далі. Было відно, што Канстанцін Міхайлавіч увесь час перасільваецца. Ён ляжаў з

прыплюшчанымі вачыма: слухаў не слухаў, драмаў не драмаў.

Я паціху ўстаў, намерыўся сысці ўніз, папярэдзіць хатніх. На паўдарозе азірнуўся — ён глядзеў услед.

— Нікуды не хадзі... Мне, здаецца, палепшала.

Гэта быў не голас, а сухі хрыплаваты шэпт.

Зноў саджуся поруч і не магу ўтрымацца, каб не спытаць, хоць і ведаю, што ён не любіць распытванняў аб здароўі:

— Што ж вам баліць?

— Не разбяру... У баку смаліць... І гарачка, мусіць, ёсць...

На шчоках з'явіліся чырвоныя плямы, зрэнкі расшыраны, губы пасмяглі.

— Давай будзем лячыцца саматугам. У спальні недзе грэлка ляжыць. Мне ўжо дзён тры кепскавата. Але думаў — перахаджу. Трэба было гэты вечар адкрываць. Пачаў гаварыць, і ў вачах пацямнела.

Напярэдадні Канстанцін Міхайлавіч старшыняваў на пасяджэнні, прысвечаным ушанаванню памяці Арыстафана. Урачыстасць праводзілася згодна з пастановай Сусветнага камітэта прыхільнікаў міру. Колас, як старшыня рэспубліканскага камітэта, паабяцаў прысутнічаць, сказаць уступную прамову. І, вядома ж, не мог парушыць абяцання, бо не меў звычкі адступацца ад слова. Таму і не абазваўся, што хворы. Іначай дактары забаранілі б выходзіць, не пусцілі б.

Шнур грэлкі кароткі і не дастае да канапы, дзе ён ляжыць. Канстанцін Міхайлавіч перабіраецца на ложак і прыціскае да боку цяпло.

Гаварыць і нават шаптаць не можа. Вочы замгліліся пялёнкаю болю, моцна сціснутыя вусны здаюцца бледна-жоўтым рубчыкам, знакам, што застаецца ад сечанай раны.

Шукаю спосабу адысціся, каб усё ж пазваніць у клініку. Тады, папярэджваючы мае захады, ён расплюшчвае вочы і позіркам прывязвае да крэсла.

Нарэшце Канстанцін Міхайлавіч просіць прынесці знізу лякарства. І з жартам, хоць не лёгка яму гэта даецца:

— Нешта жывот у мяне цяжкі, як чыгун з бульбаю... Аж бакі распірае.

Робіцца яшчэ больш трывожна. Не гэтак даўно такія ж самыя паганыя прыступы пакацілі мяне на аперацыйны стол. Няўжо — апендыцыт? Тады лекаў, аб якіх ён гаворыць,— ні ў якім разе! І не цяпло трэба, а лёд...

Непрыкметна адключаю грэлку і адразу спяшаюся ўніз.

Умовіўшыся з Данілам Канстанцінавічам, што выкліканы доктар скажа, нібыта прыехаў сваім адумам, проста адведаць, вяртаюся да хворага.

— Папрасіў паслаць у аптэку, зараз прынясуць...

Дапытлівыя вочы падымаюцца і глядзяць не міргаючы:

— А раніцою пакецікі тры ляжала,— выкрывае мяне Канстанцін Міхайлавіч.— Няўжо ў нашай хаце англійскую соль у гаршкі сыплюць... Не забыўся ты мае навукі, што хворым можна маніць...

Вочы з дакорам заплюшчваюцца.

Тым часам па сходах затупала некалькі пар ног. На парозе спаленькі з'яўляецца магутнейшая дакторская брыгада. Прафесары Д. А. Маркаў і Б. І. Трусевіч і ўрач, які бываў тут на правах «хатняга доктара», заўсёды вясёлы і бадзёры, хоць і сам цяжка хворы, выключнай спрактыкаванасці і светлай натуры чалавек С. О. Ліяранцэвіч.

Гэта здзівіла, а яшчэ больш напалохала Канстанціна Міхайлавіча. Яго пачало моцна калаціць, не пападаў зуб на зуб, расказаць пра балявыя адчуванні ён не мог.

Збянтэжыліся і дактары і ўсе, каму давялося быць пры ім у тыя цяжкія хвіліны. Аднак дыягназ быў пастаўлен хутка і рашэнне прынята безагаворачна: апендыцыт, неадкладнае шпіталізаванне.

Санітары, не зважаючы на энергічныя пратэсты: «Пайду сам», асцярожна палажылі яго на насілкі.

Вочы Канстанціна Міхайлавіча спыняюцца на партрэтах нябожчыкаў — жонкі і сына, на сціплай абстаноўцы свае спальні. Яшчэ адзін позірк на стол з недакончанай работай, кароткі наказ мне: «Дагледзь усё сам» — і насілкі ўжо на панадворку.

Машына хуткай дапамогі стаіць каля яго нага

вяза. Хвілінная затрымка, пібыта для таго, каб даць яму магчымасць зірнуць на садок, на ўлюбёную лаўку, як заўсёды рабіў ён перад дарогай.

Знакам паклікаў мяне ў машыну.

Рушылі.

— Дай мне руку.

З нечаканай сілай сціснуў пальцы і не адпусціў:

— Кажы, дзе мы едзем.

Вось яно што! Ён адчуў небяспеку і спяшаецца развітацца, хоча перадаць людзям поціск аслабеўшай, але ўсё яшчэ дужай бацькоўскай рукі. І хоча адчуць цеплыню зваротнага поціску.

Упершыню са страшнай выразнасцю ўявілася цяжкае і непазбежнае, тое, што ніколі не дапускалася ў думкі... Зараз, так раптоўна і бязглузда, мы можам страціць яго. А здавалася — людзям такога моцнага крою і заводу зносу няма, як будынкам са смалістых старадрэвін. І ён ведае ўсё, і рыхтуецца на адыход, але не можа пайсці, не акінуўшы, калі не вокам, дык хоць думкаю, малады горад, лепшую частку невымернае сілы і прыгажосці свае краіны, мілую вуліцу, па якой хадзіў і ездзіў штодня...

— Чаму ж ты маўчыш? — чуецца нецярплівае пытанне.

Зазіраю ў высокае акенца машыны. Прымушаючы голас не дрыжаць, называю кварталы і буйнейшыя будынкі на праспекце. Ён паўтарае ўслед:

— Павярнулі ад Дома друку... Пэўна, электрычнасць ужо запалілі... Шэры дзень сёння, а трэба, каб газеты заўтра былі. Што? Політэхнічны інстытут? І хлопцы з дзяўчатамі выходзяць з брамы... Маладая пара ўносіць прыёмнік у пад'езд...

І тут Колас ажыўляецца:

— Скажы Данілу, каб майстра паклікаў. Мой прыёмнік нешта пачаў бубніць...

Можа не да часу і недарэчы, але робіцца весялей. Ён дбае пра дом, хоча вярнуцца туды і слухаць ранічкаю, як прызвычаіўся за многа год, самыя першыя — шасцігадзінныя — «апошнія паведамленні»...

Так, так, дарагі дзядзька, дужы наш чалавек! Мацней супраціўляйся, думай пра жыццё, і пераадолеецца, сыдзе на сухі лес цёмная немарасць.

Гэтага я не магу сказаць, толькі думаю, адчуваючы, як саграваецца добрым спадзяваннем узнікшая думка.

І ён падмацоўвае маю надзею:

— А як там, хат не паменшала?

— Мусіць, паменшае зараз. На ўсім відаць, яшчэ дзве сабраліся ў вырай.

— Дзе ж гэта?

— Не даязджаючы фізкультурнага інстытута...

«Вырай» і «хаты» — ягоныя слоўцы, якія стасуюцца да рэштак старога драўлянага аднапавярховага Мінска. Наўрастаўшыя ў зямлю, з падслепаватымі вокнамі і ўгнутымі дахамі («быццам катова спіна, калі яго палашчыш», як казаў Колас), хаціны дажывалі век на праспекце, пяўхільна саступаючы месца прасторным карпусам.

Радуючыся, як дзіцёнак, Канстанцін Міхайлавіч сачыў за знікненнем мізэрных будыначкаў на працягу вуліцы ад Акадэміі навук да Камароўкі, дзе цяпер плошча яго імені. Спачатку ён налічваў там 71 хату, потым 49, неўзабаве засталося 24.

Часта нашы сустрэчы пачыналіся з пытання:

— Лічыў?

Пра што ідзе гаворка, было зразумела. Калі я прызнаваўся, што сёння не пацікавіўся лёсам хацін, ён дабрадушліва кпіў:

— Абыякавасць да росту сталіцы. А я лічыў. Цэлых тры падаліся ў вырай. Вось як выходзіць: стаяла адна хата, значыць, жыла адна, ад сілы дзве сям'і. А новы дом заняў той самы пляц, але туды можна ўсёй Балачанцы перабрацца.

І зараз вестка аб тым, што дзве хаты падрыхтаваны да зносу, надвясельвае яго.

— Ты гэтай работы, покі буду хварэць, не пакідай, лічы...

Машыну страсянула, Канстанцін Міхайлавіч скрывіўся:

— Ці не на мост уз'ехалі?

Пачуўшы пацверджанне, загаварыў далей:

— І за рэчку трэба брацца... Заплыла фузам... От каб яго на поле... А чыстая ж была рачулка... Яшчэ калі жылі мы пры самым садзе з...

Заплюшчыў вочы, не назваў імені сваё сяброўкі...

У прыймовым пакоі медыцынскія сёстры пераапранаюць яго ў бальнічнае. Канстанцін Міхайлавіч перадае мне жоўценькую запісную кніжку.

— Каб не загубілася тут.

Цалуе сына, які падышоў у гэты час, падае руку мне:

— Прыйдзі да мяне заўтра.

Паволькна падымаюцца ў ліфце насілкі...

Мы чакаем у бальнічным калідорчыку. Хутка павінен адбыцца кансіліум.

Вечар. Кандрат Крапіва, Максім Танк, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка і я сабраліся ў Аркадзя Куляшова. Напярэдадні ён паклікаў нас паслухаць новую паэму.

— Можа адкладзём? — пытаецца Аркадзь.— Настрой не той.

Броўка расказвае, што першы кансіліум не прыняў канчатковага рашэння. Дыягназ пацверджаны: апендыцыт. Але аперацыя складаная, упушчаны час, а ў хворага слабое сэрца, высокі ціск. І, што ні кажы, гады...

Ноччу кансіліум збярэцца яшчэ раз пад старшынствам міністра аховы здароўя. Вынікі будуць дакладзены ўраду.

Весткі невясёлыя, але чытанне вырашаем не адкладаць. Паэма падабаецца і радуе нас усіх. Найбольш спакойныя і трывалыя з прысутных спрабуюць падагульваць уражанні. Але гаворка не разгортваецца ў поўную сілу. Увесь час падколвае прыгадка: а як там ён?

Броўка пазваніў у бальніцу і пайшоў высвятляць, ці не трэба яшчэ якая дапамога. Неўзабаве адыходжу і я.

Усё ў тым жа бальнічным калідорчыку сустракаемся з Данілам Канстанцінавічам. Вырашана рабіць аперацыю. Калі хворы згодзіцца, будуць выклікаць хірурга з Масквы. Аднаго з нас могуць прапусціць да Канстанціна Міхайлавіча. Што параіць яму? І як раіць, калі не маюць пэўнасці самі дактары?

Дзяжурны ўрач гаворыць, што хворы даў згоду.

І гэтае «хворы» замест звычайнага светлага імені неяк асабліва ўзрушвае і прыгнечвае.

— Зайдзіце да яго хто-небудзь,— кажа ўрач.

Выбіраем пасланца — нявестку. Вярнуўшыся, яна перадае:

— Канстанцін Міхайлавіч спакойны, боль аціхае. Пытаў пра ўнукаў, прасіў не турбавацца.

На досвітку па тэлефоне дазнаюся ў дзяжурным пакоі: аперацыю зрабіў, узяўшы ўсю адказнасць на сябе, лепшы наш хірург Мікалай Іванавіч Бобрык. Становішча хворага цяжкое.

Помнячы наказ Канстанціна Міхайлавіча прыйсці да яго, кіруюся ў бальніцу. Там доўга пераконваю, што пабачыцца мне канечне патрэбна, ён прасіў, ён не забывае пра дамоўленае і, значыць, будзе трывожыцца. Гэты доказ дапамагае.

Па калідоры шнуруе з канца ў канец усхвалёваны М. І. Бобрык.

Ён абдымае мяне за плечы і ў адказ на бязгучнае запытанне — «як?» — шэпча:

— Кепска, ой кепска... Галоўнае, ён увесь час шчоўкае... Разумееш, што гэта значыць?

Стаю разгубіўшыся. Бобрык штурхае мяне ў дзверы палаты:

— Ідзі. Але толькі на тры хвіліны. Не больш. Я буду сачыць па гадзінніку і падам знак.

У невялічкай палатцы ён ляжыць каля сцяны насупраць акна, што выходзіць на Чырвонаармейскую. У нагах прыбор для ўлівання фізіялагічнага раствору, побач на тумбачцы — шклянка вады. Пры хворым неадлучна дзяжураць медыцынская сястра і нявестка.

Смутныя вочы глядзяць проста перад сабою, але як быццам аднекуль здалёку, быццам праз туман ці марлевую заслону. Твар вельмі бледны, нават зямлісты, шчокі пазападалі. Грудзі раз-поразу падымаюцца ад няспыннай ікаўкі.

Усе падрыхтаваныя словы, з якімі я ішоў да яго, раптоўна знікаюць. На язык просіцца звычайнае: «Як вы сябе адчуваеце?» Але пра гэта пытаць нельга, Бобрык двойчы папярэдзіў і забараніў.

Кажу «дабрыдзень» і змаўкаю, не ведаючы, што вымавіць далей.

Канстанцін Міхайлавіч робіць спробу падаць руку.

— О, дык вы зусім маладзец,— кажу, баючыся, што ён зараз жа прыкмеціць робленую бадзёрасць тону.— Помніце, я тады дзён два павварушыцца не мог.

Нагадваю, як год назад ён зніжаў ціск у суседнім аддзяленні стацыянара і прыходзіў рана і ўвечар наведаць мяне пасля выдалення апендыкса.

— Дык ты ж не шчоўкаў...— слаба варушацца губы.

— Як гэта не шчоўкаў? — адважна маню я.— Насілу лімонам перабілі...

Але працягваць так цяжка. На выручку прыходзіць пераклад апавядання «Між дзвюх рэчак», прысланы з «Огонька» для аўтарызацыі. Менш за ўсё я думаў у гэты час займацца справамі, але, сам не ведаю чаму, сунуў на адыходзе рукапіс у кішэню. Паказваю апавяданне, кажу, што зроблены невялікія купюры.

У вачах Канстанціна Міхайлавіча з'яўляецца цікавасць.

— Што ж там апушчана?

Апавяданне ён некалькі разоў перапісваў, дамагаючыся асаблівай выразнасці, яно блізка года ляжала ў партфелі і, знайшоўшы дарогу ў друк, усё яшчэ турбавала аўтарскае сэрца.

Аднак няўмольныя тры хвіліны канчаюцца. Тлумачыць даводзіцца спяшаючыся. Канстанцін Міхайлавіч крыўдзіцца:

— Ты нешта гоніш, як на пажар,— гаворыць ён і раптам перастае ікаць. Слухае найбольш удалыя мясціны перакладу, ківае галавою ў знак згоды.

За дзвярыма з'яўляецца постаць Бобрыка, ён паказвае рукою: «Сядзі!» Праходзіць чвэртка гадзіны.

— Мусіць, я падрамлю,— кажа Канстанцін Міхайлавіч.— Ноччу ж не далі. Усе кішкі пабунтавалі. Пераклад, я думаю, неблагі.

Каб даць яму магчымасць заснуць, мы ўсе пакідаем палату. У калідоры Мікалай Іванавіч цісне руку:

— Я цябе і заўтра пушчу. Але ні слова аб хваробе, хай яго думкі адцягваюцца на староннняе.

Толькі дзён праз тры лягчэй уздыхнулі і мы і дактары: Канстанцін Міхайлавіч стала пайшоў на папраўку.

— Падзяка табе ад Бобрыка,— сустрэў мяне Канстанцін Міхайлавіч перад выпіскай з бальніцы.— Ён вельмі рагатаў і забраў твой верш.

Гаворка ішла пра некалькі складзеных па дарозе ў бальніцу радкоў для развагі хвораму:

Добры доктар Бобрык,
Але страшны ножык:
Выража апендыкс,
Пакладзе на ложак.

Не чапні рукою,
Не мяльні нагою,
Покуль каля пупа
Дзіркі не загоіш.

Гэта ўсё мінецца,
Час усё заліжа...
Дзякуй, дзядзька Бобрык,
Што не рэзаў ніжэй.

Жартоўныя прысвячэнні дактарам, усхваляючы іх цудадзейную моц і высмейваючы сваю нядужасць, Канстанцін Міхайлавіч пісаў часта. Асабліва шанцавала С. О. Ліяранцэвічу, які ў вершаваных коласаўскіх пасланнях іменаваўся «мітрапалітам Сергіем».

Таму і мой зварот да доктара-хірурга не пакінуў хворага безудзельным, тым больш што быў напісаны нібы ад яго імя. Выслухаўшы верш, Канстанцін Міхайлавіч папрасіў запісаць яго, а пачытаўшы сам, падвастрыў два радкі ў заканчэнні.

— Гэтаму майму збавіцелю, дый тваймму, не зашкодзіла б прысвяціць і паэму. Ведаеш, калі прыехалі тады дактары, я сказаў сам сабе: «Бывай, Якуб! З'явілася трое архангелаў па тваю грэшную душу».

Канстанцін Міхайлавіч вярнуўся з стацыянара, паабедаў у кухні каля пліты, паджартоўваючы з сястры.

— Ты мне цяпер, Міхалінка, хоць каменне давай есці, усё страўлю. Тое, што чалавеку не трэба, дактары выразалі...

Перад гэтым ён пахадзіў па двары, агледзеў увесь дом, пакрэктваючы ад задавалення, адчыняў кожныя дзверы. На сваёй палавіне некалькі разоў глыбока дыхнуў і прылёг на ложак. Уключыў радыё і пасміхнуўся. Слаўна, столькі пакачаўшыся ў бальніцы, апынуцца ў сваёй хаце, на сваім ложку! Загаварыў:

— Добра, калі чалавек сам сабе гаспадар. Захацеў музыкі, уключыў і грае. Некалі Марыя Дзмітраўна, Міхасёк і я жылі каля Ташкента ў Чымгане. Маруся пачынала хварэць, і мы пад восень 1943 года ўладзіліся там на дачы. Гэта слаўная курортная мясціна, у гарах раскідана некалькі санаторыяў. Але калі заходзіла сонца, уся шыкоўнасць гублялася: Чымган рабіўся пануры, як стары сівы дзед.

Мне было па душы жыць там, хоць пачынаў непакоіць ціск крыві, і на высокім месцы я пачуваў сябе не вельмі добра. Нашчапаю трэсак, каб снеданне згатаваць, і змаруся. Але Марыя Дзмітраўна была здаволена, ёй стала лепш. Міхасёк таксама быў рады, хадзіў на паляванне, прыносіў курапатак, збіраў у гарах яблыкі і алычу.

Мы доўга збіраліся ў Чымган, ніяк не ладзілася: спярша з пуцёўкай, пасля з машынай. Калі ж, нарэшце, выехалі, недалёка ад горада машына стала. Нешта з падшыпнікамі здарылася. Дзякуй богу, блізка аўтабаза была. А там загадчык, добры дзядзька, беларус. Буц яго прозвішча. Сустрэў ветліва і дапамог.

Канстанцін Міхайлавіч пакруціў рычажок прыёмніка, пашукаў іншае станцыі.

— Турботы былі ў мяне з гэтым радыё ў Чымгане. Ніяк не мог наслухаць з раніцы апошніх вестак. А тады якраз нашы войскі занялі ад Арла і наперлі немцаў. Далей пайшлі Таганрог, Ельня, пачаліся баі каля Смаленска. Калі быў узяты Бранск, я сказаў сваім: гэта вароты ў Беларусь. Тады хацелася ведаць, як і што, а радыё возьме знямее з ночы і раскатурхаецца, калі пачнуць перадаваць музыку.

Пайшоў я да дырэктара санаторыя. Пытаюся, у чым перашкода? Кажа: «Напружанне слабое». А тут

не ў току справа! Радыст — пляменнік дырэктара, і яму робяцца палёгкі, каб не напружваўся. Сабраўся я і пайшоў ранелька шукаць таго радыста. Зайшоў у хату: спіць, хвост адкінуўшы. Яму семнаццаць гадоў, а маладому рапіцаю вельмі ж спіцца. Прабраў я яго, і радыё пачало гаварыць больш акуратна.

Крыху пазней радыст перабраўся ў санаторый, і мне ўжо не трэба было хадзіць будзіць яго. Так што і я крыху майстар. Магу рамантаваць, калі не прыёмнікі, дык людзям сёе-тое падкручваць. А наогул, даўно я ніякім майстэрствам не займаўся. Зрабіў у Чымгане вешалку для ручнікоў, вось і ўсё на тым.

# ТАСТАМАНТ СТАРОГА ГРЫБНІКА

*Нашто чалавеку хвост? Чалавек паганскай веры. Думкі аб смерці. Грыбная навука. Дружба з балачанцамі. Купленыя грыбы. «Інспектар». Коні ў чайной. Першае прысвячэнне.*



Чэрвень. Горача, бязвоблачна. Канстанцін Міхайлавіч падоўгу сядзіць на ганку караліпчавіцкага дома. Цярпліва адганяе свежавыламанай галінкай камароў, якія ў тое лета літаральна заядалі тутэйшае насельніцтва.

Перад змрокам гукае Міхася Лынькова:

— На работу, Міхале!

Лынькоў быў «загадчыкам» кастра. Паліў яго са смакам, умела, то даводзячы да вялікага полымя, то абкурваючы ўсіх сінім дымком ад знарок накіданых сырых яловых лапак.

Камары кусаліся ўсё гэтак жа злосна, не зважаючы ні на якія захады. Тады Канстанцін Міхайлавіч паўтараў вострае слоўца, якое пусціў у абыходак Кандрат Крапіва: усе, хто едзе ў Каралішчавічы на адпачынак, павінны атрымліваць у Літфондзе дармова, у дадатак да пуцёўкі, хвост — абмахвацца ад камароў.

На лаўцы пад высокай разлапістай ялінаю ён размаўляе з маладым, па-маладому ружовенькім паэтам. Дрэва — на паўдарозе ад дома творчасці, дзе ўсе мы жывём, да сталоўкі. Дарогі ўсяе тут метраў трыста, але Канстанцін Міхайлавіч, ідучы туды і назад, абавязкова робіць прывал. Не заўсёды ад зморы. Проста яму прыемна пасядзець на лясной сцежцы, паслухаць птушак, перакінуцца словам з сябрамі. І яшчэ. Тут ён штодня надзякае калючым слоўцам не так густы надлесак, што не дапускае ветру над

наш дом, як нядбалых гаспадароў лесу. Асабліва хвалюе Канстанціна Міхайлавіча, што асіннік, вербалоз і іншая лясная дробязь глушаць мілыя яго сэрцу дубкі...

Некалькі разоў прабіраў ён леснікоў і лясніцтва. Потым недзе пажаліўся. Лес працерабілі, пачалі гэта рабіць рэгулярна, і тоненькія хлысцінкі дубоў параздрасталіся ў дужыя высокія дрэвы.

Ноччу ішоў дождж. Каля лаўкі стаяць лужынкі вады. Яшчэ зусім рана, але ў паветры парыць. Усё паказвае на навальніцу.

Канстанцін Міхайлавіч скінуў лёгкія хадакі і сядзіць босы. Час ад часу акунае пальцы ў цёплую лужынку. Ногі ў яго, нечакана для магутнага леснікоўскага заводу, вельмі малыя, як дзіцячыя. На ўсе ўгаворы абуцца толькі махае рукою.

— От вы, дзівакі-людзі! Трэба ж мне босаю нагою зямлі даткнуцца! Хоць раз на год. Сілы набрацца, паспрабаваць, ці моцна стаю на ёй. А можа і яна падалася, пачала гойдацца на восі.

Канстанцін Міхайлавіч увесь час усміхаецца. Добры настрой падмацоўвае пачная навальніца і тое, што дождж збіраецца зноў. Ён добра спаў, толькі што гладка паголіўся і выглядае зусім маладым.

— Я, браток,— кажа ён паэту,— чалавек паганскай веры. Дарэмна яе так зняважліва празвалі хрысціяне. Ці можа наша слова «паганец» грубейшае за рускае «язычнік»? Паганцы верылі толькі зямлі. У гэтым сэнсе я ім родны брат. Зямля — мая родная маці. Гэта, вядома, рэшткі сялянскай псіхалогіі...

Канстанцін Міхайлавіч, жмурачыся ад сонца, глядзіць на свайго суразмоўніка.

— Ты ж таксама мужыцкай косткі. Павінен разумець. Зямля карміла і корміць селяніна. А ён ёй пакланяецца за гэта... І наогул зямля, і наша — Беларусь...

Паэт успамінае радкі Коласа... Пра тое, што зямля аснова ўсяго... Але Канстанцін Міхайлавіч яшчэ не скончыў, не выказаў свае думкі.

— Я ў вайну столькі гаварыў пра Беларусь. Пісаў артыкулы, вершы друкаваў, выступаў на сходах у Маскве, у Ташкенце. Расказваў аб горы нашай зямлі ўсім знаёмым і незнаёмым. І што ты думаеш?

Пасля вайны сюды вярнулася многа людзей, што былі ўжо адышлі ад Беларусі. І гавораць мне: гэта ты дапамог нам вярнуцца, бо шмат гаварыў аб хараство і болю нашай зямлі.

Канстанцін Міхайлавіч крыху нагінаецца і пазірае ў вочы паэту:

— Як бы ты сказаў? Гэта многа ці мала?

Усё часцей загаворвае аб смерці. Як чалавек мудрага розуму, што добра ведае: нельга ўнікнуць непазбежнага. І як дзіця, што па ўсю сілу непасрэднага пачуцця пратэстуе супраць спрадвечнай несправядлівасці. І заўсёды пры такіх гаворках здаецца, што ён, нібы тое пакрыўджанае дзіця, хоча пачуць слова пярэчання, суцяшэння. Мы не дазвалялі паглыбляцца ў сумныя развагі, казалі, што ён будзе жыць, колькі мы захочам.

Падышоў да століка над елкамі, дзе сядзелі Кандрат Крапіва, яшчэ нехта і я. Нахіліўся і сказаў на вуха:

— Ведаеш, што мне падумалася? Хутка я памру, і Кандрат будзе гаварыць прамову над труною... І каб ён таксама не маўчаў.— Канстанцін Міхайлавіч кіўнуў галавою ў бок недалёкага балотца, адкуль аказваўся салавей.— Як тады, над Марусяй.

У голасе — расчуленасць. Гэта ён успамянуў, калі хавалі Марыю Дзмітраўну... Крапіў невялічкі дожджык, пасля пераціх. І ў хвоях над магілкамі пачаў спяваць салавей.

А напярэдадні Канстанцін Міхайлавіч званіў мне з Масквы.

— Выберы для магілы месца высокае, каб далёка відно было. І каб мне там лапінка засталася.

Надворна спакойны, толькі як быццам без мовы, быў ён у той цяжкі дзень. І толькі раз перасмыкнуліся плечы і задрыжала падбароддзе, калі сівагаловы, высокі, важны прафесар абваліўся, як падбітае громам дрэва, на калені, кладучы зямны паклон нябожчыцы.

Жанчыны, жонкі сяброў, што адпачывалі разам з ім у Каралішчавічах, стараліся разнастаіць прас-

наватае домаадпачынкаўскае меню яго любімай стравою. Расшуквалі абабкі і сыраежкі, выпорвалі ў дубах па-над рэчкай раннія баравікі-каласавікі. Кухар Пеця ўсмажваў іх спецыяльна для Канстанціна Міхайлавіча.

Грыбоў атрымлівалася адна лыжка, але ён абавязкова хацеў участаваць імі ўсіх прысутных. Прасіў у сястры-гаспадыні чарку, выпіваў яе і надвясельваў вялікі стол, у галавах якога сядзеў. Расказваў пра свае грыбныя паходы ў маладосці, пра мікаласеўскія лясы, пра Балачанку — невялікі калгас за Пухавічамі. Там жылі яго сябры: цёзка Канстанцін Сцяпанавіч Дзятка з жонкай Марыяй Іванаўнай. Дзятка быў старшынёю калгаса, потым на гадах перайшоў на брыгадзірства, а як я помню яго — вельмі ж лоўка гнуў дугі для калгасных патрэб, бо ў продажы гэты тавар пачаў пакрысе знікаць.

У Балачанку Канстанцін Міхайлавіч ездзіў з самага пачатку грыбнога сезона, калі пракідаліся першыя баравікі, а пад восень заставаўся ў Дзятак на некалькі дзён. Раніцай і ўвечары ён ішоў на раздабыткі і цягаў грыбы вялікімі кашамі, не даючы браку ніводнаму гатунку, пакуль Марыя Іванаўна не насольвала поўную кадушку. Гэты трафеі з вялікай урачыстасцю перавозіўся ў Мінск. Не марудзячы, скліканіся на дэгустацыю знаўцы, майстры і аматары грыбное справы.

— Гэта забабоны,— гаварыў гасцям Канстанцін Міхайлавіч ззяючы,— што кожны гатунак трэба трымаць у асобным посудзе. Глядзіце, я салю разам і таўстухі, і зялёнкі, і асавікі, і рыжыкі, і нават лісічкі. А, скажаце, няемачна?

Грыбы, вядома, хвалілі, дый удаваліся яны такія, што маглі лічыцца ласункам.

«Грыбная» дружба — гэта невялічкі звянчак у тым моцным і сапраўдным сяброўстве, якое звязвала Канстанціна Міхайлавіча з балачанскімі калгаснікамі. У баку Пухавіч ён часта праводзіў лета яшчэ да вайны. Талька, Падбярэжжа, Вусце дый самі Пухавічы, дзе быў пісьменніцкі дом адпачынку,— усе гэтыя мясціны звязаны з яго імем, носяць сляды яго

прысутнасці, хоць пагарэлі многія з дамоў і пазарасталі пустазеллем шмат якія сядзібы.

Ураджай балачанскага калгаса быў, можна сказаць, найпершай, надзённай справай Коласа. Ён дапамог атрымаць балачанцам грузавік, а адразу пасля вайны гэта было не так лёгка, потым стараўся ўгнаенняў, самым гарачым чынам удзельнічаў у жыцці калгаса, хваляваўся за яго планы і поспехі. Вяртаўся адтуль заўсёды ўзбуджаны, з толькі што пачутай навіной, вось зараз убачаным малюнкам, трапным, падхопленым у сваіх калгасных сяброў словам.

Так узнікла апавяданне «Між двух рэчак», па першым хрышчэнні — «Асірацелая хата». Поруч з сядзібаю Дзятак і стаяла акурат такая хата. Праз пыльны лядок расколатых шыбін з яе выліваласа сірочая цішыня спусташэння.

Колас слухаў, калі і як запуставала гэта будыніна. Часамі ён прыплюшчваў вочы, мусіць, каб выразней уявіць людзей, што апошні раз зачынілі тут за сабою дзверы.

Ішоў час. У хаце з'явіліся новыя гаспадары, падобныя да ранейшых клопатам, але зусім іншага лёсу і ўдачы людзі.

Трэба было брацца за другую палавіну гісторыі асірацелай і паноў заселенай хаты. Гэтае апавяданне ўжо ўсплывала асобнымі рысамі ў гаворцы, але так і не вы́хадзілася ў задуме...

У Балачанку звычайна ездзіў адзін, хіба што падвозіў на паляванне сына Міхася, ссаджваючы яго дзе-небудзь у палавіне дарогі на балотцы, дзе вадзіліся качкі.

— Грыб шуму не любіць,— гаварыў Канстанцін Міхайлавіч,— бо ён сам ціха расце. А людзі бяруць вялізныя кашы, нажы метровыя і, задзёрпы галаву, швэндаюцца па дзесяцёх у лесе. Гу-га! Га-гу! Вось такія грыбнікі і вяртаюцца з пустымі кашалямі, бо грыбы пазашываюцца ў мох ад страху, сядзяць і калоцяцца там, бедныя. А ты рабі так: зрэзаў грыбок, абчысць, палажы ў кошык, нож складзі і схавай у кішэню, а кошык пастаў на зямлю. Грыбы цікаўныя. Захочацца ім зірнуць, што ж робіцца ў тваім кошыку, як жывецца там іхнім сваякам. Павысаджваюць галовы з гліцы, а ты іх паціхеньку і хапай.

Гэтыя для жарту прыдуманыя запаветы грыбнога збору насілі гучную назву: «Тастамант старога грыбніка»...

Выехалі мы ў Балачанку на світанні і да ўсходу сонца былі ўжо ў лесе. У загадзя нагледжаным і аблюбаваным месцы спыніліся і паснедалі.

— Я натупаю тут, каля машыны,— сказаў Канстанцін Міхайлавіч,— а ты ідзі на той бок дарогі. Там слаўныя мясціны, але я не дапну, ногі кепска носяць.

Пахадзіў з гадзіну ў паказаным мне кірунку, а там былі завалы і густы падлесак, страціў надзею ўбачыць хоць што-небудзь падобнае на баравіка і вырашыў змяніць месца. Каб не забягаць наперад Канстанціну Міхайлавічу, пачаў абыходзіць яго, мерачыся падацца ў глыбіню лесу. Выбіўшыся на дарогу, убачыў, што Канстанцін Міхайлавіч ходзіць удоўж і ўпоперак па тым самым хвойніку, дзе я пакінуў яго, і даволі часта нагінаецца. Значыць, ёсць-такі баравікі!

Адышоўшы метраў трыста ад Канстанціна Міхайлавіча, сустрэў і я ўдачу. Донца кошыка пакрысе закрывалася ладнымі крамянымі грыбкамі. Аднак іх было вельмі і вельмі мала. Прадчуваючы кпіны са свайго няўмельства, я гарачыўся, бегаў і, вядома, прапускаў добрыя мясціны неагледжанымі.

Лёс паслаў на выручку цётку-калгасніцу. Кош у яе быў ужо амаль поўны, яна кіравалася дамоў. Пасля кароткага, а галоўнае — бязгучнага торгу (у лесе далёка чуваць) цётчыны баравікі перабраліся да мяне ў кошык, а мая дваццацьпятка завязалася ў вузельчык яе хусткі.

Я вярнуўся «на той бок дарогі», а адтуль пайшоў проста насустрач Канстанціну Міхайлавічу.

— Ну, як? — весела гукнуў ён.

— Слаба,— адказаў я, робячы нездаволены і расчараваны выгляд.

— А ў мяне нішто сабе.

Канстанцін Міхайлавіч паказаў дзесяткі два белых і, зазірнуўшы ў мой вышэй паловы насыпаны кош, абсекся і спахмурнеў.

— Дзе ж ты быў? Па той бок дарогі?

— Так, пакруціўся там, дзе вы паказалі.

— Цікава...

Грыбнікоўскае самалюбства Канстанціна Міхайлавіча было моцна ўражана. Ён надумаўся ехаць на Вусцянскі груд.

— Там болей набяром.

На новым месцы, пакінуўшы яго абшукваць даўно аблюбаваныя хвойныя ўзгорачкі, я падаўся сцежкаю ўніз, на верасы.

— Там нічога не будзе,— папярэдзіў Канстанцін Міхайлавіч.— Давай лепей хадзіць разам тут браток.

Мне не хацелася замінаць яму, дый чамусьці выбраны маршрут жывіў надзею тое-сёе знайсці. Нарэшце, тут да мяне прываліла сапраўднае грыбное шчасце. Верас паабапал сцежкі стаяў высокі. Махнуўшы кашом, я зрушыў верасовы куст і ўкамянеў. Баравікі сядзелі адзін пры адным: вялізныя, са здаравеннымі рудымі капелюшамі, сярэдняга росту, як быццам надглянцаваныя ваксаю, і зусім маленькія, што ледзь вытыркалі з зямлі, нейкага дзіўнага, ліловага адцення.

Я пачаў падымаць куст за кустам: усюды было такое ж багацце. Не паспеў я падабраць і палавіны натрапленай нерушы, як пачуў клаксон: клікалі з машыны. Я ведаў, што Канстанцін Міхайлавіч не любіць чакаць, але не мог перабароць паляўнічае прагавітасці і азарту і, не слухаючы працяглага воклічу «ту-ту», не адгукаўся, пакуль не нарэзаў кошык пад самую ручку. Бег да машыны, мімаходзь адгортваючы верас: грыбы стаялі строем на сонечным баку сцежкі.

— Дзе ты бавішся? — нецярпліва кінуў Канстанцін Міхайлавіч, ён ужо сядзеў на месцы.— Паедзем абедаць...

— Ды вось,— толькі і мог вымавіць я, задыхаўшыся ад шпаркай хады.

— Ты, мусіць, варажбіт. Іграеш на дудачцы, а грыбы самі ў кош лезуць.

І ніяк не хацеў даць веры, што яны сабраны поруч, на верасовай далінцы. Потым усё ж вырашыў праверыць і са здавальненнем рэзаў самыя маладыя і здаровыя:

— Глядзі ты, як высыпалі!

На абедзе ў Дзяткавай хаце паскардзіўся гаспадарам:

— Закасаваў мяне сёння Максім. Трэба аддаваць свае грыбніцкія медалі.

Увага адцягнулася стукам у дзверы.

— О, мусіць, інспектар ідзе.

— Ён самы,— пацвердзіў гаспадар, адчыняючы.

«Інспектарам» аказаўся вастравокі хлапчук гадоў дзесяці. Даўшы «дзень добры», ён стаў у парозе разглядаючыся:

— Як маешся? — спытаў Канстанцін Міхайлавіч.— Рыбу ловіш? Не ловіцца? Дык ты ў грыбы хадзі, мы унь колькі нарэзалі.

— Я ўжо бачыў у машыне,— адказаў хлопец.

— Ну, на тое ж ты ў нас інспектар. Вазьмі сабе цукерку.

Калі за гасцём зачыніліся дзверы, высвятлілася паходжанне ягонай мянушкі. «Інспектарам» яго празваў Канстанцін Міхайлавіч за надзвычайную цікаўнасць. Варта было толькі каму-небудзь заявіцца ў калгас, як хлопец бег туды і высвятляў: хто прыехаў, адкуль і па якой патрэбе.

Гасцяванне наша ў Балачанцы закончылася кароткім апавяданнем Канстанціна Міхайлавіча.

— Аднойчы, яшчэ падлеткам, натрапіў я ў Альбуцкім лесе на неруш. Ні да гэтага, ні пасля — ніколі такога не бачыў. Грыбы сядзелі так густа, што нагі не ўб'еш. Зрэжаш аднаго, а пад ім яшчэ два-тры меншанькія. Нарэзаў я повен кош, а грыбоў нічуць не паменшала. Скінуў тады кашулю, завязаў каля каўняра, нарыхтаваўся рэзаць, а тут чую — падыходзяць жанкі на маю паляну. Пабяруць, думаю, усе грыбы. Я скарэй — усё з сябе, пагнуў бярэзіну, узяў у рукі вяршок і падскакваю голы. Бабы мае ледзь не памлелі. Спачатку думалі — чорт. Пасля разгледзеліся, пазналі, але вырашылі, што я звар'яцеў.

Едучы назад, стомлены даволі вялікаю пераходкаю, я задрамаў.

— Тпру, прыехалі,— пабудзіў мяне Канстанцін Міхайлавіч.— Можа піва хочаш?

Машына стаяла каля «хамута», такую мянушку мела пухавіцкая чайная.

Аднойчы, па дарозе ў Балачанку, Канстанцін Міхайлавіч убачыў тут каля ганка некалькі хамутоў.

— Ці коні, змакрэўшы, сядзяць, і піва п'юць, бо ў хамутах туды не пусцілі, ці людзі, ідучы запрагаць коней, надумаліся кульнуць па чарцы. Хутчэй за ўсё коні. П'юць з гора, бо іх моцна тэхніка выціскае...

Успомнілася, як на адной з дарог бачылі мы чалавека, які спрытна каціў на веласіпедзе, а ззаду трухаў прывязаны за раму конь.

Канстанцін Міхайлавіч паглядзеў услед і падзяліўся меркаваннямі:

— Кіламетраў цераз дзесяць яны памяняюцца — дзядзька пабяжыць збоку, а конь пацісне на веласіпедзе, накручваючы капытамі педалі.

Каля самага Мінска Канстанцін Міхайлавіч павярнуўся да мяне і зірнуў вачыма, перад якімі нельга было маніць:

— Купіў?

Я вырашыў не здавацца да апошняга.

— Што, дзядзька Якуб?

— Тыя першыя грыбы?

— Навошта купляць, калі я добра збіраць умею.

— А дзе ж ты іх сабраў?

— Я ж вам казаў.

— Па той бок дарогі?

— Ага.

— Дык там жа грыбы не растуць!

— А нашто ж вы мяне туды пасылалі?

— Дзівак ты, Максім! Які ж гэта паважны грыбнік аддасць другому сваю мясціну? — скончыў ён гаворку жартам.

Я прызнаўся, як была справа...

Вядома, не ад улюбёнай мясцінкі адводзіў ён мяне. Проста хацеў пабыць сам-насам з думкамі ў лясной адзіноце...

Назаўтра пасля прыезду з Балачанкі ў нас адбылася літаратурная размова. Рэзкая, суровая, адкрытая. Ступень адкрытасці яе здзівіла. І ў той жа час узрадавала. Канстанцін Міхайлавіч беспамылкова

адлучаў «авец ад козлішч», як ён гаварыў, талент ад бяздарнасці ці пасрэднасці, ведаў, чаго можна чакаць ад таго ці іншага літаратара, і не спыняўся на палавінчатых ацэнках твораў нават у дачыненні тых асоб, з кім быў звязаны даўняю дружбаю ці знаёмствам.

Я забег да яго раніцай, на хвіліну, ды так і не здолеў адарвацца ад размовы да позняга вечара. Мы пачалі яе ў садзе, перайшлі ў дом, потым вярнуліся пад вяз, а закончылі ў кабінеце, запаліўшы святло.

— Ну вось, замацавалі ўсё на належных месцах. А ты робіш якія-небудзь нататкі пасля нашых размоў? — раптам запытаў у мяне Канстанцін Міхайлавіч.

Я не прызнаўся, мяркуючы, што ён шкадуе, навошта гэтак адкрыта гаварыў.

— Дарма,— сказаў Канстанцін Міхайлавіч.— Калі нават памылішся ў чым ці лішняе занатуеш, час усё спарадкуе і паправіць. Я вось знайшоў тваё прысвячэнне. Гэта схематычная гісторыя нашага знаёмства. Вазьмі. Можа апублікуеш калі.

Гаворка ішла пра верш, напісаны да дня нараджэння, калі ён, хвараваты, ляжаў у стацыянары — невялікім флігельку на вуліцы Кірава. Верш гэты адначасна адказваў і на ягонае прысвячэнне мне, дзе кідаліся папрокі ў бок фінансавых органаў, якія не дазвалялі ўстанавіць мне людскі аклад у Акадэміі навук з той прычыны, што я не меў кандыдацкай ступені.

## ЯКУБУ КОЛАСУ

*У дзень 3/X 1948 г.*

Я пішу да Вас не першы.
Вы раней сказалі,
Добрым хлопцам добрых вершаў
Шмат Вы прысвячалі.

Там жа шмат традыцый слаўных
І вясёлых часам,
А вось з Вамі мы нядаўна
Стрэліся сам-насам.

Помню... Студзень, дзень пагодны
Роем ходзяць думы.
У вагоне міжнародным
Прыбылі ў Маскву мы.

Заімчаў нас ліфт адразу
На паверх дзесяты,
І туды штовечар лазіў
Ваш сябрук цыбаты.

Ён трашчаў, як малатарка,
Ды пацэльваў вока,
Ці няма часамі чаркі
Дзе навідавоку.

Вось ад гэтае часіны,
Ад тае дарогі
Стаў я ў вашае хаціны
Абіваць парогі.

Хай жа пойдуць яны пылам,
Стаўкі кандыдатаў!
Вельмі крыўдна, дзядзька мілы,
Што вы хвараваты.

У зацішнай Вашай хаце
Так прасторна марам.
Не ўпыняюся гукаць я:
— Дзе вы, гаспадару!

Што з іх выссеш, з лечкамісій? —
Банькі ды прышаркі...
Сульфідзін з пеніцылінам
Не заменяць скваркі.

Кіньце прэч з лякарствам слодак,
Сэрца не нявольце!
Ёсць адзін цудоўны сродак,
Прапісаць дазвольце.

Будзе верасень, як шклянка,
Добрая дарога,
Клікне ў госці Балачанка
Караля грыбнога.

Пагалоска пойдзе, пошчак
Вандраваць па лесе,
І нішчом да дзядзькі ў кошык
Баравік палезе.

І запоўняць кош прасторны —
Без адной лісічкі! —
Тыя хлопцы ў шапках чорных,
Белых чаравічках.

Вось рэцэпты для паэта,
Як адужаць скора,
Акрыліцца думкай гэтай
І адкінуць хворасць.

А пакуль — прыміце хвалу
З Вашым нараджэннем.
Выбачайце на няўдалым
Гэтым прысвячэнні.

Чытаючы верш, я страшэнна бянтэжыўся, бо Канстанцін Міхайлавіч увесь час варочаўся на ложку і чырванеў. Мне здавалася, што я нечым пакрыўдзіў яго, а можа паставіў у няёмкае становішча. Крыху пазней ён вытлумачыў:

— Гэта мяне душыў кашаль, а я стрымліваўся, баяўся, каб не пакрыўдзіць цябе...

# У КЛОПАЦЕ ДЗЕНЬ ПРЫ ДНІ

*Здарэнне з наведвальнікам. Размарынаў. Гаворка з карэспандэнтам «Правды». Не шкадуйце на людзей добрага слова.*



— Размарынаў? Няўжо ў яго такое аперэтачнае прозвішча?

Колас нічога не адказвае: так ён толькі што назваў аднаго з сваіх наведвальнікаў. Але ў вачах праблісквае ледзь прыкметная іскрынка, значыць, у думках ён падсмейваецца і зараз нешта раскажа.

Шумных і дакучлівых людзей Канстанцін Міхайлавіч не любіў. Можа гэта замоцнае слова — не любіў, бо хоць яму і было цяжка з падаядамі, як ён ахрысціў асоб такога заводу, але ж не адмяжоўваўся ад іх. Ён ніякавеў і губляўся перад бесцырымоннасцю некаторых просьбітаў, аднак выслухваў іх. Ды не толькі выслухваў і дапамагаў праз прыроджаную далікатнасць, а вышукваў у кожным зернетка сапраўднага, чалавечага. Праўда, вочы не абміналі нічога ў суразмоўніку: памяць адкладала ў запас смешныя рысы, дробязныя звычкі, драпежныя ўхваткі.

Адзін усяго раз за наша знаёмства Колас так зірнуў на занадта настырнага карэспандэнта, што той паспяшаўся зачыніць дзверы гасцінічнага нумара — знік, як быццам і не з'яўляўся.

Канстанцін Міхайлавіч нездаволена пачмыхаў, а праз паўгадзіны, калі мінулася змора і адышлася ад вачэй сумятня цяжкога пасяджэння, адкуль ён вярнуўся, пачаў каяцца.

— Наказаў, называецца, характар, стары пень...— Зневажальныя звароты да ўласнай асобы заўсёды выкрываюць ягонае хваляванне.— Выгнаў

чалавека, а за што? Яго ж справа ў карак штурхае...

Памаўчаў і ўзяўся за мяне:

— Дык ты — добрая цаца. Няма, каб спыніць, асцерагчы...

— Тады б і я апынуўся за дзвярыма...

Колас лёгка адгукаецца на жарт:

— Але ж выпарыўся ён хутка. Быццам нячысты дух. Няўжо я страшны такі, га?

Пагаварыўшы пра заўтрашнія турботы, здалёк пачынае падступацца да таго, што не пакідае яго ў спакоі.

— А можа б пазваніць яму? Не магу ж я пісаць тут, у гасцініцы. Не атрымаецца. Прыеду дадому, тады раздумаюся, будзе ім артыкул. Як ты мяркуеш?

Запытанне гучыць так: давай пазвонім, растлумачым, скінем з сэрца цяжар.

Бяруся за тэлефонную кнігу, званю ў бюро даведак, нарэшце дашукваюся патрэбнага нумару.

— Дык як яму казаць, дзядзька Якуб?

— Відаць, мне давядзецца...

Пакуль ён падыходзіць, тэлефон абзываецца сам. Рэдактар перапрашае за свайго супрацоўніка — аператыўнасць прымушае! — просіць не ламаць з імі дружбы на далейшае: што здолееце і калі здолееце — усё роўна, толькі прысылайце.

Коласа гэта кранула.

— Не пакрыўдуйце і вы... І хлопцу свайму скажыце, няхай... Ну, адным словам, хай даруе. Я з ім хацеў бы пабачыцца. Калі? А хоць і заўтра.

Паклаў трубку, таймуе ўзрушанасць: ходзіць ад акна ў парог і назад.

— Бачыш,— голас у яго цяплее,— колькі нас, беларускіх капшукоў, вучыць трэба. Хто вінаваты, а хто першы прабачэння просіць...

Ён сядае за стол і, уздыхаючы, бярэцца за асадку.

— Нічога не зробіш, нічога не зробіш...

Крыху падумаўшы, глядзіць цераз плячо вясёлымі вачыма:

— Я ўжо ведаю, як пісаць. Зробім ім артыкулец. Заўтра ён прыйдзе — атрымай, дружа! Тады паглядзім, чый верх будзе.— І зусім весела дадае: — У аператыўнасці і ў далікатнасці.

З чалавекам, якога Колас назваў Размарынавым, спаборнічаць у далікацтве не даводзілася. Па зусім простай прычыне: гэтай якасці той не меў. Унадзіўся хадзіць кожны дзень, з'яўляўся зусім па дробязях, якімі было брыдка турбаваць Коласа, нават каб у яго пракідалася вольная часіна.

Канстанцін Міхайлавіч раз ці два перагаварыў, паслаў хадайніцтвы, і большасць просьбаў была задаволена. Аднак знаходзіліся новыя, і наведвальнік трымаў дом у аблозе: раніцай адмануцца, нібыта гаспадара няма дома,— прыходзіць у абед ці ўвечары.

Так здарылася і ў гэты адвячорак. Канстанцін Міхайлавіч закончыў навелу з «Казак жыцця» і меўся пачытаць. Мы сядзелі ў садзе. Нехта з хатніх прыстрашыў: «Хавайцеся лепш у дом, візіцёр можа наскочыць». Тады Канстанцін Міхайлавіч і вымавіў дзіўнае прозвішча — Размарынаў. І ледзь паспеў гэта зрабіць, лёгкі на ўспамін і на нагу чалавек быў на падыходзе.

Колас махнуў рукою:

— Паслухай яго. Я ўжо рады не дам: ён і за сябе і за мяне гаворыць.— І накіраваўся ў глыбіню саду, а пасля праз бакавыя дзверы — у дом.

Задача выпала не з лёгкіх. Чалавек сыпаў словы чэргамі з аўтамата — цэлы дыск за раз. Паўхвіліны на замену — і новы дыск. А гаварыў ён выключна пра сябе, пра свае поспехі, што маглі быць яшчэ большыя, каб не заміналі нейкія непрыхільнікі, нядобразычліўцы, зайздроснікі. Сам у сябе пытаўся, сам сабе адказваў, нават спрачаўся сам з сабою і смешна заядаўся, быццам шматаў на кавалкі ўсіх, хто стаяў яму на дарозе. Спружына была накручана туга, завод не сыходзіў, чалавек ніяк не мог выгаварыцца — наадварот, чым больш гаварыў, тым больш заводзіўся на гаворку.

Тым часам ні турбота, з якою з'явіўся сюды, ні цяжкасці, якія заміналі яму, не рабіліся для мяне яснейшымі. Наверсе чакаў Колас, надужаць яго цярплівасць было нельга. Сяк-так укараціўшы размову, я падняўся ў кабінет.

Канстанцін Міхайлавіч размаўляў з Іосіфам Зінковічам, тагачасным карэспандэнтам «Праўды» ў

рэспублiцы. Ён вярнуўся з калгаса i расказваў пра паездку.

— Ну, хапiла па самую завязку? — Зiнковiч паблiсквае вачыма.— А я даведаўся, з кiм вы седзiце, ды чорным ходам проста сюды.

— Вы таксама, вiдаць, пакаштавалi? — пытае Колас.

— Наспытваўся гэтага смаку — во! — Зiнковiч праводзiць пальцам пад барадою.— Прыйдзе, гаворыць-гаворыць — канца краю няма. А спынiш, спытаеш, у чым жа ваша справа,— крыўдзiцца: «Як у чым?» I пачынае тое самае спачатку. Пра заслугi...— Зiнковiч паварочваецца да мяне.— Што, няпраўда? Па вачах вiдаць, што гаварыў. Гэта чалавек такога гатунку: гвалту поўна, а заслуг, як у кацянянi — яшчэ нiводнай мышы не злавiў.

Колас смяецца — параўнанне ў народным духу.

— Я не даказаў, як да яго мянушка прыляпiлася. Максiм думае, што ад «Роз-Мары»: адтуль усё адну арыю пяюць.

— А што, не ўгадаў?

— Не. Я ляжаў у гамаку, нядужылася. А гэты як сеў пры баку, так i прымёрз. I завёў, як вы кажаце, катрынку. Слухаў я, слухаў — засну зараз, думаю, так размарыла. Як падумаў, гэтак i сказаў: «Заходзьце, кажу, другiм разам, таварыш Размарынаў». Ён вочы паставiў, як на тыгра. Ну, я папраўвiўся, сказаў прозвiшча як след.

Зiнковiч пасмiхаецца, але не можа схаваць засмучэння:

— Вы — чалавек добры, Канстанцiн Мiхайлавiч, i не хацелася б, каб да вашай дабраты смецце прылiпала. Як гэты... Ён жа носiць па ўсiм горадзе: я ў Коласа — рана i ўвечар бываю, разам ем i п'ю. Ён без мяне як без рук.

— Гэта вы да чаго? — Колас насцярожваецца.

— А каб не было якога злоўжывання вашым iменем. Праўда, выхваляннe гэта выглядае, мякка кажучы, нiкчэмна. Як у аднаго дзядзькi... Дазвольце расказаць, Канстанцiн Мiхайлавiч? — I Зiнковiч працягвае: — Прыехаў той дзядзька з кiрмашу, сеў каля хаты на прызбу i сядзiць, надзьмуўшыся. Курыць крамную папяроску, а суседзям не дае. I ўсё

моўчкі. Людзі і пытаюць: «Нешта ты сёння вельмі важны, Ігнат?» — «А я вам не раўня».— «Дык хто ж ты?» — «Я сёння з самім гаспадзінам прыставам нагаварыўся». Ну, тут усе: ах ды вох, як, калі было. Расказвае: «Прыехаў у горад, гляджу — на рагу прыстаў стаіць. Я злез з воза, падышоў блізенька: «Здравія жалаю, ваша высокаблагароддзе!» А ён глянуў на мяне, памаўчаў крыху дый адказаў...» Тут зноў усе завойкалі: «Што ж ён хаця табе рэкнуў?» — «Пайшоў ты, кажа, к нямытай мацеры, мужыцкая морда!» Вяскоўцы,— хто «хі-хі!», хто «ха-ха!». А нехта смялейшы пытае: «І ўсё?» — «Усё! — адказвае Ігнат.— Пайдзі, няхай табе столькі скажа».

— Дык што ж вы мне раіце, дружа? — з дакорам ківае галавою Колас.— Вас паслухаўшы, хлопцы, мне ад людзей браму замыкаць трэба.— Праз жарт у голасе Канстанціна Міхайлавіча прабіваецца горкая нотка.— Ну, няхай адзін які пасвісцёл і ўб'ецца, затое паўсотні добрых пабачу і пачую. Шкоды, пампойму, тут няма.

Каб адцягнуцца, бярэцца за рукапіс, і праз хвіліну мы пераносімся ў алегарычную плынь казкі.

Навела ўдалася, Колас ведае гэта сам і цяпер чытае пацвярджэнне на нашых тварах. Надыходзіць тая добрая хвіліна, калі лёгка думаецца і гаворыцца, калі мастацкі твор змушае гаварыць не пра сябе, а пра ўсё, з чаго ён вырас, куды кіруецца, пра выпадковыя, здаецца, рэчы. А сам, абудзіўшы мноства думак і вобразаў, прысутнічае сярод людзей на правах паўнамоцнага, хоць і маўклівага, суразмоўніка.

Развітваючыся, Колас напамінае:

— Вы на таго малайца не наракайце. І крыўдзіць яго не трэба. Ці мала каля літаратуры людзей ходзіць? Ёсць асабліва трапяткія, адчувае, небарак, што ў славе ён не паплыве, дык можа хоць калошы замочыць. І гэты хоча выбіцца. Толькі няграматны ён зусім. Але нічога, перачакаўшы крыху, яшчэ і ўспаміны пра нас з вамі напіша.— Канстанцін Міхайлавіч стрымлівае на паўдарозе ўсмешку: — А ўсё ж не трэба шкадаваць на людзей добрага слова. Нават калі яны потым прыманяць, пішучы ўспаміны.

# З КУПАЛАМ

*Яшчэ ўрок майстэрства. Тры тройкі і дом Раманавых. Хата ў Смольні. Як сапраўды першы раз сустрэліся Колас і Купала. Гаворкі пра пяршынства. Глыбокія і плыткія душы. Салаўіны голас у шэрым пер'і. Мы — не спарышы. Слова навырост. Ненапісаная Купалава кніга. Два сябры.*



Нешта падазрона маўчыць Канстанцін Міхайлавіч. Ніжняя губа падціснута і раз-пораз пасмыкваецца, ні на момант не асвятляюцца цікавасцю і ўнутранаю ўсмешкаю вочы. Можа новая задума турбуе яго? Не падобна. Тады ён гаваркі. А то адвячорак мінуў за разборкай пошты, і за ўвесь час можа адна-дзве заўвагі, аднаскладовыя.

Заўтра змаўляемся сустрэцца раніцай. Што пакажа яна? Часамі цераз ноч прыплывы маўклівасці ў яго праходзяць. Але не на гэты раз. Усё ў такім жа змрочным стане. І з маім прыходам ён як быццам яшчэ больш пазмрачнеў. Размаўляў з сынам пра гаспадарчыя справы і раптам замкнуўся.

Каб не дакучаць распытваннем — не гаворыць, значыць не хоча гаварыць,— адвітваюся, абяцаю зайсці другім разам.

Канстанцін Міхайлавіч рэзка падымаецца з крэсла, за адзін шырокі крок апынаецца каля балконных дзвярэй. Адтуль, тупаючы драбней, але так жа паспешліва, пераходзіць у процілеглы кут пакоя. Стоячы там, пачынае сварыцца, літаральна сварыцца, ледзь не крычаць:

— Як гэта людзі пішуць! Намалюе алеаграфічную дробязь і рад. І ў друк хутчэй. І там рады: усе шчаслівыя, усе смяюцца. Сёрбай, чытач, ружовую вадзіцу. Пішуць пра жыццё партызанаў у лесе. Паспрабуй уявіць той лес! Герой дзве гадзіны ідзе пушчаю, а ў яго пад нагою нават сучок не хрусне. Партызаны,

вядома, з «суровымі тварамі», камандзір устае і аддае каманду «звонкім» голасам і, вядома ж, «падцягнуўшы пояс». А ў канцы «спалоханыя гітлераўцы валяцца, як снапы»... Камандзір дзякуе героям ці дае клятву помсты над «паўшым целам» таварыша.

Канстанцін Міхайлавіч вельмі трапна парадзіруе акамянелыя звароты, што сапраўды прымільгаліся ў неразборлівай прозе. Пачынаю смяяцца.

— Смешна?

Ён падыходзіць да мяне ўсутыч і паўтарае:

— Смешна? А як табе падабаецца такая сустрэча двух паэтаў? Яны першы раз бачацца і адразу ж абдымаюцца і тройчы чаломкаюцца, як «загадвае звычай», і, не паспеўшы ўцерці губы, хапаюцца за вершы, пачынаюць чытаць, і не абы-як, а выйшаўшы на сярэдзіну хаты і ўпёршы рукі ў бокі. З-за коміна паглядаюць дзеці — абавязкова замурзаныя! — і варушаць губамі — абавязкова пульхнымі! — паўтараючы вешчыя словы. Дарослыя — абавязкова! — зміргваюць з вачэй слязу. Хто — абавязкова! — цярэбіць хустку, хто — абавязкова! — пагладжвае вусы ці бараду...

Ён хаваецца ў спальні. Чуваць, як адкручваецца накрыўка тэрмаса,— п'е гарачую ваду і працягвае адтуль:

— Не веру і не паверу. Сто разоў ціснутае клішэ. Алеаграфія.

Цяпер маланкі сыплюцца проста на маю галаву. Напярэдадні я прынёс яму заключны раздзел аповесці. Думалася закончыць яе сустрэчай Купалы і Коласа ў Смольні. Так найлепш закругляўся замысел — прайсці за Коласам ад нараджэння чалавека да нараджэння паэта. Песня сустрэлася з песняй, паціснулі рукі і пайшлі поруч.

Заканчэнне было напісана раней, чым належала, сярэдзіна аповесці па-ранейшаму пуставала, але набліжалася купалаўская гадавіна, хацелася адгукнуцца хоць урыўкам.

Канстанцін Міхайлавіч з'яўляецца на парозе. Па ўсім відаць, што самы большы гром перагрымеў. Ён сядае поруч, голас крышку мякчэе, у ім пракідаецца знаёмае цёплае пабулькотванне лясное ручаіны.

— Я на вас дваіх узлаваўся. Спачатку на таго...

Канстанцін Міхайлавіч паказвае скрэсленае партызанскае апавяданне ў адным паважаным выданні. Яно належыць аўтару, да работы якога Колас адносіцца іранічна (хай даруе, што не называю прозвішча).

— А потым, па злоснае вока ты трапіў. Адкуль гэта ты ўзяў, што ў нас з Янкам былі «звонкія» галасы? Як гэта мы маглі так вольненька, паляпваючы адзін другога па плячы, перайсці адразу на «ты»? І пры малых, пры маці ўсчыналі ледзь не рэвалюцыйныя прамовы? А як ты прымусіў нас размаўляць? Падумай. Вытрымкамі з вершаў. І хоць бы з якіх-небудзь, а то са сваіх уласных. Хіба ў нас людскія словы ў горле папярасядалі?

Спакушаны тым, што перад вачыма ляжалі Коласавы ўспаміны пра смольненскую сустрэчу, я клапаціўся толькі, каб захаваць вонкавую дакладнасць у побыце, у абставінах. І спяшаўся. Не падбаў аб характарах. Даць добры радок, яго ўласнае слова ў вусны паэту, здавалася мне,— найлепей выявіць характар. А звычайны бытавы дыялог не хацеў дапасоўвацца да вершаванай узнёсласці... Нясцерпны фальш рэжа вушы. Гэта зараз адчуваецца самому.

Канстанцін Міхайлавіч пакручвае ў руках мой рукапіс.

— Забярэш ці мне на памяць пакінеш? Хай усё застанецца ў гэтых сценах. Ніхто нічога не пісаў, ніхто нічога не чытаў і ніхто нікому пра гэта ані шэп.

Ён ужо зусім адпусціўся, але гаворыць то жартам, то зноў сур'ёзна.

— Я на тваім месцы перадумаў бы ўсё нанова. Мы ж умовіліся з табой рэзаць адзін аднаму праўду. Вось і рэжу. Да таго...— кароткі палец цвёрда ўпіраецца ў пакрэсленае апавяданне,— я і не абзавуся. Не паможа...

Зараз ён размаўляе са мной, як з дзіцем. І ўмее ж такі падсаладзіць гаркаватую пілюлю!

— Я ўпэўнены, што, пасядзеўшы, зробіш. А не выйдзе,— бровы грозна ссоўваюцца, але вочы смяюцца добра, куды ўжо дабрэй,— забяру твой «гросбух» з запісамі і пачну мазоліць рукі сам...

— Дык там жа нічога не запісана, дзядзька Якуб! Вы мне не расказвалі пра Купалу.

— Праўда? — удавана здзіўляецца ён.— Добра, што ты знайшоў, на каго злажыць віну. Калі вінаваты, буду адказваць. Раскажу як-небудзь. Хадзем на веранду, папросім чаго укусіць. Старыя людзі казалі, што, пахваляваўшыся, трэба пад'есці. Каб сіла не падупадала.

— Дзядзька Якуб,— затрымліваю яго каля дзвярэй,— а вершы тады ўсё ж такі чыталі, відаць?

— Ты яшчэ захочаш, каб «Варшавянку» спявалі. Калі і чытаў, дык адзін я...

Месяцы праз тры Канстанцін Міхайлавіч заехаў паглядзець кватэру, куды я перабраўся з Палярнай. Тут разрух, бязладдзе, кнігі ляжаць на падлозе, няма стала... Але яму падабаецца.

— Цяпер у цябе прасторна... У добры час! Няхай лёгка пішацца...

— За вамі затрымка...— я спяшаюся нагадаць пра абяцанне...

— Абяцанага сем год чакаюць...— ухіляецца ён.

Выцягвае з груды кніжак наўздагад даволі пампезна выдадзены том «Юбилейные торжества в Виленском учебном округе».

— Праз сорак год сустрэліся,— кажа ён хутчэй кнізе, чым суразмоўніку.— Яшчэ ў Пінску трапіла на вочы. З вялікім грукатам спраўляліся тыя ўрачыстасці. Адзін мой знаёмы быў прыхільнік сімволікі лічбаў. Дык ён казаў тады: «Дынастыя Раманавых праіснавала 3 стагоддзі, у 1613 годзе пачалася, у 1913 адзначае юбілей. Калі гэтак збегліся тры тройкі, значыць, праз тры гады імперыя лусне». І як у ваду глядзеў, на год усяго памыліўся.

Ён праглядае кнігу далей.

— Я адсюль даведаўся, што Жан Жак Русо збіраўся жыць у нашай Белавежы. Адзіноты шукаў.

Гартаюцца старонкі, адзін за адным адкрываюцца малюнкі. І вось — Гродна. Высокі бераг і пад ім Нёман.

Колас доўга глядзіць, быццам чакае, што па застыўшай хвалі можа падплысці ягоная маладосць...

— От і ў нашай сям'і, як у царскай, бацькаў прастол перадаўся старэйшаму сыну. Бацька памёр,

а Уладзя пачаў лесцікаваць у Цёмных Лядах. Мае хатнія жылі пры ім гады чатыры. Але пагналі мяне з пасады, не ўтрымаўся і брат. Мусіць, праз маю «ненадзейную» асобу.

Давялося перабірацца зноў у Мікалаўшчыну, адкуль на ўсю сілу стараўся вырабіцца бацька. Добра, што мікалаўскі карчмар надумаўся выязджаць. Нібыта ён падаваўся ў Амерыку. Пры карчме быў надзел зямлі. Вось туды мы і пераехалі ўсёй сям'ёю, заарандаваўшы і хату і ўчастак. Нядоўга пажылі. Бяда хадзіла па пятах: другі раз пацярпелі ад агню. Калі я сядзеў у турме, нахапіўся пажар. Карчма пайшла з ветрам, і мы сталі пагарэльцамі.

Дзядзька Антось пачаў прыслухоўвацца, дзе прадаюцца хаты. Паехаў некуды, старгаваў зруб і прыгнаў яго вадою ў Смольню. Будавацца было цяжка, але Антось быў майстар на ўсе рукі. Дый сваякі памаглі.

Мне расказвалі потым пра пажар і пра будоўлю. Дзядзька ўсё войкаў: «Занялося раптоўна, а гарэла ж ціха, хораша, як свечачка». Здавалася, ён не аб страце гаруе, а той прыгожы малюнак не можа адкінуць ад вачэй. У душы ён паэт быў. Са смольненскай хаты вельмі цешыўся, моцна хваліў яе: «О, маем! Над палацамі палац!»

Будынінка стаяла неважнецкая, але магла-такі здавацца палацам. А як жа: першая ўласная хата на ўласным драбочку зямлі. Дзядзька і лужок прыкупіў непадалёку. Словам, у гэтым месцы як бы ажылі і дзядзькавы і бацькавы мары — асесці на сваёй зямлі.

Антось гаварыў: «Нябожчыку-брату спакайней цяпер у жвіры ляжаць. Мы ўжо схапіліся за пэўнае дзела».

— Я бываў у Смольні наездамі. Аднойчы пайшоў у Мікалаўшчыну да некага з хлопцаў «пагуляць». Удалае слова, дарма забываем пра яго. Гэта не ў госці схадзіць, а так зайсціся адначыць часінку, пасядзець без работы, гуляючы. Мне далі знаць: прыйшоў Купала і чакае ў нас у хаце. Я вельмі

ўзрадаваўся. Вярсту да Смольні бегма бег. Але як ні спяшаўся, захапіў-такі кварту гарэлкі.

Купала ўстаў з лавы, хацеў падысці мне насустрач і ледзь не павалі́ўся. Мы абодва збянтэжыліся. Неяк павіталіся ўсё ж. Ён, накульгваючы, забіўся зноў на покуць і не падымаўся з месца. Ад пераходкі Янка намуляў ногі, чаравікі былі новыя і малаватыя. Дык ён ціхенька параспускаў шнуркі і сядзеў босы. Зачуўшы, што нехта забразгаў дзвярыма, хацеў абуцца, але спяшаўся і паблытаў свае хадакі, панадзяваў не на тую нагу. А ішоў да мяне пешкі, бо пашкадаваў грошай на фурманку. Чорт яму плаціў, таму балаголу, лепей прыхапіць непустую пасудзіну. Ён здагадваўся, што дастатку ў мяне не густа.

Спярша мы з Купалам страшэнна саромеліся адзін аднаго. Я стыдаўся свайго таннага лапсардачка — Купала ў новым пільчаку выглядаў куды ямчэй. Брыдка было і за пачастунак. Госць з вялікай дарогі, першы раз у хаце, а на стале ў нас як быццам ежы вобмаль.

Саромеўся і Янка. Сядзеў як прыкуты. Еў тое, што стаяла бліжэй, і лішне рукамі не варушыў. Потым ён прызнаўся, што пагнаўся за модным гарнітурам. Купіў і не агледзеўся: рукавы караткаватыя. Я і сам прыкмеціў: пацягнуўся ён дастаць хлеба, а рукаў заехаў на самы локаць.

Праз гэтую сарамяжлівасць мы больш маўчалі і часцей, чым належала, кулялі чаркі. Разгаварыліся, як добра асвойталіся. Радаваліся і бедавалі. Пішам, а для каго? Хто чытаць будзе? На нашай мове школ няма. Што ж ты — адною ці дзвюма беларускімі кніжкамі свет абернеш? Але надзея на перамены была. Не павінна ж усё дзевяцьсот пятым годам скончыцца. Мы чулі пра Ленскія падзеі. Янка даволі многа ведаў, ён у шырэйшым свеце нігаў. А лёс у абодвух быў хісткі. Купала пацярпеў ад цэнзуры. Кожнае слова бралі на зуб: ці не насыпана пораху. А пра мяне і гаварыць няма чаго...

Мае хатнія даўно паснулі. Толькі маці не спала, трывожылася, мусіць, каб чаго благога не выйшла з гэтай сустрэчы. Не сама дадумалася. Ці не шапянуў ёй дзядзька Антось. Ён быў не ў гуморы, ледзь

упрасілі прысесці. Выпіў адну чарку і сышоў на ўсю ноч. Адгаварыўся, што падаецца на рыбу, трэба свежанькаю заўтра госця пачаставаць. А напэўна не хацеў размове замінаць. Дый на выпадак, калі пачнуць пытацца,— нашто лішні сведка. Не быў дома, і ўсё. Хітры народ мікалаўцы! Так некалі і запішуць гістарыёграфы.

Сядзелі мы і жаліліся на сваё няпэўнае жыццё. Многага нестае. Як направіць? І вырашылі, што трэба бліжэй трымацца. Перакінуцца словам, руку падаць. І пакрысе весці сваю баразну. Колькі ўдасца.

— Назаўтра я пайшоў Яку праводзіць. Як толькі пачалася лясная дарога, ён разуўся. Тут і высвятлілася гісторыя з чаравікамі. У Свержані мы пабылі ў гасцях, падмацаваліся. Янка ўсё прабаваў заспяваць песню. Я суцішаў яго, а ён слухаць не хацеў. «Я старэйшы, кажа, я ўжо сваёй маці ўсміхаўся, а ты яшчэ і разу ў калысцы не вякнуў». Тады пачалі спяваць разам. Ты чуў такую?

Шавец мяне спадабаў,
Цвічча-шылле раскідаў.
Я ў шаўчыхі не хачу,
Я і ў дзеўках пахаджу.

Кравец мяне пакахаў,
Голкі-ножны паламаў.
Я ў краўчыхі не хачу,
Лепш у дзеўках паскачу.

А каваль мяне пазваў —
Малаток у рукі даў.
Ой, хачу ці не хачу,
А ўжо бабаю хаджу.

Пасядзелі мы з ім у хмызняку і развіталіся. На ростань пацалаваліся. Праўда, не тройчы,— Канстанцін Міхайлавіч падымае на мяне вочы,— але моцна. Калі так напісаць, будзе папраўдзе.

Мінуў амаль што год. Зноў падыходзяць купалаўскія дні. Канстанцін Міхайлавіч размаўляе з удавою паэта, дырэктарам купалаўскага музея Ула-

дзіславай Францаўнай. Віцэ-прэзідэнцкі кабінет. Колас выйшаў з-за стала, яны сядзяць насупраць у крэслах.

— Нешта абмінаеце мой дом, Купаліха...

— Дый я вас не бачу ў сябе, дзядзька Колас.

Тут няма месца дакору, асабліва з такімі сімпатычнымі, даўно ўсталяванымі зваротамі: «дзядзька» і «Купаліха». Але за словамі чуваць непагасшы жаль, што няма таго, хто змацоўваў узаемную дружбу. А каб быў, часцей бы расчыняліся дзверы абодвух дамоў, не паспявалі б астываць сляды на ганку.

Уладзіслава Францаўна нагадвае пра купалаўскі вечар. За некалькі хвілін паспявае расказаць, колькі знойдзена новых рукапісаў, заказана карцін для музея, як думаецца палепшыць экспазіцыю. А ўперамежку з гэтым: выдавецкія справы, успаміны аб першых гадах пасля прыезду ў Мінск, што было на дачы ў Ляўках... Крыху блытана, на першы погляд нават нечакана: «Помніце, вы з Янкам наверсе нешта чыталі, а я збіралася ў Оршу...» І адразу ж: «А я сачу за вашай аповесцю ў «Полымі». Ой, добра!» Але як бы ні гаварылася ўсё гэта, скрозь відзён адзіны непарушны клопат гэтай працавітай, нястомнай жанчыны: каб шанавалася памяць Купалы, каб шырэй разыходзілася па людзях яго слова.

Ёй трэба вельмі многа сказаць зараз, не таму, што шукае падтрымкі і дапамогі, проста хоча падзяліцца, паўспамінаць разам. Хто ж не ведае, што Колас заўсёды помніць і дбае аб тым самым, што і яна. І Уладзіславу Францаўну не крыўдзіць яго маўклівасць.

— Трэба бегчы,— яна ўспамінае нейкую неадкладную справу.— Весялей стала. Пагаварылі. Праўда, больш я...

Канстанцін Міхайлавіч праводзіць яе. Прытрымліваючы пад руку, адчыняе дзверы.

— Дык не мінайце ж!

Ён варочаецца і нібы дагаворвае недаказанае сваёй рэдкай госці.

— Трыццаць год мы з Янкам ведалі адзін аднаго. Дружылі. І сварыліся. Але гэта — толькі ў шах-

маты гуляючы. Я ведаю пустабайства, з якім пачаў сяды-тады вытыкацца ў кампаніях наш агульны знаёмы. Той-сёй можа падумаць, што паміж мною і Купалам сапраўды ляжала нейкая няпрыязнь. І нібыта вынікала яна праз спаборніцтва за першае месца.

А якой карысці, скажы ты мне, выпінацца са скуры, лезці на покуць, калі цябе туды не просяць? Чым большая здольнасць у чалавека, тым менш ён дбае пра знадворнае. Ідзе аблюбаванай сцежкаю і спявае аб тым, што заманецца. А прыгледзішся — і выходзіць: сцежка тая не сцежка, а дарога, бо торыць і брукуе яе народ. І спявак наш працуе разам, пракладае першы след. А яго, як быццам і незайздросная, песенька якраз тое, чаго чакаюць людзі. Нібыта і не стараўся чалавек, а пацэліў у яблычак. На справе ж ён і не думаў нікуды цаляць, рабіў, што душа загадвала.

Калі душа глыбокая, у ёй не адна свая турбота змесціцца. А ў плыткую — колькі ні гаці, усё роўна ні прыску, ні полымя. Выгляд глыбакадумны, а сам чэравам у лужыне скрабецца. Людзі такога парадку і стараюцца падмацаваць сябе знадворна. Быць у начальства на воку, паболей бразготак начапляць. Як у таго Пракоф'ева напісана: «Сем значкоў сістэмы Мопра на грудзях яго вісіць». А галоўнае ў іхніх прагненнях — улада. Хай дробненькая, не ўлада нават, а здань яе. Хочацца быць такому, скажам, не проста членам прафсаюза, а хоць узносы збіраць.

Здаецца, у Чэхава высмеяна жаданне дробнага чалавечка, каб і яго хто-небудзь баяўся, хатні сабачка, да прыкладу. А не дай божа дарвацца гэткай драбноце да якога-небудзь кіраўніцтва. Надзьме волле, як індык, пачне сваёю спінаю іншых засланяць. Усё, што зроблена імі, прыпіша сабе і будзе хапацца за кожную нітачку, каб яшчэ на прыступку падняцца. Лезе, лезе і —бух, грымнецца доле. Застанецца мокры след, і то ненадоўга. А шкоды ад такога... за гады не паправіш. Бо ён жа не пра справу дбаў, а пра ўласную асобу. І не зрабіў сотай долі таго, што падняў бы на ягоным месцы чалавек з варыстаю галавою і поўным сэрцам.

Кар'ерызм у літаратуры — гэта асабліва агідна,

Тут цяжэй арудаваць, але ўсё ж можна. Чытаеш часам: такія і такія кніжкі перакладзены ў Маскве, у Варшаве або ў Пекіне. Без памылкі можна сказаць, які твор сам за сябе пастаяў, а які «прапхнуў» аўтар, бо прыстроіўся недзе каля дзяржаўнай лавы. І пачынае расці свяціла: прыступу няма, вочы слепіць. На прыклады недалёка хадзіць. Не хочацца толькі варушыць.

Спробы накрыць унутранае надворным — справа марная. Нястачу розуму і сэрца нічым не заменіш. Як бы ўмела ні выгінаў чалавек хрыбет, расчышчаў сабе дарогу, забягаў наперад. Як бы ні кляўся ўсімі існуючымі і неіснуючымі багамі і рабіў выгляд, што цягне воз на ўсе лапаткі, у той час, калі пастронкі целяпаюцца.

Прырода мудра ўсё прадугледжвае. Атрымаў, скажам, салавей шэрае пер'е, на́ табе за тое срэбраны голас! А ўдод дастаў таленту на адну ноту: утут-ут! Таму, удодзе, каб і табе крыўды не было, насі стракатую вопратку.

Канстанцін Міхайлавіч памаўчаў і пасміхнуўся сваім думкам:

— Відаць, памылковая мая здагадка. Прырода ўмее берагчы свае скарбы. Вось і прыхавала салаўіны голас у непаглядную адзежыну. Каб драпежніку на вока не кідалася. Гэта, мусіць, больш правільна. Заўваж, папугаі — вялікія моднікі, ніводная кабета так прыбрацца не патраціць. А каторы здальнейшы, дык і вопратку сціплейшую мае. Самы здатны да размовы і пераймання так і называецца — шэры папугай. Я ў старым часопісе чытаў, што такі жако песні высвістваў, гаспадара «татам» клікаў і гасцям «дабрыдзень» даваў.

Але прырода бароніць не толькі талент, а і харастсво. На таго самага ўдода нават агаладалы коршак глядзець не хоча. Бо да яго падступіцца нельга, ад смуроду нос зрывае. Наша Тэпця ў Альбу́ці неяк хапіла ўдадзяня, яно з гнязда выпала. Каб ты бачыў, што з сучкай рабілася. Плакала, нос лапамі дзёрла, потым у руча́йку абмывацца кінулася.

Багата яшчэ ўдодаў у пільчаку і пры гальштуку каля нас спаўдаецца. Песень у іх мала, а смуроду хоць адбаўляй.

Канстанцін Міхайлавіч нешта ўспомніў, глянуў на гадзіннік.

— Пара! Я цябе падвязу дамоў, а сам у Вярхоўны Савет. Прасілі, каб абавязкова быў.

Назаўтра я знайшоў яго ў гамаку пад хвоямі на ценевым баку дома.

— Бачыш, гняздзечка. Там мухаловачкі жывуць. З гадзіну гляджу, яны паспелі трыццаць рэйсаў зрабіць. То туды, то назад. Чуеш, які піск у гняздзе? Тут лішняга моманту не пасядзіш. У малых дзюбкі разяўлены, трэба ў кожную хоць па мошцы ўкінуць. Каб чалавек мог столькі працаваць, свет бы моцна забагацеў.

Канстанцін Міхайлавіч падняўся.

— Мая работа на лета зусім занепадае. Узяўся яшчэ адну казку жыцця напісаць. Пяты дзень сяджу, а вынік слабы.

— Можа пачытаеце?

— Не пакуль што. Давай паходзім, хворы дубок адведаем, на хмары зірнём.

«Хвароба» дубка перажывалася Канстанцінам Міхайлавічам вельмі востра. У некаторай ступені ён адчуваў сябе вінаватым: папырскаў дрэўца нейкай «хіміяй», не разлічыўшы канцэнтрацыі раствору. Праўда, адразу ж пачалі абмываць глебу чыстаю вадою са шланга. Аднак дубок стаяў, скамячыўшы ніжняе лісце ў сухія кулачкі.

— Як быццам прымаразкам хапіла,— Канстанцін Міхайлавіч адарваў загінуўшую лісцінку.— Але павінен жыць. Гэта, вядома, толькі налета высветліцца.

Так яно і здарылася. У выніку многіх турбот дубок ажыў і наступнаю вясною добра развіўся, хоць і з пэўным спазненнем. Яшчэ цераз год дрэўца выперадзіла ў росце ўсіх сваіх лясных таварышаў, што прыжыліся на паэтавай сядзібе.

Канец дня мы праседзелі ў кабінеце. Канстанцін Міхайлавіч сам вярнуўся да ўчарашняй размовы:

— Пачалі мы з табой пра Купалу, але гаворка

неяк сыпла ўбок. А я прачнуўся ўночы і думаў аб ім. І пра ўсё гэтае дзейканне аб першынстве, спаборніцтве. Недзе ў Паўла Тычыны добрыя радкі ёсць.

Наглядзеў на шафу, дзе стаялі падараваныя яму кнігі, але не адчыніў. Успомніў:

> Товариство, яке мені діло,
> чи я перший поет, чи останній?

Прачытаў і адразу ж злавіў мяне на нявыказанай думцы:

— Не ўсміхайся! Я сапраўды нездарма прыгадаў Тычыну. Вось і на Украіне два прозвішчы вымаўляюцца поруч. Дый багата дзе. А хто першы? Лягчэй за ўсё тут паглыбіцца ў мудраванні. Але карысці з іх на макавае зерне. Набольш бы ў літаратуры спаборніцтваў было: без злосці, без падкусвання, без закасоўвання работы наплечніка. Рабілі б людзі, пра адно гэта толькі дбалі, і годзе.

А што такое тое першае месца? Чыё прозвішча першым называюць? Мы з Янкам першыя пачалі пісаць, у адзін час, бадай, у друк выйшлі. Праўда, пісалі, можа, болей за іншых, але ні адзін аднаму і нікому іншаму дарогі не перабягалі. І дарэмна зусім вакол Купалы і Коласа робяць голае месца: яны, бачыце, усю пару́ дарэвалюцыйную паднялі.

Нас пара падняла. Калі гэтак насыпаць курганы заслуг, дык абавязкова побач яміну выкапаеш. Завядуць катрынку, тут табе мы і «асілкі», і «волаты», і «баяны», чытаць няёмка.

А Максім Багдановіч куды падзеўся? Яго ж, каб і хацеў, з першага месца ніякай ва́гаю не зрушыш. У Купалы і Коласа амаль кожны радок выпюхалі і выслухалі на мацунак і смак. Дык зрабіце тое самае і з Багдановічам. Колькі ў яго добрай думкі, паглыблення ў лёсы краіны. «Ты крыкнуць не можаш «ратуйце!», і мусіш ты «дзякуй» крычаць». Дай бог кожнаму так пра народ сказаць. Шкада, вельмі рана ён выйшаў са спаборніцтва, калі называць гэта слова. З яго магчымасцямі можна было багата здабыць у народнай долі. Такога, што толькі яго вочы бачылі, а не мае і не Янкавы.

Цяжка рабілі мы пачатковыя крокі. Цесна ў дру-

ку было, аднак хапала месца ўсім, чыім пяром душа вадзіла. У «Нашай ніве» густы параснік падымаўся. Каб не было яго, і мы з Янкам пасохлі б. А так яшчэ і Гартны загаварыў, Бядуля, Максім Гарэцкі. Гэта таксама немалы талент, трохі навуковая работа прысушыла. Я чуў, Гарэцкі перад вайною прыязджаў у Мінск і пакінуў рукапіс рамана. Каму, не помню. Цяпер не знойдзеш, а страта, відаць, вялікая. Першая яго кніжка «Рунь» вельмі цікавая. Думка расце з глыбіні. Апісанні такія, што нібы навобмацак рэч бярэш. Каб усе гэтыя людзі жылі, галасней гаманіла б літаратура. Выкасавала іх смерць, а людзі ж не павінны забываць... Асабліва Янку.

Мне пры апошніх сустрэчах здавалася, што Купала вось-вось разгорнецца ў шырокім творы. Перагарыць яго сэрца, перагаруе ваенную бяду і абзавецца нечым незвычайным. Чымсьці накшталт «Песні аб паходзе Ігара». Вялікім помнікам, на доўгія гады. Нездарма некалі Купалу на пераклад гэтай рэчы пацягнуло.

Зараз у яго за плячыма было б чатыры вайны.

Купалава гэта тэма, яму, як нікому, падатная. Не выдзіраць асобныя лапікі з ваеннага часу, не маляваць падзеі з мурашынымі высілкамі людзей, а знайсці такую дарогу, дзе б змясціўся ўвесь народ. Каб відзён быў увесь агромністы рух ад перавалу да перавалу, праз вайну да міру. Такога твора я чакаю, сам смуткую па ім. А найбольш па тым, што не пашчасціў лёс, не даў узяцца за яго Янку. Ён умеў, а можа гэта не ўмельства, а ўласцівасць, патрэба ў адным радку даць вобраз з'явы. Сказаць аб ёй канкрэтна і ў той жа час перанесці на тысячы душ і на тысячы выпадкаў.

Табе здаралася чуць Купалавы вершы адразу ж пасля напісання? У мяне так бывала: паслухаеш і не задаволішся — слабавата як быццам. Потым трапіцца табе тое ж самае ў часопісе або ў кнізе. І здзівішся: проста і хораша! А ты не ўбачыў. Значыць, адразу не ўсё выгарнуў для сябе з твора, не прытуліў яго да душы цалкам. А мінуў час, павярнуўся твор да цябе іншым бокам і як бы выпусціў з сярэдзіны яшчэ трошкі святла.

І колькі ні перачытвай добрую кнігу, яна ўсё

лепшае. Здаецца, усё ведаеш ад лаўкі да лаўкі, а перагарнуў — і знойдзеш неўта некранутае. Значыць, навырост пашыта, з добрым запасам.

Калі расце твая душа, дык і ў кнізе кожны раз знойдзецца новы прастор для яе. Па-мойму, кнігі жывуць да таго часу, пакуль іх не толькі чытаюць, а перачытваюць.

Кнігарні нашы нагадваюць мне магазін гатовай вопраткі. Што ні памерае чытач, цесна, не на ім. Уся бяда — крой аднастайны, хоць ніткі можа і розныя сустракаюцца. А трэба краіць, каб на ўсе ўзросты і да кожнага росту пасавала!

Канстанцін Міхайлавіч запытальна падняў вочы:

— Табе здаралася перачытваць што-небудзь з майго?

Я назваў «Новую зямлю» і «У палескай глушы».

— Ад пачатку да канца?

— Як калі. Часцей за ўсё «Агляд зямлі», «Дзядзька ў Вільні». А другім разам «Воўк», «Смерць Міхала». Або толькі малюнкі прыроды з розных раздзелаў.

— Я думаў, «Сымона-музыку» ўспамянеш. У мяне з Янкам такая размова была. Ён падараваў мне новы том. Я і ўзяўся за кнігу. Засланіў «Курган» мне ўсю работу: хаджу, паўтараю. Дацягнуў да вечара і не ўтрываў: дай схаджу да Купалы, скажу яму, што вельмі гэта добры твор. Аж тут сам Купала на маім панадворку.

Янка гаворыць: «Ведаеш, Каласок, якое здарэнне? Я ўвесь дзень твайго «Сымона» чытаў. Прыбіліся да мяне спачатку радкі: «Восень прала кужаль тонкі , навуціння белы лён». Пачаў шукаць той раздзел, ды неўзаметку ўсю кніжку прачытаў. Вось прыйшоў табе сказаць». Я паказваю на кіёк, кажу, што з тым самым намерам выбіраўся да яго. Пасмяяліся мы і замачылі крыху ўзаемнае прызнанне...

Канстанціну Міхайлавічу пара прымаць лякарства. З неахвотай глытае нясмачны парашок і расказвае, як некалі аглядаў яго прафесар С. М. Мялкіх.

Скончыўшы выслухванне, Сяргей Міхеевіч запытаў:

— А што вы прымаеце?

Канстанцін Міхайлавіч паказаў рукою на столік каля ложка з бутэлечкамі і парашкамі.

Мялкіх пакруціў галавою:

— Я думаю, трымайцеся звычайнага распарадку. Тое, што ўхутвацца кінулі, добра. Асабліва дыеты пільнавацца няма сэнсу. Можаце за абедам чарачку каньяку выпіць. А ўсе гэтыя мікстуры — убок, мы іх з прафесарам Трусевічам спажывём.

Гэты выпадак потым Канстанцін Міхайлавіч расказваў многа каму з сяброў і дактарам, якія не скупіліся на рэцэпты.

— Доктар доктара па почырку пазнае. Сапраўды, напярэдадні ў мяне быў Трусевіч і навыпісваў лекаў не шкадуючы. Дык вось пра почырк.

— Мы з Купалам думалі з першых сваіх крокаў пра адно: каб як мацней народ на ногі стаў. Пра гэта і гаварылі, і пісалі ж, вядома. Але падыходзілі да пісання кожны з іншага боку: што каму больш на вока ўпадала.

Янка не вельмі любіў слухаць заўвагі, асабліва пра свежанапісанае. Аднак, калі слова гучала напраўгубы, згаджаўся і правіў. Мы з ім адзін у аднаго па радках не поўзалі, а раіцца — раіліся. Напэўна, нейкая частка яго працы ўзмацняе маю. Але не спарышы мы з ім, як малююцца ў крытыцы. Спеюць жа два яблыкі на адной галіне, сядзяць усутыч, а не зрастаюцца. Магчыма, дзе-небудзь далёка і думаюць пра нас як пра адну істоту, злепленую з дзвюх палавінак. Можа гэта і пядрэнна. Зляжыўшы разам усё, што напісалася адным і другім, паўнейшы вобраз нашага краю ўяўляецца. Каб бог меў розум і ў часе адумаўся ды злучыў нас у цэласць, пэўна, громкі голас бы атрымаўся. І ніхто б пра «спаборніцтва» языком не мяльнуў.

Вось цяпер апынуліся не ў роўным становішчы: Янка змоўк, мне аднаму дыбаць трэба. Не пагаджаюся ніяк. Усё хочацца азірнуцца на яго, паслухаць, параўняцца па ягоны крок. Нават каб ён нічога не

рабіў цянер, а проста быў. Каб ведаць, што ён тупае недзе па горадзе або размаўляе з кім-небудзь, як мы з табою! І тады б нам усім дружней было б. Ахватней бы рука па паперы хадзіла.

Таварыскасць жыла ў ім. Праз гэта многа тлуму яму парогі абівала! Сяброў сапраўдных не так многа было, а рэшта — так званыя прыхільнікі таленту, ахвотнікі кульнуць чарку. І Янка зводзіў на іх многа часу. Дый здароўя таксама. Мы з ім на поўдні лячыліся. Ну, сядзеў бы ціхенька, хочаш пі тую ваду, хочаш палашчыся ў ёй. Дык не. Праз два дні аброс кампаніяй: адна душа цікавая, а дзесяць — чыстыя падсёрбвальнікі. І зглумілі яму адпачынак.

Я тады напісаў эпіграму: «Памыецца Янка ў нарзане...»

Янка спачатку нібы надзьмуўся крыху, але, прыехаўшы ў Мінск, смеючыся пераказваў вершык, калі дзе-небудзь у гасцях да яго чапляліся з пачастункамі. Наогул жа ён больш любіў частаваць, чым частавацца.

Сустрэнешся з ім, бывала: «Здароў, Янка!» — «Здароў, Якуб!» Часамі на гэтым і гаворка ўся. А дзень пройдзе весялей і зробіцца больш. Значыць, ён табе моўчкі паспагадаў, дабра пажадаў. Чалавек заўсёды чуе, што яму другі зычыць у нутрах. Такое зычлівасці Янка меў багата. Не скажа, але ўсё роўна зразумееш, што ён душою хінецца да твае радасці або бяды.

Ад свае думкі ён не адступаўся, і з яго добры камуніст быў бы.

10 Зак. 2183

# КОЛАСАВЫ ПАДАРУНКІ

*Пошукі нажа. Зноў «Новая зямля». Дзядзька Антось у постаці бога касы. Купала і Колас выпрабоўваюць струмант. Што падараваў Канстанцін Міхайлавіч.*



— Ты маскоўскія магазіны, здаецца, ведаеш — купі мне нож.

Напярэдадні мы ехалі ў цягніку, і калі я папрасіў у правадніка начынне для перакускі, Колас пачаў кпіць. Маўляў, хто гэта выязджае з дому без нажа, і наогул, чаго варты чалавек, калі не мае такога струманту. Потым дастаў кішанёвы ножык, акуратна нарэзаў скрылькамі любоваг і накроіў хлеба, падкідаючы па слоўцу ў адрас незапаслівых бесхацінцаў і спадцішка падсмейваючыся. Значыць, нож у яго быў, і ў вагоне мы, здаецца, нічога не забывалі.

— А хіба вы той згубілі?

— Згубіў не згубіў, а зрабі мне такую ласку — купі.— І дадаў: — Выбірай, каб быў з добрай сталі, не вялікі і не цяжкі, ды каб, зірнуўшы на яго, можна было сказаць, што гаспадар — прыстойная асоба.

Апошнія словы Канстанцін Міхайлавіч крыху падкрэслівае, нібы нагадвае штосьці, вядомае нам абодвум.

У магазінах, як на тое, трапляліся не лепшыя ўзоры шырспажыву, амаль пад адзін стандарт. Нарэшце, дзесьці ў камісіёнцы, знайшлося нешта больш-менш людскае: складанчык зграбны, кішэні не адцягваў, і чаго-чаго ў ім не было! Два лязы, нажнічкі, відэлец, напільнічак, шпцэт, рэчаў семнаццаць, калі не болей.

— Лоўкая штучка! — Канстанцін Міхайлавіч агледзеў пакупку з усіх бакоў, прымераў на ўжытак

усе прыстасаванні, аднак у кішэню не паклаў. Нож паказваўся ўсім наведвальнікам: «О, бачыце, я разжыўся на старасці гадоў!»

Госці роблена і нясроблена ахалі, гаспадар здаваўся здаволеным і відавочна цешыўся, выслухваючы экскурсы С. М. Гарадзецкага ў айчынную прамысловасць з імёнамі Кандрацьевых, Кузняцовых і другіх рускіх нажавікоў. А нож як ляжаў, так і заставаўся ляжаць на стале і ў пінжак не перабіраўся.

Канстанціну Міхайлавічу давялося затрымацца ў Маскве надаўжэй.

— Весялей было ўдваіх,— ён глядзіць, як я пакуюся ў дарогу,— ды ўжо ж дабуду як-небудзь. А за тое, што мы ў згодзе жылі,— трымай.— І падаў хвалёны нож.

Мне чамусьці няёмка, адмаўляюся, як магу, але Канстанцін Міхайлавіч і слухаць не хоча.

— Тады хай вам лепшы застанецца, а мне аддайце свой, памятка будзе.

— Я ж не ў музей дарую, а дзеля гаспадаркі. Сам жа ты ніяк не дадумаешся купіць. А ўсе сур'ёзныя людзі спрадвеку мелі і маюць нажы.

Выкрыўшы свае намеры, Колас канчаткова абяззбройвае мяне:

— Бяры, бяры! Толькі давай сюды грыўню. І не смейся. Кажуць, вострага дараваць нельга. Дык мы ашукаем прыкмету.— Тут ён не вытрымлівае сур'ёзнага тону, аднак хавае маю манету ў кашалёк.— Ну вось, будзем лічыць, што ты адкупіў у мяне. Дый ён больш маладому да твару — кавалерскі сцізорык...

Словы відавочна падфарбаваны ironіяй. Відаць, усё ж нож не зусім такі, каб яго ўласніка можна было прылічыць да «сур'ёзных людзей».

— Мне і гэты добра,— спрабую пажартаваць,— а вось вам, пэўна, адзін дзядзька Антось мог бы дагадзіць...

Сапраўды, любімы герой любімай паэмы Коласа расказваў казкі, варыў клёцкі з бярозавікам, а найлепей выбіраў і падганяў начынне для касьбы.

— Ты дзён тры шукаў, а ён бы тры тыдні хадзіў ды так і вярнуўся б у Мікалаўшчыну не купіўшы. Пераборлівы быў на гэты конт. Антось меў немалы талент,— Колас ужо гаворыць не пра героя, а пра

ягонага прататыпа, свайго дзядзьку,— і вось які. Кожную работу з аднолькавай любасцю рабіў: малому свіцёлку скручваў і ўсёй Мікалаўшчыне косы выбіраў...

Колас расказвае, не шкадуючы свежых падрабязнасцей, фарбаў, адценняў, што засталіся па-за паэмай, але і дасюль жывуць ва ўяўленні.

...І ўлюбёны малюнак паэмы адкрываецца як быццам упершыню.

...Шуміць местачковы кірмаш. Бярэцца пад паўдня і, як на жніўеньскую пару, ніштавата прыпякае. Хвалямі наплывае чалавечы гоман, пах ігруш і кмену, водар прывялае асакі з фурманак. Гукаюць і нокаюць цыганы, выхваляючы спрыт і складнасць выведзеных на продаж кляч, сварацца перакупкі, вырываючы адна ў адной тлустую качку, вішчаць падсвінкі, мыкаюць каровы і выпусткі, кукірэкаюць здуру, спадзеючыся на лепшы лёс, маладыя пеўнікі ў клетках. У мучным і жытнім радзе — цішэй, тут пакупец сур'ёзны, торг ідзе спраўжна. Далей — горы яблыкаў, гуркоў і сліў распіраюць палукашкі. Убаку, за цэлым лесам паднятых угору аглобляў,— сталы і яткі са свежай баранінай і кавалкамі леташняга, прыжоўклага сала.

Тыя, хто паспеў растаргаваць прывезенае дабро, перакусваюць тут жа, каля вазоў. На прыкрытай дзяружкай саломе — кватэрка «манапалькі», жытні хлеб з хатняй печы і крыху чаго тлусцейшага на заедку. Прылажыліся да кантовага кілішка раз-другі, і вось падвяселеныя сваты і кумы, цесці і зяці пачынаюць спрабаваць галасы.

Каля крамы з жалезным таварам, куды амаль не далятае ўвесь гэты гáлас і тлум, мружыць вока на сярпы, секачы і рыдлёўкі каржакаваты чалавек. Яму душна ў саматканай світцы і гáматных, запраўленых у юхтовыя боты портках. Але тая мэта, што прывяла яго сюды, вымагае і пэўнай строгасці ўбрання. Дзядзька доўга прыглядаецца да выкладзеных на прылавак кос. Нарэшце аблюбаваў і хуценька выхапіў адну, быццам збаяўшыся, каб не перашкодзіла што, каб не перабег нехта дарогі. Перш зірнуў на

кляймо — віленскае, там у майстроў добрыя рукі, агледзеў нос і пяту — усё ў меру, не даў браку; кра-нуў кіпцем лязо — прудкае, ліха на яго, даў пстрыч-ку па абушку — звініць!

Прычапіцца, каб і хацеў, няма да чаго, значыць, з такою касою можна і загаварыць. Ён яшчэ больш паглыбляецца ў сябе. І ўжо не сярэдніх год чалавек у кашулі з вышыванай грудзінаю выбірае сабе на-дзейную памочніцу для самай цяжкой работы, а ні-быта слуга алтара святасвяшчэннадзейнічае, чакаючы таемнага голасу з неба.

Шапка заціснута ў каленях, вецер абвявае пры-пацелыя валасы, аблічча набывае ўсё болей урачы-стасці. Ён сапраўды чакае голасу: скажа — «Каса!», і яна павінна адгукнуцца. О, падала-такі голас! Дзядзькаў твар святлее: добрая!

Антось стаіць на ўтоптаным рыначным пляцы — акурат бог ва ўяўленні старажытных. Амаль што антычны, бог працы, мясцовы, мікалаеўскі, які ро-біць пульхным няўдзячны загон, вершыць стагі па сенажаці, ганяе плыты з Нёмана аж у мора і пры вы-падку не размінаецца з чаркай і песняй.

Малюнак, рассунуўшы сцены гасцінічнага пакоя, некаторы час трымаецца перад вачыма, як раптоўна спынены, нерухомы, так званы стоп-кадр у кіно. Пад голас Канстанціна Міхайлавіча экран памяці паволі цьмяніцца і зноў набывае поўную сілу люстра пад столлю.

— Антось казаў, касу трэба адкасіўшыся выбі-раць, не спяшаючы. І рабіў гэта мудрэй, чым маскоў-скі патрыярх велікодную ютрань служыць...

Колас змаўкае. Відаць, не хоча разлучацца з ты-мі даўнімі, ім самім выкліканымі вобразамі. Не ад-ступаецца кірмашовае відовішча і ад мяне. Ні па дарозе на вакзал пад плюханне машыны праз шэрую калатушку мокрага снегу, ні на вагоннай паліцы, ка-лі ў шырокае акно лепяцца бухматыя адліжныя сня-жыны, а пасля палявая завея з подсвістам сыпле жменямі дробную крупку.

Рупіць і рупіць не ўціхаючы: ці толькі зараз пад-няло і павяло мяне за сабою Коласава ўяўленне?

А ці не быў я некалі раней саўдзельнікам чагосьці вельмі падобнага да выбару касы, ці не прысутнічаў пры такой цырымоніі асабіста?

Шукаючы адказу, слухаю завею, і ў ёй ажываюць развітальныя словы Канстанціна Міхайлавіча:

— Каб давялося складаць беларускую міфалогію, я перш-наперш абвясціў бы Антося богам касы. А Міхала, свайго бацьку, богам лесу. Ты думаеш, яны з неба падалі, розныя багі? У пісанні сказана, нібыта бог стварыў чалавека па сваім вобразе, на свой кшталт. Не, усё наадварот: чалавек падганяў па сабе бога. З тых, што былі старэйшыя ў доме, каго хатнія паважалі і баяліся. Нярэйдзе такі старэйшына ў кола нябожчыкаў, аддаліцца ад жывых на адлегласць прапрадзеда, і гатова: паданні аб спрыце, сіле, адважнасці, німб вакол галавы.

Бог касы і бог лесу! Колас надзяляе створаныя вобразы дакладнымі імёнамі, нібыта сапраўды робіць подпісы пад іх партрэты ў міфалагічнай хрэстаматыі. І сам аказваецца ў найбліжэйшым сваяцтве з імі, у такой самай постаці, за такой самай працай.

Успамінаю Канстанціна Міхайлавіча з касой каля свайго дома. Ён сіліцца выкасіць траву між кустоў, але немаведама дзе ўзятая каса не бярэ, пахістваецца на коссі і не паддаецца ні мянташцы, ні асаджванню малатком. «Недосак!» кідае зняважліва змакрэлы касец і сядае пакурыць.

Завея гоніцца за мной усю ноч, стараецца не астацца ад цягніка. І ў ранішнім сутонні на чыгуначным мосце каля Барысава дагнала, закруціла, закурыла, заслала белай пацярухай далечы. І раптам апала долу і разам з позпім сонцам выгарнулася са снежнага кужалю і лёгкага прадзіва ўспамінаў такая самая калючая і вятрыстая раніца...

Год дзесяць назад... Таксама — Масква. У квадратовым вялікім пакоі два чалавекі. Добрыя і зацятыя, усмешлівыя і крыху ўгневаныя, яны ўпарта адстойвалі кожны сваё. Размова ішла горача, але і ў

самыя вострыя моманты яны не трацілі здольнасці зірнуць на сябе і на прадмет спрэчкі зверху ўніз, як дарослыя на дзіцячыя гульні.

Гэта былі Колас і Купала. І спрачаліся яны не пра што іншае, як пра нажы — чый лепшы?

Усё, што так настойліва трывожыла цэлую ноч, раптам узнавілася ў памяці.

У канцы Малой Пірагоўскай, дзе я тады жыў, моцна задзімае. Завеяны і акалеўшы, пераступаю з нагі на нагу — пазнюся на работу, а трамвая няма і няма.

Праз снегавую імглу ад Нова-Дзявочага манастыра пасоўваецца постаць, не пазнаць якую нельга, а паверыць, што пазнаў, таксама немагчыма. Бо адкуль жа тут узяцца Коласу, ды яшчэ так рана?

Аднак гэта ён, ідзе насустрач, падае руку, адгукаецца на абвыклае са студэнцкіх год: «Дзеньдобры, дзядзька Якуб!» — такім жа абвыклым: «Здароў, галубок!»

Пачаў працу VII з'езд Саветаў. Яны прыехалі разам з Купалам і жывуць у новых дамах каля манастыра. Вось Колас і выйшаў па сваім прызвычаенні, патупаць перад працоўным днём. Запрашае заходзіць, тым больш што мой дом поблізу.

Пагаварыць вельмі нецярпілівілася. І я, вядома, апараніўся, не даў людзям перадыхнуць пасля дэлегацкіх турбот, атак карэспандэнтаў, выдавецкіх спраў.

Аднак яны і не збіраліся спачываць. Перад Коласам ляжала недапісаная паштоўка, а Купала распытваў дзяжурную, дзе бліжэйшая аптэка,— яму спатрэбілася лякарства.

Яны адразу ж вярнуліся да недакончанай, мусіць, перад маім прыходам размовы. Даклад Сярго Арджанікідзе аб прамысловасці пакінуў незабыўнае ўражанне, паэты прадчувалі новую індустрыяльную будучыню Беларусі. Не менш абяцалі і захады, якія збіралася зрабіць краіна ў гадоўлі жывёлы.

Уражанняў не пазычаць — прыгадка змяняе прыгадку, адзін малюнак саступае месца другому.

Я слухаў, рады магчымасці пабыць лішнюю хвіліну з людзьмі, каго тады не так часта шанцавала бачыць. Аднак, асабліва расседжвацца нельга. Гля-

джу на гадзіннік, каб, зачапіўшыся за позні час, падняцца. Але Канстанцін Міхайлавіч вельмі добразычліва затрымлівае, пытае, як наводзіцца тут, у Маскве, як заработкі, ці хапае ведання рускай мовы для работы ў выдавецтве. Адказвацъ даводзілася стрымана, не скардзіцца ж ім на свае нягоды!

Колас, відаць, адчуў гэта і перавёў гаворку на галоўнае.

— Толькі пісання не закідай. Давай хоць заметкі, водгукі на кнігі. Потым і што большае надрукуецца.

Як ні ўцешна было чуць спагадлівае слова, мяне бянтэжыў Купала. Выгляд у яго быў не з лепшых ча́саў, гартаючы на канапцы «Крокодил», ён неўзаметку пазіраў на ножак.

Канстанцін Міхайлавіч угадаў мае намеры адвітацца і падсунуў сподак з яблыкамі.

— Укусі на адыход. Нашы антонаўкі. Ёсць жа ў людзей сакрэты: яблыкі да новых далежваюць. Калі хочаш, абірай,— ён выгарнуў з паперы, відаць нядаўна куплены, складанчык.— Чаго касавурышся? Гэта ўсім нажам нож,— у голасе ў яго пачулася адценне ці то перавагі, ці нават лёгкае пахваляння.

Нож быў просценькі, у касцяных ці нават драўляных тронках і, праўду кажучы, асаблівага ўражання не рабіў.

Гэта і зазначыў, пасмейваючыся, Купала. Я і не зглядзеў, як ён паспеў апынуцца поруч. Колас занярэчыў. Маўляў, не ў выглядзе справа, а ў фірме, і паказаў кляймо славутай у тыя гады арцелі.

— Вось я і кажу — нічога асаблівага,— паўтарыў Купала,— і ў мяне гэтакае дабро ёсць.— Ён паклаў на стол акурат такі ж самы ножык.

На Коласавы словы, што мала купіць, а трэба ўмець выбраць, Іван Дамінікавіч прадэманстраваў цэлы шэраг выпрабаванняў. Дыхаў на лязо і сачыў па гадзінніку, як знікае туманок запацеласці з паверхні: хутка, значыць, сталь добрая. Потым прыціскаў дзюблік пад вялікі палец на рагу стала і лёгка біў па тронках. Нож глуха трымцеў, а калі вібрацыі аціхалі, падспеўваў тонкім голасам. І гэта неблагая адзнака! Затым аднекуль з'явілася тоўстая іголка, з яе дапамогай было вызначана, як паддаецца лязо вастрыню і ці будзе трымаць вастрыню. Нарэшце гля-

дзелі, на колькі ўбіваецца кончык нажа ў фанерку, падаючы з паўметровай вышыні. Тут прыкідалася на вока р а з а ц к а я, як сказаў Купала, адольнасць струманту.

Падобныя маніпуляцыі, можа толькі ў іншай паслядоўнасці і з пэўнымі варыянтамі, прарабіў са сваім нажом і Колас. Вось тут і занялася спрэчка: хто ж зрабіў больш удалы выбар? Пайшлі доказы, пярэчанні, падхвальванне свае пакупкі. Пасля агледзеліся, што пад час выпрабаванняў падобныя цюцелька ў цюцельку нажы пераблыталі, і вызначыць, каму які належыць, немагчыма.

— Смех смехам,— сказаў Купала,— а як дзяліць будзем?

Выручыла «камуканне» — Канстанцін Міхайлавіч помніў надзейны спосаб дзяльбы з настаўніцкай семінарыі.

— Стань тварам да дзвярэй,— закамандаваў ён мне і спытаў: — Каму?

Не помню, чыё імя я назваў першае, але спрэчка аб прыналежнасці нажоў гэтым не вырашылася. Пазней расказвалі, што, вярнуўшыся ў Мінск, сябры не-не дый падкпівалі адзін з аднаго.

— Дзякуй, Каласок, хвацкі ты мне нож купіў,— гаварыў Іван Дамінікавіч, намякаючы на блытаніну.

— І ў мяне няйначай, як твой,— аджартоўваўся Колас.— Не рэжа, а голіць. Адразу відаць — чалавек сабе выбіраў.

З розных паездак і падарожжаў паэты прывозілі нажы. Верх па якасці браў то адзін, то другі: Купала вярнуўся з Карлавых Вараў, набыўшы нейкі ледзь не адзіны экземпляр. Праз некаторы час школьны таварыш падараваў Коласу унікальны выраб фабрыкі Заўялава, падкасіўшы замежнага прэтэндэнта на пяршынства. Шансы ўраўнаважваліся, пакуль новы набытак з чыйго-небудзь боку не выклікаў прыкметных хістанняў. Вось як зараз...

Купала і Колас пабралі свае пераблытаныя трафеі і ўзяліся замацоўваць дадзены мне ўрок тонкага майстэрства выбіраць нож. Гэта былі, так сказаць, метадычныя парады:

— Нож павінен быць такі,— казаў Колас,— каб

можна было выразаць кій, накрышыць тытуню, накроіць хлеба, ну і часамі корак выцягнуць.

Купала слухаў і ківаў галавою. Пакуль не дайшло да шыла і адвёрткі.

— А нашто яны табе?

— Бывае, у стрэльбе што прыкруціць або вушка ў боце адарвецца,— вочы Коласа ўсміхаліся.— Ды я не пра сябе, людзям патрэбна.

— Хіба што! — хмыкнуў Купала.— Але на розныя налады ёсць майстры, яны чысцей робяць. Ты ж сам першы клічаш ісці ў нагу з прагрэсам. Цяпер скрозь спецыялізацыя, дык нашто ляпіць усе прычындалы ў адзін нож? Выпускай на кожны густ і патрэбу: садоўніцкія, паляўнічыя, дарожныя.

Канстанцін Міхайлавіч не мае нічога супроць.

— Мы ўсе ў дарозе,— гаворыць ён.— Мала якое здарэнне можа натрапіць падарожнага. Яму трэба добрую снасць у рукі.

Купалаў твар на момант перасмыкваецца, няйначай, абзываецца нядужасць. Але ён авалодвае сабой і дадае яшчэ адно пажаданне, напаўжартліва:

— Галоўнае, каб, зірнуўшы на нож, можна было сказаць, што гаспадар яго — прыстойная асоба.

...Ваенныя і вандроўныя гады моцна прыпарушылі тую сустрэчу. Па дарозе з Масквы я адгарнуў апалае лісце дзён і што ўспомніў, што аднавіў па запісах 1935 года.

Выходзіла, Канстанцін Міхайлавіч, выпраўляючы мяне пашукаць добрага нажа, дакладна паўтарыў колішнія Купалавы словы. І нават вымавіў іх асабліва, відаць, думаў, што і я помню ўсю цырымонію выпрабавання. А можа быў не супроць паўтарыць яе і праз гэта прыгарнуцца сэрцам да адышоўшага сябра, да ўсіх людзей, якія ўмелі і любілі рабіць усякую работу.

Не дзівацтва, не калекцыянерская прагнасць, нават не жаданне мець лепшую, чым у каго іншага, рэч штурхалі Купалу і Коласа на раздабыткі новых узораў нажовай вытворчасці. Нястомныя ў працы і пошуку іншых скарбаў, яны такім чынам як бы прыядноўваліся да высілкаў многіх і многіх майстроў.

тых, што выраблялі безліч гатункаў гэтага інструменту, і тых, хто карыстаўся ім. З аднаго боку выстрайваліся густыя шэрагі рудазнаўцаў і рудакопаў, сталявараў і прэсавікоў, гартавальнікаў і паліроўшчыкаў, з другога было яшчэ гусцей: землепраходцы, садаводы, марскія вандроўнікі, пасажыры, паляўнічыя, горныя і селавыя пастухі. Нож быў рэччу выключнай у гэтым сэнсе: патрабуючы немалога ўмельства для свайго вырабу, уладаў і агромністай аддачай.

Для Купалы і Коласа ў старажытнай прыладзе працы, здабывання ежы, абароны і нападу як бы сінтэзаваўся поступ чалавецтва ад дасканаласці і вяршынь культуры. Дарма, што прылада гэтая часамі траплялa ў рукі подласці, падступнасці і фанатызму. Дабрадзействы яе — незлічоныя!

Перад вачыма паэтаў гарталася шматвяковая гісторыя, прыгадваліся далёкія і блізкія прыклады, як на ўсіх неаглядных шляхах, аж да каменнага веку, выручаў чалавека і служыў яму на дабро — нож. З ім, крамнёвым, бронзавым, стальным, нарэшце, чалавечая мужнасць ратавала жыццё, адстойвала добрае імя людзей, а чалавечае ўмельства вызваляла ад болю, выклікала на свет творы мастацтва, затоеныя ў кавалку дрэва, скручвала дудкі з вярбіны.

Вось, бадай, і ўся навука, якую перадаў Колас разам са сваім падарункам. Я даўно ўжо не нашу таго чорнага ножыка ў кішэні, не бяру ў лес, нават не вастру ім алоўкаў. І трымаю не на стале, а ў шуфлядзе — каб не выраслі часам ногі. Праўда, не пахваліў бы за гэта дзядзька Якуб: нашто тая рэч, калі на яе можна толькі глядзець! А я толькі гляджу... Але чую яго мудрыя парады, аднаўляю галасы мінулага, стараючыся ўслухацца ў тое, што будзе.

І сам гавару з людзьмі, жыву з імі...

# НЕ САТВАРЫ САБЕ КУМІРА

*Подых часу. Вінакуравы вусы. Перачытванне Караленкі. Час патрабуе праўды. Крытыка і самакрытыка. Недатыкальнасць.*



Лета 1953 года.
Масква.

Ідзе сесія Вярхоўнага Савета СССР. Канстанцін Міхайлавіч вярнуўся з пасяджэння. Зморданы, але ўсмешлівы.

— Як быццам нічога не змянілася. І людзі ўсе тыя самыя, і зала тая, і распарадак работы знаёмы... А паветра стала больш. І вачам нібыта святлей.

Сядлае нос акулярамі і бярэцца за кнігу. Чытае дзённікі Караленкі вось ужо некалькі дзён.

З паўгадзіны моўчкі гартаюцца старонкі. Потым кніга адкладаецца ўбок.

— Тут многа цікавага. Чытаў? Добра сказана, якім павінен быць пісьменнік. Але складана крыху. А як сказаць прасцей? Пісьменнік — той, хто можа прымусіць чалавека заплакаць, а праз хвіліну выкліча на яго вусны ўсмешку. Былі пісьменнікі, катавалі чалавечую душу ў сваіх творах. Відаць, думалі такім чынам прывабіць да светлага, лёгкага. Але найбольш выразна крайнія душэўныя рухі чалавека спалучаюцца ў Гогаля. Я схіляюся перад ім.

Гогаль — адзіны ўплыў, які ён прызнае, нават крыху ганарыцца ім. Заканчваючы трылогію «На ростанях», камусьці з членаў суда «начапіў» вусы гогалеўскага вінакура, падобныя на заціснутую пад носам мыш.

— А як будзе з вусамі? — асцярожна спытаўся я, прачытаўшы раздзел.

— Хочаш сказаць — не маё? Ну, што ж. Я ж не вінаваты, што Гогаль раней жыў і ўзяў ды прыдумаў першы.

Патрымаўшыся на сваім з тыдзень, перад здачай рукапісу ў часопіс — «вусы» ўсё ж выкасаваў.

Зараз Канстанцін Міхайлавіч не хоча развітвацца з Караленкам.

Чытае з адгорнутай старонкі:

«...Руская думка ўжо не маўклівая і заяўляе сябе. Думка пераходзіць у слова. А слова — шукае таксама і свайго выражэння, якое называецца справаю.

Думка, слова і справа — гэта тры ступені, па якіх рухаецца гісторыя».

Памаўчаў, узважваючы прачытанае, і пачаў:

— Помніш справу вацякоў? Іх абвінавачвалі ва ўжыванні чалавечай крыві. Караленка не збаяўся стаць супраць усяе махіны царскага суда. Вялікі праўдалюб ён. І не толькі любіў праўду, а ўмеў і пастаяць за яе. Вось такі і павінен быць пісьменнік. Сапраўдны.

Час патрабуе самай чыстай праўды.

Нядзеля.

У Тушыне павінен быць авіяцыйны парад. Радыё абвяшчае: з прычыны дрэннага надвор'я святкаванне адкладаецца. А надвор'е ўзяло і разгулялася.

Канстанцін Міхайлавіч пасмейваецца:

— Пагода адбылася, а вось прагноз, нават у межах адных сутак, падкачаў.

І нечакана перайшоў на літаратуру:

— Няма ў нас майстроў на прагнозы. Крытыка аднабаковая, без мыслі, без святога агню. Зараз палепшала, малавата, праўда. Хіба што моладзь паможа. А да вайны! Які артыкул ні разгарні, адусюль вытыркае аблуплены носік аднаго і таго ж крытыка. У меру асцярожненькі, у меру падхалімны або нахрапісты. Былі і гібрыды — заядла ціхманыя. А можа герой Ільфа і Пятрова не знайшоў другога жыцця ў «Залатым цяляці», уваскрос і падаўся ў крытыку!

в Астапа стаў Лукою і ўкараціў на адну літару прозвішча. Трываласць зайздросная! Пасля нас заснаваў павуціние ў новым месцы. Так і глядзі, зноў пачне таптацца па літаратуры. Яго ж напарнікі аджываюць пакрысе.

Самае паганае — крытыка з аглядкай на асобу. Тое самае, за што цябе, скажам, абняславяць на ўвесь свет, мне прынясе лаўры. Цяпер «Новая зямля» — і філасофія, і энцыклапедыя, і выключнае майстэрства... А не так даўно: кулацкая мара, прыземлены бытавізм, дзеяслоўныя рыфмы — і ўся гаворка.

Тады за ўзор лічылі п'есу адну, сшытак дрэнных рыфмаў. Праўда, пачатак лоўкі ў яе быў, уголас не вымавіш: адразу ж з лаянкі. Тут знаходзілі: глыбіннае раскрыццё сучаснасці і найноўшае светаадчуванне. І каб жа не ведалі, што за смак, ведалі... А ніводная душа не адважвалася сказаць праўду. Аўтар быў недатыкальны. Праз гэту бяду і застой. З нашай паэзіі апошняга дзесяцігоддзя перад вайною многа можна смела выкасаваць.

Паэзія не даруе слоўнай разбэшчанасці. А мы зноў маўчым, і цяпер зноў пільнуемся недатыкальнасці. Для некаторых. Іх хваляць, а яны пэўным і цвёрдым крокам ідуць усё далей, уніз.

Гаворка пра недатыкальнасць аднавілася ў Мінску амаль перад канцом года.

— Чытаў? — сустрэў мяне Канстанцін Міхайлавіч, падаючы нумар газеты з вершаванымі слупкамі.— Прынёс дахаты рукапіс, прысвячэнне мне паставіў. Усё водгуку чакаў, бо пра лес напісана. А што яму сказаць? Па-першае, так наследуе мне, што чытаць няёмка. Лёгка ў яго пячэцца...

Прыкмеціўшы ў мяне ўсмешку, Канстанцін Міхайлавіч раптам угневаўся:

— І няма чаго лыбіцца. Хочаш сказаць, што я за яго слова закідаў?.. Дык хай бы рабіў найлепей.

Канстанцін Міхайлавіч прыгадвае адзін выпадак і рагоча.

Некалі мы пілі піва ў часовай драўлянай будыніне на Купалаўскай вуліцы, дзе зараз стаіць цырк. Колас жаліўся:

— Не далі сёлета ніводнай прэміі на Беларусь.

Я вельмі хацеў, каб наш кандыдат атрымаў. Агітаваў усіх і творы яго ўголас чытаў...

— А не спявалі часам, дзядзька Якуб? — жартліва спытаўся Танк.

— Лоўка падсек мяне Максім,— смяецца Колас ад прыгадкі.— Так і трэба, не распінайся за абы-што. Ну, бог з ім, хто колькі мае, так і грае. А наогул — хлопец вясёлы і не дурны тоіі мойі пратэжэ. І дружыць з ім можна, асабліва калі ты яму патрэбен.

Шматгадовае знаёмства і раптам — горкія словы, у першую чаргу для самога сябе. Частыя паўзы разрываюць нашу гаворку. Аднак у расчараванні ён прызнаецца мужна: было? было!..

Канстанцін Міхайлавіч пераходзіць на паэзію, бярэцца за асобныя творы.

— Чытаў адну рэч. Чакаў, можа чалавек з'явіцца, хоць няўдаленькі. Няма. Значыць, і твора няма.

Аўтара Канстанцін Міхайлавіч не назваў. Паказаў на бакавы столік, куды адкладаліся прачытаныя кнігі, там ляжала некалькі нумароў «Полымя» за мінулыя гады.

Часопіс разгарнуўся якраз на назве твора, выходзіла, што гэтая рэч не так даўно чыталася. Канстанцін Міхайлавіч пацвердзіў здагадку:

— Так кепска ўсё, што нават нічога не падкрэсліў.

Колас ведаў вагу свайго слова і дарэмна не кідаў пахвалы ці асуджэння.

— А думаеш добра, што мне ніхто не гаворыць праўды ў вочы. Нават ты.

Канстанцін Міхайлавіч меў рацыю. Я нясмела запярэчыў, што стараюся сумленна выконваць нашу ўмову на гэты конт.

У адказ пачулася катэгарычнае пытанне:

— А як ты мяркуеш пра маю «Адплату»? Маўчыш? Значыць, ухіляешся ад адказу. Я ж цябе не першы дзень ведаю. Ты ні разу не загаварыў пра гэтую паэму. Не падабаецца. Што б гэтак і сказаць. Не, недатыкальнасць!

Канстанцін Міхайлавіч пачаў збірацца да знаёмых на сямейную ўрачыстасць.

Надзеў капялюш і вярнуўся з парога:

— Не сатвары сабе куміра. Хоць гэта і бог з Маісеем прыдумалі, а сказана ўдала. А мы стварылі. І духу ягонага яшчэ выдыхаць не можам. Самі пнёмся ў большыя і меншыя кумірчыкі. Але папомніш маё слова: вялікая праўда недзе каля дзвярэй.

Ды не глядзі на мяне вялікімі вачыма. Раздзярэцца заслона, якая адлучае праўду ад няпраўды, учарашняе ад сягоняшняга, а сёння ад заўтра. Можа, я не дачакаю, дык ты ўбачыш.

# ДОЖДЖ, УРАДЖАЙ І ПАЭЗІЯ

*Малітва аб дажджы. Сяўба жыта старадаўнім спосабам. Паэма, напісаная на зямлі. Навука пісаць вершы. Два варыянты страфы. Рэцэнзія для сябе. Мядзяныя бляшкі і залатыя аздобы. След кроплі на пяску.*



— А ведаеш, што ў мяне самае асноўнае ў творчасці? Гэта прага да вады, проста малітва аб дажджы. Я ўсё жыццё клічу ўраджай на наша поле.

Усміхнуўся, памаўчаў.

— Праўда, ён мала палепшаў. Але не таму, што я кепска прасіў. Я зрабіў для гэтага ўсё, што мог.

Вясною 1952 года ён пазваніў мне:

— Прыязджай, будзем жыта сеяць.

— Хто ж цяпер жыта сее? Хіба яравое?

— Не яравое, а самае сапраўднае...

Жыта Канстанцін Міхайлавіч сеяў у сябе пад вокнамі кожны год на ўчастачку велічынёй з клумбу пад кветкі. Глеба ў садзе пясчаная, ураблялася і гнаілася яна прыкладна так, як у калгасах сярэдняга дастатку. Сабраўшы зерне з свае клумбы, Канстанцін Міхайлавіч прыкідваў, як выглядае ўраджай года наогул. Жыта сеялі звычайна ўвосені... Што ж будзе цяпер?

Італьянец Гваніні, праслужыўшы дзесяць год ротмістрам у Віцебскім замку, пакінуў пасля сябе хроніку, выдадзеную ў 1578 годзе на лацінскай, а ў 1611 годзе — на польскай мове. Дазнаўшыся з пераказу хронікі, як сеялі жыта віцябляне ў канцы XVI стагоддзя, Канстанцін Міхайлавіч вырашыў праверыць той стары спосаб, паставіць дослед.

Ён пасеяў вясною зерневую сумесь: дзве часткі ячменю і адну частку жыта. Дослед удаўся, і Колас,

які пачаў у жарт называць сябе «аграномам-вопытнікам», надрукаваў у цэнтральнай і мясцовай прэсе артыкул аб выніках сваіх спроб пад назвай «Справа, якая заслугоўвае ўвагі».

Вось што пісалася там:

«Ячмень падняўся добры, але радкаваты, жыта тулілася ўнізе. Пасля таго як быў зжаты ячмень, жыта пачало моцна расці і ў канцы верасня стала вышэй калена, яго давялося скасіць... Вясною 1953 года... дзялянку пабаранавалі... Жыта падскочыла ўгору, пасля нармальна выкаласілася, адкрасавала і налілося.

Кожнае зерне дало куст да 20—25 сцяблін па 160—170 сантыметраў вышынёй, каласы былі сярэдняй даўжыні — 12—14 сантыметраў. З дзялянкі 40 квадратных метраў сабрана 8 кілаграмаў жыта».

Гэта паведамленне абудзіла значную цікавасць даследчыкаў, калгаснікаў, аграномаў. Пошта Канстанціна Міхайлавіча стала куды больш важкая. З усіх бакоў Савецкага Саюза пачалі ісці лісты, запытанні, просьбы ўдакладніць апісаны спосаб сяўбы. Адпаведны дослед быў закладзены на ферме Акадэміі навук.

Справа сапраўды заслугоўвала ўвагі: з аднае дзялянкі зямлі пры тых жа самых затратах працы атрымлівалася два ўраджаі і ўкос руні на корм ці на сілас.

Апроч таго — і жыта і ячмень былі чыстыя, пустазелле не магло прабіцца наверх і гінула.

Пачатак свае гісторыі жытняя клумба брала з ваенных гадоў.

— Вярнуўшыся з Ташкента ў Клязьму, пачаў я сельскай гаспадаркай займацца,— успамінаў Канстанцін Міхайлавіч.— Пасеяў грэчку. Расла яна спачатку ў пакоі, а пад канец красавіка — высадзіў у грунт. Так я пасля паездкі ў Гомель надумаўся. Там людзям не было як сеяцца,— вайна блізка, дай, думаю, хоць я зерне ўкіну. Пра гэты клопат нельга забывацца. Дзе б ты ні быў, як бы скрутна ні прыходзілася — усё роўна сей... Дык у Мінску і пачаў я засяваць гэты палетак пад вокнамі.

Канстанцін Міхайлавіч пажартаваў і зараз жа дадаў зусім сур'ёзна:

— Усе свае паэмы я пісаў на паперы, а вось адну паспрабаваў — проста на зямлі. Хто яго ведае, што лепш? Праўда, сюжэт запазычаны, але ў народа, а гэта не забараняецца...

Канстанцін Міхайлавіч заўсёды радаваўся, даведваючыся з ліста ці з размовы, што прапанаваны ім спосаб сяўбы знайшоў дзе-небудзь яшчэ аднаго прыхільніка.

Такім чынам, павышаная цікавасць да прагнозаў надвор'я па радыё (ён слухаў іх рэгулярна, два, а то і тры разы на дзень — мясцовыя і з Масквы), да народных прыкмет, якія паказваюць на змену надвор'я (дым сцелецца, сонца заходзіць за хмару, гракі і вароны аблепліваюць дрэвы на сядзібе), штодзённыя размовы з барометрам, пагрозы ўтапіць яго, гада пячанага, вершаваныя прысвячэнні гэтай свавольнай прыладзе, усё, што старонняму воку магло здацца шматгадовай прывычкай ці нават дзівацтвам, паўстае перад намі ў праўдзівым жыццёвым святле.

У лістападзе 1947 года мы з Данілам Канстанцінавічам, прыехаўшы ў Кіславодск, дзе Канстанцін Міхайлавіч захварэў, падаравалі яму кнігу «Народное погодоведение». Крыху паспешліва, з патугаю на гумар, быў зроблены і надпіс:

Паміж кіслых він і водаў
Гэтым слаўнае зямлі
Гэту кніжку пра пагоду
Для цябе мы здабылі.

Усю дарогу дамоў ён чытаў той зборнік народных прыкмет і цешыўся, тлумачачы нам, якія з іх супадаюць з ягонымі ці наогул з беларускімі.

— Прыкметы на пагоду па ўсім свеце аднолькавыя,— казаў Канстанцін Міхайлавіч,— толькі мы не ведаем іх. Неяк у Ташкенце мы з Марыяй Дзмітраўнай пабіліся аб заклад. Уставалі клубястыя хмары, і я казаў, што сонца абавязкова сядзе ў хмару. Але я не ведаў яшчэ, хоць у нас гэта прыкмета верная, ці паказвае яна тут на дождж. І ўпэўніўся: назаўтра сабралася вялікая навальніца.

Ты не бачыў Чымгана? Ён некалькі разоў на дзень змяняе ўбранне, як франт-рызыкант. Усё ў по-

вых фарбах паказваецца. А выходзіць, што ў гэтых зменах ёсць прароцтва, якога надвор'я можна чакаць.

Я любіў глядзець на Чымган вечарамі. Хмары nазвісаюць над ім і, здаецца, вышыню гары павялічваюць. Там і ўзнік верш пра Чымган. Я сядзеў пад арэхавым дрэвам і назіраў за хмарамі. Напісаў нешта за два дні.

У Ташкенце я добра такі напакаваўся ўзбекскімі прыкметамі. Кожную вольную хвіліну аддаваў назіранню.

Сяджу, бывала, каля акна, пакуль не закалышу Сірыус. Гэта значыць, пакуль вочы не пачнуць зліпацца і зорка заскача на даляглядзе...

Жывучы ў Каралішчавічах, дзе дом з усіх бакоў наглуха закрыты хвоямі, Канстанцін Міхайлавіч штодня, як ні цяжка яму было хадзіць далёка, рабіў вялікі круг па дарозе, каб выйсці на чыстае месца і разгледзецца, ці не збіраецца дождж.

У засушлівае лета 1951 года трэба было бачыць, як кожны дымок з балота, дзе ўзгараліся тарфы, часцей за ўсё праз нядбальства і неасцярожнасць, выклікаў у яго душэўны і фізічны — літаральна фізічны! — боль.

— Найдарожшае наша багацце ідзе на вецер,— казаў ён глуха, нервуючыся і злуючы.— І ніякай рады не знаходзіцца.

Тады ж рана і ўвечары званіў у бюро прагнозаў, пытаўся, ці не чуваць дажджу.

Адтуль ветліва адказвалі, што як толькі з'явіцца падзея, паведамяць самі, прасілі не турбавацца.

Канстанцін Міхайлавіч уздыхаў, вешаў трубку, кіраваўся да барометра, трос яго, даваў пстрычкі і зноў варочаўся да тэлефона. Званіць паўторна сэнсу не мела, але перад вечарам, зрабіўшы не менш за дзесяць падыходаў і адыходаў ад апарата, ён набіраў завучаны на памяць нумар і зноў пачынаў допыт дзяжурнага па бюро прагнозаў:

— Дык што чуваць з дажджом?

Пачуўшы адказ кшталтам «не ведаю», рабіўся стражэйшы:

— А што ж вы, дазвольце спытаць, ведаеце? Ну,

хоць скажыце адчэпнага, што збіраецца і будзе хутка. Можаце вы так супакоіць чалавека?

Нарэшце доўгачаканая вестка была паведамлена. Дождж сабраўся надвечар і ішоў праз усю ноч.

Канстанцін Міхайлавіч, чакаючы першых кропель, сядзеў у садзе, стаяў, пакуль не змок, на ганку і каля расчыненых балконных дзвярэй.

— Ідзі, братка, ідзі! — угаворваў ён дождж, як нейкае слухмянае, але пужлівае стварэнне.— Пабудзь з намі хоць бы з тыдзень...

А назаўтра накупляў поўныя рукі пудэлкаў з цукеркамі і паехаў надзяляць «прарочыц» — дзяўчат са службы надвор'я.

Словамі пра сваю творчасць як малітву аб дажджы сустрэў мяне нáдвечар з вясёлым і хітраватым агеньчыкам у вачах. Што гэта абяцае нейкую нечаканку, я ўжо ведаў.

Канстанцін Міхайлавіч павёў па сходах у сваю палавіну, пасадзіў пры стале і падаў свежы нумар «Полымя».

— Вось калі мы сквітаемся,— сказаў, разгортваючы часопіс на маёй рэчы «На новых прасторах», дзе асобныя словы і выразы былі тлуста падкрэслены чырвоным алоўкам.— Бо ты ўвесь час пляжыш маю пісаніну, а я ніяк адыграцца не магу.

І ўзяўся раіць!

— Першы раздзел не мае формы. Зрабі два. Асобна апісанне горада і асобна — рынку. А што ж за рынак без людзей? Хай там будзе чалавек: паляшук і ўжо не паляшук, а новы гаспадар Палесся. Разві страфу «А той, хто мурагу прывёз». З яе відаць паляшук. Дапішы непалешука.

Канстанцін Міхайлавіч паказвае недакладныя выразы, нягучныя радкі.

— Чаму палескія балоты у с ю вільгаць перальюць Дняпру? А што потым? Высахнуць? А як гэта разумець?

> З галіны, як з гнязда, на маці
> Раскрыты пупішак глядзеў...

Ён адгортвае старонку, дзе над маімі радкамі яго рукою напісаны варыянт:

З Расіяй вернаю сястрой,
З сяброўкай мілай Украінай...

— Бяры, калі падабаецца. Ганарару сыскваць не буду.

І працягвае тлумачыць: гэта не ўдалося, гэтага яшчэ бракуе ў радку. Аднак было відаць, што паэмка з неадольнай тараю дзіцячых год пра вялікую ваду імпанавала ягонаму настрою.

— Адным словам, з цябе чарка. Не толькі за тое, што паляў цябе, а і за тое, што дагадзіў ты маім нутрам. Ты можаш сабе і не правіць нічога, а нумар гэты вазьмі. Сказаць праўду, ты напісаў аправу, рамку. Яна добрая, сюды можна ўмясціць безліч людзей і здарэнняў. Дзядзька на пінскім рынку, гідролаг у стэпе — чутны ў руху. Лаві гэта ўмельства пісаць людзей, памнажай яго. А вось хлопец на земснарадзе — слабейшы. Не бачыў ты яго... Ці можа не здолеў убачыць.

Падзякаваўшы за часопіс і заўвагі, я пачаў праглядаць іх.

— Ведаеш, Максіме, давай параўняем шансы,— зрабіў прапанову Канстанцін Міхайлавіч.— Адзін дзень ты мне будзеш чытаць новае, а другі — я табе. Гэтак мы ў крытыцы будзем злейшыя.

Адхіляць прапанову не даводзілася, можна было толькі калі-небудзь ухіліцца ад яе, каб не адбіраць у Канстанціна Міхайлавіча часу. Але ён нічога не забываў і дамагаўся выканання ўмовы — таму даводзілася чытаць.

Аднойчы, аддаўшы яму на суд свежы, толькі зняты, як кажуць, з варштата, верш, я ніяк не мог зразумець, чаму Колас не прымае яго. Ён хадзіў па пакоі, гарачыўся, кідаў гаворку, браўся за газету. Нарэшце, відавочна, пакрыўдзіўшыся на някемлівага суразмоўніка, прылёг.

Выкарыстаўшы зручны момант, я паспрабаваў бараніць свае пазіцыі. Канстанцін Міхайлавіч не вытрымаў, падхапіўся, хвіліну падумаў і прачытаў асенні малюнак з «Сымона-музыкі», які пачынаўся страфою:

Нікла жыцце ў лесе шумным,
Агаляўся твар зямлі,
І ляцелі з крыкам сумным
Над балотам жураўлі.

Уважліва паглядзеў на мяне:

— Цяпер ясна?

Тут надышла мая чарга крыўдзіцца:

— Я ніколі не думаў раўняць вашу работу са сваёю. Іх нельга мераць адною меркай. Тут кожны, каго ні вазьмі з майго літаратурнага пакалення, апынецца ў невыгодным, калі казаць мякка, становішчы.

— Во, дзівак! Ды я не пра гэта зусім. Разумееш: сэнс, гук, вобраз. Яны складаюць паэтычны твор. Калі чаго-небудзь з іх нестае, цэльнай карціны не будзе...

Я хутка прадумаў не ўспрынятыя ім строфы. Дык вось што ён мае на ўвазе! Гарманічнае спалучэнне думкі, малюнка і гучання. Іначай кажучы — дасканаласць. А ён з няўмольнай прастатою гаварыў далей:

— А ў цябе што? Адзін радок лёгкі, поўны, адразу ж запамінаецца, а другі — кульгавы, ледзь ногі валачэ. А каб сэнсу дабраць, трэба добра мазгі натрўдзіць. Удала задумаў, а да сэрца не даходзіць.

І пайшоў гуляць чырвоным алоўкам па рукапісе.

Калі поўнае ўзаемаразуменне было дасягнута, я запытаўся:

— Дзядзька Якуб! А чаму вы адмовіліся ад гэтага варыянта, што зараз чыталі?

— Як адмовіўся?

— У апошніх выданнях так:

Нікла жыцце ў шумным лесе,
Агаляўся твар зямлі,
І ляцелі ў паднябессі
З звонкім крыкам жураўлі.

Канстанцін Міхайлавіч задумаўся:

— Гэта я, мусіць, з жоўценькай кніжачкі ўспомніў, з першага выдання. А можа і трэба было змяніць. Нядобра, калі эпітэт ідзе за словам: «у лесе шумным», «з крыкам сумным». Расказ робіцца вялы. Дый «над балотам» няўдала. А «паднябессе» дае ўражанне прасторы, праўдзівей, журавы ў вырай нізка не лятаюць.

Я быў іншае думкі пра першы варыянт. Закрытыя рыфмы ў ім чаргаваліся з адкрытымі, а гэта надавала больш энергічнае гучанне ўсёй страфе. Лягчэй чыталіся два апошнія радкі, асабліва чацвёрты, абцяжаны злучэннем «зз» — «з звонкім крыкам».

— А наконт «балота», не ведаю, Канстанцін Міхайлавіч. Відаць, усё ж гэта слова не выклікае думкі пра нізкі палёт.

— Не выклікае і пра высокі,— адразу падхапіў ён.— А я хачу, каб было ўражанне высокага.

На двары каля брамкі затрымаў маю руку.

— Выбачай, што я сваё прачытаў. Гэта пад гарачую руку. Першае, што ўспомнілася. Трэба было вось што табе нагадаць:

Кто при звездах и при луне
Так поздно едет на коне?
Чей это конь неутомимый
Бежит в степи необозримой?

Прачытаў яшчэ дзесятак радкоў і засмяяўся.

— Пэўна, і добра, што не ўспомніў гэтага. Бо ты яшчэ горш бы пакрыўдзіўся, нашто адной меркай з Пушкіным мераю. А ў паэзіі розных мерак няма. Пачытаеш вось такога асілка і бачыш — пераводзім мы ўсе паперу надарма.

— Канстанцін Міхайлавіч! Глядзіце, а Пушкін жа ставіў эпітэт у канец сказа: «конь неутомимый», «в степи необозримой».

— Яму, брат, як богу, усё дазволена,— задуменна прамовіў Колас.— А калі хочаш ведаць, трэба будзе ў новым выданні адправіць страфу па-ранейшаму. Толькі замест «балота» паставіць «над палямі». Давай не забудземся пра гэта.

Пэўна, з тыдзень пасля гэтай размовы я не чытаў яму нічога, хоць суд ягоны быў і павучальны і някрыўдны, не зважаючы на тое, што Канстанцін Міхайлавіч гаварыў, не падшукваючы выразаў. Не хацелася зморваць занятага тысячай неадкладных спраў чалавека.

Канстанцін Міхайлавіч прыкмеціў гэта і выкпіў самым нечаканым чынам.

— Мала пішаш зусім,— як быццам мімаходзь заўважыў ён пры сустрэчы.

Я пачаў пералічваць зробленае за апошнія тыдні, не чакаючы ніякага падвоху, але раптам пабачыў, што вочы яго смяюцца.

— Нішто, нішто,— пахваліў ён мяне, пасміхаючыся адкрыта.— Я меркаваў, нічога не робіш. А ты, выходзіць, ад мяне тоішся. Або думаеш: начорта гэтаму старому карчу паказваць, што ён разумее. Прынось заўтра ўсё, я табе залію сала за скуру.

Гэта была добрая і патрэбная турбота. Папярэднім чытаннем ён хацеў лішні раз асцерагчы мяне, прымусіць падумаць яшчэ раз перад здачай твора ў друк. Ён лепш за іншых ведаў, што ў той час крытыка ставілася да мае працы занадта ўважліва, і Канстанцін Міхайлавіч быў рад кожнаму добразычліваму слову ў мой адрас. Ён першы вычытаў у «Литературной газете» рэцэнзію У. Лугаўскога на маю кнігу.

— Гэта добры паэт, яго слову і густу можна верыць.

Сказаў і не ўтрымаўся ад жарту:

— Асабліва таму, што нашыя густы супадаюць.

Неяк перад першамайскім святам вяртаўся я з Масквы і купіў у Оршы нумар «Звязды». Там быў прыемны падарунак: артыкул Коласа пра маю паэму. Яшчэ большы падарунак чакаў мяне дома: сустрэўшыся, Канстанцін Міхайлавіч аддаў мне рукапіс свайго артыкула.

— Гэта я напісаў для цябе і для сябе,— сказаў ён.— І друкаваць не думаў... А тут з рэдакцыі пазванілі, просяць, дайце што-небудзь перад святам... Давялося аддаць, выбачай...

1954 год, пачатак жніўня. Блізка з'езд пісьменнікаў рэспублікі. Канстанцін Міхайлавіч падагульняе думкі аб літаратуры, піша і бясконца крэсліць прамову, яму давядзецца адкрываць з'езд. Выказвае нездавальненне: пісьменніцкі Саюз мала чуцён у рэспубліцы.

— Успамяні, як маладнякоўцы грымелі некалі. За год-два здабылі велізарную папулярнасць. А пі-

сацъ толькі-толькі вучыліся. Нешта заядае цяпер у нашай арганізацыйнай калымазе. Відаць, уся справа ў таленце кіраўніка. Вазьмі Фадзеева. Апрача ўсяго, у яго і чалавечая таленавітасць: у трыманні, у абыходжанні... Калі яго хто і не вельмі любіць, дык усё роўна не паважаць не можа. Ён умее прымаць адказнасць на сябе. За ўсё. І не спіхае з плячэй — абы толькі як збыць — справы, людзей якому-небудзь памагайлу, чыя фантазія не сягае далей пратакола і птушачкі ў пэўнай графе.

Ну, пішуць, хай пішуць некаторыя, стрэмка ім у порткі! Але ж яны і мераюць на свой мушыны крок напісанае іншымі. Графаман графаману не дасць заганы. Найбольш актыўны з іх, хлопцы смяюцца, абы памачыў пяро, дык і пайшло рваць. У санаторыі, кажуць, за нейкі месяц выціснуў з вантроб лібрэта для оперы і для балета, дзесяткі са два баек, прадмову і апавяданне. А як выдахся, каб не прастойваць без работы, браўся перакладаць свежы нумар газеты на беларускую мову.

Канстанцін Міхайлавіч мякчэе, на твары пасвечвае лёгкая ўсмешка, яна звычайна з'яўляецца, калі расказвае што-небудзь вясёлае сам або слухае смешную выдумку.

— Тут, вядома, моцна прыкладзена...

Прамовіў і пазмрачнеў. Пальцы пачалі выбіваць на стале такты.

— Відаць, сапраўды слабая ў нас літаратура... Смех сказаць (называюцца некалькі прозвішчаў), у пісьменніках ходзяць. Яны з такімі ж поспехамі маглі б быць і гатэнтоцкімі мовазнаўцамі.

І ведаеш — ці гэта больш смешна ці трагічна? — яны ўсур'ёз лічаць сябе пісьменнікамі. Не ківай галавою! Гэта добры пісьменнік наганяе крывавыя мазалі на рабоце. А такія пішуць лёгка: сапсуе некалькі пачкаў паперы і пачынае сцвярджаць, што ён пуп зямлі. Ды ён то не п у п, а п у х, тапалінaя парушынка, зусім без вагі. А сказаўшы грубей — пухпух, пухірок балотнага газу... О, каб пуп! — горка працягвае Канстанцін Міхайлавіч.— Паболей бы нам людзей, што звязаны з зямлёй матчынай пупавінай!

Ён усё мацней узрушваецца.

— А вінаваты мы самі. Нашто дазвалялі няўмекам і нядарам церціся каля святое работы, прызвычаіліся да іх? Калі арганізм выпадкам атручваецца, ён адразу ж адчыняе ўсе засланкі і выкідвае згубу прэч. Тым часам на нашых вачах пэцканіна атрымлівала імя і годнасць таго, чым ніколі не была і не магла быць. А што гэта? Патуранне махлярам, якія выдаюць мядзяныя бляшкі за залатыя аздобы! Ідэя быццам бы высокая ў аснове, а як напісана? Знявага высокіх ідэй! Сапраўды! Возьмецца чытач за які-небудзь хвалёны творык, глыне старонак з дзесяць, і лічы, што навечна чалавека адвярнула ад беларускай літаратуры.

Пара дом ветрыць... Ёсць адзін закаранелы цынік. Ён ведае, чаго варты, што і дзеля чаго робіць, ні ў грош ён не ставіць нашу літаратуру.

Нябожчык Міхась Зарэцкі іначай не называў яго, як «господин учитель заштатной прогимназии». Міхась прысягаўся, што мае прыродазнаўчыя і прыгодніцкія часопісы, адкуль узнік гэты пісар, выказваў намер: даць заданне студэнтам, каб параўналі пісаніну таго аўтара з часопісамі і выпісалі запазычанае. Зарэцкі паказваў мне перадзёртыя сказы і абзацы, але лічыў, што для публікацыі іх малавата.

Што застанецца пасля такіх людцаў? Які след бывае ад кроплі вады на пяску? Яны ў літаратуры самі па сабе — нуль, пустата, але смецця пакідаюць горы. А працавалі б дзе-небудзь адміністратарамі ці гаспадарнікамі, можа б, і дзякуй заслужылі.

— Праўда, адзін мае шансы ўвайсці ў літаратуру...

Канстанцін Міхайлавіч робіць паўзу. Потым недатрымлівае сур'ёзнага выгляду.

— Можа не ўвайсці, а ўехаць... На маіх плячах. Ён, во врэмена оны,ператрэсаў маю кватэру, пад кожны сянпік лазіў. Гэта, бадай, самай чыстай вады рамеснік. Піша, і ўсюды — мешаніна: падчэпленыя, адкуль можна, сказы, выхапленыя ў другіх слоўцы. Вунь гэты, як яго... Дык у яго хоць у гаворцы часам пракідаецца нешта жывое.

Канстанцін Міхайлавіч успомніў сваю эпіграму, напісаную ўпоперак старонкі ў «Полымі» на апавяданні:

Не ведаю, каб я здароў,
Нашто друкуюць гэткіх праснакоў.

— Аднаго такога пісара я вітаў з пяцідзесяцігоддзем. Нэўна, маё слова ўпоперак горла стала.

На заўвагу, што падрабязнасці зператрэсваннем сеннікоў нікому не вядомы, адказвае:

— Не клапаціся. Не адзін ён трос у мяне. Дык два другія капянуць што-небудзь збольшага і адыдуцца. У вочы мне сароме́ліся зірнуць. А гэты шчыраваў да поту, кожны рубец на зуб браў. Скончылі трэсці, ён памыў рукі і загадаў падаць ручнік. Абавязкова чысты. Марыя Дзмітрыеўна хацела сказаць: забяры нечага з сабою, можа, задавішся калі. Мае дзеці бачылі ўсё. Я некаторым хлопцам гаварыў пра гэта, вось і табе расказваю. Чаго толькі не прымаў на свой карак стары дзядзька Якуб!..— паўжартам Канстанцін Міхайлавіч звяртаецца да сябе.— Ну, гэта дарма, дробязі. А вось некалі пераважаць: колькі мы пакінулі зерня, колькі мякіны... Як мы будзем выглядаць перад людзьмі ў будучыні?

Дзіўна насміхаецца лёс! Вестку аб смерці Канстанціна Міхайлавіча прынёс адзін з тых, хто ўспамінаўся тады Коласам.

— Я да вас,— прамовіў ён.

Голас у яго быў, як і звычайна, нудны, рыплівы, у ім не пракідалася ўзрушэнне.

— Толькі што пазванілі з Мінска...

І я задыхнуўся, падбіты гарачаю весткай...

Няшчасце прыйшло цераз два гады пасля тае нашай адкрыўшай на многае вочы размовы. Як далёка былі тады мае думкі ад непапраўнай бяды!

# КОЛАСАВА ХУДОБА

*Прыблудны грак. Вырай і ўраджай. Лахмач і Муза. Хітрая сінічка. Ластаўкі ў Доме друку.*



Неўзабаве пасля вайны, нейк пад восень, на гарадской Коласавай сядзібе з'явіўся грак. Ці то, акалечаны з рагаткі, рынуўся ад крыўдзіцеляў у адчыненую брамку, ці то, прыхварэўшы, шуснуў за агароджу, прываблены засенню дубоў і яблынь, мноствам кустоў арэшніку і ягадніку — ёсць дзе схавацца і добра адседзецца ў зацішку. Падрабязнасцей граковага з'яўлення не ўсачылі, а ўбачылі яго выпадкам, калі перабягаў з аднае свае схованкі ў другую.

Хаваўся ён больш у гусцейшым зарасніку, а калі крыху акрыяў, асмеліўся выходзіць на чыстую мураву і нават да дзвярэй дрывянога хлеўчука, дзе на лаўцы адпачываў Канстанцін Міхайлавіч, не забыўшыся насыпаць чаго-небудзь птушцы. І грак, не баючыся павольнага ў кроку Коласа, патупваў блізка каля яго, браў ежу амаль што з рук. Усіх іншых жыхароў дома асцерагаўся, уцякаў, нават спрабаваў падлятаць, але махаць то махаў крыламі, а ў паветры адзе́ржацца не мог.

Так і дабыўся калека-грачок да першага снегу, хоць і паправіўся ўжо, жывучы на дармовых харчах.

— Замерзне, небарака! — Колас вярнуўся з праходкі па зацярушаным шэранню садзе, дзе ўжо аказваўся першы маразок.

Пацёр рукі, сядаючы за абед, і пачаў уголас думаць, якой даць рады, каб птушка перазімавала ў цяпле. Забыўся нават, што злаваў на граковае пле-

мя ў час іхніх крыклівых адвячоркаў, калі птушкі ўмошчваліся панач на прыхатнія сосны. Тады ён наракаў і лаяў іх чорнымі дармаедамі: ломяць, бачыце, галлё, а дрэвы праз гэта ўсыхаюць.

Пачалі рабіць захады прыстроіць грака на жытло ў цёплай прыбудоўцы. Але, пакуль тое што, здарылася адліга, снег растаў, а галоўнае, не было для каго старацца даху: грак знік.

Шафёр Сяргей расказаў, як рыхтаваліся ўцёкі. Кожнае раніцы, калі ён аглядаў у гаражы машыну і па двары яшчэ ніхто не хадзіў, грак выпрабоўваў сілу крылаў. Праробляў трэніроўку паводле самых строгіх правіл аэранаўтыкі: выбраўшы на панадворку вольную роўную мясціну, хутка бег і, разагнаўшыся, узлятаў. Толькі лёту таго было ўсяго метры са два,— яшчэ не трымалі крылы, не ўдавалася набраць вышыню.

— Дзівак! — сказаў Колас,— яму трэба ўзляцець на дрэва і пераскокваць па галінах як мага вышэй. А з верхавіны — кідацца ў паветра. Тады крылле размахаецца, можа паляцець.

Аднойчы спроба ўдалася і менавіта так, як разлічваў Колас. Настойлівы грак злаўчыўся сесці на сасну, адпачыў, зноў замахаў крыламі і апынуўся за агароджай.

Тады яшчэ наўкол будынкаў не было, Коласаў дом стаяў амаль апошні. Далей разлягалася пустка, ішла яна аж да маладога хвойніку на магілах нямецкіх салдатаў. Туды, падсачыў Сяргей, і пакіравалася птушка: дзе ўподлеткі, дзе подбегам...

— Наўрад, каб ён перазімаваў,— патужыў Колас.— Лётаць не можа, дый раздурэў на ўсім гатовым. Калі не падаб'юць і не ўхопіць хто з дужэйшай дзюбаю, здохне з голаду, бядак.

Напрадвесні, выходзячы на работу ў акадэмію, Канстанцін Міхайлавіч заўважыў, як ад брамкі адбеглася вялікая худзезная птушка. Нешта знаёмае здалося ў ёй: грак і, магчыма, той самы!

Колас пакінуў брамку адчыненай, а сам адышоўся, нібыта нічога не прыкмеціў. Зрабіў некалькі крокаў, пастаяў за рогам плота і вярнуўся. Зазірнуў у двор: грак ужо быў там, шукаў спажывы каля скрынкі з адыходамі.

— Прыязджай на агледзіны,— пачуў я вясёлае запрашэнне ў тэлефоннай трубцы,— вярнуўся, здаецца, леташні кватарант.

Дзеля такога здарэння не пашкадавалі жыта з леташняга ўраджаю на Коласавай клумбе, пасыпалі шчодра і падышлі блізка, як маглі, як дапускаў агаладалы госць.

— Той самы,— абвясціў Канстанцін Міхайлавіч, агледзеўшы, як грак паводзіўся поблізу людзей і, накульгваючы, кляваў зерне.— Але як ён жывы застаўся?

— Неабавязкова той. Мала хіба тут пакалечаных птушак?

— А можа, лётаў куды недалёка,— працягваў Колас недагаворанiую думку,— дастаўся ў Польшчу ці ва Францыю і зімаваў.

— Наўрад, дзядзька Якуб! Каб адлятаў, дык не вярнуўся б гэтак рана.

Колас падумаў. Сапраўды, да вызначаных фенолагамі тэрмінаў звароту птушак было далекавата.

— Мог перакідацца тут,— разважыў ён,— зіма была не з цяжкіх. А зараз вясна марудзіць, вось ён і ўспамянуў, дзе жывіўся некалі. Бо каб быў які іншы, дык чаму б яму перціся ў наш двор?

Малодшы сын Міхась, у тыя часы заўзяты паляўнічы, знаўся на звычках звяроў і птушак і даволі іранічна кінуў:

— А чаму птушкі выбіраюць на гнездаванне акурат вось гэтую балаціну, а не тую, што поруч? А ваверка ці жаўна селяцца ў хвойніку сярод гушчы, а не ад дарогі? Забеспячэнне, значыць, там лепшае — чарвей і арэхаў болей.

Колас не прыняў пярэчанняў і знайшоў канчатковы доказ.

— Помніце, у таго нашага грака была белая плямка на валляку? Гэта, мусіць, на пашкоджаным месцы іншая пярынка вырасла. І ў гэтага ёсць, бачыце?

Сапраўды, у грака на горле адсвечвала адно ці два белыя пёрцы. Гэта можна было лёгка разгледзець з лаўкі, куды мы паселі.

Гракова гасцяванне цягнулася з месяц, пакуль не стала добра цёпла. З мясцін зімовага бытавання па-

варочаліся ягоныя родзічы, зноў пачалі абсядаць сухаверхія сосны, выклікаючы Коласава нездавальненне. Да гэтай крыклівай кампаніі прыхатні грак не далучаўся, хоць ахвотна дануская да пасыпанай яму ежы, праўду кажучы, тыя былі не вельмі жадны да яе. Спроб лётаць ён не рабіў, толькі задзіраў галаву, калі на верхавінах пачлежнікі пачыналі перагаварвацца перад сном на сваёй, адным ім зразумелай мове.

І ўсё ж аднойчы, калі Колас выйшаў раніцаю пасыпаць зерня, птушка на голас не прыйшла. Глянуў на дрывотню — пуста.

Канстанцін Міхайлавіч выказаў надзею: можа, заляціць на абед. Дарма: грак не з'явіўся ні на вячэру, ні назаўтра. Колас пытаўся ў хатніх, у шафёра Сяргея,— і гэты нічога не дагледзеў.

Колас з усмешкаю разважыў так: падужэўшы на трывалым хлебе, грак не вытрываў штовячэрняй птушынай балбатні над галавою і наняў недзе цішэйшы куток. Ці, можа, залётныя пачлежнікі ўстыдзілі яго: што ж ты, браток? Маеш крылы, а бадзяешся па зямлі з куранятамі! Вось ён і паляцеў разам з усімі, а там знайшлася пад густ сяброўка, трэба было будавацца, пайшлі дзеткі: паспрабуй накармі ды навучы лётаць... Глядзіш, новы клопат: ці рыхтуйся да зімы, ці збірайся ў вырай.

...Вырай! Колас уздыхнуў, і пачалася адна з незабыўных размоў пра жыццё, прыроду і ўсё жывое ў ёй.

...Пахіснулася, калі не сказаць — парушылася, шматвяковае, прадыктаванае жыццём і ўмацаванае ім прызвычаенне: некаторыя птушкі перастаюць адлятаць у вырай, як рабілі раней, многа восеней і вёснаў запар, пакідаючы нас адных перабываць доўгую зіму, горача паліць у печы, насіць кажухі і ўсякую іншую цёплую водзеўку, піць чарку з марозу, а ліпавы цвет і маліну — ад застуды.

Вырай... Дарэчы, гэта не толькі цёплыя краіны, казачны земны рай (вы-рай), як вучаць славутыя мовазнаўцы на чале з Насовічам і Далем. Народ укладае ў гэтае слова многа больш шырыні, асвятляе

яго смуткам ці радасцю, гледзячы ў якую пару года ідзе гаворка.

Выраі кажуць на адлёт або прылёт птушак, на доўгую птушыную дарогу — дапраўды, якую прастору трэба перамахаць крыламі! Чараду жураўоў пакажуць, задраўшы галаву на курлыканне іхніх ключоў у небе, і з грудзей як быццам выдыхнецца: вырай... Таксама называюць час, калі адбываецца вялікае птушынае рушэнне — вясновы вырай, асенні вырай.

Але ўсё роўна, калі б ні вымавілася гэтае слова, заўсёды востра адчуваеш у ім старое в ы р ь (вір) — вадаварот, паварот, колазварот, словам, рух па замкнутым коле, як в і р у е вада наўкруга яміны або карча ў рацэ, як аблётвае вецер наўкруга лесу, ракета — наўкруга зямлі.

Найчасцей чамусьці гэта слова ахінае чалавека ў смутак. Сказаў ці пачуў — вырай! — і адразу павее ў душу: туга расставання з абжытай мясцінай дзе-небудзь пры лясным возеры, дзе падымаецца ранішні туманок над трыснягамі; журба адвітання цёплага чарнічнага лета; шчымлівая ростань з дарагім чалавекам, можа, сынам ці дачкою, што выбіраюцца на іншую аселасць...

Пасля даволі элегічных згадак і здагадак размова вярнулася на той самы троп.

— Мусіць, Міхаська тады праўду казаў: дзе харчы, там і жывёліна. Помніш, мы з Масквы ехалі, у снежні ці ў лютым. Я хадзіў у вагоне ад акна да акна, глядзеў: паабапал дарогі вароны пасвяцца, а паміж імі і гракі. З ласкі пасажыраў жыруюць на тым, што з вагонаў выкідаецца. А ў дарогу, сам ведаеш, набіраюць больш, чым можна з'есці. Значыцца, хапае, птушкі могуць пракарміцца. Напэўна, не ў марозе справа... Цяпер вось у Мінску, здаецца ж, і ваеннае ліха не ўсё перабылося, а людзі не саромеюцца хлеб у памыйніцу кідаць, дый іншых недаедкаў поўна. Таму і гракоў усё часцей бачыш. Гэта ж не ластаўка, ёй мошкі трэба, а гракі — памыйнікі. Мароз — градусаў за дваццаць, а яны тупаюць сабе па снезе і не дбаюць пра абутак. Хоць бы лапці з саломы паплялі. Як некалі немцы ў вайну...

Сказаў і пасміхнуўся сам сабе. Тады ўспомнілі,

11 Зак. 2183

што каля прысталічнага дома творчасці ў незаплыўшым ямчэ тванню азерцы да студзеня амаль трымаліся качкі. З берагоў — лёд, чалавека трымае, а на сярэдзіне — продухавіна. Балацянае цяпло агравае ваду, і качкі плаваюць сабе хвастом угору! Відаць, можна нешта дзюбаю дастаць, не галодныя.

Давялося расказаць, што зімуюць у нас і курапаткі. Іх ці раз прыходзілася бачыць зусім недалёка ад горада, праўда, на тэрыторыі бліжэйшых калгасаў. Жыруюць вялікімі чародкамі, выбіраюць зерне, балазе, ад палявых сціртаў да фермаў цягнуцца засланыя ў калена растрэсенай саломай трактарныя дарогі. А часам курапаткі бегаюць каля кар'ераў, адкуль возяць пясок на будоўлі.

— І там нешта знаходзяць?

— Відаць, знаходзяць, не ведаю...

— Ведаеш, ведаеш,— засмяяўся Колас.— А чым яны ежу пераціраюць,— зубоў жа няма. Вось і ляцяць на чысты пясок, назбірваюць каменьчыкаў у волле.

Прысарамаціўшы мяне за недасведчанасць у такой простай справе, Колас працягваў:

— Паіначылася цяпер усё, моцна час змяніўся. Не толькі тыя, што лёталі за свет па цяпло, цяпер зімы не шманаюць. Тыя, што лавілі рыбу і розную вадзяную дробязь, узяліся не за сваю работу. Ехаў я аднаго разу пад Заслаўе, там ваду ў Мінскае мора напускалі. А поблізу трактарыст уздзіраў нізавы поплаў плугамі. Гляджу, што за ліха? Не чорныя скібы адгорнуты, а белыя, уся ўзараная прастора нібыта снегам пасыпана. Спыніліся. Аж гэта столькі кнігавак на раллю насела, чарвей выбіраюць. Пазлёталіся адусюль, прачуліся, мабыць, пра наша мора, аж тут есці няма чаго. Мора-то мора, а рыбы не нагадавалася, вось і ўзяліся за чарвей. Давялося гракам пасунуцца, даць месца за сталом.

Скончылася тая гаворка не сказаць каб нечакана, а па-коласаўску: з выхадам ад грака, як і заўсёды, на чалавека, па гаспадарчы клопат.

— Хочаш дазнацца, якія паперы ў калгасе, прыязджай туды восенню. Не ў кантору, а на поле, дзе ўжо ўсё зжалі і абмалацілі. Калі блізка дарогі і па разорах чорна ад сытых шпакоў, а побач пераваль-

ваюцца спасныя, вялікія, як гусі, гракі,— няма тут гаспадара. Бо палавіна намалочанага парасцярушвана, а што пасеялі, кепска забаранавалі. Каб быў у тым калгасе гаспадар, ён бы рабіў іначай. Падумаў бы, перш чым хваліцца ў раёне і ў вобласці: так і так, маўляў, засёўная плошча павялічана перавыкананнем. Сеяў бы, колькі можа прыбраць, каб усё, да апошняга зернетка ў засек. Пасля такое вайны людзей адразу не нарасце і машын для ўсіх не наробішся. Бог з неба анёлаў не скіне вязаць ячмень ці выбіраць бульбу. Спадзявайся больш на сваю сілу: узваж, колькі падымеш. Іншая справа — разжыўшыся на людзей, на трактары, тады можна і новыя разлогі разорваць...

Праз многа гадоў, пераводзячы на паперу тагачасныя накіды і запісы гаворак Якубам Коласам, прачытаў я выдатныя нарысы. Пра бульбу, пра сельскую гаспадарку ў Літве. Захоплена, з любоўю да справы і з адменным веданнем яе піша Юрый Чарнічэнка. Напісалі, вельмі ў пару, удала, і пра яго самога, адзначыўшы, што ён працуе, «...неаднойчы паказваючы, што, да прыкладу, любою цаною пашыраць пасевы шкодна» і падмацоўваецца выказваннем акадэміка Бараева: «Стараемся сеяць болей, каб збіраць менш...» («Наш современник», 1979, № 8, стар. 179.)

У гэтым сэнсе можна спасылацца і на прыведзеныя вышэй словы Коласа — далёка і шырока бачыў народны паэт. Шкада толькі, што і дасюль даводзіцца заклікаць да разумнага і дбайнага гаспадарання на калгасных палетках.

Любоў Коласа да прыроды, лесу і ўсіх жывых стварэнняў найлепей і найбольш поўна пералілася ў ягоныя творы. Гэтыя эпізоды ўзнаўляюцца для таго толькі, каб паказаць адносіны з жывёлай і птушкаю, хатняй, асабіста «знаёмай» яму, калі можна так сказаць.

У папярэдніх раздзелах кнігі расказвалася пра

падсвінка, якога Канстанцін Міхайлавіч выпусціў з хлеўчука: «Ідзі, уцякай, Белы». Успомніў пра жывую душу, затрымаў машыну і вярнуўся ў двор. А трэба было спяшацца: Мінск гарэў пад нямецкай бамбёжкай і полымя пагражала пакінутаму дому паэта.

Не ўсё сказалася, аднак, пра каня, на якім да яго прыехалі выхаванцы дзіцячага дома. Дакладней сказаць — не прыехалі, а прыйшлі, бо драбіны былі загружаны падарункамі Коласу: яблыкамі, морквай і нават буракамі,— самі ў сваім агародзе сеялі, даглядалі, вось і прывезлі.

Канстанцін Міхайлавіч, праводзячы багата часу з дзецьмі, не забываўся і пра каня. Накасіў яму — колькі сілы стала — атавы ў садзе і, каб не бачылі госці, ціхенька падкормліваў коніка прывезенымі морквамі і буракамі. Конь хутка ацаніў гэта і, згледзеўшы Коласа, радасна падраготваў.

Да вайны была ў ягонай гаспадарцы карова. Летавала яна ў Банцараўшчыне каля Ждановіч, дзе Колас жыў з сям'ёю, а ўзімку пераганялася ў хлеў пры доме на Вайсковым завулку і паіла ўсіх сырадоем. Канстанцін Міхайлавіч тады хварэў, былі патрэбны свежыя малочныя прадукты. Цёплы сырадой падабалі ўсе, крывіліся толькі старэйшыя сыны — Юрка і Даніла,— ім даводзілася пасвіць жывёліну. Але нічога не зробіш: прыклад паказваў бацька, ён са здавальненнем тупаў ранічкай па беразе рэчкі, пакуль падласая спаганяла ахвоту, ходзячы па роснай траве. Ну, вядома, шкадаваў будзіць сыноў-падлеткаў: хай паспяць, растуць жа.

Як цяпер успамінаецца, Колас пайшоў на такі крок не таму, што змушала канечная патрэба. Прынамсі, я так зразумеў яго: ад жывога стварэння пры доме цягнуліся невідочныя ніцінкі да сям'і лесніка Міхала Міцкевіча, да маці і братоў, нарэшце да самога сябе — малога Костуся. Таго хлапчука, што пасвіў жывёлу і чытаў уголас пад чыстым небам ці ў лесе байкі Крылова і вершы Пушкіна: закладалася паэтычная завязь у душы.

Мясціны, дзе пражыў Колас гады маленства, адрэзала мяжа. Пабачыць іх вельмі хацелася, тым больш — ва ўяўленні канчаткова выспяваў вобраз

Сымона-музыкі, недзе ў глыбіні істоты аказваўся малады настаўнік Лабановіч.

І Колас узнаўляў вакол сябе, колькі мог, сялянскі побыт і клімат тагачаснага Надняміння. Ні на хвіліну не завагаўся, як гэта будзе выглядаць, як пачнуцца смешкі: «Чулі? Колас купіў карову!» Няхай сабе выскаляецца мешчанін, яму няма да гэтага справы. Купіў, бо так хацеў, і не без патрэбы. І ў доме былі карова, парсюк, хатняе птаства, дрозд, пра якога напісаўся верш «Дронік», і цэлая дынастыя сабак. Гэтыя чатырохлапыя сябры нагадвалі зноў жа бацькава леснікоўства, тую таксу Тэпцю, што спрытна знаходзіла норы тхароў, хату, пабудаваную за іхнія шкуркі, так і звалі — «Тэпціна хата».

А ў Мінску жылі невялічкая злая Чутка, мала ваяўнічы Марс і легендарны Лахмач. І Колас, і ўсе сямейнікі ўспаміналі гэтага сабаку з добрай усмешкаю. Мяшанец — сібірская лайка і дварняк, сумленны вартаўнік дома, добрага нораву пёс, Лахмач мог бы выступаць і ў цырку. Бегаў наўкруга, ловячы свой хвост, прыносіў кінутую рэч, «служыў», даваў лапу, па камандзе сядаў, уставаў, бег у паказаным кірунку. Нават па дрэвах лазіў, не так, вядома, як кот, але ўсё ж. Гэта і наклікала на яго сабачую галаву непрыемнасці.

Канстанцін Міхайлавіч прачнуўся ўначы з адчуваннем, што на панадворку ёсць нехта чужы. Сабачага брэху, аднак, не чулася. Колас пачаў апранацца і на жончына запытанне: «Куды ты?» адказаў старым жартам: «Злодзей у хаце, пайду сабаку будзіць».

На дварэ было ціха, усё пазачыняна, як было звечара, а сабака не з'явіўся і на голас. Колас устрывожыўся: звёў нехта сабаку, каб сабе рукі развязаць. І не клаўся ўжо, а сеў пры акне, паглядаючы на варотцы і на плот... Калі стала днець, на адным з праслаў, дзе было ніжэй, з'явіліся сабачыя лапы, а потым і галава — Лахмач! Пералез цераз плот і ціхенька падаўся на сваё месца спаць.

Калі Колас выйшаў з дому, яго сустрэлі звычайны радасны віскат, падскокі і заглядванне ў вочы. Толькі ад запытання: «А дзе ты бадзяўся ўначы, валацуга?» Лахмач як быццам крыху збянтэжыўся.

Пазней было высветлена, што, пажадаўшы гаспа-

дарам добрай ночы, Лахмач пералазіў цераз плот і кіраваўся па сваіх кавалерскіх справах. Каб спыніць гэту «самаволку», наверх плота наўкасы набілі фанеру,— з таго часу сабаку давялося пачаваць дома і выконваць усе абавязкі, якія ўскладала пасада вартаўніка.

На маёй памяці, пасля вайны, у Коласа жыла Муза, чорная з крэмавымі падпалінамі прыгожая аўчарка. Узялі яе шчанюком з гадавальніка, зноў жа на пасаду вартаўніка. Аднак хутка выявілася поўная неадпаведнасць сабакі такому прызначэнню. Муза была вельмі баязлівая, лашчылася да сваіх, ад чужых уцякала і хавалася. А пораў мела вясёлы і вельмі смешна хапала футбольны мяч, гуляла з ім.

Канстанцін Міхайлавіч цешыўся з гэтай забаўкі, нават сам падкідаў мяч да сабачай морды. А потым неяк пажартаваў, што лепей бы перадаць гэтую Музу на стадыён, можа, падвучыцца каля футбалістаў і выб'ецца ў людзі.

Мне заўсёды здавалася, што для Канстанціна Міхайлавіча дзікая жывёла і птушка многа бліжэй, чым свойская, прыручаная, у нечым прыстасаваная, калі хочаце, прыняволеная чалавекам.

Назіраць, як нястомна шчыруе пара мухаловак над акном, сачыць за лётам ластавак,— калі лётаюць нізка, чакай дажджу, мошкі пайшлі ўніз,— падоўгу стаяць на беразе Балачанкі, вычэкваючы, ці не выплыве на паляванне вадзяная гадзюка, узняўшы бліскучую галоўку і з прысвістам рассякаючы ржавую ваду,— усё гэта давала яму відавочнае задавальненне, можна сказаць больш — прыносіла жыўленне для работы душы. Што так і было сапраўды, можна меркаваць хоць бы вось па чым: пра здабытае пад час назіранняў Колас не гаварыў, не раскідаўся ўбачаным нават дзеля сяброў: сабе патрэбна, у нешта ж ды перапрацуецца. Хіба ўжо штосьці смешнае кідалася ў вока: дапраўды, не смяяцца ж аднаму, аднаму толькі плакаць можна.

Так неаднойчы расказвалася ім смешнае здарэнне з дачным сабакам на мянушцы Сівак. Гэты заўсёды галадняваты вясковы дварняк не грэбаваў ні-

чым з чалавечай ежы: буракі — давай буракі, капуста — хай будзе капуста, нават яблыкі еў, калі былі сопкія і салодкія. Праз гэту сваю ненаеднасць ён аднойчы ўвабраў выкінутыя з-пад настойкі вішні, а бутля была літраў на пяць. Ну, і ўпіўся, і трымаўся рыхтык п'яны чалавек: падскокваў, дурэючы, каля хлопцаў, вішчаў, лашчыўся да іх, гаўкаў без злосці на каня і на пеўня, потым кінуўся ў бойку з суседскім сабакам і нарэшце, хістаючыся, даківаўся да павеці, запоўз пад панарад і праспаў да белай раніцы.

Назаўтра на сабаку было шкада зірнуць, ён выглядаў вельмі няшчасным і нікому не глядзеў у вочы.

— Саромеўся, відаць,— жартліва заканчваў Колас,— бо адразу збег на пасту, выганяў са шкоды каровы, словам, акупаў правінку самай вернай службаю.

Пры кожным пераказе гісторыя абрастала падрабязнасцямі, падлягала, як кажуць, літаратурнай апрацоўцы і таму выслухоўвалася ўсімі і заўсёды з нязменнай цікавасцю.

Таксама сакавіта расказваў Колас і пра сініц,— гэтых вясёлых, зграбных, з густам апрапутых франціх ён упадабаў яшчэ ў далёкім маленстве.

— Здалёк здаецца — птушка, а возьмеш у руку тую сініцу, дык яна нічога не важыць: адзін пух, а пад пухам — кволенькія костачкі. І нетрывалая гэта птушка. Я, малы, лавіў іх. Паставіш сіло на шчыгліка — хораша пяюць шчыглы раніцай і перад вечарам,— дык абавязкова сініца ўблытаецца. А ўнясеш яе ў хату, пражыве дзень і — лапкі ўгору. Вельмі яны чаду баяцца. А як вясковую вярыстую печ выпаліш без чаду? Гаспадыні ж трэба, каб каша ўпрэла і крупеня на вячэру гарачая была, вось і засланяе, калі ў печы збольшага прагарыць. А заслонка прылягае няшчыльна, дый дзіркі ў ёй ад часу выгараюць. Бывала, і чалавек, як падыхаецца ўночы такога паветра, дык у дзверы ніяк не ўцэліць. Стаіць потым голы на марозе, смокча лядзяк, а вушы мёрзлай калінай закладае.

Часта ўспаміналіся Канстанціну Міхайлавічу і тыя сінічкі, што тройчы на дзень, паводле распарадку дня, жывіліся на акне ягонага пакоя ў санаторыі

«Вузкае», апошнім гасцінным прытулкам перад заваротам дадому. Успамінаў і смутнеў: гэта была зіма, астатняя для сяброўкі ягонага жыцця.

Не абышлося без сініц і ў першы год пасляваеннага бытавання ў Мінску. Дом Коласу трапіўся халодны, мала прыстасаваны для работы. Галоўнае ж, быў ён неспарадкаваны яшчэ, не знаходзілася жаночай рукі, гаспадарку вёў сын, Даніла Канстанцінавіч, тады халасцяк. Даволі прасторная веранда была запята з сярэдзіны нечым накшталт фіранкі, падобнай да сеткі з буйнымі ячэйкамі. За фіранкаю ветраў куплены ў запас кумпячок: шадсохне крыху, дык можна будзе і самім укусіць, і госця пачаставаць, балазе, турбацыі мала: адчыніў дзверы са сталовай — і пачастунак на стале.

Раней за людзей смачную спажыву пакаштавала сініца,— гэтыя птушкі вялікія ахвотніцы да сала: пакладзеш ім кілбасы, перш за ўсё павыклёўваюць белыя вочкі тлушчу. Дык вось, прыкмеціўшы кумпяк, сініца знайшла і дарогу да яго, трэба сказаць, не вельмі лёгкую. Яна ўлятала ў фортку, якую пакідалі адчыненай, каб вяндліна хутчэй падсушылася, уплішчвалася паміж шыбкаю і фіранкай і пралазіла далей, чапляючыся лапкамі за тканіну. Кумпяк вісеў ад форткі даволі далёка, аднак вынаходлівая драпежніца хутка даставалася да аблюбаванага ласунку.

Пакуль гаспадары агледзеліся, маленькая птушынка выдзеўбла ў кумпяку такую дзірку, што ў яе хаваўся Данілаў кулак, а чалавек ён буйнога складу.

Пачаліся здагадкі: хто ўнадзіўся?

— На мышэй не падобна, яны пачапалі б у некалькіх месцах,— сказаў Канстанцін Міхайлавіч.— Ага, бачыце,— гэта ж знакі дзюбы. Птушкі ядуць.

Панаглядаўшы з хатняга акна на веранду, сініцу злавілі, што называецца, на гарачым, падсачылі, як яна дапінае па фіранцы да ежы і тым жа шляхам выкіроўваецца назад.

Колас сказаў птушкі не палохаць і форткі не зачыняць:

— Дазнаемся, колькі душ у мяне на ўтрыманні.

Канстанцін Міхайлавіч ніяк не хацеў верыць, што сініца прылятае амаль у адзін час і адна, ніякай хеўры за сабою не прыводзіць.

— Не можа быць, яны — птушкі кампанейскія. Счакайце крыху, зараз з паўгорада наляцяць.

Аднак новых сталаўнікоў не прыбывала. За кумпяк узяліся людзі. Прыйшлі госці, і Колас расказаў ім пра птушыныя хітрыкі. Раптам сумеўся, нібы асветлены здагадкаю:

— Гэта яны, д'яблы, вінаваты, фашысты. Тужыліся адвучыць ад хаўрусавання людзей, і гэта і на птушках абазвалася. Жыві, бачыце, адзін, што ні зарвеш — тваё, на аднаго, дужэй можна на свеце трымацца. Што казаць, гуртавання і чалавецкай таварыскасці яны баяліся... Дык, можа, даруем, хлопцы, нашай сінічцы міжвольны індывідуалізм. Людзі не мелі чаго есці, дык перасталі і птушак карміць. Яна ўсё ж — птушка: магла і не дазнацца, што ў горадзе — свае. Трэба даць ёй зразумець гэта. Ахрысціць яе можна — Падпольшчыца, па-мойму, пасуе. Не крыўдна будзе?

Каля форткі прыстроілі фанерку з набітымі па краях планкамі, і Колас, на першы раз сам, насыпаў туды сланечніку, паклаў некалькі скрылёчкаў сала.

Сінічка з'явілася ў сваю пару, агледзела кармушку — ці няма якога падвоху? — але паколькі кумпяк перавесілі, узялася за прызначаны ёй пачастунак. Таго ж дня, крыху пазней, на дошчачцы балявала ўжо цэлая кампанія сініц і нават верабей. Агледзелі яны самі ці тая сініца запрасіла сяброўак на вячэру — засталося невядомым.

А Колас хадзіў задаволены:

— Ну вось, цяпер усе ведаюць: часы змяніліся, можна гуртам жыць.

Яшчэ адно здарэнне — сумнае, але не хочацца абмінаць яго.

Мы здавалі ў друк нумар «Вожыка» і заседзеліся ў рэдакцыі дапазна. Адна з палос ніяк не вярсталася па-людску, я круціў галаву, а выйсце ўсё не знаходзілася. Задумаўся і не заўважыў, як у пакоі прачыніліся дзверы і пачуўся знаёмы голас:

— Здароў! Паказвай, што тут у вас нарабілася.

Не дачакаўшыся майго прыходу, Канстанцін Міхайлавіч пазваніў мне дадому і падаўся расшукваць на рабоце. Тым больш — нецярплівілася дазнацца падрабязнасці аварыі, пра што я расказваў яму напярэдадні.

Пасля вайны ўсе мінскія газеты і часопісы ды яшчэ і выдавецтва жылі пад адным дахам — у будынку Дома друку. Вялізнае акно нашай рэдакцыі глядзела на двор друкарні, а сцяна ўпіралася проста ў друкарскі корпус. Няўпынны шум друкарскіх машын не дазваляў адчыняць вокны нават улетку. Да таго ж вібрыравалі шыбы, лёгка пазвоньвалі шклянкі, прыпёртыя да графіна з вадою.

І вось на сцяне, поруч з нашым акном, надумаліся забудавацца дзве пары ластавак. З зайздроснай стараннасцю птушкі завіхаліся да позняга вечара, пакуль не былі скончаны хацінкі, падобныя на сырыя, неапаленыя гаршчэчкі. Нанасі пуху і мяккіх бадылінак, вымасці ўсярэдзіне ды бярыся адкладаць яечкі.

Тут здарылася нечаканка, больш — гора, ніяк не меншае і не лягчэйшае, чым у сем'яў, якія трацяць дах пад час раптоўнага землятрусу. Ад няўлоўнага для вока няспыннага трымцення сцен гнёзды пачалі адставаць ад атынкоўкі. Ластаўкі абвясцілі аўрал і кінуліся кітаваць, залепліваць расколіну паміж сцяною і гняздом. Але рады так і не далі, пад вечар абодва гняздзечкі ссунуліся на асфальт.

Птушкі заклапочана лёталі сюд-туд і крычалі, быццам аплаквалі страту і ў той жа час раіліся: што ж будзем рабіць? І ўзяліся зранку ляпіць новае жытло.

Выслухаўшы гэту навіну, Колас прысеў:

— Няшчасце нікога не мінае. Але ж я табе казаў учора: пачнуць усё нанова рабіць. У гэтым яны да чалавека падобны.

Мы адчынілі бакавінку акна, і Колас паглядзеў, як ідзе работа: гнёзды былі ўжо амаль у палавіне.

— І гэта яны паспелі за сённяшні дзень? Такога тэмпу і сабе мець не пашкодзіла б. Але за вынікі, праўду кажу, страшнавата.

Цяпер нашы сустрэчы з Канстанцінам Міхайлаві-

чам пачыналіся з распытвання: «Як там будаўніцы?» і канчаліся наказам: «Глядзі ж там ластавак!»

Каб жа хто ўмеў дапамагчы ім! Як гэта зрабіць, як паказаць бяспечнае месца, адгаварыць ад марнай патраты часу і сілы?

Даўно ўжо не даводзілася бачыць Коласа ў такім узрушэнні!

Другая спроба забудавацца скончылася гэтак жа сумна, як і першая. Гняздо пратрымалася на дзень ці два больш, дый то таму, што друкарня стаяла ўначы.

Зноў паплакаўшы над руінамі сваіх неабжытых хатак, ластаўкі не адступіліся ад намеру застацца жыць у суседстве з друкарамі і аўтарамі кніг. Птушкі, здавалася, шпарчэй лёталі, часцей з'яўляліся пакласці на месца кропельку мокрай гліны, працавалі ледзь не ў змроку.

Глядзець на ўсё гэта было немагчыма, ды ва ўсіх нас былі кепскія прадчуванні...

На птушак нізрынулася трэцяя няўдача. Тады ластаўкі, відаць, вырашылі, калі далей так павядзецца, дык можна без дзяцей застацца, і зніклі.

Неўзабаве, ідучы да Коласа, я заўважыў, як дзве пары ластавак майструюць гняздзечкі пад гзымсам аднаго з будынкаў Акадэміі навук. Там усе ўчасткі былі ўжо размеркаваны, будаўніцтва, па ўсім відаць, даўно скончылася, і праца запозненых навасёлаў мімаволі кідалася ў вочы.

— Поедзем глядзець!

Канстанцін Міхайлавіч пажвавеў, апрануўся, узяў уласнаручна зроблены яблыневы кіёк.

— Пэўна, тыя самыя, домадрукаўскія,— сказаў ён крыху папазіраўшы.— І перабраліся недалёка, толькі вуліцу перайсці, і працуюць учатырох. Тут ім будзе ціха. І звонку, і ўсярэдзіне: навука ніколі не была надта порсткая.

Дадому ён ішоў пасвятлеўшы, але маўчаў. І вярнуўся да здарэння праз некаторы час:

— А хто здолеў бы перажыць, каб у яго тры дамы разбурылі?

Адказ прыйшоў з тых самых вуснаў, што пыталіся:

— Скажаш, не ластаўка вайну запыніла? Чалавек-то чалавек гэта зрабіў, але ж іх раўняць нельга: у ластаўкі ўсяго дзюба ды пара крыл. Але...

Што павінна было сказацца пасля «але», так і не сказалася, перабіў тэлефонны званок. Аднак, думаецца мне, паўстала ў яго перад духоўнымі вачыма неймаверная трываласць народа, чыю зямлю складалі ў прысак страшныя навалы і спаленні. Не раз і не двойчы...

# АПОШНІЯ ДНІ АПОШНЯГА ГОДА

*Цудадзейная гразь. На родных мясцінах. Матчына песня пра Нёман. Чоканне з Купалам. Акадэмічны бусел. Зборы ў Маскву. Поле без камення. Дэлегат XX з'езда КПСС. Былінка. Галантнасць і даверлівасць. Лісты пра выхаванне і мову.*



Ад новага года яму не даюць спакою рукі. Спецыяльна лячылі ў стацыянары. Аглядалі і прыезджыя маскоўскія дактары.

Канстанцін Міхайлавіч жаліцца:

— Усе ў адзін голас: пройдзе, пройдзе. А яно не праходзіць.

Вырашыў лячыцца сам. Успамянуў, што ў Мікалаеўшчыне розныя рэўматычныя хворасці выганялі з дапамогай мясцовай гразі.

— Там, каля вёскі, тарфяныя канавы, і гэтага дабра — хоць новую Мацэсту адкрывай.

Напярэдадні 1 Мая Канстанцін Міхайлавіч са старэйшым сынам паклікалі мяне ехаць разам у раздабыткі цудадзейнага сродку.

Яшчэ дзе тая Мікалаеўшчына, а наш хворы палепшаў. Павярнуўшыся з пярэдняга сядзення машыны, Канстанцін Міхайлавіч падымае ўгору рукі.

— От ліха на іх! Сціхлі! Затое я цяпер ведаю, як ратавацца ад болю. Абы пачало круціць, буду ездзіць сюды, на 757 кіламетр. Акурат тут балець перастала. Гэта ж заўсёды так: прыйдзе хворы да доктара і не ведае, на што скардзіцца: адпусціла раптам. Нервы ўсё гэта робяць.

Ён гаворыць ужо амаль не ўпыняючыся. Хоча абавязкова зазірнуць у стаўбцоўскую сталоўку. Калі тое было, а не забыўся... Аднойчы, едучы з Навагрудка, мы заходзілі туды падсілкавацца і елі цяжкі, глеўкі хлеб. Аб гэтым была размова з работнікамі

райкома: «Чым жа вы, хлопцы, людзей корміце? Хлеб для рабочага чалавека першая страва...» Пасля Канстанціна Міхайлавіча запрашалі пад'ехаць, пакаштаваць і ўпэўніцца, што выпечка палепшала.

Павярнулі на Мікалаеўшчыну. Цераз Акінчыцы едзем паволі, з правага боку вуліцы хата, дзе ён упершыню ўсміхнуўся маці, злева, на ўзгорку,— камора, дом ляснічага, пад які звычайна сыходзіліся леснікі на чарговую праборку.

За вёскай, на ўзлеску, Канстанцін Міхайлавіч просіць спыніцца.

— Я адсюль баравікі цягаў кашамі. Не можа быць, каб зараз хоць смаржка не знайшоў.

Смаржок сапраўды знаходзіцца. Аднак больш нікому з падарожных не шчасціць.

Старэйшы грыбнік велікадушна не дае адчуць свае перавагі ў гэтым складаным майстэрстве. Дый раўняцца цяжка: калі яму нават у Кіславодску пашанцавала выкалупаць грыб, дык што казаць пра свае, сотні разоў выхаджаныя, выгледжаныя мясціны.

Канстанцін Міхайлавіч дапамагае нам арыентавацца.

— Налева пойдзе дарога на Ласток, вось туды,— ён паказвае рукою ў глыбіню лесу.— Альбу́ць застанецца правей. А гэтак вось — можна прайсці на Прыстаньку, дзе мы свой настаўніцкі з'езд збіралі...

...Свержанская града, Смалярня, Ёлава... Адно за адным вымаўляе Колас імёны і назвы.

Гэтак іх ніколі не вымавіш сам, мусіць, не закрануць яны і сышоўшы з вуснаў другога чалавека. А ў яго — аджываюць, раскрываюць свой першародны сэнс і значэнне, ператвараюцца ў малюнкі, замацаваныя ў душы дзіцячым замілаваннем, ці раз уяўленыя з-за астрожных крат, паглыбленыя разлукаю вайны і бежанства, на многа год адсечаныя праведзенай па самым сэрцы мяжою, на кароткі час знойдзеныя, але зноў страчаныя праз крывавае тэўтонскае нашэсце, і, нарэшце, здабытыя назаўсёды.

Так можа адчувацца яму аднаму.

Гэтых карцін мы не маглі ведаць і ў той жа час

ведалі, ніколі не бачылі іх і тым не менш заўсёды трымалі перад вачыма. Бо рупліваю працаю мастака, яго натхненнем і клопатам усе яны з'яднаны ў свет, які называецца «Новаю зямлёю». Акунуўшыся ў яго, мы наноў перажываем маленства і ўсхватваемся з ложкаў на звон патэльні, мажам верашчакаю лаву, шчабятлівай чародкаю ідзём за мілым дзядзькам Антосем варыць клёцкі ў бярозавым саку і пускаць на ваду стары човен, разам з ім клянём аб'ездчыкаў і ляснічых, таргуем у Хадыкі зямлю, едзем у Вільню, глытаем слязу каля смяротнага ложка Міхала...

Гэты свет абступае нас з такой сілай верагоднасці, як быццам колы машыны не адарваліся гадзіну назад ад сталічнага праспекта, не шархацелі паўз кіламетровыя слупкі па асфальтаванай шашы і, пашаптаўшыся са жвірам прасёлка, не спыніліся перад узгоркам, цераз які перавальваецца трактар з баронамі, гатовы выканаць якую хочаш каманду трактарыста, хлопца з мікалаеўскага калгаса.

У Мікалаеўшчыне адведалі пляменніка Канстанціна Міхайлавіча, настаўніка мясцовай школы, і сястру, Міхаліну Міхайлаўну.

Добрыя сустрэчы не засланілі мэты нашага прыезду: перш-наперш было набрана поўнае вядро гаючае гразі. За гаворкай не агледзеліся, што машына, якую шафёр паставіў на непрасохшай лугавіне, угразла.

Мы з Данілам Канстанцінавічам паспрабавалі падпіхаць. Колы пракручваліся, далёка распырскваючы гразь, а машына не рушылася з месца. Падышлі калгаснікі. І гэтай сілы было мала. Нехта надумаўся паслаць па каня.

Канстанцін Міхайлавіч наглядаў за нашымі захадамі збоку. Калі да машыны прыпрэглі каня, здаравеннага, добра кормленага, што палыскаваўся бліскучай шэрсцю, Канстанцін Міхайлавіч падышоў, паклаў руку на крыло:

— Но, малы!

Конь прылёг у пастронкі, і машына выскачыла на сухое.

— Ну, і чаго вы ўсе варты,— падсмейваўся Канстанцін Міхайлавіч.— А я толькі адным пальцам дакрануўся.

Далейшы шлях ляжаў на Смольню, да брата, Язэпа Міхайлавіча. Нёман яшчэ быў у вясновай паводцы. Канстанцін Міхайлавіч глядзеў на залітыя вадою лугавіны. Рака падступала пад самыя могілкі, дзе пахаваны яго бацька і маці.

Спыніліся. Канстанцін Міхайлавіч пайшоў на бацькоўскія магілы адзін. Павольна падняўся на засаджаны бярозамі грудок, моўчкі пастаяў каля надтрунніц, потым павярнуўся тварам да ракі. Паклікаў нас, паказаў рукою на разводдзе.

— Яны,— было зразумела, што Канстанцін Міхайлавіч думае пра бацькоў,— ведалі Нёман толькі такім. І на маёй памяці ён быў шырэйшы. Гу́мяцца лясы, гінуць і рэкі.

Помніш, я табе казаў, ніяк не магу прыгадаць матчыну песню пра Нёман. А зараз усплыў змест яе і прыпеў: «Нёман, браток мой!» Дзяўчына просіць раку аддаць ёй хлопца. Як пайшоў ён на сплаў, так і не вярнуўся, хоць яны згаварыліся ісці пад вянец. Нёман адказвае: «Я ж і так багата дару людзям. Зямлю абмываю, паю сцюдзёнаю вадою і жыўлю смачнай рыбаю, плыты ганяю, жывёлу кармлю». І хлопца таго, сказаў, не аддасць, бо прыняў яго навечна. Дык, калі дзяўчына хоча, хай ідзе сама да нарачонага. Паслухалася няшчасніца, патужыла і кінулася з высокага берага ў ваду. Толькі паспела гукнуць: «Іду, Нёман, браток мой!»

По смольнінскай сядзібе Канстанцін Міхайлавіч хадзіў асцярожна, нібыта баючыся, каб не патрывожыць уяўленняў, што ўзнікалі на кожным кроку ў дарагой сэрцу мясціне.

Спыніўся і ўважліва зазірнуў у гумно, нібы прадчуваючы, што яно неўзабаве будзе разабрана на дровы праз меру дбайнымі мясцовымі адміністратарамі. А гэта ж будыніна, калі стаяла яшчэ ў сяле, бачыла настаўнікаў, што паз'язджаліся на свой з'езд. Ці мала сумных і вясёлых разваг чулі яе сцены ад самога Костуся Міцкевіча і ад яго таварышаў, бесхацінцаў, пазбаўленых настаўніцкіх пасад.

Ён спрабаваў адстойваць гуменца перад раённымі ўладамі, але ў іх не хапіла кемлівасці не дапу-

сціць разбурэння. Быццам так канечне трэба былі калгасу тыя некалькі дзесяткаў напаўструхлелых бярвенняў.

Стоячы каля хаты, Канстанцін Міхайлавіч падлічыў, колькі год пасаджаным яго рукамі дрэвам.

— Я паўтыкаў іх зусім тонкімі тычкамі. Можа зім па пяць ім было ўсяго. Зараз, відаць, па пяцьдзесят адстоялі.

І звярнуўся да брата:

— Я да цябе, Юзік, паміраць прыеду. Сяду тут, у цяньку, на Нёман буду пазіраць.

У хаце чакаў накрыты стол. Даніла Канстанцінавіч паспяшаўся паналіваць усім чаркі і хутчэй чокнуцца, каб асцерагчы бацьку ад спакусы, балазе ён загаварыўся з братам.

Убачыўшы пусты пасудак, Канстанцін Міхайлавіч адразу выкрыў хітры манеўр і пакрыўдзіўся:

— Я разумею, што старых людзей можна скідаць з рахунку. Хай будзе так. Але ж мне трэба з Купалам чокнуцца. Як некалі, на гэтай лаве седзячы. Без гэтага я ў Мінск не паеду *.

Выратавала становішча кропля, якую, не выпіўшы, адставіла на акно гаспадыня.

Чокнуўшыся ў думках з Купалам, Канстанцін Міхайлавіч сабраўся ехаць:

— Яшчэ ў лесе спынімся. Сон зацвітае, трэба выкапаць колькі кусцікаў для саду.

Пастаялі ў лесе, напакавалі ў багажнік «сну», пахадзілі па леташнім верасе і чабароўі. Поблізу на абочыне стаяла нейчая машына. Гаспадар яе, мажны мужчына ў ботах з доўгімі, за калені, халявамі клыпаў, павольна перасоўваючы ногі, па даволі высокай балотнай вадзе.

Канстанцін Міхайлавіч прыгледзеўся.

— Здаецца, знаёмыя людзі.

Сапраўды, гэта быў работнік Акадэміі навук, які збіраў ранніяраслінкі для навуковай працы.

— Маё шанаванне таварышу акадэмічнаму буслу! — гукнуў Канстанцін Міхайлавіч.— Як ваша паляванне?

Потым, адвітаўшыся, разважаў:

— Каб што-небудзь зрабіць, не цурайся ўлезці ў балота. Гэта не толькі для навукі, а і для літаратуры

абавязкова. Чорная, самая цяжкая справа — найлепшая навука для чалавека.

Прывезеную гразь грэлі, Канстанцін Міхайлавіч па гадзіне трымаў у гарачай ванне рукі. Палёгкі не было.

— Не таго мацунку гразь стала,— казаў ён доктару С. О. Ліяранцэвічу, з маўклівага дазволу якога было распачата гэтае «гразелячэнне».

— Пашкодзіць не можа,— тонка ўсміхнуўся Ліяранцэвіч,— а часам возьме і паможацца. Табе ж памаглося,— ён хітра падміргнуў у мой бок.

А справа была такая. Пасля аперацыі апендыцыту я страціў сон і папрасіў у Сяргея Осіпавіча рады. Ён падняў на мяне вочы:

— Не спіш? Будзеш спаць.

І даў шкляную тубачку фанадорму.

Праз тыдзень мы сустрэліся.

— Спіш? — было першае пытанне доктара.

— Сплю.

— А лякарства браў?

— Браў.

— А ведаеш, што ты прымаў? — І весела зарагатаў: — Вітамін С.

Разумны доктар цярпліва і паблажліва паставіўся да намераў Канстанціна Міхайлавіча і яго скаргі на страціўшую сілу гразь прымаў як штосьці зусім натуральнае.

— Так, вядома, усё вытыхаецца,— гаварыў Ліяранцэвіч.— А можа вы не ў тым месцы гразі набралі?

Колас пачуў у голасе доктара жарт.

— А чаму было адразу не сказаць, што ты не верыш у гэтую гразь,— панура буркнуў ён.

— Трэба, каб хто-небудзь адзін верыў, другому — не абавязкова,— адказаў Ліяранцэвіч з такімі яснымі вачыма, што яны абодва адразу ж заўсміхаліся...

Тым часам рукі балелі, і вітацца з Канстанцінам Міхайлавічам трэба было асцярожна. Малазнаёмых папярэджвалі аб гэтым. Але аднойчы забыліся. Канстанціну Міхайлавічу як віцэ-прэзідэнту Акадэміі

прадстаўлялі аспірантаў. Быў сярод іх высокі, плячысты здаравяк. Узрадаваўшыся,— Коласа зблізку ён бачыў ледзь не ўпершыню,— хлапчына павітаўся з усёй шчырасцю дужага чалавека.

Канстанцін Міхайлавіч у момант выхапіў хворую руку, памахаў ёю ў паветры і мімволі вылаяўся, салёна, па-мікалаеўску. Падзьмуўшы на адціснутыя пальцы, дадаў:

— І бяруць жа гэткіх бугаёў у навуку!

Заўважыўшы агульную збянтэжанасць (сярод прысутных былі жанчыны — хто пачырванеў ад нечаканасці, хто — ад прыглушанага смеху), Канстанцін Міхайлавіч перасіліў боль і пачаў распытваць аслупянеўшага аспіранта:

— Дык што парабляеце?

Я не быў пры гэтай гаворцы. Казалі, яна была цёплая. Але развітаўся Колас кіўнуўшы галавою, а хворую руку папярэдліва схаваў у кішэню...

6 чэрвеня 1956. Прыехаўшы з Нарачы, першым чынам званю да Канстанціна Міхайлавіча. Адказваюць: дома, тупае па садзе, прасіў прыязджаць. Застаю яго на звычайным месцы, пад вязам.

Збіраецца ехаць у санаторый. Як заўсёды ў апошнія гады, пад Маскву, у Барвіху. Моцна наракае на рукі:

— Баляць, праклятыя! Мусіць, на там-тым свеце перастануць...

Сустрэчы з Масквою, як і зазвычай, ён рад. А ездзіць, відаць, на свае гады мнагавата. Быў у снежні 1955 пасля даволі працяглай, так і невысветленай да канца, хваробы. Але не ехаць не мог.

Чаму кажу — хваробы нявысветленай? Не ведаю дакладна і як яна пачалася. Колас у лістах называе яе «нервовым узрушэннем».

Быў кастрычнік 1955 года. Прыехаўшы з Чэхаславакіі, я паспяшаўся да Коласа. Даўнавата не бачыліся, падымала радасць сустрэчы і літаральна распірала ад навін.

Прынёс бутэлечку чэшскай слівавіцы. Дзядзька сядзеў каля стала ў звычайнай рабочай паставе. Слу-

хаў і не слухаў, глядзеў і не глядзеў на мяне. Нібыта гневаўся за невашта. Падарунак узяў, амаль не абазваўшыся.

Ведаючы, як лёгка змяняецца ў чалавека настрой, ■ ў яго асабліва, уражлівага і кволага ў душэўных узрушэннях, я палічыў за лепшае зараз жа пайсці. Колас не затрымліваў.

Літаральна праз некалькі гадзін мне расказалі, што Канстанцін Міхайлавіч выказваў нездавальненне. Колькасцю часу, якую я аддаю яму, работай, якую быццам бы раблю і не раблю.

Кінуцца высвятляць адносіны? Нельга! Толькі што быў. Мяркуючы па сустрэчы, Колас ці сапраўды нездаволены, ці заняты нечым у думках. А слоў і пачуццяў не ўтрымаць: напісаў ліст.

Праз дзень-два — на лісце дата 27 кастрычніка 1955 года — пайшоў туды, каб, павітаўшыся, быццам нічога не здарылася, пакінуць напісанае на стале. З парога быў папярэджаны: бацька захварэў, слаба пазнае людзей, ні з кім не гаворыць.

Гэта ўдарыла, як громам. Усё ж на правах чалавека, каму дазвалялася часамі многа больш, чым хатнім, падняўся наверх.

Канстанцін Міхайлавіч ляжаў у ложку. Ледзь падаў слабую нядужую руку. Уся мая гаркота, выказаная ў лісце, цяжар, што заставаўся ў пачуццях, развеялася — захаваў ліст глыбей у кішэню: як было хваляваць і без таго перахваляванага чалавека!

У дом двойчы прыязджаў М. С. Патолічаў. Ён любіў Коласа, дзверы ягонага кабінета былі заўсёды адчынены для Канстанціна Міхайлавіча. Зараз, відаць, сам асабіста хацеў дазнацца пра стан хворага.

Канстанцін Міхайлавіч насцярожыўся і захваляваўся. Яму стала блажэй. Жаліўся сам-насам свайму доктару С. О. Ліяранцэвічу: «Не хачу жыць, хачу памерці».

Калі нам здараецца застацца ўдвух, Канстанцін Міхайлавіч добра, спакойна гаворыць. Больш пра смерць. І ўсё пытае:

— Чаму да мяне спакой не прыходзіць?

3 лістапада, у дзень нараджэння Канстанціна Міхайлавіча, прыйшоў павіншаваць М. С. Патолічаў, а разам з ім таксама наведалі тагачасныя Старшыня

Савета Міністраў і сакратар ЦК па прапагандзе. Быў і доктар С. О. Ліяранцэвіч.

Канстанцін Міхайлавіч ляжаў светлы, улагоджаны. Папрасіў прабачэння, што не можа ўстаць, што не напісаў, як заўсёды ў гэты дзень, вершаванага навіншавання. Потым гаворка зайшла пра ўраджай, перакінулася на дарогі. Тут яны гаварылі ў адзін голас з Патолічавым, што ў нашай рэспубліцы з дарогамі справы моцна папраўіліся.

Госці паціскалі плячыма, слухаючы мудрыя і жартлівыя заўвагі Канстанціна Міхайлавіча: дзе ж тут і хто ж тут хворы?

Канстанцін Міхайлавіч папрасіў сысці ў гасцёўню і перакусіць, як заўсёды рабілася ў гэты дзень. Тым часам пад'ехалі Танк і Броўка, бяседа пакрысе збіралася.

Я не хацеў пакідаць Коласа аднаго і застаўся ў спальні. Ён бліснуў вачыма: «Ідзі ўніз, зараз жа! А сюды пашлі Міхася, ён са мной пабудзе».

Унізе — першая чарка за Канстанціна Міхайлавіча. Потым мы агалашалі тосты за гасцей, госці за нас. М. С. Патолічаў сказаў і пра мяне, пажадаў спорнай работы. Пра хваробу — ніхто ні гуку.

Пасля гэтага дня рэжым доктарскіх абмежаванняў у доме быў паслаблены. Колас пайшоў на папраўку. Я чуў па тэлефоне ягоны голас, прыязджаў у дом разам разбіраць пошту, парадкаваць рукапісы.

Так прайшоў лістапад. У канцы снежня Канстанціну Міхайлавічу трэба было ехаць у Маскву. Паедзе жонка малодшага сына, яна дагледзіць і ўсё зробіць для бацькі. Арганізуе кансультацыю, можа хворага пакладуць на некаторы час у адпаведную бальніцу — адпачыць і праверыцца.

Колас усё ж сказаў збірацца і мне.

У вагон да Канстанціна Міхайлавіча зайшлі С. О. Прытыцкі і Ф. А. Баранаў — ён працаваў у Бабруйску. Мусіць, знарок расказвалі шмат смешнага. Пра цыганоў, што атрымалі пазыку для арганізацыі калгаса і грэчку на насенне, нарабілі з яе круп, усю зіму елі грэцкую кашу, а пасеялі грэцкае шалупінне. Прытыцкі ўспамінаў, як ён пасвіў кароў у скупога кулака і прыносіў з пасты назад нязʼедзенае ёлкае сала, што яму давалася ў торбу на

ўвесь дзень. Кулак быў рад такой ашчаднасці пастуха, не ведаючы, што той напярэдадні набірае з курыных гнёздаў свежых яек. Дык на чорта тым старым салам душыцца!

Колас смяяўся і аджываў на вачах. Паслугі медыцыны былі адхілены.

Вярнуўшыся з Масквы, Канстанцін Міхайлавіч па-сапраўднаму падбадзёрыўся. Помнячы ўмову нічога не ўтойваць, я аддаў-такі свой даўно напісаны ліст. Паклаў, адыходзячы, на папку з паперамі і развітаўся.

Ледзь паспеў увайсці ў дом — званок.

— Еду да цябе! — голас у Канстанціна Міхайлавіча неспакойны.

І зараз жа прыехаў. Зачыніў за сабою дзверы ў мой пакой, паклаў на стол ліст, а сам не сеў.

— Я часамі думаў пра цябе ўсяк. Потым выходзіла — не на маё. Можа што лішняе і сарвалася з языка. Быў я вельмі знерваваны тады, помніш? Ліст твой я знішчыць не маю права, а пакінуць у сябе — чужым вачам аддаць. Пачнуць качаць на языках. Дый неасцярожнае слова цаляе і ў таго, хто яго кажа. Вазьмі,— ён падняў са стала канверт,— прыхавай. А ў печ не кідай. Калі мяне не будзе...

Не дагаварыў, сеў на канапу, пасадзіў мяне поруч, узяў за руку:

— Калі можаш, выбачай: дай мне спакойна памерці...

Не даў мне ні заплакаць, ні стаць перад ім на калені, чаго вымагаў той стан узаемнай узбуджанасці. Шырока расчыніў дзверы:

— Гаспадынька! Жоўтыя рыжкі не звяліся? Дык давайце іх сюды. І цыбулькі не забудзьце!.. А слівавіцы ў цябе няма? — гэта ўжо да мяне.

Пачуўшы адмоўны адказ, пахваліў тую слівавіцу, што прывёз яму з Прагі, і паўтарыў здагадку:

— Прага — гэта ад прагал, прагалак, западзіна паміж гор. Што ж, запоўнім наш прагал не слівавіцай, дык іншым чым...

Пасля Новага года пачалася партыйная канферэнцыя. Ён прысутнічаў там ад пачатку да канца

з усёй уласцівай яму акуратнасцю да выканання партыйных абавязкаў і даручэнняў. Адначасова рыхтаваўся выступаць. Меўся падняць на партыйным з'ездзе справу, што турбавала не адзін год.

Ачыстка палёў рэспублікі ад камення! Таму асабліва старанна чыталіся матэрыялы, ішлі гаворкі з раённымі работнікамі, браліся з інстытутаў і іншых установаў лічбы, весткі аб засмечанасці нашых палёў каменнем.

Асабліва абурала Канстанціна Міхайлавіча закупка каменю ў Чарнігаўскай і Жытомірскай вобласцях і транспарціроўка яго ў Беларусь на будаўнічыя патрэбы.

— Гэтая аперацыя,— іранізаваў ён,— нагадвае мне паездку па чыгунцы з Брэста ў Мінск цераз Адэсу або Кіеў. А ў сябе пад носам не бяром. Каля самай сталіцы, на адной толькі Бягомльшчыне ляжыць і просіць ужытку звыш пяці мільёнаў кубоў каменю.

Калі выказваліся пярэчанні, што прывезці кубаметр з Украіны танней, чым здабыць у сябе ў рэспубліцы, Колас пачынаў даводзіць:

— З пункту гледжання асобнага гаспадарніка гэта, мусіць, зусім правільна. Але трэба ўлічваць выгаду не толькі будаўнічых арганізацый, а ўсяе краіны. Тады высветліцца, што эканомія — нейкага паўрубля — выгада часовая, а глянуўшы глыбей — гэта пралік і пройгрыш. Вызвальце зямлю ад камення, і яна верне за гэты паўрубель у першы ж год чысты чырвонец. Я лічу, што ўрадлівасць нашага поля падымецца сама менш процантаў на пяцьдзесят.

Другі чырвонец верне наша сельскагаспадарчая тэхніка. Хто не ведае, што трактары, камбайны прастойваюць і ломяцца праз гэта самае праклятае каменне. А на камяністых глебах, скажам, у Маладзечаншчыне, і зусім адмаўляюцца хадзіць.

Вось вазьміце ды памножце гэтыя чырвонцы на ўсе доўгія гады, у якія наша зямля будзе даваць ураджаі нам, нашым унукам і праўнукам. Дадайце сюды вызваленне транспарту ад непатрэбных перавозак і абарочванне сродкаў унутры рэспублікі. Як тады будзе выглядаць гэтая эканомія ў паўрубля?

Канстанцін Міхайлавіч ужо бачыў, што з сабранага камення створаны велізарныя фонды будаўні-

чых матэрыялаў для патрэб горада і для разбудовы калгаснага сяла.

— Тады можна будаваць розныя памяшканні для жывёлы і даць, нарэшце, хоць невялічкую перадышку нашым шматпакутным лясам. Каб падраслі трохі. І галоўнае — забрукаваць вясковыя вуліцы, дзе і людзі топяцца ў гразі і коні. Ды не забыць і ўсе дарогі селавыя апрануць у брук. Бо там жа «ні праехаць, ні прайсці, ні коніка правясці».

Прамова на XXII з'ездзе КПБ доўга пісалася і перапісвалася. Потым рабіліся ўстаўкі, дадаткі. Перад выступленнем Канстанцін Міхайлавіч хваляваўся, але прыехаў з пасяджэння ўзрадаваны: дэлегаты сустрэлі прыхільна.

— Асабліва добра заключэнне прынялі,— сказаў, дзелячыся ўражаннямі.

А ў заключэнні гаварылася:

«Дазвольце мне, таварышы, сысці з гэтай трыбуны ў добрай надзеі, што маё слова аб ачыстцы ад камення нашай зямлі не папала на бясплодны камяністы грунт».

Другую палавіну лютага Канстанцін Міхайлавіч правёў таксама ў Маскве. Ішлі пасяджэнні XX з'езда партыі. Вярнуўся зморany, але давольны. Некалькі дзён расказваў сябрам, гаварыў аб з'ездзе як аб выключнай падзеі.

— Пад вялікі кумір падбіты здаровыя кліны. Але ад гэтага ён не ўпадзе яшчэ. Трэба порах сыпаць.

Цяперашнюю паездку ў Маскву Канстанцін Міхайлавіч плануе так: чэрвень прабыць у санаторыі, а потым, падмацаваўшыся, адразу на сесію Вярхоўнага Савета.

— Тады ўжо раз'едземся з табою, будзем спакойна адпачываць. Трэба будзе папрацаваць восенню. І многа. «На шляхах волі» дакончу. Але ты завязі мяне ў Маскву. Яшчэ нацешышся з свае Нарачы.

Гэтак мы гаворым назаўтра пасля майго прыезду

з дачы. Канстанцін Міхайлавіч ляжыць у ложку. Напярэдадні кепска спаў. Стаўлялі п'яўкі, каб знізіць ціск крыві,— лягчэй будзе ў дарозе. Ад'езд прызначаецца праз тры дні, на 10 чэрвеня.

— Прыедзем, Тукану пазвонім. Нешта ён маўчыць, не піша.

Тукан — сяброўская мянушка паэта Гарадзецкага. Колас выводзіць яе ад імені птушкі з ніштаватага памеру носам. Гісторыя адносін з С. Гарадзецкім доўгая і не заўсёды для мяне зразумелая. Назваць гэтыя адносіны дружбай цяжкавата, аднак нейкае сябраванне бясспрэчна ёсць, праўда, са шматлікімі спадамі і затуханнямі.

Звычайна, уладзіўшыся ў гасцініцы «Масква», Канстанцін Міхайлавіч здымае тэлефонную трубку.

— Сяргей! Ну, здароў! Дык я ў...—тут называўся нумар гасцінічнага пакоя.

З гасця часамі падкпівае, але дабрадушліва і прыходу яго чакае з прыкметнай нецярплівасцю. Усмешліва слухае навіны, на якія не скупы сябар, нібы адпачывае пад несціханую гаману, не прымаючы глыбока ў свядомасць. Быццам слухае шапаценне лісця на ветры, а думае сваё.

Аднойчы, калі запрошаны прыпазняўся, чаго, як ужо даводзілася гаварыць, Канстанцін Міхайлавіч не любіў, ён сказаў нечакана жорстка:

— Каб ён меў маё становішча ці хаця б зарабляў столькі, як я, ён са мною і не гаварыў бы...

На твар набегла сумнаватая ўсмешка: ён бачыць за вонкавай абалонай сапраўдную сутнасць людзей і тым не менш даруе ім вольныя і нявольныя чалавечыя слабасці. Але ад слоў патыхае гаркотай:

— На пачатку вайны, калі ў мяне не было ні кала ні двара, Сярожа не пусціў да сябе ў кватэру. Мусіць, баяўся, што завалю яму хату сям'ёю. Ды яшчэ і карміць нас прыйдзецца.

«Сярожа» вымаўляецца іранічна і ў той жа час журботна. Сумна, куды як сумна, сустракаць пацверджанне старой ісціны, што гора — асялок сяброўства.

Даніла Канстанцінавіч дадае некаторыя падра-

бязнасці той сустрэчы. Колас прыехаў з разбітага бамбёжкай Мінска і не меў дзе прыхіліць галаву. І той, што ўчора раскрываў абдымкі, дзяліў хлеб-соль, цяпер гаварыў з ім, як з надакучыўшым жабраком: стоячы на парозе, цераз прачыненыя дзверы.

Відаць, Сяргею Мітрафанавічу хацелася б забыць гэта... Колас жа прывеціў яго і зноў, як госця і друга, пасадзіў за свой стол у Ташкенце, калі Гарадзецкага звеялі з жытла ваенныя вятры.

Шмат іншага даруецца ў імя даўняй дружбы, нават кепскі пераклад раздзелаў «Новай зямлі». Колас зрабіў заўвагі, прасіў паправіць хоць бы асабліва благія мясціны.

У адказ прыйшоў абразлівы, калі не сказаць менш далікатна, ліст.

На час адносіны далі прыкметную расколіну. Рэдагаваць пераклад быў запрошаны П. А. Сямынін. Рэдагаваць, бадай, не тое слова. Ён проста перапісаў нанава большую частку некаторых раздзелаў. Пераклад выйшаў з друку, Сяргей Мітрафанавіч хутка забыўся на крыўду, якое ў сапраўднасці і не было, а Канстанцін Міхайлавіч зрабіў выгляд, што не заўважыў нетактоўнасці.

Усё пайшло па-ранейшаму. Відаць, таму, што яны — людзі прыкладна аднаго ўзросту, абодва адзінокія, рана страцілі сваіх сяброваак, і, як ніяк, Гарадзецкі адзін з першых перакладчыкаў Коласавай паэзіі. Да таго ж ён быў цікавы Канстанціну Міхайлавічу як асоба, дыхаў паветрам некалькіх літаратурных эпох.

Зараз Канстанцін Міхайлавіч успамінае Гарадзецкага перад недалёкай сустрэчай з ім у Маскве.

— Усё ж ён многа каго ведаў і чуў. І Блока, і Аляксея Максімавіча...

Ён пераходзіць да іншых маскоўскіх знаёмых:

— Маку пабачым, дый яшчэ хто-небудзь, відаць, адзавецца...

Мака... Канстанцін Міхайлавіч ведаў яе дзяўчынкай, калі сябравала з малымі сынамі. Ад тых часоў і яе дзіцячае імя — Мака. Цяпер гэта маці дачкі і сына, высокая, чарнакосая і чарнавокая жанчына. Гаворкі з ёю, відаць, нагадваюць пару, калі сям'я была ў поўным складзе: з Марыяй Дзмітраўнай і сярэд-

нім сынам Юркам. Вось чаму Мака (Маргарыта Мікалаеўна) заўсёды запрашаецца ў госці. Канстанцін Міхайлавіч глядзіць на яе з добрай бацькоўскай любасцю, стараецца дагадзіць ласункамі яе дзецям.

Трэцяя асоба, каго хоча пабачыць ён у Маскве,— былое ташкенцкае захапленне.

Пасля пераезду Коласа ў Мінск яна пачала падаваць голас даволі часта: пісьмы прыходзілі кожны тыдзень. Але не сустракалі ўжо водгуку.

Аднойчы ў Маскве я на цэлы дзень накіраваўся па справах. Неспадзявана вярнуўся раней часу і застаў у гасцях у Канстанціна Міхайлавіча жанчыну. На стале стаяў няскончаны абед, сухое віно. Канстанцін Міхайлавіч пазнаёміў нас. Госця пасядзела, пасля, паабяцаўшы пазваніць, пайшла.

Канстанцін Міхайлавіч прылёг на канапу.

— Яна цяпер кажа: «Баялася, каб вам сям'і не разбіць». Не, нецікава ёй было. Кожны дзень па вершу ёй пісаў. І сам насіў, замест паштальёна. Зараз усё званіла, званіла, пабачыцца дамагалася.

Канстанцін Міхайлавіч выпіў віна.

— Марна жыве яна. Муж пакінуў. Трэба дзяцей гадаваць. Абяцала даць перапісаць мае ташкенцкія вершы.

На гэтым, здаецца, і скончылася шматгадовае і, калі меркаваць па вершах і дзённікавых запісах, моцнае захапленне. Аднак мінулася яно не само...

Канстанцін Міхайлавіч скончыў казку «Як птушкі дуб ратавалі». Рэч доўга не ўдавалася, шмат правіў, даў вылежацца. Перад чытаннем ён папярэдзіў:

— Прысвячэнне ты не ведаеш каму.

Казка здалася мне напісанай адным дыханнем.

— Можа яно і не так добра, як ты гаворыш.

— Натхненне моцнае чуваць, дзядзька Якуб. Ад прысвячэння, пэўна.

Ён моўчкі скасавурыўся:

— Здагадаўся?

Здагадцы дапамог сам Канстанцін Міхайлавіч.

— Укінь у скрынку пісьмо Былінцы,— папрасіў ён аднойчы.

Знаёмых з такім прозвішчам не ўспаміналася. На

канверце стаяла імя адной мінчанкі. Іх знаёмства пачалося ў рэдакцыі газеты, куды зазвалі групу пісьменнікаў параіцца аб далейшым супрацоўніцтве. Пілі чай. Былінка, мусіць, адзіная прадстаўніца «прыгожага полу» на гэтым прыёме, частавала старэйшага і найбольш паважнага госця — Канстанціна Міхайлавіча, а разам з ім і Сяргея Гарадзецкага. Як далікатныя кавалеры старога выхавання, яны гаварылі гаспадыні стала прыемныя рэчы. Яна хораша пасміхалася і выглядала яшчэ лепш, як гэта бывае з жанчынамі, калі трапляюць яны ў кола добрай увагі.

Галантнасць у адносінах да жанчын ніколі не пакідала Канстанціна Міхайлавіча. Ён скідаў з сябе змору сямі дзесяткаў, рабіўся гаваркі, абыходлівы, не забываўся пацалаваць ручку, падкінуць, як гэта гаворыцца, камплімент. Аднойчы зусім сур'ёзна пакрыўдзіўся, што наша выпадковая спадарожніца, суседка па купэ, больш размаўляла са мною. Пакрыўдзіўся, але толькі на хвіліну. Зараз жа пасміхнуўся і сказаў: «Я, здаецца, раўную. Дай божа і табе, Максім, адчуць гэта ў 70 гадоў».

Вернемся да Былінкі. Праз некаторы час яна пачала заходзіць у Коласаў дом. У вузкім коле знаёмых, следам за Канстанцінам Міхайлавічам, яе пачалі клікаць Алеська. Імя Былінка, мусіць, было дадзена за невялічкі рост і кволасць. Адным словам, расшыфраваць літары А. Б. у прысвячэнні не складала вялікіх цяжкасцей *.

З лістоў Канстанціна Міхайлавіча да жанчын,— а лістоў гэтых знойдзецца вельмі і вельмі шмат,— некалі вырастуць цікавыя творы. Зараз даводзіцца гаварыць сцісла, не называючы прозвішчаў, пакідаючы за тэкстам развіццё і згасанне той ці іншай сустрэчы ці перапіскі.

Згаданая ўжо, крыху старамодная галантнасць і ветлівасць ніколі не пакідалі Канстанціна Міхайлавіча абыякавым і да жаночага гора і да жаночай усмешкі. Іменна яны — гора і радасць — заўсёды моцна ўваходзілі ў душу Канстанціна Міхайлавіча. Пачыналася распытванне, спагаданне, пасля з'яўляліся лісты. Колас прывыкаў да чалавека, лічыў яго сваім, не адлучаў яго ад уласнага ўнутранага жыцця.

Усе, як ён сам, павінны рабіць па справядлівасці, так жа ставіцца да абавязкаў, прагнуць праўдалюбства, высока трымаць гонар.

Іначай Колас думаць не мог.

Часамі праз гэта ён рабіўся безабаронным, як дзіця. Бо не ўсе сустрэтыя ім падыходзілі пад вымаляваны ў думках хоць бы прыблізны ідэал чалавека.

Падмануўшыся на адной фальшыўцы, ён не паказваў і выгляду. Вонкава адносіны з такім чалавекам як быццам не змяняліся, унутрана ж — замыкаўся ў сабе. Аднак трымаць душу замкнутай для чалавека не мог, і з такою ж лёгкасцю ашукваўся на другой падманцы.

Душа ўсё роўна заставалася адкрытай. Гэтым і тлумачыцца гісторыя некаторых сяброўстваў і ліставання з жанчынамі.

І многае ў лістах патрабуе сапраўднага прачытання. «Абдымаю», «цалую», «хачу бачыць»,— пісаў ён знаёмай у Маскву. Здавалася б, тлумачэнняў не трэба. Наадварот, трэба. Бо ён ведаў адрасатку з яе малых год і амаль з таго часу не бачыў, ніколі не выказваў жадання пабачыць, калі здаралася магчымасць. А пісаць — пісаў!

Дык вось мы і збіраемся ў дарогу.

— У цябе, відаць, справы знойдуцца ў Маскве,— не зусім упэўнена гаворыць Канстанцін Міхайлавіч.

— Асаблівых няма.

— Ну, усё роўна завязі мяне. Застанешся там на колькі дзён, у тэатры паходзіш.

Яму руніць, ці з ахвотаю я еду, ці не адрываюся ад якой-небудзь справы. Таму, вось ужо некалькі дзён запар, вяртаецца да паездкі, пачынае далікатны зандаж, пускае ў ход такія маскоўскія прывабы, як тэатр. Звычайна ён крыху выкпівае мае тэатральныя слабасці. На спектаклі ходзіць рэдка, хоць яго абавязвае да гэтага членства у Камітэце па дзяржаўных прэміях. Не дазваляе здароўе: праседзеўшы пару, усю ноч не можа заснуць, а назаўтра парушаецца працоўны рэжым. Аднак многіх акцёраў ведае і любіць, са здавальненнем выслухвае мае ўражанні ад новых пастановак. Калі дома з'явіўся тэлевізар, па-

чаў глядзець і фільмы і спектаклі, трохі наракаючы на драбнату постацей, невыразнасць твараў.

Дамовіўшыся канчаткова аб выездзе, пачынае аб тым, што яго найболей турбуе. Цяпер такіх рэчаў тры: мова і дальнейшае развіццё культуры ў рэспубліцы; хуліганства і паводзіны моладзі; могілкі. Ужо другі месяц толькі і размаўляе аб гэтым. Падоўгу, хвалюючыся, пашыраючы і паглыбляючы з кожным разам свае намеры.

— Могілкі павінны быць агледжаны і абгароджаны. Павага да нябожчыкаў — павага да саміх сябе. А што ў вёсках? Цягаюцца каровы, свінні, козы... Ляпаюць проста па магілы, апошнюю зеляніну выцярэбліваюць.

Пачаўся гэты клопат з агледзін, які рэзрух на могілках у Мікалаеўшчыне, дзе пахаваны яго бацькі і сваякі. Паглядзеў і звярнуўся ў Савет Міністраў. Стаўляць агароджу вырашыў за свой кошт, але прасіў, каб быў вызначаны выканаўца работ — якая-небудзь будаўнічая арганізацыя. Справе быў дадзены рух, выдаткі ўзяла на сябе дзяржава, а Канстанцін Міхайлавіч стаў дбаць аб добраўпарадкаванні могілак ва ўсёй рэспубліцы.

Канстанцін Міхайлавіч кажа, што рыхтуе два лісты. Адзін — аб выкараненні хуліганства — мяркуе, папярэдне параіўшыся, адаслаць у Маскву (гл. дадатак).

Не ведаю, ці было зроблена гэта. Але 15 чэрвеня 1956 года Канстанцін Міхайлавіч паведамляў з Барвіхі, што раіўся наконт ліста, што ліст гэты ўхвалены яго дарадцам і выказана пажаданне, каб ён паслужыў «...сігналам для прыняцця адпаведных захадаў па ўпарадкаванню непажаданых падзей і з'яў у нашым жыцці» *.

Ліст аб далейшым развіцці нашай мовы хоча напісаць і абмеркаваць больш грунтоўна на месцы.

Канстанцін Міхайлавіч звяртаецца да ўсіх бліжэйшых сяброў, каб дапамагалі фактамі. Каму паказваўся гэты ліст, невядома. Колас чакаў з адпачынку М. С. Патолічава, хацеў папярэдне пагаварыць з ім, пачытаць ліст аб мове яму, потым перадаць членам бюро ЦК КП Беларусі.

Старэйшы сын, Даніла Канстанцінавіч, расказвае, што ў дзень смерці Канстанцін Міхайлавіч паклаў у партфель нейкі ліст і паехаў у ЦК.

У Цэнтральны Камітэт Колас ездзіць часта і ахвотна. Патрэба ў гэтым бывае амаль кожны тыдзень: хадайнічае за людзей, здае матэрыялы, якія даводзіцца чытаць як члену ЦК. Апрача таго, рад сустрэцца з М. С. Патолічавым. Ставіцца да яго з клопатам і апекаваннем старэйшага чалавека, якія відавочна перарастаюць у большае пачуццё. Цэніць у ім дзяржаўны размах, любоў да справы, энергію і ўмельства, з якімі Мікалай Сямёнавіч узяўся за станаўленне нашай прамысловасці.

Выбіраецца Канстанцін Міхайлавіч у ЦК, нікога не папярэджваючы. Такое права яму даў Мікалай Сямёнавіч:

— Заходзьце ў любы час. Калі што непакоіць, хай сабе самае малое, не трымайце пры сабе — расказвайце.

Летам 1953 года М. С. Патолічаў меўся ад'язджаць у Маскву на іншую работу. Адбыўся Пленум ЦК КП Беларусі.

Канстанцін Міхайлавіч, як ён расказваў крыху пазней, гаварыў там, як развіваць мову і культуру, рабіў прапановы ў гэтым кірунку. Скончыўшы прамову, не мог стрываць душэўнага парывання, пайшоў цераз увесь прэзідыум да Мікалая Сямёнавіча, паціснуў руку і падзякаваў яму за ўсё добрае, што ён зрабіў для рэспублікі. Пленум пачаў апладзіраваць, і ад'езд Мікалая Сямёнавіча быў адкладзены.

Праз год ці два зноў пайшлі чуткі, і небеспадстаўныя, што М. С. Патолічаў ад'язджае. Занепакоіўся і Канстанцін Міхайлавіч. Яму не хацелася разлучацца з чалавекам, сапраўдным другам краіны і яго асабістым.

— Мікалай Сямёнавіч добра правёў адну замежную паездку, будучы на чале савецкай дэлегацыі. Вось яго і забіраюць на дыпламатычную работу.

Перад ад'ездам Канстанцін Міхайлавіч запрасіў М. С. Патолічава да сябе.

— Не хацелася яму выязджаць,— расказваў Колас пра адвітанне.— Выдатныя людзі ў нас у сакратарах былі: М. Ф. Гікала, хай яму будзе лёгкая зям-

ля, П. К. Панамарэнка, згодна мы з ім жылі, і вось Мікалай Сямёнавіч. Малады і мяккі, здаецца, а ўмелы і далёка наперад глядзіць. Помніш, як аднойчы расказваў нам пра прамысловасць? Што было, што будзе, казаў. Так ніводзін паэт не патрапіць.

З санаторыя Канстанцін Міхайлавіч двойчы пісаў мне. 15 чэрвеня пачаў і скончыў заўтра, апанаваны трывожнымі прадчуваннямі:

«Пісьмо гэта буду дапісваць заўтра: зараз буду слухаць радыё, затым вячэраць, а потым пайду глядзець кіно.

Рукі мае балелі, баляць і, напэўна, будуць балець: часу засталося мала, каб вылечыць іх... У галаве стаіць шум, сама яна кружыцца, і я не ведаю, ці то ад павышанага ціску крыві (210), ці ад лякарства (саліцылка, уратрапін). Праўда, мяне папярэдзілі, што ў галаве будзе шум. Ну, што ж. Няхай шуміць, балазе лес маўчыць, няма ветру.

Тут зараз сухмень, гарачыня. Першая дэкада чэрвеня ўжо забрала з грунту каля 60% вільгаці. Калі не будзе папаўнення, дык прыйдзецца з пастом спазнацца...»

Да стану свайго Канстанцін Міхайлавіч ставіцца ўсё ж іранічна. Сапраўдны клопат, як і заўсёды, пра дождж, а значыць, і пра ўраджай.

«Пішы, як выглядаюць нашы палі»,— наказвае Колас і ўспамінае пра Нарач, куды ён раіць заехаць добраму знаёмаму, «пабыць у гасцях у... Міхала-адмірала, Максіма Танка, для якога возера Нарач — калыханка, і ў Аркадзя Куляшова, што жыццё пачынае нанова...»

У пазнейшым лісце Канстанцін Міхайлавіч больш жартуе: адпачыў, палепшала здароўе, а галоўнае: «24 чэрвеня была вялікая навальніца. За ўсю вясну і лета налюбаваўся я хмарамі, маланкамі, громамі і ўлеўным дажджом».

Далей ён смуткуе з прычыны смерці І. А. Ліхачова, з якім пазнаёміўся ў санаторыі, ведаў і цаніў за дапамогу ў пабудове аўтастрады Масква — Брэст. Аднак у лісце патыхае і радасцю ад блізкай сустрэчы з домам і з Нараччу.

# ПЕРАД РАССТАННЕМ

*Як адказваць на лісты. Госці з Віцебска. Сцэнічная рэдакцыя «У пушчах Палесся». «Паўлінка» і як яе заручалі. Сакаліны век. Развітанне з Нарачу.*



Ліпень пакіраваўся на другую палавіну. Канстанцін Міхайлавіч вярнуўся з Барвіхі, ходзіць лягчэй, толькі жаліцца, што не далі рады рукам і маскоўскія дактары. Больш за месяц не быў дома, сабралася мноства неадказаных лістоў, ён гэтага моцна не любіць і ўшчувае ўсіх нават перад староннімі. Каб не выклікаць нездавальнення, я прапанаваў хоць бы на лета, калі выязджаю з горада, перадаць перапіску разам з маёю зарплатаю добрай машыністцы, а ўсё астатняе, як было, так і будзе за мною, на так званых грамадскіх пачатках.

Згоды на гэта Канстанцін Міхайлавіч не даў.

— Чалавечую бяду і патрэбу сам праз сэрца прапускай. А як можа адказаць машыністка, самая лепшая? «Паважаны таварыш! Паведамляю, што па вашай справе...»

Дакончыўшы імправізаваць уяўны ліст з трафарэтнымі канцылярскімі аздобамі, Канстанцін Міхайлавіч кпліва дадае: — І «з прывітаннем», так сказаць... А ў лісце, каму б ты ні пісаў, павінна і душэўнае слова прабіцца. Давай, нечага, будзем цягнуць да канца.

І нядужы, у паважных гадах чалавек, ледзь трымаючы ў руках пяро, сядаў дапамагаць, адказваў просьбітам, даваў парады, разбіраў вершы.

Ведаючы ўсё гэта, я загадзя прыехаў з Нарачы падцерабіць пошту без яго. Цераблю і сёння з раніцы, але зараз праца ідзе няроўна: аддаў Канстанціну

Міхайлавічу глядзець адну работу, а яна была мне ўпершыню, хвалююся. Пад вечар гара лістоў заносіцца ў паштовую скрынку, настрой у Коласа відавочна лепшае, і ён запрашае падняцца ў кабінет, дзе праседзеў амаль увесь дзень.

На стале рукапіс. Шырокі, на паўстаронкі, надпіс: «З сцэнічнай рэдакцыяй Максіма Лужаніна згодзен. Якуб Колас. 17.VII. 1956 г.».

Гэта — п'еса «У пушчах Палесся». Неяк вясною завіталі былі госці з Віцебскага тэатра. Узаемны абмен далікатнымі словамі — і за справу: так і так, хочам аднаўляць пастаноўку «У пушчах Палесся». Дык ці нельга было б крыху падправіць п'есу? Няма часу, не можаце? Калі ласка, мы прывезлі накіды, дайце візу...

Канстанцін Міхайлавіч папрасіў пакінуць: пачытаю, маўляў, падумаю. Падумаў і адхіліў прапанову. Відаць, адштурхнула не столькі выразнае жаданне пераробшчыка паставіць на афішы поруч з Коласавым уласнае імя, як бесцырымоннасць у абыходжанні з творам.

— Гвалтоўна нейчая ручка пахадзіла,— казаў ён,— ды каб жа хоць умеючы. А чаго яны заварушыліся? Няйначай, нехта сказаў — які ж гэта коласаўскі тэатр без Коласа? Што мне яшчэ правіць? І так гэта п'еса быццам не мая. Чаго я не падапісваў некалі! То рэжысёру дагадзі, то акцёрам: аднаму слоў дадай, другому перайнач, бо вымавіць не можа. А не зробіш, горш будзе, самі напрыдумляюць абы-чаго. Я ўжо на гэтым млыне быў, ведаю: мелеш-мелеш, а блінцы не падходзяць.

Канстанцін Міхайлавіч прыжмурваецца.

— Можа хочаш пакаштаваць? Вазьміся, у цябе ж свярбелі рукі да такіх спраў.

Не ведаю, што адказаць. Так, па просьбе кінематаграфістаў я пачынаў думаць пра экранізацыю «Рыбаковай хаты» і пытаўся аднойчы дазволу ў аўтара. Ён паставіўся даволі скептычна, далей скажацца — чаму, а потым параіў лепш звярнуцца да трылогіі — вось дапішацца апошняя старонка, і можна будзе.

Адным словам, пасля доўгіх ваганняў давялося брацца за п'есу: у словах Коласа чулася жаданне яшчэ раз выйсці да гледачоў. Бянтэжыла адно: не

даў ён ні парад, ні выказаў і пажаданняў, як звычайна рабіў. Але ў памяці яшчэ не ачэрсцвелі не так даўнія гаворкі пры падрыхтоўцы зборніка п'ес — будзем аглядацца на іх, працуючы. Тады Канстанцін Міхайлавіч ставіўся да прапаноў памяркоўна, а вось што скажа, гляцуўшы на зробленае: перастаўлены эпізоды, удакладнены паводзіны герояў, а галоўнае — шмат скарачэнняў, асабліва яны закранулі дыялог.

Зараз размашыстая рэзалюцыя на першай старонцы здымае сумняванні.

— Нічога, нічога,— падбадзёрвае Колас.— Павыкрэсліваў лішняе, але збольшага, можна было б і смялей:

— Каб жа вы сказалі, дзядзька Якуб...

— Я падумаў: і так павінен угадаць, не першы дзень бачымся. Там, у сярэдзіне рукапісу, я старонак колькі падправіў. Перадрукуй ды пасылай у Віцебск. Толькі прыгледзь потым, на рэпетыцыі з'ездзі. Каб гэтак, як з Купалам, не выйшла...

Гэта — дакор у бок спектакля і экранізацыі камедыі «Паўлінка».

— Лепшы Янкаў твор і ў ягоным тэатры, а зрабілі не па-купалаўску...

Не ведаю, як наконт тэатральнай пастаноўкі, а супроць фільма-спектакля Канстанцін Міхайлавіч пратэставаў. У маленькім кіназальчыку Дома урада, дзе паказвалі першую копію, азіраўся па баках і, як толькі запалілася святло, моўчкі пайшоў.

Міністр кінематаграфіі падаўся трухам наўздагон.

— Як, як, Канстанцін Міхайлавіч?

— Няма чаго якнуць. У п'есе — не той сэнс...

Прыкладна праз дзень мяне выклікалі ў ЦК партыі, там грунтоўна пачалі распытваць пра фільм. Тлумачу, што, пішучы сцэнарны план «Паўлінкі», я пільнаваўся аўтара і не маю дачынення да пераносу ў фільм «шчаслівай» тэатральнай канцоўкі: насупар п'есе, Якіма ніхто не арыштоўвае, і Паўлінка ўцякае з ім пад вянец.

Мне было сказана, што кінематаграфісты зрабілі дзве канцоўкі, хочуць паглядзець, памераць, але абя-

цаюць паставіць фінал паводле Купалы. Так і належыць перадаць Канстанціну Міхайлавічу, ён званіў з гэтай прычыны, дык няхай не хвалюецца.

На жаль, абяцанні засталіся абяцаннямі: Коласа супакоілі, а Купала так і застаўся ў крыўдзе. Відаць, кінарэжысёр узяў руку тэатральнага: абы відовішча! А сацыяльная сутнасць і нацыянальная прыналежнасць твора апынуліся ўбаку.

— Пажаніць Якіма з Паўлінкаю — замах не новы.— Канстанцін Міхайлавіч уважліва выслухаў мой пераказ.— А пра «Заручыны Паўлінкі» ты чуў што-небудзь?

Колас называе і аўтара Ф. Аляхновіча, нясветлай памяці драматурга, ад чые асобы вызвалілі зямлю нашы падпольшчыкі.

— Калі я прыехаў у Мінск, можа ў 1921 годзе ці пазней крыху, трапіла да мяне тая п'еска. Янку Купалу прысвечана і пад яго ж мінай падкладзена...

Крыху абегла Канстанцін Міхайлавіч абнажвае сацыяльны стрыжань купалаўскай камедыі: кулакі Крыніцкі і Пустарэвіч, зрабіўшы папярэдне данос, пасадзілі ў турму маладога настаўніка Якіма Сароку, не ўважылі і на яго каханне з дачкою Крыніцкага Паўлінкай.

— Што яны кулакі, даводзіць не трэба, паслухай іхнія падлікі, колькі хто зямлі мае, што данеслі — таксама не схаваеш. Успамяні, як гаворыць Крыніцкі, як ён робіць змову супроць Якіма.

Канстанцін Міхайлавіч дадае доказаў. Пакуль Якім не выказваў сваіх поглядаў, не насцярожваў Крыніцкага, хлопцу дапамагалі вучыцца, нават за зяця мог сысці. А падзьмуў не ў тую дудку, адразу стаў «хамулам», «гэрэтыкам», «бунтаўшчыком», і настаўніку «даюць дарогу» ў турму.

— За што ўсім палюбілася «Паўлінка»? — пытае і сам сабе адказвае Канстанцін Міхайлавіч, ён часта робіць гэтак.— Прыхільнікаў не злічыць: чытачы, выканаўцы, гледачы. І да рэвалюцыі, і ў колішняй Заходняй Беларусі, і пад нядаўняй акупацыяй фашыстаў жыла «Паўлінка», не зважаючы на забарону. А вось за гэта самае ўпадабалі: за бунт, за рэвалюцыйны штуршок у думку, у сэрца. Маладое пака-

ленне бунтуецца супроць цёмнай сілы ў вёсцы, не хоча ўціску, несправядлівага ладу жыцця.

Як быццам для большай пэўнасці ў тым, што гаворыць, Канстанцін Міхайлавіч дастае том з Купалавымі п'есамі. Крыху пагартаў і працягвае:

— У свой час тлумілі галаву: у Купалы нічога гэтага не напісана. І трагічны канчатак — штучны, дарма прышпілены. Смех слухаць, дый годзе! Купала — усюды наскрозь сацыяльны, і раптам маеш — збіўся на чысты смех. А паспрабуй тады сказаць выразней: 1912 год, сàма рэакцыя ўсходжвалася. Вось Купала і пісаў: не колькі хацеў, а колькі мог. І так забароны з усіх бакоў... Жандары, пілсудчыкі, фашысты, усе чулі ў малой дзяўчыне, Паўлінцы, небяспеку. Нічога гэтага, вядома, не здарылася б, каб Янка скончыў шлюбам, згодаю, але тады ён не быў бы Купалам. Якога шчасця можна было шукаць у тым часе? У нутрах часу ляжаў трагізм, а шчасце заслонена, захмарана, за сотнямі замкоў. Каб даць таму шчасцю засвяціць, чалавек ламаў агароджы, прабіваў хмары і гінуў. Але жыцця не шкадаваў, абы волю ў рукі. Не адчуваў гэтага хіба бязвокі або глухі, а мастака адчуванне трагічнага працінала наскрозь. Пра Купалу і казаць няма чаго: усяго сам паспытаў.

Цяпер Канстанцін Міхайлавіч здымае покрывы з другой, некупалаўскай п'есы. З зайздроснай дакладнасцю пераказвае змест, амаль слова ў слова прыводзіць вытрымкі, у чым давялося пераканацца пазней, чытаючы «Заручыны Паўлінкі». Гэта — саматужная даробка, як бы трэці акт да сапраўднай «Паўлінкі», змастачаны груба, з драўлянымі вершамі. Асабліва адчуваецца ўбогасць падробкі поруч з іскрыстым дыялогам, незраўнанымі жартамі і прыпеўкамі — Янкі Купалы.

Але не літаратурныя якасці твора найбольш цікавяць Коласа, а сапраўдныя намеры аўтара. Папулярнасць «Паўлінкі» настрашыла не толькі разнамасных ахоўнікаў парадку. Спалохаліся і другія асобы, што хадзілі пад лічынай дабрадзеяў і добразычліўцаў паэта. Як так? Купала сцвярджае сацыяльнае расслаенне беларускай вёскі, паказвае на сілы,

што супрацьстаяць адна адной, а па-іхняму — у беларускім народзе мір ды згода, няма і завідам не было ніякіх класаў. І вось адзін з носьбітаў такіх незайздросных поглядаў і галаснік такіх казаняў рынуўся на іх абарону, надумаўся нейтралізаваць рэвалюцыйнае ўздзеянне купалаўскай камедыі.

І што ж? У ягонай даробцы і падробцы ідзе, калі можна так сказаць, своеасаблівая рэабілітацыя Якіма: ніякі ён не бунтаўшчык і не рэвалюцыянер, чытае кнігі, «дазволеныя цэнзурай», а што датычыць зняволення, дык «мала за якое глупства можна папасці ў астрог». Словам, настаўнік — асоба цалкам добранадзейная, яго «пасадзілі дзеля страху», сапраўды праз відавочнае непаразуменне: гаварыў недзе здуру, «памаўляў выгнаць паноў. Хіба ж гэта не глупства, добрыя людзі: як жа жыць без паноў?»

Крыніцкі і Пустарэвіч тут не кулакі і даносчыкі, а дабрадушныя п'янюгі. Лічаць, што Якім «хлопец нічога», «але аддаць яму Паўлінку — не для пса каўбаса. Мы ўсе шляхоцкага роду...»

Інакшай паказваецца і постаць Якіма. Усё абыдзецца, мяркуе ён, калі пераканаць Крыніцкага, што «толькі там шчасце, дзе ёсць каханне». І вось як пераконвае: «Няўжо я не гэтакі самы сын свае бацькаўшчыны Беларусі, як і вы? Няўжо мы розныя мовай і сэрцам?» Гэтага зусім даволі — пераканаў. І чулліва спявае: «У каханні перашкод ужо няма, блаславіла нас бацькоўская рука».

— Відаць пана па халявах,— кідае ў адрас аўтара Канстанцін Міхайлавіч.— Чуеш, які пах з яго творыка верне? Толькі адны рэжысёры хіба і не чуюць. А ты мяне яшчэ ў кіно сватаеш...

Іду следам за развагамі Канстанціна Міхайлавіча. З тэатральнай трактоўкай «Паўлінкі» не згаджаліся многія. Пісалі, гаварылі, выступаў у тым ліку і я — шкада, не ведаючы ўсяго, што зараз пачуў. Што ж, гэта навука спатрэбіцца не сёння, дык заўтра.

Сапраўды, каму з пастаноўшчыкаў, хоць бы і лічыўся ён наватарам над наватарамі, у якую хмарную ноч мог прыбачыцца на сцэне шлюб Чацкага з Соф'-

яй? Вядома, геніяльная рэч нават ад такога свавольства не ператварылася б у фарс, але якое страшнае пакаранне спасцігла б свавольніка ад рукі грыбаедазнаўцаў дый проста прыхільнікаў літаратуры і тэатра! Вунь як асцярожна зрабіў Меерхольд, сапраўдны наватар, а наогул — адважны майстар у адносінах да аўтарскіх тэкстаў. Дастаў з грыбаедаўскіх чарнавікоў першы варыянт назвы і выпусціў з ёю спектакль: «Гора розуму». Хіба пайшоў супроць аўтара? Ні на парушынку, толькі падкрэсліў яго задуму.

Канстанцін Міхайлавіч слухае. Хваля ўзрушэння сплыла, ён выгаварыўся і падпадае пад уладу элегічнага настрою.

Колькі ўжо людзей спрадвеку
Лёс касіў і сек!
Не даецца чалавеку
Сакаліны век.

Ён прачытаў уголас радкі, задумаўся, потым зноў паўтарыў апошнія.

— А чаму «сакаліны», дзядзька Якуб?

— Кажуць, сокал сто гадоў жыве. Я табе гаварыў пра народных лекараў, сакольнікаў, яны па столькі сама, доўга па зямлі тупалі. Птушка жыве даўжэй, мусіць, таму, што памяці не мае ні на дабро, ні на зло. А чалавеку кожны дзень смуткаў дадае: таго не зрабіў, гэтага, а тое не туды павярнуў. Піфагора помніш? Дык вось адна думка яго раней не абыходзіла мяне, а зараз нібы працінае: «Не падпускай сну пад вочы, пакуль не даследуеш у сваёй памяці справы твайго дня».

Канстанцін Міхайлавіч спыняецца, нібыта хоча пабольш вычытаць з выслоўя.

— Каб жа ўсё жыццё рабіў так! І пражыў бы яго лепш і людзей шмат ад чаго асцярог бы...

Каму належыць «сакаліны век», не ведаю, а Канстанцін Міхайлавіч не хоча казаць. Хутчэй за ўсё — яму самому; відаць, злажыўся кавалачак, дый застаўся без працягу, ці не лермантаўская інтанацыя («Спрэчка») перашкодзіла дапісаць, выйсці на сваю дарогу.

Так закончылася адна з нешматлікіх тэатраль-

ных размоў. Праз многа гадоў сталі спраўджвацца словы Коласа пра затоены ў часе трагізм, пра сацыяльнае напаўненне «Паўлінкі».

Пачаў успамінаць П. С. Малчанаў. Пра сваю пастаноўку камедыі, пра сустрэчы і гаворкі з Янкам Купалам. І мы дазналіся, што чытаць «Песню аб Буравесніку» акцёры пачалі з ухвалы самога аўтара, змяніць фінал ён не згадзіўся. Дапісваць даўні твор Купала не мог, а ведаць — ведаў, што зрабіць, каб загучала ўсё мацней, глыбей, з большай сацыяльнай вастрынёю, бо і не збіраўся ніколі ствараць «чыстую» камедыю.

І ў «Паўлінкі» знайшліся сваякі — добрай вядомасці п'еса «Трыбунал»; думаецца — працяг класічных традыцый можна смела называць духоўным сваяцтвам. Многія тэатры ставяць гэты народны лубок, паводле аўтарскага азначэння, не адкідаючы трагічнага фіналу, якім драматург, паводле задуму мастацкай праўды, закончыў свой камедыйны твор.

Што ж было з аднаўленнем на сцэне «У пушчах Палесся»? Як і наказваў Канстанцін Міхайлавіч, першым зазімкам 1956 года я паехаў у Віцебск. Пачытаў коласаўцам новую рэдакцыю, наслухаўся запэўніванняў, што з'явілася, маўляў, аздоба рэпертуару, і ўсё. Святло рампы, як гавораць, на п'есу не пасвяціла. Напэўна ж, не вінен у гэтым аўтар, мусіць, рэдакцыя выйшла недасканалая.

Хацеў паглядзець, ды не пакінуў сабе ніводнага экземпляра. Аж неяк усцешыла знаходка-неспадзяванка: старонка з ухвалай Коласа, зборнік п'ес, па якім фармавалася сцэнічная рэдакцыя, і накіданыя па гарачых слядах тых гаворак нататкі.

Усё гэта дапамагло аднавіць і запісаць яшчэ некалькі гадзін з жыцця Якуба Коласа.

Канстанцін Міхайлавіч прыехаў на Нарач на некалькі дзён перад сесіяй Вярхоўнага Савета БССР.

Усё часцей задумваўся ён, адсоўваючы прыгубленую чарку віна на нашых супольных, крыху ўрачыстых з прычыны яго прыезду бяседах. Потым, прахапіўшыся ад забыцця, пераводзіў вочы з блакітнай

нарачанскай вады на прысутных і як быццам вінавата ўсміхаўся. Адказваў толькі на звернутыя проста да яго запытанні і размову падтрымліваў толькі, каб не гасла.

А на беразе возера сядзеў доўга і ахвотна: увечары каля кастра і ранічкаю, пакуль яшчэ не прыпякала сонца. І тут хвалі агульнай гаворкі як бы перакочваліся цераз яго. Гэта было падобна да развітання, асабліва калі ён тужлівым і замілаваным поглядам праводзіў няўрымслівых Танкавых дачушак з мудрым разуменнем і прадбачаннем іх маладой дарогі ў будучае.

Тады мы апошні раз сумесна працавалі. Рыхтаваўся да друку зборнік публіцыстычных артыкулаў. Канстанцін Міхайлавіч папрасіў прагледзець яго. Я выказаў свае меркаванні пра пабудову кнігі і неабходныя скарачэнні. Тут, уласна кажучы, на Нарачы і была ўстаноўлена канчатковая рэдакцыя матэрыялаў. Канстанцін Міхайлавіч забраў зборнік з сабою і перадаў у выдавецтва.

У мяне былі прэтэнзіі моўнага парадку да некаторых артыкулаў. Канстанцін Міхайлавіч хутка прадыктаваў папраўкі, потым прыжмурыў вока:

— Ты нашы газеты чытаеш?

Не разумеючы, у чым справа, ківаю галавой.

— Дык чаму ты іх не лаеш?

— За што?

— А хоць бы за такі загаловак. Чорнымі літарамі, праз усю паласу: «Сеў на цаліне». Забыліся пра слова сяўба. А што выходзіць? Хто сеў на цаліне? Для якой патрэбы сеў? Што з гэтага выйшла?

Канстанцін Міхайлавіч змаўкае і дадае:

— От бы ты такіх пісак і ўшчуваў.

Заўвага была невыпадковая. Яна ішла ад усё таго ж няўпыннага клопату пра мову і ад усведамлення, што́ ўносіць у моўныя скарбы ён сам. Я вельмі выразна бачыў, як Колас свабодна абыходзіўся з мовай, але да слоў і выразаў іншамоўнага паходжання звяртаўся ў крайнім выпадку. І як звяртаўся. Гэты талент, аддадзены і прысвечаны цалкам новаму свету, усведамляючы не́калішняе зліццё моў у адну, умеў адным толькі дотыкам сваім надаваць нацыянальную беларускую адменнасць любому слову, за-

пазычанаму ім. Так беларуская казка, пэўней — яе невядомыя тварцы, малявала бога: не страшную ўсемагутную завоблачную істоту, а лагоднага дзядзьку ў шапцы-кучомцы, у лапцях з вераўчанымі аборамі і з пужкаю ў руках, якою ён абганяецца ад Майсеевых ці Аўраамавых сабак. Гэтае народнае ўмельства, пераходзячы з часу ў час, жыло ў Коласе, каб сёння пацешыць і навучаць нас, а заўтра — усіх нашых наступнікаў...

Сядзім пры возеры. Міхась Лынькоў робіць некалькі здымкаў. Поблізу пачынае няўцешна плакаць дзіця. Вусны Канстанціна Міхайлавіча рассоўваюцца ледзь улоўнай усмешкай.

— Адна маладзіца была ў царкве з дзіцем. Пачалі крыж цалаваць, хацела і яна падысці, а малое спалохалася і раве, ніякай рады не дасі. Кабета суцяшала-суцяшала дый кажа нарэшце: «От каб бацюшка не быў дурань ды даў табе крыжам па азадку...»

Ад гэтага чутага, але ўсё роўна смешнага апавядання, ■ больш ад яго ўсмешкі нам робіцца весялей. Але Канстанцін Міхайлавіч задумваецца.

— Заўтра па мяне машына прыйдзе,— кажа ён цераз некаторы час,— можа хто ў Мінск?

На ўгаворы яшчэ пагасціць цвёрда адказвае:

— Не, браткі, дзякуй! Даволі. От зараз будзе сесія, а мне яшчэ трэба аднаго чалавека правесці. Добры работнік выязджае з Беларусі. Ды работа галоўнае. «На шляхах волі» да зімы хачу скончыць. А потым за прозу. Трэба ўсё паспець. У вас часу болей.

Назаўтра ён выязджаў, маўклівы больш як звычайна. Я паехаў правесці яго крыху. Каля Кабыльніка развіталіся. Ён асцярожна затрымаў руку хворымі пальцамі:

— Напішы мне. А можа, падскочыш у Мінск дзён цераз колькі?

У гэтай просьбе чулася нейкая настойлівая патрэба. У мяне зашчымела ў грудзях...

На мае скаргі, што ідуць дажджы і мы прымушаны сядзець пры газніцах у хаце, Канстанцін Міхайлавіч 6 жніўня 1956 года адпісваў:

«Першае, што магу сказаць у адказ на пісьмо,— глыбока спачуваю ўсім вам, нарачанцам, што змушаны туліцца каля малалікага агню...

Аб сабе што скажу?..

Паехаць, скажам, у Балачанку па баравікі не адважваюся: лягчэй Міхалу-адміралу праехаць над нарачанскімі бязодніцамі, чым Якубу Коласу па гравійцы Магілёўскае шасэ — Пухавічы...»

Адпусціўшы чарговы і не вельмі далікатны камплімент у адрас дарожнікаў і гаспадарнікаў, ахвочых да выхвалянна і прыпісак, Канстанцін Міхайлавіч зазначае:

«Адбой. Хто рупіцца і працуе, ураджай збярэ. Хачу думаць, што такая руплівасць агорне нас ■ ног да галавы.

Цалую вас, нарачанцы, абнімаю і ўсё ж такі заўсёды жыць на Нарачы не згодзен.

Якуб, якому сыходзіць тэрмін жыць на гэтым свеце».

Гэта былі апошнія словы да мяне. Неўзабаве, у смутны і цяжкі ад тых часаў адвячорак 13 жніўня даляцела вестка...

Праз некалькі гадзін я ўбачыў яго аднаго ў кутку вялікай гасцёўні.

На стале...

А ў рабочым пакоі ляжала асадка і пачаты ліст да маскоўскага сябра. Тут ён апошні раз сядзеў, апошні раз еў свой сціплы полудзень, прыехаўшы з ляска, апошні раз падняў вочы на сына, што звярнуўся з запытаннем і, не пачуўшы адказу, кінуўся ратаваць, званіць, клікаць на дапамогу.

Было пасля поўначы. У доме дыхала нясцерпная цішыня. Ва ўсіх пакоях гарэла сліпуча яркае святло. Я глядзеў на непарушны і вельмі спакойны твар, як быццам суцешаны нечаканым і поўным адпачынкам, бясхмарпаю адсутнасцю турбот. І ўжо нічога больш не ўбачылі несухія вочы. Пахілілася галава ў стаяўшага поплеч таварыша, бязгучна заплакалі прыехаўшыя з намі жанкі.

Не зварухнуўшыся стаялі ў садзе яго маладыя

дубы — першая і нязменная варта родных лясоў каля прыдрамаўшага Чалавека.

Тады і выплылі развітальныя радкі:

Не хацелася дзядзьку ў гэты вырай збірацца...
Толькі вось нарадзіўся, як быццам хвіліна прайшла:
У нястачах — маленства, па астрогах — юнацтва,
Сталасць войны скрышылі...
А смерць нібы тут і была.

Не хацелася дзядзьку ў гэты вырай збірацца!
Сама ў сілу ўвабраўся, у ясную поўню гадоў.
А табе — ні сяброў, ні абвыклае працы,
Ні сардэчнай размовы,
ні мілых, над Нёмнам, дубоў.

# КНІГА НЕ СКОНЧАНА

*«Твая кніга — не дапісана, не палохайся, гэта яе перавага. Адно ты яшчэ ўспомніш і дапішаш сам, тое пра Коласа, аб чым хацелася б ведаць больш, у цябе выпатрабуюць, прымусяць дадаць чытачы, яны ж раскрыюць і невядомае табе самому. Такога парадку лісты можна будзе проста далучыць да новых выданняў».*

*Гэтак адгукнуўся на аповесць мой сябар, рускі пісьменнік. Ён першы прыслаў некалькі невядомых выказванняў Я. Коласа. Следам пайшлі лісты ад чытачоў, з пажаданнямі, з пераказам уражанняў аб сустрэчах.*

*Прыгадак сваіх і чужых прыбывала, а я ўсё не мог пачаць новыя раздзелы: вельмі блізка і горка абзывалася расстанне з Коласам, расказваць пра яго апошнія дні яшчэ не ставала змогі.*

*Толькі ў нядаўні, юбілейны год удалося вывесці на паперу крыху з таго, што захавалася ў накідах і нататках і не выветрае з памяці.*

*Так у кнізе з'явіліся новыя старонкі. А з часам можа і яшчэ што знойдзецца для друку.*

# «НА ШЛЯХАХ ВОЛІ»

*Творчая гісторыя. Паручык Дзяжа і яго каханне. Новае ў манеры Коласа. Як аўтар думаў закончыць твор?*



Гэта была яго апошняя вясна. Ставала задум і намераў, а рука ўжо не бралася за новае: хто яго ведае, ці давядзецца скончыць. Рупіла выдаць «Казкі жыцця», спарадкаваць публіцыстыку і, можа паспеецца, давесці да ладу паэму «На шляхах волі».

Ва ўзбярэжнай хаціне, у добрым спакоі паслянавальнічнага возера, разам пераглядзелі рукапісы і зладжылі ў кнігу артыкулы.

Пагаварылі пра «Казкі жыцця». Цяпер перавыданне кнігі стала на цвёрды грунт, заставалася перачытаць рукапіс пасля машынкі і — у выдавецтва. Праўда, не абышлося без непаразумення, аб ім Колас расказваў доўга і смешна. Але пра гэта скажацца пазней.

І яшчэ гаворка адбылася на Нарачы. Шкада, не вельмі працяглая,— ён амаль не заставаўся адзін. Усе ведалі, што прыехаў на дзень-два, і кожнаму з тамтэйшых насельнікаў хацелася як найлепей і сардэчней прывеціць гасця.

Аднак гаворка тая нібы завяршыла цыкл некалькіх папярэдніх, калі пакрысе высвятлялася, як пісалася паэма «На шляхах волі». Чатыры дзесяцігоддзі адна работа змяняла другую, а гэта ўсё не выкіроўвалася на апошнюю кропку.

Аўтар, зазвычай акуратны і настойлівы ў завяршэнні пачатых работ, на гэты раз задавольваўся публікацыяй рэчы па кавалках — колькі напішацца.

Пакуль так марудна ішло друкаванне, стражнікі павялі пад канвоем Лабановіча («У глыбі Палесся»), пайшоў блукаць па свеце «Адшчапенец», узяўся за стрэльбу дзед Талаш («Дрыгва»). Што ж, такая гвардыя магла і засланіць сціплую постаць прапаршчыка Дзяжы, галоўнага героя паэмы.

Ваенныя і пасляваенныя гады шчыравалі не менш: «Суд у лесе», «Адплата», «Рыбакова хата». Падзеі твораў, іх героі, перахваляваўшы Коласа, набылі тую ці іншую форму і адступіліся ад ягонага ўяўлення.

Пісьменнікаў стол папрастарнеў, тым часам паэма не зрушвалася з месца. Толькі пасля заканчэння апошняй кнігі «На ростанях» пачала пракідацца ў размовах і гэта рэч.

І вось чаму.

З трылогіі ў паэму вілася нітка: героі ад першай рускай рэвалюцыі ішлі праз вайну ў Кастрычнік. Раскрываўся нячэпаны пяром этап у біяграфіі беларускай інтэлігенцыі.

Значыць, клопату пра такі твор у Коласа не магло не быць. Але, як на тое, пасля вайны не захавалася ў яго ні чарнавікоў, ні машынапісу, нават нумароў часопіса, дзе друкаваўся твор, не было. Таксяк сабралі: перапісалі, што ўдалося, у бібліятэках, набылі некалькі сшыткаў «Полымя» з прыватных рук.

Канстанцін Міхайлавіч перачытаў усё знойдзенае і ўзяўся крэсліць. Пазначыў перш, што яго найбольш не задавальняла, дзе-нідзе і паправіў, проста з ходу.

А работа ўсё роўна не пайшла! Паміж аднаўленнем, дакладней сказаць, напісаннем двух апошніх раздзелаў зноў мінае амаль год.

Улічым: тры чвэрці стагоддзя на плячах, баляць і кепска трымаюць асадку пальцы, надаедна трывожыць высокі ціск. І ўсё ж нястомны Колас застаецца нястомным: прапускае праз аслабленае сэрца, пераварочвае хворымі рукамі безліч работы. Яго руплівая натура не магла трываць, калі што-небудзь, нават дробнае, павісала ў недаробленасці. І раптам — такая затрымка! Буйны па задуме, дый паспеўшы моцна разрасціся — дзевяць тысяч радкоў

з гакам! — твор не можа сабрацца ў цэласць, каб нарэшце паразвязваліся вузлы дарог і чалавечых лёсаў.

Ці толькі страта напісанага раней, як растлумачыў аўтар *, чыніла перашкоды росту думкі і пераходу яе ў слова? Відаць, заміналі і другія «важкія прычыны». Быў жа час, калі перад вачыма ён меў усе чыста матэрыялы, а цікавасць да работы нібы тлела пад прыскам, пакуль задоўга да вайны не пагасла зусім і не абуджалася яшчэ чатырнаццаць гадоў. Словам, Колас не дакранаўся да паэмы ні больш ні менш, як два дзесяцігоддзі.

Нятоўсты сшытак — «Колас, май, 1956, «На шляхах волі», «Казкі жыцця» — прыўзнімае крыху заслону: там некалі запісалася пачутае з вуснаў Канстанціна Міхайлавіча.

Паспрабуем расчытваць запісы.

Колас скончыў чытаць уголас апошні, не раз перарабляны і нарэшце канчаткова перабелены раздзел паэмы.

Цішком перабірае старонкі, не абзываюся і я. Напэўна ж, пад час чытання ў яго ўзнікалі думкі, каб не спудзіліся часамі. Аднак Канстанцін Міхайлавіч хутка адрываецца ад папер.

— Маўчыш? А ўмова?

Гэта пагадваецца заключанае некалі пагадненне гаварыць пра напісанае адразу ж, не выбіраючы слоў. Як і заўсёды ў такіх выпадках, пачуваюся няёмка. Але што ты зробіш! Кажу тое самае, што думаў і думаю зараз.

Герой выходзіць з вайны разгублены, не ведаючы, куды пакіравацца, як і многія з тагачасных афіцэраў. Аднак пры сустрэчы з драздоўцамі выказвае пэўную сталасць у поглядах і цвёрдасць у паводзінах. Не трэба гадаць, з кім ён звяжа свой лёс у далейшым,— з абаронцамі царскага трона яму ўжо не па дарозе. А ці памірыцца з Насцяй, ці стане яго сяброўкай Галя — нам ведаць не абавязкова. Паэма зусім не пра тое. З гэтым раздзелам твор набыў закончанасць.

За шкельцамі акуляраў відны дакорлівыя вочы.

— Шкадуеш мяне? Не хочаш, каб дарма рукі біў? Напэўна, лічыш, што адной канцоўкай твору не паможаш?

Няйначай яму самому думалася: гэты раздзел можа быць наогул апошні. Хачу абгрунтоўваць свае пазіцыі далей, але Канстанцін Міхайлавіч спыняе ўсмешкай:

— Класік я ці не класік?

Некаторы час ён цешыцца: а ну, паспрабуй, адкажы?

— Па-твойму, выходзіць — не! Бо ў класікаў усе канцы сыходзяцца ўместа. А ты мяне на паўдарогі спыняеш?

— Якое ж там паўдарогі, дзядзька Якуб? Вы неяк казалі: для паэмы ма́ю думак сама болей на два раздзелы. Вось яны і напісаны. А што, калі ўсіх будзе 28, а не 30, як вы намеркавалі?

— Намеркаваў! — у голасе нотка нездавальнення, яна з'яўляецца, калі даводзіцца адступацца ад прынятага да выканання.

Пачаў хадзіць па пакоі, хвалюецца. Відавочна, завагаўся яшчэ больш: можа і праўда, узяць ды закончыць на гэтым?

Намераў сваіх Канстанцін Міхайлавіч не раскрывае. На тым і адыходжу.

Мінуў дзень, за ім другі. На трэці, з самай раніцы, тэлефонны званок. Нязвыкла: у гэты час Колас працуе сам і не дазваляе турбаваць іншых.

— Давай сёння ўсе справы пабаку! Да цябе пайшла машына. Што? Паснедаем разам.

У кабінеце накрыты пад снеданне круглы столік. Канстанцін Міхайлавіч стаіць у балконных дзвярах, як бы вітаецца з садам. Маладыя дрэўцы добра падраслі і ўсё бліжэй прасціраюць да дома свежае лісце.

Раздзел паэмы — на стале, ляжыць як быццам бы нячэпаны ад апошняй размовы. Канстанцін Міхайлавіч бярэ старонкі, нібыта важыць у руках:

— Цягне на заканчэнне ці не цягне? Вось і ўгадай. Чалавек цэліцца, а бог целіцца.

Вымавіў сакаўную прыказку і прыслухаўся, смакуе.

— Я цаляў, што «Адплата» будзе карацейшая. І «Новая зямля» таксама. А яно ўзяло ды ацялілася на болей. Дык можа і нічога, калі атрымаецца менш раздзелаў. Давай высветлім адно: чаму стаўляецца апошняя кропка? Што, сапраўды даспеў яе час? А можа я хапаюся за магчымасць пагультаяваць? І ты мне патураеш? Каб не нарабілі шкоды: адзін па старасці, другі з патурання ёй...

Праз жарт прабіваецца трывога: героі не дайшлі сваіх дарог да канца.

Асцярожна нагадваю: а ў «Новай зямлі» дайшлі? І Лабановіч не спыніўся на пэўным пункце, не стаў пад вянец ні з Вольгай, ні з Ядвісяй. Тым часам, хто скажа, што творы не класічныя.

Канстанцін Міхайлавіч смяецца голасна і працягла.

— Доўга ж ты думаў... Але выкруціўся-такі ад майго пытання. Ці сапраўды прызнаеш класікам?

Адказваю ў тым жа тоне: прызнаю, бо маю падставы. Класікі не саромеліся пакідаць герояў перад адкрытымі шляхамі. Дык чым горшы Барыс Дзяжа за Лабановіча?

— Так, так! — Колас ківае галавой, але не разбярэш — пярэчыць ці згаджаецца.— Гавары нечага да канца. Табе здаецца, што Дзяжа — той самы Лабановіч?

Прызнаюся: менавіта гэтак і лічу. Валынь, адкуль паходзіць Барыс,— так і патыхае Піншчынай, дый па характару ён ні ў чым не адбегся ад палескага настаўніка. Праўда, Дзяжа не мае біяграфіі і не надзелены слоўным партрэтам. Але ж гэтым не надта можа пахваліцца і Лабановіч.

— Можа, можа! — нецярпліва перабівае Колас.— Сядзіць на Палессі, у самай гушчы народу, абыходзіцца як свой са сваімі, жыве дома ў маці, умее сялянскую работу. Якой яшчэ біяграфіі трэба?

— А партрэт? — неасцярожна вырываецца ў мяне.

Канстанцін Міхайлавіч грозна размахвае рукапісам.

— Быццам бы канечне ведаць, у якой абалонцы

ўзнікае каханне да Ядвісі? Бялявы ці чорны Лабановіч, румяны ці асмуглы? Гэтак і з Дзяжкою. Што табе дасць, калі даанаешся, як ён выглядае, уцякаючы з фронту?

Працягваю яго думку. Куды важней, калі мы паверым, што ён кахае і прадзіраецца праз калючыя драты да свайго кахання.

— Ну вось...— голас у Канстанціна Міхайлавіча робіцца памяркоўнейшы.— А скажы, любяць Лабановіча чытачы? А можна чалавека любіць, не ўяўляючы, што за ён з твару ці з паставы? Значыць, уяўляюць нешта, самі ствараюць вобраз...— І зараз жа жартліва адмахваецца рукою ад сваіх слоў: — Здаецца, і я падаюся ў модную веру: буду пісаць прыслоўямі ды выклічнікамі, а рэшту хай уяўляюць чытачы.

Непрыязні да майстроў недаказу і надужыцця падтэкстамі Колас не хавае, успамянуўшы пра іх, некаторы час нездаволена маўчыць.

— Дык, па-твойму, я паленаваўся і не апісаў, які з сябе Лабановіч? І з Дзяжкой тое самае?

Напамінаю, як пра гэта ўжо гаварылі, рэдагуючы трылогію. За абодвума героямі ўгадваецца аўтар: пісаў і бачыў сябе. Дык навошта спыняцца на выглядзе героя? Перавод часу...

— І новае парушэнне класічных запаветаў? — у тым жа напаўжартлівым тоне пытае Колас.— Магу працягнуць гэтыя развагі. Вядомы табе крытык-крытыкоўскі напіша...

Зараз пачнецца тое, што здараецца не вельмі часта: Канстанцін Міхайлавіч будзе некага паказваць, як кажуць цяпер на падраблянне пад манеру пісаць або гаварыць.

Для мяне гэта заўсёды свята: можна зазірнуць у сховішча ягоных назіранняў і яшчэ далей — у лабараторыю, дзе заўважаныя дэталі, слоўцы, учынкі набываюць кроў і плоць вобразаў.

Менавіта так, бо Колас ніколі не меў на ўвазе каго-небудзь выкпіваць. Не, ён выхопліваў вокам мастака, якому ўсё на патрэбу, тое, што некалі пойдзе ў работу, самае істотнае. Некалькі скупых рыс,

і партрэт гатоў. Адным словам Колас ажыўляў перад вачыма многае: як раптам скаланецца асіна, ціўкне галодная птушка, пацягне з рота маток слоўнай пражы нудны прамоўца.

Так было і цяпер. У пакоі ўзнік чалавек з прэтэнзіяй на даследчыка, слова ў яго набягала на слова, нібыта качаў у роце гарачую бульбіну:

— Не зважаючы на адсутнасць партрэтнай характарыстыкі героя, маецца поўная магчымасць рабіць належныя і неабходныя вывады адносна надання яму рысаў біяграфіі аўтара. Не паказаўшы сябе звонку, аўтар паслаў героя на фронт у Румынію, закінуў яго на Урал, дзе ў імперыялістычную вайну давялося жыць самому...

Смешна Коласу, смешна і ягонаму слухачу... У той жа час робіцца ясна, што выклікáў Канстанцін Міхайлавіч на гаворку, каб пачуць пацверджанне думанаму-перадуманаму, важанаму-праважанаму сотні разоў.

— Усё, аб чым мы саймавалі,— пачынае Канстанцін Міхайлавіч,— вядома, дарэчы. Але...— Ён дастае з шуфляды шматок паперыны.— Я напісаў сабе такі загад:

Якуб! Які б ні быў канчатак,
Ідзі з сякераю ў пачатак.

Па твары відаць: прысуд канчатковы, і паслаблення не будзе. Намер для Канстанціна Міхайлавіча не новы. У газетных нататках розных гадоў ён абяцаў працяг паэмы, бачачы аспоўную задачу ў перапрацоўцы напісанага.

— Думаеш, хмызы церабіць пайду з сякерай? — пытае ён зараз.— І такое работы хопіць, рука адбярэцца. А ўсё ж...

Спыніўся, нібы падшуквае патрэбнае слова.

— Гэта не самае цяжкое. Я жывой вады шукаю. Каб пырснула, і твор усхапіўся на ногі. Як быццам і не далёка той струмень, а не дайду. І не першы ж год капаю. Людзі ўжо да нафты дакапаліся.

...Многа давялося пачуць, пакуль той доўгі маёвы дзень не пераступіў парог у вечар і потым сцямнеўся

ў часіны начнога адпачынку. Каб жа ўсё запісалася, запомнілася!

Здзівіла, уразіла, узрушыла хутчэй не бясстрашнасцьператварэння майстра ў хірурга, бязлітаснага да найдрабнейшага загнаення ці пухліны, а тое, што рабілася гэта пры старонніх вачах. Адна справа вынесці твор на чый пападзя суд, і зусім іншая — у нечыяй прысутнасці дашуквацца, дзе табе здрадзіў зрок, падманула пачуццё, здрыганулася рука. Творчыя рашэнні прымаюцца сам-насам з паперай.

А Колас, пакутліва перабраўшы пралікі ў размовах з самім сабою, рабіў гэта яшчэ раз, уголас. Устурбавана, але цвёрда.

Паэт не мог не адчуць раптоўнага халадку, а гэтак і прымаўся новы твор нават добразычліўцамі амаль ад першых друкаваных радкоў. Крытыка трымалася вастрэй, але ад яе можна было, зрэшты, абагнацца, аджартавацца, што і рабіў ён у адступленнях. А як быць з поглядамі тых, чыім словам даражыўся?

Паэма была заяўлена амаль следам за «Новаю зямлёю» і «Сымонам-музыкам». І ўсе кінуліся шукаць у ёй не меншай раскошы ў малюнках прыроды, мяккага гумару, сціплага глыбіннага пачуцця.

— Твор атрымліваўся скупейшы за тыя,— пашырае думку Колас.— Другая ў яго была задача. І час я збіраўся ахапіць адменны. Гэта вымагала іншай абстаноўкі. Ды было не цыркаць па кроплі. Хіба што вельмі цярплівы ахвотнік да паэзіі мог гэта вытрымаць. Прачытай кавалачак у снежні і чакай да наступнага снежня, дый то калі аўтар зробіць ласку разрадзіцца... Адкуль жа таму чытачу здагадацца, што і як задумана? Вось і нашкодзіў: і сабе і твору.

— Але ж «Новую зямлю» і «Сымона» вы таксама доўга пісалі...

— Скажы лепей — доўга не пісаў. Затое, як узяўся, дык раздзел за раздзелам... Быццам арэхі лузаў. А тут неяк не ўсё ахоплівалася вокам. Схопішся, бывала,— нечага не ўлічыў, ды позна — надрукавана. Вось і кланяйся чытачу: выбачайце, шаноўны! Вам давялося спачатку чытаць другі раздзел, а потым першы, ды, ведаеце, і дванаццаты раздзель-

чык напісаўся пасля шаснаццатага. Рабіў-рабіў я дапіскі на хаду, думаў — распішуся, і ўсё стане на цвёрды грунт...*

Між брывей у Канстанціна Міхайлавіча збіраецца зморшчка. І ўсё ж — нічога не даруе сабе, нічога не забывае: менавіта такія накладкі былі ў палымянскай публікацыі.

— Відаць, ператаміўся на ранейшых вялікіх работах. Пачаў пісаць не вельмі гатовы. Не быў пэўны, што якраз пра гэтыя падзеі, пра грамадзянскую, мне трэба гаварыць. Вось і не клеілася. Маё пісанне не станавілася наперад іншага клопату і таму бясконца адкладалася.

Канстанцін Міхайлавіч гаворыць яшчэ павольней, сказы карацеюць, большаюць паўзы.

— Так і завёўся халадок... Да твора... Ва мне самім...

Невясёлая ўсмешка ўзнікае на момант і зараз жа сціраецца...

— Ды яшчэ: не тое ўпісаў у пашпарт свайму Барысу. Такія прозвішчы толькі Цішка Гартны вышукваў на Капыльшчыне. Дый то не заўсёды мог да месца падагнаць, а ў мяне зусім не да рэчы выйшла: Дзяжа! Каб гэта гумарыстычны твор быў, тады насі здароў, браце, і такое прозвішча. І ў гераіні імя не надта для вершаў: Насця — шчасце — напасці — адно што рыфмаваць лёгка.

Колас загінае на пальцах яшчэ некалькі сугуччаў. З жартам, мусіць, лягчэй вымавіць непрыемнае, можа самае цяжкое.

— Пачала мяне тачыць здрадная думка: памыліўся ў жанры. Было пісаць у прозе, малы разгон у вершаваным радку. Зірну наперад: не магу пераступіць цераз Лабановіча: ён жа застаўся на раздарожжы, дык можа сам у Кастрычнік датупае? Тады нашто Дзяжу весці? А як прыкіну, колькі трэба пастарацца каля напісанага, душа вяне. Ці раз намерваўся,— збяру, думаю, усе цыдулы ды ў грубку, балазе ў нашым доме добра ў печах цягнула. Потым — сам сябе за руку: от жа мне Гогаль знайшоўся! Пачата, дык пішы! А не можаш — прыпні каня да другога пня.

Канстанцін Міхайлавіч усё больш нервуецца, але адцягнуць яго ўвагу на іншае не ўдаецца.

— Ты, пэўна, лічыш — нагаворваю лішняга на сябе, на таго сябе, колішняга. Не! Калі адскочыў ад зямлі на корх, уважай — на цябе людзі глядзяць. Не ашукай іхніх вачэй. Вось так, пасля доўгіх згрызот, я вырашыў: дапішу, чаго б яно ні каштавала. Потым усім агрэхам рады дам. Шмат я рабіў тады на Вайсковым.

Канстанцін Міхайлавіч сядзіць, успёршы галаву на рукі і, здаецца, нічога не бачыць і не чуе. Вымавіў назву завулка, дзе жыў да вайны, і няйначай уявіў... Прытульны дом, ёмка паляцца печы, за стол збіраецца ўся непарушаная яшчэ сям'я. І хораша пішацца, спорна! Як было не выспець рашучасці падымаць сябе на новую работу.

Не звычайнае самалюбства, не боязь страціць нешта ў людскіх вачах будзіла яго на штодзённую працу — проста не ўмеў адступаць і адступацца ад таго, што думаў, ад таго, што пастанаўляў для сябе ці абяцаў каму іншаму.

Быў выпадак...

Колас любіў Дастаеўскага. І ўспамянуў пра яго ў холе гасцініцы перад даволі вялікім колам добра знаёмых. Успамянуў, а потым загаварыў, шырока і свабодна: першы пісьменнік свету, сэрца, адкрытае для народа, з верхам поўнае любові да чалавека, адданае сваёй бацькаўшчыне.

Чалавек пяць, у кім Колас бачыў здольнасць да самастойнай развагі, слухала не абзываючыся. І ён спыніўся ўражаны, зразумеў: яго думкі не адпавядалі тагачаснаму тону крытыкі. Як быць слухачам: падтрымаць Коласа ці спрачацца з ім?

Канстанцін Міхайлавіч акінуў усіх вачыма, невыразна прамовіў «Бывайце!» — і пайшоў па калідоры да сябе.

Адчуваў, што не памыляецца. І выйшла на ягонае, толькі не дачакаў часіны, калі погляды, якіх ён трымаўся, гучалі поўна і выразна ў час усенароднага ўшанавання Дастаеўскага.

Маючы пэўнасць, што некалі выйдзе на ягонае,

што няма тае няўдачы, якое, добра папрацаваўшы, нельга было б не зрабіць удачаю, Колас не пакідаў думак пра паэму.

І працаваў. Хацеў хутчэй прыйсці да заканчэння, убачыць, як атрымаецца ўсё цалкам. Спяшаўся, пакідаў без увагі многае, чаго звычайна не дараваў сабе: няправільныя канчаткі ў склонах («у цішыне»), неўласцівыя мове формы («паўно», «дзіўно»). Не зважаў, што ў адзін час «гарацъ півоны, вяргіні», пагаджаўся з невыразнымі па сэнсу радкамі — «...Барыс у марах дзеўчых дзесь павіс» — і нават цэлымі страфамі:

Схапіўся, кінуўся ў кусты,
А следам гнаўся смех пусты,
Гарохам сыпаўся над гмахам,
Дзе косці, змешаныя з прахам,
Паклалі скрытыя масты.

Цяпер Колас падкрэсліваў такія мясціны пасміхаючыся, але відаць было: яны балелі, ранілі — як дапусціў да друку!

Канстанцін Міхайлавіч сядзіць, не змяняючы паставы. А сапраўды, ці справядліва вінаваціць ён толькі сябе ў маруднасці, а з другога боку — у паспешнасці пісання? Былі ж людзі і абставіны...

Якраз ён пачынае пра гэта сам.

— Можа і не гэтак крыху думалася, як гавару. Настрой перабіваўся, шмат разоў і шмат чым. У 1929 годзе цвёрда думалася: вось-вось закончу. Раздзелаў сем напісаў, калі не больш. Далей кульгаючы пайшло: то ўгору, то, найчасцей, уніз. Добра прыгледзеўшыся, па датах пад раздзеламі можна вычарціць крывую майго настрою. І растлумачыць усе пікі і спады яго... Ну, гэта так сабе... Што ні выдумляй, а рукавы закасваць трэба. Пакуль што твая прапанова лічыць паэму закончанай ставіцца на абмеркаванне. Ану, знойдзецца што лепшае для канца. Паходзім спярша сякерай па старонках. Кахання там хапае, а на хваляванне яно не пашыбае. Без «жывой вады» не абыдзешся.

На тым і перапынілася размова. Пачаліся зборы. Па «жывую ваду», такое духоўнае, святло і цеплыню, каб раптам сагрэлася і залілася віднатою рэч звонку і з сярэдзіны. Падобна да таго, як адзін сонечны прамень, прабіўшыся праз мокры шара́чак хмар, раптоўна ператварае дажджысты адвячорак у светлае асенняе свята. Што ні кропля — брыльянцістае дзіва, што ні куст — халодны пажар барвы і золата, што ні бярэзіна — красуня ў познім і трапяткім харастве кранутай бурштынам зеляніны.

«Сымона-музыку», казаў аўтар, паставілі на ногі лірычныя адступленні. Такая ж рада давалася і «Адплаце». Што знойдзе Колас зараз?

Заставалася чакаць, разважаючы пра пачутае з яго вуснаў, ды перачытваць паэму.

Уласна кажучы, нічога дзіўнага не адбылося. Ці адзін вялікі майстар шукаў, адкідаў, зноў шукаў, калі твор не ўдаваўся, як хацелася. А не выходзіла — убок канчаткова, і ўсё па ўсім!

Колас быў блізкі да таго, каб знішчыць паэму, зрачыся яе, і ўсё ж не рабіў гэтага — нешта замінала, прывязвала да яе.

Перш за ўсё, відаць, уяўлялася свая жыццёвая дарога ў вайне і рэвалюцыі. У гэтым сэнсе пісьменнік заставаўся куды багацейшы: герой менш паблукаў і пабачыў свету, а галоўнае — менш узяў адтуль для сябе, не ўзняўся на ўзровень аўтарскага духоўнага вопыту.

Унутранае ўзбагачэнне героя магло стаць адной з кропель «жывой вады». Ён ужо дазнаўся, чым ёсць у патоку вайны:

Я — ліст сарваны, і не болей.

Ад такога асэнсавання, падкрэсліўшы яго літаратурнае паходжанне, паэт, малодшы сучаснік Коласа, прывёў чалавека ў подзвіг, даў нам паглядзець і прасачыць сталенне героя на прасторах апошняй вайны.

Гэта не ў дакор Барысу Дзяжы, ён, чалавек часу першай імперыялістычнай, яшчэ стаіць перад вялікім гістарычным пераваламі. Аднак шмат чаго разумее і разважае не абы-як:

І я з нявольніцкай пакорай,
Адвыкшы быць самім сабой,
Іду на масавы убой
У імя Молаха-пражоры,
Пратэст заціяўшы і дакоры,
І сам апраўдваю разбой...
Дык што жыццё? Адна хвіліна!
К чаму развага і журба?
Грымі ж, ваяцкая труба!
Жыві, вайна і трасяніна,
Бо патрабуе так айчына
І... псіхалогія раба!

Герой, гэты «працягнуты» Лабановіч, мяркуе шырэй і аб'ёмней за свайго папярэдніка. І ўсё ж канфлікт палескага настаўніка з асяроддзем больш прадметны: адносіны з сялянамі, сутыкненні з мяшчанскім балотам, з усімі, хто быў народу сябрам ці ворагам, не выклікаюць пытанняў і не патрабуюць растлумачэнняў.

Прапаршчык Дзяжа бунтуецца супроць царскага ладу, пралівання крыві, асабістых і грамадскіх нягод. Бунтуецца, але наогул. Носьбіты варожых герою праяў, настрояў прысутнічаюць у паэме, гавораць больш і менш рэзкія рэчы, робяць выпады і абмінаюць яго, ён не бярэцца, груба кажучы, з імі за̀грудкі, не ўступае ў супрацьборства.

На пачатку работы гэта акалічнасць заставалася па-за ўвагай аўтара. Уладаючы шырокім дасведчаннем у пазнанні навакольнага, ён бачыў такім жа спрактыкаваным і героя. Бачанне не супадала з рэалізацыяй, але Колас лічыў, што тут справу можна паправіць.

Кінулася яму зараз у вочы і перагрузка любоўнай лініі: Дзяжа — Насця, Дзяжа — Галя, Чэх — Насця. За гэты кошт лепей пашырыць і ўзмацніць франтавыя малюнкі, эпізоды з салдатамі і афіцэрамі. Твор даваў падставы. Начное дзяжурства Дзяжы, шпіталь, паездка на Дон, тылавая муштра, зварот на фронт патыхаюць шырокім эпасам, пераносяць у тлум і паветра тоі пары. Па краіне шуме нястрымны салдацкі паток:

Плыве саматугам, гарласты і прагны,
Дарогамі і без дарог.
Прастор адчыняе бяздонныя багны,
Вялікі расійскі разлог.

Паток увальецца ў драўляныя хаты,
Прастор застанецца, як быў:
Раўніны, гарысты, лясамі багаты,*
Дзе ж спыніцца грозны разліў?

Іншая зборня знайшла сабе прытулак на ціхім Доне:

Вядомы Савінкаў, Радзянка,
Графы, бароны і князі,
Падонкі рускае гразі,
Патрыятычная трасянка
Ад кулака і да паўпанка
Шукала страчанай «стези».

Настройка на эпас была закладзена ў самым пачатку паэмы. На грунце народных узораў, перавышаючы ў паэтычнасці зробленае ім дагэтуль, Колас піша пра вайну:

Ходзіць ліха бязвокае,
Ходзіць ліха бязвухае,
Бязногае, бязрукае,
А ўсё згледзіць, падслухае,
У ваконца пастукае,
Нішчыць поле шырокае,
Сушыць мора глыбокае,
На задворках галёкае.

Ходзіць ліха разлогамі,
Ходзіць ліха узмежкамі...

Ліху дзверы адчынены,
Ліха ўвойдзе праз шчыліны...

Вайна змусіла народ на вялікае ўзрушэнне. З болем і гневам ідзе з людзьмі паэт:

Ідуць, плывуць людскія хвалі
Наперарэз адны другім.
Няма канца, супыну ім,
Іх шум глухі ўбіраюць далі...

З усіх краін Русі ярэмнай
Ідуць без скарг яе сыны...
Ідуць на глум, на здзек дарэмны...
Карміць сабою бур'яны

І сеяць косці дзе папала,
Карпаты кроўю палівадь,
А на Стаходзе * класці гаць...

Чалавечыя хвалі зліваюцца, крыжуюцца, разбіваюцца адна аб адну:

Плывуць струмені і патокі
З сялянскіх хат і гарадоў...

Жывуць сваім жыццём чыгункі,
Людскія хвалі несучы...
Ідзе Урал, Кубань і Церак...
Народ з-пад Горадні, з-пад Вільні,
Бядою ўзрушаны, журбой.

Не, ні на трохі не збяднела майстрава рука! Відаць, занадта сурова ставіцца Канстанцін Міхайлавіч да сябе зараз. Згусткі чалавечага болю выйшлі з ягонага сэрца і, ператварыўшыся ў карціны, кратаюць, хвалююць і ўражаюць нас. І зусім не скупіўся ён на фарбы, апісваючы прыроду. Толькі тут яна не гаманлівая і прыветлівая, як здавалася дзіцячым вачам сыноў лесніка, і не ўрачыста-загадкавая, як адчувалася малому Сымонку,— маўклівая, наскрозь працятая горам паўстае яна ў няспынным чалавечым руху на крывавыя загоны баёў.

У нейкі сум агорнут шлях,
Глядзяць панура лес і горы,
Паўночных рэчак вадазборы
У цёмных пахмурных брыжах
Ялін і піхт. Хаўтурным тонам
Звініць акорд прастораў тых
У ззянні іскраў залатых,
Калі свой сноп, вянок чырвоны,
Рассцеле сонца на разгоны
Маўклівых далечаў пустых.
Маркотна, сціпна і бязлюдна,
І томіць гэты краявід...

Раней мы не сустракалі падобнага ў Коласа. Заміляванне красой і шчодрасць фарбаў саступаюць месца ашчаднасці таноў, стрыманасці і лаканічнасці. Дыхнуўшы бунінскім «Лістападам», аўтар не адкінуў сваіх ранейшых набыткаў. Зусім поруч узнікае малюнак залітай сонцам Украіны:

І роўнядзь ціхая палёў,
І постаць стромкіх тапалёў,
І, нібы ўсыпаныя жарам,
Шляхі сланечнікаў пад ярам *,
І пасмы-віткі плецянёў,

Дзе купы вішань і чарэшань,
І між іх кучмы спелых сліў
Вартуюць яблыкаў наліў —
Бурштын з багрою перамешан!

Мастак і бачыў многа, і па-ранейшаму, з поўнай рукі, дарыў убачанае. Ад кантрастнай падачы то засмучанай, то ўсмешлівай прыроды яшчэ мацней шчымела ў душы чалавека: усмешка часта тоіць у сабе слязу. І паэт дае нам адчуць гэта. Таксама, як сярод гора і бяды з'яднаных у патокі людзей дазваляе з'явіцца постаці тылавога дзеяча, хвалька, лёгкага жыцця асобе, каму вайна не замінала весела прабаўляць час і рупліва дбаць аб сваёй кішэні.

Былі ваякі ўсіх пастацый,
Але між імі «земгусар»
Найболей меў ваяцкіх чар.
Як лёгка ён рашаў лёс нацый!
Як спрыцен быў да камбінацый!
Які ў стратэгіі меў дар!
А як заядла, як упарта
Стаяў, хлабыснуўшы вінца,
За «Да пабеднага канца»!
Як тыкаў важна перст у карту!

Саркастычная ўсмешка, з якою Колас пісаў вобразы паноў і няпрыяцеляў простага чалавека, тут стала яшчэ больш рэзкая: усяго дзесятак радкоў, а ўжо відзён характар, значон нораў і ўвесь ваяка — як на далоні.

Не, дарма толькі наракаў на сябе Канстанцін Міхайлавіч. Па-майстэрску, адным штрыхом даваў ён партрэты людзей, адным сказам перадаваў настрой або абставіны.

Вось Дзяжа, прыехаўшы на фронт, распытвае упцера, як паводзіцца нямецкі бок.

— Што, хлопцы, добрага у вас?
— Да так што нічаво.
Ён там глядзіць на нас,
А мы тут на яво.

Не лагодным гумарам, як можа здацца спачатку, закрашана гэта страфа, па сутнасці яна — бязлітасная ў выкрыцці. Па той простай прычыне, што бяссэнсіца самой імперыялістычнай бойні, бяздарнасць камандавання, марнасць гібення людзей паабапал

лініі фронту падаецца праз тупаватага унцера — і яго недалёкім вачам добра відно ўсё гэта.

Чым больш перачытваў я рэч, тым ясней рабілася: нездарма Канстанцін Міхайлавіч заўсёды помніў пра паэму. Безліч малюнкаў і замалёвак, каларыт часу, цікавыя накіды партрэтаў з галоўных дзеючых асоб, завязкі канфліктаў. Усё гэта было і дыхала, і раскідацца такімі кавалкамі — значыла б паказаць сябе благім гаспадаром, што не адпавядала ні духу, ні звычкам Коласа. Можа і не гэтак многа работы наперадзе, як здаецца? Тым больш што аўтар ужо ведаў, як паставіць усё на месца: узбагаціць унутраны свет героя, вывесці яго са стану сузірання,— даволі наглядаць за людзьмі, падзеямі, а таксама за самім сабою! Франтавыя, шпітальныя, дарожныя сустрэчы даюць магчымасць прывесці ўсё ў рух, скарачэнне падыме асобныя раздзелы ў цікавасці і маляўнічасці.

Колас так вырашыў і працягваў пошукі ў гэтым кірунку, не раскрываючы да часу далейшых намераў.

Пакуль ён думаў і шукаў, я паспрабаваў звярнуцца да «крывой настрояў» аўтара пад час пісання. Прыкінуўшы колькасць напісанага па гадах, яе можна вычарціць даволі зграбна і без намаганняў растлумачыць. Найлепей жа прачытвалася ўсё ў творы, калі аўтар пачынаў гаварыць пра сябе і пра сваю работу.

Парнас мой бедны! Ты — без клёку!
Ты ад жыцця стаіш здалёку,
Табе крычаць ужо — далоў!
І марна ўсё тваё старанне,
Хоць ты аб сцену біцца рад,
Каб мець найлепшы атэстат,
Але няма табе нізвання
Ані пахвал, ані прызнання —
Спяваеш ты, ды неўпапад!
Не здолен ты папасці ў жылу,
У песнях тон патрэбны ўзяць
На ўсе сто процантаў, на яць.
Таксама ты не маеш сілы,
Каб ухіліцца ад ухілу
І тыпа нашых дзён падаць.

І страшна мне за лёс паэмы:
Мой крытык возьме строгі тон,
Ухілаў знойдзе ў ёй мільён
І несучаснасць самой тэмы,
Дакоры кіне, што я — немы,
Глухі на зовы нашых дзён.
...Што я скажу яму на гэта?
Ён пусціць зноў у вочы пыл
І іншы знойдзе тут ухіл.
Але ў машыны і ў паэта
Свая канструкцыя і мэта,
А кожны — спец на свой капыл.

Учытаўшыся ў гэтыя радкі, я зразумеў усё. Горка пісаліся яны! Ці мала было выслухана ўпічак і прычэпак вульгарызатарскай крытыкі да дзвюх папярэдніх паэм за іх так званую несучаснасць, уяўную адарванасць ад надзённых задач! Колас дакладна перадае і змест і тон нападаў. Друкуецца трэці буйны твор, а вытокі яго таксама не ў сягонняшнім дні, не ў перадавым асяроддзі часу: Дзяжа — сын настаўніка, афіцэр, Насця — дачка хутаранца.

Вось і даводзіцца аўтару прасіць прабачэння, праўда, іранічна, што

Засценне — хутар, а Галута
І сам я бачу, што кулак,
Адзін жыве, як ваўкалак.
Цяпер мне з ім адна пакута,
Ён мне паэму усю заблутаў...

Прызнавацца ў неіснуючых грахах было лёгка, і Колас прызнаваўся. Галута, хоць яго Засценне і апісана хораша, з той жа любасцю, як і леснікова пасада ў «Новай зямлі», не заслугоўвае суровых атэстацый. Ён дае малако для дзяцей бежанцаў, кулацкіх настрояў і звычак не выяўляе, толькі адзінае, у чым вінаваты, па-сялянску ўчэпіста трымаецца за абжыты куток, не хоча выязджаць у эвакуацыю.

Вульгарызатарская крытыка спрошчана разумела задачы пісьменніка і твора, патрабуючы прымітыўнага, прасталінейнага вырашэння вобразаў, штохвіліннага — да месца і не да месца — выяўлення аўтарскіх адносін да падзей, што апісваюцца, да часу, калі яны адбываліся, і да таго, у якім працуе пісьменнік.

Колас разумеў: патрабаванні беспадстаўныя!

і даваў зразумець, што «ў паэта свая канструкцыя і мэта», свая індывідуальнасць, без чаго ён не будзе паэтам, што «кожны спец на свой капыл», значыць — майстар пэўных тэм, майстар абыходзіцца са сваім, а не з першым-лепшым матэрыялам. Тым не менш, патрабаванні крытыкі з лічыльнікаў не скідаліся, і ён, вольна ці не вольна, не мог прайсці міма іх. Сёе-тое прымаў, а ад астатняга даволі рашуча адбіваўся з дапамогай свайго выпрабаванага спадарожніка — смеху.

Пасмуткаваў быццам бы над засцянкоўцам, які «знізіў настрой» паэмы, і іранічна паставіў поруч з яго прозвішчам — Галута — сацыяльнае азначэнне — кулак. А ні на якія іншыя захады не пайшоў: і гэты герой, які ёсць, «няхай коціцца ўжо разам».

А падышоўшы пад палавіну работы, у пачатку XVI раздзела, даў бліскучы малюнак стваральнай працы народу, поступу савецкай дзяржавы. І як быццам прыжмурыўся на дакучлівых крытыкаў: дай бог вам гэтак бачыць і чуць, мілыя людзі! Чаго вы лямантуеце, нібыта ён маўчыць, і з'едліва пытаеце:

Ці ты сляпы, ці ты глухі?
Ці ты жывеш у ліхалецці?
Ці ты што маеш на прымеце?
Ці тоіш намысел ліхі?

Зрэшты, на лямант можна і не зважаць:

Такія закіды-дакоры
Ты чуў, паэце, і не раз,
І трохі чысцілі Парнас.

Горш, што для творчай работы —

Адводзіш выкрадзены час,
Адбыўшы службу, пасяджэнне,
І не адно — штук пяць на дзень.

Але дарма і гэта — ясна і светла ўстае перад Коласам далейшая дарога:

Смялей на шлях жывое працы!
Выходзь, паэце, на прастор!
На варце стань, ідзі ў дазор

I поўны пульс жыцця намацай,
I ў мур выводжаных палацаў
Сваю ўлажы цагліну — твор!

Дэкларацыя? Нават і не блізка. Паэт праз жывое адчуванне нашай рэчаіснасці давёў і сваю неадлучнасць ад жывой працы і ад тых, хто нясе вахту і ходзіць у дазоры.

I праграму дзейнасці вызначыў сабе цвёрда і канчаткова, назаўсёды:

Ва ўсе канцы заве разлог:
I сённяшніх зарніц бліскание,
I наша заўтрашняе ранне,
I гром ўчарашніх перамог.

Так будзе ён пісаць, а вы як сабе хочаце, малашаноўныя крытыкі!

I ўсё ж стандартная методыка пісання давала сябе адчуваць. У паэме дзейнічае, скажам больш — жыве, камуніст Шкунда.

Ён па прафесіі — рабочы,
А па паходжанню — латыш.
З-пад Рыгі трапіў на Іртыш.
Этапаў многа перакрочыў
За тое, што за лёс сірочы
Гатовы быў пайсці на крыж.

У далейшым Шкунда падаецца гэтак жа любоўна: учынкам верыш, перакананні яго не могуць праходзіць без следу, закранаюць нават ідэйных супратаў.

На той час гэта была першая і сур'ёзная спроба стварыць вобраз бальшавіка, дый не страціў ён яркасці, як на маю думку.

На мае меркаванні Канстанцін Міхайлавіч згодна кіўнуў:

— Так, але Шкунда гаворыць лішняе. Я адбяру палавіну слоў ад яго. Там, дзе ён на пальчыкі становіцца. Вось глядзі:

Таварышы! Прыходзіць час,
Калі самкнёнай грамадой
Павінны рушыцца мы ў бой
За лёс працоўных мас.
Задача наша — ўзяць уладу,
А сцяг і лозунгі — Саветы,
I мы свае даб'емся мэты —
На дапамогу Петраграду!

Бачыш — першыя чатыры радкі могуць спакойна знікнуць. А вось тут пачынаецца нібыта нешта сабе:

Тапельніцы ўжо нечага тапіць,
І труп яе на нітачцы ліпіць.
Яго нам і не шкода:
Расія новая павінна быць.

Усё гэта моцна рупіла Канстанціну Міхайлавічу і змушала да падвойных турбот у пазбаўленні ад выпадковага, недагледжанага.

Вернемся да таго, з чаго пачалі. Скончыўшы складаць кніжку артыкулаў, мы сядзелі на беразе Нарачы, наглядаючы, як упальваецца касцёр.

Колас дастаў жоўценькую запісную кніжку:

Ды йдзі ўпярод усім на зло,
І будзе час твайго світання.

Ён прачытаў заключныя радкі знаёмага мне апошняга раздзела паэмы.

— Далей падганяць майго героя, мусіць, не трэба — там пачынаецца новая кніга. З Лабановічам мы датупалі да вайны амаль, з Барысам — да Кастрычніцкага перавалу. І хопіць. Я ўсё абдумаў, што і дзе падціснуць усярэдзіне. Ды рукі баляць, асадка не трымаецца, нават крэсліць не магу. Вось хіба як вернемся ў горад, тады завінёмся.

На агеньчык падыходзіў Танк.

— А што, Максім, як па-твойму? Кожны твор канчаецца на рубяжы свайго часу. Мінула эпоха, скончыўся і твор.

І здаволены, што Танк падтрымаў яго і падмацаваў прыкладамі думку, добра і хітравата прамовіў:

— Ну, гэта, вядома, тычыцца выдатных твораў.

Усе гэтыя намеры засталіся без здзяйснення...

Але расло жыта, смяяліся дзеці, час выслізгваў вастрыню страты: тое, што ўяўлялася немагчымым, рабілася цяжкім, цяжкое пакрысе станавілася гор-

кім... І ўсё ж нельга было прымусіць сябе дакрануцца да папер і кніг, якія, здавалася, яшчэ таілі дотык рук паэта. Нарэшце, я ўзяўся — гэта быў абавязак, выкананне апошняга запавету — пачаў перачытваць «На шляхах волі».

Твор узнікаў і разгортваўся зусім іначай: мясціны, часам і асуджаныя аўтарам і безуважна абмінутыя чытачом, спынялі глыбінёй і прытоенай сілай, галоўнае ж — уся паэма раптам асвятлілася высокім прызначэннем, якое даў ёй Колас, перад тым як выправіцца ў творчую вандроўку:

Злажу я песню той краіне,
Што ў свет сваіх дарог шукае,
І песня водгулле спаткае,
І ў сэрцы след яе не згіне.

Радзіма адшуквае пуцявіны ў Кастрычнік і яшчэ далей — у заўтрашні свет чалавецтва, аб гэтым аўтар сказаў пазней больш выразна.

Тэма і задача як былі цвёрда пастаўлены, так няўхільна і ажыццяўляліся. Гэта ўжо стала зусім ясна. Заадно вывіднела, куды хілілася думка аўтара, што твор жыве ў пэўным гістарычным абсягу, у пэўных межах прасторы і часу: скончыўся час, дзіцем і творцам якому даводзіцца герой, канчай, нечага, і твор, больш нічога адтуль не ўскураеш. Гэта меркаванне фактычна сцвярджала фінал паэмы ў цяперашнім яго выглядзе.

Думка для Коласа не новая. Узнікала яна, відаць, не толькі пад час апошніх размоў пра паэму, а яшчэ ў 1935 годзе, калі надрукаваў раздзелы «На ціхім Доне» і «Зноў у тылу» *. Тэма і задача былі як быццам вычарпаны. Неставала нейкага заключнага штрыха.

Пошукі расцягнуліся аж на два гады. Толькі 14 і 18 красавіка 1937 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» з'яўляюцца два ўрыўкі: санеты, пазней аб'яднаныя ў зборніку «Мой дом» пад назвай «Наперад», і «Ленін».

Калі прачытаць гэтыя рэчы непасрэдна за XXVI, апошнім даваенным раздзелам, зробіцца відавочным, што гэта варыянт фіналу паэмы, калі не сказаць — фінал.

Праз усе тры санеты праходзіць зварот да вандроўніка, чытай — Барыса Дзяжы, заклік пазнаць праўду ў змроку, пакаштаваць радасць дабра і перамог, выйсці на прасторы жыцця, нарэшце, адчуць жаданне мець «новую радзіму» — камуністычны свет, аб ім менавіта гаварыў Колас у першых радках свае паэмы.

Герой падводзіцца ўсутыч да тварца гэтага свету,

> Таго, хто рассуне граніцы зямлі
> І мудрасцю праўды краіны абдымс.

Наступны ўрывак называе яго імя — Ленін. Уласна кажучы, і не ўрывак, а закончаны раздзел, дзе лаканічна і тым больш уражаюча расказана, як Ленін з промня, які каляраваўся вясёлкай у жыцці пад няволяй, з асілка, чыйго прыходу людзі чакалі многія гады, стаў духам непакорнага народу, яго надзеяй і любоўю. Агульны змест і асабліва афарыстычнасць апошніх радкоў пра Леніна, які «час крутога павароту на сцягах піша баявых», амаль не пакідаюць сумнявання, што і санеты і згаданая замалёўка, калі не ставіліся ў якасці фіналу ў паэму, дык у кожным разе прымяраліся для гэтай мэты і могуць завяршаць твор. Не перашкода таму публікацыя санетаў як самастойных вершаў, некаторыя лірычныя адступленні з «Адплаты» друкаваліся тым самым парадкам. Пад час канчатковага парадкавання паэмы яны, як і ўрывак пра Леніна, маглі знайсці сваё месца, але апошняя публікацыя была не расшукана, Колас не меў яе і не мог улічыць. Тым часам дамагаўся, казаў, што ў яго было больш напісана і надрукавана — вельмі важнае; цяпер мы ведаем, аб чым яму думалася.

Пры новым перачытванні паэмы высветлілася яшчэ адно: замнога патрабаваў ад сябе аўтар, зашырокія стаўляў сабе ён вымаганні. Не такое ўжо няўклюднае, як яму здавалася, прозвішча ў героя; стылістычныя агрэхі хутчэй характарызуюць стан мовы, чым аўтарскі недагляд; а празаізмы, прызвычаеныя звароты з газет і непаэтычных кніг — не вялікая бяда ў эпічным творы. Асабліва калі яны суседзяць з сакаўным гумарам і цудоўнымі ўзорамі лірыкі: «Га-

варыла вольха-маці», «Як пад коўдрай снегавою» і многімі іншымі, да іх мы звярталіся вышэй.

І, вядома ж, не было памылкі ў жанры. Колас-эпік і тут выяўляе магутную сілу свае здольнасці. Людзі, якія дагэтуль не паказваліся і не абзываліся ў яго творах, абставіны, у якіх гэтыя людзі дзейнічаюць, дух часу, свежы вецер Кастрычніка не могуць не хваляваць і не цікавіць сягоняшняга чытача.

І, на маю думку, гэты чытач прыйдзе да тых жа высноў, успрымаючы паэму як твор арыгінальны, глыбокі і завершаны.

## «КАЗКІ ЖЫЦЦЯ»

*Як яны пісаліся і правіліся. Знікненне рукапісу. Запавет у лісце.*



«Казкі жыцця» — гэта кніга была яго заўсёдная рупасць.

— Тут не магу паставіць кропку. Дый, відаць, і не пастаўлю,— гаварыў Канстанцін Міхайлавіч не раз і не мне аднаму.

Так яно і было. Пракінуўшыся на самым золку літаратурнай работы, алегарычныя навелы пісаліся і паляпшаліся да апошніх дзён жыцця. Хоць даўно мінула патрэба ў іншасказаннях і сімвалах, каб завесіць думку больш-менш празрыстым вэлюмам. А як жа іначай было сказаць, што чалавека не пускалі ў чалавечы свет, змушалі занядбаць сваё імя, забыць, з чыйго плоду, з якой глебы ідзе яго карэнне.

Будучы, у большасці сваёй, напісаны да выпадку і несучы ў сабе зерне сапраўдных жыццёвых праяў, Коласавы казкі з бегам часу трацілі надзённую вастрыню сцвярджэння або асуджэння. Затое прыбывалі ў красе і сіле, як і ўсе казкі, легенды, паданні, складальнікам якіх называюць народ, пераўтвараліся са смалы-жывіцы ў бурштын мудрасці і філасофскага абагульнення і такім чынам рабіліся блізкімі не толькі той зямлі, адкуль былі родам, а ішлі ва ўселюдскі абыходак.

Гэты зборнік, як быццам разасоблены тэматычна, раскіданы па часе, па прасторы, у сапраўднасці — паўздзіў цэльная кніга. Яна знітавана сілай унутранага счаплення, што вынікае з падабенства накіраванасці і сацыяльных задач асобных апавядан-

няў, змацавана нязменным прыёмам — алегорыя — і стылявым адзінствам. Шматлікія дадаткі розных год, пашыраючы далягляды і тэматыку, не парушылі цэласнасці і сабранасці кнігі.

Можа праз гэта самае, што здаецца цяпер іх бяспрэчнай вартасцю, «Казкі жыцця» ў розныя часы сустракалі не адной прыхільнасці водгукі і амаль палярныя ацэнкі. Аднак адносіны аўтара не пахіснуліся: ён любіў сваю кнігу і снаваў яе тканіну далей, папаўняючы новымі навеламі, і ніяк нельга сцвярджаць, нібыта «Я. Колас лічыў іх («Казкі жыцця») адзіным творам»; напэўна, каментатары ўжылі недакладнае слова *.

Тым часам пасляваенны чытач не ведаў усіх «Казак» у зборы. Разрабаваныя і папаленыя акупантамі бібліятэкі, аднаўляючыся, не маглі здабыць кнігу ў свае фонды, нават для аўтара расшукалі ў другой рэспубліцы. Да перавыдання таксама не даходзілі рукі і, чаго таіцца, не дазвалялі пасляваенныя выдавецкія магчымасці: у першую чаргу хацелася перавыдаць тамы вершаў, паэм і аповесцей Коласа.

Так і далёжалі «Казкі» да падрыхтоўкі збору твораў 1952 года, але не трапілі і туды. Для трэцяга тома — апавяданні — матэрыялу назбіралася больш, чым дазваляў аб'ём. Перад Коласам ляжала напісанае амаль за 35 гадоў. Паспрабуй адбіраць, калі да большасці рэчаў пасля напісання не дакраналася пяро, а некаторыя былі зусім страчаны з вачэй.

Канстанцін Міхайлавіч узяўся рэдагаваць, не мінаючы нічога.

— Выправіцца ўсё як належыць, тады будзе відно, што кладзецца ў том або не дацягвае.

Скончыў работу, а лягчэй не стала: каторую палавіну прагледжаных і папраўленых аркушаў пакінуць для друку?

Без вагання былі адкладзены ўбок рэчы фельетоннага парадку: «Трыумф», «Трагізм», «Драматург і лірычны паэт».

— Гэта ўсё — на потым, паспеецца,— казаў Канстанцін Міхайлавіч.— А можа наогул ім трэба іншага месца пашукаць, да артыкулаў далучыць, ці што...

Следам пайшлі замалёўкі. «У тыле Дзянікіна» ён палічыў эпізодам для апавядання, а над «Старым канакрадам» задумаўся.

— Гэты дзядзька, здаецца, спатрэбіцца. Пойдзе ў трылогію, калі Лабановіча асудзяць.

Сапраўды, у заключных раздзелах «На ростанях» дзейнічае Касперыч. Канакрад, а сядзіць у адной камеры з палітычнымі, бо... і асуджаны па аднолькавых з імі артыкулах. Ідучы красці коней, ён напіхаў за пазуху пракламацый, ведаючы, што за іх якраз і схопіцца паліцыя, пачне дзьмуць палітычную справу.

Злодзею гэта і трэба было: замест катаргі, паложанай за канакрадства, ён атрымліваў зняволенне ў крэпасці, да таго ж на карацейшы тэрмін.

Пакпіўшы з царскіх законаў, якія суровей каралі за крадзеж коней, чым за рэвалюцыйную прапаганду — перад усім ахова прыватнай уласнасці! — Канстанцін Міхайлавіч успамянуў адну гісторыю.

Яму неяк расказалі, што ў канцы 1933 года ў пераплётнай майстэрні мінскай турмы працаваў зняволены, чалавек у прыстойных ужо гадах, вучыў фальцоўцы і брашуроўцы маладзейшых. І жаліўся: «Некалі з Якубам Коласам тут разам сядзелі, за палітыку пакутавалі. Але Колас — вунь як у пашане, а на маю заслугу ніякай увагі». За што ён адбывае пакаранне зараз, «пакутнік» не распаўсюджваўся.

Колас па інтанацыі адразу ж пазнаў старога знаёмага, каго ён ахрысціў у трылогіі, крыху перайначыўшы прозвішча, Касперычам.

— Няўжо ж ён і цяпер за коні?

Новая падрабязнасць з біяграфіі героя выклікала спакусны варыянт сюжэта. І вось ужо Канстанцін Міхайлавіч уголас разважае, праводзіць канакрада з таго часу ў сённяшні, пакідаючы нязменным толькі зладзейства ў ягонай натуры.

Да запісу справа не дайшла, вырашыў ашчадзіць каларытную постаць для трылогіі. Дый пераважаў іншы клопат: змест і ўпарадкаванне трэцяга тома.

Пад скарачэнне падпалі апавяданні 20-х гадоў: «Пракурор», «Крывавы вір», «Балаховец», нешта каля дзесятка.

Коласа не здавальняюць моўныя характарыстыкі

персанажаў, сюжэтныя павароты, асобныя падрабязнасці.

— Тое-сёе падправім, а рэшта паляжыць, улежыцца ды само сабою палепшае. І так бывае...

Іронія скіравана ў адрас колішніх занадта порсткіх крытыкаў з іх недарэчнымі прычэпкамі да лепшых яго твораў. Канстанцін Міхайлавіч нібыта сярдзіта хмурыцца і ківае ў бок рэдактароў, з кім ідзе размова:

— І вы недалёка адбегліся... Навалілі на старога чалавека гару работы і радзенькі.

Яго тон выкрывае, што сердаванне наўмыснае, найбольш радуецца гэтай рабоце ён сам і далёка не цураецца яе, хоча пабачыць усё зробленае «пад адным дахам», сабранае і дагледжанае.

Рэдагуючы першыя тамы новага выдання, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка і я стараліся не адбіраць у Канстанціна Міхайлавіча час на дробязі і выносілі на яго суд прапановы аб магчымых карэктывах, загадзя памеркаваўшы паміж сабою: толькі тое, што выглядала, на нашу думку, бясспрэчным. Канстанцін Міхайлавіч абавязкова пашыраў межы рэдагавання сам і, вядома, працы знаходзілася больш удвая, а то і ўтрая.

Колас не мінаў самай дробнай заўвагі. Аднойчы нехта з нас пазначыў рыскаю месца ў рукапісе, дакуль дачытаў, і забыўся сцерці. Канстанцін Міхайлавіч узяў твор на прагляд, а праз колькі дзён паскардзіўся:

— Ну і задалі ж вы мне турботы!

І разгарнуў папку. Старонка з рыскаю, да якой ні ў кога не ўзнікала ніякіх пярэчанняў, была моцна пакрэслена.

— І дакапаліся ж! — працягваў Канстанцін Міхайлавіч.— Я пачытаў, бачу: сапраўды, не тыя словы напісаны, абы-што людзі плятуць.

Выслухаўшы тлумачэнні і перапрошванні, Колас пачаў кпіць:

— Значыць, кепска глядзелі, калі нічога не прыкмецілі, добра што заўважыў. Эх, каб мне тады слу-

жылі тыя вочы, што цяпер маю, а колішняя сіла — зараз.

Не пакрыўдзіўся, але ў далейшым, беручы штонебудзь чытаць, не забываў спытацца:

— А тут «птушкі» ўсе сапраўдныя?

Надыходзіў час здаваць том у выдавецтва, а канчатковы змест яго ўсё ніяк не мог вызначыцца. Рэдактары не падзялялі задумы складальнікаў наконт уключэння «Казак жыцця». Меркаванняў было шмат. Цыкл гэты, перш-наперш, не манціраваўся, як кажуць, у выданне: яно будавалася па профілі выбранага, крыху пашыранага. Па-другое, мела сэнс выдаць навелы спачатку асобнаю кніжкаю, паглядзець, як прыме і ўспрыме сённяшні чытач даўнія алегорыі, што знойдзе ў іх для сябе. Магчыма, спатрэбіцца разгорнуты каментарый.

Канстанцін Міхайлавіч выслухаў меркаванні і заўвагаўся. Ад растлумачэнняў, прадмоў і каментарыяў адмовіўся адразу ж.

— А хто будзе рабіць тыя заўвагі? Пачнуць у мяне пытацца. А я не скажу: не ведаю, не помню, што да чаго прывязваў пішучы. Дый навошта гэта? Па-мойму — марная фатыга.

Канстанцін Міхайлавіч прыгадвае стары хрэстаматыйны верш: «Птичка божия не знает ни заботы, ни труда...»

— У маленстве бачылася мне ў гэтых словах адно, цяпер жа ўсплывуць на памяць — зусім іншае чую. А седзячы ў астрозе,— абы ўспомніў, так слязьмі і ўмыюся. Птушка рабілася для мяне вобразам волі, хоць я разумеў, што не вельмі ўжо бесклапотнае тое жыццё. І гняздо зві — ні адна птушка без гэтага не абыходзіцца,— і малых бог не выкарміць, як у вершы гаворыцца, і драпежніка сцеражыся, і ў вырай ляці. Але сваю птушыную работу робіць яна на волі, і таму — пяе!

Канстанцін Міхайлавіч хвіліну думае.

— Так амаль з усякім творам бывае: ты пісаў гэтак і гэтак, а кожны чытач вычытвае яшчэ нешта сваё, што яму пад настрой сёння, а заўтра зноў вышукае што-колечы.

У той адвячорак, як і заўсёды, Канстанцін Міхайлавіч быў гасцінным гаспадаром, многа расказваў,

добра звяртаўся да кожнага з нас. Было відаць, аднак, што нешта яму няўпынна рупіць, не выходзіць з думкі. Нам было добра вядома, што азначае, калі прыпынкі паміж сказамі ў Коласа пачынаюць даўжэць, а вочы не-не дый спыняцца на акне. Думае, вырашае штосьці.

Пад канец размовы абвясціў:

— «Казкі» адкладзём.

І сказаў: даць як узор жанру ў томе толькі «У чым іх сіла». «Кажух старога Анісіма» і «На балоце» — друкаваць нароўні з іншымі апавяданнямі без падзагалоўка «казка».

— Гэта самыя звычайныя рэчы,— растлумачыў Канстанцін Міхайлавіч,— якая там у іх казачнасць. Потым у нас шмат чаго нестае: «Пад Новы год», «Салавей» дый «На сваім хлебе» да казак далучаецца. Паглядзець бы, ці няма чаго ў «Першых кроках» і ў другіх зборнічках. Словам, сабраць уместа ўсё, што просіцца ў «Казкі», каб паўнейшая кніга была. Вы праўду кажаце, хлопцы,— аддам яе ў друк асобна.

Першая чарнавая рэдакцыя навел была зроблена; адшукалі, чаго неставала, аднак выданне заставалася ў намеры. Збор твораў патрабаваў шмат увагі, да таго ж, дапісвалася і амаль услед нанава рэдагавалася для асобнага выдання «На ростанях». Час ад часу ўсё ж Канстанцін Міхайлавіч разгортваў рукапіс «Казак жыцця».

— Трэба пускаць у ход. Дзеля чаго ж мы з табою рукі трудзілі, шукалі, правілі? Рымскі закон асуджаў на смерць земляроба, які з'есць вала. Мы свайго вала з'есці не з'елі, але, лічы, працы ад яго няма. А на гэтай кнізе і араць, і ў свет ехаць можна. Давай яшчэ трохі паглядзім.

Так было некалькі разоў. Даставалі рукапіс, чыталі разам, браліся рабіць гэта паасобку. Прыдумваліся дзесяткі варыянтаў аднаго і таго ж сказа ці выразу, перавага аддавалася найбольш кароткім і дакладным.

Часамі здавалася, што аўтар здаволены, Канстанцін Міхайлавіч даваў сабе абяцанне, што зірне толькі зверху, апошні раз, і больш і вокам не павядзе. А праз дзень-два я заставаў яго за тою самай работай: стаўляў па старонках галачкі — сабе і мне, па-

чынаўся новы перагляд. Зноў узважваліся прынятыя і запісаныя варыянты, часамі справа вырашалася ў карысць самага першага, пачатковага, часцей — знаходзіўся зусім новы.

Відаць, ніводзін з Коласавых рукапісаў не перацярпеў столькі выкасоўванняў і аднаўленняў, замен і перайначванняў.

Нарэшце — ці вока ўжо не магло ні за што зачапіцца, ці Канстанціну Міхайлавічу проста надакучыла,— папка была адкладзена, пераехала са стала ў шуфлядку, і гаворак пра выданне чамусьці не ўзнікала.

Але гадзіна такі прабіла, ды, як на тое, зноў не абышлося без затрымкі. Самому быць тады не давялося, перакажу, што пачуў ад Канстанціна Міхайлавіча, калі гасцяваў ён астатні раз у нас на Нарачы.

Недзе раніцай на самым пачатку чэрвеня 1956 года Канстанцін Міхайлавіч дастаў папку з «Казкамі жыцця», «не чытаў, каб не спаткнуцца на чым», як ён казаў пазней, пагартаў толькі і блаславіў у дарогу: на машынку і ў друк.

І тут — рукапіс знік. Перавярнулі шуфляды, абшукалі кніжныя шафы, зазірнулі ва ўсе магчымыя і немагчымыя сховішчы — няма!

— Я засмуціўся,— расказваў Канстанцін Міхайлавіч.— Няўжо такая няўдача, як некалі з «Сымонам»? Але тады на чамадан пакваліліся, і справа на вакзале была. А то ў сваёй хаце: трымаў у руках і раптам — растала, нідзе ніякага следу!

Каб не адкладаць задуманага, Канстанцін Міхайлавіч узяў кніжку, дзе правіў, перачытваючы, асобныя мясціны. Пасядзеў над ёю вечар, дадаў, што ўспомніў, і — хай друкуецца. Знойдзецца прапажа, можна будзе перанесці адтуль і астатнюю праўку.

Рукапіс адшукаўся хутка і да смешнага проста. Напярэдадні, выпраўляючыся да машыністкі, Канстанцін Міхайлавіч спыніўся каля вешалкі надзець плашч. Папку прыпёр на бар'ерчык дубовай панелі, апрануўся, хацеў рушыць, а ўвагу перабілі: тэлефонны званок, пасля нечаканы наведвальнік.

Выйшлі ў сад пагаварыць, тым часам — абед, гадзіна адпачынку. Клопат з перадрукам адсунуўся, забыўся, а калі прыгадаўся — пачаліся пошукі.

— Дапамог мне, як і заўсёды чалавеку, дождж,— пасмейваецца Канстанцін Міхайлавіч.— Нехта з хатніх прыйшоў па абед, ускінуў дажджавік на крук і завесіў папку. Так яна і ляжала б, каб зноў не нахмарыла, а то давялося ўзяць адзежыну... Нарабілі мне турботы, дасюль з рук не збуду.

Машыністка пастаралася як для Коласа: ведаючы яго нецярплівы характар, перастукала з кніжкі даволі шмат. Перанос праўкі са зноўдзенага экземпляра ў новы даваўся не так лёгка. Работы было шмат, і на такую — поўзай па радках ды звярай іх! — не хапала цярплівасці. Калі вырывалася вольная часіна, не ставала сілы: рукі балелі ўсё горай, дактары загадвалі класціся ў ложак.

Глядзіш зараз на рукапіс, і адразу відаць, у якім стане працаваў аўтар: нават калі здаравілася больш-менш, почырк толькі набліжаўся да знаёмага ўсім, цвёрдага, разборлівага. А найбольш — нечытэльныя амаль словы, часам недапісаныя, літары — рознай велічыні, стаяць адвярнуўшыся адна ад другой. Пра славутую коласаўскую дысцыпліну і ахайнасць пісання і гаворкі няма.

На гэта і жаліўся Канстанцін Міхайлавіч, седзячы ліпеньскім адвячоркам каля прыазёрнага вогнішча на Нарачы.

— Што ўбачу і змагу, дараблю сам. Калі не палавіну, дык хоць чвэрць. А ты ж, відаць тут, векаваць не збіраешся? Будзеш дома, тады і паглядзім. Спатрэбіцца — тое-сёе перадрукуем, а можа гэта ў выдавецтве зробяць. Я ім пакажу, прыехаўшы, рукапіс, высветлю, як будзе з друкаваннем. Добра было б хутчэй патрымаць у руках кніжачку.

Гаварыў нібы падганяючы сам сябе, нібы прадчуваў штосьці і спяшаўся зрабіць усе захады з рукапісамі артыкулаў і навел.

Неўзабаве прыйшоў ліст, апошні да мяне. І ў ім — пачутае ў выдавецтве наконт «Казак жыцця»: «Сёлета друкаваць не буду, налета будзем друка-

ваць». Адказ узяты ў двукоссе: Колас гэтым падкрэсліў дакладнасць перадачы. Відаць, стала горка ад самадзяржаўнага «не буду», ад боязі паварушыць зацверджаныя планы: яшчэ толькі-толькі пачынаўся жнівень, варта было трохі завінуцца, і чалавек цешыўся б з новае кніжачкі.

А як яна да часу была б, хоць маленькая ўцеха! Бо вось што яшчэ гаварылася ў тым самым лісце:

«Ляжу ў пасцелі. Тваё запытанне — над чым я зараз працую, балюча кальнула мяне ў сэрца. Аб якой працы можа быць гутарка, калі мне цяжка напісаць пісьмо» (т. XII, стар. 415).

Заключаў гэту скаргу толькі што прыведзены сказ пра адклад друкавання «Казак». Прачытайце разам усё, і ход думкі Канстанціна Міхайлавіча стане зусім ясны: пісаць не пішацца, хацеў убачыць напісанае ў друку, і то не выходзіць, як думалася.

Вонкава ўсё асветлена ўсмешкай, гаркаватай, праўда. Канстанцін Міхайлавіч нібыта проста дае знаць: не турбуйся, маўляў, знойдзецца яшчэ час зазірнуць у рукапіс, дарабіць. Толькі і ўсяго.

А часу ўжо амаль не заставалася. Але Колас знайшоў у сабе сілы і на іранічную ўсмешку. Хоць і падпісаўся ў лісце «Інвалід», а зірнуў зверху на сваё засмучэнне, і яно стала маленькае, думкаю пра ўраджай перабіў замахі хворасці і журлівы настрой. І прыслаў нам, тагачасным нарачанцам, бацькоўскі пацалунак, пажадаў: «Усяго добрага». Апошні раз...

Здадзены ў выдавецтва рукапіс застаўся не прагледжаны, а самы першы, той, што быў згубіўся, даваў прастор для разважанняў і, калі хто хацеў, для домыслаў. Сапраўды: наслаенне шматлікіх этапаў праўкі, рознае чарніла, выкрэсліванні і аднаўленні, пераробкі аднаго і таго ж па некалькі разоў. Як было не ўпасці ў зман каментатарам і складальнікам дванаццацітомнага выдання!

І незавершаны перанос праўкі з таго «згубленага» рукапіса (машынапіс № 1) у новы (машынапіс № 2), часткова перапісаны з кніжкі, палічылі за апошняе выяўленне волі пісьменніка. Як быццам аў-

тар, устанавіўшы і любоўна дасканаліўшы рэдакцыю «Казак жыцця» праз усе свае чатыры апошнія гады, раптам узяў ды адхрысціўся і адмежаваўся ад яе.

Каб гэта было так, калі б Колас з чым не згадзіўся або зусім адрокся ад тое, робленай разам работы, дык ці з'явілася б у яго патрэба паведамляць мне ў лісце пра лёс рукапісу? Разважым: навошта, дзеля якой мэты? Дапусцім, раздумаўся, збракаваў і адкінуў усё. Дык так бы і сказаў, як і заўсёды рабіў, не тоячыся.

А ў лісце — зусім не тое! Канстанцін Міхайлавіч палічыў неабходным дакончыць нарачанскую размову аб выданні, папярэдзіць: бачыш, увесь наш клопат пакуль што без карысці. Падзяліўся нечаканкаю, хоць і непрыемнаю, як гавораць людзям, з кім ёсць супольны інтэрас, каму неабыякава, куды пакіруюцца справы.

Тым часам выдавецкі рукапіс прынялі за галоўную крыніцу. Пралік даў сябе знаць адразу. Лепшыя і больш дакладныя варыянты трапілі не ў асноўны, а ў дапаможны тэкст, у каментарыі. Давялося складаць доўгі спіс паправак (т. V, стар. 682—3) — тры дзесяткі з гакам! — уносіць іх, карыстаючыся нічым іншым, як непрызнаным за асноўны — рукапісам, па якім увесь час ішло Коласава рэдагаванне і якому не ў пару собіла знікнуць з вачэй.

Іншыя слоўныя змены і замены ў спісе паправак — на ўзроўні відавочных апісак і памылак друку (пацешыць — пацешаць, тым жа — там жа), якія прынята выпраўляць не агаворваючы, нават калі яны дапушчаны ці прапушчаны аўтарам.

Зрэшты, што ж пра гэта! Уважлівы чытач, маючы каментарый, без намагання зробіць выбар у карысць больш дакладных, лагічных, мацнейшых у мастацкім сэнсе варыянтаў. Праўда, каментарый атрымаўся складаны, калі не сказаць — заблытаны і шматступянёвы, з рымскімі лічбамі.

Можна не сумнявацца, што тэксталагічная работа ў нас уздымецца да ўзроўню навуковага, абапрэцца на шырэйшую практыку выдання поўных збораў, тады будзе выбраны і выдадзены найбольш удалы, ухвалены аўтарам тэкст «Казак жыцця». Цяпер жа мы вымушаны ўзнаўляць і складаць яго самі, кож-

ную хвіліну адрываючыся ад старонкі, каб зазірнуць у заўвагі, у самы канец таўшчэразнага тома.

Пакуль што ў дванаццацітомніку не ўдалося падаць як належыць нават тыя навелы, друкаванне якіх не вымагала карпатлівай работы з некалькімі рукапісамі,— перад вачыма былі першадрукі. Зверым «Залаты прамень» паводле часопіса «Узвышша» (1927, № 5, стар. 97—100).

Колас прысвяціў казку вялікаму святу: «Да дзесятае гадавіны Кастрычніка». Дзе падзелася гэта прысвячэнне, цікавае і важнае для чытача і даследчыка?

У часопісе чытаем: «Калі ж малая зорка захоча стаць вялікаю, я **палю** яе пякучым агнём, а бліскучы след ад яе, што блісне на адзін толькі міг, ёсць знак мае кары» (стар 99). У томе: «Калі малая зорка захоча стаць вялікаю, я **налью** яе пякучым агнём...» (т. V, стар. 532) *

Страціў сэнс і другі сказ: «Гэтая радасць **снавалася** і ў тонкарунных хмарках... (стар. 99), бо ў томе надрукавана **«ствараласяʼ»** (стар. 533).

І так далей. Замест «Доўгія вякі блукаў ён у міжпланетных прасторах... (стар. 99) атрымалася зноў бяссэнсіца: «Даўгія вякі блукаў ён між планетных прастораў...» (стар. 532—3) «неасяжныя прасторы» (у сэнсе — неабсяжныя) ператварыліся ў «недасяжныя», «галовы» ў «голавы» і г. д.

Колас высмейваў сваё прызвычаенне пісаць не «комін», а «коміна», па-мікалаеўску, але адвыкнуць не мог — пісаў зноў і выпраўляў услед. У томе чамусьці спатрэбілася аднавіць гэта напісанне, увесці «коміну» ў норму. Як быццам у цяперашніх публікацыях хто-небудзь адважыцца паўтараць **«пожалуста»** і **«выграл»**, хоць менавіта так пісаў Чэхаў з маленства і ў сталым веку *.

Пералічваць пахібы выдання, хоць бы яны і самі кідаліся ў вочы, асцярэчваць хісткія крытэрыі ўстанаўлення «кананічных тэкстаў» адабрала б лішні час і месца, дый не мая гэта задача.

Што сказалася, сказалася да слова, бо зноў успомніўся не раз прыгадваны тут апошні Коласаў ліст. Яшчэ адзін наказ расчытаў я ў яго радках, толькі многа пазней: кніга будзе выдавацца аж «налета»,

можа я ўжо не здолею паклапаціцца пра яе, дык не забудзься...

Вось, уласна кажучы, дзеля чаго і напісаны гэтыя радкі.

Хочацца звярнуць увагу на ўцешныя захады ў публікацыях.

Апошні раздзел у другім томе выдання 1962 і асабліва 1972 года складаюць творы, дасюль невядомыя чытачу,— пераважна: прысвячэнні, жарты, экспромты — з архіваў паэта і прыватных збораў. Адкрываецца новая магчымасць меркаваць пра адносіны пісьменніка з людзьмі, пра літаратурнае асяроддзе, дазнацца тое-сёе з асабістага жыцця.

Тут перад усім прыцягвае Коласава ўсмешка, што, асвятліўшы яго маладыя радкі, не пагасла за астрожнымі кратамі, не згубілася на доўгіх і няроўных дарогах.

Найбольш цікавае, на маю думку, з аддадзеных у агульны ўжытак здабыткаў — лірыка, яна, як відаць, здавалася паэту надмерна асабістай і таму была замкнута ў шуфлядах стала.

Такога Коласа, якім паказваецца ён з гэтых вершаў, мы ведаем мала. Поруч з добра знаёмай па мудрасці развагай пра свет, пра нетрываласць чалавецкага існавання ў ім то тут, то там абзываецца зусім маладое ўзрушэнне сэрца. Нешта падобнае да таго, што было назначылася ў лірыцы пісьменніка 20-х гадоў і — яшчэ раней — у вершах з той страчанай кніжачкі, куды запісваліся радкі аб толькі-толькі прыведзенай з-пад вянца сяброўцы жыцця, але хаваліся нават ад яе: здавалася нясціплым вынесці пачуццё на людскія вочы.

Хаваліся і гэтыя радкі, і па тых самых прычынах.

Мне давялося быць першым, дакладней — другім пасля адрасаткі, чытачом новага любоўнага сшытка. Пачаты ваеннай парой у Ташкенце, гэты сшытак па звароце паэта дадому не прыбавіўся ў колькасці старонак, хоць і застаўся ў тых самых руках.

Адрасатка — чарнявая, невысокая, тугое паставы кабета, не так удалага крою, як моцнага шытва, зда-

лося мне, не абдарвала абаяльнасцю, што хіне да сябе з першага позірку. Не тое, відаць, бачылася ў свой час складальніку сшытка, бо адкуль узялося б тады натхненне!

Але мінуў час, следам знікла і зачараванне. Дыйне ўзбекскае неба сінела зараз у шыбах, над вуліцай імглілася парнасць маскоўскага лета, а перад намі сядзела знябытая, нялёгкага жыцця жанчына, ужо адлучаная ад паэта і яго першага прысвячэння не сталом, а прорвай у добры дзесятак гадоў.

Аддаць, хоць бы і не назусім, вершы яна не выказвала жадання, відавочна здагадваючыся, што гэта — белавік, адзіны экземпляр.

Ці то было паабяцана нічога не публікаваць да пары да часу, ці якім іншым сродкам дайшлося да згоды, словам, рукапіс апынуўся ў Коласа, ненадоўга, літаральна на некалькі дзён.

Сшытак быў таўставаты, але ні пра дапамогу, ні пра машыністку Колас і слухаць не захацеў, сеў перапісваць сам. Дазволіў, праўда, пагартаць крыху старонкі і зараз жа забраў: «Потым».

Гэтае «потым» прыйшло няхутка: не мог перасіліць сябе, паказаць на святле даастатку абнажанае перажыванне.

Ва ўсёй той лірыцы, што пасля часопісаў сабралася нарэшце разам, у адным будынку, вычытваецца багата. На малюнкі родных палёў і лясоў, асабістыя хваляванні, скаргі адзіноты, смутак па далёкім недасяжным другу як бы ўзліваецца хваля не хваля, хутчэй — палоса святла. Не дрыготкага і мігатлівага, а роўнага, па-асенняму цёплага святла апошніх дзён чалавека, які добра развітваецца з усім жывым, шырока ўбіраючы ў сябе ўсё, што выпадае яму ўжо на лічаныя гадзіны. І настрой яго пераходзіць у словы таксама натуральна, як шуміць бор, плыве ручаіна па каменьчыках, спявае, славячы сонца, птушка.

Вялікім пранікненнем у свет, у дзень, у чалавецкія памкненні горнуць да сябе тыя вершы з паэтавых спратаў. Чытаеш, і шчымліва сціскаецца, аж заходзіцца ўсярэдзіне, як заўсёды, калі пашчасціць дакрануцца да таго дзіва, што не называецца паэзіяй, а сапраўды ёю ёсць.

І вялікі Колас становіцца яшчэ больш вялікім, больш поўным і цэласным. Неўзабаве многія з твораў апошніх год стануць упоравень з даўно вядомымі, моцна ўпадабанымі, завучанымі на памяць.

Першая спроба «пашырыць» хрэстаматыйнага Коласа зроблена ў зусім малым зборніку «Мой дом» (Масква, 1972). Можа дзесятак усяго новых і ўпершыню перакладзеных рэчаў, а як выйграла, пасвяжэла праз гэта кніга!

# РАЗДЗЕЛ, ЯКОГА НЕ МАГЛО НЕ БЫЦЬ

*Першыя звенчакі знаёмства з Якубам Коласам.*



Чаму, калі, якім чынам я трапіў у дом да Коласа? Як сталася, што ён даверыў рукапісы і перапіску, абавязваў браць удзел у падрыхтоўцы артыкулаў, у выданні кніг *. Ды яшчэ: перадаючы для друку напісанае ў апошнія гады жыцця, хацеў чуць маю, часта не згодную з ягонай, думку?

Пра самую складаную з гэтых работ — рэдагаванне «На ростанях», ужо расказана. А былі ж і «Адшчапенец», «Песы», «Казкі жыцця» і сямітомнік.

А можа і не трэба тлумачыць усё гэта? Адказ жа гатовы, ляжыць на паверхні. Коласу патрэбен быў памочнік: граматны — гэтай умове я адпавядаў; з пэўным літаратурным густам — у ім мне таксама не адмаўлялі; гаспадар сваіму слову: сказана — зроблена; апошнюю якасць дапамог развіць Канстанцін Міхайлавіч.

Можна адказаць так, але гэтакі адказ — вонкавы бок праўды.

Уся праўда, цалкам, ляжыць зусім у іншым месцы, і перад тым як паказаць — дзе, мушу спыніцца яшчэ на адным. Якім бы лабавым ні здавалася прыведзенае меркаванне наконт вытокаў знаёмства з Коласам, яно ў аснове сваёй — добрасумленнае і можа задаволіць не толькі позіркі, што слізгаюцца па паверхні фактаў.

А бытуе ж — сам чуў! — і адказ адваротнага парадку. Мяшчане смакавалі чуткі пра нейкія звышверагодныя заработкі Коласа. Па-іхняму, іхнімі ж

словамі кажучы, таму і падаўся «на лёгкі хлеб» да Коласа Лужанін.

Мераючы ўсё і ўсіх на сябе, яны не маглі ўявіць, што Колас з году ў год падпісваўся на пазыкі, аддаючы дзяржаве не менш чым дзве зарплаты і добрую палавіну выдавецкіх ганарараў. А колькі пазычак ішло з яго рук, беззваротных, вядома! Выручаў людзей ад суду за выпадковыя нястачы, дапамагаў у скрутным становішчы сіратам, удовам, студэнтам. Каб жа захаваліся хоць цэтлікі ад паштовых пераводаў...

Не буду больш пра гэта, гаварыў ужо, успамяну свае заработкі. Зарплата рэферэнта ў Акадэміі — тысяча рублёў, сто на цяперашнія — акурат столькі сама, як і ў Коласавага шафёра, і я працаваў у «Вожыку» ды яшчэ рабіў пераклады.

Пісаў я тады марудна, часта трацячы веру ў свае сілы: што ні надрукуй, адразу ж знаходзіліся прычэпкі. Праўда, дзверы ў газеты і часопісы — дзякуй ім — не зачыняліся, аднак я не выкарыстоўваў цалкам усе магчымасці. Канстанцін Міхайлавіч сам не заўсёды мог управіцца, задаволіць усе выданні, якім хацелася выйсці да выпадку з ягоным імем. Тады прасіў дапамагчы, падрыхтаваць прамову ці артыкул. Рабіць абы-што і абы-як для Коласа я не мог, а падняць гэту работу, ды сваю, ды яшчэ рэдакцыйную не стала б ні сілы, ні душы.

І я пакінуў «Вожык», застаўшыся на скупенькай акадэмічнай зарплаце. На гэта не зважалася. Пераважалі другія акалічнасці, карэнне іх ішло ў глыбіню, дзеля чаго можна і трэба было адкідаць усё іншае: я ўжо не меў права расставацца з Коласам.

Не ў крыўду нікому будзь сказана, пасля смерці Марыі Дзмітраўны ён ~~пачуваў сябе адзінокім~~. Сем'і сыноў неслі яму хатнюю цеплыню, кола іхніх сяброў і знаёмых ахінала яго дружбацкім клопатам, але не так, як хацелася, не так, як пры жыцці сяброўкі. Усё гэта было блізкае, Канстанцін Міхайлавіч клапаціўся пра ўнукаў і нявестак нароўні з сынамі, быў рады маладому тлуму людзей у доме.

Але... Было і але...

Няўмольна прыходзіла часіна заставацца аднаму. Сам-насам з думкамі, развагамі, сумняваннямі, смуткамі. Радасць і поспех было з кім падзяліць, а ўсё астатняе?

Чалавек цэльнай душы і яснага розуму, Колас меў сілу авалодваць сабою ў тым, што называюць чалавецкімі слабасцямі. Аднак гэта каштавала багата ўнутранай сілы і змушала да пэўнай стрыманасці ў паводзінах і нават у вобліку.

А тут часамі, проста па-чалавечы, па-старэчы, хацелася гадзінку пабыць звычайным, без высокіх адзнак і пасад, без славы і вядомасці, дзядзькам, добрым і крыху бурчлівым. Паскардзіцца некаму на хворыя рукі, на спрытняка, які прабіваецца ў навуку з міліцэйскім свістком, пахваліцца ўласнаручна абструганым яблыневым кійком, пагусці так сабе, абы пра што, без агляднкі на вечнасць і значнасць сказанага.

Такую неабходнасць адчуваюць, мусіць, усе людзі, і нельга не прызнаць іх права на падобную разрадку. На жаль, вельмі скупа даецца яна асобам буйнога дзеяння, чый кожны рух і кожны крок абмежаваны ў часе. Яны не могуць дазволіць сабе працяглага расслаблення волі і мускулаў, бо менш за ўсё жывуць для сябе. І, тым не менш, імкнуцца ў прастор вось такой, можна сказаць, бязважкасці, каб там забыць звычайную сваю вагу і набыць іншую, куды больш важную: вагу вольнай ад усялякага клопату душы.

Тут няма мовы аб нейкай дваістасці ці ізаляцыі ад асяроддзя. Менавіта хвілінны прамежак вызвалення ад штодзённых турбот, разняволення ад усяго чыста, апрача свайго духоўнага і душэўнага свету, трывалей настройвае на працяг дзейнасці ў тым жа кірунку, што і раней, у імя другіх. І чым большы і святлейшы быў момант духоўнага спачынку і заспакаення ў чалавека, тым больш святла і дабра выстараецца ён у агульную скарбонку.

Цяпер ужо ўсе ведаюць: не па птушку або якую звярынку хадзіў Ленін на паляванне — вяртаўся дамоў з пустымі рукамі, затое з поўнай, асвежанай яднаннем з прыродай, душою.

Ці трэба казаць, што значыць для пісьменніка

часіна абсалютнага спакою сэрца і думкі? Яно толькі здаецца, што гэта руплівая двоіца, на кім трымаецца наша жыццё, калі-нікалі прабаўляе час у легкадумнай безразважнасці. Розум і пачуццё заўсёды напагатове ўспрымаць і перастварацць успрынятае. Хіба што сцішацца крыху, на імгненне, каб лепей сабраць мускулатуру перад новым кідком у пошукі чалавечых светаў і неасвоеных далягляда ў.

Што ж было з Коласам?

Нельга сказаць, што яму бракавала самоты, здаралася, яна заварвалася загуста — у такім стане быў патрэбен душнік: магчымасць сказаць слова і пачуць адказ.

Часамі Коласава патрэба ў шчырасці трапляла на сардэчна глухіх, на выпадковых, хто здаваўся чагонебудзь вартым пад добры настрой ці ў сілу шматгадовай прывычкі лічыўся нават сябрам. Яшчэ горай былі абыякавыя: яны ўсё слухалі з поснымі тварамі, спачувальна ківалі галавою, а за брамай іранічна падсмейваліся, палічыўшы чуласць душы за слязлівасць узросту.

А Колас зноў шукаў і чакаў суразмоўніка. Пад час пошуку разгаварыўся трохі са мною. Зусім трохі. А каб раскрыўся на ўсю душу, на ўсю шчырасць і глыбіню? Напэўна, мая кніга пра яго напісалася б цікавей і засталося б запісаў другім не на адзін том.

Чаму Колас разгаварыўся са мною? Не ведаю, дакладна растлумачыць не магу. А ў самога дзядзькі Якуба ўжо не спытаеш...

Праўда, у яго пыталі, і не раз, што ён знайшоў ва мне, і не раз раілі паказаць парог. Ды ўжо ж не скажуць тыя дарадцы, з чым выпраўляў іх, выслухаўшы, Колас, бо хутчэй за ўсё адыходзілі, не памачыўшы блінца ў смятану. Аднак яны ведалі, што́ робяць: квэцні дзёгцем па белай сцяне — і папасмярдзіць, і не адразу адмыецца. А з чалавека — і пагатоў.

Вось пасля такіх захадаў дзягцярнага квача, вываляючыся, відаць, ад яго пахаў і слядоў, Канстанцін Міхайлавіч аднойчы спытаў:

— І чаму ты такі благі чалавек, Максім?

Пытанне ўдарыла збянтэжаннем і горыччу, я не здолеў разгледзець ні добрага позірку, ні іранічнай інтанацыі і моўчкі падаўся ў дзверы.

— Дзівак! — ён затупаў па сходах услед.— Гэта ж не я кажу... Хіба ты не ведаеш, што ёсць людзі — божыя сабакі? Ідзі сюды!

І ўзяўся загладжваць ненаўмысную жорсткасць. Уважліва частаваў, гаварыў з усмешкай, пакуль не заўсміхаўся і я. Тады пераказаў, не называючы прозвішчаў, як мяне размалявалі яго неблагія як быццам бы знаёмыя. Малярная работа была не з тонкіх, чорнай фарбы ляпалі чым паболей, і яна сцякала, не прыстаючы.

Адсмяяліся, і стала нявесела. А мне — і страшнавата: нават Коласу даводзіцца гаварыць, паціскаць руку... А каму?

— Ведаю, пра што думаеш...— Мяккая, крыху гарачаватая далонь легла на калена.— Горка? І мне горка. Што ты ні ў чым і духам не вінават, таксама ведаю. А можа сапраўды надумаўся перабегчы дарогу каму?

І махнуў рукою, нібы выганяючы праз акно ўсю прыкрату.

— У цябе ёсць што рабіць, і не з пустою душою ходзіш каля свае работы. Вось яна і сплоціць за ўсё.

Мілы дзядзька! Як хораша было слухаць добрыя яго словы. Не год і не два яны давалі сілу нешта рабіць.

Здавалася б, напсаваць мне ў вачах Коласа нічога не каштавала. Але я заскочыў наперад, мінуўшы час, пра які ўзяўся ўспамінаць, калі ён яшчэ не адчыняў мне свой дом, свой свет, не клікаў разам у дарогу.

Супроць мяне сведчыла шмат каго і шмат чаго. У тым ліку і ўласны характар. Колькі разоў жадаў сабе лагоднасці і пераступчывасці! І ўсё роўна пёрся на ражон, вылазіў на трыбуну, ды яшчэ і гаварыў тое, што не ўсім магло спадабацца. Рой неасцярожна зачэпленых за жывое гуў яшчэ мацней: як так? Хто даў яму права? У яго ж ні пасады, ні імя, ні твораў.

Сапраўды, унутраны, вядомы толькі самому сабе

зарад у разлік не ішоў. Даваенныя мае кніжачкі даўно пазабываліся, дый было ў іх хіба што маладое прагненне гаварыць вершам. Зараз паспеў выдаць мала, няроўнага.

Так я і жыў: неспакойны, нашатыраны, з чуллівасцю яшчэ больш абвостранай таму, што мяне лёгка было зачапіць без дай прычыны: не даставаў кіем па рэбрах хіба толькі ляны.

І нават у такой няпэўнасці існавання я доўга вагаўся: ісці ці не ісці на запрашэнне Коласа? Хай сабе ў мяне нешырокая сцежка, але — мая, хай сабе незайздросная доля, аднак зноў-такі мая. А як будзе, калі пайду?

Нарэшце, павага да чалавека, любоў да пісьменніка ўзялі верх. Самалюбства пабунтавалася і здалося пакрысе. А што ты людскае робіш сам? Можа дапамога Коласу і будзе найбольш вартай справай твайго жыцця...

Тым больш мяне не рэкамендавалі, не ўладжвалі, не шукаў нічога і я сам. Прапанова выходзіла ад Канстанціна Міхайлавіча і ў далейшым, як мы ўспаміналі, ён не даваў у крыўду нашы адносіны.

І я пайшоў.

Тое, чаго найбольш баяўся — пабягушачныя функцыі сакратароў у вялікіх — нават не пагражала. Коласу, па яго духоўным складзе, было агідна слугаванне і падлешчванне. Ен трымаўся на роўнай назе, папярэдліва і далікатна. Мне давялося прыняць на сябе драбнейшы клопат літаратурных спраў, вызваліўшы яму як мага больш часу на пісанне.

Пачаў знаёміцца з архівамі, кнігамі, перапіскай. Канстанцін Міхайлавіч не выходзіў з кабінета. Гэта насцярожыла: няма веры. Ну, а што ж табе — выкласці ўсё адразу, ці што?

Але Колас не проста глядзеў, што я раблю, ён гаварыў. Не праз ветлівасць падтрымліваў размову, а думаў уголас, свабодна пераходзячы ад засмучэння неспакоем у свеце пасля вялікай вайны да смешных назіранняў на акадэмічных пасяджэннях.

А было чута не раз і не ад аднаго чалавека пра нейкую «замкнёнасць» і «сухаватасць». Дзіўна!

Мне пацяплела. Адно было няёмка — мае наведванні заставаліся бясплённымі: разгарнуўшы якую-небудзь папку, я завязваў яе ў тым самым выглядзе — за размовай нічога не паспяваў зрабіць.

Пакрысе стала ясна: Колас размаўляе, вызваляючыся ад неадчэпных разваг, у нечым шукае падтрымкі, у нечым хоча праверыць, ці не па часе з'яўляюцца яго меркаванні, ці слушныя.

«Бяры паперу і занатоўвай! — было сказана самому сабе.— Гэткія падарункі не так часта валяцца з неба».

Я атрымліваў яшчэ і значна большае, на што быў галаднаваты. Цёплай парадай і спагаданнем я не быў укрыўджаны дома, хацелася таго і за хатнімі сценамі: хоць бы крышку зацікаўленасці ў тваім лёсе ад добразычлівага літаратурнага чалавека.

Шчаслівы выпадак прыйшоў сам. Не зусім сам. Канстанцін Міхайлавіч даволі доўга прымяраўся, перш чым прыехаць да мяне на Палярную з бутэлькай барышу, як у сваты. І амаль з дакорам глядзеў, калі я папрасіў даць час падумаць. Праз тыдзень, пачуўшы па тэлефоне маю згоду, сказаў зараз жа прыязджаць, загадаў гаспадыні рабіць «хуткую», без парэбрын, мачанку, цягнуць на стол усіх гатункаў грыбы.

Як і калі прыглядаўся Канстанцін Міхайлавіч да мае асобы? Давядзецца перабраць звенчакі сустрэч, дарма, што мімаходзь закранецца і расказанае ўжо ў розных раздзелах кнігі.

Наўрад ці ён мог чым-небудзь вылучыць мяне са стракатай і шумнай пісьменніцкай моладзі пад час даваенных паездак у Полацк і на Асінбуд. Дома ў яго тады пабыць не здарылася, і гэтага нават не палічыш за пачатак знаёмства.

Першы раз даволі доўга і весела паразмаўлялі ў маскоўскай гасцініцы «Еўропа», дзе жыў наш агульны знаёмы. Час — няпэўны: хутчэй за ўсё зазімак 1943 года. Снежань сорак чацвёртага прынёс некалькі сустрэч, ужо ў Мінску,— ён прыехаў пакуль што са старэйшым сынам у розгляды: дзе жыць і прапаваць. Канстанцін Міхайлавіч часцяком заходзіў на

вуліцу Берсана, там змяшчаўся Саюз пісьменнікаў, і ў адным з пакойчыкаў туліўся я.

Дзвярэй тады, не распытаўшыся, увечары не адчынялі — у горадзе было не вельмі спакойна. Канстанцін Міхайлавіч стукаў і смешна, тонкім голасам, прасіўся: «Гэта — я, Якавец!»

З перамоў наконт «Адплаты», дзеля чаго і прыйшоў першы раз Колас, я, кажучы праўду, збег, адгаварыўся работай. Права ўдзельнічаць у размове, калі ацэньваўся новы твор, трэба было заслужыць. Дый з паэмы я чуў усяго некалькі лірычных адступленняў.

На завяршэнне сустрэчы мяне ўсё ж выцягнулі з пакоя. Колас і Лынькоў размаўлялі. Гаворка не магла мінуць увесь той клопат, што паўставаў перад краінай: ні жытла, ні цяпла, ні адзежыны. Адна надзея на мужнасць народу, на яго трываласць — не адну адолееў бяду! Праўда, гэта — самая горкая.

Ну так, нашы справы выкіраваліся на перамогу, але вайна не скончана, значыць, будуць і ахвяры і новыя ваенныя высілкі. А тут — хутчэй бы ўвайсці ў распарадак мірнага часу, аднавіць страты і забыцца пра іх, узяцца за новыя набыткі. Народ, як і ў вайну, вылучыць зараз мноства талентаў: будаўнікоў, арганізатараў, людзей пяра, смыка і фарбы.

У гэтым быў пафас невялікай рэчы, што мелася неўзабаве сысці з майго стала, і я кінуўся пераказваць Маркса, з чымі думкамі не расставаўся працуючы: прыгадваў словы, якія ён любіў паўтараць, што праца ёсць бацька багацця, зямля — яго маці.

Колас здаваўся зацікаўленым.

— І гэта ўсё — Маркс? — ён узяўся за новую папяросу.

— Амаль слова ў слова...

— Тады я ўжо гадоў сорак, як пачаў вызнаваць ягоную веру. Калі і не чуў пра яго самога і не натрапляў на гэтыя думкі.— І тут жа лагодна пакпіў: — Дзе ўжо за вамі ўгонішся, за маладымі.

Госць пачаў пабірацца дамоў, і тут наведаць «Рыбакову хату», халодны драўляны дамок каля Акадэміі, быў запрошаны і я. Не абдзяліў ён увагаю і на бяседзе: не-не дый падымаў вочы і на мае словы.

Неўзабаве Колас выехаў у Маскву: жонцы пагражала бальніца і аперацыя. Следам я прывёз пеніцылін для хворай.

Канстанцін Міхайлавіч наведаўся да нас на Смаленскі бульвар, быў у добрым настроі і ўсё падхвальваў гаспадыніны галубцы. Але прыйшло і засмучэнне. Што такое пеніцылін, толкам ніхто з нас не ведаў, і вялікая ампула, хутчэй — колба, здалася пустою. А колькі было намаганняў дастаць гэты цудадзейны сродак! Няўжо стукнуў як-небудзь і ўсё вылілася?

Назаўтра адлегла ад сэрца — Колас пазваніў з самай раніцы.

— Цэлы пеніцылін, колюць ужо. А што мы яго хацелі ўбачыць, дык гэта праз сваю цемнату.

Перамогу нашай зброі, аб чым нязменна гаварылі пры мінскіх сустрэчах, яму давялося святкаваць у Маскве. Хворай не лепшала, аб пераездзе нельга было і думаць. Я ведаў пра ўсё гэта, бо застаўся на вуліцы Берсана адзін. Гаспадар кватэры паляцеў у Амерыку, пакінуўшы мяне пільнаваць тэлефон і маёмасць Саюза пісьменнікаў, у тым ліку «віліс» з хітраватым шафёрам. Званкі, паперы, даручэнні — хочаш не хочаш — валіліся сюды.

У вялікім горы, так і не пазбытым да канца жыцця, пазваніў з Масквы Колас.

З камяком у горле я хадзіў на могілкі, склікаў хлопцаў на пахаванне, нават гаварыў нешта каля труны.

Колас крыху затрымаў маю руку, развітваючыся на памінках. Яму стала лягчэй з людзьмі, а ці мала нас было гатова раздзяліць з ім частку смутку.

І яшчэ адзін званчак...

Прыйшло запрашэнне ехаць у Ленінград, і Канстанцін Міхайлавіч нечакана згадзіўся. Напэўна, павялі ўспаміны, заманулася ў тыя мясціны, дзе быў у маладыя гады, са спадарожніцай, якую доўга помніла сэрца. Дый з Аляксандрам Пракоф'евым пабачыцца не шкодзіла, вельмі ж яны ўпадабаліся

адзін аднаму пад час першага пасляваеннага пленума ў Мінску.

Колас аглядаў сховішчы карцін і скарбаў, месцы пахавання і зняволення, а то і проста так блукаў па вуліцах і плошчах вялікага горада ці на ўзмор'і, прыслухоўваючыся да нашумлівання лянога мора. Ласкавым гаспадарам было што паказаць нам, і яны стараліся, каб усё, чым яны даражацца, запала і ў нашы душы.

І Колас шырока расчыніў сваё сэрца. Хадзіў і ездзіў, жартаваў і маўчаў, смяяўся і ўціраў слязу.

Выступленні, бяседы ішлі шчыльна адна за адною. У Камарове, прагаварыўшы ўсю ноч, праўда, нядоўгую, белую, на дачы ў А. А. Пракоф'ева, калі ўсе маладзейшыя ўжо ледзь трымаліся ад зморы, Канстанцін Міхайлавіч падняўся і, свежы, вясёлы, пацалаваў у руку гаспадыні: «Давайце падымем першую чарку за Насцю!» І нібы сур'ёзна, у адказ на ўсмешкі сяброў, спытаў: «А хіба ж гэта не першая на світанні?»

Смешныя гісторыі, чытанне вершаў, сяброўскія кепікі, усё гэта пачалося наноў, як быццам бы людзі сапраўды толькі што спаткаліся. Канстанцін Міхайлавіч вёў рэй, ён любіў гэта старое слова: узяў графін — пінгвіна з паваротнай галавою — і па чарзе накіроўваў на прысутных дзюбаю: «Гавары, але каб было весела!»

А наперадзе яшчэ было некалькі сустрэч, дый гарадскі вечар наастатак. Але ўсюды мы паспявалі ў час — ён усё помніў, нават у гасцях не дазваляў пазніцца ні сабе, ні гаспадарам. І скрозь са здавальненнем гаварыў, выступаў з добрым поспехам, заваёўваючы ўсё шырэйшае кола прыхільнікаў.

Нарэшце, ад'езд... Часіны, афарбаваныя лёгкім смуткам развітання...

Светлы двухпакаёвы нумар гасцініцы. Твары даўніх і толькі што знойдзеных сяброў. Нам хораша разам у гэты апошні вечар...

І трэба ж было... Як на тое! Сюды трапіла непажаданая асоба. Усё азмрочылася. На Коласа, асабліва чулага ў такіх выпадках, было цяжка глядзець. Дзе падзеўся той неўтаймоўны філосаф і вастраслоў, па-эпікурэйску шырокі, жыццярадасны паэт, якім

мы прызвычаіліся бачыць яго ў гэтыя дні? Каля высокага акна стаяў раптоўна пастарэлы чалавек і сумнымі вачыма пазіраў на шумную плошчу, нібыта трацячы сілу ад непамернага, раптоўна ўпаўшага на плечы грузу.

Добрыя нашы гаспадары як быццам нічога не разумелі. Некаторыя асобы з нашай групы відавочна пагадзіліся з прысутнасцю таго, непажаданага,— у свой час ім давялося разам напінаць адны гужы і пастронкі. А многія не жылі яшчэ ў Мінску і не ведалі, як размашыста гасіў аглобляю ён, няма знаць адкуль выплыўшы на раппаўскую плынь у рангу першага крытыка. Пасля кожнай праходкі яго па загонах айчыннай славеснасці заставалася здратаваная рунь, збітыя з ног аўтары і кнігі. У тым ліку Купалавы і Коласавы.

Пасля арганізацыі Саюза пісьменнікаў яму давялося пакінуць Мінск. Але, выштурхнуты самім паветрам новага літаратурнага ўкладу, гэты чалавек не растаў, як бурбалка, хоць і ўзнік акурат так. Пачаў з'яўляцца на нашых сходах і пленумах, пераплятаў у каленкор, рыхтуючы да выдання, таўшчэзныя, хвалебныя манаграфіі ўсё пра тых жа Купалу і Коласа. З ім вымушаны былі лічыцца знаўцы літаратуры, стваральнікі музеяў, выдаўцы — трымаў у руках матэрыялы. Кватэра яго была напакавана рукапісамі, фатаграфіямі, рэдкімі выданнямі, пацяганымі невядома якім шляхам з мінскіх, вільнюскіх і шмат якіх іншых дзяржаўных і прыватных сховішчаў. Ён угібаў у рукі нават перапіску Коласа з жонкай і не выпускаў, набіваў цану на памятку пасля нябожчыцы ці можа вышукваў спосаб выкарыстаць лісты якім-небудзь не вельмі прыемным для адрасата чынам.

А зараз ён сядзеў і выгінаў хрыбет — вельмі ж хацелася ў Мінск! Згодна і ўхвальна ківаў галавою, пасміхаўся на кожнае сказанае слова. Праз паказную ветлівасць было яшчэ больш прыкра. Але Колас трываў, дый нікому не хацелася псаваць сяброўскае свята.

Цярпелі... Пакуль той, каго мы назвалі непажаданым, вычакаўшы хвіліну, калі бяседа ўшуміцца і палагоднее, не ўстаў. І з бакалам у руцэ завёў: маў-

ляў, папрацуем яшчэ разам, таксама дружна, як працавалі некалі... Ён меў неасцярожнасць папытаць у мяне пацвярджэння: «Праўда?»

Што можна было адказаць таму, хто з бруднымі ботамі таптаўся па «Новай зямлі» і «Безназоўным»? Ды яшчэ з поўнай аддачай рабіў высілкі, каб сапсаваць жыццё і працу нам, маладзейшым. Ён атрымаў адказ, але не тое, чаго чакаў. І выйшла няёмка. Мы былі ў гасцях: пакрыўдзіш каго-небудзь з прысутных — глядзіш, пакрыўдзіў і гаспадароў. Прамоўца сеў, праціяўшы мяне пранізлівым позіркам чараўніка са «Страшнай помсты», ён у нечым быў падобны да гэтага гогалеўскага персанажа.

А гаспадары і не думалі крыўдзіцца! З аднаго боку паціснула руку Марыя Камісарава, з другога нахіліўся Павел Кабзарэўскі і прыемным баском праказаў: «Дзякуй...»

А Аляксандр Андрэевіч Пракоф'еў, жадаючы нам дабра ў дарогу, закінуў слоўца, што і надалей, як водзіцца паміж сябрамі, не пашкодзіць размаўляць па шчырасці, на чыстую душу.

Самае нечаканае адбылося на вакзале. «Пакрыўджаны» падышоў прасіць у мяне прабачэння: не будзем варушыць старога, мала што калі было.

Колас стаяў поблізу і не хаваючыся смяяўся. А выпадак гэты запомніў і пазней сказаў: «Выходзіць, і ў чужым доме трэба часамі талеркі біць».

Канстанцін Міхайлавіч паехаў цераз Маскву, а ў вагоне, прыгнаным па яго чыгуначным начальствам, рушылі дадому ўсе мы. Спаць было нельга, над вагонам, відаць, даўно не апекаваліся санітарныя ўстановы: на крэслах у салоне мы чакалі раніцы, не кладучыся.

Намагаўся заснуць адзін Пілiп Пестрак, чалавек трывалы і, як ён казаў, звыкшы да ўсялякіх жыццёвых невыгод. У сярэдзіне ночы ён вылез, цярэбячыся, са спальнага купэ:

— Проста за лысіну тнуць. Пусцілі кроў... Як вам той крытык некалі...

Колас паехаў у Кіславодск і перахварэў на запаленне лёгкіх, вяртацца з курорту звычайным парад-

кам было рызыкоўна. Пайшоў па яго такі ж вагон, толькі без непрыемнасцей. Дакторка, сястра, праваднiца, яна ахвотна гатавала есці, Даніла Канстанцінавіч і я: «Каб дзядзьку весялейшым гуртам ехалася».

Засталі Канстанціна Міхайлавіча здаровага, але знецярпліўленага: цягнуліся мы даўжэй, як абяцала тэлеграма, асабліва з Мінеральных Водаў.

Выехаць назад адразу не ўдалося: вагон маглі прычапіць назаўтра, дый то пад вечар. Мы мелі час і пайшлі паблукаць. Я даўно не бачыўся з горадам і рад быў паказаць Данілу Канстанцінавічу знаёмыя мясціны. Пабылі каля нарзанных крыніц, падняліся на Храм Паветра і ледзь не трапілі ў няласку.

Акуратны ў ад'язных справах, Канстанцін Міхайлавіч устаў у досвітку і быў гатовы пакінуць свой часовы дах. Насілу дачакаўшыся снедання, пачаў развітвацца. Мы прыйшлі ў самы разгар гэтай цырымоніі. Дактары, сёстры, знаёмыя нават з суседніх санаторыяў — дзверы ў пакой не зачыняліся.

З усмешкай, як бы цешачыся ўражаннем ад рэкамендацыі, называе сябе доктар, які апекаваўся над Коласам:

— Калінін, Міхаіл Іванавіч.

Акуляры ў металічнай аправе, кліпаватая бародка,— даволі мажны, сівы стары. Відаць крыху падганяў выгляд пад усесаюзнага старасту.

Даўшы апошнія парады ў дарогу і дадому, Міхаіл Іванавіч не адмовіўся змацаваць знаёмства шклянкай віна. Данскі казак з паходжання, ён да вядомых нам «пасашковага» і «тарбавога» дадаў «страмяннога» — назву развітальнага, пераддарожнага кілішка.

Не зважаючы па ўсе запрашэнні паабедаць, Канстанцін Міхайлавіч перабраўся ў вагон:

— Усё ж дахаты бліжэй!

Чакалі добрага паўдня, і калі, нарэшце, загрукаталі колы, ён не адрываўся ад акна. За вячэрай пахваліў стары зборнік народных прыкмет аб надвор'і. І ўспомніў нашы — палескія і мікалаеўскія.

— Толькі я думаў,— позірк у мой бок,— у цябе рука ўломіцца, калі аддаваў кнігу мне. Сам жа над розная старызнай калоцішся.

Сапраўды, расставацца з набытай пад час агле-

дзін горада кнігаю мне не вельмі хацелася, але Канстанцін Міхайлавіч заўважыў яе і зірнуў цікаўным вокам. Цяпер ён памяркоўна ўлагоджвае мяне:

— Будзем карыстацца разам.

Значныя ці нязначныя былі гэтыя звенчакі ва ўстанаўленні нашага знаёмства, меркаваць цяжка. Да запрашэння мяне ў дом прывёў, відаць, адзін, у поўным сэнсе гэтага слова, выпадак.

Быў люты 1948 года.

— Таксама ў Маскву? — спытаў Даніла Канстанцінавіч на мінскім вакзале.— І бацька едзе, перабірайся да яго, весялей будзе.

Памянялі білет, і я першы раз у жыцці ступіў у міжнародны вагон, яшчэ старога ўзору, ашалёваны звонку жоўтымі лёстачкамі. Купэ Канстанціну Міхайлавічу звычайна браніравалі з Брэста, і ён ехаў адзін. Сказаў не шукаць свайго месца, а заставацца ў яго. Яно і сапраўды было прасторна: адна канапа, падымаючыся, станавілася ўпоперак купэ, і гэта дазваляла хадзіць не ўгінаючы галавы.

Падарожжа ў Маскву тады цягнулася суткі, калі не паўтара, даводзілася браць з сабою «ў торбу». Абедаць пайшлі ў рэстаран, а месца там — ніводнага. Нашы ваенныя, хто адслужыўшы, хто ў адпачынак, ехалі з Германіі і шумна адзначалі зварот на радзіму. Мы памкнуліся назад, але два старэйшыя афіцэры падняліся і, дамешваючы ў гаворку беларускія словы, так хораша прасілі «дзядзьку Якуба» за столік, што Колас сеў.

Мы вярталіся ўжо з двума новымі знаёмымі. Ад іх расслухаліся і іншыя: едзе Колас. У нас паравярнулася мноства людзей. Ішлі зірнуць, павітацца, пацiснуць руку, калі ўдасца, ды падараваць якую замежную драбязу або ўчаставаць чым-небудзь.

Канстанцін Міхайлавіч адмаўляўся, як мог, ад усялякіх знакаў увагі, але цёпла размаўляў, хораша прывячаў усіх. Яму было добра сярод гэтых адкрытых здараўцоў, радых, як малыя дзеці, недалёкай сустрэчы з блізкімі і сябрамі, родным ялінкам і бярозам за акном.

Не магло вытрымаць, любуючыся на тых людзей,

сэрца, і Колас сказаў, хутчэй здзіўляючыся, чым сцвярджаючы:

— Ну і асілкі ж вы, хлопцы! З вамі і я Гітлера раскалашмаціў бы!

Нейкім чынам з гэтых слоў перайшлі на ўлюбёную забаву Канстанціна Міхайлавіча: хто чыю руку перагне, прыцісне да стала. І можа толькі адзін ці два з усяго тлуму саракагадовых палкоўнікаў і падпалкоўнікаў пераборалі.

Колас смяяўся, падахвочваў:

— Толькі не махляваць, не паддавацца!

А раніцаю забыўся пра спаборніцтва і ўсё не мог дабраць ладу: як быццам цяжкае работы не рабіў, а правая рука нешта пабольвае.

Спыняўся ён звычайна ў гасцініцы «Масква».

— А ты дзе будзеш жыць?

— Паспрабую ў іншым месцы папытаць.

Канстанцін Міхайлавіч хвіліну падумаў:

— А то — давай разам. Згодзен?

Нумар быў не дужа вялікі і душны. Канстанцін Міхайлавіч пайшоў у цырульню, наказаўшы:

— Абед — у гадзіну. Не пазніся.

Еў ён мала, не перабіраючы і, як высветлілася пазней, больш за ўсё падабаў снедаць і вячэраць у нумары: сядзі па-хатняму і размаўляй, не трэба ўлазіць у пінжак і завязваць гальштук, глуміць час на чаканне. Вяртаючыся з горада, я заходзіў у магазін, пакаёўка прыносіла кіпень і заварку — і па ўсёй турбоце.

Але раз на дзень Канстанцін Міхайлавіч кіраваўся на рэстараннае свяшчэннадзейства, пры крухмальных сурвэтках і крышталёвым посудзе. Пачцівы метрдатэль Васіль Іванавіч, схіліўшы галаву, прымаў заказ, раіў, чаго варта пакаштаваць, сам раскладаў салат і наліваў чарачку з запацелага графінчыка.

Гэта была праходка, а больш забава, і хоць стамляла, але ж і відавочна падабалася. Як і няўпынная гамана знаёмага літаратара, звычайнага яго спадарожніка на абедах, які лічыў сябе, ды, мусіць, і быў такі, неблагім знаўцам кухні.

У адзін з бліжэйшых дзён высокі гурман абвясціў: «Сёння частую я!» Заказваў усё адменнае, ушчуваў афіцыянта, загадваў дадаць такіх і такіх прысмакаў у рыбу, такіх і такіх у соус, нават чай зажадаў піць з самавара. Словам, людзкаваўся, на поўную губу дэманстраваў кулінарны густ і асвечанасць. Так ён і трымаўся як гаспадар стала, пакуль не падышла грозная часіна расплаты. Не разгубіўся і тут: зірнуў на рахунак і зрабіў паўзу, каб афіцыянт адышоўся, тады сказаў Коласу, колькі трэба плаціць, папрасіўшы даць грошы яму: ён сам разлічыцца!

Такое частаванне Коласу, відаць, было не ўпершыню, вочы яго праз усю гэту даволі працяглую працэдуру не трацілі вясёлых іскрынак.

Пасля першага нашага абеду, ведаючы чуткі пра ашчаднасць Канстанціна Міхайлавіча, я хацеў заплаціць ці хоць бы дакласці сваю долю. Гэта было адхілена, мякка і някрыўдна, але рашуча. На самым ад'ездзе я папрасіў прынесці абед у нумар, падгадаўшы, калі Колас вернецца з пасяджэння.

Канстанцін Міхайлавіч зірнуў з-пад акуляраў:

— Глядзі ты... Баішся, каб хаця чыё не перайшло... Ну, няхай сабе... А падвячорак усё ж за мною.

Сказаў зноў-такі някрыўдна, па-бацькоўску: і ўшчуваючы, і з ноткай здавальнення: правільна робіш, чалавеча,— шануй людзей і шануй сябе.

Нашы «хатнія» падвячоркі былі радаснаю нечаканасцю: тут, уласна кажучы, і пачаў «расказвацца» мне Якуб Колас. Піў чай, часамі піва, і не спяшаючыся гаварыў. З велізарным ахопам прасторы і часу: уласнае маленства і тут жа вайна ў Карэі, думкі пра твор, вылучаны на прэмію, і прагнозы, колькі збяром збожжа.

Адкрываўся яшчэ адзін, зусім новы, Колас, не падобны на крыху халаднаватую постаць са школьных падручнікаў, прадмоў і бясконцых крытычных артыкулаў, не падобны нават на тую мудрую, усмешлівую і дапытлівую асобу, якая малявалася пры чытанні яго кніг.

Ва ўсіх разважаннях ясна і незнарочыста, а мо-

жа і насуперак волі апавядальніка, было відаць фармаванне яго асобы, цвет і завязь думкі, мужанне і сталасць душы.

Так і праседзеў я на мілых падвячорках, слухаючы, радуючыся і здзіўляючыся адкрыццю, усе свае маскоўскія вечары. І хоць ускладаліся на іх іншыя надзеі, не шкадаваў. Думалася паглядзець добры спектакль, каб перабіць несмач банальных пастановак, абавязкова дыхнуць паветрам мастацтва дзенебудзь у музеі, каб не сыходзілі з вачэй эталоны сапраўднага, каб не здаліся часам залацінкамі бліскучыя падманкі. Адскрэбаць густ ад выпадковага і наноснага, вываряць меру патрабавальнасці, у першую чаргу да самога сябе, трэба абавязкова і рэгулярна. Моцна дапамагалі тут, хоць і не вельмі частыя, паездкі ў Маскву.

Зараз толькі аднойчы давялося адскочыць у Мастацкі тэатр. Тым часам аднаўленне мер і густаў неўзаметку адбывалася ў гарачаватым пакоі з таннымі акварэлямі на сценах. Перада мною быў чалавек — эталон і ўзор чаго ні возьмеш: працавітасці, адказнасці за намер і ператварэнне яго ў мастацкую каштоўнасць ці грамадскае пачынанне, нарэшце, а можа не нарэшце, а перш за ўсё — прыклад маральнай чысціні. Ды яшчэ ж — жыццёвай мудрасці, гранічнай патрабавальнасці да ўсяго, што гаворыцца і робіцца, шчодрай любові да бліжняга і далейшага чалавека.

Яшчэ не ўсведамляючы цалкам таго, што адбываецца, я на многа забагацеў. Шукаючы ўзораў на піках і ў памкненнях мастацтва іншых народаў, мы не так, як трэба, глыбока пранікаем у магчымасці роднай глебы. Ажно капані раз-другі — і вось табе нафта або соль. А колькі вякоў безуважна папахадзілі па гэтых скарбах босыя і абутыя ногі на Случчыне і Гомельшчыне!

Няхай сабе гэта ўсё са сферы матэрыяльнага. А ў духоўным жыцці народу хіба да канца раскрыта яго казка і песня, шматвяковы подзвіг пратэсту, праз які мы прыйшлі да Кастрычніка, партызанскі подзвіг краіны і працоўны — здабыча той самай солі і нафты?

Колас абдараў менавіта глыбіннасцю свайго на-

роду, з ёю і праз яе ён выходзіў у свет і браў ад свету ўсё, што дыктавалася глыбіннасцю і цэльнасцю ўласнай натуры. Тое ж самае бачыў ён у Купалу — страта сябра ў працы і ў думцы моцна балела яму.

У тыя дні хавалі Міхоэлса. Колас паехаў на пахаванне, нават быў гатовы сказаць слова, але не здолеў прабіцца праз натоўп у памяшканне тэатра. У вячорнай размове ён ад трагічнай смерці акцёра перайшоў да смерці паэта.

— На нашым паверсе ёсць пакаёўка. Яна бачыла, як з Янкам было... Казала ўчора. Мусіць, і мне хутка — следам за дзедам.

Гаворка мімаволі афарбавалася ў змрочныя тоны — Канстанцін Міхайлавіч у той год часта хварэў. Ён адчуваў сябе слаба, баяўся чарговага запалення ў лёгкіх.

— Я на гэтую трасцу дзевятнаццаць разоў хварэў. Пеніцыліну цэлую бочку зглумілі. Скалолі шпрыцамі так, што, як сяду, здаецца — на тарку сеў...

Гэта змушала яго да асцярогі. Магчыма, залішняй: баяўся адчыненай форткі, а апранаўся, відавочна, праз меру цёпла.

— Я, брат, рыхтык качан капусты: дзядок нізак, а на ім сто рызак,— кпіў ён, пачынаючы вызваляцца ад вопраткі.

І сапраўды, сто рызак! Апрача нейкага адмысловага футра са шкурак з хвосцікамі, пінжак, світэр, кашуля пад гальштук, цёплая бялізна і, нарэшце, звычайная, палатняная. Хадзіць было цяжка, гаматна, кідала на поты, а гэта ўжо адзін крок да прастуды.

— А чаго мае дактары глядзяць? — ён пасміхнуўся на маю асцярогу.— Я і сам так думаю. Трэба палавіну адзежын скідаць. Ну, гэта хіба што дома зробім. Мы ж пабачымся там?

Вярнуўшыся ў Мінск, ён адразу прыехаў запрашаць мяне. Так, як рабілі даўней сяляне: прымалі ў сям'ю чалавека няйначай, як добра разгледзеўшы яго зблізку: а які ты, чалавеча, на работу, на гаворку, на ежу, на сон.

# «ЖЫВІЦЕ ДАЎЖЭЙ, ХЛОПЦЫ»



Мусіць, таму, што аб многім не распытаў яго, [redacted] многага не дагаварыў, я не прыгадваю тых дзён з рыданнем рэквіема, шчымлівымі прамовамі, з бясконцай чарадою людзей, якія пакідалі цягнікі, вярталіся з падарожжаў, каб правесці яго, потым ішлі найдаўжэйшай і найпрацяглейшай дарогаю, каб лепш і больш нагледзецца перад тым, як развітацца.

Але [redacted] заўсёды помню дзень яго нараджэння. У гэты дзень я не хаджу і не заязджаю ў мясціны, якія ён асвяціў сваёю прысутнасцю. Ні ў музей, што не так даўно быў яго домам, ні ў Акадэмію, дзе так многа пакладзена ім добрае працы, ні на месца апошняга спачынку.

Устаўшы ўдосвітку, выбіраюся ў поле, дзе павыскаквала ладная рунь, каб агледзець яе з усходам сонца, лапушную, кусцістую, у расе, а то і пад першай шэранню. Пасля перабіраюся ў лес і хаджу доўга, пакуль у кошыку не апынецца хоць дзесятак падмахавых лісіц або самых позніх грыбоў — таўсматых і сакаўных зялёнак. Так удаецца паразмаўляць са збажынной будучага лета, паслухаць перадзімовы шум ранішніх хвой і пасядзець паўгадзіны каля маленькага цяпельца, адаграваючы рукі і лусту захопленага з сабою хлеба. Словам, паўтарыць усё тое, што ён любіў і што прызвычаіўся рабіць у апошнія цеплаватыя дні, пакуль не наваліла снегу і не замкнула на ледзяныя замкі рэк і палявых шляхоў.

У такія часіны ён размаўляў са сваім сумленнем, думаў аб будучыні краіны, пасылаў вочы наперад, на далейшыя шляхі народа, зазіраў у глыбіню чалавечых лёсаў. Гэта называлася ў яго — «адбыць споведзь у зямлі». «Адбыць» вымаўлялася некалькі іранічна. Не адбыць, а прайсці праз канечне неабходнае, без чаго нельга жыць.

Гэтак і я: гавару ўсё чыста зямлі і яму і — хай ратуе лёс чытача ад таннага разумення, бо не маю на ўвазе нічога звышнатуральнага, а тым больш містычнага! — часамі чую адказы на звернутыя да яго запытанні. Доўгае жыццё поруч з ім навучыла разумець, што́ ў яго можна запытаць і як ён будзе адказваць.

У пошуме дрэў, у павеве ранішняга ветру нязменна чуецца яго голас:

— Жывіце даўжэй, хлопцы! Дагледзьце на свае вочы ўсё, чаго не давялося мне, і заўсёды помніце: хай кожны дзень ваш сябруе ці з пачаткам, ці з заканчэннем якой-небудзь справы.

Гэтыя словы я чуў ці раз ад яго — добрага дзядзькі Якуба, светлага Канстанціна Міхайлавіча, мудрага Коласа. Дык якое дзіва, што будзяць яны поначы і цяпер, гучаць у полі, у лесе, на гарадскіх плошчах, скрозь пад небам бацькаўшчыны, якую любіў ён аддана і верна неабдымнай любоўю вялікага сына народа.

*1952—1962*
*1967—1972*

# ЗАЎВАГІ

Стар. 21. Усе весткі пра сваякоў Канстанціна Міхайлавіча адносяцца да 1950 г.

Стар. 85. Манахі-дамініканцы называлі сябе божымі сабакамі, ад лацінскага domines canis.

Стар. 152. Страфа падаецца ў першапачатковай рэдакцыі.

Стар. 157. У час апрацоўкі паэмы два пачатковыя раздзелы былі аб'яднаны. Таму ў дзённіку нумарацыю раздзелаў трэба чытаць з папраўкай: мінус адзінка.

Стар. 165. Сымон-музыка. Мн., 1918, стар. 147.

Стар. 178. У аўтабіяграфіі — 15 верасня.

Стар. 182. Па іншых вестках — Серпухоўскі. Гл. «Жыццё для народа». Мн., 1952, стар. 70.

Стар. 220. Збор твораў, 1952, т. V, стар. 40—41.

Стар. 220. «На ростанях», 1955, т. I, стар. 38.

Стар. 225. Коласава раскрыццё прататыпаў было зменшчана ў кнізе з надзеяй абудзіць цікавасць для даследчага пошуку. Уцешна, што зараз з'явіўся пашыраны спіс прататыпаў трылогіі (Пытанні тэксталогіі беларускай літаратуры, Мн., 1980, стар. 111—134).

Ці можна падаваць гэты спіс безагаворачна, у якасці канчатковага? Відаць, рызыкоўна, напрыклад, рабіць высновы датычна паасобных прозвішчаў, аддаючы перавагу не сведчанням самога пісьменніка, а словам земляка ці сястры яго, людзей вельмі паважнага веку, тым часам памяць Якуба Коласа была унікальная.

«Пісьменнік быў д а в о л і д а к л а д н ы (вылучэнне маё.— *М. Л.*) у адлюстраванні характараў сваіх герояў»,— гаворыцца ў названым зборніку (стар. 125). Каб характары трылогіі не былі напісаны выразна і дакладна, твор не прылічаўся б да залатога фонду літаратуры. А паблажлівае «даволі» пасуе не да класікаў, а да няўмелых пачаткоўцаў.

Хутчэй за ўсё, тут даволі недакладна выказана думка, а мелася на ўвазе адзначыць адпаведнасць характараў герояў трылогіі аўтарскім прататыпам. Аднак пра гэта можна меркаваць толькі выявіўшы жывыя рысы, уклад жыцця, ступень чуласці або ўзнёсласці, скажам, Самахвала і прасачыўшы, як тыя ці іншыя якасці выявіліся ў вобразе Тукалы.

Адным сказам, не абапёртым на фактычны матэрыял, нельга давесці ідэнтычнасць героя і прататыпа.

Занатаваны мною ўслед за Коласам спіс выклікае сумняванне: «Лужанін у свой час (са слоў Коласа, як ён піша) назваў 42 прататыпы» (стар. 112). Як быццам гэта можна зрабіць не паводле слоў Коласа, а пазіраючы ў столь гасцінічнага нумара, дзе аўтар трылогіі выказаў жартоўны намер склікаць канферэнцыю сваіх герояў.

Дарэчы, на наступнай старонцы сумняванне здымаецца, затое з'яўляецца тэрміналогія накшталт «называе», «сцвярджае» і «памыляецца» ў дачыненні да аўтара гэтых радкоў. Гэта зноў-такі недакладныя выразы. Напамяну, «мой» спіс — запіс, а не даследаванне, там няма сцвярджэнняў. Што ж датычыць «памылак», дык як іх можна прыпісваць, аспрэчваючы імя селяніна Каля. У кнізе гаворыцца не аб імёнах, а аб прозвішчах.

Стар. 227. Усім, хто зацікавіцца падрабязнасцямі гэтай і іншых прыгод Валаама і Маісея, можна прапанаваць «Библейско-биографический словарь» Яцкевіча і Благавешчанскага, т. 1—4, СПб., 1849.

Стар. 227. «Галерея русских писателей», М., 1901, стар. 490.

Стар. 228. Вл. Соловьев. Письма, Пб., 1923, стар. 150.

Стар. 228. «М. М. Стасюлевич и его современники в их переписке, т. V, М., 1913, стар. 397.

Стар. 228. Вл. Соловьев. Письма, П., 1923, стар. 179.

Стар. 243. «Полымя рэвалюцыі», 1931, № 3, гл. артыкул Л. Каплана «Шарак ці Брысь».

Стар. 337. Мікалаеўшчына ці Смольня? Дзе ж адбылася сустрэча Янкі Купалы і Якуба Коласа?

Задаваць гэтыя пытанні і ў меру магчымасцей шукаць адказу на іх прымушае ніхто іншы, як сам Якуб Колас. У трох эсэ: «Янку Купалу» (1945 г.), «Памятные встречи» (1947 г.), «Янка Купала» (1952 г.) месцам сустрэчы называецца Смольня, а ў лісце да Л. М. Клейнбарта (7/X 1928) — Мікалаеўшчына.

Апрача таго, аўтару гэтых радкоў давялося неаднойчы чуць з вуснаў самога Канстанціна Міхайлавіча гісторыю пераезду сям'і ў Смольню, апісанне пажару і намаганні дзядзькі Антося збудаваць новую хату, і нарэшце расказ, як там сустрэліся два сябры (гл. раздзел «З Купалам»). Яшчэ больш дадавала вагі такім сведчанням апошняя паездка з Якубам Коласам у Мікалаеўшчыну і ў Смольню. Тады Кан-

станцін Міхайлавіч з асаблівай любасцю тупаў па смольнінскай сядзібе, аглядаў пасаджаныя ім дрэвы, а зайшоўшы ў хату, пажадаў «чокнуцца» з Янкам Купалам, «як некалі, на гэтай лаве седзячы» (гл. раздзел «Апошнія дні апошняга года»).

За Смольню выказваюцца літаратуразнаўчыя і даведачныя выданні, сваякі паэта. У гэтай мясціне зараз філіял музея Якуба Коласа, шматлікія наведвальнікі аглядаюць хату і чуюць тлумачэнні наконт сустрэчы ў ёй паэтаў.

У пісьме да Клейнбарта гаворыцца, нібыта сустрэча была ў Мікалаеўшчыне. І не дзіўна. Такой адміністрацыйнай адзінкі, як Смольня, не існавала, прынамсі ў «Списке населенных пунктов Минской губернии» (Мн., 1909 г.) назвы гэтай няма, хоць Альбута (Альбу́ць) і ўспамінаецца. Смольня з'явілялася выселкам пры Мікалаеўшчыне і атрымала, відаць, імя паводле работы, якая выконвалася поблізу (збор смалы).

Затое ва ўспомненым лісце ёсць неацэнная падрабязнасць: пасля бяседы сябры «пайшлі спаць у гумно на гарох» (т. XIII, стар. 87). Гэтая акалічнасць успамінаецца не раз: «начавалі ў мяне на сенавале» (т. XII, стар. 193), «ён паначаваў у мяне» (т. XI стар. 367).

І раптам, ва ўспамінах 1935 г., самых ранніх, чытаем: «...у тую ноч ён (Купала.— *М. Л.*) да мяне не трапіў, але зайшоў у Мікалаеўшчыну, дзе і заначаваў, мінуўшы маю хату, якая стаяла трохі ў баку ад дарогі і на кіламетры два бліжэй да сяла. Сустрэліся мы толькі назаўтра ў Мікалаеўшчыне, у таго настаўніка, якога апісаў я ў сваёй «Новай зямлі» ў вобразе «дарэктара» (т. XI, стар. 168).

Як бачым, месца і час сустрэчы зменены супраць іншых успамінаў. А там гаворыцца, што пад час прыходу Купалы Колас «быў у сваім сяле», кіламетры за паўтара ад хаты і «борздзенька накіраваўся дамоў», прыхапіўшы пачастунак (т. XI, стар. 367). І яшчэ. Калі сястра паведаміла Коласу, што прыйшоў Янка Купала, «...я быў у сяле ў аднаго з сваіх прыяцеляў...», зараз жа развітаўся... «і хутка падаўся дахаты» (т. XII, стар. 193).

Пераважаюць, вядома, сведчанні паэта пра сустрэчу ў Смольні. Аднак адкуль, якім чынам маглі ўзнікнуць успаміны, нібыта Купала спачатку прыблукаў у Мікалаеўшчыну, застаўся там нанач, і паэты сустрэліся ў сяле толькі заўтра ў «дарэктара», настаўніка І. Міцкевіча. Вось як верагодна ўсё, нават гаспадар кватэры названы!

Асабіста трымаюся версіі пра сустрэчу ў Смольні. Так

я чуў ад Коласа і запісаў у кнізе. Аднак на Мікалаеўшчыну нельга заплюшчваць вочы: нейкія акалічнасці павялі руку Коласа на такія сцверджанні.

Літаратуразнаўцы, трэба думаць, з часам дойдуць да ладу. У 14-томным выданні твораў Я. Коласа гэта супярэчнасць у яго выказваннях не знайшла нават звычайнага ўпамінання ў каментарыях.

Стар. 348. У каментарыях да V тома збору твораў Якуба Коласа (1962 г.) памылкова пазначана: *М. Д.* (стар. 710). Магчыма, рукапіс і быў перададзены ў належныя рукі з прысвячэннем, але ў друку казка з'явілася без яго.

Стар. 350. Копіі лістоў да мяне перададзены ў музей Якуба Коласа.

Стар. 368. «Полымя», 1956, № 1.

Стар. 374. У зборніку «Пытанні тэксталогіі беларускай літаратуры» (Мн., 1980, стар. 153—165) сцвярджаецца, нібыта Колас памыліўся ў датыроўцы пачатку работы над паэмай «На шляхах волі».

Тым часам у падборцы навагодніх выказванняў пра свае планы («Звязда», 1935) Колас зазначае: «Пісаць яе (паэму.— *М. Л.*) пачаў я зімою 1926 года). Тая ж дата паўторана і ў адным з лістоў (т. XIV, ліст 568).

Пачаўшы работу ў студзені 1926 г. (у лютым ужо з'явіўся ўрывак у газеце «Савецкая Беларусь»), пісьменнік меў усе падставы назваць гэту пару зімою. І няма дзіва, што другі раздзел цалкам быў апублікаваны ў сакавіцкай кніжцы «Полымя»: тады творы для чарговага нумара здаваліся за 10—15 дзён да выхаду часопіса, для Коласа гэты тэрмін мог быць яшчэ скарочаны.

Весткі ў «Звяздзе» падаваліся па свежай памяці, ад пачатку працы мінула менш чым дзесятак гадоў. Ён не мог пісаць паэму ў 1925 годзе, як зазначае хранікёрская нататка («Полымя», 1925, № 3), па тоне няпэўная («пачынае працаваць», у «Летапісе жыцця і творчасці» сказана дакладней — «намячае напісаць»). Прыкладна да мая 1925 года пісьменнік аднаўляў страчаны варыянт «Сымона-музыкі», пісаў «На прасторах жыцця» — аповесць разрасталася.

Такім чынам, за датыроўку 1926 годам гавораць: сцверджанне аўтара, факты яго творчай біяграфіі і пісьмо да асобы, на чыёй памяці нараджалася паэма.

Каб гэта было як след уважана, дык невыразнае паведамленне хронікі і ліст, напісаны ў канцы жыцця, пасля дзвюх цяжкіх хвароб, не былі б прыняты за падставы дата-

ваць 1925 годам пачатак работы над паэмай «На шляхах волі» ў 12-ці і 14-томным зборы твораў.

Дзіўна заяўляць, нібыта «...наглядалася пэўная блытаніна адносна часу напісання I(?) раздзела, а значыць, і ўсёй (?) паэмы» («Пытанні тэксталогіі...», стар. 156).

Дзе і ў каго блытаніна, пра што размова? Чаму «ўсёй» паэмы, калі аўтарскіх дат няма толькі пад двума пачатковымі раздзеламі?

Спачатку, у 1926 годзе, напісаўся і быў надрукаваны другі раздзел, пасля намеры ў пісьменніка змяніліся, і ў 1927 годзе з'явіўся раздзел, прызначаны адкрыць паэму, стаць першым. Тут, каб і хацеў, не заблытаешся!

Вось у т. XII апошняга збору твораў ёсць што ўдакладняць. Там сцвярджаецца, нібыта Я. Колас выступаў на юбілейнай сесіі Акадэміі навук і на XX з'ездзе КПБ. У сапраўднасці ж Я. Колас такіх прамоў не гаварыў. Няма знаць з якой прычыны, яго артыкул-прывітанне з'езду, надрукаваны ў газеце, тэкстолагі палічылі за выступленне. А на сесіі Акадэміі даклад Я. Коласа з прычыны хваробы яго агалашаў П. Глебка (т. XIII, ліст 500).

Артыкул «Трыццаць савецкіх год» упершыню апублікаваны не ў «Полымі», як надрукавана ў т. XII, а ў «Литературной газете» пад назвай «Моя Беларусь» (1949, № 1).

Стар. 379. У поўныя зборы твораў 1962 і 1972 гг. (т. X, стар. 409 і 404) відавочна перанесена памылка перапіскі ці першадруку: «Раўніны гарысты, лясамі багаты».

Стар. 379. Маецца на ўвазе ваенная аперацыя на рацэ Стаход з вялікімі ахвярамі. У поўных зборах твораў (т. X, стар. 223 і 222) памылкова надрукавана: «А на стаходдзе...».

Стар. 380. Тут **яр** — схіл, а не назва мясцовасці, як надрукавана ў поўных зборах твораў (т. X, стар. 228 і 227): «Ярам».

Стар. 387. У заўвагах да т. X на стар. 620 і 610 так названы раздзел XXIV, хоць сапраўдная яго назва — «На ростані».

Стар. 391. Збор твораў, т. 5, 1968, стар. 677.

Стар. 400. У 14-томным зборы твораў гэтыя недагляды выпраўлены.

Стар. 400. «Переписка А. П. Чехова с О. Л. Книппер». М., 1934, т. I, стар. 250.

Стар. 404. Апрача ўяўнай блытаніны дат ва ўспамінаным зборніку наглядаецца паспешлівасць з высновамі. «Лужанін,— пішацца там пра час, калі Колас працаваў над завяр-

шэннем паэмы «На шляхах волі», у артыкуле (?) «Колас расказвае пра сябе» сцвярджае (?), што паэт яму якраз тады (?) «даверыў рукапісы і перапіску» («Пытанні тэксталогіі беларускай літаратуры», стар. 159).

Як жа было ў сапраўднасці?

П е р ш а е. Перапіска, рукапісы, артыкулы мне былі даверany не «якраз тады» (1955 г.), а прыкладна ў сакавіку 1948 года.

Д р у г о е. На той жа старонцы заўважаецца, што ў кастрычніку 1954 г. нібыта «...ішла праўка дваццаці шасці раздзелаў, і паэт пачаў працаваць над дваццаць сёмым».

Але ў гэты час Колас рэдагаваў для асобнага выдання «На ростанях», не спыняючы работы нават у бальніцы, куды трапіў 17 кастрычніка і быў амаль два месяцы (т. XIV, стар. 141, 143, 425).

Праўда, з палавіны 1954 г., калі была дапісана трылогія, у лістах Я. Коласа ўсё часцей успамінаецца патрэба закончыць паэму, неабходнасць сабраць друкаваныя часткі яе, чуваць нават боязь, «...ці хопіць сілы адолець паўтары тысячы радкоў, якіх не стае ў паэме» (т. XIV, стар. 142).

Т р э ц я е. Якуб Колас дакладна акрэсліў часавыя межы работы над XXVII раздзелам датай: 20/VIII—16/IX 1955 г. Разбежка з ісцінай амаль на год!

Ч а ц в ё р т а е. Называць «артыкулам» новыя раздзелы кнігі «Колас расказвае пра сябе» калі не азначае няўважлівага чытання, дык не паказвае і ўмельства вызначаць жанры.

П я т а е. Маё з а п ы т а н н е д а с я б е, зробленае з мэтай прасачыць, як завязвалася знаёмства, як сталася, што Колас дапусціў мяне ў дом, даверыў ліставанне, падрыхтоўку артыкулаў і выданняў, у зборніку ператварылася ў с ц в е р д ж а н н е, дый яшчэ прывязанае да часу завяршэння паэмы. А напісана: «якраз тады даверыў» (1954—1955 гг.), не зважаючы на відавочныя факты, але давераная асоба, бачыце, гэтага даверу не апраўдала.

У якасці доказаў незадавальнення Коласа прыводзяцца спасылкі на лісты: адзін, напісаны напярэдадні захворвання (т. XIV, л. 633, 5/X 1954 г.), другі — перад цяжкай аперацыяй і чарговым запаленнем лёгкіх (т. XIV, л. 676, 11/I 1955 г.). Не будзем шукаць акалічнасцей для палёгкі або апраўдання, гаварыць, маўляў, людзі ў такім стане бываюць больш чым звычайна ўзбуджаныя, маюць павышаную патрэбу ва ўвазе, не спынімся і на тым, што ў апошнім лісце чуецца не

асуджэнне, а сумняванне («мне здаецца...»), не ўспамянём таксама і крытычных Коласавых заўваг у адрас іншых пісьменнікаў, што зусім не замінала яму любіць і шанаваць іх.

Навошта ўтойваць, нездавальненні мною былі, і нават часцей. Але ж былі і амаль дзевяць гадоў сумеснай працы, а ў лістах удалося ж выявіць два выпадкі нездавальнення і сарамліва не заўважыць там многіх падзяк, ласкавых зваротаў, клопату.

Задоўга да цяперашніх упічак ■ сам расказаў у гэтай кнізе і ў новых раздзелах яе пра ўсё неацэнна добрае і часамі смутнае ў супрацоўніцтве з Канстанцінам Міхайлавічам.

Напамяну. Да адказаў на лісты просьбітаў Я. Колас ставіўся больш чым патрабавальна. Лістоў сапраўды прыходзіла па тры-чатыры на дзень. І Канстанцін Міхайлавіч пад час майго адпачынку або ўважаючы на пільнасць патрэбы адрасата, пісаў адказы сам, не перадаручаючы, вядома, пісання асабістых лістоў — такіх таксама пісалася па тры на дзень (т. XIV, стар. 148—150).

Якая ні была гэта складаная гаспадарка, на кожным канверце стаўлялася адзнака «адпісана» і дата, хоць яны праходзілі фактычна праз адны рукі. Яшчэ да гэтага часу штату музея не ўдалося спарадкаваць лісты, каталагізаваць іх і папрасіць у адрасатаў Коласавы адказы.

Тым больш нашым тэкстолагам няма чаго сплясківаць рукамі: «...Колас працаваў над паэмай не толькі і не столькі з сваім сакратаром [хоць ён (*хто, сакратар? — М. Л.*) у гэты час ужо быў цяжка хворы, і яму патрэбна была дапамога], але часцей адзін» (Зборнік, стар. 159).

На сумежнай старонцы гэта выснова касуецца тою ж самаю рукою: «...больш значныя праўкі і заўвагі, што датычаць галоўным чынам пераробкі лірычных адступленняў, падраздзелаў, асобных строф... зроблены ў большасці (вылучэнне маё.— *М. Л.*) не самім Коласам, а Лужаніным (зборнік, стар. 158).

Вось тут і паспрабуй стачыць канцы з канцамі! З аднаго боку, як быццам не дапамагаў хвораму, а з другога — зрабіў большасць заўваг і паправак.

Акрамя ўсяго іншага, у выснове «працаваў над паэмай... часцей адзін» выяўляецца прымітыўнае разуменне работы паэта. Методыка праўкі і аднаўлення паэмы далёка не тая, чым сумеснае рэдагаванне трылогіі. Вершаваная форма патрабуе роздуму, пошукаў, шліфоўкі радка іменна на адзіно-

це. Папярэднія меркаванні аб пабудове твора, скарачэннях, моўных пахібах, вядома, былі, пра гэта напісана вышэй. А як было дапамагаць Коласу ў пісанні вершам? Пра гэта і падумаць не адважваешся.

І апошняе. Дзе дакументальныя пацверджанні таго, што паэму «фіялетавым чарнілам правіў Якуб Колас, а простым алоўкам — М. Лужанін» (назв. зборнік, стар. 158)? Ні пра гэта, ні пра «заўвагі ў прысутнасці аўтара» (гл. тамсама) маіх тлумачэнняў знайсці нельга, ды ніхто ў мяне не пытаўся. А хто хоча ведаць, тым скажам: ліловае чарніла ўжывалася, калі праўка была канчатковая ці набліжалася да такой, аловак толькі звяртаў увагу на магчымасць пераробкі.

Так што патрэбен графалагічны аналіз, і ён можа абвергнуць тэкстолагаў: возьме ды выявіць, што чарнілам правіў не Колас.

# ДАДАТКІ

## ІМПРАВІЗАЦЫЯ

Такая рабочая назва дадзена прыведзенаму ніжэй урыўку пад час апошняй аўтарскай праўкі. Гэта — раздзел пад нумарам IV трэцяй часткі паэмы, надрукаваны ў першым выданні (Мн., 1918) і апушчаны ў чатырох наступных выданнях, а таксама ў зборах твораў Я. Коласа.

У апублікаваным у якасці першай рэдакцыі варыянце паэмы (т. VI, 1974) названы раздзел значна адрозніваецца ад выдання 1918 г., выпушчанага, як відаць, па часопіснай публікацыі і без непасрэднага ўдзелу аўтара — яго тады не было ў Мінску.

Уласна імправізацыя — перакладзены ў словы спеў скрыпкі — напісана пяціраджкоўямі. Пасля кожнага з іх ідзе прыпеў іншага рытмічнага ўзору, з усхваленнем творчага духу, божага, паводле Сымонкавага ўяўлення.

На усходзе слуп агністы
Ўстаў ад неба да зямлі,
І паліўся бляск празрысты,
Свет жаданы, свет прачысты,
Цені чорныя сышлі.

Хвала светламу дню, хвала!

Шлі дарогамі без долі
Людзі, пасынкі зямлі,
Дзеці здзеку і патолі,
Што знявагай і злой воляй
Цяжка скрыўджаны былі.

Радуйцеся, ўсе пакрыўджаныя!

Прыпеваў, а ўсяго іх дзевятнаццаць, у варыянце паэмы, пададзеным у т. VI, няма. Калі лічыць гэты варыянт першай рэдакцыяй, выходзіць, існавала яшчэ адна, прамежкавая, якая трапіла ў выданне 1918 г. і пры апрацоўцы паэмы ў

1923—1925 гг. была Коласам апушчана. Як і чаму пачалося аднаўленне і праўка апушчанага раздзела, расказана вышэй у кнізе.

Папраўлены Коласаў тэкст застаўся па-за межамі апошняга збору твораў і фактычна невядомы — да адзінай публікацыі ў «Полымі» (1970, № 12, стар. 172—177) цяпер цяжка даступіцца.

Гэтая акалічнасць, а таксама творчыя матывіроўкі ўзнікнення апошняй праўкі раздзела, прыведзеныя вышэй, змушаюць нас на змяшчэнне яго.

Наогул жа Коласавы паэмы — вялікі прастор для работы даследчыкаў і тэкстолагаў, асабліва для апошніх.

Так, у «Новай зямлі» (т. VI, 1974, стар. 25) чытаем:

Спытаць, праведаць аб зямельцы...
Як блізка рэчка ці крыніцы?

Аўтарская апіска відавочная: «крыніцы» вымагае рыфмы «зямліцы».

На стар. 39 радок 99 «А дурань, воўча твае мяса!» не рыфмуецца з наступным, значыць, радок з рыфмай прапушчаны, і яго трэба шукаць па першых публікацыях.

На стар. 57 радок 132 не рыфмуецца з 135, для атрымання сугучнасці трэба паправіць «Міхаліна» на «Міхалінка».

Тое ж і ў «Сымоне-музыку». На стар. 351 няма палавіны радка 231, тым часам яна лёгка знаходзіцца ў тым жа томе на стар. 536.

У частцы III ў радках 43—44 ёсць таемнае двухкоссе. Яно вандруе па ўсіх выданнях паэмы, дык ці не час або растлумачыць, што гэта значыць, або пазбавіцца ад яго (у першай рэдакцыі няма, гл. стар. 539).

На стар. 363 знік радок «Вам дарогі ўсе адкрыты», а ён ёсць і ў першым выданні (стар. 119), і ў першай рэдакцыі (т. VI, стар. 545).

Калі першы варыянт апублікаваны цалкам, пара пачаць належным чынам каменціраваць яго і ўводзіць у абыходак.

Неўспагаднасць, насміханне!..
Спавівалі часта вы
Смуткам шэрага змяркання
Дух шукання, дух жывы.
І апойвалі атрутай
Сэрцы згнаннікаў святых,
Пацяшаліся пакутай,

Нешчаслівай доляй іх.
А за тых, з чыйго вы сэрца,
З чыіх вуснаў вы ішлі,—
У пагардзе, ў паняверцы,
Цяжкі крыж яны нясці,
І дарогі пракладалі
Праз гушчары у глушы,
Зерне праўды засявалі,
І ўсе сілы аддавалі,
Сокі сэрца і душы.
Беглі дні, ішлі нядзелі,—
Не змянялася карчма:
Так жа сцэны тут глядзелі,
Дзверы гэтак жа рыпелі,—
Ім упынку ўсё няма.
І таксама, па заказу,
Граў Сымон па вечарох,
Дзе дух творчасці ні разу
Крыл сваіх разняць не мог.
І на волю хлопчык рваўся,
Толькі б зіму перабыць,
І памалу ён збіраўся
Долі новае ужыць.
Справіў вопратку на лета,
Грош такі-сякі урваў
І прастору, волі, свету
Зноў з надзеямі чакаў.
Меў тады адзін прыпынак
Для душы свае Сымон,
Гэта светлых мар будынак,
Дзе лунаў у думках ён.
І дзе толькі ні насілі
Мары-думачкі яго!
І аб чым ні гаманілі
Ні расказвалі чаго!

Раз карчма была паўнютка
І старых і маладых,
Вышаў хлопчык і ціхутка
Кінуў вочкамі на ўсіх;
На хвіліну завагаўся,
Потым скрыпку ўзяў і смык,
Усім сэрцам ім аддаўся,

І паліўся ціха зык.
Скрыпка штораз галаснее,
Прыямней звініць струна,
Скрыпка плача, скрыпка млее,
Выгаварвае яна:

«Творчы дух лунаў у высі;
Светы дзіўныя прад ім
У багнах тайнасці нясліся,
Песні светлыя ліліся
У прасторы векавым.

І збіраліся ў чароды
Хмары ў цёмнай глыбіні,
І вадзілі карагоды,
Шчасця поўныя і згоды,
Зоры, ззяючы ў агні.

Выплыў месячык двухрогі —
Тонкі срэбраны сярпок —
У неаглядныя разлогі,
Асвятляючы дарогі,
Сумны бляск яго пацёк.

А ў нізіне з-пад туману
Шэрай шлямай [1], як ралля,
Цемрай цяжкаю заткана,
Бы навекі пахавана,
Спала родная зямля.

Калі ўсё наўкол бліскала,
Ззяла ў полымі агнёў,
Дык зямля адна маўчала,
Пых і гожасць парушала
Урачыстасці вякоў.

І бліскучымі крыламі
Ціха творчы дух махнуў
Усемагутнымі вуснáмі,
Паслухмянымі вятрамі
На зямельку ён дыхнуў.

---

[1] Шлямa, шлямка — футра, кавалкі футра.

І сказаў вятрам ён гэтак:
«Жыватворчасці мой дух
Вы нясеце на планетах
У падножжа зорных светаў,
Што разлегліся наўкруг.

І няхай зямля пазнае
Радасць светлую нябёс,
І ў марах вада ўзыграе,
І абніме моц святая
Горы, лес і сіняпёс.

І скажэце тым стварэнням,
Хто быў скрыўджаны людзьмі
І хто творчага натхнення
Прагнуў сэрцам як збавення,—
«Духа творчасці прымі!»

І між цьмы зямлі нядбалай,
Дзе пануюць ноч і сон,
Над зямлёю занепалай
Песняй згоды, громкай хвалай
Пройдзе голас іх, як звон.

Ціха неба скаланулі
І павеялі вятры,
Змрок ніжэй на дол прыгнулі,
Лес, ваду, зямлю кранулі
Духа творчага дары.

І зрабілася тут дзіва:
Абудзіліся лясы,
Дрэвы радасна, шчасліва,
Воды ў згодзе гутарліва
Злілі ў песню галасы.

А на ўсходзе слуп агністы —
Ад нябёс да быстрых рэк,
І паліўся бляск празрысты,—
Свет жаданы стаў і чысты,
Цень чарноты знік навек.

Па шляхах ішлі без долі
Людзі, пасынкі зямлі,

Дзеці здзеку і патолі,
Што знявагай і злой воляй
Цяжка скрыўджаны былі.

І на іх вятры дыхнулі
Духам творчасці святым
І ім сілы разгарнулі,
Душу праўдай ахінулі,
Асвяцілі сэрца ім.

І пайшлі яны, як стрэлы,
Громам голас іх гучаў,
Ды адгук на кліч іх смелы
Быў няпоўны і няцэлы —
Іх свет гэты не пазнаў».

Граў Сымон, і за ігрою
Шыбы тоненька гулі,
Гэтак першы гром вясною
Адгукаецца зямлі.

І дрыжалі жалем зыкі
У жальбе рвучы струну,
Нібы скрыпка і музыка
Дзве душы злілі ў адну.

Меў Сымонка іншы выгляд:
У вачах агонь блішчаў,
У душу глядзеў навылет,
Быццам нешта ў ёй чытаў.

Часам хлопец забываўся,
Дзе ён? Што з ім? — не ўчуваў,
Бы ад цела аддзяляўся
І свет гэты пакідаў...

Ён раптоўна абудзіўся...
— Годзе! Годзе! — чуе крык.
Момант творчасці разбіўся,
Змоўкла скрыпка, выпаў смык.

— У карчме ты ці ў касцёле?
На хаўтурах ты ці дзе?

Як ўляпаў, ліха долі,
І канца няма — вядзе! —

Перад ім дзяцюк здаровы,
Задзірака і скакун,
Грозна ўстаў, насупіў бровы,
Вочы ўставіў, як каршун.

— Кантар Шлёмаў — расспяваўся!
Ты «Лявоніху» зайграй.
Раз наняўся, дык прадаўся,
А свайго не выдумляй! —

Адусюль нясуцца кпіны,
Гразь насмешак, жартаў бруд,
А за што? Якія віны?
Правініўся чым ён тут?

Бедны, збэшчаны музыка
Выглядаў, нібыта труп.
Не сарвалася ні зыку
З пабялелых тонкіх губ.

— Будзеш граць ці не ты, гніда? —
Насядаў другі дзяцюк,
Тонкі, доўгі, мэрам дзіда.
— Дай у карк яму, Паўлюк! —

Ўскочыў хлопец, не стрымаўся,—
Крыўда моцна дапякла:
Свет наўкруг у змрок заслаўся,
Заскакаў, закалыхаўся,
Злосць пружынай узняла.

— Я не буду граць вам!.. Свінні!..
Чуеш ты, даўгель-цыбук?
Граць не буду, чуй,— от згінь я!
Будзе здзеку з мяне, мук!..
Хоць паржэце на кавалкі,
Я і вокам не міргну,
А не буду граць з-пад палкі,
Спіны я вам не сагну!..
От я ўвесь тут перад вамі,
Біце ж вы мяне! Ну што ж? —

Шум пайшоў між дзецюкамі:
— Бач які — ідзе на нож! —

Сам сябе Сымон не помніў
І не ўзважыў сваіх слоў,
Але гэтым сябе ўроўніў,—
Большым стаў у дзяцюкоў.

— Што, Паўлюк? — пачулісь жарты,—
Зарабіў, брат, «цыбука»?
Справядліва — таго і варты:
Што ж ты лаеш хлапчука? —

А Сымон, як палатняны,
Погляд кінуўшы згары,
Праз карчму ішоў, як п'яны,
Без крывінкі у твары.

## ЛІСТ ПРА ВЫХАВАННЕ МОЛАДЗІ [1]

С мыслью о благе человека мы вершим в своей стране все дела — от самых малых, ежедневных, до величественных и грандиозных, которые вписываются в историю эпохи. Насколько широко простирается у нас забота о человеке, свидетельствуют изумительный рост культуры и хозяйства народа, среди которого я живу вот уже восьмой десяток. Нет примера разительнее, и то же скажет любой из представителей народов нашей дружной советской семьи.

В силу заботы о человеке и любви к нему, а ими наполнена вся моя сознательная жизнь, меня беспокоит воспитание и будущее нашей молодежи. Не всей, конечно. Наши молодые люди отлично работают на стройках, в колховах, в промышленности, в науке, становятся активными строителями общества и ценными деятелями партии и государства. Но, наряду с этой хорошей молодежью, есть неустойчивые люди, не любящие трудиться, убегающие из деревни, отлынивающие от назначения в район, перепархивающие с места на место, эгоисты, себялюбцы, наконец, вступившие и вступающие на путь антиобщественный, а затем и преступный. К сожалению, это не единицы, вот что заставляет призаду-

[1] Друкуецца па машынапіснай копіі, якая ў далейшым правілася і ўдакладнялася.

маться. За последнее время заметно увеличилось хулиганство, воровство и грабежи. Возьмем сводку о происшествиях за одну ночь по городу и об оказании первой помощи в приемных покоях больниц. Ножевые ранения, проломы черепа, избиение, тяжелое опьянение, кражи карманные и квартирные, уличные ограбления. И во всем этом замешаны молодые люди, в возрасте от 17 до 25 — реже 30 лет. Горько и обидно! Ведь это поколение должно быть лучше и чище, целеустремленнее и трудолюбивее. Мы с каждым днем очищаем моральную почву страны, и питательной среды для антиобщественных, аморальных поступков, а также для преступлений у нас нет. Есть частные причины: безнадзорность и сиротство детей, обусловленные войной и иными тяжелыми обстоятельствами. Но среди хулиганов и преступников все чаще попадаются сыновья уважаемых и обеспеченных родителей. Значит, в чем-то виноваты родители, в чем-то школа и в чем-то комсомол. А в общем, следовательно, есть изъяны в воспитательной работе, с одной стороны, и неполноценность административного воздействия — с другой.

А зло принимает угрожающие размеры: преступники снимают часы на людных улицах, раздевают граждан средь бела дня, вламываются в сберегательные кассы, опустошают кассы магазинов. В Марьиной Горке, неподалеку от Минска, орудовала шайка грабителей, в которую входили десятиклассники и в том числе сын местного начальника милиции. На центральном проспекте, в лучшем книжном магазине нашей столицы, воришка открыто, на глазах у десятка покупателей и продавцов открыл сумочку у гражданки. Невозмутимо вытащил деньги и, нагло смотря в глаза потерпевшей, заявил: «Я у тебя ничего не брал, ты сошла с ума». Самое отвратительное здесь то, что ни одна живая душа из видевших и слышавших не вступилась за потерпевшую, что ни у кого не появилось краски стыда на лице. А ведь присутствующий при преступлении и ничего не сделавший, чтобы пресечь его, сам является соучастником. Что удерживает граждан от вмешательства? Страх? Конечно, у грабителей есть сообщники, угрожающие оружием. Но разве когда-либо боялись советские люди, разве не вставали они грудью против врагов сильных и злых, посягавших на родину? Почему же здесь нет чувства локтя, нет мужества, чтобы задержать никчемного выродка. Мне от души стыдно за это подлое и трусливое безразличие к нарушению общественного порядка, к преступным действиям. У нас должна быть создана такая атмо-

сфера, чтобы у преступника горела под ногами земля, чтобы возглас «держи вора!» находил широкий отклик. Некоторые граждане на своем личном опыте убедились, что задержанный и доставленный ими вор либо грабитель выпускается из милиции «за недостаточностью улик». Жена известного советского писателя накрыла вора на краже и была настолько настойчива, что отправила его в милицию. Но там ей сказали: «А где ваши свидетели?» И вор не понес никакого наказания. Воры, хулиганы и грабители настолько обнаглели, что угрожают следственным работникам. «Ты мне дашь 5 лет, и вернусь, а потом рассчитаемся»,— заявил хулиган работнику прокуратуры города. Девушку из моего дома ограбили в автобусе днем, на вокзальной площади Минска. Ни задержать, ни обнаружить преступников не удалось. Ученики средней школы, дети известных в Минске родителей, украли легковую машину, ограбили склад. Примеров много, всего не перечислишь.

Если остаются безнаказанными воры и грабители, то хулиганы распоясываются совершенно. Нельзя наказать за оскорбление личности, за то, что хулиган плюнул тебе в лицо, изругал площадной бранью, приставал с циничными предложениями к женщине. А наказывать надо. В этом случае должна вступать в свои права забота о человеке, о его покое и безопасности. Ни одно преступление не должно оставаться безнаказанным. Сошедшая с рук нечестность, хулиганский выпад могут развиться, если не будут осуждены, не будут доведены до общественности. От неустойчивости и уголовного преступления недалеко и до измены родине.

Нужны крутые меры, в силу той же заботы о человеке: чтобы неисправимых обезвредить, исправимых — исправить, а только вступающих на черный путь — удержать. В наших силах из всех их сделать полезных людей. Конечно, я не думаю здесь исключительно об административных мерах, хоть крайне необходимо облечь правами и судебные органы, и милицию. Борьба с антиобщественными поступками — дело всего нашего общества. Каждое антиобщественное проявление, даже зародыш его, должны встречать резкий отпор, осуждение трудящихся, чтобы виновный почувствовал отвратительность своего поведения. Государственые деятели, видные ученые, писатели могли бы сделать многое, выступая с докладами и статьями о воспитании, о советской морали, о развитии молодежи и ее будущем. Педагогам следует задуматься об улучшении воспитательной работы в школе. В ча-

стности, можно использовать опыт Чехословакии. Там ребята после занятий остаются в школах, готовят уроки, играют под наблюдением преподавателя до тех пор, пока не освобождаются с работы родители или старшие в семье.

Членство в пионерской и комсомольской организациях не может быть формальным, как это имеет место во многих школах и учебных заведениях. Молодежь должна чувствовать, что пионер, комсомолец — звание почетное, обязывающее подростка быть образцом. Комсомол в состоянии найти для молодежи интересные формы работы и увлекательные дела.

На мой взгляд, и предотвращать зло, и бороться с ним нужно с помощью труда. С самого раннего детства ребенок должен иметь трудовую нагрузку и в семье и в школе. Если каждый сознательный гражданин нашей страны, в первую очередь коммунист, почувствует ответственность за воспитание молодежи, за общественный порядок, будет активно бороться за это, для нас не составит труда недопущение и искоренение нездоровых явлений в среде молодежи. Я твердо верю в это.

## ЗМЕСТ

## ЗМЕСТ

МАКСИМ ЛУЖАНИН
(Александр Амвросьевич Лужанин-Каратай)

**Колас рассказывает о себе**

Повесть-эссе



Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Г. В. Роліч
Мастак М. Р. Казлоў
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо
Карэктар А. Т. Глушчанка

ІБ № 1534
Здадзена ў набор 08.12.81. Падп. да друку 17.05.82. АТ 05120. Фармат 84×100 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк 21,84. Ум. фарб.-адб. 22, 04. Ул.-выд. арк. 21,57. Тыраж 20 000 экз. Зак. 2183. Цана 1 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Лужанін М.**

Л 83 Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ.— Мн.: Маст. літ., 1982.— 446 с.

У пер.: 1 р. 60 к.

У аповесці расказваецца пра дзяцінства Костуся, раскрываецца жыццёвы і творчы шлях паэта. Аўтар апісвае сустрэчы Янкі Купалы і Якуба Коласа, узнаўляе гісторыю стварэння паэм «Сымон-музыка» і «На шляхах волі».

Твор адзначаны Літаратурнай прэміяй імя Якуба Коласа.

Аповесць дапрацавана, дададзены новыя раздзелы і матэрыялы.

Л $\frac{70302-093}{302(05)-82}$ 124—82

ББК84 Бел7

Бел2